Бібліятэка Бацькаўшчыны
Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

*Людзі Беларусі*
КНІГА III

**Рыгор Барадулін**

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 7*

*1994–1995*

Мінск, «Кнігазбор», 2020

УДК 821.161.3.09+929 Барадулін
ББК 83.3(4Беи)
Б24

Укладанне, прадмова, заўвагі і тэксталагічная падрыхтоўка
Наталлі Давыдзенка

*У тэксце захоўваюцца некаторыя асаблівасці аўтарскай мовы.*

Укладальнік і выдавецтва выказваюць падзяку
сям'і Лапушыных
за дапамогу ў выданні кнігі.

**Барадулін, Р.**

**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 7. 1994–1995 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка. — Мінск : Кнігазбор, 2020. — 340 с. [4] с. : іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).

ISBN 978-985-7227-32-7.

Сёмы том (выпуск) «Дзённікаў і запісаў. 1994–1995» Р. Барадуліна раскрывае напружанае грамадскае і, галоўнае, апантанае творчае жыццё народнага паэта, яго адносіны да рэалій новага часу, чалавечых адносін, мінулага краіны і жаданай будучыні. У кнізе змешчана больш за 200 вершаў, якія не друкаваліся ў ягоных зборніках, а таксама сяброўскіх прысвячэнняў і эпіграм.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7227-32-7**

# Ад укладальніка

*Чарговы, 7-мы том (выпуск) «Дзённікаў і запісаў» народнага паэта Рыгора Барадуліна ўтрымлівае звесткі за 1994–1995 гг. Перыяд не доўгі, але, як і папярэдні, густа насычаны падзеямі, працай, роздумамі і турботамі. 1994-ты — год выбараў першага прэзідэнта самастойнай Беларусі і — горыч сумнення, што рэспубліка насамрэч незалежная. Удзел паэта ў працы амаль штомесячных соймаў БНФ, у Назіральнай радзе Фонду Сораса, з'ездзе Саюза пісьменнікаў. 1995-ты — адметны разгонам групы апазіцыйных дэпутатаў Парламента і новымі выбарамі ў Вярхоўны Савет рэспублікі; страйкам працаўнікоў метро; мітынгам памяці ля будынка КДБ. Паэт удзельнічае ў канферэнцыі па постсавецкаму мастацтву, Шагалаўскіх чытаннях і адкрыцці помнікаў У. Караткевічу ў Віцебску і М. Гарэцкаму ў Мінску, вечарынах, прысвечаных 200-годдзю паўстання Т. Касцюшкі, 100-годдзю Я. Судрабкална і постаці Я. Райніса, у кангрэсах ПЭН-цэнтра і Міжнародным кангрэсе беларусістаў, на якія з'язджаюцца вядомыя літаратары і беларусы замежжа І. Драч, К. Скуеніек, В. Рыч, В. Кіпель, Я. Запруднік і інш.*

*Да новых, нязвычных адзнак часу дадаюцца перажыванні з-за падзення ўзроўню дабрабыту: на фоне інфляцыі падае рэальная зарплата, якую часам затрымліваюць, не стае бензіну на паездкі здымачнай групы студыі «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм», скарачаюцца дзяржаўныя датацыі на кнігі, падаюць тыражы, а цэны, « як ваўкарэзы, за глотку бяруць»; у лесе пры дарозе журавіны прадаюць за долары. Найлюбая ўнучка Дамініка складае казачку: «У некаторым царстве жылося добра, але жылі дрэнна». Сам сабе ён заўважае: «Сяброўкай вернаю робіцца роспач — гэтая не пакіне, не здрадзіць. Настолькі яна ўпэўненая ў сабе, што не раўнуе нават. Роспач. Роспач».*

*Але жыццё не спыняецца. Рыгор Іванавіч разам З Васілём Уладзіміравічам Быкавым неаднаразова наведвае родныя ім мясціны: здымаецца фільм пра В. Быкава «Край перакуленых нябёс». У паездках Барадулін нястомна запісвае за сябрам яго успаміны, стараецца зберагчы кожнае слова народнага пісьменніка, кожны рух, кожны выраз твару. Калі б ён спарадкаваў ўсе шматлікія запісы, то атрымалася б незвычайная кніга-партрэт. І не можа не ўразіць, адзіны, відаць, у свеце выпадак, калі знаны творца на працягу ўсяго жыцця прысвячае свайму сябру больш за 250 (!) вершаў! А вядомы ва ўсім свеце празаік — віншуе яго з Калядамі вершам... З няменшай увагай*

*Рыгор Іванавіч удзельнічае ў працы над фільмам і пра іншага незабыўнага сябра — «Акафіст Караткевічу».*

*З выступленнямі Рыгор Іванавіч неаднаразова наведвае Віцебск, Полацк, а таксама Гомель, Мётчу, Бачэйкава, Ляўкі, Вушачу. Вечарын з яго удзелам асабліва шмат у юбілейны (60!) год паэта. Але ніколі Р. Барадулін не забываецца на выдавецкую працу. Рупіцца-прапануе распачаць выданне Збораў твораў А. Адамовіча і М. Гарэцкага, зборнікаў У. Жылкі, М. Стральцова, Л. Геніюш, П. Панчанкі, В. Быкава; балюча перажывае, што далёка не ўсё ўдаецца выдаць.*

*І ні на дзень, ні на адну хвіліну не спыняецца творчая праца Паэта — яго дыханне, яго жыццё, нягледзячы на калючыя папрокі ні аднаго «крытыка», што піша ён зашмат... А ён піша «некананізаваныя» ўспаміны пра беларускіх творцаў, збірае напісаныя раней артыкулы і нататкі пра іх творчасць для кнігі «Аратай, які пасвіць аблокі» (1995); атрымлівае доўгачаканую «Азбуку — вясёлы вулей» (1994); замест так ніколі і не выдадзенага зборніка «З чорным катом на плячы» рыхтуе 1-шы том Збору твораў. І горкі запіс: «Гэта развітанне. Аглаблёвая, ці капытковая, чарка майго вершавання. Не радасць, а сум. Як гэта ні дзіўна». Пры гэтым піша вясёлыя эпіграмы для часопіса «Вожык» і нястомна перакладае — п’есы Мальера, драму А. Пушкіна, вершы Х.-Н. Бяліка, японскіх і кітайскіх паэтаў, латышскія дайны, варушыць запісы скаромнага вушацкага «здубавецця». І тым не менш да душы ягонай падкрадаецца сум, развітальны настрой. І зноў але: «Складанае адчуванне: і стаміўся, і жыць дужа хочацца. Перад расстаннем любым — і лагода, і маркота». А ратуе паэта, як ўсё жыццё, памяць пра Маму і дараванае Мамай жыццядайнае беларускае слова. «Вечная толькі мама. Як неба. Як свет. Як боль». Невыпадкова зборнік новых вершаў названы ім «Евангеллем ад Мамы» (1995).*

*У лістападзе 1995 г. Вялікая рада Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта надала Паэту годнасць ганаровага доктара філалогіі.*

*У том увайшлі недрукаваныя ў зборніках вершы і прысвячэнні (больш за 200!). Вершы, якія засталіся па-за томам, пазначаны назвай, першым радком і пазнакай знаходжання («у блакноце; у дзённіку»). Частае несупадзенне назваў вершаў у тэксце і ў зносцы — не памылкі, аўтар часта пераназываў свае вершы. Праца над наступным томам не спыняецца.*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 1994

*1 студзеня, субота*

Добры дзень, Новы год! Вітаю цябе. Шаную цябе, прашу ў цябе спагады, у першую чаргу да Дамінічкі[1] й Ілоны[2]. Не будзь люты!

Кепска пачынаю новы год. Нездароў. Патроху пісаў здубавецця[3], пераглядаў ушацкія запісы, што паспеў запісаць ад мамы[4]. Няма нічога даражэй за кожнае слова маміна, за кожны выраз. Чытаю — чую голас, бачу вочы. Збіраюся, значыць…

*2 студзеня, нядзеля*

Хадзіў у магазін. Цэны растуць хутчэй, чымся дзень. Ніяк не магу ўзяць моцы. Пайшоў да Пятра Ісаевіча[5] на ўкол. У метро на плошчы Перамогі нейкае зусім, як сказаў бы Караткевіч[6], цалкам нябеснае стварэнне, падплыла аблачынкай і сказала: «З Новым годам лепшага паэта свету». Салодкая мана, салодкая.

«Толькі коні твар свой захавалі…»[7]

*3 студзеня, панядзелак*

У клініку. Ладуценка[8] сказаў, што солі, масаж [трэба]. Рух. Каб не выскачыў дух. На працу. Неяк сумна й хваравіта пачынаецца год. Дамінічка віншавала Карласа Шэрмана[9] па тэлефоне з днём нараджэння Новага года. Расце прыродны філолаг. Толькі гэта, відаць, яшчэ галаднейшым хлебам будзе.

«Сам-насам»[10].

---

[1] Кліміна Дамініка Канстанцінаўна (н. 1989), унучка.

[2] Барадуліна Ілона Рыгораўна (1962–2019, Тэль-Авіў), дачка; мастачка.

[3] Барадулін Р. Здубавецьця. Мінск: ТАА «Паліфакт», 1996.

[4] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971), маці Р. Барадуліна.

[5] Ліфшыц Пётр Ісаевіч, урач-стаматолаг.

[6] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, нарысіст, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984, пасмяротна).

[7] Гл.: Толькі (2.01.94) // Евангелле ад Мамы. Мінск, 1995. С. 321.

[8] Ладуценка Мікалай Дзмітрыевіч, гал. урач паліклінікі СПБ.

[9] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934–2005), беларускі перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. У 1989–2001 гг. віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра.

[10] Гл.: Сам-насам (3.01.94) // Евангелле ад Мамы. С. 59.

*4 студзеня, аўторак*

Перачытаў Лабынцава[1] «Напой росою благодати…» пра Кірылу Тураўскага[2]. Шкада, што цяжка чытаць стараславянскі рукапісны арыгінал. Проста лянота савецкага навучання.

*5 студзеня, серада*

Праца. Заходзіў Алесь Жук[3]. Выходзіць, Цвірка[4] з Клышкам[5] ходзяць да кэдэбіста Лужаніна[6]. Ад Кастуся не чакаў. Клышка — гэта ясна. Даўняя дружба. […] А што трэба Кастусю? У «Вожык» (на А. Ярмоленку[7]).

*6 студзеня, чацвер*

На працы. Прыехаў Алесь Адамовіч[8]. Заходзіўся Васіль[9] узяць карэктуру. Вечарам калядавалі. Асабліва радавалася й шумела Дамінічка. У думках гаварыў з мамай.

---

[1] Лабынцаў Ю. «Напой росою благодати…»: Малітоўная паэзія Кірыла Тураўскага. Мінск, 1992. Пер. В. Сёмухі. *Лабынцаў* Юрый Андрэевіч (н. 1948), рускі і беларускі літаратура- і кнігазнавец, гісторык культуры, выкладчык. Доктар філалагічных навук (1991). Прафесар (2004). Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (1990). Жыве ў Маскве.

[2] Кірыл Тураўскі (каля 1113 — пасля 1190), беларускі і ўсходнеславянскі царкоўны дзеяч, пісьменнік, багаслоў.

[3] Жук Алесь (Аляксандр Аляксандравіч; н. 1947), беларускі празаік, перакладчык. У 1989–1997 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Полымя». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[4] Цвірка Кастусь (Канстанцін Аляксеевіч; н. 1934), беларускі паэт, даследчык, выдавец. У 1984–1996 гг. рэдактар аддзела паэзіі час. «Полымя». Кандыдат гістарычных навук (1972).

[5] Клышка Анатоль Канстанцінавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1994). У 1990–2002 гг. супрацоўнік выд-ва «Юнацтва». Заслужаны работнік культуры РБ (1994).

[6] Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1965). Быў рэпрэсаваны.

[7] Ярмоленка Анатоль Іванавіч (н. 1947), беларускі эстрадны спявак. Народны артыст РБ (1993). Заслужаны дзеяч культуры Аўтаномнай Рэспублікі Крым (Украіна; 2000). Саліст і кіраўнік ансамбля «Сябры (з 1981). Гл.: «Анатоля не майце ўлегцы…» (5.01.94) // Асобы рознай пробы. Мінск: Бібл-ка «Вожыка» № 3 (225), 1994. С. 36.

[8] Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; (1927–1994), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, выкладчык, грамадскі дзеяч. У 1987–1994 гг. дырэктар Навукова-даследчага Інстытута кінамастацтва (Масква, РФ). Доктар філалагічных навук (1963). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1976).

[9] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986).

*Лявону Баршчэўскаму*[1]

Пашчапаюць злыдні кпінаў пікі
На сваёй парожняй галаве.
Бо пакуль жыве Лявон Вялікі,
Беларусь і мысліць, і жыве!

*

Пагасцюй яшчэ душа ўва мне,
Адляцець у вырай хопіць часу.
Як іскрынка ў цёмным бур'яне,
Ува мне да часу не адсырай.
Як магу, даўгі табе плачу.
Ведаю, што не сплачу даўгі я…

*7 студзеня, пятніца*

На вячэру да Алеся Адамовіча. Быў Васіль з Ірынай Міхайлаўнай [жонкай]. Бойка[2] з Брандабоўскай[3]. Алесь казаў Ірыне, каб пазнаходзіла кавалкі з твораў Васіля, зарэзаныя цэнзурай. Бо Васілю няма часу. А для гісторыі літаратуры гэта важна. Васіль казаў, што ўсе й мы, і унукі нашыя носьбіты СНІДу сацыялізму. Гэта невылечна. Не можа быць ад хворага СНІДам здаровага чалавека. Калі Бойка пярэчыў, што помнікі Леніну[4] — гісторыя, мы з Васілём прапанавалі: усім прыхільнікам Леніна ў кватэры па аднаму, а то й па два манументы, няхай Ленін жыве не толькі ў думках, але й ў кватэрах. Развіталіся. Васіль сказаў, што яму добра з Алесем і са мной. Нават калі моўчкі слухаю яго, разумее, што разумею й падтрымліваю. Перад Васілём, гаворачы па-ўшацку, я гатовы перадкаваць, як сабака перад пастухом.

*Грэць і гарэць*

Пімен Панчанка[5] ў пітве не прафан,
Адагнаўшы хваробу ад ложка,

[1] Баршчэўскі Лявон (Леанід Пятровіч; н. 1958), беларускі перакладчык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1989). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

[2] Бойка Уладзімір Андрэевіч (1932–1996), беларускі журналіст, мастацтвазнавец, крытык, сцэнарыст, паэт, мастак. У 1979–1990 гг. аўтар і вядучы радыё- і тэлевізійных перадач. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1984).

[3] Брандабоўская Лілія Іосіфаўна (н. 1928), беларускі тэатральны крытык. У 1959–1995 гг. супрацоўніца газ. «Знамя юности».

[4] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Савецкай дзяржавы.

[5] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

Весела
Успамінае гарбату ў Персіі,
Каву ў Францыі ды ААН.
А не толькі балець павінны,
Мусіць грэць і гарэць успаміны…

*8 студзеня, субота*

Праз цэлы дзень дома. Пісаў слова ўспаміннае пра Антона Бялевіча[1]. Пасунуліся крыху й успаміны пра Уладзіміра Караткевіча. У «ЛіМе» вершы Ніла[2] — вершаваныя паданні. Узровень перыферыйных лікбезных маладнякоўцаў[3]. Дасюль помніць, як нейкі дзядзька ягоны не даў яму хлеба. З'явілася яўрэйскае прозвішча. Значыць, нешта ад яўрэяў трэба. А яўрэі пры ўсёй мудрасці народ наіўны.

Дамінічка [4 гады] мне пачала расказваць казку: «У некаторым царстве жылося добра, але жылі дрэнна». Як у нас і пры імперыі, і без фармальна імперыі.

«Дзедзя брытвіцца».

*9 студзеня, нядзеля*

Цэлы дзень адбіваў пупышкі пальцаў — перадрукоўваю пераклад «Дыягена»[4]. Папрасіў Мікола Шабовіч[5]. Здаецца, будзе ставіць у Маладзечне. Радзік[6] пачытаў новы верш. Сапраўды новы верш новай змены нашае. Іншыя глыбіня, іншая шырыня й нешта недаступнае нам у нашыя маладыя гады, амаль метафізічнае, падкоркавае, як цяпер па-навуковаму гаварыцца. «Спяшаю»[7].

---

[1] Бялевіч Антон Пятровіч (1914–1978), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Гл.: Вясёлы дзівак (8.01.1994) // Аратай, які пасвіць аблокі: Сяброўскае слова, эсэ і нekананізаваныя ўспаміны. Мінск, 1995. С. 168.

[2] Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016), беларускі паэт, фальклярыст, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1963). Прафесар (1978). Народны паэт БССР (1991). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання, старшыня пастаяннай камісіі ВС РБ па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. У 1989–1997 гг. старшыня ТБМ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986).

[3] «Маладняк» — першае літаратурнае аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў (1923–1928).

[4] «Дыяген» (1987). Аўтары Уладзімір Канстанцінавіч Канстанцінаў і Барыс Міхайлавіч Рацэр. Пер. з рускай Р. Барадуліна.

[5] Шабовіч Мікола (Мікалай Віктаравіч; н. 1959), беларускі паэт, перакладчык, выкладчык. Кандыдат філалагічных навук (2004). У 1992–2002 гг. заг. літаратурна-драматычнай часткі Мінскага абласнога драмтэатра г. Маладзечна.

[6] Лапушын Радзіслаў Яфімавіч (н. 1960), рускі паэт, літаратуразнавец. У 1990–1998 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалогіі (2006). З 1998 г. жыве ў ЗША.

[7] Гл.: Спяшаю (9.01.94) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 114.

*10 студзеня, панядзелак*

На працу заходзіўся Васіль. Прынёс карэктуру 6-га тома[1]. Абураўся, спакойна вонкава, па-быкаўску, рознымі пляменнікамі й тымі, хто прыходзіць пасядзець, памянціць языком, не адчуваючы гаспадара, не шануючы ягоны час, абураўся цэнамі, якія растуць ціха. І сапраўды ціха растуць, як грыбы, як страх. Званіла Паўлікава[2], можа, у лютым паедзем з тэлебачаннем у Вушачу. Калі будзе бензін. «Чужэнне»[3]. Дамінічку забіраў з садка. Пыталася, калі паедзем у Вушачу, там кошка мяўчым голасам скажа, чаму пакінулі яе? А тут, паказвае, з бабай Валяй[4] на санках каталіся. «А на сляды нашы каты й сабакі скакаюць і закопваюць лапамі».

*11 студзеня, аўторак*

Праца. Ліна Каўрус[5] распавядала, як муж[6] малым, калі пачалася вайна, пабег нешта ўхапіць у краме. Нічога не засталося. Толькі бюст Варашылава[7]. За Клімentаву галаву й дамоў. А тут немцы. Давялося закапаць. Пасля вайны паглядзелі — глінай стаў. Бо і ў арыгінала галава была з гліны. А партыю [...] Жырыноўскага[8] трэба пісаць па-расійску ЛТПР [Лечебно-трудовой профелакторий России]. На працу заходзіўся Зайчык Грышановіч[9]. Падняў пархі. У сувязі з [...] уваходжаннем так званым у рублёвую зону. Рубель яшчэ мае значэнне жэрдкі, якой уціскаюць сена на возе.

*12 студзеня, серада*

Забіраю Дамінічку з садка. Кажа, што нам трэба завесці пчол і каня. Пчол, каб мёд быў, а каня, каб да суседзяў ездзіць, у Вушачу, каб кошачкі

---

[1] Быкаў В. Збор твораў: У 6 т. Мінск, 1992–1994.

[2] Паўлікава (Хейдарава) Людміла Фёдараўна (н. 1952) беларуская паэтэса, празаік; інжынер. У 1990–1997 гг. нам. галоўнага рэдактара літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання.

[3] Гл.: Чужэнне (10.01.94) // Евангелле ад Мамы. С. 60.

[4] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), беларускі філолаг; жонка. У 1967–1994 гг. ст. рэдактар выд-ва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» («БелЭ»).

[5] Каўрус Ліна Іванаўна (н. 1950), беларускі філолаг, заг. рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура» (1994–1998).

[6] Каўрус Алесь Аляксандравіч (н. 1935), беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1965). У 1981–2006 гг. выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка.

[7] Варашылаў Клімент Яфрэмавіч (1881–1969), савецкі дзяржаўны, партыйны і ваенны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1935). Герой Савецкага Саюза (1956, 1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1960). У 1934–1940 гг. наркам абароны СССР.

[8] Жырыноўскі Уладзімір Вольфавіч (н. 1946), расійскі палітычны дзеяч; юрыст. Доктар філасофскіх навук (1998). З 1993 г. старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі.

[9] Грышановіч Валерый Мікалаевіч (1947–2007), беларускі паэт.

не паўміралі, як Рыжуля. З Барані прыйшла пасылачка. Гэта Ліда Шалоніна, з якой ў Нідзе адпачывалі, прыслала праз сваякоў. Сумуе па Нідзе. Там запусценне. Была два гады назад. У мяне самыя шчымлівыя балтыйскія ўспаміны якраз пра Ніду. Там было й як за мяжой, і як дома. Адначасова. Рэдкі выпадак.

Васілю званіў. Яму званіў Юра Дракахруст[1] (ён жа Дымаў з расейскай праграмы [Радыё] «Свабода). Каб Васіль пазваніў Зянону[2]. Трэба яму сустракацца з Клінтанам[3], бо ў адваротным выпадку ўезд у ЗША будзе зачынены. Гэтак сказаў пасол Штатаў. Зянон лепей ведае, што яму рабіць. Гэта гвардыя […] Кебіча[4] працуе.

*13 студзеня, чацвер*

На працу забягаўся Віктар Жак[5]. Аддаў фрывольны тамок Федароўскага[6]. Цікава. З Расіі прыслалі старшыню сельсавета, непісьменны, толькі мог на пячатку хукаць. Даведку напісаць каму прасіў шасцікласніка Віктара. І такія расіяне йшлі ўгору, як апора бальшавізму й расейшчыны. І пажаніліся тут, і раднёй абраслі. Але ўсё роўна ваўка ў лес цягне. Не дзіва, што праслойка саветызаваная мае такія карані ў нас. Быццам бы ў нас будуць беларускія рублі й грошы. На талеры ўсё-ткі камуністычна-[…] морды не йдуць. Ідзе кебічазацыя рэспублікі.

Дамінічку вёў з садка. [Кажа:] «У галаву памяць ўскочыла. Ёсць рыбы, у якіх дужа злосныя зубы й твары».

Сёння таўстая куцця. У нас нешта на стале было. […] У святы вечар адчуваю сябе самотным, непатрэбным, забытым. Хіба дзеля Дамінічкі жыць варта. І яна адна, родная.

«Спярша глядзім…»[7], «На плошчы Незалежнасці жабрачка…» [у блакноце].

---

[1] Дракахруст Юрый Аляксандравіч (н. 1960), беларускі матэматык, палітолаг, журналіст. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1986). У 1993–1998 гг. палітычны аглядальнік «Белорусской деловой газеты». З 2001 г. жыве ў Празе. Сын А. Дракахруста.

[2] Пазьняк Зянон Станіслававіч (н. 1944), беларускі археолаг, мастацтвазнавец, публіцыст, паэт, грамадска-палітычны дзеяч. Кандыдат мастацтвазнаўства (1981). У 1976–1996 гг. навук. супрацоўнік Інстытута гісторыі НАНБ. Заснавальнік і старшыня БНФ «Адраджэньне» (1988–1999). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ (1990–1995) 12-га склікання.

[3] Клінтан Біл (Уільям) Джэфферсан (н. 1946), прэзідэнт ЗША (1993–2001).

[4] Кебіч Вячаслаў Францавіч (н. 1936), дзяржаўны дзеяч Беларусі. Кандыдат эканамічных навук (1990). З 1994 г. старшыня Беларускага гандлёва-фінансавага саюза. Заслужаны машынабудаўнік БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1978).

[5] Жак Віктар Герасімавіч (1931–1998), дэкан інжынерна-педагагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Кандыдат педагагічных навук.

[6] Федароўскі Міхал (1853–1923), польскі і беларускі фалькларыст, этнограф, археолаг.

[7] Гл.: Па чарзе (13.01.94) // Евангелле ад Мамы. С. 294.

*14 студзеня, пятніца*

Дзень добры, Новы год. Наш беларуска-аратайны. Прынясі спор! Не будзь скупы. Раніцай Дамінічка піла чай. Кажу, што тут і зверабой ёсць. І яна адразу зарыфмавала: «Мы займаемся разбоем, п’ём мы чай са зверабоем!» Чарняўскім[1] ды Маляўкам[2] і да сівізны ў яйцах да такой лёгкасці не дарасці. Па дарозе з садка Дамінічка: «Табе дрэнныя словы, а Валі ўсе добрыя словы даду . Вецер памёр. Пасля яму далі шары, і ён іх надзьмуў. Давай падумаем пра бацькоў. Чырыкалка-марыкалка».

Ёсць свая асалода не мець ні свайго, ні персанальнага транспарту. На прыпынку разгаварыўся з жанчынай. Яна з Міншчыны. Пачуў слова *зяло* — вотрыны, зерне, каменчыкі давалі курам, каб шкарлупкі ў яйках цвярдыя былі. Яшчэ, выходзіць, варылі, як і маладую крапіву, шчаўе, малады трыпутнік, пакуль ён ў жылы не пайшоў, жылы не пусціў. Якое дакладнае валоданне словам, бо слова ўжывалася. Яно не са слоўнікаў. Як бы ні круцілі мы, а слова са слоўніка — нешта эксгумаванае. Не жыве, не звініць, не пераліваецца, не заліваецца смехам ці плачам.

*Загадкі для Агаткі*[3]

Агатка кажа ўсім: «Ага», —
Хто ходзіць да Агаткі.
Ды надышла яе чарга
Пачуць яе адгадкі.

*

Хто, схаваўшыся ў зацішку,
Падпілнуе мышку-ўвішку,
Вусацень, кіпцень, хвасцень
Свой ніяк не зловіць цень?

*15 студзеня, субота*

Усё-ткі я дабіў п’есу, а не яна мяне. Званіў Васілю. Васіль пра артыкул Зянона ў «Народнай газеце». Глыбокі. Толькі не час яшчэ (казаць) пра нашы землі ў Расіі. Васіль пра сябе казаў: «Калі пішаш, лёгка папасць ў занос. І толькі калі, забыўшыся, чытаеш сябе пасля, бачыш, дзе занесла».

Толькі закапаўшыся з галавой у нейкую працу, пачынаю забывацца на хваробу й на адчай, які трымае сваю халоднапальцавую руку ў мяне

---

[1] Чарняўскі Мікола (Мікалай Мікалаевіч; н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. З 1989 гг. літ. рэдактар час. «Вясёлка».

[2] Маляўка Мікола (Мікалай Аляксандравіч; н. 1941), беларускі паэт. У 1980–2012 гг. супрацоўнік час. «Вясёлка».

[3] Варыянт уступа да нізкі загадак. Гл.: Ён, яна, яно, яны (14.01.94) // Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. Мінск: «Юнацтва», 1996. С. 42.

на коўціку... Усе даведзены да галечы парт[...] мафіяй. Прыехаў выступаць Булат[1]. Пазваніў Васілю. Самы дарагі білет 35 тысяч. Васіль узяў недзе на галёрку за 22 тысячы. Самае вясёлае, што ў мяне перад зарплатай і на палову білета няма. Іван Шамякін[2] плача прылюдна, што бедны. Я плакаць не буду. Некалі мама яшчэ казала, што плакаць не трэба, усё роўна ніхто не дасць.

*16 студзеня, нядзеля*

Сойм БНФ[3]. *Даклад Пазьняка:* «Расійскі імперыялізм вядзе праз сваю агентурную сетку [...], праз армію падрыў Беларусі. Знішчэнне дзяржаўнасці. У арміі замест савецкае ідэалогіі — прарасійская. Партмафія спыняе заводы, каб на каленях паўзлі ў Расію. Уся пракебечаваная прапаганда супроць Беларусі. Мафіі выгодна, каб Беларусь была калоніяй Расіі. За бесцань скупяць нашую дзяржаву расійскія капіталісты. Там як-ніяк працэс прыватызацыі пайшоў. А ў нас нічога не робяць спецыяльна. Падрыхтоўка да выбарчае кампаніі».

З Васілём на вечар Булата. Перад уваходам у філармонію чырвона-карычневы пікет пад чырвонымі трантамі. Лозунгі супроць Булата, бо, бачыце, падтрымаў расправу супроць рускага (трэба чытаць руцкога[4]) народа. Булат пяяў, чытаў вершы. Заходзілі да яго з Васілём у перапынку. Жонка Арцымовіч з Менска. Кажа, што з палякаў, як усе, хто ў Маскве натуралізаваўся. Дакрануўся да Булата на развітанне — як верабей сухенькі. Гэтакую аперацыю перанёс. Дух трымае яго ў гэтым свеце. Уражанне большае ад песняў, вершы кранаюць меней, вядомыя й нечым халаднаватыя. Па дарозе дамоў Васіль сказаў пра добрую версіфікацыю. Сапраўды так. І што яшчэ прываблівае — настальгія па маладосці, Булатава высакародства, самапавага. Уразілі з узростам словы *старость коротка*. Нават круціцца верш: «У старасці век кароткі, — Спявае Булат Акуджава».

А ўвесь наш паход. Сказалі, што нам пакінулі два білеты. Без дзесяці прабіліся праз камуністычны заслон. Ніхто не ведае пра білеты. Тады Васіль па сваім купленым білеце зайшоў у перадзалу, знайшоў намесніка

---

[1] Акуджава Булат Шалвавіч (1924–1997), рускі паэт, празаік, бард.

[2] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[3] Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» (БНФ) — грамадскі рух (з 1988).

[4] Руцкой Аляксандр Уладзіміравіч (н. 1947), расійскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Генерал-маёр (1991). Герой Савецкага Саюза (1988). У час вераснёўска-кастрычніцкага крызісу 1993 г. аб'явіў сябе в. а. прэзідэнта РФ. Зняты з пасады віцэ-прэзідэнта і асуджаны «за арганізацыю масавых беспарадкаў» 3–4 кастрычніка. Амнісціраваны ў 1994 г.

дырэктара, і нас правялі й пасадзілі (далі два білеты) на 9-ты рад. У час канцэрту Булат аб'явіў, што ў зале ягоны аднагодак, франтавік, выдатны пісьменнік Васіль Быкаў і што ў гонар яго ён спявае песню «До свидания, мальчики». У канцы Васіль падняўся й сваім глухавата-застуджаным голасам паспрабаваў выгукнуць: «Дзякуй, Булат!» Публіка розная. А ў асноўным новы клас — гандляры купіпрадаўшчыкі. Шмат аголеных неэстэтычных па форме сваіх каленек у радах.

Заходзіўся да Навума[1]. Фільм «Гітлер і Сталін». Нарэшце побач паставілі, праўда, не былая імперыя.

*17 студзеня, панядзелак*

Праца. Перадаў Міколу Шабовічу пераклад п'есы. Прыходзіў Карлас. Па тэлефоне з Зуёнкам[2] дамовіўся, каб за пакой з ПЭН-цэнтрам[3] не лупілі як чорт за бацьку. Косткай у горле ПЭН камуністам, такім, як Пашкоў[4]. [...] Працуючы ў «Полымі», Кірэенку[5] пісаў лісты падзякі, як Сталіну[6], ад імя пакалення. «Галалёддзе. Слата»[7].

*Вясёлы фінал*

Прасушваючы выцвілыя
Чырвона-рудыя транты,
Дагэтуль молячыся
Фюрэру ў мягкіх ботах.
ЧЭКанутыя
«Мы і время»нскія[8] музыканты
Іграюць вясёлы фінал
Па засулочаных стукачамі нотах.

---

[1] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык.

[2] Зуёнак Васіль Васільевіч (н. 1935), беларускі паэт, крытык. У 1990–1998 гг. старшыня СПБ. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1982).

[3] Аддзяленне Міжнароднага аб'яднання пісьменнікаў ПЭН-клуба Беларускі ПЭН-цэнтр (з 1989).

[4] Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 1948), беларускі паэт, публіцыст. У 1991–1996 гг. — нам. галоўнага рэдактара час. «Тэатральная Беларусь», гал. рэдактар «Цэнтральнай газеты». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).

[5] Кірэенка Кастусь (Канстанцін Ціханавіч; 1918–1988), беларускі паэт, дзіцячы празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1972).

[6] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

[7] Гл.: «Галалёддзе. Слата» (17.01.94) // Евангелле ад Мамы. С. 172.

[8] «Мы и время» — грамадска-палітычная і інфармацыйная газ. (з 1990), у 1991–1996 гг. незалежная левая газета.

*18 студзеня, аўторак*

Праца. Хвор я. Што будзе з Дамінічкай? Радасць мая. Светлы шнурочак, які звязвае мяне з жыццём.

*****

Няўлоўная, як прывычка,
Каб некуды не спазніцца,
Спяшаецца маладзічка
У меланхалічнай спадніччы…

«Кола»[1]. І як рэакцыя, можа, нават як узроставая бурклівасць, на некаторую крытыку й тэорыю: «Каб не прапаў!: Не столькі ад харчоў, як ад запалу…» [у дзённіку].

*19 студзеня, серада*

Гэтак добра было чуваць, як званілі званы ў саборы. Яны пераззвоньвалі шум натоўпу й статка машын. Бо з глыбіні душы ў душу ліюцца. Вадохрышча!

Калі меркаваць па сённяшнім дні — лета мусіць быць, як беларускі характар, памяркоўнае. Патроху пішу раздзел «Мае замежжы».

*20 студзеня, чацвер*

На працу прыходзіў Карлас. Напісалі лісты Зуёнку й Dainov'е[2] наконт ПЭН-цэнтра.

Выходжу ў калідор, а ўнізе, як два партайгеносэ, што толькі выйшлі з партканферэнцыі, Законнікаў[3] і Петрашкевіч[4], ухо в ухо и ноздря в ноздрю. Сіла камуністычная яднае моцна. А Сяргей у прэсе кляне ЦК і бюракратаў. Бо модна, бо трэба плаваць, як у праламцы…

---

[1] Гл.: Кола (18.01.94) // Евангелле ад Мамы. С. 173. Верш прысвечаны Р. Яўсееву. *Яўсееў* Рыгор Мінавіч (1942–2004), беларускі паэт, перакладчык. У 1977–1995 гг. ст. рэдактар рэдакцыі паэзіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Кампанія па вытворчасці кампутараў «Дайнова» (1989). Заснавальнік Палюховіч Адам Пятровіч (н. 1957), беларускі праграміст, бізнесмен.

[3] Законнікаў Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт. У 1986–2002 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[4] Петрашкевіч Алесь (Аляксандр Лявонцьевіч (1930–2012), беларускі пісьменнік, драматург. Кандыдат гістарычных навук (1967). Заслужаны работнік культуры (1975). У 1991–1998 гг. кіраўнік Арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданню гістарычна-дакументальных хронік «Памяць».

З тэле пазванілі, […] Гарбук[1] хоча падаваць у суд за абразу, за эпіграмку. Трэба ж на чарніла заробіць сыну суддзі й перакананаму камуністу. Тут яшчэ юрыць яго цэкоўскі […] Яроменка[2].

Хоць Дамінічка радуе. Раніцай прасіла трошкі паесці хрусцёмных палачкаў. Ішлі з садка, сказала, каб купіў ёй завадную пчалу, завадного мядзведзя, завадныя кветкі й завадную траву ў зашчэмленым цэлафанавым мяху. А потым сказала, што я купляю хлеб і сушкі й бяру яе з садка. А лепей няхай з садка бярэ баба Валя, а я павінен купляць ёй падарункі штодня.

Васіль казаў, што ў кадры, дзе Клінтан з Пазьняком у Курапатах[3] і пляменнік […] Вася Шаранговіч[4], гэта ён мяноўна па заданню партыі […] цягне дагэтуль з помнікам ахвярам [у Курапатах], спадзеючыся, што ўлада бальшавікоў адновіцца ў большай сіле.

*21 студзеня, пятніца*

Хадзіў купляць праязныя. На ўсе чатыры бакі — 12 тысяч. Пісаў пра Анікейчыка[5].

Званіў Васілю, ён даў інтэрв'ю літоўскаму тэлерадыё. Добра, а то пра нас думаюць як пра цвёрдакаменных бальшавікоў ды лапатнікаў, што й лапці разуваюць, каб паўзці на паклон да Расіі.

Дамініка, калі вёў з садка, казала пра сабаку са змрочным языком.

---

[1] Гарбук Генадзь Міхайлавіч (1934–2018), беларускі акцёр; аднакласнік. У 1962 —2018 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), прэміі Прэзідэнта РБ «За духоўнае адраджэнне» (2007).

[2] Яроменка Мікалай Мікалаевіч (1926–2000), беларускі акцёр. Народны артыст БССР (1964). Народны артыст СССР (1989). З 1959 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[3] Курапаты — месца масавых расстрэлаў савецкіх грамадзян у часы рэпрэсій 30 —40-х гг. XX ст. на паўночнай ускраіне Мінска. У Курапатах была ўстаноўлена лаўка з надпісам: «Ад народа Злучаных Штатаў Амерыкі народу Беларусі на памяць» (15 студзеня 1994 г.).

[4] Шаранговіч Васіль Пятровіч (н. 1939), беларускі мастак, графік, педагог. У 1989–1997 гг. рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва (БДАМ). Прафесар (1981). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1978). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986). Народны мастак Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986). Пляменнік В. Ф. Шаранговіча. *Шаранговіч* Васіль Фаміч (1897–1938), беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1921–1926 гг. нам. наркама юстыцыі, пракурор БССР, у 1930–1934 гг. 2-гі, з 1937 г. 1-шы сакратар ЦК КП(б)Б. Рэпрэсаваны.

[5] Анікейчык Анатоль Аляксандравіч (1932–1989), беларускі скульптар, педагог. Прафесар (1981). Народны мастак БССР (1972). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1974). Гл.: Чорначупрынны, чорнабароды, дужы (21.01.94) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 213.

*22 студзеня, субота*

Да Навума. Узяў рукапіс Скіра[1]. Навум, вядома, матэрыяліст з марксісцкай падкладкай, хоць сам гэтага не прызнае. Дзіўлюся, як яўрэям спадабаўся расійскі бот, які даваў ім выспятка. Яны ж былі й першаўтваральнікамі [саюза] «нерушимого республик свободных». Тут нешта ў генах. З Пяцікніжжа я не зразумеў рысы характару.

*23 студзеня, нядзеля*

Перадрукоўваю сам. Аж злюся, навошта многа напісаў, на свае пальцы! Сумная думка йдзе ў галаву. Трэба быць здаровым і жыць. Бо дарага абыдуцца лекі, а на пахаванне дык няма гэтулькі грошай. Танней жыць, якраз танней.

Званіў Васілю, ён заўтра дае інтэрв'ю. Я пажартаваў, што Шушкевіч[2] ашчаджае Пазьняка, як Гітлер[3] швейцарскі банк. Ад камуністаў яго адзін Зянон бароніць. Наогул, парадокс. Народны фронт бароніць міністра КДБ[4] ад камуністаў. Першы міністр беларус. [...]

*24 студзеня, панядзелак*

Праца. Двойчы званіў Навуменка[5], клапаціўся пра грошы, якіх яму ва ўсе часіны мала. Апетыт і камплекцыя. Плюс палеская прагавітасць.

Званіў Васілю. Інтэрв'юентка задала і такое пытанне: «А што, калі беларусізацыя адарве Беларусь ад культуры, бо праз расійскую мову выхад да сусветнае скарбніцы быў». Васіль адказаў, што ёсць і другі ход — праз Еўропу, як некалі й было да жалезнага заслону. Праўда, пасля падумаў, што пры ленасці нашай можа й зацвесці, калі культуру будуць увасаб-

---

[1] Скір Арон Якаўлевіч (1913–1996), выкладчык БДАМ. Кандыдат філасофскіх навук (1967).

[2] Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч (н. 1934), беларускі фізік; дзяржаўны дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1970). Член-карэспандэнт НАНБ (1991). Прафесар (1972). У 1991–1994 гг. старшыня ВС РБ. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988). Сын С. П. Шушкевіча. Гл.: Станіслаў Шушкевіч (2004) // Дуліна ад Барадуліна. (Мінск:) Радыё Свабодная Эўропа)Радыё Свабода. 2004. С. 10.

[3] Гітлер Адольф (сапр. Шыкльгрубер; 1899–1945), фашысцкі дыктатар Германіі (1933–1945), нацысцкі ваенны злачынец.

[4] Шыркоўскі Эдуард Іванавіч (1933–2002), беларускі дзяржаўны дзеяч, старшыня КДБ РБ (1993–1994). Генерал-палкоўнік.

[5] Навуменка Іван Якаўлевіч (1925–2006), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік РБ (1995). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Доктар філалагічных навук (1969). Член-карэспандэнт АН БССР (1972). Акадэмік АН БССР (1980). Прафесар (1971). З 1992 г. саветнік пры прэзідыуме НАНБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1972).

ляць, падказаў я, Дударавы[1] ды Шаранговічы, Вольскія[2], нават Законнікавы. На ўсіх прэзентацыях кучкуюцца, як раней на партпленумах тыя ж наменклатуршчыкі, [...], камуністы.

*Трэба жыць!*

З дужага раней любілі кпіць:
Пахаваць лягчэй, чым накарміць.
Час наадварот сказаць, відаць:
Накарміць лягчэй, чым пахаваць.

Трэба жыць і выгляд мець не хмуры,
Раз жыццё танней, нячым хаўтуры.

*25 студзеня, аўторак*

Цэлы дзень адбіваў пальцы на друкачцы. Званілі з саюза наконт давання ймя Янкоўскага[3] падінстытуту. Чалавек быў неблагі. [...] Учора, дарэчы, Навуменка казаў наконт акадэмікаў. Пнецца Н. і N. Па жывой вазе цягнуць на акадэмікаў! Гары гарам увесь іхні мышыны клопат. Мне дужа кепска штодня. Нават раздражняцца сілы не стае. Радуе толькі Дамінічка: «Рэпка, рэпка, паляту на небка... Падмятлі′ хату... Я яшчэ не вырасла да канца!» У Дамінічкі генетычна-глыбіннае адчуванне мовы. Мяне гэта й радуе, і засмучае. Цяпер філолагі не трэба. Камерсанты ды вертухаі ад культуры.

*26 студзеня, серада*

Амаль мёртвы на лятучку пайшоў. Карлас з нажом да горла, каб да Палюховіча прасіць грошы на ПЭН-цэнтр. Пасля на радыё. Прамая перадача музычнага канала. Думаў, што сказаць. А ўсё звялося да дзяжурных пытання-адказаў.

Цешчы[4] сёння 80. [...] Пайшоў па Дамінічку. Па дарозе сказала, што ёй цяжка маляваць лёгкія малюнкі. Казала пра імянінны палец. Дома сеў у крэсла, накідала мне на галаву апраткі — цэлы гарод зрабіла, а пачаў адхінацца, дык яна крычыць: «Не адкінай галаву!» Корань *кінуць* цікава лёг. І раптам званок — памёр Алесь Адамовіч. На судзе, раптоўна. Падзел

[1] Дудараў Аляксей Ануфрыевіч (н. 1950), беларускі актор; пісьменнік, драматург і кінадраматург. У 1991–1999 гг. рэдактар час. «Мастацтва». Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1982, 1984), прэміі Прэзідэнта РБ «За духоўнае адраджэнне» (2000). З 1992 г. старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў РБ.

[2] Вольскі Артур Вітальевіч (1924–2002), беларускі паэт, драматург, перакладчык.

[3] Янкоўскі Фёдар Міхайлавіч (1918–1989), беларускі мовазнавец, пісьменнік. Доктар філалагічных навук (1970). Прафесар (1971). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1972).

[4] Сталярова Таццяна Харлампіеўна (1914–2005), маці В. Барадулінай.

маёмасці Саюза пісьменнікаў імперыі. Уздыхнуць антановічы[1], нілагілевічы, барысачанкі[2], кебічы [...]. Уздыхнуць з палёгкай. Бервяна ў іхнім камуністычным воку болей няма. Быкаў застаецца. Божа, дай яму сілы, патрымай яго, падтрымай. Усемагутны, усямоцны, паспагадай Быкаву!

* Дамініка: «У цябе навал шапак...».

*27 студзеня, чацвер*

[...] Хадзіў на кінастудыю. Там нешта круціць начальства, каб не даць магчымасці зняць пахаванне й развітанне з Алесем. Званілі з «Известий», каб даў ацэнку перавароту[3]. Адпаведную даў. Васіль сказаў, што гэта мне залічаць кебечаўцы. Ну няхай, мне з імі дзяцей не ксціць. Разгарнуў кітайскія мудрасці, і як пра Алеся сказана ўсё роўна: «Гожыя кветкі нядоўга пахнуць, добрыя людзі нядоўга жывуць».

*28 студзеня, пятніца*

Званіў з Мюнхена Лукашук[4]. Робіць перадачу памяці Адамовіча. Папрасіў пачытаць вітанне з'езду БНФ. Начытаў. Пазванілі з «Беларускае маладзёжнае» з радыё. Гэта самая смелая й беларуская рэдакцыя. Сказаў слова пра Алеся й прачытаў верш. Начытаў колькі вершаў, у тым ліку пра БЗВ[5], салдацка-салдафонскі Саюз афіцэраў[6] гоніць хвалю на Зянона й на БЗВ. На радыё сказалі, што гаваруном абралі генерала КДБ Грыба[7]. Хоць фармальна ён генерал міліцыі. Хоць розніцы няма. Цяпер міліцыю ўзначаліць, відаць, пісатель Чаргінец[8]. Герой Афганістана, «брат» Руцкога.

---

[1] Антановіч Іван Іванавіч (н. 1937), беларускі філосаф, сацыёлаг, дзяржаўны дзеяч. Доктар філасофскіх навук (1973). Прафесар (1977). Акадэмік сацыялагічных навук РФ (1997). У 1993–1995 гг. дырэктар Беларускага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і прагнозаў. У 1995–1997 гг. нам. міністра замежных спраў і старшыня нацыянальнай камісіі РБ па справах ЮНЕСКО.

[2] Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995), беларускі празаік, перакладчык. У 1993–1995 гг. гал. рэдактар выд-ва «БелЭ». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1982), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1991).

[3] Маюцца на ўвазе падзеі ў Маскве 3–4 кастрычніка 1993 г., калі быў расстраляны Дом Саветаў і арыштаваны члены распушчанага ВС і ўдзельнікі супраціўлення палітыцы прэзідэнта Б. Ельцына.

[4] Лукашук Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; н. 1955), беларускі журналіст, публіцыст, празаік. З 1993 г. супрацоўнік Радыё «Свабода».

[5] БЗВ — Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (з 1991).

[6] Грамадскае аб'яднанне «Беларускі саюз афіцэраў» (з 1992).

[7] Грыб Мечыслаў Іванавіч (н. 1938), беларускі дзяржаўны дзеяч. Генерал-лейтэнант міліцыі (1993). У 1994–1996 гг. старшыня ВС РБ.

[8] Чаргінец Мікалай Іванавіч (н. 1937), беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2002). У 1993–1996 гг. старшыня Камісіі па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, ветэранаў вайны і памяці загінулых пры СМ РБ. Заслужаны работнік МУС СССР (1977).

Апора ўсіх […] у Саюзе пісьменнікаў, пачынаючы з тлустага пісьменніка Шамякіна. […] бананавая рэспубліка, паўночны варыянт Чылі.

Радзік званіў, што з Каракіным[1] прыязджае последний поэт империи Шклярэўскі[2]. Та′расу[3] хваліўся, што мае прамы тэлефон да […] Кебіча. То блытаўся з […] СП імперыі, то з Ісаевым[4], то пісаў лісты плямістаму алеHю[5] […]. І пахаванне як магчымасць пакрасавацца каля начальства […].

*Памяці Алеся Адамовіча*

Утрапёнага самага зноў
Смерць забрала,
Зайздросцячы славе.
Беларусь, на тваіх сыноў
Хто спрыяе лютай аблаве?

Тыя, што на роднай зямлі
Нарадзіліся чужакамі,
Набрыднай слугуючы тлі
Ненажэрнымі хіжакамі.

Адышоў у вечную мгу,
Хто хіліў перад Праўдай калені.
Перад ім у мулкім даўгу
Нашае засталося сумленне.

Алесь быў блакаднікам. Прарываў блакаду, калі быў маладым партызанам, прарываў блакаду хлусні вакол Беларусі аб дабрабыце, аб росквіце культуры, блакаду маны пра партызаншчыну. Прарываў блакаду маўчання вакол Чарнобыля, грукаўся ў ababітыя ліставым жалезам злосці й абыякавасці (дзверы), каб пракрычаць пра чарнобыльскі генацыд. Ён прарываў і ленінградскую блакаду, каб сказаць праўду пра жахі, запланаваныя бальшавікамі. Сэрца не вытрымала барацьбы з сістэмаю. Засталіся кнігі, каб будзіць сляпых і глухіх. «Сабірайце!: Сабірайце ў карабы…» [у дзённіку].

---

[1] Каракін Юрый Фёдаравіч (1930–2011), рускі літаратуразнавец, пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч.

[2] Шклярэўскі Ігар Іванавіч (н. 1938), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Пушкінскай прэміі РФ (1999). Ураджэнец Беларусі.

[3] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

[4] Ісаеў Ягор (Георгій) Аляксандравіч (1926–2013), рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1986). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1980).

[5] Гарбачоў Міхаіл Сяргеевіч (н. 1931), савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1990–1991 гг. прэзідэнт СССР. Лаўрэат Нобелеўская прэміі міру (1990).

*29 студзеня, субота*

Развітанне ў саюзе з Алесем Адамовічем. Добра, як сапраўдны еўрапеец, сказаў Васіль. Каракін, выявілася, беларус па дзеду. Разумны па генспадчыне. Дэмакрат Чараднічэнка[1] закончыў сваё слова па-вялікадзяржаўнаму: «Когда народы, распри позабыв, в единую семью соединятся». Пушкін[2] цягнуў Міцкевіча[3] ў «единую и неделимую» сям'ю, а вялікі Адам не хацеў. І мы набыліся ў гэтай сям'і.

У калідоры перад пачаткам развітання Васіль схапіўся з Новікавым[4], правы чалавека парушылі, што без паперкі выдалі кам[…] Літве[5]. У 37-м па паперках бралі, выходзіць па Новікаву, бальшавікі дбалі пра правы чалавека. Воўчы ашчэр у Новікава. […] стаўленік Масквы. Трэба выпытаць у Карласа, кангрэс, які мае намер праводзіць ПЭН-цэнтр, ці не з падачы Новікавых. Яўрэйская даверлівасць Карласа можа яго падвесці пад манастыр, і нас заадно.

Васіль распавядаў, што бацька не хацеў прыязджаць да сына жыць, бо калі памрэ раптам, Васілю будзе шмат клопату везці ў Бычкі. Трэба бліжэй да магільніка трымацца.

Прыехаў дамоў, пазваніў Васілю, яго няма. Пазней ён пазваніў, што затрымаўся з Кузьміным[6]. Ён жа спрыяў Алесю. А цяпер усе, хто лізаў сляды ног ягоных, адварочваюцца дэманстратыўна. Адчувае сябе кепска Васіль. Кажа, калі памрэ, не будзе даваць клопату везці сябе ў Бычкі. Няхай у Менску. Бліжэй. Вырашылі ў Глушу[7] не ехаць.

Вечарам пазваніў Радзік. Цяжкая вясціна — памёр сябра майго ўшацкага й менскага жыцця, мой лекар, мой спагаднік Серпер[8]. Здаў на фармацэўта ўсе амерыканскія вымогі, а сэрца не вытрымала нагрузкі. Ён не дужа й хацеў ехаць, гэта Міра заявіла некалі, што на аркане пацягне яго. І пацягнула. Вечная памяць табе, Якаў Абрамавіч! Яшчэ на аднаго блізкага чалавека пабяднеў я. Так і да жабрацтва недалёка.

---

[1] Дакладней, Чарнічэнка Юрый Дзмітрыевіч (1929–2010), рускі публіцыст, пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч.

[2] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт.

[3] Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт.

[4] Новікаў Яўген Віктаравіч (н. 1956), беларускі ўрач, юрыст. Дэпутат ВС 12-га склікання (1990–1995). У 1992–1998 гг. кіраўнік Беларускай Лігі правоў чалавека.

[5] Літоўскімі спецслужбамі з тэрыторыі Беларусі былі бесперашкодна вывезены былыя лідары кампартыі Літвы М. Буракявічус і Ю. Ермалавічус. *Буракявічус* Мікалас (1927–2018), савецкі літоўскі партыйны дзеяч. Доктар гістарычных (?) навук (1975). 1-шы сакратар КПЛ. Асуджаны на 12 гадоў. *Ермалавічус* Юозас (н. 1940), савецкі літоўскі партыйны дзеяч. Доктар гістарычных навук. Асуджаны на 8 гадоў.

[6] Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч (1918–2003), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1971–1986 гг. сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі.

[7] А. Адамовіч пахаваны на яго радзіме, у п. Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобл.

[8] Серпер Якаў Абрамавіч (1938–1994, ЗША), аднакашнік; фармацэўт. З 1992 г. жыў у ЗША.

*30 студзеня, нядзеля*

На пахаванне не паехаў. Угаварыў Васіля не ехаць. Ягонае здароўе на валаску. У пахаванні, асабліва ў памінках, шмат фальшы. Узнікаюць людзі, якія пры жыцці нябожчыка й не ведалі, а амаль большына ведала, ды не любіла. Ну, гэта ўжо так заведзена на свеце. Мой клопат і памяць пра Алеся Адамовіча — зрабіць усё магчымае, каб выйшлі ўсе тамы твораў. Апошні раз, калі сядзелі ў Алеся, казаў, каб яго абавязкова лічылі сябрам БНФ. Ён жа адзін са стваральнікаў фактычна.

Званіў Васілю. Зайшла размова й пра Кебіча [...]. Васіль таксама лічыць, што ён на паслугах у цёмнай, у сэнсе ценевай, сілы, якая ўсім кіруе. Я сказаў, што Кебіч нагадвае гумовага дырэктара, боса перад праходнымі японскіх заводаў. Бі колькі ўлезе, а толку мала.

*31 студзеня, панядзелак*

Раніцай званіў Васлю. Казаў Васіль, што падказваў расійскім дэмакратам прыгледзіцца, хто ўцякае з былых калоній імперыі. Сексоты, стукачы. Баяцца, што раскрыюць архівы, бягуць да сваіх гаспадароў у Маскву. Вядома, прасцей зрабіць, як у Гародні. Саветы забыліся дублі спісаў стукачоў. Немцы далі таму-сяму розаг, і яны сталі служыць на новых гаспадароў. Вярнуліся Саветы — таго-сяго саслалі, але затое двойчы перакручаныя служылі люцей за новых.

Каракіну Васіль заўважыў, што хоць у яго ёсць як не на тысячу старонак даследаванне па Дастаеўскаму[1], у гісторыю ўвойдзе адной фразай адразу пасля перамогі Жырыноўскага: «Расія, ты ашалела!» Зноў жа вялікадзяржаўныя дэмакраты пачалі пярэчыць, што народ не можа ашалець. А чаму б і не. Ён жа з людзей складаецца. Прыклад Германіі, Італіі, рэвалюцыйна-савецкае Расіі. Каракін не рэагаваў, бо быў на добрым падпітку. Васіль сумна заўважыў, што, відаць, відушчыя душы адчуваюць катастрофу й пакідаюць гэты свет. Сахараў[2], Адамовіч.

Радыёстанцыя «Свабода» мае цяпер сваё памяшканне. Званіла карэспандэнтка. Урбан [П.]. Пытаюся, адкуль, бо гэта наша прозвішча. Кажа: муж даў, і на тым яму дзякуй. Муж з Лепельшчыны. З нашага боку.

* В. Быкаў дужа адчувае, і таму Сахараў, Адамовіч. «Адзіная сям'я на тым свеце».

---

[1] Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821–1881), рускі пісьменнік, крытык, публіцыст.

[2] Сахараў Андрэй Дзмітрыевіч (1921–1989), фізік-тэарэтык, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1953). З канца 60-х гг. адзін з лідэраў праваабарончага руху ў СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1954, 1956, 1962). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1953), Ленінскай прэміі (1957), Нобелеўскай прэміі міру (1975). У 1980–1986 гг. знаходзіўся ў ссылцы, пазбаўлены ўсіх званняў і ўзнагарод. Народны дэпутат СССР (1989).

*1 лютага, аўторак*

Добры дзень, мой месяц! Прыходзь яшчэ да мяне доўга, бо Дамінічка мая маленькая. Бяру з садзіка. Апрануў. Пайду, кажа, запытаюся ў выхавацелькі, што я ела. Тая адказала, што аладкі. Сапраўды, абедаў-абедаў, а жывот не ведаў.

На працы хадзіў да Андраюка[1] наконт Алеся Адамовіча. Пагадзіліся, што трэба пісаць ліст і падключаць камісію па спадчыне, якая будзе, каб выдаць 4 тамы. Тры гатовыя[2]. Ім вычытаныя.

Дамінічка на сцяне малявала мяцеліцу. Яшчэ не ўсе сцены размалявала. Добра пачаўся месяц — у «Полымі» тры апавяданні Васіля. Як з чыстай крыніцы напіўся. Гэтак жа горнецца душа мая да кожнага Васілёвага слова. І тут верны сабе. «Даносы не прападаюць. Не тое што заявы ў Гарвыканкоме». Як і рукапісы не гараць. І добра, што тэма барацьбы з бальшавізмам узнята.

*2 лютага, серада*

Званю Васілю. Віншую. Кажу не зусім звязныя словы захаплення. Васіль, вядома, не церпіць усякіх лёстачак. Кажа пра маю падборку: «Дзіўлюся тваёй невычэрпнасці». [Апавяданне] «Перад канцом» — Васіль каментуе коратка: «Варта чалавека накарміць, як нашыя дэпутаты дарваліся да карыта...» «Бедныя людзі» — выпадак быў з Барысам Клейнам[3]. У Вільні прафесара абвінавалі ў нацыяналізме. Праездам Клейн паспачуваў. А той са страху ў КДБ, і Клейн загрымеў адусюль.

Напісалі з Андраюком ліст міністру Бутэвічу[4]. Каб далі датацыю на тры тамы Адамовіча, якія ўжо набраныя, і дадалі 4-ты том, у які будзе сабрана спадчына.

*3 лютага, чацвер*

Сядзеў дома. Перакладаў Ганада Чарказяна[5]. Перакладаў — выдумляў і сам неўрыкметку верш напісаў: «Са дна калодзежа святлей...»[6]

---

[1] Андраюк Серафім Антонавіч (н. 1933), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1993–1996 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура». Кандыдат філалагічных навук (1966).

[2] Чатырохтомнае выданне Збору твораў А. Адамовіча было спынена па выхадзе 1-га тома (1995).

[3] Клейн Барыс Самуілавіч (н. 1928), беларускі гісторык, выкладчык. Доктар гістарычных навук (1989). Прафесар (1990). У 1979–1992 гг. выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. У 1974–1979 гг. праследаваўся савецкімі ўладамі. З 1992 г. жыве ў ЗША.

[4] Бутэвіч Анатоль Іванавіч (псеўд. Максім Валошка; н. 1948), беларускі дзяржаўны дзеяч, пісьменнік, перакладчык, публіцыст, крытык. У 1992–1994 гг. міністр інфармацыі і друку.

[5] Чарказян Ганад Бадрыевіч (н. 1946), курдскі паэт, празаік. У 1993–2004 гг. заг. аддзела маркетынгу выд-ва «Мастацкая літаратура».

[6] Гл.: «А з дна калодзежа святлей...» (3.02.94) // Евангелле ад Мамы. С. 273.

Пазваніў Васіль. Дзевяць дзён па Адамовічу. Васіль прапанаваў устаць, пераксціцца і ў думках памаліцца за Алеся. Натуральна, па-беларуску, бо з маленства гэта, ксціўся Васіль. Стоена, урачыста, шчыра.

Калі пачаў казаць нейкую лухту [...] Паплаўскі[1] Жора, зразумеў, чаму ў такіх, як ён, мастакоў адна звіліна, бо адной зручней маляваць. Лінія дужа тонкая.

Пасля Яўген Коктыш[2] павёз да Васіля. Зайшліся на гарбату.

Васіль пачаў маляваць. Родная хата. Выгінаючыся й адхіляючыся, як кума з пазной бяседы дамоў ідучы, раз'езджаная да жывога пяску дарога падымаецца ўгору да хаты. Абапал дарогі плот таксама падымаецца ўгору, як бы стараючыся падтрымаць дарогу. Плот даўні, ушацкі, ці, дакладней, бычкоўскі. Стаўшы ўдвух, слупы на перавясле з лазы трымаюць жэрдзя. Далёкі правобраз прашчы. Возера Горадня. Здаецца, лес у зялёныя прыгаршчы набраў ціхай і густой ад бадзягі й бузы вады, каб памыць аблічча, а тут якраз у ваду гэтую ўпала светлая аблачына.

Пытаюся, ці даўно быў на Горадні? Толькі летась не быў, бо не было бензіну, трэба было сабраць 70 літраў. А так штогод на радзіму едзе Васіль. Некалі мая суседка Маня Быкава хвалілася, што яе школьніцай маляваў Васіль. Яна таксама з Бычкоў. Наогул, гэта расійскія пашпартысты дадалі, дзе маглі, да беларускіх прозвішчаў *-оў*, а на канцы ўкраінізавалі на *о.*

Коктыш цікава расказваў. Здымаў шмат Кляцкова[3] й Арцыменю[4]. Калі Шаладонаву[5] прапанавалі быць намеснікам у спікера, казаў, што баіцца, не хоча. [...] Арцыменя настоіў, каб быў у Вярхсавеце. Тады зразумела, чаму [...] генпракурор самалётам прыляцеў і забараніў вобыск у хаце Арцымені. [...]

*4 лютага, пятніца*

Сядзеў крукам над перадрукам. Дамінічка казала, што баба шантажыруе тэлевізар. Перад раздзелам у кнігу эсэ-крытыкі [верш]: « Не сказаў бы...»[6]

---

[1] Паплаўскі Георгій Георгіевіч (1931–2017), беларускі мастак. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977). Акадэмік Расійскай акадэміі мастацтва (1991). Акадэмік Нацыянальнай акадэміі НАНБ (1995). Народны мастак РБ (1997).

[2] Коктыш Яўген Фаміч (н. 1940), беларускі фотамайстар.

[3] Кляцкоў (Клёцкаў) Леанід Герасімавіч (1918–1997), беларускі партыйны дзеяч.

[4] Арцыменя Дзмітрый Канстанцінавіч (1932–1993), старшыня выканкама Гродзенскага абласнога савета (1983–1993), дэпутат ВС РБ 12-га склікання (1990–1995).

[5] Шаладонаў Васіль Іванавіч (1948–2007), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1992–1995 гг. генеральны пракурор РБ. Заслужаны юрыст РБ.

[6] Гл.: «Не сказаў бы...» (4.2.94) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 4.

*5 лютага, субота*

Званіў Васілю, ад уражання ягонага інтэрв'ю з Тычынам[1]. А ў «ЛіМе» былы парторг саюза дае ўрыўкі з дзённіка й клянецца ў антыкамуністычнасці. […] Васіль хварэе. Было душна на 9-ці днях у Алеся. Спацеў. Яму трэба шанавацца, а ён не ўмее.

*Была*

Аж крычыць парторг-расстрыга,
Што была яшчэ тады
У яго ў кішэні фіга
У застойныя гады.

*21 лістапада*

*6 лютага, нядзеля*

Друкаваў да ачмурэння. Званіў Васілю. Хворы. Як з дому пачулася ягонае: «Таўстым голасам кажу, бо застудзіўся…» Пра былых апаратчыкаў напомніў Адамовіча: «Хто там папрацаваў, адно яйцо выразалі ім».

*7 лютага, панядзелак*

Дамінічку ў садзік. Яна кажа, што ў дзеда калматы кабінет. А пасля: «У цябе вочы, як семкі ад яблыкаў». Вобразнае мышленне.

Васіль: «У нас ёсць нацыянал-камуністы, а яшчэ ёсць і нацыянал-рамантыкі накшталт Шушкевіча». На працу прыходзіў, дакладней, яго прывозілі — хадзіць нельга, бо а грэйсэ шышке. Бурную дзейнасць імітуе. Мітусіцца пад кліентам.

*8 лютага, аўторак*

Праца. Дадаў колькі вершаў дзіцячай кніжкі, якую вярнуў праз два гады Шэвераў[2], так і не аформіўшы. Відаць, было ўказанне […] з корчаўзрывацельнай адукацыяй Лукшы[3]. У перакладзе з латыськае мовы — абцугі. У «Звяздзе» паганы артыкул супроць БНФ і Зянона Світуновіча. Яму яўна напісалі […], адчуваецца рука камуністычнага дэмагога тыпу Ів. Ів. Антановіча.

---

[1] Тычына Міхась (Міхаіл Аляксандравіч; н. 1943), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік, перакладчык. Доктар філалагічных навук (2001). З 1970 г. супрацоўнік, ст. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Пляменнік А. Адамовіча.

[2] Шэвераў Аляксандр Каліstратавіч, мастацкі рэдактар выд-ва «Беларусь».

[3] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт, драматург. У 1980–1998 гг. дырэктар выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

*9 лютага, серада*

Паседжанне на працы. Карласу гарыць бяроста ў ср.цы засяданняў-прысяданняў. Васіль здорава сказаў: «Ёсць і такі від літаратуры — актыўнасць».

*10 лютага, чацвер*

Засядалі ў ПЭН-цэнтры. Прынялі Зуёнка. Карлас цягнуў Ігара Бабкова[1] — маленькі зборнічак тыражом 300 экз. Затое ў Англіі стажыроўка, то ён аб'яўляецца фундатарам, то дырэктарам нейкага інстытута Эўропы. [...] Цікава, што засвяціліся з рэкамендацыямі нацыянал[...] М., Р. і А. Цікава. Што мяне аглушыла, дык рэпліка Казько[2] па дарозе ў саюз. «А хіба аднаго [...] мала?» Гэта ён меў на ўвазе Карласа. Яшчэ Макаёнак[3] папярэджваў наконт яго Віктара. Усё пераварочваецца дагары нагамі. Недарэмна Васіль неяк рэплікамі выказаў нейкую заклапочанасць наконт Карласа. Таму так Бабкова цягне. Ці не мае заданне дыскрэдытаваць ПЭН-цэнтр? А гэта ж я яго рэкамендаваў. Перад Васілём, калі гэта сапраўды так выявіцца, сорамна будзе да скону.

Вечарам званіў Васілю. Пра Зянона сышліся на думцы, што Зянон апярэджвае ўдар праціўніка, як бы запавет піша, бо не можа быць ўпэўнены за сваё жыццё. А накінуліся апошнім часам на яго не за расійскае пытанне, а за тое, што намякнуў, што трэба апублікаваць спісы стукачоў. А іх у нас безліч. На добры сон Васіль мяне абрадаваў, што тэлефоны ўзмоцнена пачалі падслухоўваць. Паведаміў Васілю дужа дасведчаны чалавек. Сёння я ўжо адчуў трэскат і шыпенне. Васіль сказаў, што з гэтага будзе свая карысць, нешта застанецца, нешта надрукуецца. Не прападзе ўсё марна.

Забіраю Дамінічку з садка. Чытаю ёй: «Ішоў коця па канапе, кіпці нёс у кожнай лапе...» Яна паслухала й сама: «Ішоў коця па канапе, мышку нёс у кожнай лапе...» Пасля: «Ішоў коця па канапе, піську нёс у кожнай лапе, срачку нёс у кожнай цапе...»

*11 лютага, пятніца*

Сустрэў аднакурсніка. «Советская Белоруссия» палошча мяне за выказванне ў «Известиях». Перадрук.

* Дамініка: «Памалюйце спачатку ў паветры птушку».

---

[1] Бабкоў Ігар Міхайлавіч (н. 1964), беларускі паэт, празаік.

[2] Казько Віктар Апанасавіч (н. 1940), беларускі празаік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1977), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[3] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1974).

*12 лютага, субота*

Дамінічка з раніцы сказала, што ў Бібліі бачыла Божаньку. Папрасіла даць ёй хлеба ад Божанькі. Казала пра чай-барчай, чай-камячай. Малявала агурок «такой вось шырыні й вузіні».

Сойм БНФ. *Зянон:* «Пагроза незалежнасці й страйк. Адбыўся паўзучы камуністычны [...] пераварот. На ключавыя пазіцыі ў дзяржаве выходзяць сілы супроць самастойнасці, антыбеларускай арыентацыі, працуюць на Расію, палітыка пад чырвонымі сцягамі, сумяшчэнне камуністычнай і шавіністычнай ідэалогіі, у Расіі гэта — чырвона-карычневыя. Нават да канца камуніст Шыркоўскі не да двара. Вяртанне да Вандэі[1], што было раней. Новы, Грыб, аддаў КДБ Лавіцкаму[2], (могуць) умяшацца ў падрыхтоўку страйку. Указанне на палітычны сыск. Прэса мутная — «нацыянал-экстрэмісцкія сілы». Фразеалогія з імперскіх ацэнак. Усім МУС — абысці камерцыйныя структуры паліграфістаў, забараніць літаратуру па страйку. Рэванш самых рэакцыйных сіл. Дзяржаўная палітыка на знішчэнне незалежнасці, на знікненне нашае дзяржавы. Прапаганда з Расіі па тэле. У нас апазіцыя — дэмакратычная і антыдэмакратычны ўрад, у Расіі — наадварот. Зняцце ключавых пазіцый. Кадравая палітыка. Выцясняюцца беларусы з кіраўнічых пасадаў. На заводах і ў арміі — заменены расійцамі. Вернуты беларусы з Масквы, якія праводзілі расійскую палітыку. Фармуецца 5-я калона, інтэрфронт «Народное движение» — гэта камуністы, толькі пад шыльдай.

Закрыццё беларускіх школ. Умацоўваюцца спецслужбы. Кадравая палітыка будзе дамінуючай.

Інфармацыя. Урад будзе кантраляваць сродкі масавай інфармацыі. Фальшывыя ідэі. Двайное грамадзянства й двуязычие. Русскоязычное население. Ва ўсе дзяржавы каля Расіі. Раз'яднанне грамадства. Камуністы адарвалі пенсіянераў на свой бок. Моладзь адышла ад думання пра Бацькаўшчыну. Гэта й адбылося ў Расіі. Палітыка антыбеларусізму — новая палітыка.

Эканамічны аспект. Эканамічная вайна імперскіх сіл Расіі. БЧС[3] аднавіў БНФ. У Кіеве 29 студзеня павінна [была] быць канферэнцыя. Байчы-

---

[1] Вандэя, правінцыя Заходняй Францыі, якая сталася цэнтрам раялісцкіх, а па сутнасці сялянскіх мецяжоў у час Вялікай Французскай рэвалюцыю і Дырэкторыі 1789–1794 гг. і таму рэвалюцыянерамі-санкюлотамі было забіта, па ацэнках розных гісторыкаў, ад 500 тыс. да 1 млн чалавек. У савецкія і перабудовачныя часы найменне «Вандэя» выкарыстоўвалася як контррэвалюцыя наогул.

[2] Лавіцкі Генадзь Міхайлавіч (1942–2013), беларускі дзяржаўны дзеяч, старшыня КДБ (люты — ліпень 1994). Генерал-лейтэнант.

[3] БЧС — Балтыйска-Чарнаморскі саюз.

шын[1] (нам. Чарнавіла[2]). Напад на штаб-кватэру. Зніклі дакументы й Байчышын. Расійскія спецслужбы зрабілі. Расійская нафтавая мафія, яна й кантакты з сусветнай мафіяй знайшла. Аб'яднанне грашовых сістэм — праца мафій. За ёй геапалітыка, за ёй Козыраў[3] і Чарнамырдзін[4].

Магчымасці змагання за незалежнасць. Страйк мусіць быць пермантным. БНФ — адзіная апазіцыя мафыіёзнай структуры ўрада. Выбарчы камітэт. Павінны сцвярджаць пазітыўныя праграмы. Страйк. Адстаўка ўрада Кебіча. Скліканне паседжання дэпутатаў, зацвярджэнне пераходнага ўрада, закон аб выбарах. Наданне функцыі Вярхоўнаму суду. Прыняць рашэнне аб датэрміновым роспуску».

*Голубеў*[5]. Аб падзеях у Вярхсавеце і ўрадзе. «Можа адбыцца нядобрае. Восенню рыхтаваўся пераварот [...]-камуністычных сіл ў Расіі й Беларусі. Цяпер гэта перанесена на Беларусь. Падрыхтоўка ў Расіі, на Украіне, у Літве. Амерыканскія спецслужбы друкуюць матэрыялы. Усё спланавана. Імперскі сіндром. Усё спланавана расійскім КДБ. У Грузіі й Азербайджане было зроблена цішэй. Цяпер гэта чакае тут. Пад чырвонымі й імперскімі сцягамі. Нашы камуністы з расійскім КДБ і пасольствам. Кебіч спачатку штурхае вярхсаветчыкаў галасаваць за рубзону, а пасля: «Я выконваю волю Вярхсавета». Шушкевіч не ведаў эканоміку й сельскую гаспадарку, а каго абралі? Інфармацыя й культура — Антановіч. А тэлерадыё — пад крыло Саўміна (Кебіч). Прэзідэнт. Народ можа ошибиться. Лепей на сесіі Вярхсавета. Але народ можа не падтрымаць. Канстытуцыя — імяннымі бюлетэнямі, дэпутатамі. Канстытуцыя, а пасля прэзідэнт. А пасля Вярхсавет унясе змены ва ўрадзе. Прафесійны парламент.

Асноўныя памылкі апазіцыі й БНФ у сферы прапаганды. Была запушчана чутка, што дэмакраты кіруюць. Што быццам пераверцені камуністычныя ў Вярхсавеце. Прапаганда станоўчага, што рабілі. Меней ужываць слова *камуністы*. Маразы не на карысць страйку. Заяву прымаў [не] БНФ, а страйкавы камітэт».

---

[1] Байчышын Міхаіл Іллярaвіч (1948–1994?), украінскі палітык.

[2] Чарнавіл Вячаслаў Максімавіч (1937–1999), украінскі журналіст, палітычны і грамадскі дзеяч; адзін з заснавальнікаў Народнага руху Украіны. Герой Украіны (2000, пасмяротна).

[3] Козыраў Андрэй Уладзіміравіч (н. 1951), расійскі дзяржаўны дзеяч, міністр замежных спраў РФ (1990–1996).

[4] Чарнамырдзін Віктар Сцяпанавіч (1938–2010), расійскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1992–1998 гг. старшыня Урада РФ (1993–1998).

[5] Голубеў Валянцін Фёдаравіч (н. 1955), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч. Доктар гістарычных навук (2012). Прафесар (2014). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

*Навумчык*[1]*:* «Наменклатура дбае аб прэзідэнцтве. 24 % падтрымалі страйк».

*Зянон:* «Калі б на прэзідэнта быў выстаўлены конь, і ён бы сабраў колькі працэнтаў галасоў». З Шушкевіча пакутніка не атрымалася. Уся ідэя на незалежнасць: ад карумпаванай улады, ад іншае дзяржавы і г. д.».

*Вячорка*[2]*:* «Шкала: незалежнікі й не. Рабочыя прынялі рашэнне страйкаваць. Ідэя антыкамунізму спрацавала. Барацьба з карупцыяй цяпер. Адзін з лідэраў страйка Антончык[3]. Цяпер Лукашэнка[4] супраць страйка. БНФ не павінен трактавацца як аморфная маса, дэмакраты, фронт — гэта апазіцыя».

*Лепешаў*[5]*:* «На выбарах павінны перамагчы».

*Хадыка*[6]*:* «БНФ цяпер ужо не безаблічныя дэмакраты. На пераходны перыяд Карпенка[7]. Прэзідэнцкая кампанія чакае нас. Лукашэнка не сур'ёзна. Падымаць рэйтынг лідэра БНФ. Па 15-ці акругах Менска не прайшлі выбары. Трэба ўзняць пытанне».

*Зміцер Абразцоў*[8]*:* «Шмат увагі тым, хто супроць Народнага фронту. Граф Прушынскі[9] падтрымаў страйк».

Перапісаў верш стары, і ў выніку такі стаў: «Аглухне і адчырванее медзь...»[10] Званіў Васілю. Для Расіі адзін лад звычны й наладжаны — гэта імперыя. Імперскі менталітэт невыводны.

* Усе на выбары. З трубой ды барабанным пошчакам.

---

[1] Навумчык Сяргей Іосіфавіч (н. 1961), беларускі журналіст і палітычны дзеяч. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання. З 1996 г. жыве ў Празе. Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2006).

[2] Вячорка Вінцук (Валянцін; н. 1961), беларускі палітык, мовазнавец, выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа.

[3] Антончык Сяргей Антонавіч (н. 1957), апаратчык хімводаачысткі Мінскага вытворчага аб'яднання імя Леніна. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

[4] Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч (н. 1954), беларускі дзяржаўны дзеяч. Дэпутат ВС РБ 12-га склікання (1990–1994), прэзідэнт РБ (з 1994).

[5] Лепешаў Іван Якаўлевіч (1924–2014), беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1985). Прафесар.

[6] Хадыка Юрый Віктаравіч (1938–2016, ЗША), беларускі вучоны-фізік; мастацтвазнавец, грамадскі і палітычны дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1978). Прафесар (1984). З 1980 г. заг. лабараторыі Інстытута фізікі НАНБ, у 1997–2000 гг. прарэктар Народнага ўніверсітэта. Нам. старшыні БНФ (1988–2007). З 2013 г. жыў у ЗША.

[7] Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч (1949–1999), беларускі навуковец, дзяржаўны дзеяч. У 1991–1994 гг. старшыня Маладзечанскага гарвыканкама. З 1995 г. дэпутат ВС РБ, нам. старшыні ВС. Доктар тэхнічных навук (1990). Член-карэспандэнт НАНБ (1994). Заслужаны дзеяч навукі РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[8] Абразцоў Зміцер, інжынер-металург завода «Зеніт» (г. Вілейка).

[9] Прушынскі Аляксандр, граф (н. 1934), беларускі грамадскі дзеяч.

[10] Гл.: «Аглухне і адчырванее медзь...» (12.02.94) // Евангелле ад Мамы. С. 272.

*13 лютага, нядзеля*

Падганяў перадрук «Евангелля ад Мамы». Дамінічка малявала мне. Яе, бачце, папрасіў сабачка, каб намалявала будку з ручайком. Квадрат. І яшчэ мне чытала свае вершы: «У лыжку слёзаў Дурань Іван Наліў у лапаць акіян». Цікавае мышленне. Уключыў радыё. Нейчыя вершы. Выходзіць, што мяне чытаюць. Той жа памер, той жа ход, толькі вол заменены на лебедзя. Белы вол маёй надзеі[1] стаў лебедзь белы, лебедзь чорны. Літвераб'і павінны пасвіцца каля вазоў. Жыць хочацца.

*14 лютага, панядзелак*

Праца. Званілі са «Звязды». Колькі слоў падтрымкі страйку сказаў. Быў Яўген Кулік[2]. Падарыў мне афорт. Я папрасіў яго зрабіць партрэт мамы, ён жа ведаў маму маю. Сказаў яму, што прынясу фота. Згадзіўся. Быў пры гэтым Васіль Сёмуха[3]. Ён кажа, што трэба на аснове фота абагулены партрэт мамы без залішняга падабенства. Ягоных жа бацькоў расстралялі [немцы]. І мне зрабілася ніякавата, а потым доўга думаў над думкаю Васіля.

У саюз прымалі табуном. На радзе не быў. Сказаў Зуёнку, што за ўсіх галасую. Дамініка малявала чачарыʹхла — сабака-бабака. Потым пукае й кажа: «Я пукаю, як цымбалы». Запісваю. Яна паглядзела й кажа: «Зноў пукаю, запісвай». У гэтым болей радасці й жыцця, чымся на паседжаннях саюза.

* Куліку — чаравікі![4] 11 гадзін.

*15 лютага, аўторак*

На страйк не пайшоў. Ломіць, крышыць усяго. Званіў Васіль. Да яго на прыёме ў Таварыстве сувязяў[5] падышоў Радзім Гарэцкі[6] й сказаў, што

---

[1] Гл.: «Чорны вол маёй трывогі, Белы вол маёй надзеі...» //1980)) // Вечалле. Мінск, 1980. С. 6.

[2] Кулік Яўген Сяргеевіч (1937–2006), беларускі графік.

[3] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (1936–2019), беларускі перакладчык. У 1972–1996 гг. ст. рэдактар рэдакцыі перакладаў выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992).

[4] Любімы занятак Рыгора Іванавіча быў — раздаваць сябрам і знаёмым абутак, берэткі, пальчаткі, шалікі, кашулі (*заўв. Н. Давыдзенка*).

[5] Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (БелОКС).

[6] Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч (н. 1928), беларускі вучоны-геолаг, грамадскі дзеяч. Доктар геалагічных навук (1969). Член-карэспандэнт НАНБ (1972). Акадэмік АН БССР (1977). Замежны член Расійскай АН (1994). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1969), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978). У 1992–1997 гг. віцэ-прэзідэнт НАНБ. У 1993–2001 гг. прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

вырашылі абраць ганаровымі акадэмікамі ад прозы Быкава й Брыля[1], ад паэзіі Пімена і Ніла. Васіль запытаўся, а што стаіць за ганаровым. Адказ быў, што гонар. Тады Васіль спытаўся, а чаму няма мяне. Гарэцкі адказаў, што думалі, але вырашылі так. Васіль адказаў, што адмаўляецца, бо ўсё гэта гульні Ніла.

*16 лютага, серада*

Бегаў, плаціў за тэлевізар, які па дураце ўзялі напракат, за ахову, за кватэру. Званіў Бурсаў[2]. Прыехаў. Радзік на секцыі прайшоў аднагалосна. Але ж галасаванне адкрытае. Мярзотна гэта, што дасюль у нас глядзяць на графу. Расійскіх […] прымаюць, бо камуністычны дух яднае.

*17 лютага, чацвер*

На працы званю Васілю й чытаю яму ліст міністра Бутэвіча адносна Алеся Адамовіча. Ледзь дайшоў да прозвішча Алеся, як у трубцы зашыпела, а пасля й зусім сувязь перапынілася. Перазваніў. Васіль толькі ўсміхаецца. Расказаў, што ў Румыніі былі прынялі закон аб люстрацыі. Пасля выявілася, што кожны штатны стукач павінен завербаваць яшчэ сорак чалавекападобных. Калі перамножылі, спыніліся. Васіль заўважыў: «Закон так і засох». І сон жа прысніўся: купляю ў Парыжы мапу Парыжа і сам прыкідваю, што яна ў мяне ёсць. А потым Наташа Семашкевіч[3] корміць з лыжачкі Рыгора Яўсеева. А ён выбрыкваецца, як Дамінічка.

*18 лютага, пятніца*

Сядзеў дома. Вычытаў перадрук «Тарцюфа»[4]. Пашкадаваў сябе, ці варта было гэтулькі працы аддаць. Тэатр колькі разоў паказаў — і ўсё. Няма каму чытаць таксама. Чакаў званка Бурсава. Пазваніў пад вечар. Сёння ад’язджае. Праводзіць не пайшоў, бо кепска мне. Яшчэ хворы. Званіў Стрыжак[5]. Хваліўся, што хвалілі падборку, якую ён здаў у «Маладосць». Відаць, я ўжо нічога не разумею ў сучасных густах. Мне падборка здалася, ён паказваў, слабаватаю. Няма росту ў Віктара. Шкада. Палешукі, го-

[1] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1982).

[2] Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (1927–2019), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыў у Маскве.

[3] Семашкевіч Наталля Іванаўна (н. 1947), у 1972–2007 гг. мал. рэдактар, рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Жонка Р. Семашкевіча, дачка Я. Брыля.

[4] П’еса Мальера. *Мальер* (сапр. Жан Батыст Паклен; 1622–1673), французскі драматург, акцёр, тэатральны дзеяч.

[5] Стрыжак Віктар Іванавіч (1955–1995), беларускі паэт.

мельцы ў самых лепшых сваіх прадстаўніках нейкая прыземлена-балоцістае мышленне мае. Праўда, учэпіста трымаюцца й хапаюцца за пасады й грошы. Хоць ў гэтых адносінах Стрыжак рэдкае выключэнне.

*19 лютага, субота*

З раніцы ў галаву прыйшло слова: кэдэбілісты чалавекападобны тып. Правіў і дапісваў словы пра Васіля ў «Маладосць» і ў «Беларусь». Дамінічка ела цыбулю й заявіла, што ў яе вочы сталі горкія ад цыбулі. «Шыя сама топае... Хавалі дзядзьку нейкага, і пахавальная музыка ад яго йграла, а ён быў пакрыты тварам». «Калі на ўчарнелым лёдзе класнае дошкі...»[1]

На сёння было запрашэнне ад Будзінаса[2], не пайшоў. Адчуваць сябе жабраком надакучыла пасля вайны ў Вушачы. Навошта напамін. Васіль таксама не пайшоў. І яшчэ сказаў, што чуў інтэрв'ю Будзінаса, дзе ён ускосна падколвае БНФ. Чытаў з асалодай Оскара Мілаша[3] ў перакладзе Чэслава Мілаша[4].

*20 лютага, нядзеля*

Званіў Васілю. Пачувае сябе кепска. Прыйшоў «ЛіМ». У Дранько[5] зноў 7 вершаў для А. Мог бы ўжо й для Б. напісаць. Называе сябе вучнем Верлена[6]. З думкай, што вучань перарос настаўніка. Гульня ў эстэцтва ад жадання пазбыцца комплексу правінцыйнасці. У мяне ў Вушачах Пятро[7] носіць капялюш. На тым жа развароце з мудрымі думкамі выступае Галубовіч[8]. Вясковы Жуль Рэнар[9]. Таксама фрак на сябе прымярае. А наогул гэта лепей, чым мы ў свой час бадзёра нагняталі рамантыку з камсамольскім профілем. Маска можа й прыстаць да твару. Як у Разанава[10]. І праўда, думаюць многія, філосаф, загадкавая фігура. Халодным рамяством,

[1] Гл.: «Калі на ўчарнелым лёдзе класнае дошкі...» (19.02.94) // Евангелле ад Мамы. С. 423.

[2] Будзінас Яўген Дамінікавіч (1944–2007), рускі пісьменнік, публіцыст. У 1990–1998 гг. старшыня праўлення ТАА «Паліфакт».

[3] дэ Любіч-Мілаш Оскар Венцэслас (1877–1939), французскі паэт; літоўскі дыпламат.

[4] Мілаш Чэслаў (1911–2004, ЗША), польскі паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1980). Праведнік свету. Пляменнік О. Мілаша.

[5] Дранько-Майсюк Леанід Васільевіч (н. 1957), беларускі паэт, празаік. 1982–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[6] Верлен Поль (1844–1896), французскі паэт.

[7] Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998), стрыечны пляменнік, сын М. Р. Трафімавай.

[8] Галубовіч Леанід Міхайлавіч (н. 1950), беларускі паэт, крытык. У 1989–1994 гг. рэдактар гал. рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання, у 1994–2002 гг. супрацоўнік час. «Крыніца».

[9] Рэнар Жуль (1864–1910), французскі пісьменнік.

[10] Разанаў Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; н. 1947), беларускі паэт, перакладчык. У 1994–1999 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Крыніца». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1990).

разлічаным на недасведчаных, можна шмат чаго дасягнуць. Разгайдаць звон славы, каб доўга водзван чуўся.

Званіў Васілю. Кебіч засеў у Маскве. Чарнамырдзін патрабуе, каб Беларусь стала вобласцю Расійскае імперыі. [Кебіч] і бацьку роднага прадасць, што яму Беларусь. А Грыб падтрымае. Шушкевіч хоць крыху трапятаўся. Даскакаліся патрыёты ўгору даўгалыгага Нілка. А верш усё роўна нейкі выкруціўся. Адзін спосаб жыцця ў мяне — пісаць. Пішу — жыву, на ўсё забываюся, як у гаспадарцы клопат са словамі. Гадую. «Ледзь не забытае»[1].

*21 лютага, панядзелак*

Прачытаў у «Вожыку» чарговую [...] Гілевіча. Змагаецца з нейкім неканкрэтным ворагам, робіць з сябе пакутніка. Чытаю па тэлефоне Та′расу, ён: «Кепска спіць чалавек». Званіў N., каб пазваніў я таму-сяму, хай падтрымаюць яго ў член-кары. Званіў Навуменку. Ён кажа, што Ніл адмовіўся ад ганакадэміка. [...]

*22 лютага, аўторак*

На працу прыходзіў Маціевіч[2]. Хоча напісаць з мяне нешта накшталт партрэта. Званіў Васілю. Васіль пра АН: «Балота. Усе гэтыя й гэныя акадэмікі працавалі на ВПК[3], а патэльні, каб не прыгарала, не выдумалі. Філосафы так званыя на КПСС працавалі. Наогул, — кажа, — не лезь ні ў якія акадэмікі, калі й будуць прапаноўваць. Вось мяне не пыталі, а цяпер тыцкаюць то там, то сям Героем Сацпрацы і Ленлаўрэатам».

*23 лютага, серада*

На працы дзяўчаты зрабілі такое застолле, як у застойныя часіны. Званіў Васілю. Дужа высокая тэмпература, цісне яго грып, як Грыб Вярхсавет. Кажу: «Віншую са святам імя Троцкага[4], а ён: «А я цябе са святам Беларускае Краёвае абароны[5]. Сёння якраз 50 гадоў. Бальшавікі сталі талерантнымі з прычыны сваёй цемнаты». Яшчэ што мяне ўсцешыла — Васіль мне намаляваў карціну. Як паправіцца, падорыць.

Прыехала Ілона. Шкада яе. Бедны я ва ўсіх адносінах. Ірына [З.] расказвала, што Дранько запытаўся, калі яна яго запросіць дамоў на каньяк.

---

[1] Гл.: Ледзь не забытае (20.02.94) // Евангелле ад Мамы. С. 424.

[2] Маціевіч Алег Мікалаевіч (1949–2016), беларускі мастак.

[3] ВПК — Ваенна-прамысловы комплекс.

[4] Троцкі Леў Давыдавіч (сапр. Браншэйн; 1879–1940), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Адзін са стваральнікаў Чырвонай Арміі.

[5] Беларуская краёвая абарона — вайсковае фарміраванне, створанае ў Генеральнай акрузе «Беларусь» па загаду генеральнага камісара К. фон Годберга і пры ўдзеле прэзідэнта Беларускай цэнтральнай рады Р. Астроўскага у 1944 г.

Адказала: «Прынось». Зусім закахаўся ў сябе, занарцысіўся, ці занарцыціўся. Зрабіў я, што трэба, Ганаду.

*24 лютага, чацвер*

[Малюнак Дамінікі «Яблынка».] Гэта мне Дамініка намалявала. Хадзіў да мастака Сяргея Ткачэнкі[1]. З Пецярбурга. Родам з украінскага Палесся. Жонка — далёкая радня Драздовіча[2]. Прыходзіла Ілона. Дамініка рада убачыць цёцю-маму. Дужа сумна. Ні ў чым, ні ў кім надзеі, нідзе прасвету. Як у нейкае яме сядзіш разам з ваўкамі й чакаеш, калі есці цябе пачнуць.

«Сабе на дзень нараджэння»[3].

Званілі ўсе Лапушыны, Пятро Валкавец[4], Калабок [М. Чарняўскі], Бур'ян[5], Зуёнак. Тэлеграма ад Бурсавых, ліст ад Пятра Трафімава. Меней і меней...

*25 лютага, пятніца*

Да мастака. Галоўнае ў мастацтве — датыканне. Тыцыян[6] недарэмна пісаў, што завецца, пальцамі. «Час паветра не знішчыў»[7]. Правіў старую зарыхтоўку: «Спрыяюць»[8].

* * *

Благое
Скача шустрай блыхою,
А добрае
Цягнецца дранаю торбаю.
І дабрадзей у даверы
Усім расчыняе дзверы,
З рання да вечара
Чакае нечага.
Ды толькі мана зямная
Адна дзвярэй не мінае.

---

[1] Ткачэнка Сяргей Вітальевіч (н. 1954), мастак; дзеяч беларускай дыяспары ў Расіі (Санкт-Пецярбург).

[2] Драздовіч Язэп Нарцызавіч (1888–1954), беларускі мастак, скульптар, этнограф, фальклярыст, археолаг, пісьменнік.

[3] Гл.: Сабе на дзень нараджэння (24.02.94) // Евангелле ад Мамы. С. 441.

[4] Валкавец Пётр, беларускі мастак-карыкатурыст.

[5] Бур'ян Барыс Іванавіч (1924–2009), беларускі пісьменнік, тэатральны і літаратурны крытык, сцэнарыст.

[6] Тыцыян (Тыцыяно Вечэлліо; каля 1476 (77 ці 1489)90–1576), італьянскі мастак.

[7] Гл.: «Час паветра не знішчыў» (25.02.94) // Евангелле ад Мамы. С. 426.

[8] Гл.: Спрыяюць (25.02.94) // Тамсама. С. 445.

*26 лютага, субота*

Зноў на гарышча да Марачкіна[1]. Сёння й сам Аляксей рабіў эцюд. Запытаў Сяргея [Ткачэнку], хто Шаранговіча ўціснуў на сустрэчу й ў фотакадры ў Курапатах, дзе мусілі быць Зянон і Клінтан. Грахоўскага[2] ясна [...]. Выходзіць, сын каваля Пятра сам папрасіўся, калі Марачкін нёс множыць на ксераксе праект помніка ў Курапатах. Аляксей правёў яго па спісе «Мартыралога»[3]. Зянон (што значыць абсалютны амаль нюх) запытаўся, ці гэта абавязкова — Шаранговіч? Але паколькі рэктар, а Марачкін працуе ў яго, згадзіўся. Калі пасля пачалі з'яўляцца фота, захваляваўся сын каваля й жонка ягоная Курлыкіна[4], што падумае Кебіч? Яшчэ палічыць, што ён заадно з Зянонам. А хочацца ж быць міністрам культуры. Расказаў гэта Васілю, ён адказаў, што яму залічыцца тое, што верна служыць і ўсімі духамі круціць, каб помніка не было. Аргумент праверана-савецкі — няма праекта помніка, вартага Курапатаў. Як быццам нешта пампезнае трэба рабіць. А за гэты час розныя прасавецка-кэдэбісцкія халуі ліюць у адпаведнай прэсе чырвоны яд на магілы ахвяр. А сын каваля з дачкой намесніка аблвыканкома ходзяць на прэзентацыі. «І даводзіцца вепруку...»[5]

Філалагіня прынесла мне тры цюльпаны да дня нараджэння[6]. Напамін пра старасць.

*27 лютага, нядзеля*

Дакончыў Сяргей Ткачэнка партрэт. Добра, бо класічная школа. У нас школы няма. Ёсць похапкавасць. Бо правільна сказаў Васіль: «Зусім не трэба было мастаку маляваць (яскравы прыклад Стальмашонак[7]), а іншыя якасці трэба былі. Галоўнае — падабацца начальству». Марачкін не такі просты, як здаецца. Нюхаецца з Нілам і, можа, яшчэ з кім. Расказваў магілёўскі анекдот. Дзед калыша люльку. Задрамаў. А з люлькі голас: «Дзед, ні х.. не калышаш...» Яшчэ з побыту Магілёўшчыны. За вуглом хлева дзядзька сусед любіць суседку па-паходнаму. Гаспадару спатрэбіліся

---

[1] Марачкін Аляксей Анатольевіч (н. 1940), беларускі мастак, педагог. У 1990–1996 гг. заг. кафедры БДАМ.

[2] Грахоўскі Сяргей Іванавіч (1913–2002), беларускі паэт, празаік. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Коласа (1992). Быў рэпрэсаваны.

[3] «Мартыралог Беларусі» — грамадскае гісторыка-асветніцкае таварыства памяці ахвяраў камунізму і сталінскіх рэпрэсій у Беларусі (з 1988).

[4] Шаранговіч Галіна Андрэеўна (н. 1939). У 1984–1996 гг. заг. рэдакцыі літаратуры народаў СССР выд-ва «Мастацкая літаратура».

[5] Гл.: «І даводзіцца вепруку...» (26.02.94) // Евангелле ад Мамы. С. 440.

[6] Гл.: Філалагічны дыпціх: в. «Тры цюльпаны ад філалагіні...» (1.03.94) // Тамсама. С. 430.

[7] Стальмашонак (Сцельмашонак) Уладзімір Іванавіч (1928–2013), беларускі мастак, педагог. У 1957–2000 гг. выкладчык БДАМ. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1981). Народны мастак БССР (1988).

дровы. Убачыў. Крычыць на жонку: што яна гэта робіць? А тая адказвае: «Дай чалавеку кончыць, а тады крычы». Магілёўшчына па першароднасці, ці першабытнасці, пачуццяў спрадвеку лідзіруе. Яна дала нашай літаратуры Прыходзьку[1], Матэвушава[2], Валасевіча[3], Ткачова[4] і іншых.

*28 лютага, панядзелак*

Званю Васілю, кажу, што вычытваю слоўца пра яго ў «Беларусь». Сумна заўважае, што тым і карыстаюцца, што заказваюць знаёмым і сябрам. Гэтак здаўна. А дзе ж нашая крытыка, інстытуты літаратуры? Вельмі слушна. Няўжо пра такую глыбу нельга заказаць грунтоўнае нешта? Невыгодна для пракамуністычнай бальшыні. Аднак занёс слова ў «Беларусь» і «Маладосць». У кніжцы аб'ядналю, назваўшы дыпціхам[5]. Гэтым апраўдаю сваю ненавуковасць і павярхоўнасць. А наогул, Васіль варт таго, каб Інстытут літаратуры АН ім займаўся, вывучаў, стараўся разгадаць феномен Васіля Быкава як пісьменніка, ак асобы. Але ў нас мышленне на ўзроўні Шамякіна. «Імгненне...»[6]

*1 сакавіка, аўторак*

На працу. Са Скірам. Падганяў рукапіс Чарказяна. Лёня [Дранько-Майсюк] напісаў рэкамендацыю Радзіку. І тут не абышлося, каб не ўкусіць тых, хто піша шмат: кіламетрызацыя паэзіі, бачце. Вядома, кепска панос, але й запор не лепей. Пах ад калу — невядома, які прыемнейшы. Вучань Верлена настолькі ведае, [...], з кім сябраваць паэтапна, каго ў вочы хваліць, каго за вочы кусаць. Племя маладое й даўно знаёмае. І сам быў амаль такі. Усе павінны прайсці праз адмаўленне старэйшых, вынайсці веласіпед, каб потым самога адмаўлялі тыя, хто ў патыліцу захакана дыхае, думаючы, што галоўнае — дабегчы... А ў выніку плёну, як з кілы мазгоў. «Тры цюльпаны ад філалагіні...», «Заклік: Інжынеры чалавечых дум...» [у дзённіку].

*2 сакавіка, серада*

У выдавецтве рэдсавет. Дзялілі прэміі нашыя. [...] Лявона распірае пыха й злосць, што не ўсе бачаць ягоную веліч, якую ён сам бачыць. [...]

---

[1] Прыходзька Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1920–2006), беларускі паэт. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1985).

[2] Матэвушаў Васіль Іванавіч (1915–1974), беларускі паэт.

[3] Валасевіч Эдуард Станіслававіч (1918–1997), беларускі паэт, байкапісец.

[4] Ткачоў Мікола (Мікалай Гаўрылавіч; 1918–1979), беларускі пісьменнік.

[5] Гл.: Трыпціх: Апостал нацыі (1993). Космас Васіля Быкава (1993). Як васілёк у жыце Беларушчыны (1994) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 61.

[6] Гл.: Філалагічны дыпціх: а. «Імгненне...» (28.02.94) // Евангелле ад Мамы. С. 430.

*3 сакавіка, чацвер*

Прыехаў Радзік. Павесялела ў мяне на душы. Сапраўды светлы й адукаваны.

Званіў Васілю. Хвор яшчэ. Сяргей Пятроўскі[1] паехаў на Быкаўшчыну. Рыхтавацца да фільма. Сёе-тое передаў Пятру й Марыі Рыгораўне[2]. Днямі прачытаў невялікі зборнічак Альгерда Абуховіча[3], складзены Родчанкам[4]. Не такая ўжо сярмяжная літаратура нашая. Ад святых да графаў. А мы ўсё глядзім у зямлю ды лямантуем, што нікчэмныя мы, забітыя мы, сярмяжныя мы. Дарэчы, на годным мужыку й сярмяга мантыяй ляжала.

*4 сакавіка, пятніца*

Сядзеў дома. Пра Хведаровіча[5] ўспамінаю вясёлае й сумнае. Прыходзіла Ілона. Званіў Васілю, яму трохі лепей. Чамусьці прыгадалася. У Душанбе некалі малады паэт, здаецца, Насруло[6], пагасіў папяросу ў твар дзяўчыне, якая сядзела з расійскім хлопцам. У Таліне школьнікі прадавалі сваіх аднакласніцаў замежным маракам. Прадавалі, гэта ў пераносным значэнні, проста былі звадышамі. А казалі: «Новая общность — советский народ і думае, і паступае аднолькава».

*5 сакавіка, субота*

На працы віншавалі нашых дзяўчатак. Прыходзіла Ілона. Дужа яе люблю, і раздражняе нечым зяць. Але ў выніку маю самае дарагое стварэнне ў свеце — Дамінічку. Нясе мяне, як на адломіне крыгі. Ніяк яшчэ не звыкну да думкі, што трэба развітацца з гэтым светам. А трэба. Відаць, адным Госпад надзяліў нас да скону — верай, спадзяваннем, што яшчэ наперадзе шмат. «Мусіць», «Суботні вечар»[7].

*Сакавічыны*

Калі на нас ідзе вясна —
Дзяўчына маладая,
У кожным сэрцы баразна
Зярнят святла чакае.

---

[1] Пятроўскі Сяргей Уладзіміравіч (1937–1999), беларускі кінааператар і рэжысёр. З 1965 г. на кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1981).

[2] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку.

[3] Абуховіч-Бандынеллі Альгерд (1840–1898), беларускі паэт, перакладчык.

[4] Родчанка Рыгор Віктаравіч (1929–1994), беларускі настаўнік, паэт.

[5] Гл.: Смяяўся, язык прыкусіўшы... (4.03.94) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 136.

[6] Насруло Камол (н. 1950), таджыкскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Таджыкістана імя Рудакі.

[7] Гл.: Мусіць! (5.03.94); Суботні вечар ([1991]–5.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 415; 417.

Дык за дзяўчат найпершы тост,
Як ад нуды збавенне!
Зіма прыдатная на пост,
Вясна — на разгавенне.

Нам Богам дадзена мілосць,
А злосць мы самі будзім.
Пакуль дзяўчаты з намі ёсць,
Датуль мы ў свеце будзем!

*І будзе*

І будзе 8 сакавіка,
І самая шчаслівая хвіліна,
І слова скажа нам з бранявіка
Партыйная нявінніца Галіна.

*6 сакавіка, нядзеля*

Званіў Крыштаповіч. Ляжаў у шпіталі ўдзельнікаў вайны й інвалідаў. Маты-пераматы. Кінулі амерыканскія акуляры. Мыліцамі біліся. Нібыта зноў штурмавалі логавішча фашызму. Як пачалі са штурму Зімовага [палаца], дык дагэтуль штурмуюць.

Вечарам да Лапушынаў. Радзік атрымаў дыплом кандыдата ў МДУ. На вокладках закляты двухгаловік, а ўнутры яшчэ другая імперыя — СССР. Яфім[1] распавядаў, што ў міліцыі б'юць як ніколі. Прымяняюць процігаз. Надзяваюць на галаву, гафрырваную трубку абрэзаную заціскаюць, б'юць, пакуль не прызнаецца. У асноўным падлеткаў, школьнікаў. Даюць гады два, з турмы выходзяць прафесіяналы й ідуць ў рэкецёры. Турма замяніла славуты камсамол. Мяне крануў за душу дарослы клопат Радзіка, каб я дужа не лез у сутычкі палітыкаў, бо ніхто потым не падгадуе Дамінічку. [...] Саюз пісьменнікаў цяпер стары хлеў, а ўсё роўна хвалююся за Радзіка. Могуць зарэзаць.

«Абкладзіны»[2]. Сёння якраз сарачыны па Алесю Адамовічу. Васіль не можа — хварэе яшчэ. Не пайду й я. І хворы, і не хачу бачыць [...] Паплаўскага. Хай душа пакутніка за ісціну ўзнясецца да Бога. Не разумелі яго пры жыцці, можа, па смерці зразумеюць хоць. «Сарачыны»[3]. Алесь быў выламкам у нашай літаратуры. Як Караткевіч. Як Быкаў. Бо ў бальшыне

---

[1] Лапушын Яфім Сямёнавіч, адвакат. Бацька Р. Лапушына.
[2] Гл.: Абкладзіны (6.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 418.
[3] Гл.: Сарачыны... (6.03.94) // Тамсама. С. 419.

сваёй у нас ці самазакаханцы [...] Чыгрынавы[1], ці самазахаванцы Пташнікавы[2] — Сіпаковы[3].

*

Ціха прачнуцца ў забытай хаце,
Каб не парушыць спакою,
Прайсці ўспамінамі, як па гаці,
Босай нагою...

*

Пакой мой засялілі рэчы —
Апратка, кнігі, прычындалле,
А быў такі прастор на печы.
Каптур свае не горбіў плечы —
Ён грэў мае...

*[Сакавік 1994]*

*7 сакавіка, панядзелак*

Амаль увесь дзень дома. З галавой кепска. Бліжэй і бліжэй Яна... А на вуліцы вясна, адлега, млявасць.

*Віншаванне*

З першым шпаркім праменем
Віншую.
Ты са мною — значыць, я
Існую.
І сную з былых дымоў смугу.
Ты ў маёй залежнасці
Ашую,
У майго настрою
Адзясную.
Ты ўва мне,
Як хваля ў трыснягу.

---

[1] Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934–1996), беларускі празаік. Народны пісьменнік РБ (1994). У 1987–1996 гг. старшыня Беларускага фонду культуры, адначасова ў 1989–1996 гг. гал. рэдактар час. «Спадчына». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1979).

[2] Пташнікаў Іван Мікалаевіч (1932–2016), беларускі пісьменнік. У 1962–1995 гг. супрацоўнік час. «Полымі». Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978).

[3] Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1993–1997 гг. заг. рэдакцыі выд-ва «БелЭ». Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

Праз цябе, як хмель,
Хачу правіцца,
Па ранейшы сон
Заняць чаргу...

Дужа часта мне здаюцца хлопцы, падобныя на Міхася[1]: «І раптам хлопец малады...»[2]

*8 сакавіка, аўторак*

Званіў Васілю. Яшчэ трэба сеанс мастаку. Сяргей [Ткачэнка], як Васіль кажа, фанат, а нашыя мастакі — лайдакі, хутчэй збыць, абы жывая капейка. Загаварылі пра маладых. Васіль сказаў: «Ад пачаткоўца да генія — адзін крок». З раніцы душу мне грэла Дамінічка. Цікава, як кодава закладзена моўная аснова. Кажа: *лягай.* У прынцэсы *валаконец* — гэта шлейф, які валачэцца. Гэта проста цуда.

Падправіў стары верш «Шкляр»[3].

Сядзеў дома на свята імя Клары Цэткін[4]. Бальшавіцкія штучкі — свята ўсім прафесіям. Толькі для зэкаў яшчэ не ўзаконілі.

*9 сакавіка, серада*

Праца. Да Навума. Шумаў[5] з Магілёва адʼязджае ў Штаты. З сынамі й нават з зяцем, які разведзены з дачкой. Яўрэйская душа. А раптам яшчэ сыдуцца, у дзяцей павінен быць бацька. Таʹрас на хаду прыдумаў навэлу. Праводзілі-праводзілі аднаго яўрэя, здоўжылася ўсё. І ўрэшце ён кажа: «Едзьце вы, а я застануся».

Званіў Карлас. З Латвіі на кангрэс наш аж чацвёра хоча ехаць. У тым ліку і Марыс Чаклайс[6]. Сябра Вярцінскага[7]. [...]

---

[1] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1988, пасмяротна). Гл.: Конь гуляў па волі (1994) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 207.

[2] Гл.: «І раптам хлопец малады...» (7.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 447.

[3] Гл.: Шкляр (27.03.89–8.03.94) // Тамсама. С. 443.

[4] Цэткін Клара (1857 —1933), дзеяч германскага і міжнароднага камуністычнага руху, адна з заснавальнікаў КП Германіі. Міжнародны кангрэс жанчын (1910, Капенгаген) прыняў яе прапанову аб святкаванні Міжнароднага жаночага дня 8 сакавіка.

[5] Шумаў Міхаіл (сапр. Шульман Міхаіл Іосіфавіч; н. 1923), беларускі пісьменнік. З 1994 г. жыве ў ЗША.

[6] Чаклайс Марыс (1940–2003), латышскі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры ЛатССР. Заслужаны дзеяч культуры Латвіі (2003). Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя А. Упіта, прэміі Ленінскага камсамола Латвіі.

[7] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Заслужаны работнік культуры БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

*10 сакавіка, чацвер*

З Валянцінам Рабкевічам[1] працавалі над маім рукапісам. Хоць адзін раз ды будзе прафесійна прачытаны. Рабкевіч глыбінны беларус, выдатны знаўца мовы. Цярпеў, калі грамілі акадэмію. Дамучыў у самым канкрэтным сэнсе прадмову Гніламёдава[2] да Збору твораў Янкі Купалы[3]. Напісана так вяла й сумна, што дзіву даешся. [...] Адно ўражвае — ні пра што 75 старонак. Вучоны народ — людзі асобага складу, як камуністы.

*11 сакавіка, пятніца*

Заходзіўся на кінастудыю. Палякоў[4] зрабіў цікавую рэч на аснове стужкі «Ой, ляцела шэра перапёлка». Лёня падпісаў мне свой томік у ружовых колерах «Акропаль»[5]. Талкавалі з ім пра Алешу[6]. Наогул, варта было б зрабіць грунтоўнае даследаванне, хто чаго піў, хто як піў. Гэта не на паверхні. «Год-карагод»[7].

*12 сакавіка, субота*

Сойм БНФ. 1. Аб развіцці палітычнай сітуацыі. *Пазьняк:* «Перспектывы дэмакратыі й дыктатуры. Урад і Вярхсавет — людзі прарасійскай арыентацыі. Згубілі былі ўказальны перст і знайшлі. Вяртанне назад у імперыю цераз інкарпарацыю. Расійская разведка дасягнула поспехаў. Кадравая палітыка па іх сцэнару. Багданкевіч[8] выступае за спіной Кебіча. Умацаваць дыктатуру. На рызыку йдзе — прэзідэнцкія выбары. Раздзелы канстытуцыі. 1-шы раздзел аб прэзідэнцтве усё робіцца пад Кебіча. Неабмежаваныя правы прэзідэнта. Усё па сцэнарыю Масквы, абсалют-

---

[1] Рабкевіч Валянцін Іванавіч (1937–1995), беларускі мовазнавец, перакладчык, паэт. Кандыдат філалагічных навук (1973). У 1974–1995 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч (н. 1937), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. У 1976–1998 гг. нам. дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ, з 1977 г. адначасова заг. аддзела. Доктар філалагічных навук (1987). Член-карэспандэнт НАНБ (1994). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка (1996).

[3] Купала Я. Поўны збор твораў: У 9 т. Мінск, 1995–2002. *Купала* Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[4] Палякоў Самсон Германавіч (1938–2012, Ізраіль), беларускі журналіст, кінасцэнарыст. Гал. рэдактар студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (1995). З 2002 г. жыў у Ізраілі.

[5] Дранько-Майсюк Л. Акропаль. Мінск, 1994.

[6] Алеша Юрый Карлавіч (1899–1960), рускі пісьменнік.

[7] Гл.: Год-карагод (11.03.94) // Выпаў грук у грома з рук: Вершы, загадкі, лапатушкі, бубнілкі, пацешкі чакаюць усмешкі! Мінск: «Радыёла-плюс», 2009. С. 69.

[8] Багданкевіч Станіслаў Антонавіч (н. 1937), беларускі вучоны-эканаміст. Доктар эканамічных навук (1991). Прафесар (1991). У 1991–1995 гг. старшыня праўлення Нацыянальнага банка РБ. Дэпутат ВС РБ 12-га склікання (1995–1996).

ная ўлада трэба маскоўскім спецслужбам. Легітымны ўрад — марыянетка Масквы — правядзе ўсё, што загадае Масква. На ўсенародныя выбары будзе вылучаны толькі адзін чалавек — Кебіч. 70 дэпутатаў могуць вылучаць кандыдатуру. Можа быць кандыдат гульні. Ад народа за 10–12 дзён 100 тысяч подпісаў трэба сабраць. У дэмсілаў якая перспектыва? Подпісы трэба збіраць. Трэцяй сілы й няма, і не будзе. А яна ўзмоцнена стараецца.

А пагроза з'явілася з боку Шушкевіча. Ён нясе адказнасць разам з Кебічам. Дзякуючы БНФ узнесены й адразу адмовіўся. Камбальшына аказала поўную падтрымку. Тады мог змяніць камапарат Вярхсавета, Саўмін. Пайшло згодніцтва, агульныя лазні. Кебіч з'еў яго. Задуманы рэферэндум. Адраджэнне кампартыі, дзяржбяспека й банк, МУС былі ў яго руках, але нічога не зрабіў. З Вярхоўнага Савета ўтвараўся антыбеларускі, антыдзяржаўны цэнтр на каленях. Цытаваў Маркса[1]. З ганьбай пайшоў. Калі ў дэмакратаў будзе некалькі кандыдатур, яны прайграюць. Круглыя, абцякаемыя балбатуны. У беларуса ірацыянальная логіка, ён не любіць рэзкіх рухаў, бо кансерватыўны беларус. На каго нашая апора? Абаперціся на свае структуры мусім. Без структураў няма чаго йсці на выбары. Калі мы згубім дзяржаву цяпер, болей яе не будзе. Апора на моладзь. Стварэнне дэмакратычных пенсіянерскіх і ветэранскіх арганізацый. Працаваць у чужым электарацe. Пачаць з пенсіянераў. Палова насельніцтва жанчыны. Трэба гэта ўлічваць. Міжнародная супольнасць павінна быць інфармавана».

*Хадыка:* «Верагоднасць прэзідэнцкай сістэмы й выбары. На 30 % скараціўся даход, рэальная зарплата ўдвая. Прадаць дзяржаву хоча ўрад. Паклалі краіну на лапаткі. Рыхтуецца гвалт. БНФ заклікаў праз выбары давяршыць дэмакратызацыю грамадства. Беларусь цяжарная банапартызмам. Нардэмы. Генерал вытворчасці Кебіч. Ад Расіі мы не атрымоўваем, у 10 разоў перавышае тое, што мы плоцім за энерганосьбіты. Аўтарытарызм узнікае й на дэмакратычнай глебе. Глеб Якунін[2] [казаў] — лідерабесія».

*Лявон Баршчэўскі.* Аб рабоце Вярхсавета й урада. «Няўпэўненасць у стане ўлад. Вывад войска. Страйк і жах ад яго. Стаўка на прэзідэнта вагалася. Выбарчая кампанія можа йсці праз два тыдні. Правал пытання рублёвай зоны трэба выкарыстаць, прывязаць Лукашэнку да Кебіча. Лукашэнка галоўны эксперт рублёвай зоны. Прыняцце Канстытуцыі можа быць замарожана. Кебіч цяпер легітымна прэзідэнт. Выбары для таго, каб мець імідж усенародна выбранага прэзідэнта. Лукашэнка [...] можа

---

[1] Маркс Карл (1818–1883), нямецкі мысліцель і грамадскі дзеяч, заснавальнік марксізму.

[2] Якунін Глеб Паўлавіч (1934–2014), расійскі рэлігійны, грамадскі і палітычны дзеяч. Дэпутат Дзяржаўнай Думы Р Ф (1993–1995).

ператварыцца ў непрадказальную фігуру. Змова магілёўскай мафіі з іншымі».

*Грыцкевіч[1]:* «Што лепей — чума ці халера? Будзе па інерцыі выконвацца ўказанне расійскіх спецслужбаў. У расійскім пасольстве людзі з вайсковымі званнямі. Кебіч хоча атрымаць долю ад Чарнамырдзіна ў нафтасферы. БНФ дамогся, што нашыя хлопцы служаць дома. Крытыка Кебіча за ягоныя канкрэтныя справы. Кебіч павінен быць зняты дзяржаўнікамі ў інтарэсах Беларусі. Новая Канстытуцыя вядзе ў поўны тупік, па-ельцынскі[2] мяса да гарматаў. Уманціравана ў савецкую ўладу. Узнікаюць незалежніцкія настроі. Любы прэзідэнт на правал, калі будзе кіраваць Расія, нават зарплату прэзідэнт будзе атрымліваць з банка Расіі».

*Пеціна[3]:* «Жаночая карта разыгрываецца. Саюз жанчын Беларусі. Жансаветы».

*В. Голубеў:* «Ці браць уладу ў свае рукі, ці аддаваць Кебічу. Паміж сабой перагрызуцца. І з'явяцца новыя кандыдатуры. Грыб адчуў сябе кіраўніком дзяржавы. Звярнуць увагу на вайскоўцаў, ветэранаў і шараговых камуністаў».

*Жук[4]:* «Крызіс у энергетыцы. Трэба (прыняць) праграму Заблоцкага[5]».

*Асташынскі[6]*. Выбарчая кампанія.

*Навумчык:* «У таго будзе перавага, хто збярэ 100 тысяч подпісаў. Пад Лукашэнку працуюць Саветы. Можа выйсці Каратчэня[7], Шушкевіч і Пазьняк. 100 тысяч можа быць неканчатковай лічбай, можа стаць 50 тысяч».

*Заблоцкі:* «У Жлобіне Грыб папрасіў падтрымку на прэзідэнта. Адлілі яму медаль. У Кебіча шмат абяцанкаў, а звязка Грыб — Кебіч. Грыб прэзідэнтам, а Кебіч старшынёй Саўміна. Можам вярнуцца да XIX стагоддзя, калі рухне ўсё».

---

[1] Грыцкевіч Анатоль Пятровіч (1929–2015), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч. Доктар гістарычных навук (1986). Прафесар (1987). У 1975–2006 гг. заг. кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

[2] Ельцын Барыс Мікалаевіч (1931–2007), расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1991–1999 гг. прэзідэнт РФ.

[3] Пеціна Людміла (н. 1950), інжынер. У 1991–1995 гг. дырэктар турыстычна-экскурсійнай фірмы «Сусвет-тур».

[4] Жук Павел (н. 1956), беларускі фізік, журналіст, выдавец, заснавальнік (з 1990) грамадска-палітычнай газ. «Свабода».

[5] Заблоцкі Уладзімір Мікалаевіч (н. 1939), беларускі навуковец. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання. Кандыдат тэхнічных навук.

[6] Асташынскі Валянцін Міронавіч (н. 1950), беларускі фізік. Доктар фізіка-матэматычных навук (2000). З 1992 г. супрацоўнік Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі НАНБ.

[7] Каратчэня Іван Міхайлавіч (н. 1948), беларускі палітычны дзеяч; вучоны-эканаміст. Доктар эканамічных навук (1996). У 1993–1998 гг. выканаўчы сакратар СНД.

*Зянон:* «Ні ў грамадстве, ні ў Фронта няма ўздыму. Хоць можам згубіць Дзяржаву навечна. Абыякавасць. Подпісы трэба хутка [збіраць]. Усё на баку Кебіча. Ірацыянальная псіхалогія, шуфлікавая. Лукашэнка таму і ўяўляе небяспеку. Калі не выйдзем на выбары — гэта будзе нашым паражэннем. Усё пастаўлена пад Кебіча, любы іншы — камікадзэ».

Сяргей Навумчык перадаў мне ліст ад Лукашука й «Мы дойдзем!». Гэта кніжка Юркі Віцьбіча[1]. На вокладцы псеўданім Юрій Стукаліч. Дзесяць гадоў назад у Новым Ёрку хацеў узяць яе з сабой. Нельга было. Светлай памяці Рудольф Акіндзінавіч Собалеў[2] шмат кніжак, якія падарылі крэўнікі, дыппоштай дапамог пераслаць у Менск, а гэтую не мог. Нарэшце. «Страх напаў»[3].

*13 сакавіка, нядзеля*

Пісаў успаміны пра Пестрака[4]. Падумаў, дарэчы, артыкул у «Известиях» падпісвала колькі чалавек. У тым ліку й Законнікаў, а б'юць мыівременцы Васіля й мяне. Сяргей, значыцца, свой. Званіў Васіль. Быў у Бураўкіна[5]. Там былі Ніл з [...] Нінай Іванаўнай (жонкай), Законнікаў з Лілечкай (жонкай), Матукоўскі[6] й [...] Шчасная[7], але без свайго маскоўскага [...]-песенніка Красікава[8]. Генадзь папёр супроць Зянона. Так, відаць, трэба [...]. Ніл з сябе корчыць пакутніка. З Вярхсавета, бачце, наступны за Шушкевічам ён стане ахвярай. Каб быць ахвярай, трэба быць фігурай. А Ніл — цень уласнай пыхі й самавелічы.

*14 сакавіка, панядзелак*

Званіў Васіль. Генадзь пайшоў да Грыба, а той прапанаваў Паўнамоцнаму Паслу пенсіён. Апромеццю да (Кебіча), да таго да сакратуткі не дазваніцца. Даводзяць да кандыцыі, каб верна служыў. Сістэма.

---

[1] Віцьбіч Юрка (псеўд. Юрый Стукаліч; сапр. Шчарбакоў (Георгій) Серафім Аляксандравіч; 1905–1975), беларускі пісьменнік і культурны дзеяч. З 1944 г. у Германіі, пазней у ЗША.

[2] Собалеў Рудавільт Акіндзінавіч (пам. 1991), беларускі дыпламат.

[3] Гл.: «Страх напаў» (12.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 420.

[4] Пестрак Піліп Сямёнавіч (1903–1978), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1968). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964). Гл.: Укоптур (13.03.94) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 145.

[5] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1994–1995 гг. нам. міністра культуры і друку РБ, у 1995–2001 гг. супрацоўнік час. «Вожык». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980).

[6] Матукоўскі Мікалай Ягоравіч (1929–2001), беларускі драматург, публіцыст.

[7] Шчасная Нінэль Іванаўна (1933–2013), беларускі мастак. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1989).

[8] Красікаў Сяргей Паўлавіч (1928–2007), рускі паэт.

Навуменка званіў, каб кнігу здавалі ў набор у красавіку, бо будзе павышэнне ставак. Але ж і цэны будуць вышэй. З Навуменкам, як з той дамай, што прасіла то зашыць адно мейсца, то адшыць, пакуль кравец не прапанаваў ёй паставіць «маланку». «Кусман сну»[1].

Цікава ў нас з рознымі Таварыствамі дружбы. КДБ стварае й сваіх людзей пхае. Сын генерала КДБ Вольскага[2] акрамя ўсіх дзюрак затычкай у нямецкім таварыстве. Сёмуха нідзе — ні ў Гётэўскім, ні ў проста нямецкім. Відаць, баяцца, калі пачне гаварыць з немцамі, стукачы не змогуць зразумець, бо ведаюць на ўзроўні Anna und Marta baden. Народны тгыбух Тгусаў[3] узначальвае іспанскае таварыства. Сяргейка Панізнік[4] чэшскае й яшчэ няйначай латышскае. Ведаючы па-латыську (як казала мая мама) paldies, і то няправільна націск робячы.

*15 сакавіка, аўторак*

Сустрэча з настаўнікамі Менскага раёна ў Доме літаратара. Прыемныя людзі, асабліва маладыя настаўніцы за Пазьняка. Хвалюе ўсё, што і ўсіх хвалюе. І гімн, і правапіс. Ну, я сказаў, што гэта ў руках аднаго чалавека, і «чукча відел этого чаловека». Прыйшоў Сыс[5]. Прынёс пэпсі. Цвярозы як шкельца (так некалі любіў падкрэсліваць Караткевіч). Мне на вуха сказаў, што спецыяльна з раніцы не піў. Спытаўся ў яго, што робіць, кажа: «П'ю». За што? Частуюць, каго ён раней частаваў. Ну ці хоць гарачае варыва есць? У кафэ афіцыянткі кормяць. Часцяком галодны. З 91-га года не працуе. Нідзе не бяруць. Кажу: «Прынось зборнік». Кажа, гатовы, называецца «Ягамосць». Укралі дыпламат, дзе былі вершы й бутэлька гарэлкі. Аднавіў толькі тыя, што былі надрукаваныя ў перыёдыцы. Тут верыць і не верыць можна. Мне яшчэ й цяпер трылузіцца, што знайшоў сшытак з вершамі. Сыс чытаў выдатныя вершы. Потым паказвае на малодшага брата Сцепаненкі[6] — прынёс ужо дзве пляшкі. Гэты малодшы неяк заляцеў [...]. Пытаюся пра здароўе, адказвае: «Як не п'ю з тыдзень, добра адчуваю». Ездзіў дамоў у Гарошкавічы, дык ад «Раялу» сэрца пабольваць

---

[1] Гл.: Кусман сну (14.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 421.

[2] Вольскі Віталь (сапр. Зэйдэль-Вольскі Віталій Фрыдрыхавіч; 1901–1988), беларускі драматург, літаратуразнавец, нарысіст. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1971).

[3] Трусаў Алег Анатольевіч (н. 1954), беларускі археолаг і гісторык архітэктуры, грамадскі і палітычны дзеяч. Кандыдат гістарычных навук (1981). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання, нам. старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны (1991–1995). У 1992–1995 гг. старшыня Цэнтральнай рады БСДГ.

[4] Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт, перакладчык. У 1982–1996 гг. супрацоўнік выд-ва «Юнацтва».

[5] Сыс Анатоль Ціханавіч (1959–2005), беларускі паэт.

[6] Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч (псеўд. Сцяпан Уладзімір; н. 1958), беларускі празаік, паэт, мастак, кінасцэнарыст.

пачало. Калі ўсё закончылася, прапанаваў пайсці ў кавярню й пасядзець, папіць пэпсі. Я адмовіўся. І на развітанне зусім расчуліў: «Пойдзем у кафэ, я вас пакармлю бясплатна». Проста крануў мяне сваёй шчырасцю, якую ён хавае пад напускной хамаватасцю. Прыгадалася казка, як сабака воўка на гаспадарскім вяселлі частаваў. Па дарозе пісаў верш:

*Анатоль Сыс*

Як высечаны са скалы,
Дзе толькі што арлы драмалі,
Сыс,
На сябе самога злы,
На роўным месцы ўздыме хвалі.

Клёк не згубіла аржаны
Легіянерскае аблічча.
Пяе ў руках пяро жаўны
І рыфму журавель курлыча.

Наконт Сыса спакойны Кон —
Яго знайшлі турботы самі,
Бо ўвіты, як Лаакаон,
Зялёным хмелем з кутасамі...

З маім даўнім сябрам Алегам Мацієвічам, маладым зайчыкам-выхвалейчыкам, да яго ў майстэрню. Будзе рабіць партрэт.

*16 сакавіка, серада*

Мой любімы Радзік панёс дакументы ў Саюз (пісьменнікаў). П’яны Сыс: «Дай 5 тысяч. Я зраблю цябе пісьменнікам». Радзіку хапіла жарту адказаць: «Я і так пісьменнік». — «А як тваё прозвішча?» Да вуліцы праводзіў. Безумоўна, нагрузка не па ім. Рана ці позна перамагае Бахус і сумоту, і пафас.

Званіў Васіль. Брыль ужо ў Веры Сямёнаўны (жонкі) прасіў пачытаць дзённікі Адамовіча. [...]

*17 сакавіка, чацвер*

На працу. У «Вясёлку». Да Мацієвіча. Алег усё-ткі працуе як мастак. Увесь гарыць. Гэта творчасць. Вечарам званіў Васіль. Была прэзентацыя міліцэйскага паэта ў таварыстве імя Ваніцкага[1]. Былі, вядома, Шамякін, Брыль, сын каваля Шаранговіч, хваліў міліцыянта [...] Грахоўскі. Высту-

[1] Ваніцкі Арсеній Мікалаевіч (1933–2001), старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (1984–2001).

палі прадстаўнікі амерыканскае Арміі выратавання[1]. Пасля давалі падарункі ў вялікіх пакетах: дзве ўпаковачкі чыпсаў і трошкі рысу. Як галодным з Паваложжа. Васіль сказаў, што не браць было няёмка й глядзець, што там, таксама.

З Радзікам казалі наконт Навумчыка. Ён цяпер з бародкай, амаль як Дзяржынскі[2]. Мне ў галаву прыйшло сказаць пра каго: Гутаперчавы Фелікс замест Жалезнага. У нагу з часам. «На двойчы сёмым небе ў Алега Маціевіча»[3].

*18 сакавіка, пятніца*

Да Алега. Закончыў два партрэта. Гэта яго бачанне. Гэта проста творы мастацтва. Дай яму Бог здароўя. Гэта самы нацыянальны мастак, глыбінны беларус. Цікава ўспамінаў, што яму сніўся сон у Парыжы. Калі пераязджалі з бацькам у суседнюю вёску. Па дошках усаджвалі, што называецца, карову ў грузавік. Туман. Сланечнікі. Характар у Алега, вядома, ад мамы. Цікава заўважыў: «Я нарадзіўся ў кепцы».

Званіў Васіль. Здымаўся ў фільме пра БНФ. Артур Вольскі арганізуе кішанькова-[...] партыю дэмакратычных ветэранаў. Правільна сказаў Васіль, што стукачоў перакінуць і туды. Ды навошта й перакідваць. [...] паабяцалі вярнуць у дэпутаты. А кляйне Троцкі на кляйне бранявік. Сам Артур сказаў сёння, што гэта заданне Зянона. Пры ўсёй глыбіннай мудрасці, пры ўсёй усёахопнасці Зянон наіўны беларус. [...]

Вечарам званіў Васілю. Генадзя (Бураўкіна) ставяць наместнікам культуры. Крыўдзіўся на БНФ [...]. Ну, няхай у прэсе выліе паўцабэрак памыяў на БНФ — і адмыецца ад быццам бы сімпатыі да БНФ. І будучы шэф Антановіч будзе дагоджаны. Казалі з Васілём, што цяпер ідзе легалізацыя стукачоў. Пры камуністых гэта лічылася фармальна нечым непрыстойным. Цяпер дело честі, доблесті і геройства. Стукачам даюць пасады. Цікава, што плоцяць матэрыяламі пра ахвяры. Даюць магчымасць друкаваць, успамінаць [...] неперелічымай арміі саранчы. Яшчэ трэба серыял-фільм пра доблесных стукачоў як пра супермэнаў. Але хай яны ў возера кануць!

Мне светла ад учубленай заявы Алега: «Парыж будзе тут!» — і паказаў на сваю майстэрню. У гэтым усё. І маладосць, і ўпэўненасць, і магчымасць! Толькі так адраджаць Беларушчыну!

---

[1] Армія выратавання — Міжнародная рэлігійная дабрачынная арганізацыя, створаная ў Вялікабрытаніі для дапамогі бедным у 1865 г.

[2] Дзяржынскі Фелікс Эдмундавіч (1877–1926), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. займаў пасады старшыні УЧК (АДПУ), наркама ўнутраных спраў, адначасова наркама шляхоў зносін СССР. Ураджэнец Беларусі.

[3] Гл.: На двойчы сёмым небе ў Алега Маціевіча (17.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 422.

*Кепікі з кепкі*

Яно й галаве не зашкодзіць — страха,
Абы не магла паехаць.
І кепка — страха,
Як пад ней не труха,
А думкі тупаюць пехаць.

Шукае кепку не мазгаўня,
А кепка яе шукае.
Бо трэба ж такі,
Каб быў корм у каня,
Каб быў курэц з капшукамі.

Даўнейшае што′ —
Ці дума, ці турма,
Ці казка аб сучцы й рэпцы?
Мастак Маціевіч казаў нездарма:
— Я нарадзіўся ў кепцы!

*21 сакавіка 1994*

*19 сакавіка, субота*

Вар'яцкі дзень. Надвор'е такое. Быццам чэрці трасцу вараць у вялікім сагане. Галаву хоць адкруці. Аж пачынаеш разумець стан самагубцы. А тут яшчэ з Вушачы пазванілі, што ў хату ўламіліся, пачысцілі, што маглі. Землячкі ў мяне яшчэ тыя. Хай яму ўсё ў апошнюю дарогу прыдасца. Страшэнна не любілі ўзламаных дзвярэй і калі нехта чужы шарыў, парасаваў.

*20 сакавіка, нядзеля*

Рабіў два артыкульчыкі ў кнігу. Працаваць немагчыма. Куды ўцячы? […] ворагу не пажадаю. Як таму казлу з дзіцячай песенькі — ні чытаць, ні пісаць, толькі полечку плясаць мне, ці што.

*21 сакавіка, панядзелак*

На працу. Карлас прывёз візітоўкі. Расказваў, што паклаў у банк мільён. На ўсялякі выпадак на пахаванне. З аднаго боку нам непрывычна, а з другога боку адвеку пра гэта клапаціліся. І ўбор у апошнюю дарогу, нават дамавіна стаяла сохла, петрыла на гарышчы. І ў нас, і ў Латвіі бачыў на хутарах, у музеях.

Сёмуха казаў, што званіла Леся [дачка] з Амерыкі, не вытрымаў і сказаў ў трубку, што ён яе любіць. І яна расхвалявалася[1]. Прыходзіў Радзік з добрым хлопцам з Нацыянальнай бібліятэкі.

*22 сакавіка, аўторак*

З Рабкевічам знялі ўсе пытанні па кнізе. Дзякуй яму, шчыруну й цягуну! «Задужа»[2].

*23 сакавіка, серада*

На працы з рукапісам Скіра. На кінастудыю. Званіў Васілю, па просьбе Пятроўскага запытаўся, якую музыку Васіль падабае. Насцярожана-абыякава: «Навошта?» Кажу — прасілі кіношнікі. Адказвае: «Любую няхай ставяць». Наконт свайго 70-годдзя… «Збягу некуды. Досыць адпакутваў на 50-ці й 60-ці». Дасюль журналісты яго носяць на зубах. Ягорава[3] падкрэслівае, што ў тэатры ў час урачыстасці на сцэне побач сядзеў Слюнькоў[4]. Кажу, а не пішуць, што за спіной кэдэбісцікі? […]

*24 сакавіка, чацвер*

На працы. Зняў пытанні ў вершах Ганада. Прыходзіў Кудравец[5]. Наконт свайго двухтомніка. Рупіцца. Бо ніхто пасля й пальцам не кіўне. Бураўкін усім крычыць, што яму нашкодзілі дэмакраты. Карлас прывёз візітоўкі. Вярцінскі сумняваецца, хто фінансуе наш форум. Фонд Сораса[6] фінансуе й […] фірму імя Мальдзіса[7]. […] Ільіча за жывое ўзяло, як казла за яйцы, што у звароце напісана пра кялейнае прыняцце закона аб друку. Ён жа рыхтуе […]. «Паляшуцкае вяселле»[8].

---

[1] Гл.: Васіль ды Васілішка (22.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 432.

[2] Гл.: Задужа (22.03.94) // Тамсама. С. 416.

[3] Ягорава Вольга Аляксандраўна (псеўд. Вольская Вольга; н. 1953), беларуская журналістка, спецкарэспандэнт газ. «Комсомольская правда» (1985–1995). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1984).

[4] Слюнькоў Мікалай Мікітавіч (н. 1929), беларускі партыйны дзеяч. У 1987–1990 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971).

[5] Кудравец Анатоль Паўлавіч (1936–2014), беларускі празаік, перакладчык. У 1978–1997 гг. гал. рэдактар час. «Нёман».

[6] Фонд Сораса — міжнародная дабрачынная арганізацыя, заснаваная фінансістам і філантропам Джорджам Сорасам (н. 1930; ЗША, Вялікабрытанія).

[7] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932), беларускі вучоны-філолаг, пісьменнік. У 1991–1998 гг. дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Доктар філалагічных навук (1987). Прафесар (1990). Заслужаны дзеяч польскай культуры (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

[8] Гл.: Паляшуцкае Вялічка (24.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 434. Верш прысвечаны В. Сёмуху.

*25 сакавіка, пятніца*

Дзень Волі! Мог быць. Ды камуністы хітрэйшыя й падлейшыя. Адно пагарэлішча ад Волі нашае, ад Волі жаданае. Адбываецца не прыватызацыя, а кебічызацыя — хто возьме, хто купіць як танней. Хадзіў вечарам і па «Беларускай маладзёжнай» казаў колькі словаў. Усё ўпустую. Дужа перад панам Богам правінілася Беларусь. Гэта кожнаму пакаленню трэба даводзіць, трэба даказваць, што мы беларусы, што мы адметны народ, што мы нацыя. Нашым суседзям, і латышам, і літоўцам, дастаткова толькі нарадзіцца — і яны латышы і літоўцы. А нас расцягваюць, раздзіраюць то на праваслаўных, то на каталікоў, падкладваючы пад гэта паняцце, што мы то расейцы, то палякі. Беларусь, як бутэрброд, намазваюць і Расія, і Польшча. І стараюцца як тлусцей намазаць і хочуць расцягнуць асалоду.

*26 сакавіка, субота*

З раніцы спачатку дождж, а потым град. Званю Васілю. Яму блага. Сумна кажа: «Усе на Беларусь, і Бог на нас, ні вясны, ні незалежнасці, ні грошы». Мяне дык толькі Дамінічка радуе. «Дзяннік»[1] (2 варыянты ў дзённіку). А душу мне неяк усцешыла мая Ілонка. Сядзелі на кухні. Далоў зляцеў кавалачак хлеба. Падняла, пацалавала й паклала на стол. Крывіцкая, ушацкая кроў кажа сваё. «Калі дайсці да рысы…»[2]

*27 сакавіка, нядзеля*

Сядзеў дома. Выторкваў нос на вуліцу. Рабіў для «Свободных новостей» невялічкі матэрыял на аснове выступу па радыё. Падбіла Айзенштадт[3]. Званіў Васілю. Кепска пачувае сябе, бо надвор'е шалёнае. Гэта палатышску завецца жаўруковая завея, калі снег вясной перад прылётам жаўрукоў.

*28 сакавіка, панядзелак*

Праца. Прыходзіў Брыль […]. Некалі казаў, што кожны паляк прачынаецца з пытаннем: «Co o nas mówi świat?» […] А тут яшчэ пакрыўдзілі яго беластокаўцы запытаннем: «А чаму ўцякаў з палону? Там жа не так і кепска было». Моладзь ідзе далей — зяць Сёмухаў кажа, што немцы правільна рабілі, што знішчалі й палілі, — яны вынішчалі камуністаў. Гэта ідэйкі дае наша мілая эміграцыя, дзе некаторыя працуюць на 5 не меней разведак […]. Уся бяда, што на баку Саветаў змагаліся за камуністычную заразу. Ды аднак і баранілі пэўным чынам зямлю сваю. Па другі

[1] Гл.: Дзяннік (26.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 435.

[2] Гл.: «Калі дайсці да рысы…» (26.03.94) // Тамсама. С. 448.

[3] Айзенштадт Галіна Іосіфаўна, беларуская журналістка.

бок змагаліся з камуністычнай пошасцю, баранілі сваю зямлю, але й нішчылі сваіх жа аднакрэўнікаў. Вайна завязвае гэтак моцна вузлы, што развязаць не гэтак і лёгка. Асабістая трагедыя Сёмухі яшчэ болей планетарная, чым Фаўстава[1]. Немцы забілі бацькоў, спалілі жытло. Бацькі ж камуністамі й блізка не былі. А Сёмуха праз усё жыццё займаўся перакладам нямецкае літаратуры. Дакопваўся да ключа калодзежа душы нямецкай. І зяцёк такое прэ. Прытым нацыянальна свядомы. Аднаабознікі з немцамі, вядома, хочуць апраўдацца. Іх апраўдае час, але час далёкі, калі ўсё адсмыліць, адбаліць, ледзьве не фальклорам зробіцца.

* Дамініка: «Купілі каменчыкаў ежных, бачылі заблу′джага сабаку».

*29 сакавіка, аўторак*

З Валянцінам Рабкевічам закончылі рэдагаванне майго зборніка паэзіі. Дзякуй яму! Арлоў[2] на 3 тыдні ў Англіі. Слядамі Мальдзіса й Бабкова. [...]

*30 сакавіка, серада*

Яшчэ ўсё трымаюць прасавецкія прафсаюзы. Быў сход. Мала стала выступоўцаў. Не тыя часіны! У нас ужо са званнем народнага каўказскі варыянт. Будзе хутка кожны другі. Члену ЦК Чыгрынаву падпісалі. На патоку [...] Вярцінскі й [...] Адамчык[3]. Яшчэ член ЦК Сачанка, відаць, на чарзе, а там і [...] Грахоўскі. Мыліцца й [...] Макалёк[4]. Вясёлая кампашка. Не засумуеш. «Надзея абяцаць умее...»[5]

*31 сакавіка, чацвер*

Чытаю прадмову Каваленкі[6] да Навуменкі. Навуменка прылічаны да найлепшых сучасных празаікаў. Плата за акадэміка? У мяне й раней выклікаў недавер [...]-ціхі галасок і дужа мяккія манеры Віцька. [...]. Зва-

---

[1] Фаўст — персанаж трагедыі «Фаўст» І.-В. Гётэ. *Гётэ* Іаганн Вольфганг (1749–1832), нямецкі пісьменнік, мысліцель, прыродазнавец.

[2] Арлоў Уладзімір Аляксеевіч (н. 1953), беларускі паэт, празаік, перакладчык, гісторык. У 1988–1997 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), прэміі Е. Гедройца (2018). Гл.: Уладзімер Арлоў (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 148.

[3] Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч (1933–2001), беларускі пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[4] Макаль Пятрусь (Пётр Міхайлавіч; 1932–1996), беларускі паэт, драматург, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

[5] Гл.: «Надзея абяцаць умее...» (30.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 427.

[6] Каваленка Віктар Антонавіч (1929–2001), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. Доктар філалагічных навук (1978). Член-карэспандэнт АН БССР (1984). Акадэмік АН БССР (1989). У 1982–1997 гг. дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Заслужаны

ню Васілю […]. Сказаў, што апошнім часам Алесь трымаўся з Віктарам на адлегласці. А цяпер, як Алеся не стала, зусім воля стала. Яшчэ Васіль сказаў, што абрыдла яму балота ўсё гэтае. Я суцешыў Васіля, што хоць балотца да кожнага набліжана, і, па слізкай жэрдзінцы ступаючы, калі не да бурбалак плюхнешся, дык хоць калашыны замочыш. Васіль правільна сказаў, што ўся Акадэмія навук працавала на рэжым, дакладныя навукі на ВПК, а гуманітарыі на саўідэалогію і яшчэ дасюль працуюць. Вось калі б хто склаў кнігу фактаў і падзей у нашай літаратуры гадоў за 10 — гэта было б цікавей за ўсе даследаванні. «Гэты звон…»[1]

* Дамініка: «Купляць будзем мне смачныя яды′».

*1 красавіка, пятніца*

Нарэшце ўказ пра Чыгрынава. Першага красавіка. Сімвалічна. […] Гэта ўжо з савецкага гумару рэалістычнага: Фінберг[2] крыўдзіўся, што не даюць народнага артыста, бо трэба развучыць і ўключыць у канцэрт як болей песняў на словы лагойшчыка з Вярхсавета. […]. Ніл хоць нарэшце дарваўся да дармовай славы […] — мара паэта, блакітная мара.

*2 красавіка, субота*

Успамінаю ўшацкія прыбабунькі. Дзякуй маме, на кожным кроку ўсплываюць ейныя словы, ейныя показкі. Мове навучыцца можна, але, каб яна ў табе гучала, — трэба ад мамы з калыскі чуць. Трэба гаварыць на гэтай мове рукамі, нагамі, вачыма, душой. Тады толькі яна жывая ў табе. А нашая бальшына літаратараў у колбах сацыялізму народжаныя, і адпаведна мова іхняя такая ж. «Дзякуй Госпаду за дазвол…»[3]

*3 красавіка, нядзеля*

Вялічка Хрыстова. Мяне ўсё-ткі ксціў ксёндз. На стале чырвоныя яечкі. Соль свянцоная. Апрануў кашулю з блакітным. У мяне Вялічка асацыіруецца з блакітнай кашуляй. Відаць, некалі мама абнову такую дала на Вялічка. Першая, з кім пахрыстосаваўся, Дамінічка — святое стварэнне. Званіў Та′расу, віншаваў. Ён глядзеў набажэнства, на беларускай мове, а моладзь падыходзіла да мікрафона й по-рюсски «Молимся за здоровье белорусского правительства». Я пажартаваў, што в *грібу′* відел я такое

дзеяч навукі БССР (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СП СССР (1976), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1980).

[1] Гл.: «Гэты звон…» (31.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 446.

[2] Фінберг Міхаіл Якаўлевіч (н. 1947), беларускі дырыжор. З 1971 г. выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Прафесар (1997). З 1987 г. мастацкі кіраўнік-дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі РБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1990), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[3] Гл.: «Дзякуй Госпаду за дазвол…» (2.04.94) // Евангелле ад Мамы. С. 451.

правительство. Потым званіў Васілю. Ён цікава ўдакладніў: «Марна спадзяюцца, што ў нас Мячыславы, Станіславы — усё роўна Жырыноўскі Адольфавіч ім даражэй». І невыпадкова ў партыі трэшчына. Камуністы зразумелі, што выгадней і грашавіцей мецць уяўную незалежнасць, рабаваць, ха′паць, не адчуваючы кантролю з метраполіі. Але абрыдла і ў святы дзень пра погань успамінаць.

Пісаў верш «Прашчуры стараліся...»[1].

* Дамініка: «Я табе прыланцужу руку». Баба тлумачыць, што ўсе магазіны зачыненыя. «Тады купі ў бізнесменным».

*4 красавіка, панядзелак*

Пісаў слова пра Уладзіміра Караткевіча. Цяжка. Бо шмат помню, а матэрыял упіраецца. Яшчэ не ўсё адбалела. Учора прыходзіла Ілона. Прынесла мне чырвонае яечка. Мне шкада яе. Усё жыццё працаваў, а зарабіў бочку мякіны. Не магу дачушцы дапамагчы. А яна жыве сваім мастацтвам. Гэта было б добра, каб не трэба было б дбаць пра хлеб надзённы. [...]

*5 красавіка, аўторак*

На працу. На машынку частку слова пра Караткевіча. Рабкевічу аддаў два апошнія вершы ў кнігу «Евангелле ад Мамы». Усё зроблена. Цяпер толькі справа за Мікалаем Казловым[2]. Ён мастак добры, і я ў яго прымхліва веру. Ну а Рабкевічу самы вялікі дзякуй за рэдагаванне!

*6 красавіка, серада*

Да Бураўкіна. Далі яму маленечкі пакойчык 605-а. Вядома, пасадзілі нізка. Казаў, што ў вочы Грыбу й Кебічу рэзаў ўсё, што думае. Хацелася сказаць яму, што ў сне ў свой час я Брэжневу[3] яшчэ не тое казаў. Ну а калі яго гэта цешыць. Дай Бог! Усё-ткі чалавек ён мне не чужы ды дапамагаў шмат. Шкада, што я толькі паспачуваць магу, а нічым дапамагчы не магу. І недзе наіўнасць савецкая засталася. Шукае колькі вершаў, якія не друкаваў пры рэжыме, каб нешта даказаць маладым. Ім нічога не дакажаш. Хай успомніць нас маладымі!

---

[1] Гл.: «Прашчуры стараліся...» (3.04.94) // Евангелле ад Мамы. С. 449.

[2] Казлоў Мікалай Раманавіч (1945–2011), беларускі кніжны графік.

[3] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1964–1982 гг. 1-шы сакратар, Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума ВС СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

*7 красавіка, чацвер*

Адкідаўся, адкачаўся дома. Галава нікуды не вартая. А новую не купіш. Боль штогод мацней сціскае маю мазгаўню. «І толькі ашалелы вецер...»[1]

*8 красавіка, пятніца*

Праца. [...] Грахоўскі прынёс новую заяўку. Лірычна-[...] панос. Ад Рэма[2] ліст і артыкул у рускамоўнай газеце. Цікава пісаць ён умеў заўсягды. Прыходзіў з «Роднага слова»[3] Гібкоўскі[4]. Цікавы заядлы беларус. Такіх не хапае. Любіць дужа Быкава. Я людзей вызначаю па адносінах да Быкава — сумленныя ці несумленныя, разумныя ці затуканыя — адразу зразумела.

*Перайманне*

Жвачку жваць карова навучыла,
Рогі несці падахвоціў бык,
Красці ў статку прыклад даў ваўчыла,
Харахорыцца падбіў індык.
Кожны клопат мае свой пачатак.
Поўнілася пераймання клець.
А ў аддар рагатых і лычастых
Цар прыроды навучыў быдлець.

*9 красавіка, субота*

Сойм БНФ. Аб выбарчай кампаніі і палітычным становішчы ў краіне. *Пазьняк. Хадыка*: «Скончыўся час круглых кіраўнікоў. Тое, што цяпер Шушкевіч дужа мітусіцца пад кліентам, якраз і паказвае, што ягоная бяздзейнасць была заказана. Хто не супроць нас, той з намі. У адным раёне апытанне. Лукашэнка выявіў злодзеяў, але толькі Пазьняк іх пасадзіць».

З Васілём на выставу. Васіль мне прынёс сваю акварэльку — на 24 лютага напісаў. Дзякуй яму! У Ірыны Міхайлаўны маці полька, бацька расіец. З чэкістаў, расстралялі ў першыя гады хапуна. Бабка, якая жыла ў Менску, а ёй з Кракава йшлі пасылкі, як шпіёнку расстралялі ў Курапа-

---

[1] Гл.: «І толькі ашалелы вецер...» (7.04.94) // Евангелле ад Мамы. С. 438.

[2] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. З 1995 г. жыў у ЗША.

[3] «Роднае слова» — навукова-метадычны ілюстраваны часопіс (з 1988).

[4] Гібкоўскі Аляксандр Сямёнавіч (псеўд. Гібок-Гібкоўскі Алесь; н. 1952), беларускі публіцыст, паэт. У 1993–1996 гг. рэдактар аддзела літаратуры час.»Роднае слова». Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро» (1999).

тах. Маці Ірыны Міхайлаўны працавала тапёркай у Галубка[1]. Ірына Міхайлаўна аптымістка, а брат быў парторгам у «Народнай газеце».

*10 красавіка, нядзеля*

Дапісаў слова пра Караткевіча[2]. Думаю, што не абразіў памяць вялікага пісьменніка й сябра. Хацеў вясёлы партрэт абштрыхаваць.

*11 красавік, панядзелак*

Падпісаў у свет 5-ты том Васіля. Можа, і паспеем 6-ты да юбілею. Званю Васілю. Між іншым кажу, як Збораў[3] паехаў у Афрыку паляваць на птушак з луку. Гэта, вядома, ад местачковасці. Нашых заходнікаў гэты комплекс яднае з яўрэямі. А ў сваю чаргу ў Амерыцы яўрэі, як і негры, любяць усё пулятае, грымучае, крыклівае і абавязкова, каб шмат. Васіль успомніў, калі Карпюк[4] атрымаў за «Дануту» добрыя грошы, адразу купіў машыну й медную ці бронзавую шыльдачку на дзверы прымацаваў: «Писатель Аляксей Карпюк». Бо пры паляках не пускалі ў паны. Усходнік бы адразу перавёў цану дошчачкі ў гарэлку, і галава б кругам пайшла ад магчымага пітва. Неяк Апёнак ушацкі ўсё марыў прадаць свой шкілет яшчэ пры жыцці: атрымаць грошы на прапой за права пасля ягонае смерці ўзяць шкілет у анатамічку Віцебскага медінстытута.

* Дамініка: «Сурок, сурочыха й сурчанятка».

*12 красавіка, аўторак*

Прыехаў Радзік з Ялты. На Украіне яшчэ вышэйшыя цэны. Расія цісне, расійскі імперыялізм, як рак, пускае метастазы ўедліва. […]

Дамінічцы прысніўся сон, што яна, зайчык любімы, і баба Валя паехалі ў Парыж і ніколі не вярнуліся да Кулаковіча ў дзіцячы садок.

«Да суму трэба дарасці…»[5]

Па тэле паказвалі нашага вэпэкашніка [Кебіча] разам з Чарнамырдзіным. Прадае Беларусь […]. […]

---

[1] Галубок Уладзіслаў (сапр. Голуб Уладзіслаў Іосіфавіч; 1892–1937), беларускі паэт, празаік, драматург, акцёр і рэжысёр. Народны артыст БССР (1928). Рэпрэсаваны.

[2] Гл.: І коскі з месца не зрушу!.. (10.04.94) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 178.

[3] Збораў Барыс Абрамавіч (н. 1935), беларускі мастак і скульптар. Ганаровы акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў і ганаровы акадэмік Фларэнтыйскай акадэміі выяўленчых мастацтваў. З 1980 г. жыве ў Францыі.

[4] Карпюк Аляксей Нічыпаравіч (1920–1992), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1986).

[5] Гл.: «Да суму трэба дарасці…» (12.04.94) // Евангелле ад Мамы. С. 450.

*13 красавіка, серада*

Такі прадаў Беларусь [Кебіч]. [...] Іду з працы. Насустрач Бур'ян, нягалены, выхудалы, выпетралы. Кажа мне й саромеецца, што закахаўся ў Рынковіч[1]. А Барысу ж 70 зімой стукнула. Жыццё йдзе. І ў савецкіх, і ў роднасных ім гітлераўскіх канцлагерах кахаліся, любіліся. Так ужо чалавек Богам задуманы.

Званю Васілю. Ён наконт нашай Канстытуцыі: «Натое й прымаецца, каб мяняць, як захочацца камуністычным выжлам». Жартам кажу, што Барыс закахаўся. І цвяроза-скептычны быкаўскі пагляд: «Гэта называецца размягчэннем мазгоў». А ў «ЛіМе» заява ТБМ[2]: «Дзеці, давайце жыць дружна»[3]. Як з мульціка. Усё кругла, як у Ніла не хачу казаць што.

*14 красавіка, чацвер*

Першакрасавік па-старому. Дождж з раніцы густы. Прасядзеў дома, кешкаўся з паперамі. Нікуды не хачу йсці, нікога не хачу бачыць. Адчуваю нейкі ўсеагульны холад. Няма тых, хто быў рады маёй радасці, сумны сумам маім. Мамы не стала — і ўсё пачало чужэць. Бальшына сяброў у зямлі. Васіль адзін ды з маладзейшых Радзік. Іх і чуць, і бачыць хочацца. А так званых сяброў па пяру і час, і ідэалогія зверакамуністычная раздзялілі. Адзінае пачуццё, якое адчуваю ад аднапёрнікаў, — зайздрасць, хоць і зайздросціць няма чаму ў нашае сітуацыі. Сяброўкай вернаю робіцца роспач — гэтая не пакіне, не здрадзіць. Настолькі яна ўпэўненая ў сабе, што не раўнуе нават. Роспач. Роспач.

Даменіка малюе, а Валя ўсміхаецца. Даменіка: «Што ты хахочаш, як птушка?» Малюе на сукенцы дарогу й кусцікі, а над галавой «касарны шлемп», малюе бровы й «ліснічкі» абавязкова чорным алоўкам.

*15 красавіка, пятніца*

Мне дзень пачала Даменіка, збіраючыся ў садок. У рыб намалявала плаўнікі й лускі'. Сказала паказаць мастакам, што яны скажуць. Я ёй заўсёды кажу, што мастакі кінулі пэндзлі й заплакалі ад адчаю, што так, як Даменіка, маляваць не могуць. Пра рыб сказаў, што яны сказалі: «Налі вады, і паплывуць». Даменіка заўважыла, што нельга ваду ліць, бо аблілюць блакнот.

---

[1] Рынковіч Алена Васільеўна (1923–2001), беларуская актрыса. З 1948 г. актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Заслужаная артыстка БССР (1968).

[2] ТБМ — Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (з 1989).

[3] «Ребята, давайте жить дружно» — сакраментальная фраза героя мультыплікацыйнага серыяла «Кот Леапольд» (1975–1987). Сцэнарыст Хайт Аркадзій Іосіфавіч (1938–2000), рэжысёр Анатолій Ізраілевіч Рэзнікаў (1940–2018), заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (2012), мастак-пастаноўшчык Назарук Вячаслаў Міхайлавіч (н. 1941) — лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

Быў на працы. Артур Зэйдэль зусім ужо гатовы — хоча маці сваю аксціць, 93-х гадоў [...]. Навошта так на сцэне ў жыцці быць. Яўрэі павінны быць яўрэямі й да таго падобна. Мне прыйшло ў галаву, што прападае гэтулькі цікавага, калі загнецца стукач Алесь Кучар[1]. Вось каб хто яго разгаварыў. Дый запісаць усё. Толькі факты, якія ён можа расказаць, не раскрываючы таямніцы КДБ. Але хто зробіць, каго ён дапусціць да сябе? Цікава, што адны стукачы накшталт Г. ходзяць у ахвярах, а другія толькі ў стукачах у законе. Нідзе роўнасці ў свеце няма. І не будзе.

*16 красавіка, субота*

Трошкі пішу пра Міхася Стральцова. Дайшло да мяне, што я ўсё жыццё баяўся арміі, партыі, турмы, баяўся трапіць туды. Зразумеў цяпер, чаму. Не магу быць пад слухом, абмежаваным, рэгламентаваным. Не ўрбаніст я, а хутаранін, які стамляецца, які баіцца натоўпу, мноства гаваруноў. Лес шуміць — іншая справа. Цецярук балбоча — душа радуецца. Цікава, што й колькі хвілін не пераношу, як ліецца вада з крана, а ручай, а вадапад слухаў бы.

«Без галавы...»[2] Сам кладуся спаць без галавы, як цапамі хто малоціць.

*17 красавіка, нядзеля*

Нешта напісаў пра Міхася Стральцова[3], нешта мяне стрымлівае, нешта трыножыць. Дужа глыбінны да загадкавасці быў Міхась.

*18 красавіка, панядзелак*

Сустракаўся з Марыяй[4] — аддаваў грошы. Дужа засмуціла сваімі недасказамі пра Ілону. [...] Як ваўка, абклалі родненькія. Заходзіўся Пятро Васючэнка[5]. Цікавы полацкі чалавек. Тармола[6], які сабе прыставіў да прозвішча Мірскі, як некалі авадням саломінку ўстаўлялі. І разам з тым, нібыта да князёў Мірскіх[7] адносіны мае. Худы, хворы. Заблытаў усіх сваімі

[1] Кучар Алесь (Айзік Евелевіч; 1910–1996), беларускі крытык, драматург, сцэнарыст. Адыёзная фігура 30-х гг.

[2] Гл.: «Без галавы...» (16.04.94) // Евангелле ад Мамы. С. 72.

[3] Гл.: Конь гуляў па волі... (17.04.94) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 207.

[4] Андруковіч Марыя Канстанцінаўна (н. 1948), беларускі журналіст і кінарэжысёр. У 1968–1995 гг. рэжысёр студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм».

[5] Васючэнка Пётр Васільевіч (1959–2019), беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік, драматург. Кандыдат філалагічных навук (1985). У 1984–1997 гг. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ, у 1997–2019 гг. — Мінскага лінгвістычнага універсітэта.

[6] Тармола Раман Якаўлевіч (псеўд. Тармола-Мірскі; 1936–2011), беларускі паэт, кінасцэнарыст. У 1980–1996 гг. член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі тэлевізійных фільмаў Беларускага тэлебачання. Тармола-Мірскі Р. Зярняты каласоў. Мінск, 1994.

[7] Святаполк-Мірскія — княжацкі род, вядомы з XVI ст., з XVIII ст. выводзілі сябе ад Святаполка, сына вялікага кіеўскага князя Уладзіміра, лічылі сябе старажытнымі уладальнікамі Міра і Мірскага замка.

грашыма, якія яму потым па выхадзе кнігі выплацяць. Хвалюе яго яшчэ літаратурная мітусня. Пра душу ўжо час думаць. Усім. «Полацкі менталітэт»[1].

*19 красавіка, аўторак*

На працы Дранько перадаў газетку. Зайшоўся да яго. Яны ў элітарны [часопіс[2]] (чаго варты стаўбун эстэта Асташонка[3]) даюць постаці. У другім нумары постаць Вярцінскага. Рыхтуюць пра Стральцова. Між іншым, сказаў: «Можа, я нешта пра Міхася». Ну, ён жа лепей ведаў Міхася. Наогул эстэт. Даў слова, што напісаў у кнігу. Хай звысоку гляне. Нешта трэба ад Вярцінскага. Дружба толькі па выгодзе. Новая змена практычная.

Дамінічка парадавала: «Я намалявала Купалу, адвернутага спіной». І падала мне блакнот.

* Дамініка: «Гэта холадна штанам, а нагам не холадна… Камяні абараняюць зямлю ад дажджу. Дождж і вецер добра траве й дрэвам, а нагам нядобра… Міліцыя цябе суцешыць».

*20 красавіка, серада*

З раніцы беганіна й мітусня. Лецку[4] 50 гадоў. […] Успамінаю паездку з ім у Чэхаславакію. Дужа смачная была саланіна ў яго хатняя. Добра было ў мадэрным касцёле слухаць ранішнюю службу, крыху незразумелую казань, бо па-чэску йшла. Пасля ён фактычна кіраваў […] «Бацькаўшчынай». Цяпер у бізнэсе пад страхой той жа «Бацькаўшчыны. […] Затое адна праблема нацыі вырашана — Бураўкін сядаў у машыну, праўда, не самую прэстыжную, але службовую, бачыў сам. Васіль назваў яго «кар’ерны мужык».

«Адступнікам і бюракратам…» [у блакноце].

*21 красавіка, чацвер*

Званіў Васілю. Дамовіліся паехаць у Вушачу пасля мерапрыемстваў ПЭНа. Сяргей Пятроўскі адабраў фота Васіля для кінафільма. Званіў Ха-

---

[1] Гл.: Полацкі менталітэт (18.04.94) // Евангелле ад Мамы. С. 73. Верш прысвечаны У. Арлову.

[2] «Крыніца» — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны час. (1988–2003).

[3] Асташонак Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; 1954–2004), беларускі пісьменнік, драматург, перакладчык.

[4] Лецка Яўген Рыгоравіч (н. 1944), беларускі крытык, пісьменнік. Кандыдат філалагічных навук (1980). У 1987–1997 гг. ст. рэдактар рэдакцыі прозы, заг. рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

дыка: у нядзелю вечарына ў сувязі з паўстаннем Касцюшкі[1], а потым у офісе БНФ вечарына ў сувязі з паўвекавым юбілеем Зянона.

* Дамініка: «Я ў Ягі бяседніца, — сказала ёй».

*22 красавіка, пятніца*

Быў у Палякова. Ён зняў шмат з Ізраіля. У пустэльні ў гарах яўрэі ўмудраюцца разводзіць кракадзілаў. Кібуц быў стратны, а цяпер працвітае. Трэба ж kop (галаву) мець, а не toches (ср.ку). Кажу Сашу: «Усё добра, але ж там страшна (увесь час на прыцэле)». А ён мне: «А ў нас не страшна? У любы час прыйдзе Жырыноўскі — і вясёлае жыццё. [...] «. Ці гэта пад старасць, што адчуваеш сябе, нібыта ў першыя дні тварэння свету, — усё квола, няпэўна, бяда за кожным кустом ці вуглом. Напятасць нейкая, перамешаная з сумам, з самотай, са шкадаваннем усяго й сябе ў тым ліку. Ці гэта ўжо Яна прыглядаецца да цябе? Жудасна!

*23 красавіка, субота*

Пісаў вершы на даты, але дарагія сэрцу майму. «Скіба волі аржаная»[2]. А заўтра 50 Зянону. Буду вітаць яго вершам «Каліновец»[3].

* Дамінічка: «Самы кароткі час у званочка, а самы доўгі час у гадзінніка, усё цік ды цік. Час чакаў-чакаў нас і пайшоў... Што ты штокаеш, як штопар?.. Адчыню вакно, уварвецца мяцеліца й зробіць цябе белым». Плача: «Хай Валя ніколі не расказвае пра мяне на рабоце дрэнна, а што я харошая дзяўчынка».

*24 красавіка, нядзеля*

Вечарына ў філармоніі ў гонар 200-годдзя паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Рыхтаваў Купава[4], а пасля пад сваё крыло ўзяў Бутэвіч. Адкрыў міністр і Купава. Канцэрт. Мяне Бутэвіч пасадзіў чакаць выступлення майго ў канцэрце у ложу з пасламі, сядзеў з Петраком Краўчанкам[5]. Пасля сказаў, што думаў, коратка, прачытаў верш. Зале спадабалася. Праехаўся па Сувораву й Суворaўскім вучылішчы[6].

---

[1] Касцюшка Тадэвуш (1746–1817), ваенны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, удзельнік Вайны за незалежнасць у Паўночнай Амерыцы (1775–1783), кіраўнік польскага вызваліцельнага паўстання 1794 г. супраць Расійскай імперыі. Нацыянальны герой Польшчы, Беларусі, ЗША. Ураджэнец Беларусі.

[2] Гл.: Скіба волі аржаная (22.04.94) // Евангелле ад Мамы. С. 71.

[3] Гл.: Каліновец (05.93–22.04.94) // Тамсама. С. 70.

[4] Купава Мікалай Мікалаевіч (н. 1946), беларускі графік.

[5] Краўчанка Пётр Кузьміч (н. 1950), беларускі дзяржаўны дзеяч, гісторык, дыпламат. Кандыдат гістарычных навук (1976). У 1990–1994 гг. міністр замежных спраў РБ. У 1995–1996 гг. дэпутат ВС РБ.

[6] Суворaў Аляксандр Васільевіч (1720 ці 1730–1800), рускі палкаводзец, граф Рымнікскі (1789), князь Італійскі (1799), генералісімус (1799). *Суворaўскія вучылішча,* створаныя

Пасля ў штаб-кватэры БНФ 50-годдзе Зянона. Мудрэц Мазынскі[1] так пад указку рэжысаваў, што Зянону на вечарыне слова не далі. Зянон ішоў па вуліцы з гонкай панавітай дамаю. Такі нязвыклы, разлірычнены. Так, відаць, толькі дзядоўнік цвіце. Адна жанчына, віншуючы, пажадала, каб стаў прэзідэнтам, пакуль яна яшчэ жывая. […] Быкаў паднёс Зянону папку, надрукаваў тэкст прывітання, прапанаваў усім падпісацца. Заўважыў, што ў філармоніі было мала пісьменнікаў: «Памылкова лічылі, што СП — асяродак беларускае культуры, гэта партарганізацыя […]. Я прачытаў Зянону свой верш. Успомніў, як ганяў ён малады нас з Караткевічам за п'янку. Падзякаваў за фота мамы з Ілонкай. Зянон успомніў, што гэта быў 1964 год.

* Дамінічка: «Трэба купіць топліва, каб тапіць пацукоў… У мяне многа імяноў».

*25 красавіка, панядзелак*

Радзіка прынялі ў Саюз (пісьменнікаў). Толькі два галасы супроць. Дужа дапамог Сёмуха, дзякуй і Зуёнку, і трэцяму Васілю Вялікаму [Быкаву]. Перапісаў прыбабунькі для шматпакутнай кнігі сваёй «Аратай, які пасвіць аблокі». Запісаўся на «Свабодзе».

*26 красавіка, аўторак*

З Наташай[2] зняў пытанні па рукапісу. Дзякуй ёй, як вавёрачка старалася. Добры густ як рэдактар мае.

Прыходзіўся Пухаты[3]. Ён цяпер у Віцебску. Трэба дапамагчы выдаць кнігу. Сёння ў метро ўбачыў Бураўкіна. Кінуўся насустрач — не заўважае, бо разгублены. Не ў персмашыне. Нязвычна. Не стаў пра сябе напамінаць, бо гэта ўсё роўна, як сказаў Васіль, што ў туалеце падглядваць за чалавекам.

*27 красавіка, серада*

З'езд Саюза пісьменнікаў. Яшчэ не назвалі пайменна прэзідыум, а Шамякін і Чыгрынаў кінуліся на сцэну. Зуёнак хацеў 15 хвілін гаварыць, а га-

---

ў СССР у 1943–1955 гг., камплектаваліся з падлеткаў 15–16 гадоў для паступлення ў Вышэйшыя ваенныя вучэльні.

[1] Мазынскі Валерый Яўгенавіч (н. 1947), беларускі тэатральны рэжысёр. У 1993–2000 гг. мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1984). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[2] Давыдзенка Наталля Аляксееўна (псеўд. Марына Наталіч; н. 1950), руская і беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1984–1997 гг. рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Пухаеў (Пухаты) Аляксандр Спірыдонавіч (1926–2014), асецінскі пісьменнік, перакладчык.

варыў 45! Паўлаў[1] даклад у сталінскім духу — паімённік. Ніл хацеў сесці каля Зуёнка, але адцясніў яго Дудараў. У метро дагнаў Васіля. Ён толькі кінуў: «Тэатр многіх актораў».

* Дамінічка: «Пакажы, дзе ў цябе палец безымянны, сярэдні й старэйшы».

*28 красавіка, чацвер*

«Дыханне»[2]. Заходзілі з Васілём да Навума. Васілю зрабілася кепска. Не ўзяў сваю «хапалку» (як яе заве) ад астмы. Усе хваляваліся. Пазваніў з дому, што палепшала. Вечарам званіў я Васілю. Казаў яму адзін, што ўказанне зноў падслухоўваць тэлефоны. Успомніў, як у Гародні выклікалі ў ваенкамат. На ўліку быў. Ваенкаматавец дастаў ягоную папку — уся зашмальцаваная, абшарпаная, паламатая — хадзіла, ездзіла, лётала па інстанцыях, вывучалася дасканальна. Астатнія папкі навюткія. Яшчэ расказваў, як Ніл тлумачыў, што Антановіч даў указанне ўстрымацца з прыёмам Ул. Арлова ў Саюз [пісьменнікаў], і Ніл, вядома, устрымаўся. Усё насілася ў ЦК.

*29 красавіка, пятніца*

Да начы амаль ішоў падлік галасоў. Прайшоў на старшыню Васіль Зуёнак, недарэзаны актор не прайшоў. N. сядзеў у крэсле, як Крылоў[3] у помнікавым варыянце, чакаў, пазіраючы, ці бачаць веліч і значнасць ягоную. А гледачоў правінцыйнага відовішча было мала. Выходзілі, Святлана Басуматрава[4] йшла на Клышку, не бачачы яго, ішла, як Армстронг[5] па Месяцы. Аж Толя здрыгануўся.

*****

Куплёнага хацелася малому,
Таго, што з горада,
Таго, што з крамы.
Каню старому ў яслі
Час кладзе салому.
І хочацца цяпер нагнаць аскому
Тым, што з гароду,

---

[1] Паўлаў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1990–1998 гг. нам. старшыні СПБ. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1997).

[2] Гл.: Дыханне (27.04.94) // Евангелле ад Мамы. С. 444.

[3] Крылоў Іван Андрэевіч (1769–1844), рускі пісьменнік, байкапісец.

[4] Басуматрава Святлана Міхайлаўна (1946–2016), беларуская паэтэса; журналіст (г. Бабруйск).

[5] Армстронг Ніл (1930–2012), амерыканскі астранаўт, першы чалавек, які ступіў на паверхню Месяца (1969). Прафесар (1971).

Што са склепа ў мамы.
Але прысмакаў не шкадуе сыну
Час аднаму — галоўнаму ўспаміну.

*30 красавіка, субота*

Трэба дапрацаваць эпіграмы ў «Вожык». Зборнічак назвалі «Асобы рознай пробы». Цэлы дзень з галаўным болем удвух займаўся га.ном. Званіў Радзіку. Дамінічка падышла, сказала дзядзю Радзю, што ў яе грошы ў кашальку (нарэзаныя паперкі). Радзік запытаўся, а што купіць? Адказала: хлеб, батон, малако. Ужо ў маленькай клопаты. Аж шкада стала ўнучачку дарагую, залатую. Валя купіла ёй ківі. Я пытаюся: што гэта яна есць сырую зялёную бульбу? Хахоча, кажа, што гэта не бульба, дый бульба зялёнаю не бывае. Валя ўдакладняе, што такая парода. Дамінічка адразу: «Парода толькі ў сабак бывае. Дык што — я сабаку ем?»

«Чорт еў торт…»[1]. «Бураўкін там…»[2], «Сухар без масла есца чэрства…»[3] [на А. Бутэвіча].

* * *

Камуністам ды стукачам
Быкаў, быццам быкам чырвонае.
Хочацца капытам, лычам
У загонах хадзіць калонамі.
Гады юшацца, ліпне тля,
Падваротня хрыпне ад крыкаў.
Свет гаворыць пра Васіля:
— Беларусь — гэта там, дзе Быкаў.

*1 траўня, нядзеля*

Святое Вялічка! Хадзі да нас. Дамінічка намалявала снегавіка, у якога пальцы-лужыны й за плячмі мётлістая мятла. Садзімся за стол, што ёй — сок? Просіць: «Далі мне да дна!» Ілона чамусьці і духу не падае. […] Дома ў мамы гэта быў Вялікдзень. Тут не зусім тое. І гады, і такая галеча. Валя ўсё зрабіла, як магла. Дзякуй ёй.

*2 мая, панядзелак*

Да Радзіка. Добрая сям’я Лапушыных. А дачка з унукам і ўнучкай у Штатах. Тут толькі Радзік. Пяялі з маці сумную песню ў стылі рэтра. Дамінічка пяяла песеньку: «Здымай трусы, ідзі к нявесце. Дзвесце». Кажу

---

[1] Гл.: Хуткамоўка (30.04.94) // Ішоў коця па канапе. Мінск: «Полымя», 1997. С. 202.
[2] Гл.: «Кусалі локці ў цішыні…» (пашыраны вар.; 30.04.94) // Асобы рознай пробы. С. 19.
[3] Гл.: «Сухар без масла есца чэрства…» (30.04.94) // Тамсама. С. 21.

ёй: «Надзень лейбік». Яна ў адказ: «Надзень валасы, — потым дадала, — і вушы».

*3 мая, аўторак*

У «Вожык». Кніжачка «вожыкаўская» будзе. Напісаў пра Васіля[1]. Узяў Блакіт[2]. Вечарам сазваньваюся. Просіць слова *камуністы* ўбраць, бо камуністы розныя. Нарэшце прагаворваецца, што й ён жа камуніст.

З Наташай закончылі рэдагаванне кніжкі па крытыцы. Званю, каб дадаць у «Прыбабунькі» яшчэ адну: «І хвор Кузьма, і нядуж Кузьма, прывяжыце Кузьме галаву к п….е», а ў дужках паметку: «З народнай медыцыны». Не хоча даваць. Хахоча.

*4 мая, серада*

На працу. З Наташай адабралі фота ў кніжку. Рад, што шмат з мамай, з маладым Васілём. Страшэнна падабаецца мне калупацца са словам у запісах. Неўсвядомлена рыхтаваў сябе для як бы навуковай працы з беларускім, ушацкім словам. Ды так і не давялося. Толькі сум застаўся. Глыбока.

*5 мая, чацвер*

Сёння, як некалі казалі маме, загінуў бацька[3]. Так і не адшукаў ніякіх звестак пра бацьку. Патраціў час на мітусню, на бег у загоне сацыялізму, які пагражаў перарасці ў камуністычны загон. Званіў Васілю. Ён кепска пачувае сябе. Заўтра магнітныя буры. Знайшоў у блакнотах запісы ад мамы. Скарб цэлы.

*Аўтограф*

Вядома, кожны на свой манер
Да славы цягнецца год за годам.
На пераходзе міліцыянер
Дае аўтографы пешаходам.

*6 мая, пятніца*

На працу прыходзіла маладзічка з літмузея. Рыхтуюцца да 70-годдзя Васіля Быкава. Прынёс такія-сякія матэрыялы. Дужа багавейна маладзіч-

---

[1] Гл.: «Досвіткам выйшаў з ушацкіх сасоннікаў…» (04.94) // Асобы living рознай пробы. С. 33.

[2] Болтач Валянцін Уладзіміравіч (псеўд. Блакіт; 1938–2007), беларускі пісьменнік. У 1987–2000 гг. гал. рэдактар час. «Вожык».

[3] Барадулін Іван Рыгоравіч (1908–1944), бацька. Ваяваў у партызанскай брыгадзе імя В. Чапаева. Лічылася, што загінуў пад час прарыву блакады ў маі 1944 г. у раёне Паперына — Пліна Ушацкага раёна; па архіўных звестках — у чэрвені яшчэ ўдзельнічаў у аперацыях атрада ў іншых мясцінах.

ка ставіцца да Васіля. Гэта мяне дужа ўсцешыла. Для душы перачытаў Ду Фу[1]. І ў перакладах, яўна далёкіх ад усяго няўлоўнага, адчуваецца вялікі паэт. Колькі ні чытай — кожны раз новае знойдзеш.

*7 мая, субота*

Званіў Васілю. Ён абураецца Айзенштадт. Па расійскай «Свабодзе» супроць пятай графы, супроць Пімена. Гэта далёкая палітыка — змяшаць усіх, тады любы адстаўнік-асаднік будзе выступаць ад беларускага народа, патрабаваць расійскай мовы як дзяржаўнай. І яшчэ нейкага ракетчыка з чыста яўрэйскім прозвішчам назвалі беларускім вучоным ці нават беларусам. Галя супраць гэтага. Хай забіраюць усіх «русскомычащих», нам свайго хапае. Бо, як казаў мне адзін яўрэй: «Раньше называли жидовская морда, а теперь русскоязычное население».

У «ЛіМе» [...] інтэрв'ю з Шамякіным. Кусае за пяткі нябожчыка Броўку[2], каму пры жыцці гэтыя ж пяткі лізаў. Пра Пазьняка, што ён не лідар, бо займаецца археалогіяй. Так, раскопваў справункі сталінска-кэдэбісцкіх хіжакоў, каго й цяпер славіць Шамякін. Як узор кіраўніка называе Кебіча, [...]. Правільна пра Шамякіна казаў Бярозкін[3] ці Кіслік: «Очень жирный писатель».

* Дамініка: «Абдуванчыкі паказваюць з зямлі свой жаўток... Дождж гаворыць, рукі гавораць, валасы гавораць, трубка гаворыць, усё гаворыць... Я капусту ўкрада′ю».

*8 мая, нядзеля*

Рука машынальна пацягнулася напісаць 95 [пры даце]. Дык жыць буду яшчэ. А наогул, складанае адчуванне: і стаміўся, і жыць дужа хочацца. Перад расстаннем любым — і лагода, і маркота. Неба настрою бязважка-цяжкое. Зрэдчас маланка выблісне й пагасне. Як, відаць, болей стома тужыць. Цэлы дзень, лічы, валэндаўся з паперамі.

* Дамініка: «Я табе загадку загаджу′». Накідвае мне на галаву ўсё лахманнё й перавязвае стужкай: «Будзе падарунак бабе». Пачынаю казаць — забараняе: «Падарунак жа не гаворыць, ён нямы».

---

[1] Ду Фу (Ду Шаалін; 712 —770), кітайскі паэт.

[2] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[3] Бярозкін Рыгор Саламонавіч (1918–1981), беларускі крытык, літаратуразнавец. Быў рэпрэсаваны.

*9 мая, панядзелак*

Дзень Перамогі. Крывавай, вялікай, у імя савецкай імперыі. Званю Васілю. Хадзіў з Зянонам разам з дэмветэранамі. Ніводнага сцяга на плошчы Перамогі нашага — толькі імперскія й бесесераўскія [...]. Калі падышоў, адразу АМОН, ледзь-ледзь абыходнымі шляхамі. Вёдры памыяў вылілі на іх вернападданнікі-ветэраны [...]. У ўправе Зянон сабраў актыў. Артур, казаў Васіль, гэтак пра сябе расказваў, як актор. Павесіў усе бляшкі, у тым ліку й юбілейны ленінскі медалёк. Пачаў збіраць грошы, Васіль спытаўся, навошта — на рэгістрацыю. Васіль запытаўся, а БЗВ не зарэгістравана. Артур адказаў, што на выбары трэба. Выдаў сябе, што хочацца, як дурному стрэліць, дэпутатам пабыць.

Васіль выступіў і сказаў, што БНФ чыстая арганізацыя (я дадаў яму ў тэлефон — экалагічна чыстая), а астатнія партыі створаны ЦК, КДБ, ВПК. Вядома, ёсць і стукачы. І тут твары ў некаторых выцягнуліся. Васіль прапанаваў Артуру зрабіць заяву ад ягоных ветэранаў. Трэба праверыць, ці зробіць. Наогул, Васіль казаў, што лепшы спосаб праверыць стукача — задаць знянацкае заданне, запытанне адразу зробіць, адкажа — можа, і чысты, а пачне казаць, што трэба падумаць, значыць, кансультавацца павінен. І каля Зянона кэдэбістаў гэтулькі круціцца, як мух каля ласага кавалка. Пры ўсёй мудрасці й празарлівасці Зянон дужа даверлівы, бо занадта чысты для палітыкі.

*10 мая, аўторак*

Чорны дзень супаў з Радаўніцай. Сёння памерла мама. Як даўно і як нядаўна. А ў мне жыве, а мне жывая, а мне мама неўміручая. Здаецца, выйшла некуды, на сяло, як у нас казалі. З гэтага дня нідзе мяне ніхто не чакае, нікому я ні ў радасць, ні ў гора.

*11 мая, серада*

Праца. Прыходзіў Васіль. У Ганада глядзелі чарговую кніжку па эміграцыі, складзеную Сачанкам. Васіль: «Гэта мясцовыя матэрыялы КДБ аддало Сачанку, а стратэгічна важныя пераправіла ў Маскву». Ніводнай факсімільнай кніжкі няма, каб не было прозвішча Сачанкі. З Клышкам на вуліцы зноў гаварылі пра Сачанку [...]. Толя расказваў, як вербаваў яго студэнтам [...]. Хацеў паехаць вучыцца ў Варшаўскі ўніверсітэт. Як Сабалеўскі[1] даў яму «Цёркіна на тым свеце»[2]; а пасля адразу — вярбоўка. Раз Толя кажа пра вярбоўку, відаць, ён чысты. Дай Бог!

---

[1] Сабалеўскі Анатоль Вікенцьевіч (1932–2012), беларускі тэатразнавец, крытык, выкладчык. Доктар мастацтвазнаўства (1974). Прафесар (1975). У 1993–2000 г. заг. кафедры Мінскага інстытута культуры, адначасова ў 1992–1998 гг. гал. рэдактар час. «Тэатральная творчасць».

[2] Памылка памяці, паэма А. Твардоўскага была надрукавана пазней студэнцкіх гадоў, у 1963 г.

З раніцы да Паланецкага[1]. Праверка сэрца й галавы. З сэрцам усё як быццам нармальна, з галавой кепска. Паміж інсультам і мігрэнем. Парушаны кровазварот у мазгах. Невясёлыя перспектывы ў бліжэйшыя пяць гадоў. Наогул, з галавой няладнае нешта творыцца ў мяне. Хоць бы не звар'яцець ці не стаць чурбаном. Паланецкі расказваў, як адхайвалі Серпера. Калі запрацаваў нарэшце мозг — гукі нечалавечыя, аж ворах па целе йшоў. Потым — мацюк. «Спадчына...»[2]

*12 мая, чацвер*

Павінен быў быць у двух мейсцах, у ніводнае не трапіў. Галава баліць так, хоць адкруці яе ці адпілуй. Адчуванне, што з жыццём развітваюся. Страшна. Пражыў так, быццам лёс вадзіў мяне, як слепака. Нават не лёс, а кон.

*13 мая, пятніца*

Навумчык завёз нас з Васілём у бальніцу «Хуткай дапамогі» да Алеся Лукашука. Ляжыць з язвай. На нервовай глебе ў асноўным. Васіль, дарэчы, казаў, што час Пазьняка яшчэ не прыйшоў, нацыя яшчэ не дарасла да патрэбы Пазьняка. Але будучае за Пазьняком. Васіль перадаў Алесю два вараных яйка, бо язва й есці не ўсё можна, і на 3 тысячы купіў газет. Ішла гутарка пра markdownрознапаняццевасць слова *дэмакратыя* ў нас і на Захадзе, цяплічнай дэмакратыяй назваў заходнюю Васіль. Навумчык ездзіў у Нямеччыну, там раілі, як гальштук падбіраць да гарнітура, як усміхацца ў тэлеэкран. Нам бы іхнія клопаты! У доме па Рэспубліканскай, дзе некалі жыў, офіс Навумчыкаў «Павет». Жонка назву дала. Дэмакраты вучацца рабіць грошы. Моладзь «выбірае pepsi!».

*Марыне Наталіч*
*(на зб. «Беларусь мяне збеларушвае»)*

Марыну Наталіч паэты свету
Шануюць і любяць, як светлую мэту.

*13.V.94, Менск* *Рыгор Барадулін*

[1] Паланецкі Леанід Захаравіч (н. 1937), беларускі вучоны-кардыёлаг. З 1977 г. заг. лабараторыі БелНДІ кардыялогіі. Доктар медыцынскіх навук (1988). Прафесар (1988). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).
[2] Гл.: Вернута быць павінна (11.05.94) // Евангелле ад Мамы. С. 79.

*14 мая, субота*

Першатраўня па даўнім календары. Пішу выступленне ў « Іслачы»[1] па лініі ПЭНа й перакладаю «Русалку»[2]. [...] «На гэтай настылай зямлі...»[3] Па радыё перадавалі вечар вызвольнага паўстання Касцюшкі. Усіх далі, акрамя мяне. Не спадабалася. Цэнзура як была, так і засталася. Цяпер толькі [...] Кебіча. Вакол яго адны падхлебічы — падхалімы.

*15 мая, нядзеля*

Як дурань цэлы дзень перакладаў «Русалку» й пісаў кавалачкамі выступленне. Аж галава адвінчваецца. [...] Жах!

*16 мая, панядзелак*

На працу. Прыязджаў следчы з Вушачы. Размова, што ўкралі. Ні ён, ні я не ведаем. Цікавая размова.

Аднёс тэкст выступлення Карласу. Да паўночы перадрукоўваў «Русалку».

*17 мая, аўторак*

Ад'езд на «Іслач». Прэс-канферэнцыя. Васіль у добрым настроі. Арлоў з жонкай. Карлас з жонкай. Ледзь не мярлогамі прыехалі. Шмат прэсы. Прыехалі Кіпель[4] і Запруднік[5].

* * *

І будзеш ты зусім адзін
Чакаць чаргі,
У згорбленай каргі
Адно што на прыкмеце.
Яшчэ ты не на тым,
А ўжо на гэтым свеце
Цябе амаль няма.
Сябе дагнаць, як дым,
Стараешся дарма...

---

[1] Дом творчасці СПБ «Іслач» каля Ракава, дзе адбыўся Міжнародны кангрэс Беларускага ПЭН-цэнтра на тэму «Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя».

[2] Нясконачаная драма А. Пушкіна.

[3] Гл.: А потым (14.05.94) // Евангелле ад Мамы. С. 442.

[4] Кіпель Вітаўт Яўхімавіч (н. 1927), беларускі гісторык, бібліёграф, грамадскі дзеяч беларускага замежжа (ЗША).

[5] Запруднік Янка (сапр. Вільчыцкі Сяргей Мікалаевіч; н. 1926), беларускі гісторык, палітолаг, паэт, літаратуразнавец, публіцыст, грамадскі дзеяч беларускага замежжа (ЗША).

*18 мая, серада*

Добрыя выступленні Плацяліса[1], Сверсцюка[2], Бахеньскага[3]. Васілю стала кепска. Адвезлі ў Менск. Званіў яму. Быццам нічога. Будзінасу напісаў (дакладней, склаў) экспромт: «Кто не бос, Тот наг і бос». Казько прызаваў пяром з хваста, здаецца, сарокі. Усё-ткі прыз.

* «Падтрымліваць узровень страху» (Свярсцюк).

[Надпісы на кнігах:]

*Кнуту Скуеніеку*[4]

Кнуту, сябру Беларусі
І народаў, Богу любых,
У душэўнай завірус
Мацаць зорную падлогу.

*Івану Драчу*[5]

Шаноўнаму пану Драчу,
Паэзіі любаму сыну,
Які заклікае вякі
Маліцца за Украіну.

*19 мая, чацвер*

Добрыя выступы. Паехалі ў СП, там вечар, прысвечаны 100-годдзю Судрабкална[6] й Райніса[7]. Давялося весці. Фальклорны шляхціц Панізнік накідаў нейкае хе.ні і знік. Ледзь разгробся. Вечарам назад. Званіў Васілю — яму лепей.

---

[1] Плацяліс Карнеліус (н. 1951), літоўскі паэт і перакладчык. Даклад: «Шлях да цывільнага грамадства: летувіскі вопыт».

[2] Свярсцюк Яўген, прэзідэнт Украінскага ПЭН-цэнтра. Даклад: «Неразменнасць свабоды слова».

[3] Бахэньскі Яцэк (н. 1926), польскі пісьменнік і публіцыст, віцэ-прэзідэнт Польскага ПЭН-цэнтра (1995–1997). Даклад: «Асоба — народ — дэмакратыя — літаратура».

[4] Скуеніек Кнут (н. 1936), латышскі паэт, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны (1962–1969).

[5] Драч Іван Фёдаравіч (1936–2018), украінскі паэт, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1983). Герой Украіны (2006).

[6] Судрабкалн (Судрабкаліс) Яніс (сапр. Арвід; 1894–1975), латышскі паэт. Народны паэт ЛатвССР (1947). Акадэмік АН ЛатвССР (1973), Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948).

[7] Райніс Ян (сапр. Пліекшанс Яніс; 1865–1929), латышскі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт ЛатвССР (1940).

*20 мая, пятніца*

Заключны дзень. Глыбока [выступіў] Конан[1]. Добра Сямёнава[2] й Іпатава[3]. Някляеў[4] абавязкова хацеў заключаць. Нешта меркетаў. Вячэра. Уручыў пасведчанні сяброў нашага ПЭН-цэнтра Веры Рыч[5], Янку Запрудніку, Вітаўту Кіпелю. Лёня [Дранько-Майсюк] цягнуў коўдру ўвагі на сябе. Усе палешукі хварэюць на Мележаву[6] хваробу. Яны ж з самых глыбіняў балот. Кнут расказаў:

Над селом хе.ня летала
Серебристого металла.
Стала много в наши дни
Неопознанной хе.ни.

Лёня тужыўся на нейкі экспромт. Мяне ўзяў па′лер, і напісаў: «Мне казалі: хрэн стары!..» [У дзённіку.] Пачытаў Та′расу. Карласу нельга. Не зразумее, што гэта гумар.

*21 мая, субота*

Ад’езд у Менск. У Менску дождж. Дождж быў і дарогаю. Званіў Васілю. Паведаміў, што й як. [...]

*22 мая, нядзеля*

Дамінічка мне намалявала кветку й жартам пытаецца: «Гэта кветка ці індык?» Толькі й радасці, толькі й шчасця ў хаце ад Дамінічкі. Бедная ўнучачка мая. [...] ратуюся хіба вершамі. «Ідылія»[7]. [...] «Ды...»[8]

---

[1] Конан Уладзімір Міхайлавіч (1934–2011), беларускі філосаф, гісторык, літаратуразнавец. У 1991–2011 гг. заг. аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Доктар філасофскіх навук (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984). Даклад: «Антыноміі дэмакратыі і культуры: шляхі і вырашэнне».

[2] Сямёнава Ала (Альбіна Іванаўна; н. 1938), беларускі крытык, празаік. У 1986–1994 гг. літсупрацоўнік, заг. аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі час. «Нёман». Даклад: «Ідэалы і ілюзіі».

[3] Іпатава Вольга Міхайлаўна (н. 1945), беларуская пісьменніца. У 1991–1996 гг. рэдактар газ. «Культура». Даклад: «Феномен «ружовай» свядомасці».

[4] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. У 1987–1999 гг. гал. рэдактар час. «Крыніца». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Купалы (1998), прэміі Е. Гедройца (2013), Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2014), прэміі імя Н. Арсенневай (2017). Намінант на Нобелеўскую прэмію (2011).

[5] Рыч Вера (1936–2009), англійскі перакладчык, журналіст, гісторык.

[6] Мележ Іван Паўлавіч (1921–1976), беларускі празаік, драматург. Народны пісьменнік БССР (1972). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1962), Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).

[7] Гл.: Ідылія (22.05.94) // Евангелле ад Мамы. С. 93.

[8] Гл.: Ды... (22.05.94) // Тамсама. С. 429.

*23 мая, панядзелак*

З раніцы колькі словаў па радыё пра кангрэс ПЭН-клуба. На працу [прыходзіў] Шэрман. Хочацца стаць сузаснавальнікам «Крыніцы». Старшынёй рэвізійнай камісіі ўжо стаў. «Старшаэканамізм»[1] з яўрэя не выб'еш нічым. Гэта нават не другая, а першая натура. Званіў Васілю. Ён лічыць, што яму маглі нешта падсыпаць ці што іншае, адным словам, дапамагчы захварэць. У яго ж была кома. Ніколі яму так не было. Тое самае, мы лічым, зрабілі й з Алесем Лукашуком на «Свабодзе» [...].

*24 мая, аўторак*

Буду складаць малютку вершаў пра Радзіму. Даў загаловак «О, Беларусь, мая шыпшына...»[2]. Кулік прыходзіў, каб Васіль рабіў юбілей у вузкім коле ў гасподзе БНФ. Яго сягоння мучылі з «Астанкіна» [ТВ, Масква]. А тут яшчэ з Пецярбургскага тэлебачання. Адмовіўся. Вечарам угаворвалі мяне, каб я ўгаварыў Васіля выступіць. Голас у рэжысёршы сцярвозна-імперскі. Прывыклі ездзіць, як да сябе дамоў.

Дамінічка раніцай. Кажу, што купіў ёй куртачку. Пытаецца, ці ў Парыжы. Кажу: так. Пытаецца ўсё роўна: «А ты ў Парыжы бачыў прыгожых дамаў?» Ужо нешта дукрыць. З Васілём казалі пра Украіну. Я казаў, што Драч мае надзею на чынавенства, якое ўчэпіцца за свае крэслы, а тым самым будзе бараніць дзяржаўнасць. Васіль ўсміхнуўся з наіўнасці: «Крэслы не ўпусцяць і адказнасці ўзяць не захочуць. Няхай Масква!» Таксама й наш [...] Кебіч, не ў рубзоне загвоздка, а ў тым, каб адказнасць за развал зваліць на іншых.

*25 мая, серада*

Заходзіўся Васіль. Праводзіў. Ідзем па вуліцы. Кажа: «Не будзем пераходзіць на вірлівым мейсцы, занадтая раскоша будзе — адразу двух зарэзаць», — (у, вядома, каго). Прыходзіла Крэнь[3]. Прынесла «Наша слова»[4]. Зноў пра касцюшкаўскі вечар, як на радыё. Я, выходзіць, не выступаў, а прысутнічаў разам з Нілам. Адна рука. Вечарам пісаў слова пра Васіля ў «Наша слова».

---

[1] Любімы анекдот Рыгора Іванавіча: «Карл Маркс быў эканамістам, як цёця Сара?» — «Не, наша цёця Сара — старшы эканаміст».

[2] Па радку верша У. Дубоўкі. Зборнік у выд-ве «Полымя» не быў выдадзены. *Дубоўка* Уладзімір Мікалаевіч (1900–1976), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962). Быў рэпрэсаваны.

[3] Крэнь Ірына Платонаўна (1929–2005), стыльрэдактар газ. «Наша слова».

[4] «Наша слова» — грамадска-асветная газ. Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (з 1990).

*26 мая, чацвер*

Дамовіўся з Лецкам выдаць у «Бацькаўшчыне» ягонай асобна «Здубавецьця». Дадаць яшчэ фалічны ўшацкі фальклор. Чаму яго так шмат у нас? — бо найдаўжэй там трымае паганства, і натуральна паганства рэчы называе сваімі йменамі. Ханжаства прыйшло з хрысціянствам.

* Дамініка: «Калі ты мне не дасі морквы, я табе талерку поўную слёз наплакаю!»

*27 мая, пятніца*

На працы з Лецкам дамовіліся канчаткова. Буду рыхтаваць кнігу. Васіль паехаў у Гародню. Як ён там? Слаб здароўем, а яго ірвуць на часткі. Нешта трэба з унукам[1] рабіць, паступае некуды.

*28 мая, субота*

Перачытваю запісы роднай зямлі. Які касмізм:

А соўнейка із месяцам гукала:
— Калі ўзыйдзіш упярод мяне,
Жджы мяне,
Пакуль мы з табой вакол свету абойдзім.

Зноў жа мама пяяла. Якая пекната й любата:

Дасць Бог летца,
Зародзіць Бог хлебца, —
Ёсць з кім жаць.
Пайду далёка,
Займу шырока, —
Ёсць з кім гнаць!

Лепей было жыта жаць,
Чым гэту ярыначку.
Лепей было дзеўкай быць,
Чым гэтай маладзічкай.
Як была я дзеўкаю,
Паілі гарэлкаю.
Як стала маладзіцай,
Не хочуць даць вадзіцы.

*29 мая, нядзеля*

Разбіраю запісы. Мама казала: «У каровы чаічка на ілбе. Кароўі імі пазапісавай: Туроля, Белахвостка, Букетка, Звяздэня, Зорка, Падласка

[1] Быкаў Сяргей Сяргеевіч (н. 1976), з 1994 г. студэнт гістарычнага факультэта Гродзенскага ўніверсітэта.

(пад жыватом бела), Лысоня, Белахрыбтка, Касмыль, Быстроня, Памаўза (памаўзлівая), Гілёня (красная была. Гіль — снягір), Лісіца, Салавей». Цікавых слоў процьма: *прыты'ка* — прымака; *кулічкі* — цвікі, на якія вешаюць сёдлы.

Прыехаў Васіль з Гародні. Не дужа замучылі. Выступаў ва ўніверсітэце, тэле не было. Бо за дзень перад гэтым адкрывалася абноўленая хата Максіма Багдановіча[1]. Прыязджаў сам нацыянал-камуніст [...] Ніл Лагойскі. Як імператар у стаўку у Магілёў некалі. Адпаведна ўся ўвага яму. «Вушача...»[2]

*30 мая, панядзелак*

А кляйне Троцкі Карлас з учарашняга загарэўся ідэяй даваць заяву ПЭН-цэнтра супроць заціску «Беларускай маладзёжнай» і «Волі». Але ж трэба пісьмовае нешта, а не вусныя заявы па радыё. Ледзь прыглушыў пажар. Не хапала яшчэ судзіцца з тым самым [...]-камуністам Данілавым[3]. Васіль такой жа думкі. «Старшыэканамізм» Карласа па генах. *Шмат руху, каб злавіць муху.* Пра яго, дарэчы, трэба слова ў «Нёман», — званіла Аколава[4]. Бедная хворая дзяўчына. Паэтка.

*«Даждь нам днесь...»*

Як цемя старца, голая гара.
Падобная на чэрап потым будзе.
Адстане і ў смакоўніцы кара
Ад цела белага ў відушчым спудзе.

Ён Слова пасылаў цераз вякі,
Час будучы з цяперашнім з'яднаўшы.
Не выбіраў з людское талакі,
Ксціў мілатою думы й душы нашы.

Нам, слухачам сваім, казаў тады:
«Вы соль зямлі...»
Таму, відаць, і сёння
Салёны пот, як і сляза ў бяды,
І слодыч у гаркавасці ў палоне.

---

[1] Музей М. Багдановіча, філіял Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. *Багдановіч* Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец.

[2] «Вушача...» (29.05.94) // Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены. 2005. С. 229.

[3] Данілаў Генадзь Ільіч, Дзяржаўны сакратар па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы (з 1993).

[4] Аколава Валянціна Валянцінаўна (1954–2013), беларуская паэтэса, супрацоўніца час. «Нёман».

Багаславіў Ён клопат наш увесь,
Акрыліўшы працягам і прасторай.
І мы
«Хлеб наш насущный даждь нам днесь»
У Бацькі просім з верай і пакорай.

*31 мая, аўторак*

Андраюк падпісаў «Аратая…». Дзякуй яму! Болей як дзве гадзіны на радыё — слова пра Васіля запісваў і вершы свае. На радыё разумнікі з маўклівай згоды ўсё таго ж ЦК і не дадумаліся нічога даваць. Сам прапанаваў. Добра, што яшчэ не адмовіліся. Званіў Палякоў. Цвяткоў[1] робіць фільм пра Кебіча, дыктарскі тэкст — Мехаў[2] (Няхамкін). Праўда, казаў Быкаў, гэтае пакаленне за 70 гадоў саўулады нічога не зразумела, не зрабіла вывадаў, прапашчае, страчанае пакаленне.

Вечарам у ліцэі[3] збор групы падтрымкі Зянона. Добра ўсё арганізаваў Падгол[4]. Супроць масіраванага замбіравання працоўных мас. Падгол мне сказаў, што «Выбар»[5] закрыў Бутэвіч, прыдраўся да няправільнасці рэгістрацыі. Міліцыянт з анекдота й да слупа мог прыдрацца, ці, лепей сказаць па-ўшацку, — прычапіцца. Гэтакая добрая беларуская сумленная была газета, адна на ўсю Віцебшчыну.

*1 чэрвеня, серада*

Запіс на радыё ў Віталя Сямашкі[6] й на кіна ў Коласа[7] ў ліцэі. Васілю пад канец стала блага, праводзіў да метро. Васіль падказаў напісаць папевачку: «Міні-[…], двойчы Ваня…» [у дзённіку]. У «Звяздзе» якраз конкурс папевак. Падпісаць неяк — Яўсей Ляхавіцкі ці Лаʼхавіцкі. Можа, была б прэмія з асобнай камерай. Яшчэ такіх часін можа дачакацца з камандай Кебіча.

---

[1] Цвяткоў Юрый Мікалаевіч (1941–2011), беларускі аператар, кінарэжысёр, сцэнарыст. У 1993–1996 гг. дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[2] Мехаў Уладзімір Львовіч (сапр. Няхамкін; 1928–2017), беларускі журналіст, празаік, сцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[3] Беларускі гуманітарны ліцэй імя Я. Коласа (1990–2003).

[4] Падгол Уладзімір Міхайлавіч (н. 1952), беларускі палітолаг, журналіст. Кандыдат філасофскіх навук.

[5] «Выбар» — віцебская грамадская газета (з 1991).

[6] Сямашка Віталь, журналіст, супрацоўнік Белтэлерадыё.

[7] Колас Уладзімір Георгіевіч (н. 1951), беларускі кінарэжысёр, педагог. Заснавальнік і дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа (з 1990). Сын Г. Коласа.

*2 чэрвеня, чацвер*

У ПЭН-цэнтры правіў заяву. Карласа распірае ад сваёй значнасці, як цеста ў дзяжы. Званіў Васіль. Сёння Кебіч збірае творчую інтэлігенцыю ў Міры. Васіля ніхто не прасіў, ніхто не казаў. Вядома, там Ніл і ўсе падхлебічы. Сёння было пра кангрэс па тэле, Карлас аж трубку шва′рнуў, калі я сказаў, што не бачыў. А там жа інтэрв'ю з Карласам. Цёця Сара старшы эканаміст. Гэта вызначае нацыю, нават калі не чыста, а з дамешкам.

*3 чэрвеня, пятніца*

З Наташай [Давыдзенка] пераносіў праўкі ў экземпляр на часопісы. Званіў Васілю. Тузаюць, дзе трэба й дзе не трэба. Уладзімер Арлоў едзе ў Амерыку, збіраць грошы. Трэба, каб Васіль нешта пра яго сказаў у падтрымку. Алексіевіч[1] — зацыкленая на сваёй асобе дама, просіць, каб парэкамендаваў Фонду Сораса нейкую кінуху Логінаву[2]. І так кожны дзень. Пра Васіля ніхто не падумае й не падумае. Проста, як апельсін, выціскаюць кожны ў свой кубак. Жалезныя нервы ў Васіля. Але колькі трэба сілы волі, каб трымаць нервы гэтыя.

Дамінічка вечарам: «Сталяр, хто сталы робіць, маляр, хто малюе». Дужа ў яе ёсць нюх і смак да слова. Сяджу, баліць галава. Кажа: «Заслані рукой вочы». Падкрадаецца й чмокае мяне ў лоб, каб галава не балела. Адразу лягчэй! Адна мая радасць, бо не паспее засмуціць, унучачка.

* * *

І мроіцца пачынае,
Што ўвогуле цябе не было,
І я ўспамінаю тое,
Што будзе яшчэ, мажліва.
І хваля рачная ручная,
І ў змрок заплыло святло.
Мой час з калітою пустою
Чакае цярпліва дзіва.
Няўсцерп свой трачу
Да зор уваччу я —
Твой голас пабачу,
Цябе пачую…

[1] Алексіевіч Святлана Аляксандраўна (н. 1948), беларуская пісьменніца. Лаўрэат літаратурных прэмій СП СССР імя М. Астроўскага (1984), імя К. Федзіна (1985), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Нобелеўскай прэміі (2015).

[2] Логінава Таццяна Дзмітрыеўна (н. 1944), беларускі кінааператар. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984).

*4 чэрвеня, субота*

Сядзеў выпісваў з запісных здубавеццця, прыбабунькі. Знайшоў запісы ад мамы — гэта скарб. Трэба будзе рабіць слоўнік па-свойму. «Выпусціць птушку...»[1]

* Дамініка: «Хто паўтарае, той паўтарака».

*5 чэрвеня, нядзеля*

Званіў Васілю. Ён сутыкнуўся з Нілам. Той чорны, як зямля. Знарок спытаўся, што там на сустрэчы казаў Кебіч, ды ў Ніла, як у дзіця, губы задрыжэлі ад крыўды: «Мяне не ўзялі». Дужа хацелася. А раней жа Дзямянцей[2] называў яго «дужа шаноўны Ніл Сямёнавіч». Выбіраю з запісных паралельна вершы й накіды. «Спакойны шэпат хвой...»[3] «Сон глытае мяне, як кіслае малако» (1962).

* * *

Завеі няма калі плакаць над жорнамі,
Што меліва лёгкае налілося цяжарам.
Ці белая котка з праталкамі чорнымі,
Ці гэта панна вясна праходзіцца тратуарам?

На аснове пачаткаў дарабіў:

*Пры'зімак*

Падзынквае вядзерцу ў бачок
Ільдзінкі маладзічок.
І, як некалі мама,
Раніца
Пахуквае на рукі.
Рака не азябнуць стараецца.
Халодны туман — як ху'кі.
Таўкуць камары
Як не на прызбе мак.
Сум зімавы туры'.
Гэта прызімак.

[1] Гл.: Выпускнік (4.06.94) // Барадулін Р. Слаўлю чысты абрус: Выбранае. Мінск: «Беларусь», 1996. С. 178. Па першым радку гл.: «Выпусціць птушку...» // Ксты. С. 235.

[2] Дзямянцей Мікалай Іванавіч (1930–2018), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1979–1989 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[3] Гл.: «Спакойны шэпат хвой...» (1970) // Дзённікі і запісы. Вып. 2. 1970–1978. Мінск: «Кнігазбор», 2015. С. 8.

* * *

А вершы можна пісаць пра ўсё,
Падпёршы радок рэфрэнам.
Так фаршыраванае парасё
Абкладваюць зелянінай і хрэнам.

*[Магчыма, 12 ліпеня 1979]*

Рабіў маленькае слоўка ў «ЛіМ» пра Васіля. А дзе ж прафесіяналы ў крытыцы? Не могуць, не хочуць, нехта ім не дазваляе па традыцыі? Толькі пра Брыля ды пра Навуменку якога. На радыё, калі б не пайшоў, дык нічога й запланавана не было. 50 гадоў Дзмітрыеву[1] ці Калабку [Чарняўскаму] — радыё разлягаецца. Зразумела, разам пілі. П'юць, на адных ідэйна-разумовых узроўнях. Але ж трэба хоць калі аддзяраць лыч ад мешанкі й вочы падымаць ад карыта. Васіль і ў свеце — з'ява. [...] Так і ўся наша гайня, не вартая следа ад запятка Васіля.

*6 чэрвеня, панядзелак*

Праца. Аддаў слоўкі пра юбіляраў — пра Васіля й Карласа. На кінастудыю. Адзняты матэрыял пра Бычкі й возера Горадня. Аб'ектыў не сцюдзёны, калі здымае трапяткое сэрца такое, як у Сяргея Пятроўскага. Цікава, што плот, хоць зімовы, пазнаў — упершыню ўбачыў на абразку Васіля. Званю Васілю, падымае трубку Ірына Міхайлаўна — Васіль пайшоў у Літмузей. Кажу наконт грошай у выдавецтве. Тлумачыць, што стараецца ўкласціся ў пенсію, а Васілёвы грошы на бензін — хай ездзіць, куды хоча. Дажыць, каб пісьменнік з сусветным імем думаў пра літр бензіну, а сачанкі, гілевічы, чыгрынавы пры ўсіх уладах уладкаваныя.

З мамінай фразы, запісанай некалі, рабіў верш. « — Відаць, я з лёдам пайду...»[2] Радзік раіў зрабіць з верша два, думаю, не варта. Не да вершаў [...].

* * *

Не гараджанін я, бо не ўгароджаны,
Я асакой вякоў звысокароджаны.
Як у гародзе,
Я ў мястэчку роджаны,
Пераакучаны, перакароджаны[3].

---

[1] Дзмітрыеў Генадзь Рыгоравіч (н. 1943), беларускі паэт. У 1987–1999 гг. нам. дырэктара, дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СПБ.

[2] Гл.: « — Відаць, я з лёдам пайду...» (6.06.94) // Ксты. С. 237.

[3] Першая, знятая, страфа верша; гл: Амаль (6.06.94) // Тамсама. С. 241.

*7 чэрвеня, аўторак*

Прыходзіла Ілонка. Худая. Галодная. На чым у яе душа трымаецца. [Косця] не робіць. А яна за дваіх. Я дапамагчы не магу. Яшчэ малая. Хочацца салодкага. А галава забіта сваёй геніяльнасцю. Расчуліла мяне — фотакартку бабы Куліны вазіла ў Піцер. Так жа любіла ўнучку баба Куліна. Хоць трошкі, можа, перадала чалавечнасці й душэўнасці [...]. За вочы й злуюся на яе, і брашу, а пабачу — растаю, як снег у гарачай вадзе. Яна нашай пароды, яна мая, таму й самая любая. Цяпер ужо, відаць, пасля Дамінічкі. Ці па роўну яны баляць у мяне ў сэрцы. А Дамінічка ўжо трошкі мардзее, расце, на вачах змяняецца. Дарагі анёл мой.

*8 чэрвеня, серада*

Лятучка. Балбатня гомелепата Кусянкова[1] пра святкаванне Дня вызвалення Беларусі. Сабраць усіх ветэранаў, [...], разам. Бальшына з іх усё яшчэ штурмуе цытадэль капіталізму й будуе светлае заўтра. Гэта ж можна ўявіць, каб з імі разам быў Васіль. Хоць бы з тым Іванам Новікавым[2], які заявіў, што такіх, як Быкаў, ён ставіў бы да сценкі й расстрэльваў.

Званіў Васіль, трэба ехаць у Магілёў, Воршу, Віцебск агітаваць за Пазьняка.

Хадзіў ва ўправу. Хадыку не знайшоў. Васіль сказаў, што Зянон, як жардзіна', стаў, выхудаў за гэтай кампаніяй, аж шкада яго. Дамовіўся з Падголам напісаць нешта ў развітальным нумары «Выбару», зачыняюць. А гэта адзіная газета была, якую мне хацелася чытаць. Бо была шчырая, разумная, беларуская.

Вечарам фільм пра Зянона. Самая балючая й кранальная сцэна — мама. Бацька адыходзіў на вайну, і пяцімесячны Зянончык сказаў: «Тата!» Падсвядомае прамаўляла. Сцэна ў касцёле, дзе ксцілі Зянона. Якое гэта шчасце, што захаваўся храм, дзе ксцілі цябе, нават купель тая. Пазайздросціў. Бо мяне дык ксцілі па-паходнаму. Выпадкова зайшоў ксёндз. А дзе ксцілі, так і не спытаўся ў мамы. Цяпер ужо няма ў каго спытаць. Фільм добры, усё па-беларуску. І раптам чалавек незразумелай нацыянальнасці, які вучыўся з Зянонам у нашым тэатральна-мастацкім, прыдурак у літаральным значэнні, нешта мычыць па-рюсски. Яўны стукач, бо нідзе нічога без яго не абыходзіцца. І Карлас чамусьці з ім валаводзіцца. Па-

---

[1] Кусянкоў Мікола (Мікалай Сяргеевіч; 1935–2004), беларускі пісьменнік. У 1993–1996 гг. гал. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя А. Куляшова (1991), Дзяржаўнай прэміі РБ (2000).

[2] Новікаў Іван Рыгоравіч (1918–2001), беларускі пісьменнік, нарысіст. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1967). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1965), Дзяржаўнай прэміі БССР імя П. М. Лепяшынскага (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

дозрана дужа. Чаклайс спыняўся ў Луцэнкі[1]. […]. «Вусаты вугор у зябкім цяньку…»[2]

* Дамініка: «Дожджык ужо праліў, толькі лу′жкі засталіся».

*9 чэрвеня, чацвер*

На працы. Грахоўскі тэрарызуе ўсіх. […] Званіў Васілю. Не застаў. Размова з Ірынай Міхайлаўнай. Хвалюецца, што Васіль шмат сілаў аддае палітыцы, а вынік будзе такі, што з выступаў настрыгуць цытатаў, пасля й імі біць пачнуць. Зянон залішне эксплуатуе Васіля. Хай бы Васіль лепей сваё пісаў. […]

*10 чэрвеня, пятніца*

Сёння дзень нараджэння мамы. 85 гадоў магло быць ёй тут з намі разам. [Малюнак.] Гэта Дамінічка намалявала канверт і пяяла: «Зайка на нябе′сі радасцю пяе». Як анёлак, спеў прабабцы пасылае. Без мамы няма самага дарагога свету маленства, свету родных мясцінаў, свету чакання нечага светлага, збыўлівага, без мамы няма вяртання да сябе, без мамы няма мяне. Бо толькі мама жыла мною, жыла для мяне, самаахвярна, самаадрокліва. Пакуль жыве мама, датуль жыве чалавек, адчуваючы сваю лучнасць з прыродай, з светам, адчуваючы сваю неабходнасць. Жонка — гэта турысцкая экзотыка. І толькі дзеці, асабліва ўнукі, спрабуюць злучыць, замяніць сабой парваныя звёны светазвароту. Але яны па часе халаднеюць да нас, яшчэ болей вярэдзячы душу напамінам аб страце, па якую й у зямлю пойдзеш, а яе не знойдзеш. Усё зменлівае, усё праходзістае й зніклівае. Вечная толькі мама. Як неба. Як свет. Як боль. Мамачка, з днём нараджэння. Рай табе светлы, царства нябеснае. Пухам табе зямелька родная ўшацкая…

«Няўжо бясконца незлічоны Бог…»[3]

У сядзібе БНФ нешта накшталт канферэнцыі — прэс-канферэнцыі. Вынікі пакуль што апытання. БНФ трымаецца ў баку ад узаемааблівання брудам адзін аднаго магчымых прэзыдэнтаў. Лукашэнка мае шмат прыхільнікаў. Счубіць бы іх з Кебічам, каб адзін аднаго з’елі. Якую прапаганду й як весці. «Каптан»[4]. [2-я страфа верша, якая не друкавалася:]

---

[1] Луцэнка Барыс Іванавіч (1937–2020), беларускі рэжысёр, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1975). Народны артыст РБ (1995). У 1991–2008 гг. мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага.

[2] Гл.: Загайданая (1971–8.06.94) // Руны Перуновы. Мінск: «Радыёла-плюс», 2006. С. 429.

[3] Гл.: Няўжо? (10.06.94) // Ксты. С. 188; пад назваю «Бо ёсць прысуд…» гл.: Ксты. Выд. 2, дапоўненае. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены. 2006. С. 205.

[4] Гл.: «Каб вольны…» (10.06.94) // Халодная памяць вады. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены. 2010. С. 307.

Зашпільвалі Валодзечкі ды Юзікі[1]
Каптан-капкан, паганячы зямлю,
І адрывалі з мясам тыя гузікі,
Якія не пралазілі ў пятлю.

*11 чэрвеня, субота*

Займаўся выпісамі з запісаў. Народная мова мае ўсе формы, усе словы на любую нагоду. Пішам *іск*, калі ёсць добрае слова *зыск*, ужываюць расійскае значэнне *прыгавор*, калі прыгавор — гэта прымаўка, прыслаўка. Бывае, што людзі ўжываюць пад націскам абруселых чыноўнікаў слова расійскага паходжання, дык усё-ткі тады пры'гавар. Кавалкі даўніх вершаў:

*Журавы*

Рака блакіту ўся ў падталых крыгах.
Праз сны мае, праз пошум баравы
У шчыры вырай на прыслаблых крылах
Нясуць тугу па лету журавы.

* * *

Ад жаўталісця
Ў ярах туманы паржавелі.
Сад маўчыць.
Затужыўся.
Змарнеў.
Я маўчу. Азіраюся —
Паружавелы
Яблык азяблы глядзіць на мяне.

З матчыных песняў. [Варыяцыі паводле народных песень.]

* * *

Сакалы за сталы заляцелі —
Госцікі мае залаценькія.
Галубкі, галубачкі.
Не выбіраю на любкі',
Усе вы любыя.
Чым жа вас частаваць,
Чым жа вас вельмаваць?
Боб, гарох не ўмалочаны,
На ток не валочаны.
Качан капусты на лясе,

[1] Уладзімір Ленін і Іосіф Сталін.

Верабеечка ў страсе.
Боб, гарох памалачу
Ў мужыка на лабяку,
А яшчэ, як захачу,
Мужыка дапяку.
Будзе з хмары хлеба луста.
Прытуліся, кум, баком.
Будзе тлустая капуста
З вераб’іным кумпяком.
Будзе гэта, будзе гэна,
Будзе пара, будзе пена.
А пакуль што сакаламі
Пасядзіце за сталамі.

** * **

Пайшоў казёл у гарод,
Шкоды нарабіў на год.
Павытаптаў бел часнок,
Быццам тупаў у шэсць ног.
Усе дуды кіну-рыну,
Павяду казла на рынак…
Колькі тае прыбылі —
Прадала за тры рублі.
На руб куплю бяліла,
А на другі — чарніла,
Румянаў на рэшту,
Буду, як нявеста.
Зеляней шумі, явор!
Як на ліха — муж на двор.
— Чаго, жонка румяна?
— Печку разбудзіла рана.
Перапытвае сурова:
— Чаго, жонка, чарнаброва?
— Лучыначку паліла —
Бровы агнём схапіла.
— Што ж такая белая?
— А я муку сеяла.
Кепскі з мяне мукамол.
— А дзе ж, жонка, наш казёл?
— Пайшоў казёл на гару,
Скруціў галаву.

— А калі ж у нас гара
Вырасла сярод двара?[1]

Можа, гэтыя два вершы некалі дадам да нізкі, для якой яны пісаліся дужа даўно, яшчэ пры маме.

*12 чэрвеня, нядзеля*

Прыходзіла Ілона. Дапамагала трохі прылюдзіць хату. Хоць і недакладная, хоць і пад уплывам свайго Косці, дужа люблю яе. Гэта невытлумачна — любоў да сваіх дзяцей. Яна балючая й калючая. Яна прывязвае тваю волю, твае ўчынкі да голасу крыві, якая родная табе. Гэтая любоў можа штурхаць і на добрае, і на благое ў імя твайго дзіцяткі. У каго няма дзяцей, абдзелены чалавек, шкада. «Ніколі»[2].

Званіў Васіль. Ён хворы. Падзастудзіўся. Фелікс Бахчынян[3] званіў і хацеў яго абрадаваць, што на юбілей прыедзе Межэлайціс[4] з новай жонкай (Стася памерла) і прэзідэнт Сусветнае асацыяцыі армян. Сапраўды, «услужливый дурак опаснее врага». Хоць Фелікс разумны. Навошта гэта й Васілю, і Межэлайцісу? Васіль чытае нават «Советскую Белоруссію». Зноў [...] сынок Савіцкага[5] шчэрыцца й на Васіля.

*13 чэрвеня, панядзелак*

Прыходзіў Васіль. Заплацілі нейкія капейкі. Праводзіў яго ў метро. Выглядае кепска, кепска дыхае. Божанька, паберажы яго, пакутніка за праўду! Камуністычны кебічаўскі ўрад з падачы лагойскага самалюба й не падумаў зрабіць юбілей вялікага, адзінага з усіх жывых вартага пісьменніка нацыянальным святам. А лагойскі [...] уключыў у школьныя праграмы беларускі варыянт «Лукі Мудзішчава»[6], які завецца «Родныя дзеці»[7]. І вучні чытаюць па беларускай літаратуры мясцовага палёту «Луку Мудзішчава», і ён называецца раманам у вершах. А па расійскай літаратуры «Яўгенія Анегіна» (А. Пушкіна). Параўнаюць і скажуць, што беларуская паэзія тры п..ды попелу не вартая. Вядома, на канкрэтным прыкладзе Лагойшчыка. А браток[8] у «ЛіМе» сядзіць і выкрэсліваець лю-

---

[1] Гл.: Барадулін Р. Сама пайду дарогаю, голас пашлю дуброваю...: Песьні матчыны з Вушаччыны. Мінск: ГА Беларускае таварыства «Кніга», 2004–2005. С. 343.

[2] Гл.: Маркота (12–23.06.94) // Ксты. С. 268.

[3] Бахчынян Фелікс Бардугімеосавіч (н. 1959), армянскі паэт, перакладчык.

[4] Межэлайціс Эдуардас (1919–1997), літоўскі паэт, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Народны паэт ЛітССР (1974). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1962).

[5] Савіцкі Андрэй Міхайлавіч (1964–2015), беларускі мастак-графік. Сын М. Савіцкага.

[6] Ананімная сатырычная паэма (1994).

[7] Раман у вершах Н. Гілевіча.

[8] Гіль Мікола (сапр. Гілевіч Мікалай Сымонавіч; н. 1936), беларускі празаік, перакладчык. У 1990–1996 гг. гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва». Брат Н. Гілевіча.

бое слова, дзе можа быць намёк на цыбатага дэпутата. І невядома, хто болей шкоды наносіць беларускаму слову, ці чынавенства, якое ігнаруе мову, ці такія, з дазволу сказаць, раманы ў вершах.

*14 чэрвеня, аўторак*

Дамінічка зляпіла *беларускае* й паказвае мне. А яшчэ лепіць снегавіка й снегавянятак. А ўнук Пучынскага[1] кожную раніцу пытаўся: «Хто бабе Венеры рукі абламаў?» — глядзеў на гіпсавік.

*15 чэрвеня, серада*

Раніцай Дамінічка сказала, што беларускае слова мне скажа й сказала: «Лётала птушка між іншым». Між *іншым* сказала як між *інчым*. Дзедзю радасць.

У Васіля цікавае супадзенне — 70 год прыпадае якраз на нядзелю й на Тройцу, як і ў 1924 г. Васіль сказаў, што аж баіцца такога супадзення.

*16 чэрвеня, чацвер*

Запісаў колькі слоў пра Васіля на «Свабодзе» — званіў Алесь Лукашук.

Усплыў у памяці эпізод з Непала: «Непальскі абразок»[2].

*17 чэрвеня, пятніца*

У Музеі гісторыі беларускае літаратуры выстава Васіля — кнігі, прэса, фота, рукапісы. Усё цёпла. З высокарангавага чынавенства нікога не было — быццам і даты няма. Цікава, што пад канец папрасіў я Навумчыка адвезці Васіля дамоў, вырваць з моцных абдымкаў тлуму. Бураўкін, Блакіт нерваваліся, што затрымліваліся службовыя машыны, каб іх везці. Нічога не змянілася й не зменіцца пад ветахам й маладзічком. Без запрашэння з’явіўся [...] Паплаўскі Жора [...] і ахмураў італьянскага пасла, так што Васіль не мог і двух словаў сказаць. Вельмі здарава сказаў слова Зянон. Вечарам пару хвілін па Белтэле не ўпаміналі нават Зянона й не паказалі. Не любяць — значыць, баяцца.

А Дамінічка расказала дзедзю казку: «Ішоў дождж. Былі маланкі. І канец». Прыехаў усё-ткі Забораў. У Віцебску Шагалаўскі[3] плэнэр. Добра, што Барыс будзе прадстаўляць Францыю. Узровень. А наогул, не ўяўляю чалавека без радзімы канкрэтнай, на якой не жывуць.

---

[1] Пучынскі Юзеф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі графік, мастак. З 1994 г. жыў у ЗША.

[2] Гл.: Непальскі абразок (16.06.94) // Дзённікі і запісы. Вып. 4. 1983–1988. Мінск: «Кнігазбор», 2017. С. 372.

[3] Шагал Марк (1887–1985, Францыя), беларускі і французскі мастак і графік.

*18 чэрвеня, субота*

З раніцы Дамінічка вясёлая. Спявае. Аж на душы светла робіцца. Глядзеў па «Астанкіне» (Масква) Васіля. Добра сказаў пра жыццё, што жыць увогуле цяжка, што жыццё таксама як абавязак. З гадамі прыемным і светлым здаецца гадамі аддаленае. Карлас званіў, каб запытаўся, якую любіць песню. Пазваніў, Васіль адказаў, што з музыкі любіць «Паланез» Агінскага[1] за сум развітання з радзімай. Часта Васілю даводзілася быць без радзімы. А з песняў, павагаўшыся, сказаў: «Ну, няхай «Ой, сівы конь бяжыць…». Як Ніл», — усміхнуўся мне ў трубку.

А Дамінічка цікава казала: « Прырода спалохалася, што не хапала адной вавёрачкі й птушкі…» Адкуль ў яе бярэцца?

Слухаў перадачу Лукашука па «Свабодзе» пра Васіля. Цікавыя адказы Васілёвы на анкету ў Доме Дастаеўскага. У маленстве марыў Васіль стаць капітанам рачнога парахода…

*19 чэрвеня, нядзеля*

Святая Тройца й дзень нараджэння Васіля Вялікага. Звоніць, паслухаўшы перадачу па радыё, пытаюся, ці хацеў быць капітанам рачнога парахода? Падкрэслівае, што якраз не акіянскага ці марскога, а рачнога, каб плаваць па Дняпры, па Дзвіне, па Нёмне. Калі вучыўся ў Віцебску ў мастацкім вучылішчы, задумалі з сябруком на лодцы даплыць да Полацка. Нагледзелі лодкі прыцугляныя. Тузанулі слабейшы замок, раненька дзянькам паплылі. Замест вясла была нейкая дашчурка. Толькі падплылі да чыгуначнага моста, зверху вокліч: «Стой! Кіруй на бераг. Страляць буду». Скіравалі лодку ў лазу, у куст недзе на Маркаўшчыне. На тым і скончылася мара пра рачное параходства. Дарэчы, пасля перадачы па радыё пазваніў Васілю сябра маленства Паршонак і парадаваўся, што вушацкія мальцы далёка пайшлі. Дужа сардэчная ацэнка.

Днём у Купалавым скверыку было свята Васіля Быкава. Быў народ, хоць дождж быў добры. Нават Ніл прыйшоў, каб папасці ў кадр і нешта прагнюсавіць наконт велічы Быкава праз зубы. Васіль сказаў коратка, але глыбока. Падкрэсліў свае сем пунктаў, жаданняў, як сем запавядзяў. Вечарына у гонар Васіля была ў сядзібе БНФ. Усё па-сяброўску. Дачка ўшацкага Алеся Карабаня, майго першага любімага дырэктара школы, прынесла клёцкі з душа′мі — па-вушацку. Карміў імі Запрудніка, Кіпеля, Зору Кіпель. Падгол, ягоны бацька з вушацкага Глінішча, папрасіў цэлую клёцку. Васіль быў у добрым настроі, хоць здароўе ягонае слабое. Давалі значкі «Мой прэзідэнт — Пазьняк». Падыходжу да Зянона й кажу, што мне падабаецца гэты прэзідэнт, а Зянон у адказ са смехам: «І мне так-

[1] Агінскі Міхал Клеафас (1765–1833), граф; кампазітар, літаратар, палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі.

сама». Пачаліся спевы. Васіль заўважыў: «Калі пачынаецца сола, трэба збірацца». Навумчык малайчына — адвёз Васіля дадому. Каля адзінаццаці гадзінаў звоніць Марачкін, ці паеду я ў Віцебск на плэнэр? Адказваю, што ніхто мяне не прасіў. Аляксей кажа, што ў мінкультуры дакларавалі запрасіць Быкава й мяне. Але, відаць, праграму складаў Антановіч. Дый маецца быць сустрэча з [...] Кебічам. Калі было небяспечна драць горла за Шагала, тады адны трэба, а калі красавацца — другія. Усё як у людзей. Як хочацца жыць там, дзе гучыць беларуская мова натуральна, нязмушана абыходна й узвышана. Нашая эміграцыя ў лепшых сваіх асобах марыла й марыць пра гэтае ў замежжы, а нам даводзіцца марыць у сябе дома. І там, і тут нязбытнасць мараў. Беларусы нейкім чынам славянскія яўрэі, але ў яўрэяў ёсць свая дзяржава.

*Васілю Быкаву на 19 чэрвеня 1994 года*

Нарадзіцца на святую Тройцу —
У Бога быць любімым мець надзею.
Хоць жыццё не спачувае мройцу.
Людства непапраўна нелюдзее.

Як бяда сама папросіць шлюбу,
Сцежка ляжа ў апраметнай з краю.
Мэта звідніць долю праўдалюбу,
Мужнасць змусіць захлынуцца зграю.

Доля — сплаканая маладзіца
Блаславіла крыкам жураўліным
На святую Тройцу нарадзіцца,
Беларусі стаць любімым сынам.

Чытаў гэты верш у Купалавым скверыку й у сядзібе БНФ. Падпісаў Васілю й «Азбуку»[1].

*(Да падарунка Васілю Быкаву)*

Хай жа брыка жыцця
Шчасце беркаўцамі вязе,
Думкі быкаўскія абмінае знямога.
Хай жа будзе не зябка й прыступна назе,
Ручніком да Бычкоў развінецца дарога.

*20 чэрвеня, панядзелак*

Васілю пазваніў Бураўкін, што Бутэвіч хоча прывезці адрас юбілейны. Прыехалі з Бураўкіным, Бутэвіч, не расхінаючы адраса (Васіль за гэта

[1] Барадулін Р. Азбука — вясёлы вулей. Мінск, 1994.

яго ў думках пахваліў) падаў адрас: кароткае віншаванне халодна-бюракратычнае за подпісам [Кебіча]. На ўсялякі выпадак Кебіч вырашыў — паслаў па-бальшавіцку канспіратыўна. Яшчэ адна акалічнасць. Аскоцкі[1] ад імя дэмакратычнага Саюза пісьменнікаў у Маскве паслалі Ельцыну хадайніцтва аб узнагароджанні Быкава ордэнам Дружбы народаў. Чакалі-чакалі — адказу няма. Аж, выходзіць, МЗС Расіі паслаў запытанне быццам бы ў нашае замміністэрства, і прыйшоў ад нас адмоўны адказ. Васіль лічыць, што МЗС Расіі паслала запытанне расійскаму пасольству, а яно [...], вядома, запярэчыла. Дый Васілю гэты ордэн не патрэбны, бо ставіў бы яго ў нялоўкае становішча й перад БНФ, і перад іншымі. Другая справа, што наш урад не паклапаціўся нават пра занюханую грамату. Гэтак ненавідзяць Васіля, гэтак баяцца, што памяць адбірае ў іх. Ніл яўна чакае, што ягоныя ўгодкі зробяць у старой камуністычнай традыцыі з піянерамі, з апаратчыкамі, з слёзным вітаннем бацькі [Кебіча].

* Дамініка: «Словы, як асколкі ад бутэлькі, ля галавы».

*21 чэрвеня, аўторак*

Чытаю Васілю ўрэзку ў «Вожыку», дзе Блакіт падкрэслівае, што пачынаўся Быкаў як гумарыст. Вясёла падтаквае. Кніжачку «вожыкаўскую» добра замачылі, ехаць у Гародню не было білетаў. Тады Павел Кавалёў[2] падышоў да касаў і ў акенца пастукаў чырвонай кніжачкай, дзе на вокладцы было выцеснена ЦК КПБ, — білет быў. Маленькая хітрасць — на вокладцы пасведчання ЦК КПБ (і абавязкова чырвоны колер), а ўнутры — «орган ЦК КПБ — «Вожык». Павэлак туга ведаў справу.

Пра валтузню наконт ордэна — адназначна, што не варта й увагу звяртаць.

Васіль званіў братавай[3] у Бычкі. Там перапалох, за каго галасаваць. [...] пусцілі ў ход чутку, што Зянон адбярэ пенсіі. Працуюць, як у ранейшыя часіны. Ніякіх маральных заставак няма. Па-ленінску — абы дзейнічала. Наогул, Васіль шкадуе Зянона. Ён гатовы паверыць, што выберуць, а калі й выберуць — таксама жахліва, ягоны ж целаахоўнік застрэліць. Дужа вялікая нянавісць да Зянона ў камуністаў, а яны ж жывучыя. Мазгавы цэнтр — [...] застаўся ў недатыкальнасці.

---

[1] Аскоцкі Валянцін Дзмітрыевіч (1931–2010), рускі крытык, літаратуразнавец, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1968).

[2] Кавалёў Павел Нічыпаравіч (1912–1995), беларускі празаік, нарысіст, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1978).

[3] Быкава Антаніна Аляксандраўна (н. 1938), жонка Быкава Мікалая Уладзіміравіча (1930–2000).

*22 чэрвеня, серада*

Пачатак вайны, [...] вайны, што асіраціла й абяздоліла мільёны. За што загінуў бацька, за каго? За саўімперыю? Не далі пажыць экперыментамі над людзьмі бальшавікі-антыхрысты, нячысцікі, якія ўвасобіліся, уаблічыліся ў канкрэтных антылюдзях, праўдзячы словы Святога Пісання. Беларусаў пазбавілі Беларусі й яшчэ слалі абараняць свой жа палон, сваё ж рабства. Камуністычны іезуітызм самы, відаць, высокі, самы класічны.

Васіль хадзіў забіраць у Саюз пісьменнікаў віншаванні. Пра сакратароў (Паўлава, Каршукова[1]) добра сказаў: «Як тлустыя пацукі бегаюць па калідорах». Наогул цікава. Наш урад не заўважыў юбілею Васіля Вялікага. Віктару Астаф'еву[2] расійскі ўрад зрабіў вечар у оперным тэатры, падараваў «Волгу», пазбавіў ад усіх падаткаў і платаў (за кватэру й да т. п.). Беларускі халуйскі ўрад да ўсіх заганаў мае яшчэ адну непапраўную — бязмозглы. Да слова пра мазгі. На працы выступаў на дні рэдактара Кусянкоў — гомелепат, Сакрат палескі. Ледзь мае чарапы не разваліліся. Тут і ўспамінаецца любімы Бярозкіным Купалаў выраз: «Эх, ты цёмен, браце, цёмен, як табака ў табакерцы». Званіў Васіль наконт інтэрв'ю Бураўкіна ў «Звяздзе». Відаць, пойдзе шляхам старэйшага таварыша Ніла. А куды яму яшчэ йсці.

Дамінічка вечарам мне шаптала на вуха, што будзе галасаваць за Пазьняка.

*23 чэрвеня, чацвер*

Выбары. Надвор'е злоснае, як камуніст, які застаўся без улады. Галасаваць хадзілі з Валяй і Дамінічку ўзялі. На вучастку яна спыталася, а дзе на партрэце Пазьняк.

Перарабіў верш «Маркота». Лавіў беларускую «Свабоду». Дужа ціха, з перашкодамі. Васіль правільна мяркуе, што КДБ проста купіла таго, хто скіроўвае, рэгулюе — тэхнічнага супрацоўніка.

*24 чэрвеня, пятніца*

Званю Васілю. Папярэднія вынікі галасавання сумныя. Які народ, такога й хочацца мець. Сістэма Жырыноўскага спрацавала. Затое, смяецца Васіль: «Хоць хлеў згарэў, ды колькі мышэй Кебічавых лясне». Хоць мышы тут жа перабягуць у іншы хлеў, нюх у іх адменны. А што Зянон не

---

[1] Каршукоў Яўген Іванавіч (1932–2018), беларускі празаік, перакладчык. З 1989 г. кансультант СП БССР.

[2] Астаф'еў Віктар Пятровіч (1924–2001), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1975), Дзяржаўнай прэміі СССР (1978, 1991), Дзяржаўнай прэміі РФ (1995, 2003).

пройдзе, толькі цешыцца трэба, [...] зрабілі б яму варыянт Гамсахурдзія[1]. [...] І ў тым жа Азербайджане. [...] Безумоўна, любая ўлада мае гэтыя органы бяспекі, але толькі, відаць, саўкамуністычная ўлада выгадавала такіх [...], адкрыўшы цямноты ў душах нізкіх.

*25 чэрвеня, субота*

Год назад у гэты дзень быў у Іерусаліме. Як у гасцях у трылузнення. Дзень нараджэння Броўкі й Шклярэўскага. Званіць Шкляру не буду — не магу адысці ад размовы па тэлефоне амаль год назад. Гэтак сябе любіць нельга.

* * *

У небе пачуў я званок —
Высокая доля званіла.
Мана падавала збанок,
Віна давівала вянок,
Труна дагнівала абныла.

У лузе вятрэлі званкі,
Хітрэлі званкі пад дугою.
Журбе прысягалі крукі.
Гарбелі вярстою даўгою.

Аднойчы глухой гамане
Прысніцца захоча каплічка,
Званіца званкі памяне,
І ўчую, як звоніць па мне
Апошні званок — Дамінічка.

*26 чэрвеня, нядзеля*

Да Радзіка. Тонкі, рэдкі паэт. Шкада, што цяпер нікому не да паэзіі. А шкада. Можа, і прыйдзе час. Ды наўрад. Амерыканізацыя, якая й да нас падбіраецца, не пакідае мейсца паэзіі.

*27 чэрвеня, панядзелак*

Ездзілі з Навумам, Тарасам, Сурскім[2] у Пільніцу, пад Менскам. Нешта казалі — для магчымага фільма пра Заборава.

---

[1] Гамсахурдзія Звіяд Канстанцінавіч (1939–1993), грузінскі палітычны дзеяч, пісьменнік. У 1991–1992 гг. прэзідэнт Рэспублікі Грузія. Забіты.
[2] Сурскі Алег Аркадзьевіч (1928–2012), беларускі дызайнер, мастак, мастацтвазнавец.

*28 чэрвеня, аўторак*

У *Вушачу*. Сёння 50 гадоў вызвалення. Не застаўся на свяце. Каманда з саюза, дзе камуніст Каршукоў і […] Макалёк, няхай выступае. У хаце запусценне. Укралі ікону. Няма нічога святога. Павесіў у кут маміну старэнькую, на кардоніне. Але мамай асвечаная. У Вушачы пыл — чысцяць вуліцу трактарам пры такой спёцы. А дзеці ў хмарах пылу хаваюцца. Ім даспадобы няўтульнасць. Галаднавата. Пуста ў крамах. На лехах і ў гародах нічога не расце й не думае. Марыя Рыгораўна яшчэ болей сагнулася, Пятро астарэў, усох. Уся праблема, дзе выпіць.

*29 чэрвеня, серада*

У Навума ўсёй дружнай кампаніяй сустрэча з Барысам Заборавым. Быў Васіль. Яму спадабаўся Барыс і ягоная манера пісьма, бо Барыс падараваў Васілю альбом. З Лапушыным ездзілі да Паланецкага правяраць галаву. Знасілася старая, а новую ніяк не прыдбаеш. «Не колецца зялёнае асцё…»[3] Вечарам нясу Дамінічку ад дзеда Васілевіча[4], а яна мне тлумачыць, што ёсць дарога хатняя й дарога вулічная. Потым убачыла нясмелую зорку на невыразным гарадскім небе й паказвае мне, тлумачыць, што зорка паказвае дарогу месячку. У садку збіла каленькі, дзед Васілевіч ці выхавацель пазаклейвалі іх.

*30 чэрвеня, чацвер*

Зламіўшы галаву бег на сустрэчу з Заборавым каля выдавецтва. Знайшоў яму слоўнік Ожэгава[5], які просяць усе эмігранты ў Еўропе і Амерыцы. Нават знайшоў беларускі каньяк, папрасіўшы, каб абавязкова завёз у Парыж. На «Трэба дома бываць часцей…»[6] зрабіў экспромт:

У недалёкай ад Францыі Беларусі,
Што ніяк не сарве
Свайго рабства прабой,
Богарысы Барыс,
Я табой ганаруся,
Любы свету Барыс,
Я журуся табой.

Сядзім на круглай скамеечцы, побач рамантуюць абкладзіны газонаў з кветкамі, ідзе Сёмуха. Адзін аднаго пазналі. Васіль Сёмуха ўспомніў, як

---

[3] Гл.: «Не колецца зялёнае асцё..» (29.06.94) // Ксты. С. 199.

[4] Клімін Васіль Васільевіч (1919–?), дзед Дамінікі па бацьку.

[5] Ожегов С. И. Словарь русского языка. Москва: «Русский язык», 1986. Изд. 18. (1-е изд. 1949.) *Ожэгаў* Сяргей Іванавіч (1900–1964), рускі мовавед, лексіколаг, лексікограф. Доктар філалагічных навук (1958). Прафесар (1961).

[6] Барадулін Р. Трэба дома бываць часцей…: Выбраныя старонкі лірыкі. Мінск, 1993.

здымалі афармленне з кнігі ў перакладзе Сёмухі, што аформіў Забораў перад ад’ездам. Пасмяяліся. Мы з Барысам яшчэ крыху пасядзелі. Казаў, што нібыта й не ад’язджаў нікуды, усё паўтарылася, запоўніла сабой час, калі не быў тут. Я сказаў, што гэтак і з гарэлкай, я не п’ю з 74 года. Гэты звер хітры чакае. Барыс пацвердзіў, што гэтак жа і з курэннем. Было кінуў, а потым выкурыў адну цыгарэту й праз колькі дзён ужо высмальваў па тры пачкі′. Антынастальгія, ці вяртанне, падобны ж звер вартуе. Першыя гады ў Парыжы Барыс дужа рэагаваў на расійскую мову. Потым паспакайнела ўвага вуха. Прыгадаў Барысу, як некалі тлумачыў зайздроснікам Барысавым. Кажуць, Барыс бярэ чужое. Дык я патлумачыў розніцу. Забораў калі й бярэ што, дык добрае й у багатых, бо ведае, дзе што ляжыць на паліцах сусветнай культуры. А яны, як жабракі, адзін у аднаго крадуць. А жабрак у жабрака можа толькі торбу ўкрасці, і тую пустую. Барыс смяяўся. І дадаў, што ў свеце ўсё й усе звязаны. Потым пайшлі да Сурскага, у якога Барыс спыніўся, Барыс аддаў мне тэкст свайго выступу на плэнэры ў Віцебску, прысвечанага Марку Шагалу. Папрасіў, каб я пераклаў па-беларуску й недзе надрукаваў.

Я паказаў яму малюнкі Дамінічкі. Падабаліся. Здзіўляўся, што ХХ век, малыя малююць робатаў. Я папрасіў што-небудзь мне накідаць у запісную кніжку, запярэчыў, бо гэта, сказаў, паэты адзін аднаму ў запісныя кніжкі пішуць, ён мне абяцаў нешта са сваіх твораў. Тут жа званіў тэлефон, Заборава хацеў Будзінас пачуць. А наогул, мне не зразумелы душэўны стан Барыса. Ці ён адчувае сябе так, як я, калі прыязджаю ў Вушачу, ці ўжо зусім іншая душэўная вышыня прымушае ўважлівей прыглядацца да зямлі, да кожнае драбязінкі. Нездарма ж Барыс заўважыў, што адчуванне распаду, разбурэння, развальвання адразу кідаецца ў Менску. Яшчэ сонечнае надвор’е куды не йшло, а ў холад прыехаў — усе ходзяць самнамбулы, як з іншага свету якога ірэальнага. Усе, хто бачыць Заборава, пазнаюць яго, прыязна вітаюцца. Ад’язджаў выгнанцам, вярнуўся жаданцам. Слова пацягнула ўспаміны.

Барыс казаў, што хацеў бы пабачыць Юлю Бураўкіну, Жадан ў дзявоцтве. […] А яшчэ ўспомніў, як на нейкае паседжанне заваліўся я з авоськай гарэлкі й чацьвяртушкай і крычаў: «Забораў, на выхад!» А потым везлі яго дамоў на «хуткай дапамозе» замест таксі, аж Ірына была спалохалася, пакуль зразумела.

Успомніў верш, які напісаў у ноч перад ад’ездам у Вушачу (27.VI).

* * *

Шчыры бор прашумеў па шчырасці:
— На апошні дом дам сасну.
А сырая зямля па сырасці

Прашаптала: — Прыму труну.
А шырокае неба па шчырасці
Прагрэмела: — Гром праглыну,
Каб у цішы, як іскра з сушша,
Адляцела ад цела душа…

*1 ліпеня, пятніца*

З раніцы званю Васілю дамовіцца наконт паездзінаў у Вушачу. Першапачаткова меліся ехаць 6-га, на Купалку. Васіль хоча перанесці, бо што ўночы рабіць будзем, а свята ж у нас адзначаецца вялікай гарэлкай. Кажу, што Пятроўскі прасіў, каб толькі гальштук не завязваў. Адказвае: «Я ж не Колас[1], які ў грыбы хадзіў пад гальштукам і з дэпутацкім значком. Я гальштук завязваю, калі холадна».

Сустрэча з ветэранамі ў выдавецтве. Штабнікі, карэспандэнты газетаў, смершаўцы[2], заградатрадаўцы ды іншыя […] толькі й ацалелі ў асноўным. Глядзіш на іншага, так і цягне ўзяць кухонны нож і счысціць з іх луску бляшанак да ўсіх круглых і паўкруглых датаў. Медзякі ў шапцы жабрака весялей звоняць, чымся іх узнагароды. Падумаў, гледзячы на ветэранаў, што страшна быць учарашнім днём.

* * *

Рой сам вядзе свой рэй,
Вірам не верыць дно.
Адно за ўсіх хітрэй
Стараннае стырно.

Раўкі зраўняе глей,
Заглушыць мох сляды.
Хадзе за ўсё смялей
Не даганяць гады.

Снег чуе плач саней,
Смяецца змрок агнём.
А мне за ўсё страшней
Быць учарашнім днём.

*2 ліпеня, субота*

Нечарговы сойм БНФ па выніках галасавання й далейшай дзейнасці. Бліскуча выступіў Зянон, наш Падгол прыгожа вымаўляе *ц*. Васіль згадзіўся з маім меркаваннем, што працэнт, які галасаваў за Пазьняка

[1] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).
[2] СМЕРШ — асобыя аддзелы ў войсках Галоўнага ўпраўлення контрразведкі (ГУКР), больш вядомыя пад назвай «Смерць шпіёнам» (1943–1945).

й троху за Шушкевіча, гэта й ёсць рэальны працэнт свядомых беларусаў, росту чакаць не давядзецца. Дэнацыяналізацыя, саветызацыя мазгоў пусціла глыбока карані.

*3 ліпеня, нядзеля*

Калона БНФ з бел-чырвона-белымі сцягам[1]. Астатнія — мора кумачу. Прыйшоў Васіль. Калона пачынае шарагавацца. Аднекуль з'яўляецца Ніл і сцягоў не бачыць нацыянальных у калонах учарашніх людзей, скрушыцца. Ён, бачце, пайшоў бы з калонай БНФ, але ў яго дзяржклопат у Маладзечне, нейкі фестываль, які без яго не адбудзецца. Крыху счакаўшы, рушымся. З тратуараў добрыя воклічы. У нас акрамя чырвані на белчырвона-белым няма, яшчэ сцягі ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі. Расійскага й чырвонаімперскага няма.

Праходзім каля даўгабуду Палаца рэспублікі, Васіль заўважае: «Сімвал недабудаванага сацыялізму». Праспект па вуліцы Купалаўскай перагароджаны АМОНам. Тупавокія, спакойныя, халоднакроўныя [...], апора Кебіча й Лукашэнкі. Ніякія ўгаворы не дапамагаюць. Прарываемся. Прыдаўся мне вопыт гульні ў футболе ў школе й стаянне ў чэргах па хлеб. Націснуў плячом. Неяк прарваўся. Згубіў ў гамане Васіля, азірнуўся, яго плячымі затуліў нейкі рыжы здаравенкі хлопец, дзякуй яму. Трохі прайшлі — новы заслон — і міліцыя, і партмаразмацікі. Яшчэ лозунгі ў наш бок: «Да здравствует Советскій Союз!» Хочацца назад ў хлеў імперыі, да карыта сацыялізму. Нават не раслiннае мышленне, а мышленне чэраўнае. Старэнькі, нямоглы архітэктар Заборскі[2], аўтар праекта помніка Перамогі — з намі, яго не пускаюць. Тады Зянон вырашае йсці да Вялікага Янкі [Купалы].

Мітынг. Пачаў Васіль. Мне далі слова. Сказаў, што хоць я не мастак, але думаю, што з часам, старэючы, чырвоны колер робіцца карычневым. Мы на канкрэтным прыкладзе бачылі. Прачытаў кароткі верш.

Праводзіў Васіля да метро. Гаваруха з Магілёва Раманькова[3] так задурыла Васілю галаву, што ён з усмешкай сказаў: «Раманькова страшней за АМОН бывае». Васіль сказаў, што параза — гаротніца, а ў Перамогі сем нянек. У цэнтры Еўропы ўзнікае запаведнік камуна-[...]. Еўрапейская й сусветная супольнасць павінна рэагаваць на гэта, каб потым не было позна, як гэта не аднойчы здаралася ў гісторыі. Плошча ў крывавых са-

---

[1] Дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 3 ліпеня 1944 г.

[2] Заборскі Георгій Уладзіміравіч (1909–1999), беларускі архітэктар. Народны архітэктар СССР (1981). Заслужаны будаўнік БССР (1961). Акадэмік Расійскай акадэміі архітэктуры і будаўнічых навук (1995). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971).

[3] Раманькова Тамара (пам. 1998), выкладчык фізікі; ініцыятар стварэння Магілёўскага філіяла аб'яднання «Мартыралог Беларусі».

вецкіх сцягах. Здаецца, гарэла ад сораму за шаленства […] камрэжыму. […]

*4 ліпеня, панядзелак*

Званіў Васілю. Згадзіўся паехаць у Вушачу ў панядзелак. А то Пятроўскі інфаркт схопіць — дужа хоча здымаць. Правільна казаў Васіль, з кім ваявалі партызаны. Для немцаў такой небяспекі не ўяўлялі, як хочуць паказаць партызаны. Гэта машэраўшчына[1]. Перад вайной голад. А немцы, іх не варта абяляць, далі зямлю, і сяляне кармілі сябе, партызанаў, яшчэ й падаткі плацілі.

Добра выступіў Васіль па «Свабодзе». Балем пад час чумы назваў ён баляванне на прыродзе Кебіча, Чарнамырдзіна […]. Лучанок[2] іграў у гармонік, як чырвоны конік.

*5 ліпеня, аўторак*

Сёння званочку майму Дамінічцы пяць гадоў! [Малюнак.] Дамінічка мне намалявала. Запытаўся, а як называецца? Адказала: «Запытайся ва ўсіх, хай яны скажуць».

Званіў Васілю, кажа, паедзем на здымкі фільма фактычна на руіны: ад хаты роднае руіны, ад царквы руіны, ад маёнтка, дзе была пачатковая школа, руіны, ад Кублічаў таксама засталіся руіны.

Званіў сёння Пімену. Пайду заўтра забіраць рукапіс новай кнігі. Казаў, што чытаў у «Маладосці» маё слова пра Васіля, падкрэсліў, што я спраўляў Васіліны. Усё добра, але вось наконт тых, хто ваявалі з журналісцкімі блакнотамі, рэзка. Відаць, прыняў на сябе. Запэўніў, што меў на ўвазе іншых. Пераказаў размову Васілю. Той сумна зазначыў, што толькі адзін Твардоўскі[3] ў матэрыяле з вайны недзе каля Лагойска змог узняцца над карпаратыўным мышленнем. Журналістаў ён параўнаў з тымі памагатаямі, якія, калі пілуюць дровы, хакаюць і гэтым дапамагаюць пільшчыкам ці дрывасекам.

[1] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1941–1944 гг. камандзір партызанскага атрада, камісар партызанскай брыгады, сакратар падпольнага абкама ЛКСМБ. У 1965–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[2] Лучанок Ігар Міхайлавіч (1938–2018), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1969, 1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[3] Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910–1971), рускі паэт, празаік, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1946, 1947, 1971), Ленінскай прэміі (1961).

*6 ліпеня, серада*

Рыгор Сітніца[1] завёз мяне да ведуна, ці ведзьмара, Пётры Кухарскага[2]. Малады хлопец праплаваў усе акіяны, акрамя Ледавітага. Барадзішча. Зеленавата-вечаровыя вочы. Абяцаў вылечыць. Сказаў, што ці бабуля, ці дзед мае трохі шапталі, таму й я яшчэ кляваю. Шмат што сказаў дакладна. Лекаваў рухамі й позіркам. Далібог палягчэла. Спытаўся адразу, як імя маё, калі ксцілі. Потым пытаўся, ці падымаў клубок нітак? Мне нельга, пакуль ён лекуе, нікому нічога пазычаць. Купляць, даваць можна.

А паўднём хадзіў да Пімена забіраць рукапіс, як ён сказаў, не дай Бог, апошняга зборніка. Старасць і хваробы, як прасталыткі, дападаюць да ўсіх. Сумна й страшна ў недалёкае перспектыве. Пачаў казаць яму пра Крапіву[3], — хваʹліць. Храбры быў на газетным фронце, піў чай, калі бамбілі. Танка[4] і Броўку шукалі звычайна ў гусцейшых кустах.

*7 ліпеня, чацвер*

Забораў вярнуўся з Віцебска. Званіў, запрашаў у «Планету» на развітальную вячэру. І без мяне там хопіць, ды яшчэ будуць розныя паплаўскія. Гэты ж бабруйсіт нявызначанай нацыянальнасці казаў: «Узколобые белорусики, вшивые белорусаки». Сам як мастак і як чалавекам абазваны не варты нават вошыны беларускае. Дый Барысу Беларусь недзе — экзатычна ці этнаграфічна абазначаная радзіма.

Званіў Цвяткоў, віншаваў: «Ой, ляцела шэра перапёлка»[5] атрымала прыз у С.-Пецярбургу.

*8 ліпеня, пятніца*

Званіў Васілю. Згодны паехаць на ўшацкую зямлю ў панядзелак. Казалі яму, што Бураўкін на забораўскім банкеце драў горла за Лукашэнку, зноў крыўдзіўся на БНФ. Злёгку далі па заду, а чалавеку трэба пасаду. Адна літара сэнс грунтоўна мяняе.

---

[1] Сітніца Рыгор Сымонавіч (н. 1958), беларускі мастак, паэт, выкладчык Беларускага каледжа мастацтваў (з 1983).

[2] Кухарскі Пётр Станіслававіч (1958–2013), вайсковец; урач-фітатэрапеўт. Гл.: Пётра Кухарскі (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 76.

[3] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Акадэмік АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). Народны пісьменнік БССР (1956). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971).

[4] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978).

[5] Дакументальны фільм пра Марыю Рыгораўну Трафімаву.

Прыходзіў Жычка[1] наконт «Выбранага». На пенсіі жыве, пенсія 300 тысяч (у Пімена 340), на ежу, кажа Жычка, хапае, на адзенне не хапае. Але пачаў худаць, і старая адзежа падыходзіць, горш з абуткам. Вясёлая пара — пенсійнае жыццё. Нездарма ж некалі пераказвалі армянскае радыё: «Колькі жыве чалавек?» — «9 гадоў — 7 да школы й два на пенсіі!»

*9 ліпеня, субота*

Дзень нараджэння ў Валі: 55. Хадзіў да Радзіка. Добрыя вершы піша. Толькі няма ўжо на тонкія вершы спажыўцоў. Камуністы рабілі масавага спажыўца, але без густу. Яўрэі ўсе ўстрывожаны выбарамі. […] «Жыў на хутары кот Мірон…»[2]

*10 ліпеня, нядзеля*

Заўтра з кіношнікамі ў Вушачу. Спёка. Чарапы разламваюцца. Народ дружна галасуе. Відаць, пераможа Лукашэнка. […] Званіў Васіль. Заўтра едзем. Геначка (Бураўкін) на «Свабодзе» толькі пальчыкам ківаў у бок Лукашэнкі, што па-беларуску не гаворыць. […] «Узрост цішыні»[3].

* Дамініка: «Рукой няслушна біць мух… Патрудніʹцца я таксама магу».

*11 ліпеня, панядзелак*

Ад’езд на *Вушачу*. За вычварнымі катэджамі, што спаборнічаюць адзін перад адным у безгустоўнасці, машына стала. Кола не ўтрымала духу. Выйшлі, а пасля ўзабраліся па адхону да ляска. Тут і жыта красуе. Васіль доўга паўтараў: «Жыта, жытцо». А продкі пакінулі вечнасць у жыце. Акуратнымі, пашанлівымі рухамі нарваў Васіль маленькі, але зграбны пучок васількоў. Наогул, можна гадзінаміназіраць, як трымае кветкі Васіль. Яны ў ягоных руках робяцца паслухмянымі, а ён трымае кветкі адначасна й аратайна, і святарна.

Прыехалі ў Вушачу. Маладая ахламоначка [у гасцініцы] прымусіла Васіля поўнасцю запаўняць анкету сталінска-кэдэбісцкага ўзору. Мала таго, што ён Быкаў, што ён зямляк, ён яшчэ ганаровы грамадзянін Ушацкага раёна.

На *Бычкі.* Здалёку відаць. Яшчэ ніштаватыя рэшткі кубліцкага касцёла. Васіль успамінае: мы едзем каля Дарошкавіч. Некалі малы прасіўся ў бацькі, каб узяў у Дарошкавічы. Не ўзяў чамусьці. Малому было дужа крыўдна. Толькі ўжо ў 65 гадоў сваіх наведаўся ў Дарошкавічы. Васіль між іншым заўважае: «У свой час трава прарасце, не чакаючы пленумаў

---

[1] Жычка Хведар Змітравіч (1927–2007), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя В. Нэзвала (Чэхаславакія, 1983).

[2] Гл.: «Жыў на хутары кот Мірон…» (9.07.94) // Руны Перуновы. С. 254.

[3] Гл.: Узрост цішыні (10.07.94) // Ксты. С. 332.

і пастановаў камуністаў, якія так і цвярдзілі, што без іх і сонца не ўзыходзіць».

Пад'ехалі да хаты Васілёвай. Калі быў дэпутатам, пайшло пяць гадоў на перамовы, просьбы, угаворы, каб правялі асфальт ад Кубліч да Бычкоў, да Васілёвай хаты метраў 200 не хапіла асфальту. Так і цяпер. Заехалі да брата Міколы. Каля магільніка, зялёнага, зарослага, спыніліся. Васіль пайшоў пакласці на дарагія магілы васількі, якія ірваў на прылеску.

І нарэшце возера Горадня, ці тут яго яшчэ завуць Белякоўскім. Гэта сапраўды нешта боскае. Падняліся на гару, відаць, тут і было калісьці капішча. Дубы высеклі. Некалькі асталося на крутабро'і, бо ніяк не возьмеш. Гара нечым нагадвае — і абрысамі, і тым далёкім вокаглядам — Гару, на якой Ісус казаў сваё Слова. Васіль усміхаецца, што жрэц недзе сядзеў, як сакратар абкома ці райкома. Горадню Васіль успамінаў далёка ад дому. Горадня ў адрозненні ад вёсак, мястэчак, не змянілася. Тыя ж мясціны, тая ж краса. Адхонаваты, дакладней, стромы бераг працілеглы, парослы дрэвамі ў некалькі ярусаў, роўнай сцяной стаіць на самім жа сабе, адлюстраваным у глыбокім возеры. Дзе бруёк, здаецца, затушоўваюць. Малому Васілю дужа хацелася злавіць метровага ці даўжэйшага сама. Васіль, гледзячы на лес на тым баку, заўважае, што дрэвы паміраюць сем'ямі, не па аднаму.

Па дарозе распявядаў, як пасля вайны ў Нікалаеве на Дзень ваеннамарскога флоту наладзілі народныя гулянні. Разыгрываўся марскі бой, высадка марскога дэсанту. Артылерыя павінна была страляць па дэсанту. Снарады з порахам, толькі замест галоўкі парафін. Народу, асабліва разявак, напхалася процьма. Усе пруць на гарматы. Ужо блізка. Ужо дэсант высаджваецца на ўвесь размах. І Васіль знячывелі аддаў каманду. Пасля першага залпу натоўп заякатаў ёкатам. А яшчэ й яшчэ залпы зрабілі рэдкімі статычныя прагалы. Хто валіўся на зямлю, хто бег. А гарачы парафін пёк здарава. Васіля адразу на гаўпвахту. Звыш тыдня сядзеў.

Каля гасцініцы Уладзімір Хвошч[1], народны дэпутат, наш кавалеўскі малец, прапанаваў Васілю: «На каньяк выбачайце, а сваёй, жытняй, магу пачаставаць». Васіль, вядома, адмовіўся, але дужа гэта шчырая прапанова была. З познім вярнуліся ў Вушачы. Прасіў Васіля да нас у хату, застаўся ў гасцініцы, дзе, дарэчы, не было вады, каб хоць рукі памыць. Іду вуліцай па Вушачы, і здаецца, што ніколі нікуды не выязджаў. Такая памяць у душы, што аж страшна робіцца.

«Зноў»[2]. Начлег на родным, крыху мадэрнізаваным гарышчы. Цішыня й камары адно адну выключаюць.

---

[1] Хвошч Уладзімір Іванавіч (1943–2001), у 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

[2] Гл.: Зноў (11.07.94, Ушачы) // Ксты. С. 260.

*12 ліпеня, аўторак*

Бычкі. Хата, дзе жыве Мікола, з панскага бору бярвенне. Толькі паскіпалася ад часу, а так, як звон. Тут адну зіму вучыўся Васіль. У большай палавіне стаяла два сталы, было сем вучняў. За хатай пачынаецца балотца. Старэйшы сябра Галавач павёў Васіля на балотца. Зрэзаў трасцінку — даў. У школе настаўнік даў пяро, уторкнуў пяро ў чарацінку — і ручка, да якой прывыкала рука, каб пасля напісаць тое, да чаго свет прыслухаўся. Хата Міколы ўтульная. На сцяне фота Васіля 45-га года. Малады, з баявым ордэнам. Гэта адзін раз убачыў яго з ордэнам. Унізе фотакартка, дзе бацька Васілёў на Першай сусветнай [вайне] з сябрам стаць на ўвесь рост, адпаведна ў форме царскае арміі. Хата Васіля на замку. Бацька перад смерцю у 1966 годзе пасадзіў каля хаты два дубкі. Разрасліся, станістыя зрабіліся. Мікола тлумачыць: «Далі адросці, аж у яму (склеп) пайшлі». Гонт на страсе пачарнеў, астарэў. Хата здаецца старой русалкай з пачырванелай, памшэлай луской. Васіль сядзіць перад камерай: уражанне тлену, пагібелі, канца жыцця.

«Людзі павінны жыць дома, а для нацыі гэты дом — Бацькаўшчына, асабліва ў час размывання этнамежаў.

Не толькі чалавек, цэлая нацыя бывае ў стане разгубленасці.

Узаемазалежнасць народаў, і тут шмат залежыць ад адной нацыі.

Рызыка на вайне мае пэўную й хуткую выніковасць — ці перамога, ці пагібель. У пасляваенны час не так: чаргаванне перамог й паразы хуткаплыннае.

Якія няўдачы ў жыцці галоўныя, вызначыць цяжка, іх шмат.

Нам шмат гадоў, але ўсё залежыць ад волі народа. Вера страчана, хочуць знайсці Майсея, які б павёў назад у камуністычнае рабства».

*Ці вернецца Бог на Беларусь?*

«Бог вернецца, калі беларусы запросяць яго, калі адчуюць патрэбу ў ім. А пакуль што такое патрэбы няма.

Пчолы й жанчыны не любяць п’яных, адсюль лагічны вывад.

Бог жыве ў тых народах, якія маюць у ім патрэбу, або ў тым народзе, які з ім ніколі не расставаўся. Беларусам хочацца назад, у егіпецкае рабства».

Перапынак здымкаў. Садзіцца ў цянёк. Адрывае гожую кветку й дае мне, тлумачыць: «Каля крапівы ратуецца кветачка, а так бы яе з’елі. Сляпні — гэта беларускія пчолы, перакваліфікаваліся: нашто насіць мёд, калі можна кроў з кароў ды коней смактаць».

*Ці хацелася б сустрэцца з франтавікамі, што на фота?*

«Некаторых памятаю, лёс шмат якіх не ведаю. Восенню 44-га года мы рассталіся. Мне было 20, былі за мяне ўдвая старэйшыя.

Людзі, абкрадзеныя нашай сучаснасцю, не ўяўляюць, што яны маюць права на лепшае. У выніках перамогі трэба разабрацца».

*Якімі бачыліся гэтыя мясціны ці ў дождж, ці ў снег?*

«15 гадоў пасля вайны не жыў на Беларусі. Ушацкія алешнікі заўсёды жылі ўва мне. Ідэалізаваны вобраз у расстанні асабліва прывабны. Гэтае азярко, возера гэтае, захавалася ў першазданным выглядзе да нашых часоў, здаецца. Усё існуе стагоддзямі. Духоўнае апірышча, сіла, Богам дадзеная для нашай прыроды, нашаму народу, можа, і народ, нацыя захавае сябе. Прырода паказвае сваю моц, сваю нязломнасць перад націскам цывілізацыі, самаўзнаўляецца. Богам наканавана ўсяму жывому працівіцца гвалту. У чалавеку Богам закладзены сілы для супраціўлення. Антычалавечнасць нейкай метафізікай. Усё ад Бога. Спадзяванне на Богам закладзеную сілу. Чалавек вытрывае, першым чынам абапіраючыся на сваю боскую сілу. Калі грамадства становіцца на шлях зла, тады чалавечая існасць выяўляе ў сабе чыста боскія сілы для супраціўлення».

*Якое любімае мейсца на зямлі?*

«Добрых мясцінаў на зямлі шмат, ды ўсё-ткі чалавек прывязаны да пэўнай мясціны фактам свайго нараджэння, незалежна ад умоваў, людзей, выгодаў. Добра ў свеце не будзе, калі людзі будуць цурацца свайго. Нацыя, якая не мае сваіх каранёў, знікае. Кожная нацыя й людзі павінны жыць дома. Хто страчвае мейсца свайго нараджэння, ці асімілюецца, ці ўступае ў супярэчнасць з мейсцам свайго абітання. Так і часткі этнасу. Цэлыя народы, якія маюць сваю зямлю, але не маюць сваёй дзяржаўнасці, знікаюць».

*Пытанне, якое б хацеў задаць сабе самому?*

«Гэта: што ёсць народ? Мне хочацца болей канкрэтыкі, хачу чуць, бачыць, адчуваць гэты тэрмін. Каб мог сказаць: гэта сяляне, гэта рамеснікі, частка народа. Але не магу спасцігнуць, як смерць, як сусвет, чаго не можа ўспрыняць мой розум. На вайне смерць хадзіла блізка. Асабліва гэта адчувалі на пярэднім краі, у пехоце асабліва, тут яго чарга. І калі нехта гінуў, здавалася, што ён быццам аддаліў тваю чаргу, аддаў даніну вайне. Усе былі мы гатовы, што загінем, пра канец вайны й не думалася. Хмельнае адчуванне жыцця ўзнікла ў дзень Перамогі. Надзея на жыццё жыла асабліва ў маладых людзей. Здымалі, здымаюць фільмы пра вайну. Галоўнае, што перашкаджае дабіцца праўды, гэта пачуццё пастаяннага адчування смерці, як у асуджаных на пакаранне, дык у актораў гэтае падсвядомае, падкоркавае пачуццё адсутнічае.

Бачу сны даволі часта. Я сам для сябе стварыў сімвалічную шкалу прадказанняў у снах. Трэба талкаваць сны. З гадамі сімволіка мяняецца. Я валодаю прадказаннем наступнага дня. Кожны можа стварыць пэўную сістэму сноў і сувязі з рэальнасцю.

Пачуццё нянавісці прышчаплялася. Вайна была справядлівым змаганнем з найвялікшым злом — фашызмам. Была еднасць мэты народа й партыі. Уся сусветная супольнасць змагалася з гэтым злом».

Дапякаюць сляпні й камары. Калі ў кадры будзе камар, стане зразумела, чаму Быкаў махае рукамі. Шмат у нас рукамахальнікаў. Бо ні дыпламаты, ні арыстакраты рукамі не махаюць.

«Калі доўга стаялі ў абароне, справіў фуражку (на фота), а пасля, каб наступаць, памяняўся з тылавіком на пілотку, бо на яе можна было надзець каску. На Украіне фасоля й бараболя, а ў Малдове усё было — і кілбаска, і вяндлінка, і віно, і арэшкі. Помню, на Вялікадне зайшлі ў царкву, ішла служба. Чую, нехта лезе ў кішэню. А гэта цётачка суе мне ў кішэню кавалак куліча. За чатыры месяцы ў абароне мы ўсё з'елі, засталася толькі мамалыга. А пасля выселілі малдаванаў з іхніх жа жытлішчаў, дазваляючы забраць толькі што на вазок месціцца. А ўсё забралі інтэнданты. Дужа было нялоўка перад гэтымі гасціннымі людзьмі».

*Настаўнікі ў жыцці?*

«Найболей далі добрыя настаўнікі, якія дзяліліся дабрынёй. Клаўдзія Якаўлеўна расійскую мову й літаратуру (выкладала). Андрэй Дзямянавіч Курчанка беларускую мову й літаратуру. Быў строгі. За строгасць люблю. Мне ён заўсёды ставіў пяць. Такі добра вывучыў беларускую мову. Хоць 15 гадоў не карыстаўся ёю. Дабрыня як выхаваўчы фактар мае шмат дадатнага. Я быў вучань вельмі аднабаковы. Змалку захапляўся літаратурай, кніжкі чытаў і на нецікавых уроках Жуля Верна[1], Вальтэра Скота[2] ці Гайдара[3]. І здаралася гэта, хоць і дарма, на нямецкай мове. У 6-м класе выклікаюць да дырэктара, па ўсіх прадметах пяць, а па алгебры тры. У першай палове майго жыцця трэба была матэматыка, бо артылерыя на ёй завязана. Пасля — беларуская мова.

Мала засталося сяброў. Васіль Паршонак годам маладзей. Іншыя сябры ў вайну пагінулі, былі й сябры яўрэйскай нацыянальнасці, Лейба Свярдлоў расстраляны ў Вушачы разам з кубліцкімі яўрэямі. Быў Шурка Андрэйчык, сядзелі на адной парце, мы з ім каапераваліся: ён рабіў матэматыку, а я яму — дыктанты памагаў».

*Калі б здарылася магчымасць ўсё пачаць спачатку?*

«Калі я пайшоў гэтай дарогай, гэта не значыць, што я яе выбраў. Мы былі рэгламентаваны. Знешнія сілы кіравалі мною й усімі. Пасля трыццаці гадоў адчуў, што нешта залежыць і ад мяне, тут ужо рабіў больш-менш свядомы выбар. Цяпер бачу, як важна быць вольным, хай і воля гэтая дае

---

[1] Верн Жуль (1828 —1905), французскі пісьменнік.

[2] Скотт Вальтэр (1771–1832), англійскі пісьменнік.

[3] Гайдар Аркадзій Пятровіч (сапр. Голікаў; 1904–1941), рускі пісьменнік.

мінімум для існавання. Але чалавек можа быць сабой, хай і памыляецца ў выбары. Дасюль не мелі й не маем мы такой магчымасці.

Сястра[1] глядзіць, якой лухтой брат займаецца, за гэты час яна б лехі выпалала.

— Я цябе, браток, даўно не чула.

— Уключы радыё, і там гавораць.

— Не тое».

Цікава было слухаць бычкоўскую гаворку, тую мову, якую чуў Васіль з калыскі. Валя Быкава: «Ён адма′лі такі ганарысты; па трыдарагі′ плоцяць; гоняць самагонку ў адкрытну′ю; ён сябе не ўшанаваў; ён такі лізун (падліза)».

Гляджу на цыбулю й кажу: як тынок. Мяне неўпрыкмет папраўляюць: цыбуля, як гай. Адразу й дужасць, і гушчыня, і пошум. Сядзім у Міколы за сталом. Яешня ў калена, па-ўшацку. Кіндзюк. Цыбуля са смятанай. Самагонка шчырая й самагонка закрашаная. Добра, як у Васіля ёсць да каго прыехаць. Душой прыхінуцца да каго. Мікола распавядае, як у Менску быў прапаў, а Васіль хваляваўся, што згубіўся, а Мікола кажа: «Я адну вуліцу заняў і пагнаў». Гэта, значыць, недзе ад Галоўпаштамта аж да Камароўкі гнаў праспект. Васіль цёпла пакеплівае: «Брат у мяне гаспадар, не то што я. Каму трэба які цвік, дык усе перабярэ, перамацае, праверыць, а потым ужо купіць». Антаніна прыгаворвае: «Хто з языком, той з пірагом». Кажуць, што Паршонак выступаў супроць БНФ, супроць Пазьняка й Быкава. Валя за Пазьняка, нават Шурка[2], ейны мужык, і той за Пазьняка ледзьве з вяскоўцамі, з ваўчэнямі, не пабіўся. На лужку каля хаты сталі, Васіль распавядае, што нявестка з сынам прыехала некалі ў Бычкі й праз тры дні ўцякла — камары дапяклі.

У аўтобусе на Менск; пытаюся ў Васіля пра самыя прыемныя ўражанні малых гадоў. Адказвае, што самыя прыемныя да калгасаў запомніліся. Тройца. Бацька апрануўся ў лепшае, узяў Васіля, каб паглядзець, як красуе жытцо. На мяжы рамонак і васількі. Бацька наламаў бярозавага веццяа, прыйшлі дамоў, умаялі хату. Які прыгожы быў май — і цяпер помніць пах тога маю. Калгас стваралі й угаворамі, і пагрозамі. Дзядзькоў, якія стараліся куды схавацца, лавілі, сарамацілі. За трое сутак калгас стварылі. Раніцай (якраз быў сакавік) маці загаласіла голасам, хоць заўсёды рахманая, плакала цішком. Раніцай выграблі ўсё зерне падчыстую. У хаце засталося паўбуханкі хлеба. Частыя сваркі былі з боку бацькі. Маці маўчала. Бацька наробіцца ў полі, прыйдзе й хоча хлеба, каб бялёную крупеню прагнаць. Бацька раіў прадаць маленькі апошні кумпячок і купіць хлеба, а маці пярэчыла, бо посніца задушыць. І колькі б ні казалі

---

[1] Быкава Валянціна Уладзіміраўна (1926–2016), сястра В. Быкава.

[2] Шамук Аляксандр Ігнатавіч (1933–1998), муж В. Быкавай.

пра калгасы, сэрца ў Васіля да яго не ляжыць. Вось чаму так глядзеў на жытцо пад Менскам і рваў валошкі — на магілу.

* Дамініка: «Мы падобныя з катом — у мяне дзве нагі, а ў ката два вухі».

*13 ліпеня, серада*

Да Пётры [Кухарскага]. [...] Званілі з мінкульта, каб быў на 25-годдзі «Песняроў[1], а заадно на адкрыцці помніка Караткевічу ў Віцебску. [...] цэлы год не адкрывалі помнік, каб прылучыць да Славянскага кірмашу. Параіў: хай адкрывае Наталля Машэрава[2] [...].

*14 ліпеня, чацвер*

Званіў Васілю. Званілі з Вярхсавета, што нарэшце медаль Скарыны яму далі, але трэба 2 здымкі. Параіў Васілю ў наступны раз паслаць па фота ў КДБ.

Вёў дамоў Дамінічку, казала, што кату Мірону трэба ўзяць сяброўку, і наогул, каб была ў нас вялікая сям'я, трэба ўзяць яшчэ сабачку й сучачку. Хочацца крывінцы маёй сям'і.

*15 ліпеня, пятніца*

Праца. Званіў Зуёнак наконт Віцебска й адкрыцця помніка Караткевічу. Параіў пазваніць Васілю. Васіль Васіля паставіць на мейсца. Чыркары будуць брахаць, што не прыехалі сябры. А Васіль параіў перанесці на колькі дзён адкрыццё. А то й помнік прыватызавалі камуністы. Помнік хочуць адкрыць у дзень смерці Уладзімера. Трэба пераканаць Бураўкіна, у дзень пахавання ці смерці не па-хрысціянску. Васіль пра Зуёнка: «Ён настолькі шматгранны, аж круглы».

*16 ліпеня, субота*

Дамінічка з раніцы пяе: «Белы, белы, белы свет, а на свеце людаед». Рыфмуе лепей, чымся Чарняўскі ці які Маляўка. Стаіць спёка, аж вушы вянуць. [...] Вечарам у Навума глядзеў перадачу з сынам Берыя Сярго[3].

---

[1] «Песняры» — беларускі вакальна-інструментальны ансамбль (з 1969). Мастацкі кіраўнік У. Мулявін. *Мулявін* Уладзімір Георгіевіч (1941–2003), беларускі артыст эстрады, кампазітар. Народны артыст БССР (1979). Народны артыст СССР (1990). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1980).

[2] Машэрава Наталля Пятроўна (н. 1945), выкладчык БДУ. Доктар філасофскіх навук. У 1991–1994 гг. прэзідэнт Беларуска-расійскага саюза імя П. Машэрава. Дачка П. Машэрава.

[3] Гегечкорыя (Берыя) Сяргей Лаўрэнцьевіч (1924–2009), савецкі канструктар Кіеўскага НДІ «Камета». Доктар фізіка-матэматычных навук (1952). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Сын Л. Берыя. *Берыя* Лаўрэнцій Паўлавіч (1899–1953), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч.

[…]. Бачце, яго запрашаў у Грузію […] Шэварднадзе[1] на адказную пасаду, але ён не можа, бо няма чырвонай імперыі. Сядзіць […] й хваліцца, як падслухоўваў на Тэгеранскай канферэнцыі Трумэна[2] й Чэрчыля[3]. […] Судаплатаў[4], генерал арганізацыі імя Берыя, таксама выгароджвае шэфа. […]

*17 ліпеня, нядзеля*

Цэлы дзень шалеў ад духаты й пісаў, каб не звар'яцець, вершы. «Але», «Далонь»[5], «Вочы ваʹды»[6], «Як думка»[7], «Чакае труна»[8].

*Закот*

І я ўздыхаю па сваім закоце.

*Ду Фу*

Сонца перад закотам.
Следам ціхія цені,
Як ахвяры за катам.

І трывога гусцее.
І цвярдзее здранцвенне.
І дарога кусцее.

Рэха дрэмле за пушчай.
Цемры хочацца соўцы,
Каб зрабіцца відушчай.

Страх цікуе па-воўчы.
І закоціцца сонца.
І закоцяцца вочы.

---

Міністр унутраных спраў СССР (1938–1945), адначасова нам. старшыні СМ СССР (1941–1953). Расстраляны.

[1] Шэварднадзе Эдуард Амвросьевіч (1928–2014), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1992–1995 гг. старшыня ВС Рэспублікі Грузія, у 1995–2003 гг. прэзідэнт РГ.

[2] Трумэн Гарры (1884–1972), прэзідэнт ЗША (1945–1953).

[3] Чэрчыль (Чорчыл) Уінстан Леанард Спенсер (1874–1965), дзяржаўны і палітычны дзеяч Вялікабрытаніі. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1953).

[4] Судаплатаў Павел Анатольевіч (1907–1996), савецкі разведчык, супрацоўнік НКГБ. Генерал-лейтэнант міністэрства унутраных спраў СССР (1953). Быў рэпрэсаваны (1953–1968).

[5] Гл.: Але; Далонь (17.07.94) // Ксты. С. 286; С. 293.

[6] Гл.: Вочы ваʹды (17.07.94) // Босая зорка. Мінск, 2001. С. 58. (Малафарматнае выд-не.) Верш прысвечаны П. Кухарскаму.

[7] Гл.: Як думка (17.07.94) // Ксты. Выд. 2. С. 173.

[8] Гл.: Чакае труна (17.07.94) // Дзённікі і запісы. Вып. 5. 1989–1991. Мінск: «Кнігазбор», 2018. С. 174.

*18 ліпеня, панядзелак*

З раніцы на лецішча да Васіля. Трэба кадры з дажджом. Прыехалі. Акуратна загорнутую аж у два цалафанавыя мяшэчкі (ежу) раздзяліў паміж двума сабакамі. Найдзе паклаў каля зыгарадзі у сваім двары. Яна спачатку ўхапіла сасіску. Потым да Рыжыка. Бедны сядзіць на ланцугу, бо з рэўнасці да Найды (яе нехта пагладзіў) дык пакусаў. Выцягваю запісную кніжку. Васіль кажа: «Добра, што носіш запісную кніжку, я ўсё збіраюся завесці. Бо часам трэба нешта запісаць, што тут жа забудзецца». Пытаюся, ці пішацца яму ў сябе на лецішчы. Адказвае, што не пішацца, усё напісаў дома. Кажу, што Шамякін пячэ свае опусы на дачы. Васіль адказвае: «Шамякін у жаночай сям'і, яму й кава, і яешня. А тут прыедзеш, то завесы, то дзверы — усё трэба дагледзіць, даладзіць». Дзве цагліны ад падмуроўкі падмазаны — глядзіць, ці схапіўся раствор. Усё любіць дагледзіць. Падымаемся наверх у яго так бы кабінет. Кажа: «Ужо дзесяць гадоў прайшло, як пабудаваўся. А нічагуткі тут не напісаў». Гарод у Васіля своеасаблівы — з 7-мі бярэзінак. Сумна заўважае: «Як стане кепска, прадам бярозавы гаёк на дровы каму-небудзь з багатых дачнікаў, у каго сучасныя за'мкі. Па 10 даляраў за бярэзінку. Дадуць. А яны ж яшчэ падрастуць, убяруцца ў сілу».

Сяргей Пятроўскі здымае, я нешта балбачу, Васіль прыгожа, пагодліва ўсміхаецца. Сяргей просіць глыбакадумны выраз зрабіць. Васіль: «Як успомніш сучаснае жыццё, ураз глыбокадумным робішся». Напарнік Сяргееў палівае са шланга, напор слабы, калі шланг падымаецца, болей вады на Васіля, на ногі ў басаножках. Васіль цярпеў-цярпеў, нарэшце: «Хутка буду, як генерал Карбышаў[9]». Калі накідвалі на яго плаш-накідку, паказаў на прарэхі для рук і жартама запытаўся ў мяне: «Навошта гэта?» І сам адказаў: «Каб здавацца, каб лёгка было падняць рукі ўгору». Зноў распавядаў, як яго выклікаў да сябе [...] кэдэбісцкі Рудак[10] і казаў, што пад час партызаншчыны на Палессі ён начальніку паліцыі з прозвішчам Быкаў з парабэлума стрэліў у скронь, і мазгі на сцяну пырснулі. Потым прапанаваў напісаць нешта пра доблесных чэкістаў. Паклаў перад Васілём багата адаптаваных яўна матэрыялаў. Васіля адзін чэкіст як бы зацікавіў. Праз нейкі час у гасцініцы быў дзядзька з лепельскага лесгаса, недзе на смалакурні працаваў. Давай, кажа, вып'ем. Выпілі, і расказаў Васілю, што спачатку немцы завербавалі ў палоне, а пасля бальшавікі. Усё яму надакучыла. Праз які час у анонсе «Знамя» было: «Быкаў. Аповесць пра чэкістаў». Дудкі, падумаў Васіль і ніякіх спраў не меў з імі.

---

[9] Карбышаў Дзмітрый Міхайлавіч (1880–1945), савецкі ваенны інжынер, генерал-лейтэнант (1940). Герой Савецкага Саюза (1946). У пачатку Вялікай Айчыннай вайны, ранены, трапіў у палон. Загінуў у лагеры Матхаўзен, замарожаны ледзяною вадой.

[10] Рудак Аркадзь Дзянісавіч (1911 — ?), нам. старшыні КДБ БССР (1960–1971).

На працы сустрэўся ў дзвярах унізе з міністрам Бутэвічам наконт паездкі ў Віцебск на адкрыццё помніка Караткевічу. Адказаў, што пад сцягамі славянскіх сабораў ды кірмашоў і не падумаю, не хачу танцаваць пад музыку машэраўскіх [...] А то ён, бачце: не зразумеюць садружніншчыкі. Будзе Дзень Беларусі. І гэта на беларускай зямлі — Дзень Беларусі. [...] Ала Пугачова[1] з Кірковавым[2] будуць мне выдзяляць час на сустрэчу з бронзавым сябрам.

Вечарам у Купалаўскі тэатр. Глядзеў «Нежанаты мнагажэнец». Сам жа перакладаў. Паколькі ўсё дужа добра ведаю, цікавасці было мала. Ігралі акторы паміж добра й здавальняючы.

* Дамініка: «А ў ката Міруты пад хвастом яшчэ хвосцік маленькі, як у зайчыка. Як ён завецца?»

*19 ліпеня, аўторак*

Зуёнак зноў наконт Віцебска. Хай едзе сам, ён начальнік. Званілі ад прэзідэнта. Заўтра будзе прымаць прысягу, магу, значыць, і я прысутнічаць на гэтым шоу. Званіў маладзенькі хлопчык на добрай мове нашай. Яшчэ, відаць, наіўны, бо параіў мне прыйсці раней, а то мейсцаў не будзе. Гэта па-славянску гасціннасць. [...] Хай гуляюць. Гульня небяспечная, бо на ўладзе грунтуецца.

* * *

*[N.]*

У душы як не на самым дне
Ты адна.
Табой душа жывая.
Так глыбока
Ты ўвайшла ў мяне —
Як з вякоў,
Твой воблік усплывае.

Усплывае,
Каб цягнуць на дно
Зноў маю развагу й раўнавагу.

Цёмнае ўстаялася віно,
Ашукаўшы маладую смагу.

---

[1] Пугачова Ала Барысаўна (н. 1949), руская эстрадная спявачка, кампазітар, эстрадны рэжысёр. Народная атыстка СССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1995).
[2] Кіркораў Філіп Бедросавіч (н. 1957), расійскі эстрадны спявак, актор, прадзюсар. Народны артыст РФ (2008), народны артыст Украіны (2008), народны артыст Малдовы (2018).

*Чара*

*[N.]*

Ты, як тая чара кругавая,
Што з прадоння хмельнага ўсплывае.
Усплывае,
Каб цягнуць на дно
Зноў маю развагу й раўнавагу.
Цёмнае ўстаялася віно,
Ашукаўшы маладую смагу.

*20 ліпеня, серада*

Іду на працу. Міліцыянты. Нарэшце выццё «канарэек», і з'яўляюцца «членавозы». Лукашэнку на каранацыю павезлі. Па радыё чуў грунтоўнае, годнае выступленне Зянона. [Лукашэнка] сказаў колькі фраз прысягі па-беларуску, а потым перайшоў на язык партии [...]. Сімптаматычна. Як ранейшыя машэравы-слюньковы. Генадзь званіў Васілю, яго, беднага, не запрасілі. Паказвалі [...] Станюту[1], [...] Савіцкага[2], цішайшага. Для Генадзя гэта кепскі званочак. Не дадуць нічога.

Хадзіў да Пётры. [...] Было ўключыў радыё. Там нязменны Анісенка[3] вядзе «Мост». Нейкі яўрэй з нашых, але ўжо адтуль, прыходзіць у цялячае замілаванне ад радкоў расійскага [...] Андрэя Дзяменцьева[4]. І пачынаюць: «В Иерусалиме выпал русский снег». Чаму русский? Што ён, з Масквы, разам з ідэямі Кастрычніка? А што, у Ізраілі няма свайго снегу? Расійскія шавіністы ўсё прыватызавалі. Засталося хіба што толькі сонца ды месяц.

*21 ліпеня, чацвер*

На працы. Памёр Рубанаў[5]. Раптоўна. Яшчэ малады. Шкада.

---

[1] Станюта Стэфанія Міхайлаўна (1905–2000), беларуская актрыса. Народная артыстка БССР (1957). Народная артыстка СССР (1988). З 1931 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы.

[2] Савіцкі Міхаіл Андрэевіч (1922–2010), беларускі мастак. Народны мастак БССР (1972). Народны мастак СССР (1978). Акадэмік НАНБ (1995). Герой Беларусі (2006). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1973), Дзяржаўнай прэміі СССР (1970, 1980), Дзяржаўнай прэміі РФ (1996).

[3] Анісенка Валерый Данілавіч (н. 1944), беларускі рэжысёр, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). У 1982–2000 гг. гал. рэжысёр Белрадыё.

[4] Дзяменцьеў Андрэй Дзмітрыевіч (1928–2018), рускі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (2004). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1981), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[5] Рубанаў Уладзіслаў Якаўлевіч (1952–1994), беларускі пісьменнік. У 1986–1994 гг. заг. рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1990).

Сядзеў даводзіў да ладу другі экземпляр рукапісу «Аратая…». Трэба тое-сёе раздрукаваць. Пра Валодзю [Караткевіча] ўспаміны прачытаю на радыё. Хутка трэба збірацца ў Вушачу. А ў мяне са справамі ані ў бабкі гарох. Стараешся не думаць пра палітыку, пра ўрад, але агіда ад аднае думкі такая, што не адмыцца. […]

*22 ліпеня, пятніца*

Да Навума. Самотны мудрэц. А мудрэц і не можа быць запабежлівым перад табуном двуногім.

Пісаў вершы — ратаваўся ад нейкага надлому ў душы, ад разгубленасці й няпэўнасці. «Вір»[1], «На плячы»[2]. Няма Радзіка. Прыедзе — пачытаю. Ён мой самы лепшы чытач.

*23 ліпеня, субота*

Збіраюся на сойм БНФ. Званок з мінкульта. Па-расійску. Паведамляюць, калі ад'езд у Віцебск на славянскі балаган. Яшчэ раз паўтарыў, што нічога агульнага з камуністамі-шавіністамі не маю. […] У Палацы мастацтва соймавая канферэнцыя. Два пытанні: 1. Аб палітычным становішчы, задачах Фронту й выбарах у Вярхоўны Савет. Даклад Зянона, судаклады Баршчэўскага й Голубева. Абмеркаванне. 2. Аб арганізацыі структураў БНФ і перадвыбарчай дзейнасці. На гэтым пункце не быў. Зянон і Баршчэўскі кепска выглядаюць — дабілі клопат і мітрэнга […]. Беларусь нічога добрага не чакае. Атачэнне [Лукашэнкі] прарасійскае […]. Можна чакаць двухмоўя, далейшага абвалу, і яшчэ могуць заняцца пошукамі ворагаў па-савецку.

Дарэчы, прыгадалася, як Васіль на гарушцы каля Горадні ўбачыў валун і адразу ж падумаў, як бы на магілу Адамовіча яго перавезці. Інтэлігентна-аратайны клопат пра свайго сябра.

*24 ліпеня, нядзеля*

Адкачаўся з галавой. Перачытваў Рыльке[3]. Дамінічка пяе нейкія песенькі: «Чакай мяне й там, і тут». Цікавая логіка. Падумалася. Як алкаголік, хоць два дзесяцігоддзі не піўшы, раптам вып'е — за які тыдзень дойдзе да зыходнага пункту непрабуднага запою. Таксама й савецкае, наіўна лічыць, што былое; грамадства за лічаныя дні выйдзе на апошнія дасягненні — душыць, садзіць, гнясці.

---

[1] Гл.: Вір (22.07.94) // Ксты. С. 324.

[2] Гл.: На плячы (22.07.94) // Руны Перуновы. С. 431.

[3] Рыльке Райнер Марыя (1875–1926), аўстрыйскі пісьменнік, перакладчык.

*25 ліпеня, панядзелак*

Вяду Дамінічку з садка. Кажу: «Будзеш вучыцца ў беларускім ліцэі», — а яна пытаецца: «Што я, лічыць буду?» Дужа тонка чуе слова. Шкада, што рускамоўнае атачэнне.

*У гасподзе Радэна*[1]

І знайшоў пункт апоры мысліўца.
Аблакацілася думка, каб зноў
Хмаркай
З цемрай відушчаю зліцца
Недзе ў космасе сэнсаў й высноў.

На дзядзінцы ў гасподзе Радэна
Нехта сцішаны йдзе па траве
І хаваецца ў зацень імгнення,
Ў зацень славы,
Што тайнай слыве.

Што змушае абранца старацца,
Не адкажуць ні вецер, ні клёк.
Прыганятая таленту — праца
На сябе пазірае здалёк.

Вечарам хадзіў да Юрыя Іванова[2], ён з Барысам Луцэнкам знялі фільм пра немца, які назначыў пенсію жанчыне з Лёзна, што даглядала магілы савецкіх салдатаў. У немца бацька загінуў недзе ў Расіі. Лётчык. Застаўся толькі след у небе. Фота няма. Толькі фота сабакі бацькавага. Жахлівы кантраст паміж пераможанымі й пераможцамі. Рэжысура нашая тры п..ды попелу не варта. Толькі такуюць, як Машэраў за трыбунай. Не нацыянальныя. Так званыя інтэры.

Галава — аднаасобніцкая гаспадарка,
І як засеяць загон,
Кожны сам мусіць паклапаціцца.
Каб жаданне з мажлівасцю супадала,
Каб ураджай даваў плён:
Ці пшаніца, а ці макрыца.

Што галаве свой плён:
Ці шуміць пшаніца,
Ці слепне макрыца,

---

[1] Радэн Агюст (1840–1917), французскі скульптар.
[2] Іваноў Юрый Сяргеевіч (н. 1939), беларускі фотакарэспандэнт, фотамайстар.

Ці смяецца пшаніца,
Ці слепне макрыца.

*26 ліпеня, аўторак*

На працу заходзіўся Чыгрынаў. Пабедаваў, што [...] неяк трэба прыспасабліваццца, падладжвацца. Параіў яму ва ўпор не заўважаць. Ды гэта не па ім. Васіль глядзеў урачыстае паседжанне — Ніл хоць як прытыкіш сядзеў у прэзідыуме ў першым радзе. Ніл — беларускі Молатаў[1], пры ўсіх, бо зад жалезны.

*Толькі*

І мы не жалезныя,
Мы з тлену й надзеі,
І мы не глухія,
Ты, вораг, нам не крычы!
Мы незалежныя,
Нам ярмо не надзенуць,
Мы — крывічы.

Мы ў жаданай залежнасці
Толькі ад Госпада Бога.
Беларускае неба з пагардай
Пазірае на чужакоў.
З непазбежнасці,
З markup розніца
Пачатак брала дарога,
Што ў вякі павядзе нас
На векі вякоў.

І з усходу, і з захаду, хіжыя,
Нас цяснілі суседзі,
Ім хацелася нашай,
Ім сваёй не хапала зямлі.
І ў катоўнях мы выжылі.
Беларусь,
Маладзіца,
Спадарыня,
Лэдзі,
За сваю незалежнасць
На змаганне
Адданых пашлі.

[1] Молатаў Вячаслаў Міхайлавіч (сапр. Скрабін; 1890–1986), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, дыпламат. Герой Сацыялістычнай Працы (1943).

Заўтра трэба чытаць на мітынгу незалежнасці ў Купалавым скверыку. Незалежнасць нашая ўсё-ткі пэўным чынам ліпавая, бо ў ліпені прынята, у месяц ліпаў. Сапраўдны Дзень Волі 25 сакавіка. Тады сок разрывае ствалы дрэваў, тады рэкі скідваюць самы таўсты лёд. А праз 5 дзён, 30 сакавіка, дамавік ладзіць вяселле. Значыць, дом абжыты. Значыць, дом апякуецца. [...]

*27 ліпеня, серада*

Ад плошчы Незалежнасці ў сквер Купалаў. Калі калоны разваліся (?), запытаўся ў палкоўніка міліцыі, чаму няма АМОНа. Без АМОНу й свята не свята. Не ў нос. Добра выступіў Васіль, Голубеў, Баршчэўскі, Антончык. Да Зянона падышла бяляначка пухленькая й кажа: «Вы прыйдзеце да ўлады, Вы мне прысніліся». Зянон (апошнім часам стаў ўсмешыстым) у адказ: «Мяне ўлада не цікавіць, мне куды прыемней усведамляць, што такім гожым, як Вы, у сны прыходжу». Бяляначка пряцягвае: «Ці Вы мяне не памятаеце?» — і кажа нейкія падрабязнасці. Зянон у адказ зноў джэнтльмэніста: «Вы ж, відаць, тады во такенькай былі», — і паказвае на палову ейнага росту.

Вярталіся з Васілём. Наконт Нобелейскай. Васіль разумее, згадзіўся са мной, што камуністулады папсавалі са сваімі прэміямі, каб перабіць Нобелеўскую. Васіль дадае, што яшчэ ў 60-я гады адчуў спад інтарэсу ў Эўропы да вайны. Немцы спачатку разгубіліся, але хутка апамяталіся. Дый нашыя праблемы постімперскія Эўропу перасталі цікавіць. Цяпер бы за «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцын[1] наўрад бы што атрымаў. Васіль казаў, што зачытваецца ўспамінамі Адама Багдановіча[2]. Зразумела цяпер, адкуль такі сын. А бацька талентам, відаць, не слабей ад сына. Якая яснасць, якая дакладнасць, дэталёвасць. І ўсё пісалася ўжо не ў маладым узросце.

*28 ліпеня, чацвер*

Дамінічку (вяду) з садка. Марыць злавіць матылька, каб змаляваць у яго ўзоры на крылках. Яшчэ палётаць у небе ў космас, калі агонь ззаду. Пабыць на моры. Хто першы палезе ў мора? Кажу, што яна, а потым Валя, а потым кот Мірон, — смяецца.

Заходзіў развітацца з Юзікам Пучынскім. Едзе ў Чыкага. Яшчэ на аднаго знаёмага, мілага душы маёй яўрэя, меней. Шкада. Гэта новы нейкі

---

[1] Салжаніцын Аляксандр Ісаевіч (1918–2008), рускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны (1945–1953). У 1974 г. пазбаўлены савецкага грамадзянства. У 1974–1994 гг. жыў у Швейцарыі і ЗША. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1970), Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1990).

[2] Багдановіч Адам Ягоравіч (1862–1940), беларускі фалькларыст, этнограф і мовазнавец. Бацька М. Багдановіча.

выхад яўрэяў з савецкае імперыі. Што гоніць, наўрад ці ведаюць самі. Але ж нешта рухае. Ці адчуванне бяды, якая нас чакае. Няўжо нам Чарнобыля мала было як боскае кары? Відаць, мала. Яшчэ нешта чакае.

*29 ліпеня, пятніца*

Прыходзіла Ірына Крэнь. Яна працуе ў газеце імя Ніла [«Наша слова»]. На пенсіі. Беларуска да канца. Такіх мала ў нас. Бацька[1], выходзіць, афіцэр дзянікінскай[2] арміі, прайшоў ГУЛАГ[3]. Абяцала прынесці ўспаміны бацькавы пра дзянікінскую эпапею. Кажа, амаль як у Булгакава[4] падзеі. Параіў ёй занесці ў «Полымя». Званіў Васілю, ён таксама раіў.

Цікава, як у нас усё рознабочна. Іду з хлебнага. Нейкі чалавек у гадах, няголены. Вітаецца, кажа — слухаў мой выступ. Віншуе. Наогул, кажа, мы вас любім, дадае, што працаваў у ворганах бяспекі. Выходзіць, і там былі мае прыхільнікі. А ў магазіне, дзе хацеў атаварыць талоны на масла, нейкі ахламон з былых парткадраў пачаў здзіўляцца, што мяне загнала ў БНФ. Не стаў з ім ні гаварыць, ні спрачацца. І так з ім усё зразумела. Камуністычны дзядоўнік пусціў глыбока карані, глыбей, чым хрэн.

Званіў хлопец з радыё. Хоча, каб дапамагаў развенчваць прыгожую легенду партапарата. Падумалася пасля, што Машэраў акрамя таго, што яго самі цыкуны звалі «наш тетерев», быў проста правінцыйным акторам прыгоннага тэатра КПСС. Прынцыпова па-беларуску каб слова. Цвёрдакаменны камуніст, які браў урокі акторскага майстэрства. [...] даводзілі — прозвішча ледзь не ад «мон шэра». А яно, відаць, ад скаверканага машара, імшарына ці мо шэры быў хто ў родзе. Можа быць, і цюркскага паходжання. Віно «машэр» было нейкае. За адно бязмозглае асушэнне Палесся,ператварэнне яго ў пустэльню з пясчанымі бурамі над Машэравым трэба было б рабіць Нюрнбергскі працэс. І пасля смерці як над забойцам роднае зямлі. Камсамольскі стыль працы ва ўсім. Нават у Лабанка[5], таксама камуніста, самым абразлівым словам было «камсамолец». Сапраўды, «всё доводят до конца», у сэнсе — да ручкі. «Ствары!»[6]

---

[1] Крэнь Платон Андрэевіч (1896–1962), беларускі паэт, мемуарыст, публіцыст; удзельнік Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў. Быў рэпрэсаваны (1945–1953).

[2] На самой справе служыў у арміі А. Каледзіна. *Каледзін* Аляксандр Максімавіч (1861–1918), рускі военачальнік, генерал ад кавалерыі, вайсковы атаман Дона, дзеяч Белага руху.

[3] ГУЛАГ — Главное управление исправительно-трудовых лагерей = Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў.

[4] Булгакаў Міхаіл Афанасьевіч (1891–1940), рускі празаік і драматург. Маецца на ўвазе яго раман «Белая гвардыя».

[5] Лабанок Уладзімір Елісеевіч (1907–1984), беларускі дзяржаўны дзеяч. Камандзір беларускага партызанскага злучэння (1941–1944). Герой Савецкага Саюза (1943).

[6] Гл.: Ствары! (29.07.94) // Ксты. С. 255.

*30 ліпеня, субота*

Такая спёка, быццам у духоўку цябе запіхнулі й смажаць. Ахалоды нават уночы няма. Усё гарыць. Усё Чарнобыль і асушанае Машэравым Палессе. Камуністы й з тога свету пра сябе не даюць забыцца. Дамінічка ўпрасілася сваімі пальчыкамі падрукаваць на машынцы. Убачыла пляцёную з саломы сувенірную дзяўчыну й кажа: «Пакажы мне гэту сплетніцу з кошыкам». Дужа адчувае слова. Але ў яе гады ці будзе каму патрэбна слова ў пералівах і перагуках.

*31 ліпеня, нядзеля*

Вар'яцею ад спёкі. Ратуюся працай — перадрукоўваю вершы, каб распіхнуць па якіх часопісах. Галоўнае — «Полымя». Дамінічка брала з сабой мядзведзіка, баба пярэчыла, яна тлумачыла: «Хацела мядзведзя ўзяць на пракат у трамваі». Слова *пракат* ёй чуецца, дзе катаюць, катаюцца. Потым яшчэ казала, што Бог жыве высока, каб усё бачыць, хто дурэе, хто не слухаецца.

* Дамініка: «На двары народ дзяцей».

*1 жніўня, панядзелак*

Вяду Дамінічку з садка. Ад спёкі ліст абвяў, вакол пагалела. Дамінічка пытаецца й адказвае ж сама: «Ведаеш, дзедзя, чаму лістоў няма? Мы падумалі, што ўжо зіма, і паляцелі, агалілі дрэвы». Галя Шаранговічыха сёння распавядала, якая трагедыя была ў Ніны Іванаўны [… Гілевіч]. Прэзідэнт […] сказаў, каб на банкет з нагоды незалежнасці прыйшлі без жонак. Дык […] не пайшла на ўрачыстае пасяджэнне, каб не рабіць непрыемнае цыбатаму нацыянал-камуністу. Галя перажывае, як гэта цяпер на банкетах і прыёмах будуць без жонак. […] Калякультурная тля заўсёды хоча выпендрыцца […].

*2 жніўня, аўторак*

Ілля. Па лету. Па традыцыі. А сёння за трыццаць. Васіль праўду казаў, што адзінае, што камуністычная цэнзура празявала, гэта сапраўдную ваенную прозу й яшчэ вясковую. А цяпер пачынаюць, што вайна надакучыла. У ваеннай быкаўскае прозе быў пратэст супроць рэжыму.

Чытаю паэзію Буніна[1]. Здорава. Але цікава, дзе паганская тэма накшталт Купалля, там літаратуршчына, хадулі, катурны. У маладзейшых літаратурах, нашай ці ўкраінскай, паганства болей натуральнае, бо яшчэ яно з-за вугла пазірае, хоць праганялі яго. Вершы каларыстычныя, плоцевыя. Вядома, што з такой рукой і такім вухам можна было перакладаць

---

[1] Бунін Іван Аляксеевіч (1870–1953), рускі пісьменнік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1933).

«Спеў пра Гаявату»[1]. Апошні верш: «Никого в подлунной нет, Только я да Бог».

*3 жніўня, серада*

Вяду Дамінічку з садка. Збіраецца на дождж. Пагрымлівае. Яна й кажа: «Гром мне здаецца ваўком, які гоніцца за мной і хоча ўкусіць. А што трэба, каб быў дождж? Трэба гром і вецер».

Сёння запісаў на радыё колькі слоў пра пасрэднага актора прыгоннага тэатра КПСС Машэрава. Трошкі ўліў гарачага тлушчу за тоўстую скуру камуністам.

*4 жніўня, чацвер*

Гарачы тлук падзейнічаў. Сёння ў праграме «Апоўдні» Эдвард Тарлецкі[2] даў слова пра пасрэднага актора прыгоннага тэатра КПСС Машэрава. Падняўся верхал. Званіў на радыё Грыб, усчуваў, абураўся, казаў, што трэба ашчадна з такімі асобамі абыходзіцца. Вядома ж, абурылася [...] Наталля Пятроўна. Хоць балота разгайдалася [...].

Васілю ўсё-ткі далі расійскі ордэн. Казаў, што прынялі закон у нас аб наданні звання Герой Беларусі. Ніл пад сябе падрыхтаваў. І Скарынаўскі медалёк (рыфмуецца з Макалёк добра) даў Ніл Васілю, каб прабіць Героя. Самому ж трэба. [...]

*5 жніўня, пятніца*

Пераязджае Бураўкін у наш дом (друку). Яму свеціць міністр культуры. А то, бедны, разгубіўся ў метро — як жа гэта без персмашыны. Лепей хай ён ездзіць, чымся які безнацыянальны дурань.

Дамінічка з садка заявіла, што Рыжыкаў сказаў, што няможна пісяць. А што, гэта новы [хлопчык]?» — «Не, нас аб'ядналі, каб болей крыку было». Дужа добра кладзецца на так званае аб'яднанне з Расіяй. Каб болей крыку было сапраўды.

*6 жніўня, субота*

Званіў Васіль. Яму званіў Барыс Міхайлавіч. Па радыё ўжо даюць першыя водгукі ў абарону Машэрава. Бачце, пасягнуў на легенду. Васіль кажа, што камуністы наважыліся кананізаваць усіх сваіх да Малафеева[3]. А тут галавешку ў асвінае гняздо ўторкнуў. Вечарам званіў Пятроўскі.

---

[1] Паэма Г.-У. Лангфелло ў перакладзе І. Буніна (1896). *Лангфелло* Генры Уодсуорт (1807–1882), амерыканскі паэт, вучоны-філолаг, перакладчык.

[2] Тарлецкі Эдвард Зіноўевіч (н. 1974), беларускі журналіст, спявак. З 2008 г. жыве ў Кіеве.

[3] Малафееў Анатоль Аляксандравіч (н. 1933), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1990–1993 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

Зняў гаворку Васіля з запісу. Цікава. Васілю ўвесь час, калі хадзіў на рыбу на Горадню, хацелася злавіць сама. І калі нехта браўся, сэрца ёкала, што гэта якраз сом. Добра сказаў, перафразуючы армян наконт Арарата, што кожны беларус мусіць мець хоць адно сваё лясное азярко. Гэта шчасце, што ўдалося Васіля ўгаварыць на запіс для кіно. Застануцца кадры нашчадкам. Каб раслі ў прыклад.

*7 жніўня, нядзеля*

[Малюнак.] Гэта Дамінічка пачала маляваць дзедзю з худой галавой, потым фантазія пагнала да прынцэсы. Званіў Васіль. Слухаў расійскую «Свабоду». Узапускі хваляць [Лукашэнку] [...]. Удзел у выбарах брала й [...] расійскае пасольства. Успомнілася, як Гарэцкі[1] Пятро распавядаў пра Украіну. У Закарпацці таксама спёка. Адна надзея на вінаград і гарэхі. Пад кіраўніцтвам партыі й Лубянкі дагналі Украіну поўнага росквіту. Кучма[2] [...] будзе надаваць расійскай мове статус дзяржаўнай. Акаевы[3] розныя даўно гэта зрабілі. [...].«Хоць там»[4]. Ад галаўнога болю ратуюся вершамі. Наогул, лепей меней у галаву браць, асабліва палітыкі. Ды дужа ж хочацца быць грамадзянінам Дзяржавы Беларусь.

*8 жніўня, панядзелак*

Памёр Алесь Асіпенка[5]. Неблагі быў пісьменнік і пры ягонай партызанска-камсамольскай біяграфіі па-свойму сумленны чалавек. Пухам зямля яму беларуская.

*І яшчэ раз пра яе*

Прыкінецца жабрачкаю рахманай,
Раздзьмухае надзеі вугалёк,
Паманіцца карміць нябеснай маннай,
Пад’едзе старасць з лёсткамі здалёк.

Падкоціцца ў халодныя падушкі,
Як тая маладзіца да ўдаўца,

[1] Гарэцкі Пятро (Пётр Ігнатавіч; 1919–1997), украінскі паэт.

[2] Кучма Леанід Данілавіч (н. 1938), украінскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Кандыдат тэхнічных навук (1963). Прафесар (1994). У 1994–2004 гг. прэзідэнт Украіны. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1981), Дзяржаўнай прэміі Украіны (1993).

[3] Акаеў Аскар Акаевіч (н. 1944), дзяржаўны дзеяч Кыргыстана; вучоны. Доктар тэхнічных навук (1980). Член-карэспандэнт і акадэмік АН КіргССР (1984). У 1990–2005 гг. прэзідэнт Кыргызскай Рэспублікі.

[4] Гл.: Хоць там (7.08.94) // Ксты. С. 261. Пад назвай «І нават у снах...» гл.: Ксты. Выд. 2. С. 284.

[5] Асіпенка Алесь (Аляксандр Харытонавіч; 1919–1994), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1981).

Напросіцца ў адданейшыя служкі,
Пакляўшыся ў каханні да канца.

Як блізка прыгарне — далёка штурне,
Настрою хвалі коцячы наўскач.
Пакіне кукуваць старога дурня
І пойдзе маладзейшага шукаць.

*9 жніўня, аўторак*

Разносіў вершы па часопісах. Быў на паніхідзе. Бураўкіну на прыёме перадалі словы прэзідэнта […]: «Я не ведаю ніякога Бураўкіна». Гэта ён невыпадкова сказаў — не ведае й ведаць не хоча інтэлігенцыю нацыянальную наогул. […]

*10 жніўня, серада*

Пятроўскі з Паляковым ездзілі здымаць Васіля на ягонае лецішча. Вывелі з сябе дурным пытаннем: што думае, калі глядзіць на сябе ў люстэрка раніцай. Васіль правільна адказаў, што ён не актор. Палякоў сказаў, што едзе ў Іерусалім, а там сіндром Іерусаліма — адчуванне сябе прарокам. На што Васіль вясёла адказаў, што ў нас кожны сябе адчувае прарокам і не лечыцца. Прыйшоў дамоў з «Маладосці», куды занёс колькі здымкаў у эсэ «На таку майго веку»[1]. Званок. З суда. Падалі на мяне за абразу Машэрава, нацыянальнага героя […]. Суддзя сказаў, што могуць прысудзіць плаціць мільёны. Пайшоў па Дамінічку ў садок. […] Загналі мяне ў кут. Трымаюся з-за любімага стварэння — Дамінічкі.

*11 жніўня, чацвер*

Агіднае гэта пачуццё, што цябе будуць выклікаць у суд, што судзіцца будзе з табой учарашні дзень, які ў нас, у Беларусі, усё яшчэ дзень сённяшні. Камуністы зноў адчулі сілу з прыходам да ўлады [Лукашэнкі]. Я хоць кроплю адчуў таго, што адчувалі Васіль і Адамовіч, калі ўся сістэма была супроць іх. Адчуванне, быццам ты голы на прыёме, дзе ўсе ў смокінгах. І адчуванне потыху чорнай, цёмнай сілы, як з магілы, як з таго свету. Камуна-[…] дрыжаць за сваіх казачных, міфалагічных ідалаў.

*12 жніўня, пятніца*

Званю Тарасу, кажу, што могуць судзіць за абразу легенды партапарату. Той адразу ажывіўся й кажа: «Бяры мяне ў даверанымя асобы». Гэта мяне ўсцешыла. Вечарам вяду Дамінічку з садка, ідзём каля так званага навукова-даследчага інстытута, гмах, які ўзводзілі зэкі за калючым дротам, а пасля іх у Сібір, каб слядоў не было. Гэта адзін з саркафагаў

---

[1] Гл.: На таку майго веку (1994) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 240.

ВПК. Дамінічка бачыць на гранітаванай сцяне надпіс, што гэта НДІ гэткі й такі, кажа мне: «Глядзі, літары, як быццам некага пахавалі». Цікавае ўспрыняцце. І сапраўды там пахаваны мазгі й сумленне, бо працуюць супроць людзей, узбройваючы ўсё яшчэ стойкую імперыю, хоць на словах яе няма. Усё звязана.

*13 жніўня, субота*

Званіў Васілю. Ён казаў пра два накірункі ў прозе — адзін нямецкі, цяжкі, шматслоўны, другі французскі — лёгкі, скупы на слова. Бальшына нашых празаікаў абралі нямецкі варыянт, — чытаем, як крушні варочаем. Мяне яшчэ шаляніць слова *пераўстварэнне*. А чаму не пераклад? Што, Гілевіч лепшымі зрабіў балгарскія народныя песні? Чаму класікі пісалі пераклад, не перайманне, следаванне?

*14 жніўня, нядзеля*

Першага жніўня па нашым болей дакладнейшым календары і адпаведна — хмарна, залкавата, імжыста. Хоць з жніўнем не вяжуцца развагі, але падумалася мне, што імперыя — гэта ў самым ідэальным варыянце — дзіцячы дом ці калонія, а людзям хочацца мець свой куток. Бо нездарма ж прымаўка: у сваёй хатцы можна і ўсрацца. «Завознік»[1]. Перакладаў Лермантава[2] ў «Роднае слова».

*15 жніўня, панядзелак*

Атрымаў ліст ад камуна-[…]. Як быццам гэта Сыс пісаў, але рука старэчая выдае фальшыўку. На ўсе лады абыгрываецца слова *жыд* у адносінах да мяне. Не вымеш жа й не пакажаш. Як казаў сын шаўца [Сталін]: «Собака лает, а караван идёт». Званіў Васілю, ён сумна: «Сябры адсыпаюцца, а ворагаў рацьрасце». Ходзяць чуткі, што Бураўкін пойдзе ў саветнікі ў […]каманду [Лукашэнкі]. Васіль на гэты конт так: «Саветнікі трэба такія, якія раяць, што думае начальнік».

* Дамініка: «Чорныя кропачкі на небе — гэта Бог глядзіць, вочы Богавы. Божанька усё бачыць. А калі я бабу не слухаю, Ён спіць».

*16 жніўня, аўторак*

Аддаў Міхасю Скоблe[3] пераклады Лермантава й колькі слоў пра паэта. Чуткі наконт міністра культуры. Узнікае імя Іпатавай і абавязкова

---

[1] Гл.: Завознік (14.08.94) // Ксты. С. 201.

[2] Лермантаў Міхаіл Юр’евіч (1814–1841), рускі паэт і празаік.

[3] Скобла Міхась (Міхаіл Уладзіміравіч; н. 1966), беларускі паэт, літаратуразнавец, эсэіст, публіцыст. У 1991–1995 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Роднае слова». Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2000), Міжнароднай літаратурнай прэміі «Воін святла» (Украіна, 2017).

на ўсе магчымыя пасады (Дударава), былога актора, яшчэ й Някляева. Сёмуха падарыў мне ў сваім перакладзе Ніцшэ «Так сказаў Заратустра»[1]. Дзякуй яму, я некалі параіў яму перакласці Ніцшэ. Хадзіў забіраць Дамінічку з садка. Калі вёў раніцай, казала, што сніла сон: да яе прыляцеў матылёк. Назад ішлі, папрасіла злавіць ёй казялка. Злавіў. Трошкі пранесла ў сваёй жменьцы й выпусціла на волю.

*Восень — гэта…*

Вечар,
Як турэмнік з міскай гбанай.
Восень — гэта страх вачэй,
Калі
На сябе,
На ветах,
На палі
З развітальнаю глядзіш пашанай.

У начы даўжэйшая валока.
Восень — гэта крык дарог,
Калі
Па азяблых зорках, па раллі
Да сябе,
Як да вясны,
Далёка…

*17 жніўня, серада*

Вяду ў садок Дамінічку, яна кажа: «Холад трэба тады, калі горача… Ніхто не бачыць, як растуць дрэвы…» Па-свойму ўспрымае свет. Гэта ўжо зусім новая парода будзе, ужо адарваная ад зямлі й яшчэ не прыраслае да асфальту. Гэта ўжо не стральцоўскае «сена на асфальце». І беларуская мова будзе ў яе сінтэтычна-калькаваная накшталт алесеразанаўскае, якую выдаюць за беларускую гарадскую. Учора па радыё слухаў перадачу пра грошы. Грош ад gro□, пенязь ад pfening. А расійскія деньга ад таньга. У Расіі ўсё ад Азіі, бо сама яна азіятка, якая нахапалася еўрапейскіх земляў і ўсяго, што з Захадам звязана. І пышлівасць, і пыхлівасць расійская таксама з азіятчыны. Але не ў Расіі справа. Чыталі кавалкі з летапісаў. І як самая бытавая дэталь, самы заземлены эпізод гучыць узвышана-гістарычна. У прынцыпе гэта прынцып Бібліі. Аддаленае часам усё чалавечае неяк адухоўліваецца. Прафанастычна-фантастычна будуць праз вякі гучаць пастановы й кнігі партыі крымінальнікаў камуністаў.

---

[1] Ніцшэ Фрыдрых (1844–1900), нямецкі філосаф. Ніцшэ Ф. Так сказаў Заратустра. Пер. В. Сёмухі. 1994.

*18 жніўня, чацвер*

Сёння Быкава выклікаў да сябе Ганчар[1]. Прапаноўваў узначаліць Фонд абароны культуры ці сувязь з дыяспарай. Вядома, Васіль адмовіўся. Ганчар казаў, што трэба аўтарытэтныя людзі, якія не бегаюць і не выпрошваюць нешта накшталт партыйна-камуністычнага […] Шамякіна. Ганчар крыўдзіўся, што інтэлігенцыя халодна ставіцца да прэзідэнта. Васіль на гэта адказаў, што й не дзіва. «Калі ў прэзідэнта куміры Дзяржынскі, Андропаў[2], дык ясныя адносіны інтэлігенцыі, я сам першы не падтрымаю прэзідэнта», — падкрэсліў Васіль. Ганчар адказаў, што ў палітыкаў не заўсёды супадае перадвыбарная праграма з рэальнай. Васіль падкрэсліў, што ў прэзідэнта ёсць 100 дзён, якія даў яму БНФ, а далей будзе відаць. І тут Ганчар усчаў размову пра тое, што ён хацеў болей цесных кантактаў з Зянонам. Васіль адказаў, што перадасць Зянону Станіслававічу. Думаю, што ў асноўным для навядзення мастоў з Зянонам і запрашаўся Васіль. Бо адразу […] каманда ведала, ніякіх пасадаў Васіль не захоча. Цікава, што з Васілём Ганчар гаварыў на беларускай мове, хоць і з патугамі. Бо казалі, што яшчэ з Коласам партнаменклатура старалася гаварыць па-беларуску. З Шамякіным, Броўкам, Куляшовым[3], Панчанкам толькі па-расійску. Васіль трапна заўважыў, бо гэта ўсё таварышы па партыі […].

*19 жніўня, пятніца*

Вяду Дамінічку ў садок. Дажджыць. Раптам па нашым двары — Бураўкін. Пешкі на трамвай. У імпартным гарнітуры, босагаловы, пад парасонам. Слова за слова. Раптам кажа, што яму сказалі, што меў бы прыстойную пасаду, каб не сябраваў з Быкавым і Барадуліным — агентамі БНФ. Я толькі ўчора вечарам казаў Васілю, што ў Генадзя будзе такая абэлка. Як у ваду глядзеў. Званю Васілю й кажу пра размову, а Васіль, як заўсягды, унурыста жартуе: «Гена ўмее сябе цытаваць, ён нешта думае сказаць, а пасля кажа, што сказаў». Удзень званіў Тарас. На лехах, хоць хлопцы й на пенсіі, а ўсё яшчэ гуляюць у палітыку. Быццам бы Шыціку[4] сказалі, што прэзідэнт будзе клікаць інтэлігенцыю на абеды й такім чынам наладжваць масты. Але першы абед будзе толькі ўдвух з Васілём. На

[1] Ганчар Віктар Іосіфавіч (1957–1999?), беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч; прававед. Кандыдат юрыдычных навук (1986). У 1994 г. нам. прэм'ер-міністра РБ, у 1995–1996 гг. генеральны сакратар эканамічнага суда СНД.

[2] Андропаў Юрый Уладзіміравіч (1914–1984), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Генерал арміі (1976). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). У 1967–1982 г. старшыня КДБ СССР.

[3] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914–1978), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970).

[4] Шыцік Уладзімір Мікалаевіч (1922–2000), беларускі пісьменнік.

гэта Васіль мне па тэлефоне адказаў коратка: «Хай прэзідэнт дасць мне 5 мінімальных, што належаць за званне народнага пісьменніка». Няўжо ніколі нашая нацыя так і не ачомаецца? Каб сусветная велічыня думаў пра нейкія капейкі да капейкі пенсійных. Ганьба. І ў першую чаргу пракамуністычным кіраўнікам. А тут яшчэ пазванілі, што памерла пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Юльянаўна Раманоўская[1]. Гэта была руплівіца на ніве беларушчыны. Годна несла купалаўскае ймя. Светлая памяць. Пасля пазванілі, гэта памерла Уладзіслава, сястра Ядвігі Юльянішкі. Жонка Юр. Багушэвіча[2]. «Светлай памяці Уладзіславы Юльянаўны…» [у дзённіку].

*20 жніўня, субота*

На пахаванне Уладыславы Юльянішкі. У Музеі Купалы. Пасля ў крэматорый. Гэта самае жудаснае, што можа быць, бо тлусты пацучок скапечаным голасам кажа прасавечаны тэкст па-расійску, ужываючы паршывае товарищи, як на партсходах крымінальнікаў. Ужо хай бы на латыні. Амаль нічога б незразумела было. За жалобным сталом Ядвіга Юльянішка сказала мне, што вялікую радню мець добра, але дужа ж цяжка развітвацца з роднымі табе.

*21 жніўня, нядзеля*

Да Радзіка. Ён цікава заўважыў, што я пры змене ўлад ні пры якой не перасеў з трамвая ў персаналку. «Вільня»[3].

«Згоднікі: Струхлеў аднапартыйны гнёт…» [у блакноце.]

*22 жніўня, панядзелак*

Прыходзіў Куксо[4]. У маім «вожыкаўскім» зборніку багата шаржаў, Гіргель[5] проста спёр у Куксо. Званіў Васілю. Ягоная сястра Валянціна напісала ліст, дзе піша, што пасля нашага з Васілём ад'езду з Вушаччыны землячкі пусцілі чутку, што я памёр. Некаму хочацца дужа. Ніяк не дачакаюцца. У кнігарні сустрэў яшчэ міністра Бутэвіча. Сказаў, што падпісаў хадайніцтва Саюза пісьменнікаў, каб выпусціць мой Збор твораў. Дзякуй яму! Можа, і не ўбачу, але пачатак хоць будзе й надзея нейкая. Гляджу, што ўсё няўхільна йдзе на развітанне. Неўпрыкмет. Але няўхільна. Жу-

---

[1] Раманоўская Ядвіга Юльянаўна (1920–2011), пляменніца Я. Купалы. Арганізатар беларускай музейнай справы, захавальніца літаратурнай і архіўнай спадчыны Я. Купалы.

[2] Багушэвіч Юрый (Георгій Канстанцінавіч; 1917–1983), беларускі пісьменнік, сцэнарыст, перакладчык.

[3] Гл.: Вільня (21.08.94) // Слаўлю чысты абрус. С. 177.

[4] Куксо Канстанцін Мікітавіч (н. 1954), беларускі мастак-карыкатурыст, кніжны графік. Жыве ў Маскве.

[5] Гіргель Мікалай Сяргеевіч (н. 1947), беларускі мастак-карыкатурыст.

даснавата. Вёў Дамінічку з садка. Каля пад’езда разводы вясёлкавыя ад мазутнай ці бензінавай плямы. Дамінічка: «Гэта сонца нахілілася й пакінула свой цень».

«Канверсія: Марац, юр нападае…» [у блакноце].

*23 жніўня, аўторак*

Сем гадоў, як не стала Міхася Стральцова. На могілкі. Пасля да Алены Дзмітраўны[1] — вячэра памінальная. Гэта быў загадкава светлы чалавек, як быццам пасланы ў наш бруд і звады з іншае планеты ці іншага свету, каб паказаць, што чалавек можа быць сапраўды чалавекам. Яго не хапае не толькі мне. Усім. Ля магілы Вераніка[2] з Алай Сямёнавай сядзелі. Мы прывезлі Алесю[3]. І тая дачка, і гэта. Балела ў Міхася душа за іх. Алеся зграбненькая, маладзенькая. Што з яе выйдзе, бог бацька. Кепска, што Алена Дзмітрыеўна ўкручвае яе ў мілосныя гісторыі. Відаць, не давучыцца. Шкада.

«Пра колеры: Маюць колеры свае законы…» [у блакноце].

*24 жніўня, серада*

Учора званіў Пімену, віншаваў з днём нараджэння. Сягоння 70 гадоў Пятру Аляксандравічу — маёй апошняй радні па бацькавай лініі. Думалася, што справім яму свята. Не выпала паехаць. Паслаў тэлеграму. Заходзіў у «Вожык» да Блакіта. Генадзь усё ніяк не можа ўзбіцца на пасаду. У сачанкаўскай прозе Стахван ніяк не мог узбіцца на карову. Быццам будзе саветнікам па культуры. Толькі пры кім, пры Ганчары ці пры [Лукашэнку]?

*25 жніўня, чацвер*

Дужа кепска было. На працу з другой паловы дня пайшоў. Чытаў вершы Коласа. Трэба ўкласці аднатомнік. Талент празаіка цісне на паэта. Халаднавата. Званіў Васілю. Фільм па ягоных апавяданнях пра Слуцкае паўстанне[4] йдзе туга. Ёсць такі […] Гаварухін[5], якога не падпускаюць блі-

---

[1] Стральцова Алена Дзмітрыеўна (н. 1945), фотааператар Дома друку; жонка М. Стральцова.

[2] Стральцова Вераніка Міхайлаўна, беларускі філолаг. Дачка М. Стральцова.

[3] Стральцова Алеся Міхайлаўна (н. 1975), студэнтка прадзюсерскага факультэта Інстытута сучасных ведаў імя А. Шырокава.

[4] Слуцкае паўстанне — Слуцкі збройны чын, адзін з актаў узброенага выступлення часткі беларускай інтэлігенцыі і сялянства Случчыны ў канцы польска-савецкай вайны 1919–1920 гг.

[5] На самой справе гаворка пра У. Гасцюхіна. *Гасцюхін* Уладзімір Васільевіч (н. 1946), беларускі акцёр. Народны артыст РБ (1996). З 1981 г. акцёр Тэатра-студыі кінаакцёра. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), Дзяржаўнай прэміі РФ (1993).

зка ні ў Маскве, ні ў Пецярбургу кінастудыі за пікетаванне й разламванне пласцінкі Булата [Акуджавы], хацеў, каб кіно было не пра канкрэтныя старонкі беларускае гісторыі, а хоць бы пра французскае супраціўленне. І спонсары знайшліся плаціць валютай. Калі рэжысёр не пагадзіўся, ён адмовіўся іграць у фільме й ліў памыі на Беларусь, на беларускую мову. Нашыя ж лапухі далі яму званне народнага артыста БССР. Не лапухі, а верныя ленінцы, інтэрнацыяналісты. У нас у пашане тыя, хто ненавідзіць Беларусь. [... Яўген] Новікаў у сваёй газеце выступае супроць Васіля, які, бачце, супроць правоў чалавека. [...]

*26 жніўня, пятніца*

З Дамінічкай ловім казялкоў, ці, па-ўшацку яшчэ — кавалькоў. Яна раіць: «Лаві таго, у якога меней вопыту». Дукрыць нешта дзіцятка. Знайшоў верш: «Мне чуваць» (31.12.79)[1]. Трэба збірацца ў Вушачу. Цікавы стан: душою лячу, а нагамі цяжка, прырос ў Менску.

*27 жніўня, субота*

Цэлы дзень наводзіў такі-сякі парадак на балконе. Гадавыя камплекты маскоўскіх часопісаў. Як бязглузда й наіўна гучыць бальшына змесціва. І часу не так багата мінула. Надзённае, штодзённае — гэта толькі смала, а сапраўды вечнае — бурштын. Уся савецкая літаратура працавала на смалакурні, гнала смалу для патрэб, а з такой смалы бурштын не ўтворыцца.

*28 жніўня, нядзеля*

Залёг галаўны боль. Як дажджом завалакло, зацягнула галаву. Прыходзіць канец. Здаецца, учора на хутары Верасовачцы еў з ліповых паланачак чарніцы ў малацэ, а ўжо ўнучка просіць, каб адгадваць у левай руцэ вялікую сінюю цукерку. Баліць душа за Дамінічку. Як будзе жыць, ці змогуць бацькі даць якую адукацыю? Бедная Ілона б'ецца як рыбіна аб лёд. [...]

*Зялёны кукіш морквы*[2]

Які кароль найлепшы?
Спрадвеку кажуць: — Мёртвы!
Што значыць гнеў аслепшы?
Зялёны кукіш морквы.
Яе кароль заечы

---

[1] Гл.: Мне чуваць (31.12.79, Гавана — 26.08.94) // Ксты. С. 299.

[2] Гэтым радком Рыгор Іванавіч хацеў назваць складзены ім зборнік гумару ці раздзел у зборніку «З чорным катом на плячы», але задума не спраўдзілася.

І ў сне грызе зацята.
З дукатамі ў скупечы
Кулак расцісне свята.

Пытаць пра каралеву
Бадай не выпадае.
Абсушыцца ў залеву
Надзея маладая.
Ступаем каралямі
У мроях,
А на яве
Мы ходзім каля ямы,
А сутнасць глухне ў яме.

Верш пра заклінальніка — уражанні з Індыі. Перарабіў:

*Заклінальнік і заклінанка*

Жах раскручваецца млявай спружынай.
Галава у змяі, як шкляная.
Заклінальнік, як сон, старажытны
Болей сам сябе заклінае.

Ад галечы, як ад раскошы,
Ад самоты, як ад натоўпу.
Круцяцца папяровыя грошы
Жаўталістам людскога патопу.

І чалмою чало спавіта,
Як змяёй, да пакоры ціхай.
Заклінанка глядзіць самавіта —
Развітацца нялёгка с пыхай.

[Знятая перадапошняя страфа:]

(І чалма змяёю цярпення
Заручыць абяцае з плёнам.
Ды не хоча змяя сумлення
Паддавацца знаёмым заклёнам.

Як і цётцы вушацкай Адэлі,
Да заклінальніка Дэлі.)

А яна б змеянят раджала
Ды мяняла штогод кашулі.
А цяпер ёй навошта джала?
Засіпела б,
Калі б пачулі…

Цяпер, здаецца, болей закончаны. У першым варыянце Радзік радзіў пакінуць толькі першыя два слупкі.

*Ні ў адну*

А дрэвы ў партыю ні ў адну
Не ўступалі
І не выходзілі з партый.
Сваю залёную даўніну
Ахоўвалі зялёнаю вартай.

Шумяць у буру, трашчаць у мароз
І на касцёр узыходзяць нема.
У дол адчай невыносны ўрос,
Упёрся гнеў высакосны у неба.

Дубровы й пушчы, гаі й бары —
Як селішчы й гарады людскія.
Таму, хто лушчыцца ў павадыры,
Ахвотна пазычаць дубец для кія.

Як трэба, пазычаць аграблям зубоў,
Каб не гніло ні сяніны доле.
Ды партыю ні асін, ні дуброў
Ствараць
Не шумелася дрэвам ніколі.

Нанач паслухаў выступленне прэзідэнта. [...] называе расійцаў старэйшым братам. Ён за аб’яднанне славян, на гэтай базе новую імперыю замастырыць. [...] Інтэрв’ю браў Караулаў[1], ужо само прзвішча кажа [...].

*29 жніўня, панядзелак*

З кіношнікамі на лецішча да Васіля. Апошнія кадры. Карлас перадаў жаданне Аскоцкага зрабіць вечар Васіля у Маскве, бачце, Філатаў[2] будзе ўручаць ордэн Дружбы народаў. Васіль наадрэз адмовіўся. Не хапала яму яшчэ, каб бондараўцы[3], жырыноўшчыкі, славянасабораўцы пікет наладзілі, накшталт як у нас Булату. Васіль апошнім пунктам сказаў, што па стане здароўя. Тады Карлас спытаўся, а як жа з ордэнам будзе? Васіль на вясёлым сур’ёзе: «Няхай аддадуць у які музей».

---

[1] Караулаў Андрэй Віктаравіч (н. 1958), расійскі журналіст і тэлевядучы.

[2] Філатаў Сяргей Аляксандравіч (н. 1936), расійскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1993–1996 гг. кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта РФ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1988).

[3] Бондараў Юрый Васільевіч (н. 1924), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1983). У 1990–1994 гг. старшыня Саюза пісьменніка Расіі.

*Ці рад?*

Чаму, як тыя ракі ў нераты,
Мы шчэмімся ў малодшыя браты
І не пытаем нават,
А ці рад
Нас за братоў лічыць старэйшы брат?

Кіраўнікам абы была нагода
Выказваць згоду ад імя народа!

*Васілю Быкаву*
*(на «Асобах рознай пробы»)*

Камуністам ён не выкаў,
Ішоў да славы па жарстве.
Жыве ў вяках Вялікі Быкаў,
А значыць — Беларусь жыве!

*30 жніўня, аўторак*

Прыязджалі з Віцебска з Музея літаратуры. Хочуць паскорыць выданне альбома Язэпа Драздовіча.

*Што?*

Што вячней — ці неба, ці зямля?
Што мацней — ці мітусня, ці тля?
Хто ты, чалавек, — арол ці вол?
Што табе радней — блакіт ці дол?
Думай, покуль можаш, бо пасля
Зможа ўсіх сцюдзёная зямля...

*31 жніўня, серада*

З Радзікам да Ладуценкі. Па дарозе назад сустрэлі Навума. Навум пытаецца, ці раптам Радзік не браў кніжку Айзенштадта[1] ў яго? Я жартую, што, відаць, Тарас. Навум вясёла: «Тарас, апрача сябе, нікога не чытае, усё з галавы, а каб пачытаў, што пісалі да яго ў расійскай паэзіі, дык сам бы кінуў пісаць». Любіць Тараса і ўсё жыццё пакеплівае з яго па-сяброўску й разам з тым мудра. Пасля заўваг Радзіка перарабіў крыху: «Што?»[2] Знайшоў з запісаў:

[1] Блажэнны Веніямін (сапр. Айзенштадт Веніямін Міхайлавіч; 1921–1999), рускі паэт.
[2] Гл.: Што? (30.08.94) // Ксты. С. 287.

*Здзіўленне*

Дзіву дзівіцца страх пуляты,
Што бяспечны спакой такі:
Спяць,
Даверлівыя, як цяляты,
Белагубыя агуркі…

*1964*

Дужа мала такіх маладых, як Радзік. Таленавіты, чысты, адкрыты. Яго так і характарызаваў Ладуценку. Затое вечарам слухаў праз сон па радыё 39-гадовага [Лукашэнку]. Як жывы. Верны сын кампартыі. Горкі[1] хваліў Леніна: просты, як праўда (праўда, варта было б слова *праўда* ўзяць у двукоссе). […].

*1 верасня, чацвер*

На вуліцы навучэнцы, вучні, студэнты — вясёлы й смутны ўспамін мой. […]. Прыйшлі запрашэнні на заўтра ў Купалаўскі (тэатр) на вечар свята імя Гілевіча. Званю Васілю — не пойдзе. І ў Полацак не паедзе. Бо, кажа, табе лацно: прачытаў вершык дый годзе. А мне выступаць цяжка. Радавацца няма чаго. А сумныя рэчы на святах не любяць слухаць, асабліва начальства. А ў Купалаўскім і ў Полацку слухаць Ніла не хочацца. Неяк Васіль слушна казаў (як заўсягды): «У нас усё наадварот. Калі б нейкай афрыканскай дзяржаве пабудавалі такі трактарны ці аўтазавод, як у нас, яны б у грашах купаліся. А мы жабракуем. Бо задумана ўсё на імперыю».

*2 верасня, пятніца*

Цэлы дзень займаўся прыбіраннем балкона: адно выкідваў, другое валок. На свята імя Гілевіча не пайшоў. Уключыў тэле: у прэзідыуме, вядома ж, Цыбаты, Грахоўскі, Далідовіч[2]. Як яшчэ […] Макаля няма. Што, я для Ніла й Грахоўскага буду ствараць публіку ў зале? Зала амаль пустая.

Затое колькі замілавання й расчулення выклікаюць цацкі Ілоны. Як з маленькай дачушкай сустрэўся. За кожнай цацкай, кожнай ракаўкай ці марскім каменьчыкам стаіць столькі былога, незваротнага, з якога, як дачка з цацак, ты сам таксама вырас. Маркота.

---

[1] Горкі Максім (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868–1936), рускі пісьменнік, крытык, грамадскі дзеяч.

[2] Далідовіч Генрых Вацлававіч (н. 1946), беларускі пісьменнік. У 1991–2002 гг. гал. рэдактар час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1988), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

*3 верасня, субота*

Учора Генадзь прапанаваў ехаць з ім у Полацак, начаваць у маці ягонай. Не паехаў. Дужа кепска мне. І з кожным годам усё часцей і часцей робіцца кепска. Няўжо развітанне падганяе? Радзік паехаў на Чэхаўскія чытанні. Яшчэ малады, поўна жаданняў ездзіць. Я сваё, відаць, ад'ездзіў, адлётаў, адбегаў. Стома й сум, сум і стома — цяпер самыя верныя сябры мае. Сябры маладых гадоў даўно ў выраі. А я яшчэ махаю крыламі па інерцыі. «Поле»[1], «Просіць», «Не купіў яшчэ»[2].

«Не кажуць: Смяецца прыкмета…» [у блакноце].

*Уладзімір Арлоў*

Любую газету, часопіс бяры ж —
Зусюль вытыркаецца абавязкова
Пытанне: дзе Крыж Еўфрасінні[3]?
Дзе крыж?
І ўрэшце даўмеешся —
Крыж у Арлова.

*4 верасня, нядзеля*

У Полацак не паехаў. Ломіць, крышыць усяго. Гады даюць пра сябе ведаць. Самі сябе бадзёрым-бадзёрым, зірк, а ты ўжо абдзёрыш. Здаецца, так у нас дома звалі абдзірак ад бульбы, калі на тарцы дзяруць. Прыйшоў «Выбар». Амаль падпольна выходзіць. Васіль неяк казаў: «У Менску — Саюз пісьменнікаў — Вандэя, а ў Беларусі Віцебск — і саборы, і казакі, і сокалы Жырыноўскага — лубянкаўскія».

«Сельсаветчык і партфель: Савецкая ўлада ўручыла партфель…» [у блакноце].

*5 верасня, панядзелак*

Званю Васілю, пытаюся, як афармляе пенсію па-новаму. Кажа, што аж блага робіцца, як падумае, што трэба йсці ў чаргу з пенсіянерамі. Фрунзенскі раён самы вялікі ≈ 300 тыс. Пытаюся, а ці нельга пазваніць? Адказвае, што марны занятак. Нас добра ведаюць, усё наша патаемнае амаль ведаюць КДБ і міліцыя, а так, каб калі ці ў касе, ці ў цырульні пазналі, дык не.

---

[1] Гл.: Поле (3.09.94) // Дзённікі і запісы. Вып. 5. С. 181.

[2] Гл.: Просіць; Не купіў яшчэ (3.09.94) // Ксты. С. 334; 212.

[3] Еўфрасіння Полацкая (свец. Прадслава; каля 1101–1167), полацкая князёўна, асветніца, беларуская святая. Крыж Еўфрасінні Полацкай — помнік старажытнабеларускага ювелірнага мастацтва. Створаны Лазарам Богшам у 1161 г. У 1929–1941 г. захоўваўся ў Магілёўскім краязнаўчым музеі, знік на пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Чытаю савецкі том Якуба Коласа, хачу выбраць хоць трохі вершаў. Амаль да кожнае гадавіны Кастрычніка, што ні слова — калгас, камуністы, партыя, светлае жыццё, нават «фінляндскі народ» заклікае скінуць сваіх прэм'ераў, бо радасць і шчасце грукаюць у дзверы (савецкім ботам). У Янкі Купалы і ў казённых вершах паэзія прабівалася, як трава праз бетон. А ў дзядзькі Якуба ўсё халодна, прымітыўна, ды яшчэ амаль руска-беларускай трасянкай — што ў рытм клалася, тое й стаўляў. І гэта аўтар неўміручае «Новай зямлі». Бальшавікі ўсё маглі паставіць з ног на галаву. Трэба ўсё-ткі будзе падзел на нацыянальных і савецкіх паэтаў з беларускай мовай падзяляць. Таленавітага Куляшова не назавеш нацыянальным — толькі савецкім.

Цікава распавядаў па дарозе на працу Гаўрыла Вашчанка[1]. Выклікаў у свой час у ЦК Ів. Ів. Антановіч: «Хацелі б табе даць народнага, але звады зайздроснікаў, групоўкі і гэтак далей». Потым раптам: «Напішы ты Леніна. І ўсё будзе сумленна: ты нам, мы табе». Вашчанка адказаў: «Калі не заслугоўваю звання за сваю творчасць, дык і Леніна пісаць не буду». Калі потым казаў пра гэта Васілю, ён: «Цынізм стаў партыйнай рэлігіяй».

*6 верасня, аўторак*

На працу прыходзіў Лявон Баршчэўскі. Люблю яго, як нікога. Бо наш, полацкі. Бо таленавіты. Бо мудры. Бо чысты. Бо Беларус з вялікай літары. І любое слова яго пахвалы мне значыць усё. [...]. Званілі з Гомеля, запрашалі выступіць Быкава й мяне. Васіль у прынцыпе даў згоду. Ну, гэта на кастрычнік. Можа, усё-ткі ў Вушачу паеду з Дамінічкай і Валяй. Дамінічка проста трызніць Вушачай. Аж майму сэрцу цёпла.

* Дамініка: «У ката Мірона вочы зялёныя, як агуркі».

* * *

Вочы вяду, якія
Мяне апошнія ўбачаць.
Рукі вяду, якія
Магілу маю пераксцяць.
Ногі вяду, якія
Пераступяць праз вечны страх.
Дадому вяду сваёй бія-
графіі
Шчабятлівы працяг.

---

[1] Вашчанка Гаўрыіл Харытонавіч (1928–2014), беларускі мастак. Прафесар (1980). У 1961–2000 гг. выкладчык БДАМ, у 1975–1995 гг. заг. кафедры. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977). Народны мастак БССР (1988). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1987).

*7 верасня, серада*

Выступленне ў Нацыянальным інстытуце гуманітарных навук. Выдатныя выкладчыкі беларускай мовы й літаратуры з розных рэгіёнаў. Уважліва слухалі, цікавыя пытанні. І ўсё адно — няма беларускай кнігі. У школьных бібліятэках калі й ёсць праграмныя творы класікаў, дык на расійскай мове. [...]

*8 верасня, чацвер*

Вялікая гадавіна бітвы пад Воршай. Караткевіч ведаў, дзе нарадзіцца. Затое прамаскаленыя камуністы дыбка становяцца, каб не было свята. Але марна. Вяду Дамінічку з садка, яна кажа, што хоча пакатацца на хмурынцы-аблачынцы. Спускаецца зверху Генадзь: забыўся адпусціць шафёра, які прывёз яго дадому. Цяжка прывыкаць да рэалій зямных. Гэта, як з вярблюда падаць, — балюча. Вычытваў, дзе мог, нешта пра Булак-Балаховіча[1]. Камуністы-кэдэбісты ўмелі апускаць асобу ў яму маўклівасці, каб нават і пясчынкі дэталяў не натрусілася. Прафесар Анатоль Грыцкевіч казаў, як у Польшчы ў картатэцы ёсць зборнік вершаў генерала, а ў наяўнасці няма. КДБ ўзяло чытаць і вярнуць забылася.

*Спадар генерал*

Булак-Балаховіча бацькам
Завуць ваяры.
Спадар генерал
Закаханы рашуча ў Дзяржаву.
Пакуль што замерваюць
Ейныя межы вятры,
Дзяржаву вітае
Цыганскае сонца ў гары.
І верш генеральскі
Змушае задумацца славу.

На небе ратайна бярэцца
Сузор'е Сяўня.
Як сцяг беларускі,
Балюча зара дагарае.
І чуе легенда,
Як поўніць нутро вышыня.
Бялюткая зорка ўзыходзіць

[1] Булак-Балаховіч Станіслаў Нікадзімавіч (1883–1940), беларускі ваенны і палітычны дзеяч. Служыў у Чырвонай арміі. У 1920 г. прыняты са сваім конным атрадам у склад войск БНР. У 1920-я — 1930-я гг. генерал брыгады польскага войска. У 1937–1939 гг. прымаў удзел у грамадзянскай вайне ў Іспаніі на баку Ф. Франка. У час 2-й Сусветнай вайны забіты ў Варшаве нямецкімі акупантамі.

На лабасхіле каня.
Яна не спакорыцца
Чырвоназоркавай зграі!

*9 верасня, пятніца*

На працу. Дамовіўся з бухгалтэрыяй, каб Васілю заплацілі грошы. Прыходзіў Васіль. Настрой ягоны вясёлым ніяк не назавеш. Наогул, ужо мы на дне ямы, якую капалі самі сабе пад наглядам камуністаў.

*Як сказаў...*

Маланкі, быццам дрыжакі цела,
Абшар нябесны перасмыкалі.
Трывога ўстураная трымцела,
Як тая йскрыпка перад смыкамі.

Цень намагаўся зірнуць у люстра,
І прысмерк шустра шукала вока,
Ды толькі, як сказаў Заратустра[1],
Зоркі былі занадта далёка…

*10 верасня, субота*

Сойм БНФ. Інфармацыя аб палітычных падзеях у краіне [*В. Асташынскі*]. Даклады. *З. Пазьняк:* Аб стане грамадства й выбарах у Саветы. *Ю. Хадыка:* Аб выбарах прэзідэнта й палітычным становішчы. *В. Івашкевіч*[2]: Выбары й выканаўчая ўлада. *В. Вячорка*: Тэзісы да перадвыбарчай платформы Фронту.

Быў Васіль. Белы[3] кажа, што прэзентацыя кнігі Мярляка[4] прайшла ў Музеі Купалы. «Добрая зала, калі Вам патрэбна будзе, майце на ўвазе». Васіль сумнавата: «Ніякой залы мне не трэба, мне якую-небудзь будку». Пасля званіў Васіль і абураўся Лойкавым[5] артыкулам у «ЛіМе» пра чыстае мастацтва. Гэта на руку камуністам і нашаму Саюзу пісьменнікаў. Падтрымлівае аморфнасць нашых пісьменнікаў. Гэты б артыкул тады, у камуністычную эпоху. А не цяпер.

---

[1] Заратустра (Заратуштра — іранск., Зараастр — грэч.; паміж X і 1-й пал. VI ст. да н. э.), прарок і рэфарматар старажытнаіранскай рэлігіі, якая атрымала назву зараастрызм.

[2] Івашкевіч Віктар Антонавіч (1959–2013), беларускі журналіст, палітычны дзеяч, адзін з заснавальнікаў БНФ.

[3] Белы Анатоль Яфімавіч (1939–2011), беларускі грамадскі і культурны дзеяч, навуковец, калекцыянер. У г. Старыя Дарогі Мінскай вобл. заснаваў прыватны Мастацкі музей (1990).

[4] Мерляк Кастусь (1919–2007), грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў ЗША.

[5] Лойка Алег Антонавіч (1931–2008), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і літаратуразнавец. У 1956–2004 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалагічных навук (1969). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1990), прэміі імя У. Пічэты (2003).

*Юрый Хадыка*

Я паважаю Юрася,
Люблю няўрымснага Хадыку.
На тым і эпіграма ўся,
Хадыка любіць панну Ніку.

*Зянон Пазьняк*

Пазьняк рашучы, як скразняк,
Ды мае нораў ураганаў.
Кучкуйся, камуніст-слізняк,
Ён Беларусь збудуе нанаў.

*Леанід Дранько-Майсюк*

Паэт! Нагбом пі асалоду.
Гаркоту толькі прыгубі.
Рабіць заўжды знаходзь нагоду
Ўсё, што канчаецца на -бі.

*11 верасня, нядзеля*

Увесь дзень і хварэў, і даводзіў да пэўнага ладу фалічны вушацкі фальклор.

*12 верасня, панядзелак*

На машынку троху для «Здубавецьця». Час ідзе, ужо ўвесь мой адпачынак фактычна прайшоў. Раздвоенасць: душой у Вушачах, нагамі ў Менску. Прыходзіў Манаеў[1] — наконт Назіральнага камітэта ў Фондзе Сораса, каб я (згадзіўся).

*13 верасня, аўторак*

Бутэвіч, выходзіць, падпісаў паперу наконт Збору (твораў). Канцылярыя непаваротлівая, як і ва ўсе вякі ва ўсіх дзяржавах. Званіў Васілю наконт — ці ўваходзіць мне ў Назіральную раду Фонду Сораса. Сказаў згаджацца, хоць будзе ведаць, як Сорас праз камуністычных памочнікаў корміць ВПК і ідэолагаў камунізму. Парадокс атрымліваецца — фонд і яго заснавальнік супроць камрэжыму, а стыпендыі даюцца ваенна-прамыславікам і камуністычным падпявалам, так званым вучоным. Атлумеўшы ад усяго разам, пісаў калыханку. «Калыханка Мірону»[2].

[1] Манаеў Алег Цімафеевіч (н. 1952), беларускі сацыёлаг. Доктар сацыялагічных навук (1991). Прафесар. Заснавальнік і дырэктар Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД; з 1992).
[2] Гл.: Калыханка Мірону (13.09.94) // Выпаў грук у грома з рук. С. 20.

* Дамініка глядзела на малюнкі ў кнізе пра Алёнку: «У вусіх, хто ў лапцях, шчокі чырвоныя». Ідзе ў садок, зачыняю дзверы. Просіць перадаць прывітанне кату й пацалаваць Міруту.

*14 верасня, серада*

Званіў Васіль. У «Народнай (газеце)» ліст з подпісамі Шамякіна, вядома, Каваленкі й іншых, каб паставіць помнік Крапіву, бо акадэмік. Васіль сумна заўважыў: «Чаму ж пра другога акадэміка ніхто не рупіцца з вучонага свету — пра Алеся Адамовіча?» Бо вораг сістэмы, якая дасюль дзейнічае. Званіла Ілона. Прыедзе. Быццам выстава ў Аўстрыі будзе. Трэба зампашпарт.

*15 верасня, чацвер*

На працы дачытваў Коласа, каб выбраць выбранае. Уражанне холаду ў бульбяной яме. Дзядзьку Якубу не трэба было наогул пісаць вершы ў савецкі час — вяршыня падзення. Эпік ён цудоўны, а карцела на дужкі′ хадзіць з вялікім Янкам.

*16 верасня, пятніца*

Званіў Васілю. Фільм пра Слуцкае паўстанне абкладваюць з усіх бакоў. І акторы патрабуюць, падбухтораныя [...] Гасцюхіным, 350 долараў за здымачны дзень і хочуць грошы, якія даюць спонсары, перахапіць праз наноў створаны фонд, куды ўваходзяць «цыкуны» Шабалін[1], Законнікаў, член ЦК Чыгрынаў. А мне пазваніў скульптар Паўлаў[2]. Бачце, яны робяць не помнік [...]-інтэрнацыяналістам у Афганістане, а наогул усім беларусам маладога веку, якія загінулі ва ўсіх войнах у розныя стагоддзі. Гэта толькі размова, а як помнік адкрываць, дык будзе ён афганскім [...]. Не ў святым жа мейсцы ставіць яго дый не такі. Гэта мусіць быць помнік кайнасці й віны, бо загінулі хлопцы па накіраванню КДБ і КПСС, кіравалі з Лубянкі. Добра сказаў Васіль: «Помнік афганцам трэба насупраць ЦК — і ка′ты, і ахвяры разам».

*17 верасня, субота*

Перадрукоўваў і ўспамінаў вушацкі скаромны фальклор. Лецка абяцаў выдаць, і старым правапісам. Апошняе мне дужа імпануе. Камісія Ніла распісалася ў бездапаможнасці. Што ні даручае партыя камуністаў Нілу, выконвае годна. Гімн заваліў, новы правапіс таксама. Беларусіза-

---

[1] Шабалін Аляксандр Андрэевіч (1938–2013), беларускі публіцыст, пісьменнік, сцэнарыст. З 1978–2003 гг. гал. рэдактар час. «Беларусь». Заслужаны дзеяч культуры РБ (2000).

[2] Паўлаў Юрый Паўлавіч (1935–2019, г. Днепр, Украіна), украінскі скульптар. Аўтар помніка «Востраў слёз» (Востраў Мужнасці і Смутку. Мінск). Заслужаны мастак Украіны.

цыю асабліва. Ленін — наадварот Нінел — бацька-сельсаветчык назваў сынка.

*Часцей...*

Пачынаюць часцей і часцей
Дарагія нябожчыкі сніцца,
Выплываць, як з тунэлю цягнік,
Са сну сасновая дамавіна.
Так няйначай і зорцы —
Патэнцыяльнай знічцы
У гарачым нябесным сне
Муліцца цвердзь павінна.

*18 верасня, нядзеля*

Да Навума. Данёс яшчэ вершаў на пераклад. Сышліся ў думках, што Колас празаік і вершы, асабліва савецкія, мог і не пісаць, як і Купала, хоць у Вялікага Янкі й казённыя тэмы гучаць узвышана. І добра, што, як ні кашчунна гучыць, Максім Багдановіч не дажыў да саветчыны. Што б ён рабіў, калі б нават яго не знішчылі першага, бо ён жа паэт чыстае пробы. Напісаў для «Здубавецьця» «Замест уступу»[1].

*Апальныя*

Не елі, ні пілі, ні спалі,
Гнеў вылівалі да цурка.
Яны былі ў такой апале,
Аж сталі членамі ЦК.

*19 верасня, панядзелак*

У кожнай хаце па лапаце. Сёмухаў сынок пазычыў 1000 даляраў, цяпер не можа аддаць. Даводзяць деткі беднага Васіля. Усё жыццё б'ецца як рыба аб лёд. А сам прыйшоў дамоў, схапіла галаву. [...] «Як памочнікі смерці, ў горадзе...»[2]

*21 верасня, серада*

Прыехаў Палякоў з Ізраіля. Заўтра прагляд матэрыялу пра Васіля на кінастудыі.

Генадзю, відаць, давераць пісаць даклады Ганчару. [Лукашэнка] у прэсе святкаванне гадавіны бітвы пад Воршай назваў шабашам. [...].

---

[1] Гл.: Замест уступу (18.09.94) // Здубавецьця. С. 5.
[2] Гл.: «Як памочнікі смерці, ў горадзе...» (19.09.94) // Ксты. С. 330.

*Без узросту*

Ноч агаляе ўсе заганы,
Што дзень хаваў далей ад вока.
Маўчыць спакой, як вол загнаны.
Смяецца зорнае барока.

Маланак крохкія галіны —
На іх ручнік дарог не вешай.
І цемры цупкія цагліны
Чакаюць, каб зрабіцца вежай.

І пачынаеш верыць Рыльке,
Што зноў прырода без узросту.
Плывуць планеты, як арыйкі.
І сніцца шыбельня памосту…

*22 верасня, чацвер*

Добра пачаўся дзень. Дзве з паловай гадзіны глядзелі адзняты матэрыял па Васілю. Усё кранае: і абымшэлая страха, дзе драніцы разлятаюцца ад дотыку, і замкнёная хата з вакном, дзе маленькі Васілёк любіў вучыць урокі, адкуль узіраўся ў свет, і тая страха, але залапленая снегам, і нейкая забытая вясновая амаль хада самога Васіля па вясковай дарозе, што павяла яго ў свет і вырашыла зноў вярнуць да бацькоўскага парога, які ўрос у зямлю й зарос травой да здзірванеласці. Хата, мінулае не пускае да сябе таго, хто пайшоў з іх. Дазваляюць хіба паглядзець звонку. А возера Горадня са зменлівым, як неба, настроем. Валун, а на ім Васіль сядзіць, як вядун які, толькі сучаснага выгляду. Адзін кадр гэтакі цікавы, што, здаецца, паваліласся вялікае дрэва з размашыстымі галінамі й зніцелым ствалом, а гэта так напалову роўна адбіваюцца дрэвы ў возеры. А вочы Васіля зусім не такія, якія на фота, у тэлевізары. Журботна-маладыя, аж часам гарэзлівыя.

Пазваніў Васілю, сказаў, што ён добра выглядае, што цудоўныя кадры ёсць. Васіль адказаў: «Гэта проста плёнка добрая папалася». Не любіць слухаць цялячае лірыкі. Хоць у душы дужа тонкі лірык, далікатны чалавек, якога раніць любая парушынка. А вонкава рашуча-непадступны, замкнёны, як ягоная родная хата ў Бычках.

[…] А тут пахаладала, дождж. Душа за Дамінічку баліць. Я баюся з ёй абыходзіцца, як з электронікай. Ды, дзякуй яму, Васіль Васілевіч, другі дзед, прывёў яе, падабралі абуванне, адзяванне. Пачуў яе, пабачыў — на душы паспакайнела.

Яшчэ Палякоў прывёз з Іерусаліма асвечаны грэцкім святаром на труне Гасподняе крыжык. Надзеў — адчуў нейкі спакой, нейкую абароненасць. Змалку насіў крыжык. Цяпер — да труны. І ў труну хай пакла-

дуць са мной. Помню, як шукалі маме пакласці крыжык. Здаецца, пасля проста ў магілу паклалі. Тады не помнілася нічога. З мамай і свет мой канчаўся. Ён і цяпер няпоўны, пусты без мамы.

*23 верасня, пятніца*

Занёс ў «Вясёлку» вершы. Некалі Калачынскі[1] на запытанне, што ён робіць, на поўным сур'ёзе адказваў: «Пішу вершы да свайго юбілею». Сёння 70 Артуру. У «Народнай [газеце]» ён на фота з Пазьняком, а далей Быкаў. Гэта называецца чужымі клёцкамі сваіх Дзядоў памінаць. І нехта дапісаўся яўна са слоў юбіляра, што ён узняў сцяг незалежнасці. Наогул, мысленне «Вясёлкі» 60-х гадоў. Бог з ім, хай будзе здароў.

Званіў Васілю. Нагадаў пра кіназдымкі. Васіль: «Возера — мая царква. Паганская царква. Аконца ў боскі свет. Усё змянілася, а вось возера — не. Кожная алешынка, здаецца, засталася тая ці новыя парасліі. І бераг увесь той жа, і ўвесь абрыс азёрны, нават траснік там, дзе рос, там і расце, і за возерам тыя ж мясціны. Тут адчуваю нейкую светласць».

Баліць галава; каб неяк адвадзіць боль, узяўся перакладаць самы цяжкі верш Гётэ, які Лермантаў зрабіў расійскім, фактычна сваім вершам. Гэта недзе пяты варыянт:

А над вяршынямі пануе
Спакой,
Ані пачуе
Слых чуйны твой
Уздыху вершалін.
Птушыны шчэбет дагарае.
Чакай, не за гарамі
І твой спачын.

Адчуваю, што доўга і безвынікова давядзецца біцца над гётэўскім шэдэўрам. Але ж хочацца, але ж недзе ў душы спадзеўка.

*24 верасня, субота*

Прыехала Ілона. Халодная, галодная. Але такая дарагая, такая родная. З гадамі бацькоўская любоў мацнее, як вытрыманае віно. Мой нястомлены яшчэ працяг. Мой смутак. Мая радасць. Мая някрыўдная мана. Гэта маё я, толькі папраўленае не на маю карысць часам. Стараўся нешта даць і з ежы, і з адзежы. Люблю ёй даваць, заўсёды радасць у яе вачах. [...]. Ілоне ёсць выклік у Аўстрыю, нейкія сцэны размалёўваць, калі верыць ёй.

[1] Калачынскі Міхась (Міхаіл Іванавіч; 1917–1990), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1974).

Стала на шлях натхнення, а яно, асабліва ў наш час, нават не пракорміць. Ні славы, ні кавы. Ды няхай, абы толькі здароўе не падарвала.

Быў у Навума. Самотны. Старасць ужо ўссаджваецца яму на′ спіну, як і мне, маладзёну. «Не спяшае»[1]. Нейкі ўзвышаны душэўны стан, нібы на вагах настрою мяне то важаць, то зганяюць з вагаў.

*25 верасня, нядзеля*

Уночы яшчэ варыянты йшлі. Апошні:

А на вяршынях некрануты
Спакой.
І вершаліны ахінуты
Глухой смугой.
І, непачуты, ты адзін.
Птушыны шчэбет дагарае.
Чакай, не за гарамі
І твой спачын.

Гэта Гётэ. А хатнія справы нэрвовыя. [...] Не магу ўзяцца за працу доўгую. Вакзальны настрой. А час ідзе. Сівею, сівею, сівею. У гэтых тройчы паўторах свет завеі, подых сіверу. Зіма мая на дварэ. Усходняя пры′слаўка кажа: перш чым будавацца, выберы суседа. Дык у працяг ёй можна сказаць: перш чым пускацца ў жыццё, пабудуй сям’ю. Няма сям’і — няма спакою. «Зялёнае мора»[2].

*26 верасня, панядзелак*

Нарэшце прыйшло рашэнне Бутэвіча пра выданне Збору твораў. З 13-га (шчаслівая мая лічба ў днях) ляжала ў канцэлярыі. Бляндзінка сакратутка не была там.

У Навума дзень нараджэння. Як мы ўсе сумна й па-старэчаму пнямі выглядаем на фоне Навумавай Надзі-студэнткі (пляменніцы) й ейнага хлопчыка-студэнта філосафа. Потым узгарэліся спрэчкі. Навум, Сурскі за імперыю: аднаму было смешна з імперыі, другому было вольна ездзіць на сімпозіумы й нарады. Тарас супроць, але ў яго свае прэтэнзіі да Народнага Фронту й да Арсенневай[3] з Кушалем[4]. Апошнія, бачце, засядалі ў тэа-

---

[1] Гл.: Не спяшае (24.09.94) // Ксты. С. 337.

[2] Гл.: Зялёнае мора (25.09.94) // Босая зорка. С. 38.

[3] Арсеннева Наталля Аляксееўна (1903–1997), беларуская паэтэса, перакладчык. Як жонка Ф. Кушаля была выслана з сынам у Казахстан (1940), была вызвалена (1941) і вярнулася ў Беларусь да бацькоў мужа. У 1941–1944 гг. супрацоўніца «Беларускай газэты» (Мінск). У 1944 г. выехала ў Германію, з 1950 г. у ЗША.

[4] Кушаль Францішак Вінцэнтавіч (1895–1968), польскі вайсковец (з 1922), дзеяч беларускай эміграцыі. У 1939 г. інтэрніраваны ў СССР. У 1940 г. вярнуўся ў Беларусь, адпушчаны

тры, калі людзей расстрэльвалі й не былі за Беларусь. Яўрэйскі погляд на нацыянальнае пытанне ў вайну своеасаблівы. Толькі пра сябе.

Прыехаў з Англіі Вальдко Калінін[1]. Вывучыў яшчэ грэцкую мову, каб лягчэй было перакладаць Біблію на цыганскую мову. Усё з'іначылася. Бесарабскія цыганы аблапошылі нашых — грошы й яшчэ машыны пазычылі й махнулі ў Малдову. З'іначыўся свет. Калі цыган хоча нешта сказаць шчыра, можа, і непрыемнае, папярэдне кажа: «Золата, серабро табе ў вушы, але слухай».

Генадзь назначаны галоўным саветнікам віцэ-прым'ера Рэспублікі Беларусь. Пісаць паперы Ганчару. Шкада Генадзя.

*27 верасня, аўторак*

На працы тлум. Проза ўся п'яная. Гомельскі філосаф [Кусянкоў] у гневе. Сяджу на званках — Ілоне трэба замежны пашпарт. Бярэ з сабой [Косцю] […].

*28 верасня, серада*

Прачытаў рукапіс Генадзя. Ёсць тэхніка 60-х гадоў. Прыходзіла Ілона. Крыху счубіліся. Сэрца разрываецца, як расказвае, як яны галадалі. […] на сесіі Вярхоўнай камедыі як жывы выступаў [Лукашэнка] […]. Увогуле, пасаду прэзідэнта ў нас рыхтавалі як пасаду сакратара ЦК, а розніцы няма […]. У любым выпадку выйграваюць камуна-[…]. Звыш двух стагоддзяў расійскага рабства, плюс камуністычны крывавы эксперымент дарэмна не прайшлі. […] Аж сорамна быць беларусам, […]. Во пакараў Бог за грахі вялікія нацыю, што няма ёй ні спакою, ні адхлання. Сорам.

«Беларуская чысціня…»[2] Гэта сёння быў дзень нараджэння Ірыны[3], унучкі Аркадзя Моркаўкі[4], блізкай радні сябра майго Змітрака Моркаўкі[5]. Шкада, што й па бацьку, і па мужу яна расійская прозвішчам.

---

з Лубянкі. З 1941 г. начальнік падафіцэрскай беларускай школы паліцыі ў Мінску, з 1943 г. член Беларускай цэнтральнай рады, з 1944 г. шэф гал. камандавання Беларускай краёвай абароны. З 1944 г. у Германіі, з 1950 г. у ЗША.

[1] Калінін Вальдэмар Ільіч (н. 1946), цыганскі паэт, перакладчык. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Хірасімы (Швецыя), Літаратурнай прэміі «Цыганская прэмія» (Венгрыя). Ураджэнец Беларусі. З 1993 г. жыве ў Англіі.

[2] Гл.: Беларускасць (28.09.93) // Слаўлю чысты абрус. С. 177.

[3] Качаткова Ірына Львоўна (1953–2018), мал. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Перакладчыца. Унучка А. Моркаўкі, пляменніца Дз. Моркаўкі.

[4] Моркаўка Аркадзь Андрэевіч (1900–1957), беларускі паэт.

[5] Моркаўка Дзмітрый Аркадзьевіч, беларускі журналіст. Сын А. Моркаўкі.

*29 верасня, чацвер*

Запіс на радыё. У крамы хоць не заходзь — цэны, як ваўкарэзы, за глотку бяруць. «Помірг»[1]. Някляеў расказваў, што званіў Вялюгіну[2]. [... жонка[3]] сказала, калі грошы Толю, лепш дайце мне, а яму кепска, нават напісаў верш, што праз тры дні памрэ. Як чалавека шкада, як Вялюгіна — гідотна. [...] чалавек без душы, паэт — без душы асабліва. Верны [...] рэжыму. Усе гады прыязнасці лічу п’яным кашмарам. Брыдка.

* Дамініка: «Пойдзем у жывацельны магазін (дзе жвачкі)». На Мірона: «Чарнамырдзін ты запісючы. Не хваліся сваім чорным целам... Гэта не мурашкі, а ў цёцяў абцасікі такія (сцежка)».

*30 верасня, пятніца*

Сустрэў Белахвосцікава[4] з Купалаўскага [тэатра]. Сказаў пра Чыгрынава: дужа баіцца смерці. Вядома, баяцца яе ўсе. Але яна — самая цярплівая дама, цярплівейшая за старасць. Бойся, не бойся — ніякой розніцы. Толькі чакаць смерць не трэба. Яна сама прыходзіць, калі ёй выпадае. Смерць не любіць, калі чакаюць яе. Прыходзіць знячэўку, як пражэрлівыя госці да беднага гаспадара. У самы нязручны момант. Відаць, мае смерць дамовіны з жыццём, каб не расхалоджваўся чалавек, каб да апошняга спадзяваўся й стараўся. Нездарма ж і слаўка: цягніце жылы, пакуль жывы. Сам таго не заўважаючы, пачынаю думаць пра смерць. Хоць і адганяю сам жа падумку гэтую.

*1 кастрычніка, субота*

[Малюнкі.] Гэта мне Дамінічка малявала кветку й дрэва. Зямля, сказала, можа быць сіняя, каб прыгажэй. «Жабракі...»[5] Толькі на Госпада спадзяванне, а так выжыць немагчыма пры шалёных цэнах і вар’яцкай аплаце й зарплаце. Зарплата, калі *р* выкінуць, па-расійску добра чытаецца: *заплата* ў дзюравым бюджэце.

*2 кастрычніка, нядзеля*

Першыя халады мне пахнуць паваеннай Вушачай, галаднаватасцю на мяжы з голадам. І разам з тым разліта нейкая смутная бадзёрасць і цьмяная трывога.

---

[1] Гл.: Помірг (29.09.94) // Ксты. С. 294.

[2] Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923–1994), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

[3] Вайцяшэня Людміла Мікалаеўна, жонка А. Вялюгіна.

[4] Белахвосцік Валянцін Сяргеевіч (1934–2003), беларускі акцёр. З 1958 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1989).

[5] Гл.: «Жабракі...» (1.10.94) // Ксты. С. 355.

*Прагрэс*

Ступае ўнураны прагрэс,
Свае не цішачы хады.
Вароны пакідаюць лес
І падаюцца ў гарады.

І маладыя, і ў гадах
Вароны быццам маюць дах.
На сметніках у гарадах
Сядзяць, няйнакш на тых грудах,
На крушнях тых, дзе ў халады
Быў ценькі дзень і цень худы.

Усё болей і болей суму асядае на душы. Нічога светлага ўперадзе не бачыцца. Толькі змрок, толькі беспрасветнасць.

*Абначавала*

Звінела радасць вясёла, смела,
Ды звон выяўны рабіўся гулам.
І ўсё наўкола як анямела,
І дзень надзённы стаў днём мінулым.

І лесавое, і лугавое
Усё забрала смутку адрына.
Хмурына вісне над галавою,
Абначавала ў душы хмурына.

Святла і ценяў перапялёссе
У цеснай цемры знікла агулам.
І што збылося, што не збылося,
Быць засталося толькі ў мінулым…

Вечарам хадзіў да Самсона Палякова. Ён наздымаў відэакамерай шмат Ізраіля. Таленавіты чалавек і мой сябра яшчэ са студэнцкіх гадоў. Гефсіманскі сад як жывы. А Іардан зялёны ад навіслых дрэў, ды чысты, бо рыбы процьма. Аж неяк не вяжацца — сівая гісторыя, святыя мясціны й вусатыя самы, якія хапаюць у мелюзгі кавалачкі.

*3 кастрычніка, панядзелак*

Званю Васілю, пытаюся пра здароўе й пра новую кнігу апавяданняў. Пытаецца пра здароўе ў мяне, пра кнігу гаворкі не хоча. Кажу, што ем рыбіну — народны сродак. Жартуе: народныя сродкі, як народныя легенды. Кажу, што фільм пра яго назвалі «Край перакуленых нябёс». Зазначае, што паэтычна, а правільней было б назваць «Край перакуленага жыц-

ця». Так дакладней. З Андраюком утрасалі пытанне планаў, ён згодны на Збор твораў Гарэцкага[1], колькі тамоў Жылкі[2], Стральцова, Лупсякова[3], а таксама святое пакутніцы Геніюш[4]. Званіў Бураўкіну, пад вечар злавіў па тэлефоне. Зборнік ягоны выдадзім хутка. І да юбілею нешта. «Праклён»[5].

*Трымцінка*

Разгуляўся раскідзісты вецер-зух,
Аж у восені разлягаецца
З жоўтага лісту спаднічка.
Як лісцінка-трымцінка
За сухаваты сук,
Трымаецца за мяне Дамінічка…

Вечарам слухаю радыё, калі гучаць мае вершы. Нешта перад пачаткам загадкава дужа музыкі. Выкінулі верш пра Булак-Балаховіча. Цэнзура бальшавіцкая па-ранейшаму. Некалі студэнтам у 54-м годзе запаўняў анкету для ваеннае кафедры. Там значылася пытанне: «Состоял лі в бандах Булак-Балаховіча?» Гэта нарадзіўшыся ў 35-м. Значыць, […] анкета дзейнічае й цяпер. І не дзіва. […].

*4 кастрычніка, аўторак*

Да Луцэнкі ў Расійскі тэатр. Дакументальны фільм пра немца, які назначыў пенсію маладзіцы з Лёзненшчыны, што даглядала магілы салдат савецкай імперыі. Даў загаловак «І толькі след на небе…»[6].

*5 кастрычніка, серада*

Прыязджала Данута Бічэль[7]. Пачала даказваць, што Геніюш была дужа прыземленая, дужа з народа, які не любіць […] Чобат[8]. Глядзеў на яе, і міжволі ўсплылі радкі Смелякова[9]: «Целую старческую руку, что

[1] Гарэцкі Максім Іванавіч (1893–1938), беларускі пісьменнік. Рэпрэсаваны.

[2] Жылка Уладзімір Адамавіч (1900–1933), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны. Жылка У. Творы: Паэзія, эсэістыка. Укл. і прад. У. Калесніка. Мінск, 1996.

[3] Лупсякоў Мікола (Мікалай Радзівонавіч; 1919–1972), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[4] Геніюш Ларыса Антонаўна (1910–1983), беларуская паэтэса. Была рэпрэсавана (1948–1956).

[5] Гл.: Праклён (3.10.94) // Босая зорка. С. 16.

[6] Гл.: І толькі след на небе… (4.10.94) // Ксты. С. 223.

[7] Бічэль Данута Іванаўна (н. 1938), беларуская паэтэса, празаік. У 1982–1995 гг. ст. навук. супрацоўнік, заг. літаратурнага аддзела (Музея М. Багдановіча) Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

[8] Чобат Алесь Фёдаравіч (н. 1959), беларускі пісьменнік, журналіст. У 1990–1995 гг. у друку, у 1995–1998 гг. супрацоўнік Літаратурнага музея М. Багдановіча (г. Гродна).

[9] Смелякоў Яраслаў Васільевіч (1913–1972), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1967).

ручкой белою была». Адных называе камуністамі, калабарацыяністаў фашыстамі. Каша ў галаве ўжо дужа па-правінцыйнаму амбітнай. Шкада Данусю.

*6 кастрычніка, чацвер*

Нэндза цісне. Пачынаю адчуваць, які жабрак я па сутнасці. Трэба лічыць капейкі, якіх няма. Цэлая праблема з'ездзіць у Вушачу й забраць цешчу. Адпачынак ляснуўся. Халадок галечы дыхае на мяне. Добра было б і пагаладаць нават, каб была надзея, што будуецца незалежная Беларусь. [...].

У Рыльке:

Адно да вершаў доступ ёсць, дзе словы
былое пачуццё нясе адборныя.
Ёсць між жыццём і працаю вялікай
варожасць старадаўняя якаясьці.

Ратуюся Рыльке ад адчаю, дабаўляючы адчаю ягонай паэзіі.

*7 кастрычніка, пятніца*

Заходзіў у ПЭН-цэнтр. Выйшаў зборнік матэрыялаў[1] сесіі, дакладней — кангрэса ў лесе. Гэта помнік Карласу й Сорасу. Ілона атрымала замежны пашпарт. Матам хочацца вылаяцца. Чырвонаскурая пашпарціна. Як называў яго гарлан і галаварэз Маякоўскі[2], і вялікімі, па добрым сабаку, літарамі агіднае СССР. Вось табе й незалежнасць. Сапраўды, як казаў Адамовіч, Парагвай. Бачце, няма новых, на гэта грошай увобмаль, а на розныя рухі й пераніцоўку кампартыі ўсё ёсць. Званіў Васілю. Ён прыйшоў з прэзентацыі кнігі Цвятаевай[3] у перакладзе Аколавай. Цьмяна запрасіў Ваніцкі. Васіль тон капусніку перавёў на сур'ёзны пра трагічную фігуру Цвятаевай. Рагойша[4] казаў, што сын[5] загінуў пад Полацкам, а Васіль удакладніў, што пад Свірру застрэлілі смершаўцы, вынішчаючы

---

[1] Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры «Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя»: Тэксты. Дакументы. Матэрыялы. Мінск: Незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія», 1994.

[2] Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч (1893–1930), рускі паэт.

[3] Цвятаева Марына Іванаўна (1892–1941), руская паэтэса.

[4] Рагойша Вячаслаў Пятровіч (н. 1942), беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1993). Прафесар (1994). У 1991–1994 гг. нам. дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, з 1994 г. заг. кафедры філфака БДУ. Лаўрэат Міжнароднай прэміі імя І. Франко (2000).

[5] Эфрон Георгій Сяргеевіч (1925–1944), сын М. Цвятаевай і С. Эфрона. Прызваны ў армію, цяжка паранены ў 1944 г. Парэшткі перапахаваны ў брацкай магіле ў г. Браслаў Віцебскай вобл.

ўвесь род. Упомніў і мужа[1]. Пасол Расіі папытаўся: «Дык як жа будзем уручаць ордэн?» Васіль адказаў, што гэта іхні клопат. Краўчанка цяпер пачаў абурацца, што ўсю (?) падслухоўваюць і гэтак далей. Тады Васіль запытаўся ў Садоўскага[2], на каго працуе разведка? Пачаў цьмяна юліць. Ну, вядома ж, на Расію, кажу я па тэлефоне, бо нашыя амбасады, як тыя вераб'і ў буслоў, у расійскіх будынках. І тут тэлефон перапыняецца. Слухаюць і ўдзень, і ўночы […]. […] уся шуя заварушылася, падняла галовы.

*Не вырвацца*

…ведаюць толькі конскія капыты.

*Бо Цзюй-і*[3]

Не паспеў я разбагацець на каня,
На якім бы хацеў абскакаць сябе ж.
Як маўчала, так і маўчыць цішыня.
Дарогу ўцякаць падбухторыла даўжыня.
Расце тугі вышыня,
не прызнаючы меж.

Дарогу ў нікуды й куды
ведаюць конскія капыты.
Не блытаюцца нязгоды й лагоды сляды.
Зямным гадам не звыкаць да хады.
Часу не вырвацца
ў неіснуючасці з-пад пяты.

Маю насалоду, як казаў Караткевіч, чытаючы старадаўніх кітайцаў. Вельмі лёг на сэрца Бо Цзю-і (772–846), ён улавіў сум, разліты ў паветры вякоў.

Бо Цзюй-і

*Мая маленькая хацінка*

Хацінка мая маленькая
да вёскі туліцца ўсутыч.
Праз рэдкую зыгарадзь
бачу сабак і курэй.

---

[1] Эфрон Сяргей Якаўлевіч (1893–1941), расійскі літаратар; афіцэр Белай арміі. Вярнуўся ў Расію ў 1937 г. Рэпрэсаваны (1939–1941). Муж М. Цвятаевай.

[2] Садоўскі Пётр Вікенцьевіч (н. 1939), беларускі мовазнавец, палітык, дыпламат. Кандыдат філалагічных навук. Дэпутат ВС РБ 12-га склікання (1990–1992, 1994–1995). Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол РБ у Германіі (1992–1994).

[3] Бо Цзюй-і (772–846), кітайскі паэт.

Канавы адводзяць
ад вулак паўднёвых ваду,
І вокны ўбіраюць
паўночнай сядзібы спазор…
Гасподай Юй Сіня
быў сад невялічкі і толькі,
Сям'я Тао Цяня
была агарнута галечай…
Ці так нам і трэба
дашуквацца абсягаў,
Тады як абсяжна
быць мусіць у сэрцах саміх!

*У забаронным палацы дзяржаўцы*

Уваход забаронены, —
знерухомелі ўсе дзевяць брамаў.
Вокны сцішэлі, —
вольная зала адна.
Лепей за ўсё
выхоўваць сэрца тут,
Навошта жыць
далей ад людзей, у гарах!

*У ап'янеласці перад чырвонай лістотай*

Ветру даверанае
дрэва восенню позняй.
За віннай чарай
нехта ў пахілых летах.
У п'янага шчокі
быццам пад інеем лісці:
Хаця й барвяныя,
ды не вясна іх маладзіць[1].

Мне чамусьці ўспомнілася мая матка хросная[2], калі яна выпівала ў красу.

Гэта як з-пад слюды расійскага перакладу паклаў пад слюду беларускае мовы. Ніколі мне не будзе дадзена пачуць і зразумець даслоўна мудрых кітайцаў.

---

[1] Параўн.: У ап'янеласці перад чырвонай лістотай // Гуканне паэзіі Усходу: Пазыка. Пер. Р. Барадуліна. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2007. С. 38.
[2] Міклашэўская Феліцыя Антонаўна, маці хросная Рыгора Іванавіча.

*8 кастрычніка, субота*

З раніцы на з’езд Сораса. Абралі ў Назіральную раду. Буду назіраць, як даюцца гранты вучоным ВПК, […] камуністам кшталту Фёдарава[1]. З 11-ці да 17-ці. 70 гадоў савецкай селекцыі далі свае вынікі. На з’ездзе прынялі каля сотні новых членаў. Калі галасавалі за адну вабную даму, я аж прагаварыў: «У каго не падымецца рука, той імпатэнт». А наогул такі масавы заплыў па Янцзы ці не да выбараў. Каб мець не меней 500 чалавек. Як Артур Вольскі хоча ў дэпутаты, каб паспаць у Вярхсавеце на восьмым дзясятку.

Потым прэзентацыя будзінаўскіх «Итогов века»[2]. Першы том казак. Чамусьці серыя называецца й выдаецца без удзелу беларускіх аўтараў і падзагаловак «Взгляд из России». […] Помпа: пры ўваходзе ўсіх абносілі шампанскім. Абавязковыя дударавы й шаранговічы, Краўчанка, […] Платонаў[3] […]. […] Доліна[4]. Розныя Сапгіры[5]. […]. Маладыя геніі Расіі з вершамі й песенькамі кшталту «Антысексус». […]. Васілю беднаму давялося даваць слова Вазнясенскаму[6]. Добра, што сказаў літаральна пяць слоў. Андрэй стары, аплылы, старыя хохмачкі. Васіль смяецца, што ён некалі фатаграфаваў Андрэя тонкашыяга, а цяпер дзе тая тонкая шыя, увесь ушыркі пачаў расці. Наогул, як на трагічна-камічных хаўтурах прысутнічаў. Будзінас перад гэтым упаў у яму на дачы. Падымаўся на сцэну. Скапыціўся. Васіль заўважыў, што вясёлы пачатак. Будзінас сядзеў як Ленін у Разліве. У калідоры ў перапынку нейкая журналістачка падбегла да Васіля з пытаннем, што ён чакае ад гэтай серыі. Васіль адказаў: «Нічога». Калі зайшла размова пра том анекдотаў, дык Васіль сказаў, што анекдот веку — гэта камунізм. Пасля 4-х гадзін маскоўскай пашляціны запрасілі ўсіх за адзін стол. Мы з Васілём не пайшлі.

«Тэхніка вырашае ўсё: Траціць вартасць усё з гадамі». [У дзённіку.]

Даў сабе зарок болей не хадзіць на розныя прэзентацыі. Гэта занятак варты вартых. Іх у нас шмат, галодных на пітво й на жэрава, галодных на ўяўную славу, на жаданне пакрасавацца.

---

[1] Фёдараў Фёдар Іванавіч (1911–1994), беларускі фізік-тэарэтык. Доктар фізіка-матэматычных навук (1955). Акадэмік АН БССР (1966). Прафесар (1957). Заслужаны дзеяч навук БССР (1968). Сын Я. Маўра.

[2] Сказки века: Антология. Серия «Итоги века». Т. 1. Минск — Москва: ООО «Паліфакт», 1994.

[3] Платонаў Канстанцін Міхайлавіч (н. 1940), у 80-х гг. нам. міністра ўнутраных спраў.

[4] Доліна Вераніка Аркадзьеўна (н. 1956), руская паэтэса, бард.

[5] Сапгір Генрых Веніямінавіч (1929–1999), рускі паэт, празаік, перакладчык, сцэнарыст.

[6] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак, архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Ураду РФ (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

*9 кастрычніка, нядзеля*

Так захапіўся Бо Цзюй-і, што паспрабаваў перакласці ў рыфму, вядома, адыходзячы ад расійскага перакладу. Калі б быў даслоўнік і хто прачытаў, тады б наважыўся я перакласці дакладна. Вядома, гэтае дакладна адноснае. І свае вершы неяк ішлі, як шчупакі ў вершу.

«Зялёны ліст»[1].

** * **

Клянуся інем зімы,
Што нас аднойчы заручыла,
Клянуся іменем турмы,
Што нас у сцены залучыла.

У сцены цемры ды святла,
Дзе кленчыў згодзе гнеў высокі.
Датуль, пакуль турма была,
Мы і не марылі пра ўцёкі.

Клянуся інеем зімы,
Сваім адчаем прысягаю,
Што мне як вязню, без турмы
Не быць.
Няволя дарагая.

*Тут*

Тут
Спачывае ад пакут,
Ад памысноты, ад пяшчоты,
Калі прасклыгалі качоты
Чаўна Харонава прысуд.
Тут
Свой знайшоў апошні кут,
Хто йшоў да радасці ў залёты.
Тут
Перадышку ўважыў склюд.
І зачыніліся вароты.
І крэсіва згубіла трут.
Начнога неба згаслі соты
Тут.

[1] Гл.: «Зялёны ліст...» (9.10.94) // Ксты. С. 344.

*10 кастрычніка, панядзелак*

Сёння дзень нараджэння парсючка-палешучка. Пайшоў павіншаваць — няма, недзе у замежжы. [...]. Васіль Сёмуха мне параіў перарабіць верш «Тут». Паспрабаваў.

*Эпітафія*

Тут спачывае ад пакут,
Ад лютасці ды ад пяшчоты,
Як аблачына дажджавая,
Каму праслыгалі прысуд
Чаўна Харонава качоты,
Тут спачывае.
Усім,
Што засталіся тут,
Каму бяда яшчэ жывая,
Пазбыты ад штодзённых пут,
Ад літасці, ад памысноты,
Тут спачувае...

*11 кастрычніка, аўторак*

Адмовіўся ехаць у Прагу на кангрэс. Мелася ехаць з Васілём, а суправаджаць Алексіевіч і Вову Арлова не хочацца. Не ў мае гады. Прыходзіў у выдавецтва Шамякін і ўсё плакаў, які ён бедны цяпер і колькі было ў яго пры імперыі. Яшчэ [...] пакрыўдзілі: напісаў ліст з просьбай грошы [Лукашэнку], а той два месяцы не адказвае. [...] Пісаў вітанне купалаўцам:

Духам непадупалаўцы,
Вераю не зняверцы,
Часу свайго непраспалаўцы,
Сонцам Купалы, купалаўцы,
Грэйце крывіцкія сэрцы!

*12 кастрычніка, серада*

Званілі з украінскае амбасады, запрашэнне ёсць на канферэнцыю ў Кіеў. Можа, і з'езджу. Цікава: прадстаўнік, звонячы, адразу пытаецца: «Можа, па-ўкраінску не разумееце?» Вядома, я адказаў, што палічу за абразу, калі прадстаўнік Украіны будзе гаварыць са мною па-расійску. Гэта яму яўна ўпадабалася. А нашыя [...] на ўсіх узроўнях пасольстваў і двух словаў звязаць не ўмеюць па-беларуску. Цікава, што на працягу двух стагоддзяў пад гнётам двух імперый беларусам дый іншым паднявольным народам дзяўблі, што расійская мова развівае мовы нацыянальныя. Калі ўсё якраз наадварот [...].

* «Добрай раніцы!» [Дамініка] маўчыць. «Чаму не адказваеш?» — «А я думаю. А калі думаюць, тады нічога не гавораць». Ноччу перад сном: «Мне сабака чалавечым голасам сказаў, што я харошая».

*13 кастрычніка, чацвер*

*Ушача.* Туды й назад на роднае гняздо. Як не хочацца ад'язджаць з дому, як цягне ўсё наваколле, літаральна прымушае задумацца, аціхнуць, ачахнуць, нават крыху пышастае слова *аўра* дома хатнім робіцца.

* Пытаюся ў Дамінікі: «Ну, ты пачаставала ў садку дзяцей цукеркамі?» — «Я іх так пачаставала, што мне ніводнай цукеркі не пакінулі». Пытаюся: «Якіх дзядоў болей любіш? — «Люблю ўсіх, хто мяне радзіў».

*14 кастрычніка, пятніца*

Сёння Пакроў. Не дужа сярдзіты. Значыць, і зіма не дужа лютаваць будзе. Добра халадком і галечаю праветрыць душу. Адчуць няўмольнасць побыту й суровасць свету. Ніхто цябе не сагрэе, апрыч самога сябе.

* * *

На Куршскай касе ў аціхлай Нідзе,
Я помню:
Восень смелай багатыркай
Ішла ў залаталісцевай хламідзе,
Затоцы шэпчучы: — Не дужа зыркай…

На Куршскай касе ў азяблай Нідзе,
Я помню —
Узгоркаваценіся дзюны.
І ўдзячны быў я ветранай планідзе,
Што бурштыновыя паслала руны.

На Куршскай касе ў сыпучай Нідзе,
Я помню,
Як прамень гуляў з пяскамі.
У віры дрыжэла зорка, што ў зеніце.
Бруя звівала хвалі паяскамі.

*15 кастрычніка, субота*

Хадзіў па залатых прысадах. Ва ўсе вякі яны чаравалі й чараваць будуць невыказным бадзёрым сумам. У шэпце жоўтага лісця чуецца скарга на лёс і ўдзячнасць лёсу, што дазволіў зелянець, санцавіць і дагараць на халоднай зямлі. «Рудзізна»[1], «Сімвал: З'ездзіўшыся зусім,

[1] Гл.: Рудзізна (15.10.94) // Ксты. С. 307.

вол...» [у дзённіку]. Паводле мудрага в'етнамца Зыонг Кхонг Ло[1]. Неяк лагоджу душу мудрай паэзіяй Усходу, адганяючы клопат пра хлеб надзённы, пра побыт.

*16 кастрычніка, нядзеля*

Званіў Васілю. Казаў, што яму ўсё цяжэй і цяжэй выбірацца кудынебудзь, нават проста ў горад, бо навінаў і нічога добрага няма, а сквалыжнічаць не хочацца. Пазваніла Ілона. Рэзкавата пагаварыў з ёй [...]. А выходзіць, яна з вакзала званіла, едуць у сталіцу чырвонай імперыі, а адтуль, відаць, у Аўстрыю. Нейкая жаль і туга абвіла душу. Нейкая трывога, хоць бяжы ўслед за цягнікам. Усё не так, усё не па-людску. І крычу на яе, і злуюся на яе, а люблю болей за ўсіх на свеце. Мая крывінка. Мая галінка. Мая квалінка. Мама мая яшчэ гадавала яе. На ёй цяпло маміных рук, мамінага сэрца. Яна мая неацэнная, мая няўдалая ў гэтым халодным свеце. Ці вытрымае, ці ўстоіць, ці дакажа сабе ў той справе, якую абрала? Мастацтва — жорсткая рэч, халодная рэч, якую не кожны можа сагрэць і ахатніць. Прыручыць хоць на імгненне.

«Не мані...»[2]

* * *

Цябе не хапае,
Цябе,
Пра якую
Зязюля журбы маёй
Доўга кукуе.
Пра тую далёкую
А трапяткую.
Няўжо не адолею
Долі раку я,
Пакуль маёй крыўды
Зязюля кукуе?

Цэлы дзень амаль перакладаў Ганада Чарказяна. У людзей Усходу зусім іншае мысленне, і гэтым яны экзатычна цікавыя нам.

* Дамініка: «Мне не падабаецца, хто з чолкай і наіўнай усмешкай... Хіба можа быць дрэвам пяць гадоў, яны ж у садзік не ходзяць... Свечка не стала вялікай, а ўжо зусім замалюсілася».

---

[1] Гл.: Зыонг Кхонг Ло. Рыбацкі адпачынак; Пра запаветнае // Гуканне паэзіі Усходу. С. 296–297.

[2] Гл.: Не мані... (16.10.94) // Кcты. С. 310.

*17 кастрычніка, панядзелак*

З раніцы да Навума. Узяў ягоны рукапіс выбранага. Ён зрабіў падборку ў «Нёман». Пераклаў здорава. Пажартаваў, ці спрабаваў я калі перакладаць Рыгора Барадуліна? У абед пайшоў да Васіля перадаць яму рукапіс успамінаў афіцэра арміі Урангеля (Каледзіна), бацькі Ірыны Крэнь, забраць у Васіля пачытаць ягонае новае апавяданне. Ірына Міхайлаўна карміла мяне як на ўбой. Гаварылі пра галечу, якая падступае неўзнаку. Васіль параўнаў яе з сухотамі — вонкава чалавек нічога не адчувае, а дзень за днём чахне. Я параўнаў галечу са свечкай, якая гарыць: бачым агонь, а што свечка чэзне, не бачым. Васіль падкрэсліў, што пакуль даношваем адзенне, нічога не заўважаем. А пачнуць выходзіць з ужытку халадзільнікі, тэлефоны — яны ж таксама старыя. Новыя ўжо не купіць. Васіль падлічыў, што пенсія ягоная 13 долараў. Паехаў у стары аэрапорт, там яму перадаў Фарфель[1] білеты туды й назад у Ізраіль. За тое, што перадалі білеты, запатрабавалі 3 долара, а іх, вядома, з сабой у Васіля не было. Званіў Ірыне Міхайлаўне дамоў, тая недзе расстаралася й прывезла. Суцэльныя здзекі над чалавекам, над пісьменнікам, што зрабіў бы гонар любое нацыі, апрача беларускай. У нас да талентаў ставяцца горай, чым да бульбы.

Васіль распавядаў, як камуністы ў Германіі рабілі ім подласці, калі яны з Адамовічам выступалі. Адзін такі сябра СССР гнаўся за Васілём па вуліцы, хацеў пабіць Васіля, бо ён абразіў веру камуна-[...].

Успомніў Васілю, як сёння па радыё быццам нявінна-наіўна паведамлялі, што да нас упершыню прыедзе англійская каралева. Яна прыедзе не да нас, а да расійцаў.

«Рэжысёр: Пажадны пал ахвотна ятрыў...» [у дзённіку].

* * *

Да посвісту ўвушшу,
Лепш, як спагадай нейчай,
Праветрываць душу
Бадзёраю галечай.

Бадзёрасць ападзе,
Як ліст з галін настрою.
Лягчэй хлусіць бядзе
З праветранай душою.

[1] Фарфель Міхаіл Абрамавіч (н. 1949). У 1992–1996 гг. прадстаўнік РБ у Ізраіле.

*18 кастрычніка, аўторак*

На кінастудыю. Мароз[1] з Сяргеем Галавацкім[2] зрабілі адначасткоўку пра тое, як ставіць у канцы вёскі ахоўныя крыжы. Дужа кепска. Халтура. Хіба прозвішчы дзядзькоў кшталту Лёсік з Мікалаеўшчыны грэюць душу.

Залпам прачытаў новае апавяданне Васіля «Жоўты пясочак» пра чэкісцкую мясарэзку. Камуністам-кэдэбістам яўна не па нутру прыйдзецца.

*19 кастрычніка, серада*

Атрымаў нейкія слёзы. Тое-сёе купіў Дамінічцы маляваць. Усё дарага. Нейкі холад вуліцы й холад адносінаў між людзямі. Халаднеем, адыходзячы ў вечны холад. Сяброў меней і меней. Незаўважна сабе самомуваўчэю, дзічэю. Нікуды не хочацца ні ісці, ні ехаць. Адзіны паратунак — слова, са словам адчуваю сябе ўтульна, узнёсла, багата. З маміным словам — неацэнным скарбам, які пакінула яна мне на выратаванне душы.

*20 кастрычніка, чацвер*

Абсадзіла мяне хвароба. Праляжаў цэлы дзень. Пад вечар дамучыў вершы Ганада Чарказяна. Цяжка мне. Успомнілася. Калі апошнім разам быў у Васіля, ён, між іншым, спытаўся пра Марыю Рыгораўну. І тут жа [я] патлумачыў: сагнутая з козачкай на мяжы. І ў Васіля слёзы нагарнуліся ўжо на вачах. А некалі ж Марыя Рыгораўна казала пра Васіля: «Добры чалавек, урадны, але няешчы»[3].

«Вы — птаства з галін Беларушчыны…» [у блакноце].

*21 кастрычніка, пятніца*

Зноў на хатнім рэжыме. Праграма «Апоўдні» па радыё стала расійска-савецкай. Выступаў […] і прарасійскі […] Шаляговіч[4]. Стаўка на Маскву. У Кітаі, бач, правільна зрабілі, што не памянялі палітычную структуру. Цяпер […] узначальвае чарговую партыю перад выбарамі. А некалі ж горла драў за самастойнасць паліскае мовы. Было даручэнне з Масквы

---

[1] Мароз Уладзімір Вікенцьевіч (н. 1953), беларускі паэт, кінадраматург. У 1988–1998 гг. у студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1994).

[2] Дакладней, Галавецкі Сяргей Анатольевіч (н. 1959), беларускі і рускі рэжысёр-дакументаліст, сцэнарыст. У 1991–1999 гг. рэжысёр дакументальнага кіно кінастудыі «Беларусьфільм». З 1999 г. жыве ў Маскве.

[3] Гл.: Не купіла б… (2001) // Збор твораў. Т. 4. Мінск, 2002. С. 345.

[4] Шаляговіч Мікалай Мікалаевіч (н. 1956), беларускі гісторык, філолаг. Ініцыятар і апалагет ідэі самаідэнтыфікацыі жыхароў Заходняга Палесся (палеская мова) і стварэння палескай аўтаноміі. Стваральнік і старшыня партыі Усебеларускага адзінства і згоды.

зрабіць маленькі Карабах, каб увесці расійскіх «міратворцаў». Гідота. Званіў Васілю. І яго калоціць ад гэтых кэдэбісцкіх прарасійскіх партый. Пад вечар хоць знасалодзіўся Рыльке: «Хай мудрэюць іхнія надтрунні». Эпіграфам да любых мемуараў: «Бо толькі тое й застаецца з намі, у чым мы сябе, бы ў сябры, пазнаём».

З даўніх запісах вычытаў пра архара[1].

* * *

А мілосць —
Яна і ўзнагарода, й кара,
Бо для ўсіх як ёсць
Мілосць адна і тая.
На рагах у закаханага архара
Эдэльвейс не без прычыны расцвітае…

*22 кастрычніка, субота*

Перадрукоўваў вершы Ганада Чарказяна. Холадна. Трывога нейкая на душы. Ніякой перспектывы. Няўжо толькі чакаць з іржаваю касой, забыўшыся на тых, у каго косы ілляныя?

«Мяняючы кійкі»[2].

*Як маладая*

І паганяе, і насядае
Пастырка старасць, як маладая.

Хоць з наравамі дужа крутымі,
Старасць стараецца быць на інтыме.

І размякаеш ты, і размыкаеш
Сэрца,
І чулым падцёлкам рыкаеш.

Пастырка знадзіць лугамі, лагамі —
І залагодзіць, і залыгае.

Страху зацісне звяглівую пашчу —
І павядзе на апошнюю пашу…

*23 кастрычніка, нядзеля*

Выходзіў на вуліцу. Прыхопленае марозам лісце з шоргатам гоніць па асфальце вецер — аж зябка ад развітання з рэшткамі цяпла, акраўкамі

---

[1] Гл. запіс ад 7 чэрвеня 1976 г. // Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 2. 1970–1978. С. 221.
[2] Гл.: Мяняючы кійкі (22.10.94) // Ксты. С. 368.

лета. Займаўся дурной справай — перадрукоўваў вершы Іны Снарскай[1]. Сама яна не можа — недзе на Украіне.

*24 кастрычніка, панядзелак*

Сумная навіна. Памёр Вялюгін. Складанае пачуццё да яго. Шмат было добрага разам. Падтрымліваў мяне напачатку хоць, праўда. І штурхаў на палітычныя, прасавецкія вершы. Потым пачаў свінець. І я фактычна каля дзесяці гадоў не падтрымліваў ніякіх кантактаў. Па-чалавечы шкада. Разам жылі.

*25 кастрычніка, аўторак*

Пахаванне Вялюгіна. У труне ляжаў цяжкі чалавек з ненатуральна белай сівізной. А быў жа такі сімпатычны тварам, калі быў цвярозы.

Вечарам з Васілём да Карласа на 60-годдзе. Быў яшчэ Зуёнак. Перажываў за Васіля. Яму спадабалася. І Тамару Карласаву ўспрымаў нармальна. Кажуць, Лужанін напісаў паэму, дзе выкрывае стукачоў.

*Яшчэ жывая*

Хоць у свае вароты мяч
Забіць
Туга яшчэ жывая,
Калі заслужаны стукач
Паэмай стукача ўшчувае.

Сцяпан Міско[2] пацвердзіў маю сцюдзёную здагадку, ад якой я сам адракаўся, — і цёця Уладзя[3] была заангажавана [...]. Сачылі за сокалам і ў касцеле, і ў пасцелі.

Пракапчук, дзядзька Сцяпанаў, якраз лечыў Купалу, калі ён сябе парэзаў. Выходзіць, маленькай брытвачкай па ўсім целе рэзаў, але, на шчасце, не дапаў да венаў.

*26 кастрычніка, серада*

Вечарына ў Таварыстве дружбы, прысвечаная 100-годдзю выхаду дайнаў у запісах Крыш’яна Барана[4]. Вёў вечар. Людзей мала. Амаль усе выпадкоўцы. Прыгналі трохі школьнікаў. Усё яшчэ па-савецку.

---

[1] Снарская Іна Станіславаўна (н. 1969), беларуская і ўкраінская паэтэса; тэлежурналіст. З 1987 г. жыве ў Палтаве (Украіна). Кіраўнік беларускага культурнага аб’яднання «Агніца».

[2] Міско Сцяпан Міхайлавіч (1930–2010), беларускі культуролаг. Кандыдат мастацтвазнаўства.

[3] Станкевіч (Луцэвіч) Уладзіслава Францаўна (1891–1960), беларускі педагог. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1959). Жонка Я. Купалы.

[4] Ба’ран Крыш’ян (1835–1923), латышскі пісьменнік, фальклярыст, грамадскі дзеяч.

*27 кастрычніка, чацвер*

Палякоў пазваніў, што прыехала жонка з Ізраіля. Там 35° спёкі. Што нехарактэрна для такога часу. Званю Васілю, папярэджваю. Жартуе: «Распрануцца лягчэй, чым апрануцца. Як я толькі прыеду — пахаладае». Трохі валаводзіліся з планамі на будучае. Заўтра вечар-выстава Янкі Раманоўскага[1] ў Купалаўскім музеі.

*Янка Раманоўскі*

Дзядзькі Янкі дарагі пляменнік
Янка
І таксама панавіты.
Шляхціц духу,
Ціхі летуценнік,
Аратай крывіцкае эліты.

Пэндзлем,
Як хмурыністым нарогам,
На загонах неба гнаў барозны.
Не даваў удзерванець аблогам.
Як і дзядзька,
Жэст любіў шырозны.

Ажываў Купала на партрэтах.
Смутак тросся на старых калёсах…
Рана закаціўся лёсу ветах.
Пэндзаль сам пайшоў у свет,
Як посах…

*28 кастрычніка, пятніца*

Да паўдня праляжаў як у забыцці — гэтак схапіла галаву. Няўжо яна ўсё бліжэй і бліжэй падступаецца, нежаданая, нечаканая, але непазбежная? У Купалавым музеі вечар Янкі Раманоўскага. Мастакі й мы з Аўрамчыкам[2]. Пятро Драчоў[3] казаў, што яму нібыта Тумаш Варанецкі[4] распавядаў. У Вушачы здымалі нейкі фільм. Тумаш запытаўся ў школьніка, каго з беларускіх пісьменнікаў земляком ён ведае. Адказаў — Янку Купалу. І паказаў маю хату. Тады Тумаш запытаўся, а як яго завуць? «Рыгор Ба-

[1] Раманоўскі Янка (Іван Юльянавіч; 1928–1974), беларускі мастак. Пляменнік Я. Купалы.

[2] Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; 1920–2017), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964).

[3] Драчоў Пётр Мікалаевіч (1937–2005), беларускі графік. З 1992 г. супрацоўнік «Беларускага гістарычнага часопіса».

[4] Варанецкі Фама Сільверставіч (н. 1938), беларускі акцёр, педагог, мастак. У 1971–1998 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Адначасова ў 1990–2014 гг. выкладчык БДАМ. Заслужаны артыст БССР (1990).

радулін», — адказаў малы. Успамінаў Заспіцкі, як яны студэнтамі былі на практыцы. Да Заспіцкага павінна была прыехаць нарачонка. Янка прапанаваў сустрэць кветкамі. Усе ўтрох былі з букетамі. Янка прапанаваў, каб дзяўчына пазнала, дзе букет Заспіцкага. Чый выберацьó, той нарачоны. Яна выбрала якраз букет Заспіцкага. Янка яшчэ казаў, што кожны ўсё-ткі думае, што пахаваюць яго на ўзгорку, дзе пясочак сухі. А для гэтага трэба любіць зямлю, слугаваць роднай.

* * *

А вецер аціх — ён агонь люляе.
Агнятка, як немаўлятка, ўголас
Смяецца,
І ўсмешка яшчэ не злая.
І вырастае
Агнятка ў полымя.
А полымя ў гарачай кашулі,
Усхліпваючы ды стогнучы,
Бяжыць,
Баіцца, каб не распранулі.
І зноў не паклалі
У калыску вогнішча…

Некалькі дзён перакладаў гуллівыя латышскія дайны. Відаць, уключу ў зборнік «З чорным катом на плячы»[1].

*29 кастрычніка, субота*

Заўтра Васіль адлятае ў Ізраіль. Кажа, што паляціць следам за гусямі, за качкамі. Кажу, што на Галанах выраюць птушкі з Беларусі. Адказвае, што ні ён іх, ні яны яго не пазнаюць. Кажу, што на цырку ўбачыў, што на арэне вярблюды, малпы, змеі, козачкі й бусел (для нацыянальнага каларыту). Васіль сумнавата зазначае, што толькі ў цырку і ўбачым хутка бусла, бо балоты ж паасушылі.

Чытаю Марыенгофа[2] пра Ясеніна[3].

---

[1] Зборнік «З чорным катом на плячы: Лірыка, пазыкі, дурноты» быў падрыхтаваны (зроблены тэхрэдаўская разметка і афармленне) на 1996 г., але зняты на карысць 1-га тома Збору твораў ў 5-ці т. (1996–2002). Аўтар, бачна, планаваў паставіць змесціва зборніка ў апошні том, але і 5-ты том пазней быў зняты. У архіве аўтара захаваўся 2-гі экз. зместу зборніка.

[2] Марыенгоф Анатолій Барысавіч (1897–1962), рускі паэт, празаік, драматург, тэарэтык мастацтва.

[3] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт.

*30 кастрычніка, нядзеля*

Васіль паляцеў. Ад сябе й Васіля даў тэлеграму Геворгу Эміну[1]. Яму сёння 75 год. Цяпер усе сябры падалелі гадамі й гарадамі.

* Дамініка: «Са страху чуць не спалохалася».

*31 кастрычніка, панядзелак*

Хадзіў на працу. У саюзе рада. Не пайшоў. Бальшыну мордаў пераносіць не магу. Яно, відаць, узаемна. Прыходзіў Чыгрынаў. Мне нечым сімпатычны ягоны цынізм, замаскаваны пад дзівачка, амаль прасцячка. І так, выходзіць, жыць можна. Кожны жыве так, як яму хочацца, як яму ўдалося зляпіць сябе самога. Па сутнасці, кожны члавек — самаскульптар. Толькі з рознай мерай таленту.

*1 лістапада, аўторак*

Па дарозе на працу вярцелася:

У людей парламенты и думы,
А в карманах непустые суммы,
А у нас Верховные Советы
И федутые авторитеты.

Чытаю ў «Нёмане» Адамовіча. Залішне хваліць Машэрава. Нідзе не ўспамінае, што збіраўся рабіць фільм пра Машэрава. Ну хто без граху? А розум у Алеся светлы.

*2 лістапада, серада*

Учора вечарам званіў Купава, што трэба выступіць у Курапатах. Не пайшоў. Нейкі вірус ходзіць па мне. А ў дадатак — гэта дазволена рэжымам. Хай Ніл ці яму падобныя перадкуюць перад начальнікамі. А помніка, відаць, так і не будзе ў Курапатах. Шарангович [...] трымае стойку [...]. Недарэмна даручылі ўзначаліць камісію па праекту помніка. Тым часам сотні версій наскубуць, як сена з калгаснага стога сваім каровам калгасныя прыгонныя. «Сам»[2].

* * *

Загадку жыцця, відаць,
Смерць разгадаць не можа.
Ці ў цемру,

[1] Эмін Геворг (сапр. Мурадзян Карлен Грыгор'евіч; 1919–1998), армянскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951, 1976).

[2] Гл.: Сам (2.11.94) // Ксты. С. 210.

Ці ў багадаць
Апошняе падарожжа.

*3 лістапада, чацвер*

З-за Марыенгофа нічога рабіць не магу. Умее пісаць. Кепска там, дзе ён прыводзіць свае вершы. Аж за аўтара сорамна. Асабліва калі разам з ясенінскімі вершамі побач. Перачытваю «Песню пра зубра» ў перакладзе Семяжона[1]. Настолькі далёка ад арыгінала і настолькі па-беларуску сакавіта, што забываешся, што гэта пераклад. Такая школа перакладу, думаю, чытачу бліжэй, чым фармальна дакладная, літаральная словаў-слоўная.

*Грэх*

Грэх у мех, а сам наверх, —
У Вушачы жартавалі.
У далоні жар давалі
Грэцца
Так, што пострах шэрх.

Грэх здаваўся мне сырцом
(Спірт, разведзены вадою),
А сырэц не п'юць карцом
І не мокнуць з барадою.

Значыць, піць альбо не піць —
Гамлетаўскае пытанне
Перад пітаком не ўстане.
Д'ябал спіць, смала кіпіць.

Грэх, відаць, як той гарэх,
Што маланка паспытала.
Што страшней — змяя ці джала,
Ціхі ўкус ці гучны брэх?

З раю ён ці з пекла збег —
Не пытайся і не гневай.
Не было Адама з Евай.
Іх чакаў цярпліва грэх…

*4 лістапада, пятніца*

Паседжанне Назіральнай рады Сораса. Традыцыйная савецкая гаварыльня. Не пераробіш шуфлікаў. Усе па-расійску, усё па-расійску. І грошы сораўскія йдуць на падтрымку штаноў ВПК у скобах розных так званых

[1] Семяжон Язэп (сапр. Семяжонаў Іосіф Ігнатавіч; 1914–1990), беларускі перакладчык.

акадэмікаў. Расійская імперыя не хоча выпускаць нікога з-пад сваіх [...] крылаў. [...].

«Жывая тая душа...» [у блакноце].

*5 лістапада, субота*

«Воўк плача хвастом»[1]. Прымроіўся, прысніўся радок. Пад вечар добры званок — вярнулася Ілоначка, кажа, што мела поспех як мастачка ў Аўстрыі. Быццам будзе ейная выстава ў Празе. Дай Бог. Ды ўсё гэта зыбкая кладачка над чорнавірай ракою жыцця. А зусім увечары пазваніла былая афіцыянтка з кавярні каля Дома друку, з «Акварыума»[2], як звалі мы, маладыя пітакі. Сказала, што чытае ўнукам «Азбуку — вясёлы вулей». Унукам падабаецца. Гэты званок даражэй за манаграфію. Бо канкрэтны й шчыры. Маленькія радасці, як долькі лімона ў прэсным чаі, хоць нечым сма′чаць жыццё. А яно цяпер нейкае непрыкметна кароткае, бо беспрасветнае.

Добра й балюча адчуваць, што ў цябе ёсць дарослая дачка, дарослая гадамі й дужа маленькая сваёй безабароннасцю.

«Адметнікі: Устаўшы то з левай...» [у блакноце].

*6 лістапада, нядзеля*

Прыходзіла Ілона. Худая. Але з дужа выразнымі рысамі аблічча. Крыху чужаватая й да болю родная. Пагаварыць не ўдалося. [...]

*Ліст*

Упасці ў глухую санлівасць траў
Ён меў паджаўцелы шанец.
Яго ўзвей-вецер перабіраў,
Як зялёны ружанец.
І коціцца дола,
Пустым ад патраў,
Нябёсаў абранец.
Абадранец...

*7 лістапада, панядзелак*

Да Васіля. Прыляцеў учора з Ізраіля. У асноўным паездкай задаволены. Там, праўда, крыху прастуджаны быў ад перамены надвор'я. Добра казаў пра Фарфеля, пра ягоную закаханасць у краіну, дзе ён паслом. Праўда, нашыя чыноўнікі дагэтуль не даюць яму ранга пасла. Гэта выклікае недаўменне ў ізраільскіх уладаў. А нашы націскаюць на інвестыцыі. А хто будзе даваць грошы свае ў краіну, дзе ўсё зыбка, як у багне. Мякка заў-

[1] Гл.: Воўк плача... (5.11.94) // Слаўлю чысты абрус. С. 179.
[2] Пазней кафэ называлася «Батлейка», потым «Бизе».

важыў, што, вядома, пасля Чырвонай слабады ўсё ў Ізраілі на Фарфеля робіць фантастычнае ўражанне. Тлумачыў яшчэ, што Фарфель — рэдкі выпадак чалавека з двума сэрцамі: любіць Ізраіль і любіць Беларусь. Васіль выступаў у Іерусалімскім універсітэце. І там падышла адна зямлячка з Вушачы. Пагутарыць не выпала. Калі Васіль у ўніверсітэце падкрэсліў, што ён антыкамуніст, адчуў халодную сцяну. Не дужа прыхільна сустрэлі й нацыянальную беларускую ідэю. Фарфель налета запрашаў Васіля й мяне на Мёртвае мора. Абодва пагадзіліся, што быць нахлебнікамі ў залатога чалавека не ў традыцыі вушацкіх. Гаварылі пра рознае. Васіль усміхнуўся: было хацеў напісаць, як ён дапамагаў КДБ і КПСС. Бо праз ВААП[1] абіралі яго, выдаючы за мяжою. Зазваніў тэлефон, Васіль пачаў гаварыць спакойна, але з кожнай фразай суравей. Гэта нейкая Наташа запрашае яго ў госці. Быкаў, бачце, піша для людзей, а ў яе інтэлігентны муж. Калі Васіль спытаў, а што яна чытала ягонае, адказала: «Нешта пра вайну». Тады Васіль спытаў, а як называецца? Адказала: «Забылася». Васіль параіў ёй успомніць, а заадно й пачытаць, а пасля званіць. Нахабнасць, якая мяжы не мае.

Дамінічцы чытаў: «Дрыжанец»[2]. Дамінічка адказала: маржавец. «Хто такі?» — пытаюся. Адказвае: «Мурзілка».

*8 лістапада, аўторак*

Не магу выкараскацца з хваробы. Апускаюцца рукі, калі глядзіш, што вакол тварыцца. Сазвоньваўся з Додзікам[3]. Каб у Віцебску арганізаваць вечар Караткевіча. Васіль згадзіўся.

*9 лістапада, серада*

Заходзіў у выдавецтва Танк, ледзь ходзіць. Але не забыўся пра планы й што яму будзе 85. Трэба выданне. Па савецкай традыцыі за выслугі перад Камінтэрнам[4].

*10 лістапада, чацвер*

У «Полымі» вялізны артыкул Георгія Коласа[5]. Важны дакументальны матэрыял пра сталіншчыну. Але ўсё адно жаданне пакрасавацца на фоне

---

[1] УААП — Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах.

[2] Гл.: Падказкі-згадкі (7.11.94) // Ішоў коця па канапе. С. 218.

[3] Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932–2014), рускі паэт, празаік, перакладчык, нарысіст, сцэнарыст. У 1961–1994 гг. супрацоўнік Віцебскага абласнога тэлебачання.

[4] Камінтэрн — Камуністычны інтэрнацыянал, у 1919–1943 гг. міжнародная рэвалюцыйная пралетарская арганізацыя, якая аб'ядноўвала кампартыі розных краін.

[5] Колас Георгій Данілавіч (1929–1994), беларускі тэатральны крытык, публіцыст, кінадраматург, літаратуразнавец.

Купалы, падкрэсліць культаўскія вершы Купалы, называючы паэта Прарокам. І дасціпны, годны адказ-рэпліка Данілы[1] [...] .

* Даменіка: «Дзедзя, я цябе люблю з усіх сіл. Я цябе люблю з усіх ног».

*11 лістапада, пятніца*

Якраз з раніцы званіў Даніла. Павіншаваў яго з такім дасціпным выступам. Ён быў яўна рады. Потым мучыў мяне над Свіслачу фотакар «Беларусі». Адубеў. І сам сабе жартаваў, што слава можа не толькі перагрэць, але й на костку змарозіць. Потым хадзіў да свайго ведзьмара спадара Пётры. Цесць ягоны распавядаў цікавы эпізод. Перад вайной, здаецца, у бараку цагельні мінскай жыў, гадоў 7 было. На сцяне вісеў партрэт Яжова[2]. Днём укладвалі спаць і страшылі, што ўбачыць Яжоў, калі не будзе спаць. Куды ён ні падаваўся ў хаце — адусюль на яго глядзеў Яжоў. Ненавідзеў яго малы страшна. І затое як палюбіў дзядзькоў, якія аднойчы прыйшлі й знялі са сцяны партрэт Яжова. Вечарам выступленне [Лукашэнкі] па тэле. [...]

«Яшчэ не ўсіх» [у дзённіку].

*Куды?*

*[Н. З.]*

Куды падзець свае вочы й вушы,
Калі, збіраючы слёзы ў падол,
Пачынаюць Госпада масліць клікушы —
Выпускніцы Вышэйшых партыйных школ.

*Разнавіднасць*

Нялёгка тэму за рогі схапіць,
Як і тура,
І думка ўцякае апуджанай птушкаю.
Лягчэй падзяляецца літаратура
На элітарную, паўлітарную
Ды чацвяртушкавую.

Даменіка: «Сніўся сон, што мне, як імператару, паказвалі мульцік на сцяне, дзе мой ложак стаіць, дзе я сплю».

---

[1] Міцкевіч Даніла Канстанцінавіч (1914–1996), беларускі дзеяч культуры; вучоны-хімік. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Сын Я. Коласа.

[2] Яжоў Мікалай Іванавіч (1895–1940), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Народны камісар унутраных спраў СССР (1936–1938).

*12 лістапада, субота*

Перакладаў, ці, дакладней, пісаў паводле вершы Сінь Ці-цзі[1]. Кітайская паэзія таму й паэзія, што мае сваю тайну, якую нельга раскрыць. У сумным настроі пісаў і сам.

* * *

Леты, якія зніклі ў быллі,
Тыя дзяўчаты, што ў летах былі
І засталіся адны маладыя.
Мы, пасівелыя, што палыны,
Цешым свой подзіў
І сподзеў ляны,
Што яшчэ дошкі задужа сырыя
Тыя,
Што прах наш прытуляць зямны.
І не пад намі маснічына ные,
Ледзь уцякаць нам захочацца ў сны.

Напісаў невялікі ўспамін пра Язэпа Семяжона, гэта была асоба каларытная.

* Дамініка: «Вада ўніжаецца (спадае)… Баба дала мне лыжку для ясця′ (і тут жа паправілася), для ежы… Філосаф — разумны чалавек, а я разумнейшая за ўсіх».

*13 лістапада, нядзеля*

Перакладаў Сінь Ці-цзі. Званіў Васілю. Слухаў, як з Прагі Вова Арлоў вішчаў, што трэба быць над палітыкай. Займацца вылучна сваёй асобаю. Падтрымліваў Алексіевіч, якая знайшла грашовую тэму. Ёй сапраўды няма справы да адраджэння, да беларускасці. Васіль тлумачыў: калі б Багдановіч, Купала не былі барацьбітамі, уліліся б у расійскую літаратуру, і імёнаў бы не засталося. Такую ж вузкаэлітарную палітыку вядзе […] Дубавец[2] у «Нашай ніве». Пятая калона пад шыльдай чыстага мастацтва, элітарнасці. Нанач прачытаў успаміны Платона Крэня пра ГУЛАГ. Няма звышстрахаў, няма ўяўнай глыбокадумнасці, а такая адкрытасць гранічная — па целе ворах ідзе.

*14 лістапада, панядзелак*

Іду вуліцай, еду транспартам — увесь горад зона. Вылезла ўсё ахвосце, пазаддзе. Камуністы бачылі светлае будучае ў суцэльнай зоне. А яшчэ

[1] Сінь Ці-цзі (1140–1207), кітайскі паэт.

[2] Дубавец Сяргей Іванавіч (н. 1959), беларускі журналіст, пісьменнік, крытык. У 1991–2000 гал. рэдактар газ. «Наша ніва» (газ. выдавалася ў Літве ў 1991–1996 гг.).

Чарнобыльская зона. А тут яшчэ сябры б’юць сябе кулакамі ў грудзі, што былі антысаветчыкамі, дайшоўшы да членаў ЦК і вышэй.

*Шустрыя*

Была, і пахла, і цвіла
Савецкая імперыя,
Адных сцірала —
Каб да тла! —
А іншых абшчапервала.

Над каркам халадок мяча
Усіх рабіў цвярозымі.
Хто ўслых хваліў,
А хто маўчаў,
Хто жыў гатовым розумам.

А вы, што і тады былі,
Як і цяпер вось, шустрыя,
Раўлі —
Стаялі пры рулі
Халуйскае індустрыі.

Панове!
Вы згнілі ў гніллі,
Ды сёння ўпарта верыце,
Што дужа смелыя былі,
Як тыя ракі ў нераце.

*15 лістапада, аўторак*

Праляжаў да паўдня. Падняўся, бо ў Нацыянальнай бібліятэцы Дзягілева[1] рабіла вечар. «Русалка» [А. Пушкіна] ў выкананні Дзягілевай. Потым выступаў, чытаў вершы. Знайшоўся казёл з палескай мовай, чытаў графаманскія рюсские вершыкі. Добра, што аўдыторыя яго выгнала. Людзей трохі было, хоць галалёд страшны. Аматараў паэзіі меней і меней. Бум прайшоў, еўрапезуемся.

*16 лістапада, серада*

У «Маладосці» рэцэнзія на зборнік «Полацкага ляда»[2]. Пра блазнаванне, запозненае, як пра нейкія вышыні. Усё паўтараецца. Тыя ж дваццатыя гады, толькі з новай бурапенай слоўнай. Асабліва ў маладым узросце амаль кожнаму хочацца нечым вылучыцца. Яно й не дзіва, бо зялёны ко-

[1] Дзягілева Галіна Аляксееўна (н. 1947), беларуская актрыса. Заснавальнік, дырэктар і мастацкі кіраўнік беларускага паэтычнага тэатра «Зніч» (з 1989).
[2] «Полацкае ляда» — выдавецкая ініцыятыва Таварыства вольных літаратараў (з 1991).

лер нейкім чынам ураўняльна аднастайны. Колеры восені болей адметныя. А не кожны здолее дарасці да свае адметнасці. Вось і даводзіцца па-маладому выпендрывацца. І гэта трэба, калі разабрацца, бо стымулюе рост і рух.

*17 лістапада, чацвер*

Да свайго любімага ведзьмара Пётры. У аўтобусе нейкі дзядзька з Віцебшчыны прызнаў мяне. І ўся папулярнасць, за якую жыццё кладуць некаторыя. Потым ад Пятра давялося як не дзве гадзіны дабірацца дадому. Па дарозе пісаў верш у гонар Данілы Коласавага.

*Данілу К. Міцкевічу*

Дажджом яравым аблачына радуе.
Пасаг багаты ў багатай скрыні.
Ад яблыні яблык далёка не падае.
І паўтараецца бацька ў сыне.

Сын бацькаву мулкую думку пялегуе.
Бядзіць яго бацькаў клопат пякучы.
Бо мусіць знадзеіць траву палеглую,
Як вольнакроны дужак над кручаю.

Лёс на буслова гняздо выгне кола сам.
Каравай незаспанай славай пячэцца.
Слядамі веры за бацькам Коласам
Ісці нялёгка,
Таму й пачэсна…

Вечарператварылі ў цягамоціну. N. абавязкова цытаваў па-расійску Талстога[1] й ужываў расійскія слоўцы. […]. Шамякін сядзеў з начышчанай да бляску Зоркай Героя Сацпрацы. Усе й я прайшліся па ім у сувязі з рэплікай Данілы ў «Полымі». Чырванеў, як савецкі сцяг. Праводзіў Васіля да метро. Ельцынская канцылярыя званіла, што запрашаюць на сустрэчу з прэзідэнтам Расіі. Не паедзе.

*18 лістапада, пятніца*

Узяўся за Бяліка[2]. Дужа нагадвае Купалу. Асабліва цёплыя вершы з народнага. Народ кожны самы геніяльны й думае ў прынцыпе аднолькава, бо глыбока.

* Даменіка: «Паважаю Купалу, каб ён жыў, Быкаў таксама».

---

[1] Талстой Леў Мікалаевіч (1828–1910), рускі празаік, драматург, публіцыст, крытык, аўтар рэлігійна-філасофскіх і педагагічных твораў.
[2] Бялік Хаім Нахман (1873–1934), яўрэйскі паэт.

*19 лістапада, субота*

Вечарам да Радзіка. Наважыўся жаніцца. У сераду запрашае на ўзглядзіны. Я ўжо даўно адчуў, што нехта сур'ёзны ў яго з'явіўся. Крыху пачужэў ці пахаладзеў. Як ён будзе жыць? Дужа ж ён хатні. Пакуль бацькі, дык добра. А там далей як? […].

*20 лістапада, нядзеля*

Займаюся толькі Бялікам. Пачынае падабацца. Пераклад, як і любая праца іншая, нечым нагадвае п'янку. Спачатку смакуеш, моршчышся, пакуль не ўцягнешся. А там ужо не адарваць. Напаў разам з Бялікам перакладаць паслоўкі: мейсца святое не бывае пустое. After dinner sit a while, after super walk a mile. Паабедаўшы, пасядзі хвілю, а павячэраўшы, прайдзі мілю.

Пазваніў Генадзь. Ён, як заўсёды, нада мной — на дзясятым паверсе. Яго адфатаграфоўвае Коктыш. Адчувае сябе, як заўсёды, пакрыўджана. Меншыкаў[1] у ссылцы. Перспектывы ў нас […] кепскія.

* Дамініка: «Мне надакучыла мурлыканне гэтага соні-прасоні. Ён [Мірон] назірае хвастом».

*21 лістапада, панядзелак*

Званіў Рэлесу[2], удакладняў, як перакладаць Бяліка. Трэба было раней звярнуцца па дапамогу.

* Дамініка: «Пустая дама нясе чамаданы. Пустая дама — у яе няма душы, няма ўспамінаў, няма сэрца», — тлумачыць.

*22 лістапада, аўторак*

Званіў раніцай Васіль. Дзякуй яму, хваляваўся за мяне, бо пачало мяняцца надвор'е й адпаведна ціск. Пасля днём званіў яму па пытанню ПЭН-цэнтра. Сказаў, што еду ў Віцебск на Караткевічаў вечар разам з Тарасам. Параіў запытацца, як Тарас падпісваў разам з Алексіевіч ліст у абарону літоўскіх камуністаў — Буракявічуса й другога (забыўся я. [Ю. Ермалавічуса]).

* Дамініка: «Лісіца не корміць зайчанят, таму яна знае свае правілы палявання на зайцоў».

---

[1] Маецца на ўвазе Меншыкаў Аляксандр Данілавіч (1673–1729), паплечнік расійскага імператара Пятра I, святлейшы князь (1707), генералісімус (1727). Трапіў у апалу ў час праўлення Пятра II і быў сасланы ў Бярозаў (каля Цюмені). Назва вядомай карціны В. Сурыкава «Меншыкаў ў Бярозаве» (1883) сталася іранічным хадзячым выразам.

[2] Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004), яўрэйскі і рускі празаік і паэт.

*23 лістапада, серада*

Разам з Генадзем ехалі ў Дом кнігі. Яму цяжка прывыкаць грамадскім транспартам. […] А краіна ў нас унікальная. […] Міністр узброеных сілаў[1] камісаваны па стане здароўя, невядома, на што хвары. […]. Так смешна, аж плакаць хочацца.

Вечарам хадзіў на ўзгледзіны да Радзіка. Дужа светлая (і імя яе Света), чыстая, аж несучасная дзяўчынка. Падыходзіць яна далікатнаму інтэлігенту Радзіку. Гледзячы на іх, маладых, адчуваў, які стары я й даўні. А ўсё яшчэ харахоруся. І прыйшло ў галаву, што савецкасць, бальшавізм прырос да пісьменнікаў, як да ваўкалакаў поўсць, не адарваць. Наогул, легенда пра ваўкалакаў не на адно стагоддзе разлічана, не да аднаго стагоддзя прыдатная. А да камуністычнага рэжыму як нельга лепей падыходзіць. І цяпер бегаюць па зямлі камуна-ваўкалакі.

*24 лістапада, чацвер*

Да ведзьмара Пятра. Ён усё-ткі цуды верне й верыць так, што гэтая ягоная вера іншым перадаецца. Вечарам размова з Васілём і наконт Еўрапейскай акадэміі, якую кэдэбісты-камуністы хочуць зрабіць чарговым Камінтэрнам, і наконт Арціка, які займае дзіўнаватую пазіцыю са сваёй арганізацыяй дэмакратычных ветэранаў. Быў выкліканы Васіль на размову з памочнікам, ці дарадцам, Ельцына. Прамацвалі наконт адносінаў да Расіі. Яўна расійскае пасольства, дзе бальшына з Лубянкі, інфармуе пра нацыяналізм Васіля, тым самым настройвае супроць яго маскоўскую інтэлігенцыю, праімперскую.

* Дамініка: «У мяне свае правілы не любіць дзедзю».

*****

А месца святое
Не будзе пустое,
І хочуць яго не святыя
Сабе захапіць,
Як і цёплае тое,
Якое ніколі не стыне.
І вострая зайздрасць
Таксама тупая.
На месца святое
Ахвочых хапае…

---

[1] Казлоўскі Павел Паўлавіч (н. 1942), беларускі дзяржаўны і вайсковы дзеяч, міністр узброеных сіл РБ (1992–1994). Генерал-лейтэнант.

*25 лістапада, пятніца*

На работу прыходзіў Жак[1], потым Васіль. [...] [Алексіевіч] Васілю адкрыта сказала, што яна падпісала ліст у абарону літоўскіх камуністаў разам з Тарасам, які ва ўсе часы мітусіўся пад кліентам. Іна Снарская прыязджала, прывозіла новыя вершы ў сваю кніжку. Панавітая, палётная палачанка. Чыстая. Душа радуецца, што такая змена яшчэ ёсць.

*26 лістапада, субота*

*Віцебск.* У Коласавым тэатры вечарына Караткевіча. Добра чытаў Лабанок[2]. Пасля ён сказаў послаўку сваёй бабулі: падзякуй матцы, што не згніў у срачцы. Кветкі да помніка Караткевічу. Помнік[3] не дужа. Без палёту. У Віцебску з'езд «Правага рэваншу»[4]. Міліцыя каля майстэрні Пушкіна[5]. У мяне ўражанне, што гэтых беларускіх нацыяналістаў збірае й гуртуе КДБ. Шмат наіўных душ, якія, у прынцыпе, чыстыя й дужа любяць Беларусь.

*27 лістапада, нядзеля*

*Полацак.* Сафійка. Музей кнігі, які святары хочуць забраць. Узначальвае полацкую царкву ўсю чалавек, якога выгналі з Днепрадзяржынска за антыўкраінскую дзейнасць. [...] Філарэт[6] узяў, бо свой. У Полацку ўтульна на душы. Па-роднаму. Па-хатняму. Па-нябеснаму. Як вякі й бальшавікі ні знішчалі яго — выжыў, вонкава амаль местачковы, а духам вечным гарадам роўня. У Полацку як бы наноў прарастаеш у свет.

*28 лістапада, панядзелак*

Прыехаў Фелікс Бахчынян. Быкаву, мне й Якавенку[7] Міжнародная армянская Асамблея прысудзіла прэмію імя Нансена за сёлетні год. Мы з Васілём ад сваёй грашовай часткі адмовіліся ў карысць аднаго з дзіцячых дамоў Арменіі (гэта па сто доляраў). Якавенка, вядома, не адмовіў-

---

[1] Жак Віктар Герасімавіч (1931–1998), дэкан інжынерна-педагагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Кандыдат педагагічных навук.

[2] Лабанок Алесь Іванавіч (1944–2005), беларускі акцёр. У 1969–2005 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа (г. Віцебск). Заслужаны артыст РБ (1996).

[3] Аўтар помніка У. Караткевічу (1993) беларускі скульптар Голубеў Ігар Уладзіміравіч (н. 1961).

[4] «Правы рэванш» — беларуская праварадыкальная група (1994).

[5] Пушкін Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; н. 1965), беларускі мастак, перформер.

[6] Філарэт (свец. Вахрамееў Кірыл Варфаламеевіч; н. 1935), праваслаўны царкоўны дзеяч РБ. У 1992–2013 гг. мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, свяшчэннаархімандрыт Успенскай Жыровіцкай абіцелі. Герой Беларусі (2006).

[7] Якавенка Васіль Цімафеевіч (1936–2018), беларускі пісьменнік. З 1990 г. прэзідэнт Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза «Чарнобыль». У 1991–1996 гг. гал. рэдактар міжрэспубліканскага сацыяльна-экалагічнага штотыднёвіка «Набат».

ся, бо паляшук. У Маскву не паедзем. Фелікс казаў пра Гамсахурдзія. Пацвердзіў нашыя з Васілём думкі — убрала Масква праз КДБ. Нават былі пусцілі чутку (кэдэбісты спецыялісты па лініі чутак), што Гамсахурдзія прыняў мусульманства. На жаль, такі ж лёс чакае й Дудаева[1]. Масква — дама раўнівая, крыважэрна раўнівая. Як душыць у сваіх абдымках, вякамі натрэніравалася. У Арменіі й Грузіі голад. Толькі што ў Арменіі не забіваюць. А ў Грузіі былі выпадкі, што ў рэстаране мафіёзі страляюць у столь і забіваюць сямнадцацігадовую ў кватэры над рэстаранам. Фелікс, агаворваючыся […], ад імя армян панёс перадаць [Лукашэнку] драўляны дарагі крыж. […]

У саюзе засядалі па прэміях. Чыгрынаў скуголіў, каб яму далі прэмію яшчэ раз, бо ранейшая, бачце, за кіно. Абы што вырваць. Васіль добра заўважыў: N. заўсягды на зборышчы прыходзіць раней і пачынае расказваць анекдоцікі пра Пестрака[2], каб не дай Бог хто пра палітыку не загаварыў. […]. У «ЛіМе» Чыгрынаў брыдоту на Васіля напісаў. Распад мазгоў ў Святлейшага. «Самаакупней: Два літаратурныя Іваны…» [у дзённіку].

А гэта я ўчора назіраў за Наталляй Сямёнаўнай[3]:

*Паэтава сястра*

Размяняла восьмы дзясятак  
І пасвіць сама  
Сваіх летаў статак.  
Не пастарэла ў вачах  
Туга па вясне.  
Зрэдчас усмешка  
Ранеткай падае.  
Гляджу на ейны цень,  
І мне  
Бачыцца танкарысая,  
Маладая, кірпатая.  
І толькі што  
Старасцю кожны дужы.  
Яны не старэюць —  
І цені, і душы…

[1] Дудаеў Джахар Мусаевіч (1944–1996), савецкі вайсковец, генерал-маёр авіяцыі. У 1991–1996 гг. першы прэзідэнт самаабвешчанай Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя.
[2] Пестрак Піліп Сямёнавіч (1903–1978), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 20–30-х гг. дзеяч КПЗБ, неаднаразова сядзеў у турмах Заходняй Беларусі (Польшча). Заслужаны дзеяч культуры БССР (1968). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964).
[3] Кучкоўская Наталля Сямёнаўна (1922–2003), сястра У. Караткевіча.

*29 лістапада, аўторак*

Выходзіць, ад прэміі адмовіцца нельга, бо яна не ад Арменіі, а ад міжнароднага нейкага фонду. Гэта як бы абраза замежнікам. Усё выясняе Якавенка. Зяб на працы. Цэлы дзень урыўкамі, прыхваткамі пісаў тэксты для Будзінаса, на гарэлачных этыкетках беларускія хохмы. Аж сумна стала. Надвор'е шалёнае. Душа разрываецца па Дамінічцы. Зранку хадзіў на Камароўку, па рэцэпту ведзьмара Пятра купіў зёлак. Буду лечыцца.

* [Назвы водкі:] Рэкіцірская, Развітальная, Мафіёзіўка, Аглаблёвая, Капытковая, Хабароўка, Шабашоўка, Штоквартальная, Застольная, Сватоўская, Халяўная, Запойная, Гасцявая, Разводная, Экспартная.

*30 лістапада, серада*

Камісія па дзяржпрэміях. Камедыя. […] Шамякін. Яго перагнаў N., які прыводзіў у прыклад Польшчу, дзе даецца прэмія за сукупнасць дзейнасці. […]. Адкрытым галасаваннем Ніл настояў на прэміі Алоўнікаву[1], бо 75 гадоў і напісаў апошнім часам песні на вершы партызанскіх паэтаў. Не чуў, але ўяўляю ўвесь жах гэтай прасталінскай рыфмачоўкі. Чыгрынаў пішчом палез на прэмію на другі заход, бо тады разам з […] Ів. Новікавым далі за «Руіны (страляюць…)». Добра сказаў Васіль пра камісію, што ўсё трэба нанова рабіць, а не па партыйнаму прынцыпу. Здорава сказаў яшчэ, што трэба ўжо даваць прэміі не за помнікі, а за разбурэнне помнікаў. Такіх, напрыклад, як Вову Леніну. А ў выніку галасавання выйшаў смех з кіношнікамі, дзе не атрымаў рэжысёр ці аператар, а атрымалі рэдактары. Галасаваць трэба было за групу цалкам, ды Ніл даў ініцыятыву. За Паўлава толькі 4 галасы, а рэшта супраць. Прайшла Рая Баравікова[2]. Наогул, прагніла сістэма. Эксперымент бальшавікоў над людзьмі дарма не мінуў. Нездарма ж некалі […] Савіцкі й […] Кішчанка[3] рабілі габелен для ЦК «Марксізм-ленінізм у дзеянні». Дасюль у дзеянні гэты *-ізм.*

* Дамініка: «Баба, ты не маеш права хваліць чужых рабёнкаў, ты маеш права хваліць толькі свайго рабёнка».

*1 снежня, чацвер*

Клопаты на працы. Сустрэча з Будзінасам. Можа, што й атрымаецца з задумы хохмаў на гарэлачных этыкетках. З гэтай Нансенаўскай прэмі-

---

[1] Алоўнікаў Уладзімір Уладзіміравіч (1919–1996), беларускі кампазітар, педагог. Народны артыст БССР (1970). Прафесар (1980). У 1947–1994 гг. выкладчык, у 1962–1982 гг. рэктар Беларускай акадэміі музыкі (БАМ).

[2] Баравікова Раіса Андрэеўна (н. 1947), беларуская паэтэса, перакладчыца. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1988), Дзяржаўнай прэміі РБ (1993).

[3] Кішчанка Аляксандр Міхайлавіч (1933–1997), беларускі мастак. Народны мастак РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

яй цэлы анекдот. Радыё й газеты даюць лічбу ў тысячу долараў. Усе віншуюць. А я думаю, як купіць хлеба чорнага й батон, ці хопіць.

[Назвы водкі:] Фермерская, Хрэсьбінная, Кампанейская, Цешчына, Вітальная, Пенсійная, Студэнцкая, Адведкавая, Свежая, Калядная, Велікодная, Уваходзінная, Купальская, Пікніковая, Стукачоўка, Вертыкальная.

* Дамініка: «Я не магу гаварыць пра іншых пісьменнікаў, толькі пра дзедзю… Налі чаю, толькі не многа, а то ў мяне жывот пераеўся».

*2 снежня, пятніца*

З раніцы да Будзінаса на працу. Зладжана працуе выдавецкі друкарскі цэх[1]. Дысцыпліна. Амаль як у праклятым капіталізме. У прыватным сектары нешта векавое, грунтоўнае. Бо сваё. Леся Сёмухава казала, калі сабаку Мармону купілі будку — зусім іншы стаў, стаў самастойным. Чалавекам сабака стаў.

* Ідзем з садка, Дамініка пытаецца: «Дужа хачу сустрэцца з Новым годам. Калі будзе раніца Новага года?»

*3 снежня, субота*

Перакладаў Мальера. У «ЛіМе» артыкул Чобата пра АК[2]. Яўна матэрыялы давала Лубянка. Пачынаюць рабіць з Польшчы ворага, каб выслужыцца перад Масквой, адначасова б’юць і па Зянону перад выбарамі. Рыхтуюць глебу.

*4 снежня, нядзеля*

Званіў Васілю, ён згодны, што матэрыялы Чобату давала Лубянка. Сёмуха такой жа думкі. Цікавая думка ў Васіля: партыя камуністаў набыла ў вайну вялікі вопыт і выкарыстоўвала й выкарыстоўвае яго ў сваіх мэтах. Палітрукі пастараліся ў вайну й пасля стараліся. […]

*5 снежня, панядзелак*

На кінастудыю. Фільм пра Васіля «Край перакуленых нябёс». Зусім новы Васіль. Такога яго ніхто ніколі не бачыў на экранах. Крыху, можа, развітальна, рэквіемна зроблены. Гэта фільм на будучае. Каб па ім Васіля ўяўлялі. Вечарам вечарына іўрыцкае паэзіі. Даволі цікава. Быў Васіль. Уладамірскі[3] перад пачаткам паказаў мне на сцэне Вовіка Леніна, за што-

---

[1] Друкарня (на базе друкарні «Звязда») і выдавецтва ТАА «Паліфакт», арганізаванае Я. Будзінасам (1990).

[2] Армія Краёва — падпольная ваенная арганізацыя, якая дзейнічала ў 1942–1945 гг. на акупаванай фашысцкай Германіяй тэрыторыі Польшчы, Украіны, Беларусі і Літвы. Падпарадкоўвалася польскаму эміграцыйнаму ўраду ў Лондане.

[3] Уладамірскі Аляксандр Барысавіч (1950–1997), беларускі акцёр. З 1993 г. артыст Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Беларусі. Сын Б. У. Уладамірскага.

рай. У запасе трымаюць. Прыдасца, як кольцы трасца. Дамоў прыйшоў, а Валя кажа, што Мірон спаў, а Дамініка ўкусіла яго за вуха. Спрасоння толькі муркнуў. На кінастудыі расказалі вясёлае да суму. Масква дзярэ, як чорт за бацьку, за кожны сантыметр кінадакументаў. Здымаюць пра Кіта[1]. Налічылі 5 тысяч даляраў. Тады дырэктар карціны пачаў плакаць: «У нас дырэктар студыі дурань [...]. Мы бедныя». Знайшліся спонсары й далі 4,5 тыс. даляраў. Сапраўды надурніцу, ці надурняк.

*Тры Д*

Каму за хлеў,
А каму бідэ.
Хто ў «мерсэдэсе» плыве,
Хто трасецца трамваем.
І ў чэргах жартуюць:
— Жыццё на тры Д:
Даядаем,
Даношваем,
Дажываем.

*6 снежня, аўторак*

Вычытваў «Евангелле ад Мамы». Карэктура. І сваё, і чужое нейкае. Адчуванне, што й кроплі таго, што хацеў выказаць, не сказаў. Усё-ткі правільна сказана: «Мысль изречённая есть ложь»[2]. Талент умення выказаць сваю думку, сваё адчуванне — найвышэйшы талент. Яго ў мяне няма. Дый рэдка ён у каго начуе. Толькі гэтым і застаецца суцяшаць сябе, сівому чалавеку на схіле веку.

*7 снежня, серада*

На працы. Зацвярджаліся планы на 96-ты. У мяне запланаваны Збор твораў. Гэта развітанне. Аглаблёвая, ці капытковая, чарка майго вершавання. Не радасць, а сум. Як гэта ні дзіўна. Днямі ў гародніным склепе стаю з сіняй торбаю. Падыходзіць малодзенькае дзяўчо. Наіўна-спалоханае. «Вы Барадулін?» Адказваю, што, здаецца, так. Тлумачыць, што проста хацела на мяне паглядзець. Гэта зноў мне падалося развітаннем. Пад вечар званіў Васіль. Яму спадабалася эсэ «На таку майго веку». Раіў напісаць цэлую кнігу. Хваліў за лёгкасць і ўчэпістасць дэталяў. Асабліва

[1] Кіт Барыс Уладзіміравіч (1910–2018), дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША; амерыканскі вучоны. Доктар філасофскіх навук (1982). Акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы (1991). Акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Акадэмік і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. З 1944 г. жыў у Германіі, з 1948 г. у ЗША, з 1972 г. у ФРГ. Ураджэнец Беларусі.

[2] Радок з верша Ф. Цютчава «Silentium!» («Маўчанне»). *Цютчаў* Фёдар Іванавіч (1803–1873), рускі паэт. Член-карэспандэнт Пецярбургскай АН (1857).

падабалася яму пра маленства і паганства. Я проста шчаслівы ад такое ўхвалы.

«Дапаў не ведаў мізер…» [у блакноце].

*8 снежня, чацвер*

Галава разрываецца ад болю. Падаў у забыццё. Але на радыё пайшоў, каб запісаць пераклады Ганада Чарказяна. І свае вершы запісаў. Усцешыў ліст ад выпускніцы вушацкай школы Людмілы Дунец. Як ласкавым варам душу абварылі словы: «Я люблю Ушачы, але якія яны без Вас?» І вершы шчымлівыя, свежыя, на беларускай мове. Ужо думаў, што ў нашай змаскаленай школе ніхто й двух словаў па-беларуску не звяжа. Аж ёсць! А тут яшчэ прозвішча Дунец. Дарагое мне й цёплае ўспамінам пра Уладзіміра Лаўрэнавіча, які кватараў у мамы.

У лістападаўскім «Полымі» мёртванароджаная, ці нават выбзджаная так званая паэма стукача Лужаніна, муць Грахоўскага й выдатны матэрыял пра Сокал-Кутылоўскага[1]. Гэтакіх бы матэрыялаў ды болей. І «Полымя» б ясней і цяплей грэла. А то часта тлее.

* Дамініка: «Буду вучыць верш Купалы, бо ён Дамінікавіч»

*9 снежня, пятніца*

Сёння дзень нараджэння Максіма Багдановіча. Светлы дзень Беларушчыны. А мяне раніцай Дамінічка будзіла. На чыстай беларускай мове: «Дзедзя! Прачынайся! Апранайся!» І адразу святло ў душу палілося. На працы. Да вечара чытаў першы том двухтомніка Зуёнка. Вершы, якія пісаліся пад дыктоўку свайго часу й адыходзяць разам са сваім часам. Вострыя й надзённыя тады, здаюцца банальнымі й наіўнаватымі цяпер. Паэзія вечная сваёй няўлоўнасцю, таямнічасцю й усечалавечай мудрасцю. Сапраўдная паэзія мае высокую канцэнтрацыю, у маленькім томіку змяшчае вечнасць. А савецкай паэзіі тамы чытаеш і толькі фізічна томішся, нідзе не зачапіўшыся здзіўленнем, нідзе не ўразіўшыся глыбінёй простасці й простасцю невераемнасці. Савецкая паэзія ў асноўным рыфмавала й рытмізавала нейкія лозунгі ці факты. У глыбіню Сусвету чалавечае душы не йшла. У класічнай кітайскай паэзіі ймёны імператараў як нейкія арнаментальныя знакі. А сама паэзія глыбінная сваёй свежасцю, ранішнясцю ўспрыняцця свету, свету далёкага часам, ды блізкага думкай і пачуццём. А ў нас па інерцыі пішуць. То славілі камуністаў, то цяпер кусаюць іх за пяткі, але з аглядкай. А раптам зноў?

«Даўняе»[2].

---

[1] Сокал-Кутылоўскі Антон Андрэевіч (1892–1983, Шчэцын, Польшча), беларускі грамадскі і ваенны дзеяч, мемуарыст; праваслаўны святар, настаўнік (1921–1939); падпалкоўнік Беларускай краёвай абароны. Быў рэпрэсаваны (1945–1957).

[2] Гл.: Даўняе (9.12.94) // Ксты. С. 305.

*10 снежня, субота*

Дзень нараджэння Радзіка. Светлы чалавек і паэт. Раніцай сойм БНФ. Даклады Зянона й Хадыкі. Добра сказаў Зянон […]. Расійскаму імперыялізму трэба падпарадкаваць Беларусь. Нахабству расійскага імперыялізму межаў няма. […].

*11 снежня, нядзеля*

З раніцы да Пятра Ісаевіча [Ліфшыца]. Крыху мяне супакоіў наконт зубоў. Дзень прайшоў неяк безвынікова. Нешта рабіў і не рабіў. Званіў Васілю. Паездка на Гомельшчыну назначана на вечар, у сераду. Пісаў верш.

*Дзелячыся*

Сцюжа гулкімі робіць гукі.
Водгук выцінаецца бокам худым
Аб настылыя дахі
З бляхай цынкавай.
Хукаюць коміны ў неба —
І хукі
Растаюць спачатку на дым,
А затым
Робяцца аблачынамі.
Хукай —
Грэй успамінамі рукі,
Гукай —
Злець душу незабытым
Тым,
Аб чым дагэтуль
Адлега ценькае,
Дзелячыся з марозам лушчынкамі.

*12 снежня, панядзелак*

З раніцы марнаваў час — пісаў тэкст навагодняй паштоўкі Будзінасу. Пад вечар удзельнічаў у камедыі галасавання за прэміі Беларусі. Прайшла Райка [Баравікова], Юрэвіч[1], а ўсіх зарэзалі. Шкада Андраюка і Косцю Цвірку. Усё з-за члена ЦК Чыгрынава. Як казёл у гарод з капустай улез і ўсё збунтаваў. Настрой падымаю хоць, чытаючы зборнік артыкулаў «Амерыканскія пісьменнікі пра літартуру». Шырыня поглядаў, няма зашоранасці. Пішуць пра свой клопат людзі ўсё-ткі, як ні круці, вялікага свету.

[1] Юрэвіч Уладзімір Міхайлавіч (1916–2005), беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец.

*13 снежня, аўторак*

Хацеў Андраюка абрадаваць, а не выйшла. Шкада. Выбіраў радкі на цытаванне ў слова пра Коласа — нічога не знайшоў, што хацеў. Паэзія Коласа натуральная, як зямля, як вада, як неба ў спакойным настроі. І душа беларуская, яна ад беларускага характару.

*14 снежня, серада*

*Гомель.* Па дарозе Васіль расказваў, як ён дняваў і начаваў на Горадні, а самае большае, што вывуджваў, дык нейкіх пяток плотачак. А сын Васіль[1] шалёны рыбак, якому шанцуе. Як трэсла малярыя, салдаты накінулі на яго вархоп'е, ачнуўся — нямецкая мова. Вышыньку адбілі немцы, Васіля забыліся нашы. Счакаў цёмнага й да сваіх ўнізе. У 1944 годзе[2].

У гасцінцы гаспадынька на паверсе, як пампушачка, як велікодная булачка. Кажу Зянону: «Якая гожая». Ён: «Будзе час, можна будзе ўшчыкнуць». Вячэраем у *Беліцы*. Бульба. Зянон: «Не гэтак люблю бульбу, як пару ад яе». Васіль пра людзей з выцягнутым сэрцам. Сістэма тым і займалася, некаторыя самі ахвотна выкідвалі свае сэрцы.

*15 снежня, чацвер*

*Хойнікі.* У Хойніках сустрэча ў гарвыканкаме. Становішча бядотнае. Калгасы ляжаць. Вытворчасць, прыватызаваная на ВПК, стаіць. Вечарына, ці, дакладней, дніна, у клубе, здаецца, леспрамгаса. Людзей шмат. Забытасць, забітасць, знябытасць. Зала й слухае Зянона, і згаджаецца, як паглядзець, а думае па-свойму, так, як раілі думаць 70 гадоў.

Вечарына ў Гомелі. Дзіўлюся з бояззю ў душы вынослівасці Зянона, ягонай апантанасці.

*16 снежня, пятніца*

Гомель. На тэле запіс. У асноўным гаварыў Зянон. Крыху Васіль і рэплікава я. Зразумела, нічога з гэтага не выйдзе на экраны. [...]. Удзень у Гомельскім універсітэце. Дужа шмат народу. Васіль здорава й выступіў, і адказваў на пытанні. Безумоўна, гэта трэба ў больш дасведчанай і высокай аўдыторыі. Бо студэнты й задавалі яму пытанні пра першае каханне. Яно й такія пытанні маюць права на жыццё, але ж Васіль не кожны дзень у іх бывае, дык трэба было б скарыстаць шчаслівую нагоду болей высокагодна. Але галоўнае, што на Гомельшчыне жыве беларускі дух, жыве й беларуская мова насуперак ўсім русапятам, рускаязычнікам, як кажа Зянон. Васіль дужа слабы здароўем. Выехаў застуджаны, а тут яшчэ болей застудзіўся. Дужа трэба шанаваць ягонае здароўе, а ніхто не ша-

[1] Быкаў Васіль Васільевіч (н. 1957), малодшы сын В. Быкава; урач.

[2] Гл.: Быкаў В. Доўгая дарога дадому. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2002. С. 124.

нуе, карыстаюцца, як лесам, як лугам — абы сабе болей. Пайшоў раніцай будзіць — стомлены стары чалавек, якому трэба спакой. А дух малады й непадуладны ні гадам, ні розным гаʹдам. Дужа маладая, чыстая, беларуская спаконвечна. «Скрозь»[1].

Па зімовай дарозе (выязджалі па восеньска-зазімкавай) назад у Менск. Па дарозе Васіль распавядаў. У Вушачу дарога была бальшаком і праз пушчу. Хоць, як на цяперашні розум, аднолькавая даліня, але лічылася, што праз пушчу карацей. Асабліва было прыгожа, бо align рознакалёрна восенню. Аднаго разу бачыў рысь. Устрашэў. Але рысь толькі паглядзела на хлопчыка. У Вушачу выходзілі каля Бутаўскага магільніка. У Вушачы болей за ўсё вабіў культмаг. На сцяне віселі рэпрадукцыі дзвюх карцінаў — Чапаеў[2] на скакуне й неба ўсё у аблоках. Уражвала, як намаляваны аблокі, здавалася — яшчэ хвіля й паплывуць. А самае галоўнае было ў універмагу — кніжкі. Яны для Васіля былі дарагія. Ляжала аповесць «Дрыгва» [Я. Коласа], капеек 60 каштавала. Як яе купіць? Украў у маці тры яйкі, прадаў у Кублічах і купіў «Дрыгву». Чытай не хачу. Зімой можна было кніжкі дастаць у бібліятэцы, у школе. Горай было летам. У аднакласніка (вучыўся Васіль, здаецца, у пятым класе) была «Як гартавалася сталь»[3]. Пайшоў у Зерчаніцы. На выгане хлапчукі з дубцамі стаялі. Пачалі частаваць чужака. Васіль разважае, што маленства, яно дужа жорсткае. Гэта пасля ў сталасці ружавата згадваем, забыўшыся на ўсе свае крыўды маленства.

Бацька аўдавеў, бо першая жонка памерла, маці аўдавела, бо муж як з'ехаў у Піцер, як вадой разліўся. Пабраліся. У Васіля не было бабуляў. Фактычна. Бацькава маці жыла ў Заходняй, у Завулку, а матчына маці, да іх Васілёў бацька пайшоў у прымакі, любіла толькі ўнучак ад сына, а ўнукаў не любіла. Доўга хварэла, ляжала ў закутку, не ўставала. Васіль кідаў на яе кошку. І цяпер кажа: «Гэта быў мой грэх». Ды хіба малы разумеў. Яму было крыўдна, што яго не любіць баба. А на вёсцы ж баба першая жаласніца, міласніца.

Васіля падгаворваў напісаць пра фруктовы чай. Але ён сказаў, што мог бы гандляваць сюжэтамі. А з фруктовым чаем было так. Васіль навучаўся трохі ў Віцебскім мастацкім вучылішчы, пасля не стала чым плаціць за вучобу, на што жыць. Кавалак хлеба на цэлы дзень і то не кожны дзень. Паехаў назад у Бычкі. А тут набор у ФЗВ[4]. Самая прынада — бясплатнае

[1] Гл.: Скрозь (16.12.94) // Ксты. С. 295.

[2] Чапаеў Васілій Іванавіч (1887–1919), герой Грамадзянскай вайны ў Расіі (1918–1920), чырвоны камандзір дывізіі.

[3] Аповесць М. Астроўскага. *Астроўскі* Мікалай Аляксеевіч (1904–1936), рускі пісьменнік.

[4] ФЗВ — фабрычна-завадское вучылішча.

навучанне й харч. Перад самай вайной на практыку на Украіну, дзе зараз кінаплёнкі робяць, —Шосцінск, гэта рабілася вялікая савецкая хімія.

Вайна. Болей за месяц рылі акопы. На фронт кіруюць. У Белгарадзе ўся калона купляла фруктовы чай, каб хоць на зуб узяць як ласунак. Пакуль пастаяў у чарзе, выйшаў — калона знікла. Цямнелася. Будынак без страхі, без вокан і дзвярэй. Ногі як пазычаныя. Занурыўся ў куток і заснуў. Прачхнуўся ад святла ліхтарыка. Ваенны патруль. Хто, што, адкуль? У Васіля парусінавая сумка. У ёй карта еўрапейскае часткі Саюза, выдраная з нейкага школьнага падручніка. Каб практыкавацца. Пачалі дапытвацца, адкуль, для чаго, чаму нейкія паметкі. Васіль тлумачыць, што лінію фронту наносіў, а яны: «Адкуль звесткі?» За ванзэлачак гэты, за Васіля й павялі ў падвал нейкі. Там шмат людзей. Ніхто ні з кім не гаворыць. Чуюцца выбухі, немцы падыходзяць да горада. Ранько пачынаюць выводзіць па трое. Кароткія стрэлы. Чарга да Васіля падышла. Зарослы гарод, малiннiк. З маліннiка, з кустоў тырчаць ногі. Васіля ўсяго скаланула. Зразумеў усё. Яго вёў у гадах чалавек яўна з цывільных мабілізаваны. Запытаўся: «Ты сапраўды невінаваты?» Васіль заплакаў і ад плачу нічога не мог сказаць. Тады ягоны канваір сказаў: «Лезь вунь у дзірку ў плоце». Васіль палез, чакаючы, што выстраліць канваір. Прагучэў стрэл. У паветра. Перакуліўся ў нейкі гарод і дай Бог ногі. Сустрэў чыгуначніка з прыладдзем. Спытаў, куды войска пайшло. Паказаў. Васіль бегчы. На шчасце ў ляску напаў на сваіх. Гэта выратавала, бо ні дакументаў — ні пасведчання пра вучобу, нічога. Расказаў хлопцам, што й як. А там ужо фарміравалі па групах. Запісалі.

Яшчэ расказваў мне з горкай усмешкай, як зайздросціў свайму сябруку, што паедзе чыгункай, — усю сям'ю Кухарэнкаў раскулачылі й накіравалі недзе ў Котлас, а напачатку быў Полацак, дзе была чыгунка — мара бычкоўскіх хлапчукоў.

У Балгарыі. Стаялі ў Сафіі. Згарэла скрыня, дзе было майно Васілёва. Падгарэла крыссё ў шыняля, прапаліліся дзіркі. Ідзе холад. Васіль у гімнасцёрцы х/б з лапіклам спераду й ззаду на левай грудзіне. Лейтэнанцкая гімнасцёрка сатлела ад поту. Ідуць балгары й кажуць: «Бач, братушка, сібірак — яму й холад неўзнакі». Нарэшце нехта параіў купіць шынель і даў адрас. Савецкія расфарміравалі балгарскую армію. Васіль пайшоў па адрасе. Багаты дом. Шынель генеральская з зялёнага ангельскага сукна, з чырвонай падкладкаю, з чырвонымі кантамі. Як на Васіля шыты. Чырвоныя адвароты вырашыў зашпіліць. Прычапіў лейтэнанцкія пагоны. Вечарам недзе гулялі. Раніцай спазняецца на паверку. Вырушыў пешкі кіламетры з чатыры. Спяшаецца. Едзе «віліс», спыняецца. Палкоўнік, камандзір брыгады, прапануе падвезці, раз лейтэнант спазняецца.

Пад’язджаюць да варотаў часці, Васіль вылазіць, палкоўнік не выпускае. Вязе ў часць. Там ужо ўсе пастроеныя. Прымае рапарт. Васіль стаіць. Пасля палкоўнік пачынае распякаць, што некаторым не падабаецца савецкая форма, як пеўні у генеральскіх шынялях нейкае арміі. Паехаў. Васіль стаў каля гарматы. Ясна, што насіць шынель не давядзецца. Нехта параіў прадаць штабніку, які загадваў, здаецца, музыкаю. Прадаў. Штабнік пашыў сабе з зялёнага ангельскага сукна кіцель і галіфэ. Васілю здабыўся шынель зноў жа ангельскага зялёнага сукна, толькі дужа кароткі. Параілі надтачыць. І хадзіў у двухколерным надтачаным шынялі. А генеральскі шынель быў нешчаслівы. Уладальнік фрэнча й галіфэ завёўся у сталоўцы вечарам з маёрам. Аплявушыў яго. Развялі. Пакрыўджаны яшчэ дабавіў і пайшоў, каб працягнуць гутарку. Уладальнік фрэнча спаў. Фрэнч і галіфэ былі акуратна складзены. Недабудзіўшыся гаспадара, маёр выліў усю бутэльку «чарніла» густа й акуратна на англійсае сукно.

Пра начальніка КДБ Рудака. Выклікаў Васіля й пачаў расказваць. На Палессі быў начальнік паліцыі Быкаў. Ноччу зайшлі ў хату, Рудак прыставіў да скроні пісталет, і мазгі разляцеліся па сцяне. Васіль адказаў, што мазгі, яны мягкія й у адказ распавёў яму, як салдаты-артылерысты прывязалі да гарматы немца палоннага, стрэлілі. Адкат. І ўсіх ратазеяў, якіх нельга было адагнаць ад спіны гарматы, абдало рэшткамі смаленага мяса й мазгамі. Рудак запытаўся: «А ягонае прозвішча было не Рудак?» Дайшло. Васіль прамаўчаў.

У адной гутарцы з чытачамі ў Гомелі. Васіль сказаў, што ваенная тэматыка ўжо мала займае ягоныя думкі. Хоча напісаць пра Слуцкае паўстанне. Бо гэтая Атлантыда знікае пад вадою часу. Калі аб’явілі канец вайне (гэта было ў Аўстрыі), спалі ў абдымку з амерыканцамі. Васіль пайшоў уночы. Каля склада салдаты стаялі, вырашалі, як адчыніць дзвярыну. Супроцьтанкавую гранату (кінуць). Аўстрыяк прыйшоў і папрасіў узяць трошкі мукі. Старому ўзвалілі на плечы мех — пайшоў, хістаючыся, бо нёс сабе. А Васіль даў загад падагнаць «студэбекер», і нагрузілі віна, шакаладу. Пасля адабралі штабнікі, і калі прыехаў у Балгарыю, накіравалі ў Адэсу. У гатэлі пачаў было Васіль распавядаць, як цяжка было пачынаць пісаць, бо мова са слуцкім каларытам ушацкаму халаднаватая, чужаватая.

* Васіль у Сафіі пайшоў у лазню (пад час вайны), забыўся чамаданчык з бруднай бялізнай. Пасаромеўся вяртацца па чамаданчык, бо бялізна была брудная (тыдні два ў лазні не быў), а яны недзе паглядзелі. А чамаданчык фібравы, у Аўстрыі [набыў], яго было шкадавата.

У Гомельскім універсітэце Васіль: «Каханне датуль жыве, пакуль тайна, таму не раскажу й вам не раю расказваць пра першае каханне.

Моладзі належыць будучыня, а нам належыць толькі мінулае. Вершаў не пісаў, бо не супала тая пара, калі пішуцца вершы, з маім жыццёвым лёсам».

На Курылах сын нарадзіўся. Васіль сам роды прымаў. Рапарт [аб звальненні напісаў] Маліноўскаму[1] як дэпутату. За 6 км па снезе, тайзе [дабіраўся], яму растлумчылі ў штабе, што трэба выконваць канстытуцыйны [абавязак]. Запас. Недзе ў 61-м зноў [выклікалі], у ракетныя [войскі прызваць] хацелі. [Напісаў, што] стрыечны брат за мяжой [жыве], а ён без весткі [прапаў].

*17 снежня, субота*

Чытаю Зуёнкавы паэмы. Усё гэта можна было ў прозе, эканомней было б. Шмат апісальнасці з мінулага веку. Адчуваецца выседжанасць. Яшчэ ўткнуў нешта накшталт паэмы пра землячка Клімука[2], героя ВПК. Савецкая паэзія адмірае на вачах. Вострыя ў свой час праблемы сёння тупыя, як абух. Саветызацыя мышлення нялёгка выходзіць з паэтаў. Архіўнасць. Музейнасць. Некалі й мяне гэта ўсё хвалявала. Паказаць кукіш ў кішэні, ды так, каб і кішэня не адтапырвалася, лічылася геройствам. Цяпер гэта смешна. «Над кім смеяцёся, панове?»[3] Сапраўды.

*18 снежня, нядзеля*

Перадрукоўваў Панчанку. Неахайна, як і заўсягды, здаў рукапіс. Тая ж хвароба. Смеласць, якая ўжо стала смешнаю ці вартаю шкадавання. Але затое такія піменаўскія радкі пракідваюцца, што яны трымаюць верш. І тут жа перачытваў «Новую зямлю», трэба ўступ да аднатомніка Якуба Коласа. Усё зямное, побытавае, а разам з тым у небе лунае. Загадка «Новай зямлі» — гэта загадка паэзіі, таго апускання да зямлі, якое ўзнімае думку ў завоблачнасць вечнасці. Гэта не паэма, гэта сага, гэта наш эпас, наша мудрая ўсмешка й светлы сум, гэта наш маральны кодэкс.

* Дамініка: «Я чыхнула, і з мяне чыхнок вылецеў з галавы».

---

[1] Маліноўскі Радзіён Якаўлевіч (1898–1967), Маршал Савецкага Саюза (1944). Герой Савецкага Саюза (1945, 1958) . У 1956–1967 гг. міністр абароны СССР.

[2] Клімук Пётр Ільіч (н. 1942), савецкі касманаўт. Герой Савецкага Саюза (1973, 1975). Лётчык-касманаўт СССР (1973). Генерел-палкоўнік авіяцыі (1998). Кандыдат тэхнічных навук (1995). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978, 1991). Ураджэнец Беларусі.

[3] Рэпліка з камедыі «Рэвізор» М. Гогаля. *Гогаль* Мікалай Васільевіч (1809–1852), рускі пісьменнік.

*19 снежня, панядзелак*

Пазваніў Бурсаву. У яго сёння дзень нараджэння. Вечарам у філармоніі дзве гадзіны песні на словы Бураўкіна. Спонсары тыя ж, здаецца, што й у Аколавай. Гулу шмат, а мелодыі, якія могуць запомніцца, гэта тыя, якія помняцца, бо яны даўнія. Усе вядомыя салісты. Шчырэў Фінберг. Мне было добра сядзець з Рыгорам Сітніцам — шчырым беларускім мастаком, бэнээфаўцам. Яму напісаў на лістку: «Ніяк не нахваліцца сам сабой...» [у дзённіку].

А з самае раніцы на кінастудыю. Фільм пра Васіля «Край перакуленых нябёс». Васілю, здаецца, спадабаўся. Ніхто яшчэ такога Васіля на экранах не бачыў. Раскуты, свабодны, усмешлівы, бо гэта ж дома, на родным возеры. Горадня сапраўды перакуленае. Тут некалі было капішча. Добра гучыць Васілёў перыфраз: «Калі кожны армянін мусіць мець хоць невялічкі Арарат, дык беларус павінен мець сваё хоць маленечкае азярко».

*20 снежня, аўторак*

Праца. Падрыхтаваў том паэзіі Якуба Коласа. Вечарам паседжанне Фонду Сораса. Новы куратар з-за бугра[1]. Элізабет[2] [...] паехала ў Новы Ёрк. Уражанне ад новага добрае. Затое нашыя фандысты за выключэннем двух чалавек, якія сапраўдныя беларусы, робяць сумнае ўражанне. На мейсцах у аддзяленнях пастаўлены крыкліва-істэрычныя дамачкі а la парт[...]. Расійскае арыентацыі. Задаў пытанне, каму гэта Фонд Сораса дае грошы вэпаканістам, хоць па ідэі сваёй Фонд Сораса павінен быць супроць ВПК. Манаеў шашэрыўся, як ад марозу, адказваў туманна. Аднаго Пітэра, здаецца, гэта нейкім чынам зацікавіла. [...].

* Дамініка: «Кот разгладзіў вусы й пачаў назіраць, (падумала) камісар... Кот хватанюшка — хватае за ногі».

*21 снежня, серада*

На кінастудыі Палякоў выбіў грошы Васілю. Завёз яму. Сядзіць халодны, напаўгалодны вялікі пісьменнік. А ў гэты час вечар члена ЦК, лепшага сябра сербскага народа, [...] Чыгрынава. Вядзе цішайшы Зуёнак. Усё, як у камуністычныя часы. [Лукашэнка] [...] павіншаваў члена ЦК. На працы душу адвёў размовамі з дарагімі сэрцу майму Сёмухам і Дранько м. Цікавае супадзенне. Нарадзіліся ў адзін дзень Сталін і Чыгрынаў. Самая доўгая ноч.

---

[1] Берн Пітэр, выканаўчы дырэктар Беларускага Фонду Сораса.

[2] Смедлі Элізабет, былы выканаўчы дырэктар БФС.

*Належыць*

Kроў заменяць чырвонаю фарбаю,
Прамяняюць на місу месу.
Будучыня належыць барбарам —
Дрымучым любімцам прагрэсу.

[Варыянты 1-ша радка:]

Міласціну праганяюць хабарам…
Абмяняюцца гарбамі, як скарбамі…

Як радок верша гучыць Васілёва фраза: «Якая у цябе цёплая душа».

*22 снежня, чацвер*

Ганад рабіў маленькае застолле з нагоды выхаду «Плачу». Плакаў моцны напой. […]. А Васіль, атрымаўшы ўчора грошы за мастацкі фільм, сёння пад маім націскам пайшоў і абмяняў на долары — і атрымаў соценку зялёную. Усяго заробку.

«Належыць»[1].

*23 снежня, пятніца*

Раніцай, спазняючыся, званю на працу. Толькі набраў 23 і механічна далей 11–57. Тэлефон Васіля. Прашу прабачэння, што так рана, бо памыліўся. Васіль адказвае: «Бог вадзіў тваёй рукой». Адыходзячы, уключыў настольную лямпу, — лямпачка фукнула. Іду браць новую, а Дамінічка пытаецца: «А дзе ў цябе лямпачка зламалася?» Газеты выйшлі з белымі палосамі — не далі даклада Антончыка пра карупцыю […]. Так, глядзіш, і садзіць пачнуць неўзабаве. Як Карэя ў цэнтры Эўропы.

*Павінна*

Мілосць павінна то маніцца,
То патухаць, то разгарацца.
Калі знікае таямніца,
Дык застаецца толькі праца.

З радасцю гляджу на Лявона Дранько — увесь час працуе над сабой, увесь час удасканальваецца, робіць з сябе інтэлігента, інтэлектуала — і дасягае гэтага паступова, але няўхільна. Гэта ўжо новае пакаленне, добрае, надзейнае племя.

[1] Гл.: Належыць (22.12.94) // Ксты. С. 298.

*24 снежня, субота*

Прашу Дамінічку нешта мне намаляваць напрыканцы. [Малюнак.] Гэта птушка адна кветку ўзяла ў дзюбу, а другая разявіла дзюбу на хлеб; кветкі, трава.) Васіль пра чыгрынаўскі вечар і заяву, што ён правёў свой народ па ўсіх кругах гісторыі ад Рагнеды[1] да Чарнобыля. Начальства мяркуе пра чалавека, пра творцу, як часта ён сядзіць у прэзідыуме й што ён пра сябе кажа. Скажа, што ён Ісус, — паверыць. Заява й вечар Чыгрынава — не літаратурны факт, а сатырычны. І ніхто нічога не скажа. Такое нашае літаратурнае асяроддзе. Яшчэ Васіль вечарам успомніў, як Друцэ[2], не ведаючы адраса Быкава, напісаў віншаванне з днём нараджэння, пазначыў: «Гродна. КДБ, для Васіля Быкава». Не перадалі, зрабілі выгляд, што не ведаюць адраса. Друцэ потым распавядаў.

* Дамініка: «Я б твайму бацьку, дзеду Івану, сказала б не йсці на вайну, а гуляць са мной на вуліцы, як скончыцца вайна й перастане дым… Шкада, што памёр Купала. Ён быў тваім сябрам?»

*25 снежня, нядзеля*

Святыя Каляды! Запрашаю вас у душу сваю. Мяне ўсё ж ксціў ксёндз. Гэта мае Каляды. Хоць мае таксама й праваслаўныя. На адным мне відаць, наколькі правільней быць на Беларусі вуніі. Але ж Масква не можа гэтага дапусціць. А волю Масквы выконвае й […] праваслаўная вярхушка на чале з […] Філарэтам. Але Бог з ім. Сваё атрымаюць.

Дамінічка сказала пазваніць Быкаву, запрасіць яго ў госці, яна дасць яму падарункі й дазволіць званіць з нашага тэлефона. Дужа любіць Васіля. Душой адчувае. Учора прыходзіла Ілона. Худая. Галодная. Рве яна мне сэрца. Дапамагчы сур'ёзна не магу. Сам бедны. [Малюнкі.] Гэта мне Дамінічка намалявала — і сябе, і мяне, і ката Мірона.

«Калядны верш»[3].

* Дамініка: «Праз цябе я ледзь не ўпала ўверх галавой… Бывае, што хаваюць пад помнікам».

*26 снежня, панядзелак*

На працу прыходзіў З. Геніяльны ў сваёй беспрынцыпнай абыякавасці да ўсяго, апрыч свае асобы й кішэні. Чаго варта заява ў рэдакцыі паэзіі: абы грошы заплацілі, а кніга можа й не выходзіць. Сумна на старасці гадоў бачыць тых, з кім столькі пражыў побач, голымі. Паламалася сістэма, якой яны служылі аддана й цяпер ходзяць голымі каралямі. З. яшчэ не

---

[1] Рагнеда (?–1000), полацкая асветніца, дачка полацкага князя Рагвалода, жонка кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча (?–1015).

[2] Друцэ Іон Панцялеевіч (н. 1928), малдаўскі празаік і драматург.

[3] Гл.: Каб шанаваў… (25.12.94) // Босая зорка. С. 135.

самы горшы варыянт. А ўзяць [...] Чыгрынава, [...] Пташнікава. І ўсе арганізацыйна сагнаны ў СП.

*27 снежня, аўторак*

Васіль прынёс рукапіс. Назва «Сцяна». Па прытчы, якой заканчваецца кніга. Выдатны твор, тэма вечная, вырашана па-быкаўску скупымі дэталямі. Нікуды чалавеку не выкараскацца са сваёй турмы. Быў прыемна ўражаны — Васіль прысвяціў гэтую прытчу мне. Дзякуй яму за такі шчодры падарунак. Васіль, дарэчы, казаў, што трэба было б некаму весці летапіс СП, падзеі. Гэта было б карысней, чым даследаванні АН. Багацейшы матэрыял. Дранько вычытаў у «Нёмане», што Чыгрынаў сябе ў дваране залічыў. Па тэле глядзеў выступленне [Лукашэнкі]. У мяне ціск падымаецца. [...].

«Дваранін: Ён лічыць сябе вялікім...» [у блакноце].

*28 снежня, серада*

На працы трохі хвасты падагнаў. Дамінічцы сніўся сон, што дзедзя ў шапцы, а дзядзька Быкаў стаяў з венікам, чорнай лапаткай і рыжым катом. Званю Васілю, кажа, і яму сніўся кот. Каты, наогул, да кражы [сняцца]. Учора, калі Васіль ехаў у сабес, так сціснулі ў аўтобусе, думаў, сканае. Ледзь выскачыў праз прыпынак і пайшоў пешкі. А Ніла машына возіць ад пад'езда да пад'езда былога ЦК, хоць дом вокнамі глядзіць у ідэалагічны гмах. Бог не роўна дзеліць. Багушэвіч[1] меў рацыю. З. абрыдзеў сваім [...] клопатам атрымаць як болей за кожны лапцяваты радок. Аж кепска стала мне. [...]

*29 снежня, чацвер*

Хворы [пайшоў] на працу. Званіў Васілю. У яго не хапае слоў, [...], чуючы весткі з Чачні [...].

*Паступова, пакрыёма, палахліва*

Прыгожыя старэюць паступова,
Відаць, лягчэй зажуранай красе,
Каб лішні раз
Пачуць здзіўлення слова.

Прыгожыя старэюць пакрыёма,
У восень лета пераходзіць так.

---

[1] Багушэвіч Францішак Бенядыкт (псеўд. Мацей Бурачок; 1840–1900), беларускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык.

Яшчэ агнёвым цветам п'яны мак,
А ўжо цячэ па жылах млосць і стома.

Прыгожыя старэюць палахліва,
На плечы ўскінуўшы,
Як шалік, сум.
І аціхае святаў светлы шум,
Чакаючы паўторанага дзіва...

*30 снежня, пятніца*

На працы вечар. Усе дзяўчаты прыгожа-ўрачыстыя. Як адна сям'я.

«Не шапчыся!: З босай антыгалавай...» [У дзённіку запісана 17.07.95.]

* Дамініка: «Скажы дзякуй сваім дзяўчатам за пэндзлікі. Намалюю партрэт Быкава... Дзедзя аб'ехаў усё беларускае царства».

*Наталлі Давыдзенка*

Няхай і ў 95-м,
І ўсе наступныя гады
Шуміцца тым шчаслівым шатам,
Што захінаюць ад бяды
Цябе,
Наталачку-Марыну —
Лагоды светлую хвіліну!

*Рыгор*

*31 снежня, субота*

Уначы схапіла сэрца. Нешта трылузілася.

Напісаў пасля: «Яблыні...»[1]

Ілоначка! Крывіначка мая!
Віншую з Новым, дзевяноста пятым.
Хай кожны будзе зорамі багаты.
Твайго натхнення светлая бруя
Няхай трымціць, зіхціць, не заціхае.
Будзь з Госпадам, дачушка дарагая.

---

[1] Гл.: Родны сад (31.12.94) // Руны Перуновы. С. 201.

## 1995

*1 студзеня, нядзеля*

Дзень добры, Новы год! Дзень добры, Дзевяноста Пяты! Ты прынёс мне шосты дзясятак гадоў маіх. Дзякуй! Як бы ні было, а на гэтым свеце лепей, бо ён стары й знаёмы. А той і ёсць той, бо не гэты. Чамусьці ўспомнілася, як малы адказваў на пытанне: чый ты? Мамін сынок, татаў сынок, а бабін унучачак. Прытым доўга чакаў — каб даўжэй слова было на радасць любімай бабы Маланні[1]. А цяпер сівы як конь, чый? І свой, і не свой, нічый. Пад рыфму просіцца — хоць завый — нічый! Званкі рэдкія, як і рэдкія сябры, што засталіся, як і тыя, з кім хочацца ўбачыцца, пагаварыць, памаўчаць. Чалавек, як дрэва, ад якога з гадамі застаецца голы ствол, а ўрэшце — пень. «Даўнейшы ён за шлях...»[2]

*2 студзеня, панядзелак*

Занёс у «ЛіМ» дадаткова некалькі «дурнотаў». На працы паслясвятавы настрой. Доўга гутарылі з Сёмухам. Ён успомніў, як патушыў пажар пагрому дэманстрантаў праз Сачанку, якога абдурыў. Расказваў, якія гідствы рабіў яму В. [...]. В. ж прыстаўляўся й да Васіля [Быкава], ён, дарэчы, мне не раз пра гэта казаў. Ганебная роля В. ў расколе БНФ праз «Грамаду» й падстаўную, [...] фігуру Т. [...].

Учора вечарам званіў з Віцебска Вальдко Калінін. Вярнуўся з Лондана. Сустрэў цыганоў польскіх, чые бацькі з Беларусі. Яны, казаў, большыя беларусы, чымся нашыя. Дачушка Хрысцінка перамагла на алімпіядзе па беларускай мове. Мне ў трубку казала калядныя віншаванні на такой чысцюткай беларускай мове — аж у мяне на душы пасвятлела. [...]

*3 студзеня, аўторак*

Рыхтаваў падборку ў «Полымя». Як пачалі гаварыць з Васілём, у тэлефоне толькі коні не ірзалі. КДБ глушыць нахабна. [...] На душы цяжка. Адчуванне, што чарга пасоўваецца...

*4 студзеня, серада*

Вечарына Вольгі Іпатавай ў саюзе. Чытаў верш у гонар Вольгі.

---

[1] Гайко Малання Несцераўна (1887–1947), бабуля па маці.

[2] Гл.: «Даўнейшы ён за шлях...» (1.01.95) // Халодная памяць вады. С. 265.

*Тройца*

*Вользе Іпатавай*

Мудрасць любіць тых, хто любіць жыць,
Мудрасць застаецца маладою.
Гэта старасць поснай калядою
Над забыта-ўспомненым дрыжыць.

Талент любіць тых, хто любіць мець
За душой не толькі свет з прысветкам,
Той, хто зорам — сарамлівым сведкам
Не дазволіць ад хлусні прыцьмець.

Гожасць любіць тых, хто любіць сніць
У балоце чыстую лілею,
Адагрэць запазухай завею
І пачуць, як цішыня звініць.

Мудрасць, талент,
Гожасць з вечных дзён
Выбіраюць, у каго б спыніцца.

Жураўлю прымроіцца сініца.
Ад пакоры скруціць шыю млён.

*2 студзеня*

Даволі шчыра ўсё прайшло. А пасля застолле стаячае. Някляеў доўга смяяўся, як я выконваў заданне Сыса, абы адчапіцца, вынес вахцёрцы на радасць Сысу дзве пляшкі «Зуброўкі». Дажыўся. Сам не п’ю, а ўдзельнічаю ў кражы са стала. Самы лепшы твор Іпатавай — сын Руслан. Адукаваны, выхаваны, шчыры беларус. Толькі зайздросціць можна. «Апошні»[1].

*5 студзеня, чацвер*

Званіў Додзік з Віцебска. Прапанаваў серыю выступаў з 14-га па 17-е Віцебск — Наваполацк — Вушача з дапамогай Фонду Сораса. Навошта мне такія гастролі. Кніжак няма, тыражы малыя. Раіўся з Васілём, ён пажартаваў: «Хіба гэта грэе самалюбства». А яшчэ буду адчуваць сябе залежным, бо грошы няма. А на ласкавым хлебе ніколі не жыў і на схіле веку не хачу прывыкаць. Вядома, глыбока ў душы хацелася б зрабіць вечарыну ў Вушачы, але не ў сягонняшняй, а ў той, якой няма, якую знішчылі, у якой хоць мамін дух заставаўся.

---

[1] Гл.: Апошні (3.01.95) // Ксты. С. 335.

*Адлюдны*

Калі б я паўтараўся ў тых,
З якімі было мне добра
(А мажліва, й ім),
Дык быў бы я адлюдны не зусім,
Адценены лістамі маладымі.

А пасівелі ўсе, а пастарэлі,
І знемаглося, што магчы магло.
І ўсё няпэўнае сышло на тло.

Сябе й на сценцы
Стрэльба чуе ў стрэле…

Сёння сагрэў мне душу Васіль Сёмуха — напісаў нетрадыцыйны ўступ да майго будучага пяцітомніка[1]. Неўзабаве 60, а мне самому не верыцца. Няма адчування ні ўзросту, ні адчування, што я нешта зрабіў. Жыву тым, што хачу нешта напісаць, нешта сказаць.

*6 студзеня, пятніца*

З раніцы званю Васілю. Віншую з Калядамі. Кажа, што ўчора доўга засядалі. Яго абралі старшынёй Аргкамітэта святкавання Перамогі. Кажа, дажыў да такіх гадоў, а не навучыўся адмаўляцца. Сказаў, што дачытваю ягоны рукапіс. Васіль тлумачыць, што новыя рэчы — болей канкрэтныя эпізоды. А ў літаратуры ўсё наадварот: чым далей канкрэтыка, меней мастацкасці, чым меней канкрэтнасці — болей мастацкасці. Вечарам званіў Васіль і чытаў мне боскай чысціні й свежасці калядку вершаваную. [Аўтограф:]

Шчодры вечар, шчасьлівы вечар,
Самотны вечар, шаноўны пан.
Гарыць на куце паўтузін сьвечак —
Хрыстос нам сьвеціць і гоніць зман.

Хрыстосу слава і кволым слава,
Цярпліўцам моцы ў цярпеньні дам,
Галодным — хлеба, убогім веры,
Жыцьця і шчасьця — усім людзям.

*Васіль Быкаў, паэта*

---

[1] Запланаваны пяцітомнік быў скарочаны да 4-х тамоў. У 5-ты том павінны былі ўвайсці выбраныя пераклады.

Папрасіў яго перапісаць. Абяцаў. Блізка да поўначы дапісаў і я калядку ў гонар Васіля.

*Шчыраванне ў шчодры вечар*

*Васілю Быкаву*

З-пад абруса ў святую ноч цягні
Тужэйшую, даўжэйшую сяніну,
Каб лён шчаслівых дзён ні на хвіліну
Не ўкарацеў у даўжыні ані.
На неба ў праведную ноч зірні,
Ці густа зор, ці шчодра бор даніну
Аддасць грыбамі й абтрасе ляшчыну,
Каб спарышоў хапіла ўсёй радні.

Дай сена, як каню, свайму ўспаміну,
Каб вёз ужо ў далёкую краіну,
Дзе снег сваёй баіцца чысціні,
Дзе маці, як пасцель, пасцеліць сыну
Дарогу, здзьмуўшы кожную жарсціну,
У Бога зор пазычыўшы з сяўні.

*7 студзеня, субота*

Паехаў і ўкінуў Васілю ў паштовую скрынку шчадроўку сваю. У хату не заходзіў — цяпер не той час, калі хадзілі па гасцях. А гасцінная Ірына Міхайлаўна загоніць абавязкова за стол. А Васіль жыве бедна, але, як «очень жирный писатель» Шамякін, не крычыць па радыётэле і ў друку пра сваю беднасць. Бо арыец і паходжаннем, і духам. Пасля званіў яму. Яго здзівілі адказы на анкету Ул. Арлова ў «ЛіМе». Валодзю дужа заносіць у празе грошы й славы. [...] Васіля бянтэжаць і палітычныя паводзіны Арлова. У прыватнасці, фактычны выхад з БНФ.

Са спагадлівай усмешкай сказаў Васіль пра захадаарыентоўцаў, алімпійцаў накшталт Залозскі[1]. Хай у нас у гаспадарцы й такія будуць. А ўвогуле Васіль сказаў, што нам хапае разбірацца са сваімі аднагодкамі й адначаснікамі. Моладзі ўжо нам не зразумець. У іх свае кірункі й свае арыентыры.

[1] Залозка Юрый Іванавіч (н. 1968), беларускі журналіст. У 1991–1995 гг. супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва».

Раніцай пазваніў Дранько, каб я паслухаў радыё. Макарэвіч[1] чытаў свае пераклады Еўтушэнкі[2]. Спачатку нават не разабраў — свае чытае ці чужыя. Паслухаў, і сумна падумалася пра савецкую паэзію. Нават такая вонкава смелая, задзіра́стая нагадвае папугая, якога пасадзілі ў клетку, навучылі гаварыць, а ён у знак пратэсту крычыць гаспадару: дурань, дурань! Сумна. І сам я запылены мукой з савецкага млына. А мука, яна ўедлівая. Чытаю каталонскую паэзію й слухаю, як расійскія імперыялісты, дзеля таго, каб скінуць [...] Бораньку, знішчаюць цэлую нацыю. У свеце разбою маломý цяжка ацалець. Толькі душой можна выстаяць, загінуўшы целам. [...] Разумныя дурных звеку раздражнялі. А дурныя дурным — «близнецы-братья». [...].

*Клёк*

У зерні Веташковы запавет,
На марнату не зводзьце, сцеражыце
Трывалы клёк, каб паўтарыцца ў жыце,
Раскрыўся смяглай цягласці сакрэт.
Упартасць руні, колаcа імпэт
Прасеецца на скупаватым сіце.
Напомніўшы аб голадзе і сыці,
Адпахне палыном капытны след.

Душа застацца мусіць маладою,
Каб думаць разам з каменем, з вадою
Паганскую зялёную думу.
І адслужыўшы ясную вячэрню,
Агонь падкажа макаваму зерню,
Калі займацца полымем яму.

«Кумір: Як пачынае ехаць дах...» [у блакноце].

*8 студзеня, нядзеля*

Калядны выхад у крамы. Цэны скачуць, як алімпійцы, не збіваючы рэйку шаленства. Перакладаю Мальера. Часу засталося мала, а здаваць трэба было ўжо даўно. Званіў Васілю, яму блага, бо мяняеццца надвор'е. «Дзе душа снедала...»[3] Дачытаў Васіля. Так спакойна па-еўрапейску пра

---

[1] Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч (1939–2017), беларускі паэт, нарысіст. У 1979–2003 гг. спецкарэспандэнт Беларускага радыё. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя А. Куляшова (1994).

[2] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (1933–2017), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2010). Тройчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.

[3] Гл. «Дзе душа снедала...» (8 .01.95) // Ксты. С. 262.

вайну пісаць мог толькі ён, а яшчэ трэба ўлічыць, у якія часіны пісаў. Тады ж толькі «глыбокія плын» і плылі.

*Як бык…*

*Леаніду Дранько-Майсюку*

Паэт, як бык…
Еўропу хоча зноў
Для еўрапейкі Беларусі выкрасці.
Ён самы панавіты між паноў
У гжэчнасці
Ды ў глухаглыбай прыкрасці
Да тых, хто ўздумаў
Лапцем разбарсаным
Валяцца пад паваленым парканам.

Паэт, як бык…
Трымае моцна мост
Нязломнасці,
Наўлоўнасці,
Галоўнасці.
За даўгалыгіх уздымае тост,
Звыкае да салоўкасці,
Салоннасці.
А застаецца сынам цесляровым,
Жывы красою ды адзіным словам.

Паэт, як бык…
На бойню сам не йдзе,
Бо без яго няма жыцця нідзе!

*9 студзеня, панядзелак*

Казлоў прынёс афармленне «Здубавецьця». Добра зрабіў. Як заўсёды. Прыходзіў Панізнік. Гаварылі пра Янішчыц[4]. Гэты фальклорны шляхціц, вядома, не напіша, як ламала КГБ Жэню ды яго. Можа, ці іх абодвух разам. І застаецца Янішчыц у гісторыі літаратуры гэтакай ружовай камсамолачкай. А пра трагедыю ніхто й не здагадаецца. Не проста так узяла яна дый выкінулася з вакна. Добра папрацавалі малойчыкі з КГБ. А колькі гэтакіх ахвяраў ва ўсёй імперыі. Жахлівая, сатанінская арганізацыя. Як гэта ні страхотна, але яна была й застаецца шкілетам і нават сораманепрабіўной мазгаўнёй дзяржавы. І Расіі, і беднай Беларусі.

[4] Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна (1948–1988), беларуская паэтэса. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1986). Першая жонка С. Панізніка.

* Дамініка: «Снілася два сны. Адзін кепскі, другі добры. Дрэнны пра садзік, а добры пра Баяры ў бабы Ларысы[1], там было шмат прыгожых ягад і я іх збірала… Кот наш — персанаж».

*10 студзеня, аўторак*

Сёння 40 гадоў Стрыжаку. Так нічога й не зрабіў. Піў і п'е. І яшчэ савецкасць перадалася па генах. Ёсць вакансія — намеснік рэдактара «Роднага слова». Часопіс спецыфічны, цікавы. І Віктар лічыць, як раней камуністы, што можа там кіраваць. 70 гадоў селекцыі не прайшлі марна. Не прайшлі марна і ў паэзіі. Узяць таго ж Зуёнка, Бураўкіна, Макарэвіча. Цэлы напрамак — савецкі рамантызм, альбо фанерызацыя паэзіі. Дасюль яшчэ гучыць. А агрэсіўнае невуцтва й тупасць, вынянчаныя ідэалогіяй, і цяпер адгукаюцца й будзе [адгукацца].

*Васілю Сёмуху*

З Калядамі Сёмуху я
Віншую
І ў год ружовай Свінні
Жадаю мець
Адпаведную збрую,
Каб быць заўсягды
 На кані.
P. S.
Збіваюся з рытму
Трохі я,
Каб быць у нагу
З эпохаю.

*Віктару Стрыжаку*

І бл.даход,
Як крыгаход,
Сплывуць на муць
Без дэкарацый.
Яшчэ не позна ў сорак год
За працу і за розум брацца.

*11 студзеня, серада*

Зноў хварэю. Навалілася нейкае ліха на мяне. А Мальер вісіць як Дамоклаў меч. Трэба здаваць. […] Як нашы вушацкія казалі: зжыў на сабаку. А так хочацца аддаліцца ад тлуму, ад гаварыльні. Прыходзіў Карлас.

[1] Кліміна Ларыса Рыгораўна (1924–?), бабуля па бацьку.

Можа, ПЭН-цэнтру ўдасца зрабіць часопіс. Мне, пэўна, давядзецца быць рэдактарам. Было б няблага.

*12 студзеня, чацвер*

З раніцы наважыўся схадзіць на працу, а пасля на сустрэчу з Сорасам. Не змог. Думаў, што сканаю. Вярнуўся дамоў. Каб адцягнуцца ад думак змрочных, грэюся Мальерам. А сем Сорас і без мяне абыдзецца. Усё роўна венгерскі яўрэй апавучынены КГБ. Нічога не йдзе на сцвярджэнне Беларусі, а на аднаўленне імперыі праз ВПК [...]. У змрочны час жывем. Але, як казалі вушацкія арыйцы: жывы будзем — х.. памром!

*13 студзеня, пятніца*

Любімая лічба 13. Асабліва калі яшчэ панядзельнік. Хадзіў на працу. З дзяўчатамі сустрэлі стары Новы (год). Званіў Васілю, віншаваў з Новым старым, жадаў па-ўшацку, каб ён быў багаты й касматы. Васіль мне ў адказ пажадаў багацця й касмацця. Ва ўсіх людзей сустракаецца Новы. [...] Самотна пісаўся верш: «Я покуль тут...»[1] Толькі вершамі й ратуюся ад чорных думак [...]. Дзякуй маме, што дала мне ў жыццёвую дарогу мову сваю — апору душы.

*14 студзеня, субота*

Дамінічка зрання папрасіла праспяваць калыханку і замест «пайшоў кот у дулі» сказала: «Люлі-люлі-люлі, пайшоў кот у гулі». У гэтым ёсць нешта гарэзлівае, асабліва калі з вуснаў пяцігадовага анёлачка. Малявала групавы партрэт: Ірына Міхайлаўна, Васіль, кот Мірон, Дамініка. Адна радасць з яе толькі. Цэлы дзень праседзеў над Мальерам. Цяжкая праца — пераклад драматургіі. Палова тэхнічнага клопату выбівае мазгі.

*15 студзеня, нядзеля*

Гэта шчасце — прачынацца ў хаце, дзе звініць ужо званочак, які Дамінічкай завецца. У яе наўздзіў тонкі слых да слова. Кажу пра Мірона: ён наш цар, а яна перапытвае: «Што, ён насцаў?» Нашым рупліўцам за нацыю ўзору Ніла ніколі такой рыфмы не пачуць. Потым намалявала дзедзю й падпісала *Дзедзк*. Дзеда ўсё расчульвае ад любімай унучачкі. Да слёз. Толькі дужа баліць гэты званочак. На каго астанецца? [...]. Няма каму ёй займацца. [...] Па мне работа верх панялá.

*Хваля*

Хваліць і хваляваць —
У гэтых словах хваля

[1] Гл.: Я покуль тут... (12.01.95) // Ксты. С. 275.

Падкоціцца,
Як ласачка ў пярыну,
Напхануюю няскубленым аблоччам.
І радасць возьмецца,
Як пралля й ткалля,
За невясёлы клопат без упыну,
Аж усміхнецца лёс —
Пануры вотчым.
А хваля —
Непрылашчаная коціца,
Каб хваляваць,
Да іншага пакоціцца.

Ілона як знікла пасля Новага года, дасюль не чуваць. Рэшткі сораму ёсць.

*16 студзеня, панядзелак*

Васіль Сёмуха напісаў слова да пяцітомніка. Цікава, бо нестандартна. Мне на хіб валяцца стагі працы, а дома сядзець немагчыма [...]. Вясёла сустракаю шасцідзесяцігоддзе — без спакою ў душы, без спакою дома. [...]. А можа, гэта кара мне за грахі мае, якіх шмат маю й множу, таго не жадаючы. Відаць, так трэба, так Усявышні надумаў. Няма ўжо сілы змагацца. Гіну. «Ад жураўля да сініцы»[1].

Цікавую дэталь расказаў Серафім [Андраюк]. Ягоная жонка, расіянка, гарой стаіць за ўсё беларускае. Яна ўрач. З ёй працуе нявестка стукача І. Яна супроць беларускай мовы. Пытаецца нявестка стукача І.: «А дома вы як гаворыце?» Тамара Серафімава адказвае: «Муж па-беларуску, а я стараюся таксама». Нявестка тады: «А ў нас А. І. толькі па-расійску й з унукамі толькі па-расійску». Яно не дзіўна [...].

*17 студзеня, аўторак*

На працы ўтрасаў сякія-такія клопаты. Па дарозе сустрэў Болтача. Генадзь хоча пайсці ў «Вожык», каб адтуль скакаць ў дэпутаты, бо з каманды [Лукашэнкі] несалідна, хоць там ён не более як паперапіснік. «Грамада» ўжо й раён выбрала — Расоны й Полацак. А землячкі могуць і праваліць. Яны такія, хоць і Генадзь — улюбёнчык Петрачка Машэрава. Болтачу муліцца ў Шчучыне выбірацца. Гэта болей надзейней. Званіў у Купалаўскі, а тэлефон падняў Някляеў, і ён, здаецца, хоча ў дэпутаты. Як у нас казалі: з Богам, Хадорка, калі людцы здараюцца! «Ад нас перахаваць дарогі...»[2]

---

[1] Гл.: Ад жураўля да сініцы (16.01.95, метро) // Ксты. С. 365.
[2] Гл.: «Ад нас перахаваць дарогі...» (17.01.95) // Тамсама. С. 187.

* Дамініка: «Ведаеш, чаму ў Мірона два гарбы? Гэта ў яго лапаткі пярэдніх лап».

*18 студзеня, серада*

Дзень нараджэння Сёмухі. З раніцы з Васілём і Ганадам у кінатэатр «Змена». Зала паўнюткая. Фільм пра Васіля «Край перакуленых нябёс». Настаўніцы добра казалі, адчулі сум і смутак Васілёў. Васіль добра выступіў. Гора таму народу, які страціць сваю зямлю, сваю радзіму. У прыклад прывёў Ганада. Пасля да Сёмухі на застолле. Дамініка перадала Васілю групавы партрэт, дзе Ірына, Васіль, Мірон, Дамініка, а Ірыне Міхайлаўне маленькія пацеркі з арабіны. Потым, калі Васіль ды Ірына званілі й дзякавалі Дамінічцы, яна паабяцала Васілю гасцінец — і тут жа спакавала ў маленькую цалафанавую торбачку з-пад малака пячэнне, сушкі, цукеркі, блакнот з малюнкамі — дзядзьку Быкаву. Дужа яна чулая. […]. А яшчэ сэрца разрываецца, што Васіль ужо слабы й дужа хворы. Ён жа адзін трымае нацыю, трымае Беларусь, ачышчае імя Беларусі […].

«А скора»[1]. Праблема пакаленняў — яна вечная. Сёння ў кінатэатры добрая моладзь была, так яны слухалі Васіля. Адна дзяўчынка нават пачала Васілю тлумачыць Біблію, як Майсей вёў і чаму вёў гэтулькі гадоў. Гэта было шчырадушна. Пайшоў плаціць за ахову. Пад шклом у дужа прыгожай дзяўчыны партрэт Пазьняка з газеты выразаны. Вісеў на сцяне, начальнік загадаў зняць […]. «Паўтарэнне»[2].

* Дамініка: «Калі я лячу з горкі на санках, у мяне ў сэрцы званочак звоніць».

*19 студзеня, чацвер*

Раніцай званю Васілю, кажу, што сніўся, быццам нешта прадаваў, а я баяўся, каб не цягнула яму ў бок і нечым захінаў. Васіль усміхацца ў тэлефон: «Абы не сумленне прадаваў. А ты напішы верш, як нехта з нашых «сяброў» стаіць на Камароўцы й прадае сумленне, такое прыгожае й такое непатрэбнае яму...» Удзень даафармляю рукапіс «Сцяна». Анатацыя падрэдагавана Шаранговічыхай, што балванам выглядаю я. […] Перапісаў, передрукаваў і занёс Серафіму. На Хрышчэнне, на Вадохрышча й маразы ў Бога знайшліся. Успомненая зіма.

* [Чарнавы аўтограф анатацыі:]

*Васіль Быкаў. Сцяна. Апавяданні.*

Хто такі Васіль Быкаў, няма патрэбы тлумачыць. Па творах народнага пісьменніка Беларусі, па асобе самога Васіля Быкава свет ведае і ўяўляе Беларусь, беларускі інтэлект, беларускі характар. [Абзац перакрэслены.]

---

[1] Гл.: А скора... (18.01.95, метро) // Ксты. С. 284.

[2] Гл.: Паўтарэнне (18.01.95) // Тамсама. С. 369.

Кніга «Сцяна» — гэта своеасаблівы анталагічны збор навел і прытчаў Васіля Быкава. У кнігу ўвайшлі кароткія апавяданні ранейшых гадоў і новыя. Бальшына твораў, што склалі кнігу, друкавалася практычна на ўсіх развітых мовах свету. І апошнія прытчы друкаваліся ў рэспубліках былога Савецкага Саюза і ў прыванасці ў «Литературной газете», у «Литературных вестях».

Сабраныя пад адной страхой навелы і прытчы Васіля Быкава будуць добрым падарункам чытачу, падручнікам для вывучэння майстэрства кароткага жанру.

* 12.00 Саюз адвакатаў Беларусі. 23–24–96, Наталля Восіпаўна. Інтэрнацыянальная, 12.

*20 студзеня, пятніца*

У Купалаўскім — запісаў колькі слоў пра Генадзя Аўсяннікава[1], яму ў лютым 60. На працы занёс Галіне Ладысевай з Музея беларускага кнігадрукавання, што ў Полацку, сякія-такія кнігі, фотаздымкі. Яны хочуць зрабіць выставу. Потым на вечар Законнікава ў Нацыянальнай бібліятэцы. Дудараў адразу аблавушыў — прыязджае [...]-вялікадзяржаўнік Козыраў[2], сустрэча ў Саюзе пісьменнікаў. Аб'яднанне прагнуць крумкачы. У Чачні мала мяса. Сяргей чытаў урыўкі з паэмы пра Цівалі. Гэта тэма не паэзійная. Па ўказанню Кагановіча[3] сфабрыкавалі справу пра сабатаж беларускіх чыгуначнікаў, якія адмовіліся везці цягнікі з вязнямі камуністаў у паўночныя ГУЛАГі. З усіх станцый і вузлоў Беларусі сабралі. Расстралялі. У вёсцы Цівалі быў жывёльны магільнік. Заразнай жывёлы. Пры Машэраве Менск падпёр Цівалі. Тады ўзялі Белполк. У супроцьгазах хлопцы выцягвалі чарапы конскія, авечыя й чалавечыя з адной, дзвюма дзірачкамі ў патыліцы. Косці рук звязаныя мяккім дротам. Па закону 100 гадоў нельга ўскрываць заразныя магільнікі. Ужо В'етнам прайшоў[4]. Напалм быў у амерыканцаў і ў савецкай імперыі. Напалмам спалілі чарапы й косці й людскія, і жывёлаў. Попел захавалі ў далёкім тады лесе. Цяпер горад і на гэты лес лезе. Казаў я Дудараву, каб узяўся драму пісаць. Вядома, сапсуе. Дужа самазакаханы ў сябе [...]. А наогул, усе вечары мне

---

[1] Аўсяннікаў Генадзь Сцяпанавіч (н. 1935), беларускі акцёр. З 1957 г. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1974). Народны артыст СССР (1991).

[2] Козыраў Андрэй Уладзіміравіч (н. 1951), расійскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Міністр замежных спраў РФ (1990–1996).

[3] Кагановіч Лазар Майсеевіч (1893–1991), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1943).

[4] У час вайны ў Паўночным В'етнаме (1964–1975) амерыканскімі вайскоўцамі напалмам выжыгаліся і вёскі, і джунглі.

здаюцца сумнымі й мала патрэбнымі. Гэта ўжо з гада́мі не хочацца знацца з га́дамі.

*Ён*

*Генадзю Аўсяннікаву*

Ён шляхціц, пан, які ніколі
Ні перад кім не гнецца ў крук.
І любіць даць у рукі колле,
І нахінуць чубы да рук.

Ён рызыкант, бо рызыкуе
Застацца на прасміхі,
Ды
Ён лазню ўсім задасць такую,
Аж чырванець пачнуць зады
Ад сораму, а не ад пары,
Не разбярэш, а разбярэ,
Як той пяршак, кішэню скнары
І бабахота ў кабарэ.

Ён шчыры сват вясёлай згоды,
Хоць і разлучнікам слыве,
Ён анархіст, але заўсёды
Жыве з царом у галаве.

Не чуе зморы, бо ў гуморы
Не звык зважаць
На злосць, на брэх.
Ён з намі ў радасці і ў горы —
П’янюткі беларускі смех!

*21 студзеня, субота*

Да Радзіка. Нешта накшталт міні-вяселля. Света дужа прыемная. Дай Бог ім добрага шчасця! Мельцар[1] цікава казаў — калі яму заходзілі здаваць латынь кэдэбісты: «Вы да мяне ці па мяне?» Аднаго тупога папрасіў прачытаць, што ў яго ж на значку, і той прачытаў: раіх (раіх [мір] — ніводнай літары лацінскай не ведаў).

«Конкурс: Паўдзён бугаём зароў...» [у блакноце].

*22 студзеня, нядзеля*

Дабіў нарэшце «Мешчаніна-шляхцюка» [Мальера].

---

[1] Мельцэр Беньямін Айзікавіч (1915–?, ЗША), выкладчык БДУ (лацінская мова і рымскае права).

*23 студзеня, панядзелак*

У Саюзе пісьменнікаў была сустрэча з камсамола-[…], вялікадзяржаўнікам шавіністам Козыравым. Не пайшоў. Васіль таксама. Будзінас зноў заказаў тэксты для паштовак восьмасакавіковых. Адна мне падабаецца, а Будзінасу не. Дам у «Дурноты»:

*Спадзяванка*

На восьмага сакавіка
І хвост падымецца ў ваўка.

*24 студзеня, аўторак*

На працу прыходзіла Ірына Крэнь браць інтэрв'ю ў «Наша слова». Большым ідыётам сябе ніколі не адчуваю, чым у час так званых інтэрв'ю. Трэба сябе любіць […], каб даваць і ўмець [даваць] інтэрв'ю. Пусты занятак. Пісаў салодкую паштовачную лірыку Будзінасу накшталт:

І позіркі, і словы —
Усё сплыве, міне,
У гэты дзень вясновы
Успомні пра мяне.

Смяюцца вочы, бровы,
Не верачы журбе.
У гэты дзень вясновы
Я помню пра цябе.

Так можна й Гілевічам стаць.

[Тэксты для паштовак:] «Сакавік — дык гэта ж марац…»; «Падумай!: Дзе чарвячок…»; «Самотна скрыпцы без смычка…»; «Без галубкі галубок…»; «Дзень вясны дзівосны гэткі…»; «Адсырэе сэрца ад сырца…»; «Вочы сустракаюцца…»; «Галубкі не сварацца, не чубяцца…»; «І ў рыбкі гарачэе кроў…»; «Сэрца сэрца гукае…»; «Хоць кожны ў гэтым свеце госць…»; «Кошачцы без ката…»; «Хоць прымаўка казала…»; «Сядзіць ля кошачкі рахмана…» [у блакноце].

*25 студзеня, серада*

Занёс ношку вершаў у «ЛіМ» Міколу Гілю. Вечарам да Палякова, ад рукі накінуты сцэнар, бо Ала (машыністка) захварэла. «Паляванне на каралёў»[1] пра Быкава, Караткевіча, Адамовіча. Мне заўсягды добра ў Палякова, бо сябра са студэнцкіх гадоў. Жыве бедна, бо інтэлігент. Трымаецца гумарам і самаіроніяй.

---

[1] Дакументальны фільм «Меса па Караткевічу», канчатковая назва «Акафіст Караткевічу» (1995).

*26 студзеня, чацвер*

Сёння 95 гадоў Аркадзю Моркаўку. Ягоная ўнучка Ірынка ў нас працуе. Наладзіла палудзень. Крышку «Зуброўкі», бутэрброды, парэзаныя напалам, гарбата, піроржныя. Зашчымела маё дзедаўскае сэрца. Ці ўспомніць мяне некалі Дамінічка, ці будзе ў яе за што ўспомніць дзедзю. Праз усю гісторыю беларуская інтэлігенцыя жыла ў галечы, толькі позіркам у неба й жыла. У савецкі час купілі тых, каго не забілі й не саслалі, поліўкай з імперскага катла, косткай з маскоўскага стала. [...]. «Чаканнем чалавек жыве...»[1]

Ратуюся вершамі, не могучы перамагчы галаўныя болі. Сёння дзень памяці Алеся Адамовіча. А ў выдавецтва прыйшлі лісты першага тома. Як Бог паслаў. Масквічы давалі перадачу пра Алеся. П'яны Каракін чамусьці помніць тое, чаго быць не магло: бабрамі Васіль і Алесь плакалі ў чарнобыльскія дні. Калі пазваніў Васілю, дык ён жартам адказаў, што Каракін пераблытаў яго й Алеся з бальшавіком, які плача яшчэ з паэмы Маякоўскага. У канцы выступала [Алексіевіч]. Канцоўка перадачы магутная. Кадр з Алесем, дзе ён раптам пытаецца: «Ну, як вы там без мяне жывяцё?» Да жаху нечакана. Усю вялую перадачу скаланула. Васіль гадзіну запісваўся, а далі колькі фразаў. Традыцыйна маскоўскае хамства.

«Хоць кон адзін чакае нас...» [у блакноце].

*27 студзеня, пятніца*

Трэба было й вітаць «Нёман» і на пасяджэнне Фонду сем Сораса. Не пайшоў нікуды. Кепска мне. Цяжка мне. Невыносна мне. Ціснe на мяне не толькі хвароба. Каб не пакрыўдзіць Бубнава[2], напісаў:

*Юбілейны санет часопісу «Нёман» на 50 год*

Віншую, «Нёмне», ў моцны юбілей,
Хоць цёзку ўмылі одамі паэты.
Цячы, ды не спяшай да водаў Леты,
Будзь роўны з беражкамі, не мялей.
І аўтарак, і рукапісы клей,
Узгадвай на карыты й на карэты,
Хай іншы цёзка дбае пра катлеты,
А ты ў алей не падлівай ялей.
Каб певень смажаны не дужа дзюбнуў,
Глыбінься думкаю, як раіць Бубнаў,
Каб піў чытач з паўнюткага карца.
Ты моц адчуў Бярозкіна й Стральцова.

---

[1] Гл.: «Чаканнем чалавек жыве...» (26.01.95) // Ксты. С. 343.

[2] Бубнаў Генадзь Фёдаравіч (н. 1948), рускі паэт, перакладчык. У 1984–2002 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Нёман».

Пра шэфаў проста страх казаць сурова,
Пра ўсіх — ад Панчанкі да Кудраўца.

Прыходзіла Ілона. Затурканая. Зацюканая. Галодная. Лічыць сябе геніяльнай мастачкай. Гэтае яе й трымае. А ўсё — лоўля дзьмушак.

*28 студзеня, субота*

Перакладаю Мальера. Праца йдзе марудна. Пазваніў Васілю. Ён адзін, хто шкадуе мяне й спагадае. Раіў меней працаваць, бо мне не 30, а 60. Бо не толькі фізічная праца знясільвае, дачасна хіліць да канчыны. Яшчэ раз нагадаў пра самазакаханага палешука, які дужа быў улёг у сачыніцельства. Ірына не заахвочвае, каб Васіль працаваў болей, як гэта ні парадаксальна на першы пагляд. Дый цяпер, як ні працуй, а з галечы не выкараскаешся. «Здаралася»[1]. Васіль распавядаў, як ездзіў некалі з Шушкевічам у Польшчу. Надвор'е было душнае. Паехаў з лёгкім кейсам. Хадзіў усюдых, куды казалі, сустракаўся, выступаў. Ні хвіліны вольнае не было. Калі прыляцелі ў Менск, дэпутаты, палітдзеячы выцягвалі з самалёта валізы, скрынкі, скрыні (калі толькі паспелі), а Васіль са сваім кейсам.

Вясёлае самалётнае здарэнне было ў яго ў Румыніі, калі выйшаў на перон з нейкай групай людзей. Без усякай праверкі. Калі падзівіўся ў перакладчыцы, як у Румыніі (яшчэ пры Колі Чаушэску[2]) вольна з уездам, пачынаўся вэрхал. Гэта купка людзей была дэпутатамі Румыніі. І калі б не сказаў у час, яго б давялося вяртаць назад праз ноту ўраду, бо пераход мяжы.

Вечарам яшчэ званю Васілю. Кажу, што й разумны крытык Бугаёў[3] піша пра N. як пра класіка **[...]**. Васіль смяецца: у крытыкаў, як і раней у партыі, каб лічыць класікам, трэба адпаведны рост, мажнасць. Па прынцыпу гэтаму не выбіўся ў кіраўнікі [...] Яўменаў[4], нават [...] Антановіч. Ростам і вонкавым выглядам на ўсе пасады высокія адпавядаў Грачанікаў[5]. Гарэлка не пусціла. Светлая яму памяць.

---

[1] Гл.: Здаралася... (28.01.95) // Ксты. С. 350. Верш прысвечаны Г. Бураўкіну.

[2] Чаушэску Нікалае (1918–1989), дзяржаўны дзеяч румынскага і міжнароднага камуністычнага руху. З 1974 г. прэзідэнт СРР. Расстраляны па прыгавору ваеннага трыбунала.

[3] Бугаёў Дзмітрый Якаўлевіч (1929–2017), беларускі крытык і літаратуразнавец; выкладчык. Кандыдат філалагічных навук (1960). Прафесар (1987). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984).

[4] Яўменаў Леанід Фёдаравіч (н. 1932), беларускі філосаф, пісьменнік. У 1982–2002 гг. заг. аддзела навуковай інфармацыі НАНБ. Доктар філасофскіх навук (1977). Прафесар (1979). Член-карэспандэнт НАНБ (1991).

[5] Грачанікаў Анатоль Сымонавіч (1938–1991), беларускі паэт, перакладчык. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

*29 студзеня, нядзеля*

Званіў Пятроўскі, што па тэле будзе «Край перакуленых нябёс». Званю, каб паглядзела Ірына Міхайлаўна. Васіль папраўляе: «Край перакуленых галоў». Дзень прайшоў амаль марна. Трохі пераклаў Мальера, накідаў сцэнар пра Забораўна[1] (Забароўна), бо ў канцы лютага маемся з Пятроўскім паехаць у Вушачу. Засумаваў па дарозе, па родных мясцінах.

*30 студзеня, панядзелак*

Палякову занёс сцэнар. Добра пагаманілі. Адпачыў душой. Спакой нейкі своеасаблівы й спагада ў сям'і. Нібы ў кіно пабыў.

*31 студзеня, аўторак*

На працы. Прыходзіў Казюля[2] рабіць фота для Белінфарма. Заходзіўся Кулік наконт Вісьліцкага[3]. Званіў Додзіку (Сімановічу). Валя параіла ўзяць у дарогу ў Віцебск Законнікава. Хоць адпачынак будзе мне на сцэне. Сяргей умее й любіць выбіць іскру з халодных каменняў. Тэле транслюе ў прамым эфіры камедыю Таварыства белмовы з галоўным комікам з Лагойшчыны. Коўтун[4] ўручыла абраз, патомны камуніст цалуе. Перавыбарчае шоу, дакладней, дзяшоу. Знайшоў верш «Гісторыя»[5].

Цікавая рэч — бацькоўская любоў, бацькоўская крыўда. Запрасіў было Сёмуху на выставу Ілоны, здаецца, згадзіўся. Пасля яму сказаў, можа, Леся ягоная прыйдзе, усё-ткі маладое пакаленне. Сёння пытаюся, пачаў выламвацца. Бач, Леся звысоку глядзіць на Ілону, лічыць, што яна блазнуе. І што Ілона будзе зноў у сваім танкісцкім шлеме (так яна называеІлоніну вушанку), дык Леся хоча надзецца так, каб спаразіць сваю суперніцу. Якая яна ёй суперніца? Так званая адраджэнка [...] ціснецца ў Амерыку прадаваць кампутары ў індуса ў краме. Я падкрэслена хваліў Лесю, каб падняць настрой Васілю Сёмуху, а ён сваім палескім выхаваннем паказаў, чаго варта ўсё наноснае ў культуры. [...]. Няма ўнутранай далікатнасці. І купіў мяне Чыгрынаў. Даў яму фота, дзе ён з Сімановічам і Караткевічам у Вушачы на пахаванні мамы. Чыгрынаў паглядзеў і шчыра зусім, без фанфаронства: «А гэта на пахаванні Куліны, Вялікай маці. Памятаю яе». І адразу ў мяне паменела злосці й нават яду на члена ЦК камуніста Чыгрынава.

---

[1] Дакументальны фільм «Забароўна» (1995). Сцэнар Р. Барадуліна, рэжысёр С. Пятроўскі.

[2] Казюля Яўген Карпавіч (1936–2014), беларускі фотакарэспандэнт.

[3] Вісліцкі Ян (каля 1485–1520-я), паэт-лацініст ВКЛ і Польшчы.

[4] Коўтун Валянціна Міхайлаўна (сапр. Новік; 1946–2011), беларуская паэтэса, празаік, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1979). З 1990 г. ст. рэдактар аддзела прозы час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1986).

[5] Гл.: Гісторыя (3.10.88) // Дзённікі і запісы. Вып. 4. 1983–1988. С. 355.

*1 лютага, серада*

Добры дзень, месяц мой. Не лютуй, не маразі, бо я люблю цябе як роднага. Вымаўляю *люты*, бо самі губы складваюцца ў трубачку, каб прахукваць замураваную шыбіну (мама заўсёды казала: мароз замураваў шыбіны). Язык сам вытылінгвае вясёлае ля-ля. Хадзілі з Васілём у «Полымя» атрымаць капейкі. У метро пазнаў Васіля ў вагоне, па выгіну рукі, калі ён трымаўся за парэнчыну. Васіль прынёс мне першы том Збору твораў з дужа душэўным надпісам. Кажу вечарам па тэлефоне, што навыраст. Адказвае: «Ты ўжо вырас».

Законнікаў вёў вечар Ніла, а перад намі пачаў апраўдвацца, крытыкаваць за правінцыйнасць. І нашым і вашым хоча дагадзіць. Васіль любіць паўтараць выказванне Адамовіча, што той, хто папрацаваў у апараце ЦК, у таго адно яйцо выразана. Гэта, на жаль вялікі, і з Сяргейкам здараецца.

«Не скажуць ні вятры…»[1] Сёмуха загнаў стрэмку, якую няхутка выцягну я з сэрца свайго. А ўвогуле чалавек — такая таямніца, што ледзь вывернецца нейкім бокам, адразу цёмна.

* Дамініка: «Фінкельштэйн[2]. Такога ймя не бывае. А чаму ў яе два імі?» (Адчувае два слова.)

*2 лютага, чацвер*

На кінастудыі падпісаў дамову на фільм «Забораўна». Хочацца зняць фальгу з партызаншчыны, якая гэтулькі дзесяцігоддзяў трымаецца. Галоўнае будзе — разгаварыць старых, бо ў іх жа няма ўнутранага рэдактара.

Прыходзіў на работу да мяне Стрыжак. Цікавую тэорыю высунуў. Калі б ён быў галоўным рэдактарам, ён бы браў на працу толькі алкаголікаў, бо яны, запіўшы, пасля вымушаны апраўдвацца, адсюль і старанне, і дакладнасць. Кожны тэорыю падводзіць пад сябе. […].

* Дамініка пытаецца: «А ў нас дома багата?» — «Не». — «Тады я буду ў садку есці».

*3 лютага, пятніца*

На працы ціха перад выхаднымі. Арлоў бегае, дзе б ухапіць грошы. Гэта жарсць можа прывесці яго да сумных вынікаў. Узорам паводзінаў у літаратуры й жыцці застаецца Дранько.

На кінастудыю. Да Палякова. Паглядзеў чарнавы варыянт фільма пра Барыса Кіта. Усё лепшае ад нас сплывае. Да нашага берага, як у Вушачы казалі, то х.і, то трэскі. […]. А я сябе перад юбілеем адчуваю як перад

[1] Гл.: «Не скажуць ні вятры…» (1.02.95) // Ксты. С. 294.

[2] Фінкельштэйн Ларыса Давыдаўна (н. 1959), беларускі мастацтвазнавец, арткрытык, галерыст, педагог. Артдырэктар галерэі «Брама» (з 1991).

цяжкой хваробаю. Нічога няма. Усё дорага. Грошы нічога не вартыя, і тых увобмаль. За ўсё жыццё зарабіў, як дома казалі, бочку мякіны. Можа, таму, што мякіны шмат сам рабіў.

*4 лютага, субота*

*Трэці кіт*

Я не здрадзіў Беларускаму народу
ані кроплі, ніколі…

*Барыс Кіт, акадэмік Сусветнай акадэміі астранаўтыкі, грамадзянін ЗША*

Да Навагрaдка на фурманцы
З Агароднікаў бацька завёз.
Сын жа выдумаў гэткі авёс,
Што на Месяц цікаўных нёс
На ракеце,
Як на ліхаманцы.

Агароднікі…
Як і Дубоўка,
Сэрца на адчай накалоў…
Ад навагрaдскіх дужых муроў
Рэштка літарай А,
Каб зноў
Маладзіла Айчыну абноўка.

Кітаваць трэба гэтак вокны
Беларускае хаты,
Каб
Воўкам вецер сіберны зяб,
Каб з суседскіх галодных зяп
Вырываўся зайздрослівы войкат.

Беларусам ды беларускам
Запрашаў неба думкі на дол.
… Як на Месяцы,
Пуста наўкол…
… Сцішыўся ў рыштаваннях
Касцёл,
Што касмічны воз перад пускам…

Па міжзорнай раллі разбрыліся
Мроі,

А Беларушчыны птах
Да руінаў не згубіць шлях.

Як зямля ўся на трох кітах,
Беларуская — на Барысе!

Званіў Васілю пра нашых дзеячоў пракамуністычных: крок наперад, два назад. Гістарычныя танцы. Толькі не даюць новаму пакаленню здзейсніць наканаванае, замінаюць. Шамякін на тэле пра вайну. Знайшоўся другі, пасля Жукава[1], палкаводзец. Гэта сістэма зрабіла з Шамякіна члена ЦК, акадэміка. А наогул — гэта сярэдні графаман. Па ім меркавалі ў ЦК пра нашых пісьменнікаў. Маленечкі, а каб начальству быў відзён, праціскаўся заўсягды наперад, і ўражанне, што самы галоўны. Ледзь начальства да каго іншага звярталася на рэпліку якую — Шамякін і тут перад носам. Як пілавінне перад магнітам. Уяўляю, як сумна Васілю.

*5 лютага, нядзеля*

Трохі перакладаў Мальера. Занёс Палякову верш. Перадасць Барысу Кіту. Хацелася мне што-небудзь прыемнае выказаць вялікаму Беларусу. Занёс Палякову верш, а потым было спахапіўся, што Агароднікі не Дубоўкавы, а каля Карэлічаў. І тут мне прыйшла ў галаву думка. І на Пастаўшчыне, і на Наваградчыне Агароднікі, значыць, татары былі. У абліччы Кіта й Дубоўкі мажнасць, пародзістасць, самавітасць, буйнагаловасць — татарская кроў, відаць, цячэ. Татары ў адрозненні ад большыны яўрэяў былі захавальнікамі ўсяго беларускага. Варта прыгадаць кітабы[2]. І Кіт, магчыма, ад гэтага кораня.

*6 лютага, панядзелак*

Званіў Васіль. Наконт маёй вечарыны ва ўправе БНФ. Параіў напісаць верш пра Чачню й думку падаў: ні народ, ні край пад увагу не бярэцца, а толькі суб'ект Федэрацыі. Прыязджаў Додзік наконт паездкі па Віцебшчыне.

*7 лютага, аўторак*

Сумная навіна зрання. Памёр Валянцін Рабкевіч. Вялікая страта для нашай мовы, для нашае культуры. Такіх шчыруноў ужо болей не хутка будзе. Кола звужаецца. А тут у Ілоны заўтра выстава. Смерць і жыццё неразлучныя.

---

[1] Жукаў Георгій Канстанцінавіч (1896–1974), савецкі военачальнік. Маршал Савецкага Саюза (1943). Герой Савецкага Саюза (1939, 1944, 1945, 1956).

[2] Кітабы — рукапісныя кнігі, напісаныя на беларускай мове арабскім пісьмом, створаныя ў XVI ст. татарамі, якія пасяліліся на Беларусі ў XIV–XVI стст.

*Рэдкі бацька*

Дрыжэў, як рэдкі бацька над дзіцём,
Над кожным гукам беларускай мовы.
Жыў Беларуссю, каб сплаціць жыццём
За вернасць Бацькаўшчыне ў век сталёвы.
Ніжэла неба, шлях гусцеў асцём,
Дзе конь спагады не згубіў падковы.
Як волат, дух змагаўся з небыццём,
Каб прах тачыў чужыншчыны аковы.

Пацвердзіць Бог і вёска Аксаміты:
Цкаваны, прадаваны, самавіты
З душы абтрос паклёпаў чорны друз,
Як Судны дзень, у вочы катаў глянуў
Пан Валянцін Рабкевіч, сын Іванаў.
Упарты, не рахманы беларус!

* Дамініка: «Я ў цябе яшчэ не данасілася на шыі — панасі яшчэ».

*8 лютага, серада*

Развітанне ў саюзе з Валянцінам. Людзей малавата. Літаратараў мала, навукоўцаў, акадэмістаў зусім нікога, няўжо яны ўсе на яго даносілі ці не могуць дараваць сваю бяздарнасць, сваю глухасць да мовы. І на іх ніхто наогул не прыйдзе.

Вечарам Ілоніна выстава[1]. Быў Васіль. Выступіў на адкрыцці. З ім нямецкі паэт і празаік. Добра сказаў: «Нешта ў гэтай краіне змянілася, раз такая выстава ёсць». Яшчэ заўважыў чыста жаночае ўспрыняцце свету Ілонай: «Мужчыны вуглаватыя, квадратныя, грубыя, а жанчыны мяккарысыя, пяшчотныя». Добра казаў Тарас. Ілоначка такая дробненькая, такая худзенькая. Аж сэрца сціснулася. У такі вір кінулася, дзе кулакі крышаць. Выступіла добра, па-беларуску, пару слоў сказала на расійскай, дакладней, праскочыла. Мяне здзівіла нейкая рашучасць, упэўненасць унутраная. Гэта ўжо новыя людзі, новае племя. Адчуў, што нейкая мая й не мая. Час забірае дачку ад мяне. Зноў праблема каранёў і атожылкаў. А караням баляць атожылкі, асабліва калі яны кволыя, неабароненыя. Быў Сёмуха з Лесяй. Ім спадабалася. І ўсё дарагое сямейства Лапушыных. Дзякуй ім. Было тэле. Выйшаў з выставы, нібыта развітваючыся з дачкой, нібыта пакідаючы яе на апеку часу, на апеку рызыкоўную. Але мне ўжо гэта непадуладна. [...]

[1] Выстава Ілоны Барадулінай «Зіма. Японскія гравюры» ў галерэі «Брама».

*9 лютага, чацвер*

Сёмуха даў геніяльную ідэю, што Ілона працягвае старавечную, сярэднявечную традыцыю Беларусі й Літвы — гэта шпалеры, якія здобілі залі знаці. Усё-ткі па генах перадалося праз гэтулькі вякоў. І прайшла ў мяне ўся злосць на Сёмуху й на Лесю, як толькі ўчора ўбачыў іх на выставе Ілоны. А сёння я зноў поўны любові да Сёмухі. Ягоны характар яму ж самому ў шкоду. Таксама, як і я, дрыжыць над сваёй дачушкай. І правільна кажа, што мы ўжо ўчарашні дзень.

Званіў Васілю. Яму звоніць нейкі бадзёры голас: « Мне трэба пісьменнік Васіль Быкаў». Васіль адказвае, што гэта ён (хоць такога тону не пераносіць), далей той жа голас тлумачыць, што з Васілём хоча сустрэцца пісьменнік Сарока[1]. Васіль пытаецца, а хто гэты голас. «Я памочнік пісьменніка Сарокі». Васіль тады адказвае: «Дык пазваніце майму памочніку». І дае нейкі ўзяты з паветра тэлефон. Гэта ж трэба — нейкі пракурор, ён жа й выдавец, і стваральнік чарговай кішанькова-[...] партыі праз [памочніка] звоніць Быкаву. Васіль дадае, што Шамякін ужо Сароку гэтага прыняў у саюз.

*10 лютага, пятніца*

Добрыя словы пра Ілону казаў Лявон Дранько. Хваліў лінію ейную. Хоць нечым, казаў, ды павінны мы прабіцца ў Эўропу. Хоць гэта, здаецца мне, у пераносным сэнсе болей. Эўропа настолькі сытая, што яе ўжо й сваё мала цікавіць. Пра паэзію й заікацца не даводзіцца. Але ўсё роўна мэту перад сабой трэба ставіць. Хадзіў у Фонд сем Сорас. Анціпенка[2] й Таўгень[3] — два беларуса й за беларускае. А рэшта — прарасійскае ахвосце. Сказаў новаму кіраўніку Фонду сем Сораса пра падтрымку ВПК, пра тое, што грошы даюцца людзям з АН, якая ў асноўным працуе на зброю.

* Дамініка: «Не студзень, а стужань».

*11 лютага, субота*

Сойм БНФ. Доўга цягнуўся. Да Васіля. Яму некалі сенненскі Міша Гарбачоў распавядаў, як (В. Ф.) Шаранговіч з групай энкэвэдыстаў прыехаў нарыхтоўваць лён. Сабралі мужчын, далі мала часу — здаць лён. А дзе яго ўзяць? Назаўтра адабралі 25 мужчын, завезлі ў бліжэйшы лясок, расстралялі й закапалі. Цяпер Шаранговіч пакутнік за народ. Васіль помніць, як

---

[1] Сарока Валерый Іларыёнавіч (н. 1951), беларускі юрыст, бізнесмен; пісьменнік.

[2] Анціпенка Аляксандр Ільіч (н. 1953), беларускі філосаф. Кандыдат філасофскіх навук (1986). Каардынатар праграм Фонду Сораса.

[3] Таўгень Ігар Антонавіч (н. 1961), выкладчык БНТУ (з 1986). Кандыдат тэхнічных навук (1991).

бацька расплятаў конскія путы, вытрасаў, вычэсваў кастру й здаваў на нарыхтоўкі ільну.

*12 лютага, нядзеля*

Віцебск. З раніцы прыйшла Ілона. Нешта здымала на відэакамеру. Запыханы, як заўсягды, пабег на трамвай. Спачатку забыўся пальчаткі, а ў вагоне выявілася — не ўзяў пашпарт. А з рукавіцамі наогул цікава. Я выйшаў на вуліцу, каб паглядзець, ці цёпла апрануўся. Заходжу, а ў гэты час звоніць Васіль. Валя й тлумачыць, што пайшоў праверыць надвор'е. Васіль жартуе, што касманаўты выйшлі ў космас і забыліся рукавіцы. І праз гадзіну я забыўся рукавіцы. Цягнік на Піцер. Купэйны вагон цярпець можна. З намі ў вагоне з універсітэта вучоны-атамнік, цяпер чарнобыльскую праблему [вывучае]. Грант Сораса. Пра махінацыі розных арганізацый на чарнобыльскай бядзе [расказваў]. Цікава, дакладней, жахліва — стронцый і цэзій 300 гадоў перыяд распаду. Узрост крумкача, рэдкія імперыі не распадаліся за такі час.

Нарэшце *Віцебск*. Сустрэў Додзік. Гатэль «Эрыдан». Вячэра, якая толькі сніцца хутка будзе. На трох чалавек яна каштавала паўмільёна.

*13 лютага, панядзелак*

Віцебск. Сустрэча ў пед'інстытуце. Вечар у тэатры Якуба Коласа. Сустрэў Толю Емяльянава[1], Крывёнка[2], Крахотку[3] — усіх вушацкіх мальцаў. Шмат славаслоўя. Як у застойніцу. Гэта нейкім чынам развітанне. На хаўтурах таксама кажуць толькі добрае.

*14 лютага, аўторак*

*Полацак*. Універсітэт. Выдатны беларус рэктар[4]. Маладзенькая аўдыторыя. Выстава ў Музеі кнігадрукавання. І ў Сафійскім саборы вечар. Успомніў, што сёння дзень нараджэння Міхася Стральцова й Алеся Звонака[5]. Асаблівая ўрачыстасць — камерны хор і арган. Многая лета.

---

[1] Емяльянаў Анатоль Серафімавіч, аднакласнік; выкладчык беларускай мовы Віцебскага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Кандыдат філалагічных навук.

[2] Крывёнак Міхаіл Фадзеевіч, аднакласнік; быў начальнікам Віцебскага абласнога ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку.

[3] Магчыма, Крахотка Валерый Васільевіч (н. 1946), выкладчык БДУ. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1972).

[4] Бабенка Эрнст Міхайлавіч (1937–2019), рэктар Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта (1993–2003). Доктар тэхнічных навук (1989). Прафесар (1991).

[5] Звонак Алесь (сапр. Пётр Барысавіч; 1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

*15 лютага, серада*

*Вушача*. На магілу мамы. Школа. Поўная зала. Зрэдзь дзе-нідзе аднагодкі й колькі зусім старых, а рэшта — моладзь. Нечакана дзве песні: «Дарагая мая Ушаччына» і «Піліп». Марыя Рыгораўна прагаварыла й праспявала песні. Аўтографы. Шмат было хлопцаў, што рэдка бывае. Адзін школьнік падае мне паперыну — даць аўтограф. Пяцітысячная паперка ружаватая, як парасё. Падарылі мне чатыры зэдлікі з верша па радку: «Трэба дома бываць часцей» і выпалены шаржыраваны мой профіль. Сказаў, як жа садзіцца? — ды я не прэзідэнт і сябе ў трэцяй асобе не называю. Ва ўсім хваласпеве за трое сутак хоць Аркуш[1] з Наваполацка сказаў, што Барадулін паэт для паэтаў, нешта накшталт Хлебнікава[2] па працы са словам. Хоць неяк не стандартна сказаў. Яшчэ раз паўтараю: сумная справа юбілей у саўсвядомасці.

*16 лютага, чацвер*

Праца. Крапак[3]. Інтэрв'ю для «Культуры». Тэлекарыда ля карыта — выступы так званых парламентарыяў-пралетарыяў. Званіў Васілю. Ён падтрымлівае мяне, што нічога не трэба рабіць у Менску, ніякіх спонсараў. Васіль кажа: «Калі б мне не рабілі 60-годдзе, цяпер бы меней на вочы кідалі». Я супакоіў яго, што не ён гэтага хацеў, а камуністы імкнуліся яго адарваць ад Захаду, ад свету.

*17 лютага, пятніца*

Да Палякова. Прыехаў ад Кіта. Здымалі фільм. 85 гадоў, а рухавейшы за ўсю кінагрупу. Верш яму спадабаўся. Прыслаў візітку з аўтографам, дзе просіць верш надрукаваць. І ён за хутчэйшую перамогу над беднай Чачнёю. Бо заходнія разумнікі, як кажа Васіль, лічаць: у выпадку развалу расійскае імперыі кітайцы палезуць, як прусакі, па трэшчынах расімперыі. Да Амэрыкі дабяруцца. Пра Эўропу ўжо й казаць не даводзіцца. З Васілём размаўляць па тэлефоне немагчыма — ледзь адгукнецца, шум такі, што нічога не чуць.

*18 лютага, субота*

Прыходзіць фотакар з «ЛіМа». Малады, прыемны. Мірон не хацеў пазіраваць. Натурыстая фотамадэль. У прэсе вычытаў, аж мяне закалаціла: [Лукашэнка] падпісаў загад святкаваць дзень воінаў-інтэрна-

[1] Аркуш Алесь (сапр. Козік Аляксандр; н. 1960), беларускі пісьменнік, выдавец. Заснавальнік выдавецкай ініцыятывы Таварыства вольных літаратараў «Полацкае ляда» (з 1991).

[2] Хлебнікаў Велімір (сапр. Віктар Уладзіміравіч; 1995–1922), рускі пісьменнік.

[3] Крэпак Барыс Аляксеевіч (н. 1940), беларускі мастацтвазнавец. З 1994 г. супрацоўнік газ. «Культура». Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1990). Лаўрэат прэміі Прэзідэнта РБ «За духоўнае адраджэнне» (1998, 1999).

цыяналістаў. Забойцаў. Хоць яны й ахвяры. Гэта для заахвочвання. Мала яшчэ ў нас цынкавых трунаў. [...]. Помнік, можа, і трэба, толькі не ў святым мейсцы й не як героям, а як ахвярам, якія мусяць прасіць Госпада дараваць грахі іхнія, хоць і пад прымусам учыненыя. Гэта напісалася публіцыстыка:

*На сузор'евай галінцы*

Беларусь!
Застанься толькі Беларуссю,
Панавітай, самавітай.
Будзь Дзяржаваю!
Хай, узняўшыся над гнюссю
Ды над хлуссю,
Богу скардзіцца
Твайго адчаю жаўранак.

Беларусь!
Застанься рупнай ды гасціннай.
З двух бакоў суседзі
Мусяць прызвычаіцца:
Ты не ўмееш кленчыць
З галавой павіннай.
З небам раіцца
Тваёй журботы чаіца.

Беларусь!
Застанься зоркаю Сусвету,
Баравога, азярнога,
Веснакрыгага.
Хай на зайздрасць
Хопіць ворагам імпэту.
Асвячае змрок
Тваёй надзеі кнігаўка.

Беларусь!
Каб свет яснеў,
Цябе жар-птушкаю
На сузор'евай галінцы
Вечнасць гушкае...

*19 лютага, нядзеля*

Купалаўскі тэатр. Аўсяннікаву 60 гадоў. Аўдзей у пасрэднай п'есцы Бутрамеева[1] — Аўсяннікаў. [...] Гарбук на дземянцееўцы[2] малітвы чытае. Шкада Аўсяннікава. Ніводнай савецкай камедыі не было добрай. То Макаёнак, то Матукоўскі. А яшчэ драматурак Чыгрынаў. Цэлы букет. Потым вячэра з мецэнатамі. Міністр замсправаў Сянько[3] — нармальны чалавек. [...]. Абрадаваўся маёй ацэнцы прыгожай легенды партапарата Машэрава.

*20 лютага, панядзелак*

Прамы эфір па тэле. Гадзіна. Але ўхітрыліся напакаваць гэтулькі выступантаў, музыкаў, уключэнне Віцебска. Усё роўна сказаў я й пра БНФ, і пра [Лукашэнку], і пра Чачню, і пра суб'ект Федэрацыі. Магутна сказаў Васіль. Потым Радзік добра заўважыў: «У суровых вуснах Быкава й высокая хвала гучыць натуральна». Потым, калі я з дому па тэлефоне дзякаваў Васілю, ён між іншым: «... Ты аздобіў бліскавінкамі... Ёсць у мяне здольнасць прадбачання. Ты станеш нумарам першым у беларускай нацыі...»

*21 лютага, аўторак*

[...] У Менск прыехаў расійскі [...] Барыс [Ельцын]. Такой аховы, гэтулькі міліцыянтаў, [...] і таптуноў яшчэ ніколі Менск не бачыў. [...]. Па тэле кавалачак глянуў. Падпісвалі пагадненні (усе ў карысць Масквы). [...] І ўрэшце [Ельцын] пахваліў: «Разам, аб'яднаўшыся, лягчэй і розуму меней трэба». [...] Прыехаў з [Ельцыным] Ваншэнкін[4]. Сустрэча ў саюзе. Я не пайшоў. Гена з ім валаводзіўся па абавязку службы. Як да паэта я пайшоў бы да яго, а як да сусвітніка расійскага [...], якi прыехаў знішчаць Беларусь як дзяржаву, вядома, не пайду ніколі.

*22 лютага, серада*

Прыйшла паперына, дзе запрашаюць на сустрэчу з Барысам і [Лукашэнкам]. Унізе паметка: пры сябе не мець ні сумак, ні пакетаў, ні сваіх думак, вядома. Я не пайшоў і, зразумела, Васіль таксама. Затое з якой

---

[1] Бутрамееў Уладзімір Пятровіч (н. 1953), беларускі празаік і драматург. З 1991 г. працуе настаўнікам. П'еса «Страсці па Аўдзею».

[2] Малапісьменная трасянка, якой вызначаўся некалі 1-шы сакратар ЦК КПБ (1979–1989) М. Дземянцей (1930–2018), займела назву дземянцееўкі.

[3] Сянько Уладзімір Лявонавіч (н. 1946), беларускі дзяржаўны дзеяч, дыпламат. У 1994–1997 гг. міністр замежных спраў РБ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол у Вялікабрытаніі, па сумяшчальніцтву ў Іспаніі і Партугаліі.

[4] Ваншэнкін Канстанцін Якаўлевіч (1925–2012), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

урачыстай радасцю пабег Дранько. Моладзі хочацца, каб начальства заўважыла. Каб прыручыла. Жаданне яшчэ савецкае. Па генетычным кодзе перадалося.

*Юбілей*

Юбілей —
Развітанне з яшчэ жывым
Госцем нетрывалага свету,
З ім, што ўбачыў выяўна мэту,
З ім.

Словаў самазахопленых
Цёплы снег
Лёгка ўзвеецца і асядзе.
Смех
Не хоча паверыць здрадзе,
Смех.

Юбілей —
Неастылы яшчэ пракос,
Што хацеў бы пачуць атаву.
Лёс
Пра іншую помніць лаву,
Лёс...

*23 лютага, чацвер*

Вечарына ў сядзібе БНФ. Слова казаў Васіль, Зянон. Было шмат кветак. Падаравалі вышываную кашулю. Зянон ручку-самапіску, гальштук-самавяз падараваў. Васіль — гадзіннік. На працы ўрачыстасць і такая-нейкая п'янка. Цікава звоніць галоўлітчыца Высоцкая[1] Марына Канстанцінаўна. Віншуе. Кажа: «Заходзьце — мы на ранейшым мейсцы». Кажу, што ў «Маладосці» казаў добрыя словы пра яе. Адказвае: «Мне як на стол лёг часопіс — прачытала». Нічога не змянілася. Ад Саўміна быў Бураўкін і Гуляка[2]. Чыталі адрас, вядома, Генадзь напісаў і выбіў. Як заўсягды, Сыс усіх пакрасіў. Прынёс мне пінжак, як ён падкрэсліў: спінжак. Вёў сябе дзівосна прыстойна й пад канец пайшоў такі ж, як і прыйшоў. П'янка ягоная ўсё-ткі больш эпатажная. Хоць некалі зможа яго. Прайшло ўсё шчыра. Дзякуй Богу. Падышоў я да мяжы бліжэй. Была Ілона. Дужа занятая

[1] Высоцкая М. К., супрацоўніца Галоўліта. Варта ўдзячна адзначыць — была сапраўды добрым памочнікам у справах выд-ва «Мастацкая літаратура» (*заўв. Н. Давыдзенка*).
[2] Гуляка Леанід Паўлавіч (н. 1949), беларускі дзяржаўны дзеяч. Супрацоўнік Апарата СМ (1977–1992). У 1994–2000 гг. нам. міністра культуры РБ.

сваёй асобай. А працаваць галярка лянуецца. Вось каб толькі балдзець і абмяркоўваць поспехі, якія самой толькі й відаць. Шкада яе.

* Дранько-Майсюк: «Мне верш сумна спадабаўся».

*24 лютага, пятніца*

[Малюнкі Дамінікі.]

* * *

Ускалыханы, узгадаваны,
Табой да скону закаханы
У кожны гук, чароўны, крэўны,
Мая князёўна і царэўна,
З табой я ў свяце, ў свеце, ў хаце,
Бо ты ў мяне адна, як маці,
Мова беларуская![1]

Яўген Хвалей[2]

*Рыгору Барадуліну — 60!*

Сам худ,
А нясе з пуд…

*Р. Барадулін на Я. Хвалея,*
*калі працаваў на радыё*

Бываюць розныя гады:
Гады — хлуды…
Гады — глузды…
Дай Божа кожнаму гады
Так важыць плённа на пуды…

Марыя Папкова

*Рыгору Іванавічу Барадуліну на 60-годдзе*

Рыгор Іванавіч, слухаю: Вам 60!
Мела калісьці друга я.
Было й яму 60.

---

[1] 24 лютага 1995 г. «Літаратура і мастацтва» сярод віншаванняў з нагоды юбілею Р. Барадуліна змясціла слова ад настаўнікаў і вучняў Мётчанскай школы, дырэктар якой і апублікаваў «забыты» паэтам верш, падараваны школе пад час сустрэчы 30 студзеня 1988 г. *Лайкоў* Уладзімір Піліпавіч (н. 1953), беларускі настаўнік, краязнавец. З 1979 г. дырэктар Мётчанскай адукацыйна-выхаваўчай установы «Школа-садок» Барысаўскага раёна Мінскай вобл. Кіраўнік музея «Літаратурны космас Мётчы».

[2] Хвалей Яўген Іванавіч (н. 1947), беларускі паэт.

Над роспаччу, над маною
Ляці, мая песня, ляці
Да ўсіх апалёных вайною,
Што ёсць яшчэ ў нашым жыцці.
Ах, не стае мне сёння
Нат тэлеграму адбіць!
Рыгор Іванавіч, помню,
І сэрца мне Ваша баліць!
Глядзела па тэлебачанні,
Званкі-віншаванні лічыла…
О, не ўсё яшчэ страчана,
Калі ёсць у Слове сіла!
Калі на свеце замглёным
Жыве шчэ Паэт хоць адзін…
О, якім смуткам зялёным
Люблю Вас, Паэзіі Сын!

Ігар Палонскі

*Рыгору Барадуліну*

Кожны мае хату і двор,
Кожны свае Ушачы.
Быць паэтам, як ты, Рыгор,
Бог не кожнага прыназначыў.

Можна мець свой ушацкі бор,
Нават мець і сваю бярлогу,
Ды не ўсім пісаць, як Рыгор,
Бо твой талент ідзе ад бога.

Вучыш ты душой не чарсцвець,
І, якія б вятры не дзьмулі,
Вучыш дома бываць часцей,
Наш, народны, паэт Барадулін.

Хай цябе абароніць бог,
Няхай муза цябе не пакіне,
Каб тварыць яшчэ доўга мог
На карысць сабе і Айчыне.

*25 лютага, субота*

З'езд Фонду Сораса. Пасля да Будзінаса ў ягоную вёску[1]. З 200 га зямлі, купленыя пад час разгубленасці савецкай улады за каністру спірту.

---

[1] «Дудуткі» — недзяржаўны музейны комплекс старажытных рамёстваў і тэхналогій каля в. Пціч Пухавіцкага раёна Мінскай вобл., утвораныя ТАА «Паліфакт» (з 1994; старшыня

Падабаўся вятрак. Драўляны дыназаўр, які хацеў у неба, ды грахі не пусцілі. Вечарам па радыё перадача. Хвалебная, правялебная. Як у застойныя часіны. Відаць, варта ці казаць коратка нешта па сутнасці, ці проста чытаць вершы. У Будзінасавым маёнтку ўразіла. Ноч. Светла. Гляджу праз сетку агароджы, і раптам ўсе вочкі сеткі пачынаюць павялічвацца да вялізных памераў у вачах маіх, і я адчуваю сябе злоўленым.

*26 лютага, нядзеля*

Васіль пажадаў па тэлефоне Дамінічцы, каб кот Мірон вырас з сабаку. Хадзіў да Палякова, перадаў Пятру трохі гарэлкі, едуць у Вушачу. Ад юбілеяў і празмернай грамадскай дзейнасці можна зрабіцца Гілевічам ці Чыгрынавым.

* Дамініка: «Прынясі мне шмат каштоўнасцей, а то табе галаву адсяку вялізным тлустым тапаром».

*27 лютага, панядзелак*

Працягнулі юбілей да дыму ўвушшу. А колькі так званых пісьменнікаў ды іншых багемантаў ў такім рэжыме жывуць усё жыццё.

*28 лютага, аўторак*

Васілю было блага. Арытмія дапякае. Казаў: «Бацька некалі: — Пасею тут авёс, калі Бог дась». Відаць, і трэба заўсягды прыгаворваць: калі Бог дасць. А то, як што паабяцаю цвёрда — тут жа нездароўе».

*1 сакавіка, серада*

Вечарына ў Купалавай хаце. Быў Законнікаў, Дранько, Бальчэўская[1]. Цікавы хлопец з Сібіры. Праз колькі пакаленняў захаваў іхні род з Чэрыкаўшчыны беларускую мову й спевы. Гарлавыя, недзе з паганскіх вякоў. Спявае, а здаецца, продкі голас падаюць. Гэтак спявалі ў полі, палюючы, у лесе, балюючы, у горы, сумуючы. Міхась Басякоў. Сам і шые, і вышывае забытымі намі ўзорамі. Усё прайшло добра й цёпла. Але музей — гэта не проста хата без гаспадара, гэта нейкім чынам дамавіна, якая халодная ўжо сваім напамінам.

*А напачатку*

А напачатку было святое,
Светам свянцонае маміна слова.

праўлення Я. Будзінас).

[1] Бальчэўская Галіна Фёдараўна (1945–2005), беларуская актрыса. З 1972 г. актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Заслужаная артыстка РБ (1999).

Недзе над Вечаллем, над Палатою
Сонца ўзыходзіла сонцагалова.

Потым душу агарнула журбою
Ды светлынёю Купалава слова
І наказала застацца сабою,
Каб беларусам — абавязкова!

Каб не пакінула наская сіла,
Іскры красала старання падкова,
Маміна слова мяне пераксціла,
Багаславіла Купалава слова.

Марыя Папкова

*Рыгору Іванавічу Барадуліну*
*на 60-годдзе*

Я песні свае Вам дару.
Бо ведаю: Вы — утрымаеце.
Я знаю: калі дагару —
І вечар Ваш стане мне памяццю.
Хачу, каб Вы вечна жылі,
Каб Вы не згасалі ніколі!
Крыляйце, любві жураўлі,
Над Доляй!

*1 сакавіка*

* Даменіка: «Дзедзя, ты скора будзеш лысы, у цябе ўжо голенькія вушкі на ілбе... Жадаю ў кухні добрых начаенняў і напаенняў».

*2 сакавіка, чацвер*

На працы святкавалі да дыму ўвушшу. У асноўным дзяўчаты. Яны ў нас залатыя. Асабліва Галачка Роліч[1]. Сапраўдная беларуска. Паступова заціхае юбілей. Цяжкая гэта праца — сядзець і слухаць, які ты добры. Далібог, рэпетыцыя хаўтураў. [...] У цішыні начы прыкінеш, што мала застаецца ці зусім нічога (бо ўсё ў руцэ Богавай), і сумна стане, аж вусцішна.

*Твая краса*

Не спакушай мяне дарэмна,
Пяшчотны не вяртай прыгон,
Няхай у змоўклым сэрцы дрэмле
Забыты сон забытых дзён.

---

[1] Роліч Галіна Васільеўна (н. 1948), мал. рэдактар, рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура» (1972–2002).

*З раманса*[1]

Твая краса, што недаснёны сон,
Які ўжо й сам дасніць сябе не зможа.
Завоблачнае тое падарожжа
І ласкі неадменены прыгон
Для некага паўторыцца прыгожа,
І зазвініць з царквы мілосці звон,
А я тваёй памкнёнасці ўдагон
Зірну,
Сказаўшы ціха: — Шчасці, Божа!

Пасля шасцідзесяці пацягнула на прыгожае. Ці на дабро гэта? Так можна і ў банальнасць, як у балота, плёхнуцца.

* Дамініка: «Смех — не гора. Забілі *водчыка*[2]».

*3 сакавіка, пятніца*

Галава разломваецца. Жах! Ратуюся вершамі.

*Вятрак*

*Яўгену Будзінасу*

Як таму пітаку Петраку
У цвярозыя райскія далі,
У нябёсы ірвалася ветраку,
Ды грахі не пушчалі.

Трушчыў зерне, араў смугу,
Разганяў туман падупалы,
Час яго заўважаў на бягу.
Ветраку цішыні не хапала.

Лес з наўколля сыходзіў, як снег,
Ад вятроў увушшу звінела.
На апошні ўзгорак вятрак узбег
І махнуў на ўсё здзервянела…

*4 сакавіка, субота*

У госці да Радзіка. Такія яны маладыя й чыстыя абое — Радзік і Света, аж не верыцца, што й сам некалі падобны нечым быў да іх, прынамсі,

---

[1] «Не искушай меня без ну’жды…» — радок з рускага раманса. Сл. Я. Баратынскага (верш «Разуверение), муз. М. Глінкі. *Баратынскі* Яўгеній Абрамавіч (1800–1844), рускі паэт. *Глінка* Міхаіл Іванавіч (1804–1857), рускі кампазітар.

[2] 1 сакавіка ў Маскве быў забіты шырокавядомы расійскі тэлевядучы, генеральны дырэктар АНТ (з 1991) Лісцьеў Уладзіслаў Мікалаевіч (1956–1995).

маладымі гадамі й надзеямі. І разумею, чаму ў сталым узросце могуць звар’яцець маладыя. Гэта твае маладыя гады вяртаюцца, не хочуць старэць.

*5 сакавіка, нядзеля*

Наважыўся зрабіць шмат, а нічога не зрабіў. Пракачаўся з галавой. Сёмухава Леся ад’язджае. Ілона прыходзіла. Люблю яе. Баліць яна мне. Вечарам нарэшце прымераў вышываную кашулю, якую падарылі мне ў БНФ на вечарыне. І жах — падумалася, што ў ёй бы ляжаць у дамавіне… Старасць. Зборы ў дарогу…

*6 сакавіка, панядзелак*

Амаль дзень сядзеў у журы на конкурсе ігравых фільмаў. Гэта паранейшаму савецкае кіно, толькі без ранейшае цэнзуры. Ні пра якое беларускае кіно й размовы йсці не можа. Яшчэ на экранах замільгалі спонсары, якія сябе лічаць геніяльнымі акторамі. Хочацца зняцца ў кіно, як дурню стрэліць. Адзін такі спонсар і сапраўды са стрэльбай бегае ў карціне рэжысёра армяніна, які перад пачаткам выступаў, як у традыцыйным застоллі. Васіль успамінаў, як Ніл ехаў некалі ў [санаторый] «Сосны» і баяўся, што там будуць вяткамі хадзіць за ім, прыставаць паклоннікі. Прыехаў — каб хто заўважыў. Быў забіты. Цяпер едзе Генадзь і баіцца таксама, што не дадуць папрацаваць. Паўтараецца Нілаў варыянт.

*7 сакавіка, аўторак*

Урачыстасць напярэдадні восьмага. Пасля ў нас застолле. Прывёў Чарнабаева[1]. Спяваў рамансы. А потым нецэнзурнае. Успомніліся маладыя дні. Разам жылі, разам пілі.

*Марцова-акыністае*

На восьмага сакавіка
Да чары цягнецца рука.
На восьмага сакавіка
Ірвецца з берагоў рака.
На восьмага сакавіка
Паэт марцуе ад радка.
На восьмага сакавіка
Цвярдзее пэнзаль мастака.
На восьмага сакавіка
У рыбіны свярбіць луска.
На восьмага сакавіка

[1] Чарнабаеў Віктар Максімавіч (н. 1930 ), беларускі спявак. Народны артыст БССР (1964). З 1958 г. саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

Русалка сніць лесавіка.
На восьмага сакавіка
Жарсць патрабуе ясака.
На восьмага сакавіка
І хвост падымецца ў ваўка!

*8 сакавіка, серада*

Сядзеў дома. Дасюль памятаю, як не купіў маме ні кветачкі, прыйшоўшы з Камароўкі. Як гэта яе абышло. Сорамна. Але нічога не паправіш. Увогуле, выдуманае свята. З гадамі будзенеюць святы, якія прыдумалі рэжымы. Свяцеюць святы, якія светласцю адухоўлены. Каляды. Вялічка. Як адлік дарогі да Бога. Гэтыя святы грэюць мне душу, гэтыя святы набліжаюць душу да Усявышняга. Яны ад мамы. Яны родныя. Яны ахоўвалі душу ад камзаразы.

*Дзяржава*

Мая душа — мая дзяржава,
Бязмежнай
Ёй не цесна ў межах,
Якімі лёс абмежаваў.
Яшчэ расой жыве атава.
І посах — панявольнік сцежак
Адводзіць думкі ад патраў.

Адзінаму малюся Богу,
Дзяржавы праведнай падданец.
Абразай межаў не крану.
Папросіць — пакажу дарогу
Я, кшчоны шчырасцю паганец,
Сваім — Ярылу й Перуну.

*9 сакавіка, чацвер*

Галаўны боль мяне даканае. Гэтакае адчуванне, што галаву ўшчамілі ў абруч і марудна няўмольна сціскаюць. І ўсё вакол здаецца гэтакім нязначным, не вартым увагі, толькі шкада сябе, бо застаецца адна безабаронная Дамінічка. І дужа хочацца зачапіцца за воз жыцця, хоць трошкі яшчэ пад'ехаць: яно гэтак, відаць, задумана, жыццё, каб у мітусні й клопатах не было калі задумацца, замаркоціцца. Варта захварэць, вылузацца з усеагульнага шуму, і адразу пачынаеш адчуваць, што мала засталося. Яшчэ дзякуй Госпаду, што не ведаеш, калі канец. А то зусім было б страшна жыць. Усё роўна як той вырачаны на смерць, якому вынеслі прысуд і [не] сказалі, калі прысуд звершыцца. Чалавек адразу нараджа-

ецца з смяротным прысудам, толькі ў сумятні забываецца, што яго чакае. Няведанне — аснова жыцця.

*Самаўсмешка*

Напачатку, як цяля,
Быў прывязаны каля
Незахмаранай цябе
На мурожыстай пасьбе.

А пасля, як той бычок,
Рог часаў і грэў бачок
Ля пакладзістай цябе
І ў самоце, і ў гульбе.

І цяпер, як той бугай,
Я рыкаю: — Іншы хай
Малады мурог скубе.
Я цішэю ля цябе.

Хоць шкура, бывае,
Гагоча й на плоце,
А чэрці рагочуць
І ў ціхім балоце.

*10 сакавіка, пятніца*

Пайшоў з паўдня на кінафестываль. Няма беларускага кіно. Дакументальнае яшчэ клявае. Гэта савецкае кіно, дзе галоўным і адным спонсарам быў КПСС [...]. А ўсе кіношнікі тужаць па сувязях, якія абарваліся. [...] Рабы заўсёды тужаць па ланцугах, бо прыраслі ланцугі да іх, а яны да ланцугоў. З «Шляхціца Завальні»[1] зроблены нейкі сярэдні савецкі фільмік на расійскай мове, у галоўнай ролі русапят Гасцюхін, які нават пераксціцца правільна не можа. Усё хадульна-касцюмерна. «Трысцен»[2].

*11 сакавіка, субота*

У Мётчу да Уладзіміра Лайкова. Утульная, чыстая, з памытай падлогай школа. Як са сну. Усё, як дома. Літмантаж. Шчырыя школьнікі. Заядла беларускія настаўніцы. Уся школа галасавала за Зянона. У Лайкова да здзіву чысты беларус сынок Янка[3]. Дачушка Аліна — студэнтка беларускага аддзялення ўніверсітэта. Добра, што ёсць яшчэ такія куткі беларус-

[1] Баршчэўскі Я. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях: У 4 т. 1844–1846. *Баршчэўскі* Ян (1794–1851), польскі пісьменнік, беларускамоўны паэт, фальклярыст, выдавец.
[2] Гл.: Трысцен (10.03.95) // Ксты. С. 299.
[3] Лайкоў Янка (Іван Уладзіміравіч; н. 1979), беларускі паэт.

касці. Шчырае застолле, як некалі ў нас дома. Дзякуй Уладзіміру за яго-ны клопат пра будучыню нацыі. Шкада, што гэтакіх дырэктараў школаў мала.

*Уладзіміру Лайкову*

Лёс!
Не глядзі на нас, як вотчым,
Будзь цёплым бацькам,
Як Лайкоў.
Хай зорам зорыцца над Мётчай
З прабеларушаных вякоў.

*

Спадару Уладзіміру Лайкову —
Змагару за нашу рану-раніцу.
Ён і любіць, і галубіць мову,
Як матулю, як дачушку, як абранніцу!

*Сакавік*

*Чакаючы вянкоў*

Прыпяць
Ледзьве стрымліваецца ў берагах.
Па самыя рогі ў вадзе
Плывуць на паўдзён каровы.
Як купальскім купальшчыцам,
Ім не хапае вянкоў на рагах.
Плывуць і чакаюць,
Закінуўшы ў неба галовы.

Па дарозе назад пісаў верш, каб не звар'яцець ад музыкі, якую на ўсю аглушальнасць уключыў шафёр. Малады хлопец, баіцца, каб галава не была нечым не запоўнена.

*12 сакавіка, нядзеля*

Заключны дзень фестывалю. Вынікі. Дыплом далі Пташуку[1] за «Кааператыў «Палітбюро»». Гэта ўжо інерцыя. «Зябка»[2].

---

[1] Пташук Міхаіл Мікалаевіч (1943–2002), беларускі кінарэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1982). Народны артыст БССР (1980). З 1974 г. на кінастудыі «Беларусьфільм».

[2] Гл.: Зябка (12.03.95) // Халодная памяць вады. С. 121.

*13 сакавіка, панядзелак*

Працяг тэрарыума ў Саюзе кінематаграфістаў. Бальшына супроць усяго беларускага. Даўгалыгія сікушкі, крытыкеса з пастаўленым галасам вызваленага камсорга. Тураў[1] акторстваваў, абараняў савецкае кіно й, вядома, сябе ў ім. Прыкарытнікі. Заўтра вечар мой ў кіношнікаў. «Цыганская прафесія»[2].

*14 сакавіка, аўторак*

Вечар у кіношнікаў. Людзей мала, але ўсё добра, без хадуляў. Выдатны гурт з Інстытута культуры. Мархель[3] спявала. Потым кава, каньяк, цясткі ды бутэрброды. Што самае прыемнае, запрашалі ўсіх, хто быў у зале. Па-хатняму, па-беларуску. Чароўнай Вользе Анатолеўне сказаў, што калі з ейных паклоннікаў ўтворыцца чарга, як некалі ў Маўзалей, я буду рады стаць апошнім у чарзе.

Юбілейны месяц завяршаецца, дзякуй Богу!

*15 сакавіка, серада*

Учора са мной была Ілоначка. Я люблю яе шалёна. Да злосці, што так люблю. Сёння прыходзіла, прынесла суп, які сама згатавала. Аж не верыцца, што яна нешта ўмее. [...] Учора Ілоначка з ахэлкам, кажучы па-ўшацку, кветак выглядала нейкай маленькай. І шкада яе было мне зноў. Ёй жа самой хочацца ахэлкі кветак, бо яна ж мастак, паэт. А прызнанне, калі яно й прыходзіць, позна заўсягды прыходзіць, са слабымі нервамі можна й не дачакацца, і размінуцца. Цэлы дзень перакладаў казачкі Ганада. Навошта мне гэта трэба, усё ад мяккасці характару.

У «ЛіМе» пачытаў верш Акуліна[4]. Нешта хоча сказаць пад вялікім уплывам папярэднікаў. Адно скаланула нахабнай кашчуннасцю: «Я маці не любіў сваю, Я маці ненавідзеў — колькі мог...» Хай у канцы прабачэнне, гэтага нельга і ў сне вымавіць. Гэта ад шайтана, ад камсамола [...]. Так выварочваць сябе, што брудныя споднікі, а можа, я зусім стары ў разуменні сучаснай моладзі.

---

[1] Тураў Віктар Цімафеевіч (1936–1996), беларускі кінарэжысёр. Народны артыст БССР (1979). Народны артыст СССР (1986). У 1991–1996 гг. мастацкі кіраўнік майстэрні рэжысёрскага ігравога кіно Беларускай акадэміі мастацтваў. Лаўрэат дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[2] Гл.: Цыганская прафесія (13.03.95) // Толькі б яўрэі былі!.. Мінск: «Кнігазбор», 2011. С. 229. Верш прысвечаны С. Палякову.

[3] Мархель Таццяна Рыгораўна (н. 1939), беларуская актрыса. З 1994 г. у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Заслужаная артыстка БССР (1984). Народная артыстка РБ (2011).

[4] Акулін Эдуард Аляксандравіч (н. 1963), беларускі паэт, перакладчык, бард.

*Адной*

*Надпіс на кнізе*

Ад першага чакання да спаткання,
Ад першага снядання да вячэры,
Ад шэпту першага да заікання,
Ад самапасылання на галеры,
Ад мроення аб непрабудным цудзе
І, як мне шэпча нехта,
Да сканчыны
І прыгажэйшай
Не было дзяўчыны,
І даражэйшай
Не было жанчыны —
І ўжо не будзе?

*16 сакавіка, чацвер*

Выдавецкія прэміі. Шамякін, Чыгрынаў, Вярцінскі, Сачанка [...] ды іншыя выступаюць перад сабою й слухаюць сябе самі. Думка адна — вывяргаюць вулканіста ісціну ў апошняй інстанцыі. Потым да паўночы засядаў у Фондзе сем Сораса. Смешны занятак з верай у важнасць дзяліць чужыя грошы ў асноўным паміж прахадзімцаў [...].

*17 сакавіка, пятніца*

Сустрэча ў Музеі літаратуры. Была Ілона. Добра, дзякуй яму, казаў Дранько. Ілона піжоніста, але паэтычна кідала словы ў залу. Былі вучні адной з мінскай школы, здаецца, імя Максіма Багдановіча, і навучэнцы медвучылішча. Цікавыя пытанні. Моладзь ідзе іншая, вольная, раскутая. І чыстая надзіва. Гэта, вядома, вяршынкі, але затое якія дарагія. Потым пасядзелі амаль у паддашшы ў Тэрэзы Голуб[1], яна намдырэктара музея. Дачка паэта трыццатых гадоў Жука[2]. Кранула сваёй любоўю да бацькі. Яму ўжо восемдзесят. Дык яна сабрала нейкія 500 тысяч і хоча недзе на раёне за свой кошт выдаць бацькаву кніжачку. Беларусы, асабліва беларускі, — племя нязводнае. А мне адно баліць, як Ілону павярнуць да нашага адраджэння. Яна й гаворыць лёгка па-беларуску, і душа ў яе ўшацкая, а значыць, крывіцкая, але ўбакі водзіць сучасны мадэрн. Трэба, каб ён збеларусіўся вылучна!

---

[1] Голуб Тэрэза (Тэрэса) Станіславаўна (н. 1951), беларускі літаратуразнавец. У 1993–1997 гг. нам. дырэктара па навуцы Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Кандыдат філалагічных навук (2001). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя М. Гарэцкага (1992).

[2] Як удакладніла Т. Голуб, гаворка ішла пра Мікалая Жука, бацьку Дасаевай Таццяны Мікалаеўны, супрацоўніцы Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ, якая пазней сапраўды выдала кніжачку вершаў бацькі.

*Пазыка*

*Ганаду Чарказяну*

Курда курд сустрэне на млыне —
Гэта значыць, што, бадай, ніколі.
Показку далі ў дарогу мне
У пустэльністым туркменскім полі,

Дзе было ўраджайна праз вякі
На пяскі й вярблюджую калючку.
Курд спячэ ў выгнанні праснакі
З дыму роднага — з мукі балючай.

Страчаны бацькоўскі край,
Як рай,
Прагне хоць у снах душа наведаць.
Божа, забыццём не пакарай,
Маладзік змяняючы на ветах.

Зоркі пільна свой шануюць гурт,
Каб не знікнуць знічкамі ў адчаі.
І глядзіць на неба сумны курд
І ў самоты моцы пазычае…

«Вылучна: Вядзьмарачы на неразведзенай вадзе…» [у дзённіку]. Гэта недзе пра Алеся Разанава, які дбае пра стварэнне свайго вобраза […]

*Рэверансны верш*

*Тэрэзе Голуб*

У застрэшным падстрэшшы
Кабінет у Тэрэзы.
У музеі
Музейнай чароўнасці пані.
Тут забудзешся тэзы ды антытэзы.
Не музейным падасца пытанне кахання.

Галубінае прозвішча высватаў продак.
Бо і сам быў, вядома, з душой галубінай.
Неба — вось ён
З блакітнай каёмачкай сподак,
Каб сама неспатольнасць
З яго набгубіла.

Ціхі могільнік — кожны музей,
Ды не гэты

Гістарычна-лірычны музей,
Дзе ў Тэрэзу
Закахаліся ўсёй Беларусі паэты,
Дзе вяснее Тэрэза галінкаю бэзу.

На мяхі залатыя забыліся б крэзы
І згадзіліся б вулкі бародамі месці,
Толькі б трапіць пад позіркі пані Тэрэзы
У паддашшы дамка,
Што ў Траецкім прадмесці!

*22 сакавіка*

*18 сакавіка, субота*

Вырашыў даволі вольна пераказаць пэўныя радкі паэзіі Усходу. Недзе прарыфмоўваючы, каб беларускаму слыху было за што зачапіцца. Цікава, як гучыць, як складвалася, як вячнела вечная паэзія. Гэты спакой і пільны позірк даюць дзіву раскрыцца і ў душы паэтавай, і ў чытачовай. Гэта ж трэба — мець свята любавання вішнямі. А ў бальшавікоў — Дзень чэкіста. Менталітэт паняцце спрадвечнае.

*19 сакавіка, нядзеля*

Дамінічка хадзіла ў музей нашае літаратуры. Чытала верш пра Мірона, залязала ў пашчу цмоку. А я цэлы дзень сядзеў над японцамі. Набраўся нахабнасці ды пераагучваў.

** * **

Над бягучаю вадой
Страказа злавіць спрабуе
Цень празрысты свой.

*20 сакавіка, панядзелак*

Такія галаўныя болі схапілі, што выскачыў з памяці цэлы блок нумароў тэлефонных. Няўжо й паміраць давядзецца, не помнячы таго, што робіш, — адыходзіць туды, адкуль ужо не вернешся. Усё роўна перакладаў, перагукваў японцаў. І сваё нешта крэмзаў. «Хронас»[1].

*Кітайскія паэты*

Чый лёгкі шлях быў,
Чый лёс цяжкі?
Хто больш перадумаў —
Манарх ці манах?

---

[1] Гл.: Хронас (20.03.95) // Ксты. С. 310.

Радкі — бамбукавыя пасашкі
Не адкажуць,
Пагрукваючы ў туманах.

Толькі вершамі й ратуюся ад вар'яцтва. А страха можа паехаць у любы момант.

«Любіць: Пацяганы каток…» [у блакноце].

*21 сакавіка, аўторак*

З раніцы ўключыў радыё, і настрой сапсаваў голас […] Лукашэнкі. […] Зноў ратаваўся перакладамі-перагукамі японскае паэзіі. Гэта вечнае, што ніколі не стане халодным. Забываешся на ўсё, толькі пра адвечную красу, нябеснае хараство й помніш. Прыляцеў Васіль з Берліна. Заўтра пабачымся. «Прымроенае»[1].

* Дамініка: «Куранятка — якое ласкавае слова!» (Расцягваючы словы.)

*22 сакавіка, серада*

Да Васіля на абед. Ірына Міхайлаўна з нічога можа рабіць многа. Васіль распавядаў, як на нашай мытні абразліва абшуквалі. Пыталі, перапытвалі яго […]. І туды, і назад. Гэта, каб прынізіць, каб сапсаваць настрой. […] Адсюль быццам бы родам з Чашнікаў вучыцца юрыспрудэнцыі ў Нямеччыне таптунок. Ні слова па-беларуску. […]. Некалі ў Парыжы аб'явіўся выдавец, што хацеў выдаць шэсць тамоў Васіля па-расійску. І выдавецтва такога не было, і прозвішча было псеўданімам. Гэта каб выведаць у Васіля крамолу ды перадаць, куды трэба.

*23 сакавіка, чацвер*

Зноў асноўны занятак — галаўны боль і японскія паэты. Што ад чаго, цяжка зразумець. […] а яшчэ гэтыя так званыя ветэраны-тылавікі, штабнікі, смершаўцы, трыбунальшчыкі. Ім, бачыш, сцяг і герб не падабаецца. А ў Расіі, куды пішчом ціснуцца, сцяг з арлом. Чым далей вайна адыходзіць, тым болей ветэранаў. Як удзельнікаў штурму Зімняга [палаца]. З гімнам усё зразумела. Ім загілела пакінуць «Мы, беларусы, з братняю Руссю». […]. Што мы за народ, што за нацыя? А дзівіцца няма чаго. Мозг і сумленне нацыі выбівалі дзвесце гадоў […]. Бальшавікі працэс паскорылі, упрасцілі й саматужна механізавалі. Вось і з'явіліся нацыянальныя бамжы […]. «… Ён цяжка нёс…»[2]

---

[1] Гл.: Прымроенае (21.03.95) // Ксты. С. 295.
[2] Гл.: «…Ён цяжка нёс…» (23.03.95) // Тамсама. С. 221.

*24 сакавіка, пятніца*

На працы ўручэнне ўзнагарод-прэмій за кнігі адраджэнцкае тэмы. Ліс[1], Марціновіч[2], Жынкін[3]. Алесь Жынкін малады апантанец, жоначка з негрыцянскай капой валасоў таксама апантанка-ўтрапёнка за беларушчыну. Ліс даўні працаўнік, інтэлігентны, глыбінны, караністы беларус. Такіх было б трэба болей! Алесь Марціновіч на падхопах папулярызатар. І такія патрэбныя. Некаму ж трэба й смецце зграбаць у кучы хоць.

Потым на кінастудыю да Пятроўскага. Робіць пра Забораўна стужку. Савецкая прапагандысцкая асфальтаўкладчыцкая машына гэтак прайшлася па мазгах ветэранаў, што жывая травінка здаровай думкі прабіцца не можа. Казаў колькі словаў на тэлепраграму з мантажнай. У мантажніцы Светы так хітра пасаджаны вочы, неяк нібыта здалёк кпліва й пажадна глядзіць на цябе. Хвалююць. Вечарам званіў Драньку. Неблагая публікацыя ў «ЛіМе» маладога самагенія Андрэя Федарэнкі[4]. Але цікава, што «дурноты» тэрмін выдумаўся, а заўважыла яго [...] Каржанеўская[5]. Ці сама дапісала, ці Андрэй рэверанс зрабіў. Лявону я сказаў, што Сокалаў-Воюш[6] займаецца сексуальным рэкетам. Лявон вясёла згадзіўся. Уладзя Арлоў [...] нахрапіста трасе нацыянальнаўпартую эміграцыю.

*25 сакавіка, субота*

Дзень Волі! Дакладней, дзень магчымай волі. Нам ніхто не хоча даць волі, дый самі сабе мы волі не хочам. На каго Бог — на таго й людзі. Быў мітынг каля Максіма Багдановіча. Не змог падняцца. Галава дабівае мяне. Пазваніў Тарасу, а там выступаў цыбаты й іншыя нацыянал-камуністы. Хоць не шкадую, што не быў. Гэта ўжо дазволены літаратурны ранішнік у сельскай школе. Ніл стаў варушыцца, хінуцца да нармальных людзей. Перад выбарамі. Цёпла сядзець у так званым парламенце. І па тэлевізары паказваюць. Васіль таксама быў. Не выступаў. Пашкадаваў бы сваё здароўе. [...].

---

[1] Ліс Арсень Сяргеевіч (1934–2018), беларускі фалькларыст, літаратуразнавец, краязнавец, пісьменнік. У 1962–2015 гг. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Доктар філалагічных навук (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[2] Марціновіч Алесь (Аляксандр Андрэевіч; н. 1946), беларускі літаратуразнавец, крытык, публіцыст. У 1972–1999 гг. супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва».

[3] Жынкін Алесь (Аляксандр Уладзіміравіч), беларускі літаратуразнавец.

[4] Федарэнка Андрэй Міхайлавіч (н. 1964), беларускі пісьменнік. З 1990 г. супрацоўнік час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1995).

[5] Каржанеўская Галіна Анатольеўна (н. 1950), беларуская пісьменніца, публіцыст, крытык, перакладчык. У 1984–2000 гг. карэспандэнт, заг. аддзела, аглядальнік газ. «Літаратура і мастацтва».

[6] Сокалаў-Воюш (сапр. Сокалаў Сяргей Анатольевіч; н. 1957), беларускі паэт, перакладчык, бард, журналіст. З 1991 г. жыў ў Чэхіі.

*26 сакавіка, нядзеля*

З хворай галавою дабіваю Мальера. Паняла па мне верх работа. Гэта кепска. «Арэц»[1]. Учора пісаў верш, сёння перарабіў:

*Гаспадарка*

Галава —
Аднаасобная гаспадарка.
І каб загону гірсой не тлець,
Каб вясёлай была
У чаркі са скваркай сварка,
Гаспадар мусіць мець
Клёку поўную клець.
Сноп распяразваецца на таку.
Не сцюдзёна ў муку
Уснежыцца латаку.
Не забываецца напамін,
Што блін
Пячэцца не на языку!

* * *

Я — сааўтар,
Ты — сааўтарыца
Тома,
Дзе сябе шкадуе стома.
Аўтар — дзень,
Што нас знайшоў, вядома,
Каб пасля радкамі паўтарыцца.
Гэта за гадамі ды гарамі,
Як і ў казцы,
Ветах дагарае…

*Ганаду Чарказяну*
*(на «Евангеллі ад Мамы»)*

Ганад — і сябра й брат.
Ты, як дыплом з адзнакай.
За ўсё табе я рад
Сказаць паклонны дзякуй!

*27 сакавіка, панядзелак*

Дазваніўся да Васіля. Учора […] гаўрыкі адключылі ягоны тэлефон. Не йшлі гудкі нават. Распавядаў пра мітынг. Ніл пачаў перадвыбарны ма-

---

[1] Гл.: Арэц (26.03.95) // Босая зорка. С. 108.

рафон. Калі стаялі Васіль і Зянон, а каля іх з фотаапаратам Кармілкін[1], Ніл тут жа стаў за Зянонам. З Шушкевічам, з Кебічам, з [Лукашэнкам] ёсць. Хай і з Зянонам будзе. Добра, што хвароба не пусціла мяне на мітынг. Толькі б тузаўся, бачачы нацыянал-камуністых. Васіль казаў, што спачатку было цёпла, а пасля захаладала. Яму заныла правае плячо. Некалі стома зваліла яго ў акоп з вадой, дзе й праспаў усю ноч. Цяпер гэта адгукаецца. Мне пажадаў: «Збірайся са здароўем!» Як гэта па-ўшацку цёпла. Ратуюся вершамі, бо выйсці на вуліцу баюся — гэтак кепска.

«Як і Бога...»[2] Чытаў Лявону. Параіў спыніцца на першым слупку, узмацніўшы слова *смутак.* Зрабіў.

Званіў з Вільнюса Альгіс[3]. У яго 7-га вечар. Хоча, каб я на вечары быў. Паездка на радзіму, Альгісаву. Цікава, толькі як ехаць, за што. «Надпіс на...»[4] Ілона хадзіла да Будзінаса. Абяцаў дапамагчы выдаць буклет. Ну, буклет. А што далей? Шкада яе.

*28 сакавіка, аўторак*

З паўдня пайшоў на працу. Хутка ўжо гэткая фраза будзе гучаць у мінулым часе. У выдавецтве грошы няма нават на зарплату. Мафіёзі ў маштабах мінкульту кшталту Нічыпаровіча[5] пракручваюць нашыя капейкі, каб мець неблагі навар. «Васпані! Вам дзякуй за ўсё...», «Юрліва: Па незразумелай тэорыі Фрэйда[6]...» [у дзённіку].

*29 сакавіка, серада*

У нашай малодшай рэдактаркі[7] (на дзве рэдакцыі) дзень нараджэння. Паглядзеў, як Яўсееў даходзіць да белых конікаў. Гарэлка мацней за ідэі камунізму жыве і перамагае. У «Иерусалимских вестях» вычытаў. Эмануэль Прат зрабіў кітайска-іўрыцкі слоўнік. Цікава ўспамінае пра 30-я гады: «Кітайцы розніцы між расійцамі й яўрэямі не бачылі: і тых, і другіх яны звалі «да-пі-за» — «вялікі нос»... У кітайскім класічным слоўніку — базе для ўсіх астатніх — маецца 42 тысячы іерогліфаў, ды шмат якія з іх сёння зусім не ўжываюцца; такія, напрыклад, як іерогліф, што азначае *конь з белай задняй нагой...* Слова *добра,* напрыклад, перадаецца кара-

---

[1] Кармілкін Уладзімір Паўлавіч (1934–2002), беларускі фатограф.

[2] Гл. «Як і Бога...» (27.03.95) // Ксты. С. 266.

[3] Балтакіс Альгімантас (н. 1930), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік ЛітССР (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966).

[4] Гл.: Надпіс (27.03.95) // Босая зорка. С. 79.

[5] Нічыпаровіч Станіслаў Антонавіч (н. 1945), з 1992 г. 1-шы нам. старшыні Дзяржаўнага камітэта РБ па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Кандыдат эканамічных навук.

[6] Фрэйд Зігмунд (1856–1930), аўстрыйскі ўрач-псіхіятр і псіхолаг.

[7] Цішук Таццяна Іванаўна (н. 1952), мал. рэдактар выд-ва «Мастацкая ліатратура».

нямі *жанчына* й *дзіця.* Слова *сход* (собрание) каранямі *дрэва* й *птушка.* А іерогліф, які азначае *партыя* складаецца з каранёў *страха, род* і *чорнае,* гэта значыць *зборышча чэрні.* Таму Канфуцый[1] казаў, што высакародны чалавек у партыю не ўступае. Пазваніў Васілю і пачытаў вытрымкі. Ён жа ніколі ў партыю, тым болей партыю […], не ўступаў. А кэдэбісцкія падбрэхічы […] звоняць Васілю па тэлефоне: «Стары казёл смярдзючы», — й вешаюць трубку. Альбо: «Гэта Быкаў?» Васіль адказвае, што ён, тады: «Каб ты здох», — і вешаюць трубку. […] Каб на нервах Васілёвых пайграць. Па іх […] будзе йграць жалобны марш д'ябал.

* Дамінікіны загадкі: « Без рук, без ног, доўгая й блакітная. Плыве і адбіццё бачыць (рака). Доўгая, з вачмі й язычок, як сцяжок (змяя)».

*30 сакавіка, чацвер*

Сядзеў дома. Загінаюся. Хоць радасць прынесла Дамінічка — песеньку: «Зайграй жа мне, дударочку, а я патанцую, курка яйка мне знясе, табе падарую». Дамінічка пяе як «зайграй-жар». Колькі векавечнасці ў няхітрай песеньцы, колькі шчымлівай чысціні. Душу мне Дамінічка перавярнула. Яна ўся прабеларушваецца незаўважна, але глыбока. Трэба з першымі гукамі чуць родную мову, каб яна была роднай і душы, і думкам. На жаль, гарадское пакаленне беларусаў узгадаванае на парашковым малацэ роднай мовы, а не на сырадою. Гэта іхняя бяда. Так задумана стагоддзі таму імперыяй.

*Шчыра*
*(на «Евангеллі ад Мамы»)*

*N.*

Шчыра мне ўсміхнуліся аднойчы,
Як дзяўчаты ў першым перапудзе,
Вінавата-ўсцешаныя вочы,
Хітравата-здзіўленыя грудзі.

І былі ў самоты на ўсяноччы,
Як жывыя душы на бязлюддзі,
Стомлена-абураныя вочы,
Радасна-абураныя грудзі.

Зорна смех губляць у зааблоччы
Будуць, і калі мяне не будзе,
Вейкамі прывечаныя вочы,
Некаму прысвечаныя грудзі…

---

[1] Канфуцый (Кун-цзы; каля 551–479 да н. э.), старажытнакітайскі мысліцель, заснавальнік канфуцыянства.

Калі мне ладзілі -годдзе, адна дама тады ў сядзібе БНФ сказала мне цікавую думку. Прапанавала напісаць паэму ці нешта да таго падобнае. Сёння паспрабаваў як верш да Трыпціха крыжа:

* * *

Раптам бы закахаўся Хрыстос.
Што б тады сталася пад блакітам?
Келіхам хмелю з краямі налітым
Збаўцу, вядома б, адчай не абнёс.

Мусіла быць бы якою яна,
Што разгавелася б думкай пра сына
І ў аблачын на пялюшкі б прасіла
Трошкі кужэльнага палатна?

Стыне ў вяках Млечны пал ці пыл?
Свет бачыць нас чыімі вачыма?
Зямлю з блакітам хто павянчае —
Ціха задумаўся небасхіл.

*31 сакавіка, пятніца*

Яшчэ варыянт рабіў: «Раптам бы…»[1] Амаль дзень адзасядаў на Фондзе сем Сораса. Усе лезуць, каб хоць крышку ад пірага адламіць. Голад не цётка. А яшчэ савецкі пагляд на ўсё. […]

*1 красавіка, субота*

Нікога не хочацца разыгрываць. Толькі казаць, што наступіў камунізм з калгасным аблiччам […]. Перакладаю Мальера.

*2 красавіка, надзеля*

Хвароба мяне за глотку (схапіла) ў канкрэтным сэнсе, а я ўпіраюся. Ратуюся Мальерам. Знаходжу беларускія адпаведнікі выпендрачным словам герояў «Пацешныя манерніцы». Пазваніў Генадзь, сумная вясціна — памёр Пімен Панчанка. Колькі памятаю сябе, прычашчонага да беларускага слова, гэтулькі й помню Пімена. Дужа адпакутваў. І за што? Гэта з ягоным характарам гэтулькі гадоў быць фактычна прыкутаму да ложка. Званіў Васілю. Гаварылі, што хутка адыходзяць і адыходзяць, у саюз прымаюць табунамі, ёсць пагалоўе, няма асаў. Гэта задумана, каб разваднiць, зблытаць, збезаблічыць.

«Смак»[2]. Чытаў Радзіку, яму спадабаўся верш. А тут і Дамінічка намалявала мне кветкі й мяне.

[1] Гл.: «Раптам бы…» (31.03.95) // Босая зорка. С. 11.
[2] Гл.: Смак (2.04.95) // Ксты. С. 192.

*Ілоне пасля выставы*

Сваіх дзяцей, народжаных пакутна,
У людзі выпраўляюць мастакі.
А дзе яны пасценна ці пакутна
Расселяцца,
Не ведаюць бацькі.

Ці на агонь ідуць,
Ці ў апрамецце,
Ці ім адкрыўся вечнасці сакрэт.
Смяецца ён ці плача,
Іхні след,
Хто запытае ў заблуканым свеце.

Самоты фарбам пэндзаль прыбаўляе,
Бо помніць колеры,
Што ўжо былі.
І мастакі сівеюць бабылямі,
Як цені аб'інелыя ў быллі.

Мне часта ў галаву прыходзіць думка, што мастакі самі сябе пазбаўляюць бацькоўства, высылаючы ў свет як у капейку свае творы. А твор жа — дзеці іхнія. Калі ладзілі мой юбілей на Віцебшчыне, міністр культуры Віцебскай вобласці распавядаў пра вайну. Накінуў быў радкі. І ўсплыло:

*Паслявайна*

За плугам ступаюць гракі —
Вясновай лагоды патроны.
Ідуць баразной хлапчукі
Ды ў жменькі збіраюць патроны.
Такога ўраджаю такі
Не могуць прыпомніць палеткі.
І выбух калоціць такі —
Малоцяць кулеўе падлеткі.
І памяць глушэе,
Абы
Не чуць бы дасюль малацьбы…

А яшчэ сядзеў над Мальерам. Цікавейшая праца — чытаць слоўнік Ластоўскага[1]. Вычытаў слова *ашакі* — і хатай дыхнула, мамін голас пачуў.

[1] Ластоўскі В. Руска-беларускі слоўнік. Коўна, 1924. *Ластоўскі* Вацлаў Юсцінавіч (1883–1938), беларускі крытык, літаратуразнавец, паэт, празаік, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1928). Рэпрэсаваны.

У родным слове ўвесь Сусвет злучаны з душой. Родным словам душа адгукаецца Сусвету, праз роднае слова разумее яго.

*3 красавіка, панядзелак*

Дзень пачаў з малітвы вершам па Пімену:

*Развітанне*

Сваёй эпохі пасынак і сын,
Яе любіў і ненавідзеў шчыра.
Бывала лераю жабрачай ліра
І весялухай зманлівых часін.

З самім сабой
Самазабойны бой.
Не правадыр,
А павадыр сумневу
Больш давяраў свайму глухому гневу,
Які з дзвярэй лагоды рваў прабой.

Ён д'яблу не заклаў сваю душу,
І грэшнік, і пакутнік утрапёны.
Пегас прыстаў.
Як шыбельні, страмёны.
І правіць мова родная імшу.

Хадзіў на працу. Усё-ткі далі зарплату. Думалі, што не будзе. Па дарозе дамоў купіў Дамінічцы спаднічку. Званіў Васілю. Блага яму такім надвор'ем, прыродным і палітычным. Камуністычныя [...] толькі жывучыя. Д'ябальская сіла іх трымае. Успомніўся ў гэтай сувязі Лужанін. «Рэкашэтам: Ахінуты кумачом...» [у дзённіку].

Па дарозе ў выдавецтва ў трамваі й у метро калыхаў верш: «Ярмо»[1]. «Каб: Яшчэ рухавы дзядок...» [у дзённіку].

*Усе*

Жахлівай ейнай красе —
Хто з двору,
Хто з бору —
Маўкліва скараюцца ўсе
Без разбору.
І ейнай красе,
І касе...

---

[1] Гл.: Ярмо (3.04.95) // Босая зорка. С. 126.

*Хто што*

Апантаны, шалёны
Спірт глушыць зялёны,
А памяркоўны
Сок цэдзіць маркоўны.

*4 красавіка, аўторак*

Хвароба сядзіць на мне конна. Ракам-бокам устаў. Пахаванне Пімена. У саюзе даволі народу. Раптам нейкі вецер, нейкі скразняк. Пабеглі хлопчыкі з насцярожанымі вачыма, амбалы. Гэта [Лукашэнка] з камандай. Як кадры [...] дакументальныя. Распавядалі некалі ў крэматорыі: нябожчык, перш чым стаць жменькай попелу, на імгненне ажывае да жаху, бо падключаецца энергія. [...]. На паніхідзе Ніл казаў у асноўным пра сябе. Каб было можна, ён бы на сваёй паніхідзе казаў доўга ды пафасна. На вуліцы абліваха. На магільнік не паехаў. Ломіць усяго. Гэта раптоўна, а паступова будзе даходзіць, што не хапае Пімена, дужа будзе не хапаць. Гэта была асоба.

*5 красавіка, серада*

Хатні рэжым пад наглядам хваробы. Дабіваю Мальера. Здоўжылася гэтая праца мне. Не думаў, што гэтак цягамотна будзе ісці. Васіль казаў, што Інстытут літаратуры АН даў заключэнне, што паэма [...] ў «Свабодзе» зневажае [Лукашэнку] як прэзідэнта. Відаць, стараліся Каваленкі ды Навуменкі. [...] «З гадамі...»[1]

* Дамініка: «Кот Мірон глядзіць уніз, ці высока падаць».

*6 красавіка, чацвер*

Сяджу дома. Перакладаю Мальера. Узяўся за гуж, трэба цягнуць. Як адарвешся ад працы, застанешся сам-насам з сабой. Усё часцей і часцей думка пра развітанне з жыццём[2]. І дужа шкада сябе, здаецца, і не жыў, і не быў на гэтым зямным кірмашы. Бог мудра прыдумаў, што даў чалавеку працу й няведанне свайго канца.

*7 красавіка, пятніца*

Падыходжу да канца перакладу. Мальер умее заводзіць чалавека й праз гэтулькі часу. Гэта не смяхунчыкі-саветунчыкі ўзору Макаёнка, раʼка крыві нацыі Крапівы. Заўтра зʼезд БНФ. Не змагу быць. Мяне хоць Васіль супакоіў. Ён перадасць Зянону прычыну маёй адсутнасці. БНФ — адзінае мейсца, куды маю інтарэс хадзіць, дзе, лічы, усе мне сімпатычныя

---

[1] Гл.: «З гадамі...» (5.04.95) // Ксты. С. 202.
[2] Гл.: Прыспешніца (6.04.95) // Тамсама. С. 360.

людзі, бо яны беларускія духам сваім. Дайшоў да таго, што не магу чуць па радыё рюсское сюсюканье. Васіль быў на кінастудыі. Ягоны фільм пра Слуцкае паўстанне яўна рэжуць. Дый рэжысёр трапіўся слабак. Васіль жа яго не выбіраў. Сам напрасіўся.

*8 красавіка, субота*

Захварэла Валя. У Дамінічкі тэмпература. Сёння яны з «Цюбікам»[1] павінны былі ехаць у Нясвіж. Іл оны след прастыў. […]. Званіў Васілю. З'езд у Купалаўскім тэатры. Народу паўнютка. Выступала Зімніцкая з памфлетам. Невядома, адкуль яна, якія сілы ёй кіруюць. Пакажа час. […] Успомніў:

*Базарная праўда*

На конскім базары ірзала трывога —
Цыган прадавай жарабка маладога.
І дзядзька такі ўпадабаў жарабка,
Рука пацягнулася да кашалька.
Пытанне спыніла руку нечакана:
Ці маецца ўсё-ткі ў тавара загана?
Цыганіць ці ганіць майстры цыганы.
Пачуўся адказ: — Ён не мае цаны.
Тае і заганы ў майго жарабка —
Не лезе на дрэва, не носіць вянка.
І дзядзька, шчаслівы, купіў жарабка.

І клопат пасыпаўся, як з жалабка.
Хамут не надзець і на мост не ўзагнаць,
Назад цыгану жарабка не загнаць.
Хоць мост забрукуй, сам залезь у хамут.
Базарную праўду казаў баламут.
Базарная праўда з вясёлым канцом:
Тут цельны бугай, тут і певень з яйцом.

*Чыя*

Чыя ў цябе душа,
Мурчак Мірон,
Мой чорны кот,
Як з цемры напамінак
Пра смутны дзень памінак,
Пра спачынак.
Прысніш ты
Чорны цень ад крыл шпачыных.

[1] Народная мастацкая адукацыйная студыя «У гасцях у цюбіка» (з 1991).

Кажу: Мірон,
А чуецца: Харон.

Чыя ў цябе душа,
Не скажаш ты.
Спытацца ў нematы
Ці ў чарнаты?

*9 красавіка, нядзеля*

Закончыў Мальера. Дзякуй Богу! Напакутваўся. Хвораму чалавеку толькі камедыі й перакладаць, меней пра смерць думаць часу застаецца. Пісаў «дурноты»: «Сферы: Чуе страхам, што яна старая…» [у дзённіку]. «Пад зялёную руку»[1]. На вуліцы снег. Латышы такое надвор'е завуць cirulis veja — жаўруковая завея. Колькі гадоў хацеў напісаць. Сёння паспрабаваў нешта:

*Цыруліс вея*

Дзе маладзіцы, а дзе гладышы?
Так бы ўсё й гладзіў
У змове са змовай.
Вею на веях нясуць латышы.
Вею-завею завуць жаўруковай.

У веснавея кажух нарасхрыст.
Слухае Сураж, Асвея, Усвея
Зябкі паганскага божышча свіст —
Цыруліс вея, цыруліс вея…

*10 красавіка, панядзелак*

Зацягнуўся на працу. Вырашалі па тэлефоне рэдкалегію магчымага пэнаўскага штотыднёвіка. Прапанаваў Арсенневу, Акулу[2], Рыч, вядома, Васіля, Карласа, Казько, Конана, і Арлова настойваў Карлас. Я супроць Арлова нічога не маю, але дужа ўжо ўсім навяз у зубах. Нацыянальны рэкіцёр, а сябрук Воюш Сяржук, дык той сексуальны рэкіцёр, — абодва спецыялісты па дыяспары. Званю Васілю. Удакладняю, прапаную назву Fatum, Васіль з усмешкай: «Можа, лепей — Fantom?» Па рэдкалегіі кажу, тлумачу, што без Арлова цяпер і певень не кукарэкае. Маленькая паўза, і Васіль кажа: «Да вайны, помню, было цэлае саслоўе — актывісты. Кулакі, беднякі, а актывісты — самая сіла».

---

[1] Гл.: Пад зялёную руку (9.04.95) // Ксты. С. 302.

[2] Акула Кастусь (сапр. Качан Аляксандр Ігнатавіч; 1925–2008), беларускі празаік, паэт, драматург, грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі і Канадзе (з 1947).

* Дамініка: «Быкаву, відаць, сёння прысніўся ўдачны сон пра Мірона». Тлумачыць: «Удачны — гэта добры».

*11 красавіка, аўторак*

У Менск прыехаў Міхнік[1], правая рука Валенсы[2] раней, рэдактар «Газэты выборчай». Вечарам сустракаліся з Васілём. Заўтра [Міхнік] павінен сустрэцца з [Лукашэнкам] і ўзяць у яго інтэрв'ю. Міхнік у турме чытаў «Сотнікава». Калі ў свой час у Польшчы міністр унутраных спраў узняў пытанне пра люстрацыю, Міхнік зразумеў, што будзе вялікі раскол. Ён выступіў супроць і ўратаваў Валенсу таксама. Бо знайшліся нейкія паперы, што й Лех даваў падпіску, калі працаваў на заводзе. Васіль заўважыў, што сістэма стукачоў пусціла карані скрозь. Хіба толькі на магільніку не пусціла карані.

«Акрамадрыгал»[3]. Задумаў напісаць гэты мадрыгал як акра. Для СКВ — старога казла Васі (Сёмухі). Люблю дужа гэтага рагата-ўпартага. Гэта апошнія парасткі беларускай нацыі нацыянальна-натуральныя. Ва ўсім.

Камуна-[...] бярэ разгон. [Лукашэнка] праз наёмнікаў, якія яго ахоўваюць, выгнаў з парламента дэпутатаў ад апазіцыі, якія аб'явілі галадоўку ў знак пратэсту[4] [...]. Пабілі, выкінулі з «варанкоў» на вуліцу. Ад ПЭН-цэнтра паслалі факсы ў Амерыку і ў Англію. Васіль захварэў. Гэта сёлетні грып, як камунізм, непазбежны.

[Без даты. В. Быкаў:] «Разганялі. Гэта такі здзек. У нас галоўным АМОНам былі пагранічнікі — саджалі, хапалі. Усё жыццё праходзіла пад гэтым».

* Дамініка: «Што такое спакваля?» — «Паступова, памалу». — «Не, гэта такі танец».

*12 красавіка, серада*

Засядалі ў выдавецтве. Дзялілі грошы, якіх няма. Па «Свабодзе» добры рэпартаж з мітынгу. Нават Ніла праняло, нешта прагундосіў у абарону годнасці дэпутатаў. [...].

---

[1] Міхнік Адам (н. 1946), польскі грамадскі дзеяч, журналіст.

[2] Валенса Лех (н. 1943), адзін з заснавальнікаў Незалежнага самакіруемага прафсаюза «Салідарнасць» (1980; з 1981 г. старшыня). У 1990–1995 гг. прэзідэнт Польшчы. Лаўрэат Міжнароднай прэміі па правах чалавека, Нобелеўскай прэміі міру (1983).

[3] Гл.: Ускрэсне! (10–11.04.95) // Руны Перуновы. С. 251. Акраверш В. Сёмуху.

[4] Разгон групы апазіцыйных дэпутатаў ВС РБ 12 склікання, якія аб'явілі галадоўку ў знак пратэсту супраць рэферэндуму аб наданні рускай мове статусу дзяржаўнай і адмене герба Пагоня і бел-чырвона-белага сцяга.

*13 красавіка, чацвер*

Беднага Стрыжака ўсё ніяк не могуць пахаваць. Нешта з машынай. Брат звоніць з Рэчыцы, а тут ні да кога не дазваніцца. Піць былі сябры, пахаваць няма каму. Усё як у жыцці. Сёння дэпутаты атрымалі касматыя ад мяса косткі й падпісалі ўсё [...]. Усё, што напрацавала апазіцыя, кату пад хвост. [...]. Праўда, казаў Васіль, мы цяпер разводзім дыскусіі вакол паліцаяў, а сённяшнія амонаўцы гэта хто? Іх жа ніхто не прымушае ісці супроць ісціны. [...].

* Дамініка: «Якая я недадумная».

*14 красавіка, пятніца*

На працу. Тысячы званкоў. Імітацыя дзейнасці ў бальшыні яшчэ савецкая. Усіх як абухом па галаве, усіх сведамых беларусаў. [...].

* [Падобна, рукой рэдактара Г. Роліч:] «Пазваніць Старавойтавай[1]. 27–24–17».

*15 красавіка, субота*

Васіль зусім хворы. Званіў яму з Вільні наш пасол. У канцы месяца едем, і з намі чамусьці Зуёнак, як даважак, бо старшыня так званага творчага саюза. Вечарам з Дамінічкай елі сала з часныком, танцавалі пад песенькі «Падыйшоў, падыйшоў казёл», «Бегаў зайчык каля рэчкі», «Трусік, трусік, чарнавусік». Раптам Дамінічка кажа: «А твайго сябра Пазьняка пабілі». У яе свядомасці ўжо нешта складваецца. Яўна, што камуністычная зараза яе абміне. Іншая нейкая напаткаецца. Толькі не камуна-[...]. Барані Бог. «І я адыду...»[2]

*16 красавіка, нядзеля*

Маё Вялічка. Няма ўжо даўно маткі хроснай. Далёка яна, пані Міклашэўская, а ў нас вымаўлялі Мікалашэўская. Пазваніў Клышку. Яму сёння 60.

Будзь, доля Анатоля, нескупою.
Перад бядою дзверы зачыню.
Віншую з вялікоднаю капою,
Яшчэ жадаю, дружа, сарачню!

*14–16 красавіка*

---

[1] Старавойтава Галіна Васільеўна (1946–1998), расійскі палітычны і грамадскі дзеяч, дэпутат Дзяржаўнай думы РФ (1993–1998). Кандыдат гістарычных навук.
[2] Гл.: «І я адыду...» (15.04.95) // Ксты. С. 260.

Шмат добрых прыгодаў у мяне з Анатолем звязана. Маладыя гады. Першыя крокі ў слове.

Дамінічка мне размалявала яечка. Цокаліся, дакладней, стукаліся мы з ёй. Яна мяне пабіла. І дзюбачкай, і пухой. Закончыў японцаў і яшчэ колькі вершаў Ван Вэя[1], Лі Бо[2], Ду Фу, Су Шы[3].

* Дамініка: «Ачхніся, сумная акула… Ну што ты там унюхаўся, Мірон, што ты абгладжваеш карабок, ён жа не чалавек».

*17 красавіка, панядзелак*

Мучыўся з казкамі Ганада. Калі б такія пераклады на машынку дыктаваць. Перадрукаваў і паправіў Міцкевічаў санэт Da Laury і песню літоўскага легіёна Юльюша Славацкага[4]. Славацкі абсалютна сучасна гучыць. І Пагоня ёсць. І годнасць перад крывавай Масквой.

Званіў Васілю. Ён злёг. Казаў, традыцыйныя лекі не дапамагаюць. Узяў такую посцілачку з калюкамі, цвічкамі. Падкупіла, што па-беларуску напісана: «Знаходка». Паляжаў на спіне, тады лёг на грудзі. Крыху палепшала. Ці не ад таго, што па-беларуску названа. Устаў, крыху прайшоўся па хаце. Як пасля п’янкі. «Павады вады»[5].

«Кормяцца: Крычыць з іх кожны…» [у блакноце].

*18 красавіка, аўторак*

Званю Васілю. Ён нездаровы яшчэ. Дужа цяжкі гэты грып нахабны, […]. Васіль сумна з гумарам: «У Іудзеі, у Рыме на слупах вешалі, а ў нас будуць неўзабаве вешаць на вертыкалі». Васіль мяне падахвоціў на «дурноты»: «З даўняга сацыяльнага заказу: Ходзяць камсамолачкі…», «А пасля: Трэба нашармачка як след…», «Відаць: Відаць, нас мала перылі…», «Не трэба: Не трэба ветэранскіх лоў багата…», «Дзе?: Скажыце-ткі, ў якіх краях…», «Прачнуўся: Прачнуўся ў пэўным месцы сверб…» [у дзённіку].

*Усе эпохі*

Як вошы, грошы,
Капейкі — блохі.
Іх кожны хоча
Злавіць хоць трохі.
Пхай у кішэні,
Суй у панчохі —

[1] Ван Вэй (Моцзе; 699 ці 701–759 ці 761), кітайскі паэт, мастак, каліграф, музыка.
[2] Лі Бо (Лі Тайбо; 701–762), кітайскі паэт.
[3] Су Шы (Су Дун-по; 1036–1101), кітайскі пісьменнік, палітычны дзеяч.
[4] Славацкі Юліуш (1809–1849), польскі паэт.
[5] Гл.: Павады вады (17.04.95) // Ксты. С. 366.

Грашыма пахнуць
Усе эпохі.

*19 красавіка, серада*

Зарплаты й сёння не далі. Ціснуць [...] як могуць. Усё скіравана супроць беларускага. Сёмуха ходзіць ледзь жывы. Лесі павінны рабіць аперацыю ў Штатах. Дык бацьку цэлы тыдзень баліць у тым месцы, дзе дачушцы будуць рабіць аперацыю. Гэта нешта нечуванае па чуллівасці бацькоўскай. Звычай усё чуюць маці. Сёмуха наогул пры ўсім ягоным казлiным характары чалавек дужа тонкай душы. Характар ад ліха. «Хадакі»[1].

*20 красавіка, чацвер*

Дабіў казкі Ганада. Аднёс на машынку. Адным даўгом стала меней. Раптоўная амаль спёка. Нешта ненармальнае ў прыродзе, як і ў нашай краіне. «Шалік» [у дзённіку]. «Гасцініца»[2].

* Дамініка: «Дзедзя, досыць табе мяне працалоўваць».

*21 красавіка, пятніца*

Пераклаў верш Мережкоўскага «Хрыстос ускрэс!» — пяюць у храме»[3]. Халодны верш. Русацяпы пісалі дужа ялеіста на тэмы блізкія, а сімвалісты каменнасценна. Наогул, дужа цяжка паяднаць, што завецца, свецкасць і боскасць. Неяк па радыё чуў прыгожую легенду. Толькі там, здаецца, казалася *с крэва*. «Легенда»[4].

* Дамініка: «Я тваю, дзедзя, сілу прымяняю заместа Валі — прывінці лялькцы галаву... Ляцiʹнкі — пылінкі, якія лётаюць». [Кажу:] «Не чапай ката». — «Я яго не чапнуʹла».

*22 красавіка, субота*

Спёка дала ў галаву. Як вараны хаджу. Перабіраў рукапісы троху. Ілонка раптам паехала ў Пецярбург, ні слова не сказаўшы папярэдне.

* Дамініка: «Чаму ты не сказаў пра мяне яшчэ — таленавітая мастачка, атрымалася: ты ленавітая мастачка».

*23 красавіка, нядзеля*

Святое Вялічка! Светла ад аднаго ўжо слова. Першы пазваніў Васіль. Пахрыстосаваліся хоць па тэлефоне. Гаварылі-гаварылі, а пасля спахапіліся, што ў святы дзень пра чарцей гаворам. Пра габелен Кішчанкі, бы-

---

[1] Гл.: «З мяне...» (19.04.95) // Збор твораў. Т. 4. С. 375.
[2] Гл.: Гасцініца (20.04.95) // Ксты. С. 298.
[3] Мережкоўскі Дзмітрый Сяргеевіч (1866–1941), рускі пісьменнік. Гл.: «Хрыстос ускрэс! — пяюць у храме...» (З Дз. Мережкоўскага; 21.04.95) // Тамсама. С. 158.
[4] Гл.: Легенда (21.04.95) // Руны Перуновы. С. 435.

лога […] ўкраінска-данскога разліву. На габелене й нашыя беларускія святыя дзеячы, і, вядома ж, Ленін, Сталін і [Лукашэнка]! Васіль смяецца: «Раней быў сацрэалізм, а цяпер вертыкаль». […]. Васіль слухаў гутарку Хашчавацкага[1] й Дымава [Ю. Дракахруста]. Дымаў […] вне схваткі, трымаецца славутага цэнтрызму.

«Як мама некалі…»[2] На святое Вялічка хацелася нешта такое напісаць. «Зразумела: Яно, зразумела, не недта ахвоча…» [у блакноце].

* Дамініка: «Кот Мірон такі ню′ха, усё нюхае».

*24 красавіка, панядзелак*

Ненармальнае надвор'е […]. Хадзіў да Палякова. Мне страшэнна кепска. І галава, і ўсе суставы выкручвае. Званіў Васілю. Ён ездзіў на дачу. Сказаў, што семдзесят гадоў ёсць семдзесят. Я свае шэсцьдзесят адчуваю, і дужа адчуваю.

*25 красавіка, аўторак*

Павінен быў ехаць у Вушачу. Не змог. Ломіць усяго, крышыць. Перадаў праз Пятроўскага таго-сяго Марыі Рыгораўне. Нарэшце зноў знайшоў і передрукаваў дзве казкі-пераказкі «Як воўк калядаваў», «Залатая прасніца»[3]. Трэба было б выдаць кніжку для дзяцей, але як? Прыехаў Бурсаў. Заўтра сустрэнемся. Даўно я ўжо яго бачыў. […]

*26 красавіка, серада*

Прыехаў Бурсаў. Мне здаецца, што ён мала пастарэў. Стаў яшчэ болей нервовы й сантыментальны. Колькі маладых гадоў з ім праведзена! Падарыў мне, але гэта, вядома, Дамінічцы, пяць мікалаеўскіх [рублёў]. Дзякуй яму! І сумна зрабілася, што гэта непрыхаванае развітанне. Ад Бога толькі залежыць, хто раней, хто пазней.

Каля Акадэміі Лучыц-Федарук[4] распавядаў пра Жураўскага[5] — галоўнага савецкага беларусазнаўцу, мовазнаўцу. У інстытуце мовы ўсур'ёз вялася размова пра двухмоўе. Жураўскі так і заявіў, што ён гэтай дзяр-

---

[1] Хашчавацкі Юрый Іосіфавіч (н. 1947), беларускі кінарэжысёр. З 1989 г. на кінастудыі «Беларусьфільм».

[2] Гл.: Як мама некалі… (23.04.95) // Ксты. С. 267.

[3] Гл.: Як воўк калядаваў; Залатая прасніца ([1995]) // Як воўк калядаваў. Мінск: «Юнацтва», 2000. С. 71; 87.

[4] Дакладней, Лучыц-Федарэц Іван Іванавіч (1938–2016), беларускі мовазнавец, перакладчык.

[5] Жураўскі Аркадзь Іосіфавіч (1924–2009), беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1968). Прафесар (1970). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Заслужаны дзеяч навук БССР (1978). У 1953–2007 гг. у Інстытуце мовазнаўства НАНБ РБ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1994).

жаўнай мовай карыстаецца раз на год, калі піша заяву на адпачынак. Камуністычны […], што яму да беларускай мовы. І такая пошасць скрозь.

«Хочацца: Ёй роўныя ўсе…» [у блакноце].

*27 красавіка, чацвер*

Цэлы дзень на нагах. Пад вечар паседжанне Фонду сем Сорас. Цікавыя да яснасці заяўкі на конкурсе — усе хочуць нешта ўварваць. Большыня канкурсантаў нарадзіліся ў Расіі. Беларусаў мала. […]. Заяўкі на падтрымку газеты, вядома, Сёма Букчын[1]. І на газету сваю […] былы рэдактар […] «Советской Белоруссии» Асінскі[2]. Я прапанаваў назву газеты — «Асінскае гняздо». […]

*28 красавіка, пятніца*

Колькі разоў прасіў Васіля не чытаць смярдзючую камуністычна-[…] газэтку «Мы и время», усё роўна чытае. На першай старонцы фота, дзе немец вешае быццам падпольшчыцу. Подпіс: «Яны ўжо былі ва ўладзе». Гэта пра БНФ. Дык трэба ж тады даць фота чырвона-[…] тэрору. Ён жа яшчэ жахлівейшы. Між іншым, там і пра нас: «Отставной писатель и вторящий ему в рифму пастушок из партизанской зоны». Адстаўны пісьменнік — па кім Беларусь ведаюць. Пастухом не быў я ніколі, бо партызаны ўсіх кароў звялі.

*29 красавіка, субота*

Цэлы дзень перакладаў Ду Фу. Гэта мая любоў маладых гадоў. А Дамінічка малявала: [«Дзедзя», «Дамініка»].

*30 красавіка, нядзеля*

Яшчэ дапераклаў два вершы Ду Фу. Пачаў передрукоўваць агульны падраздзел у новы зборнік «Гуканне паэзіі Усходу»[3]. Чытаў тое-сёе Радзіку. Яму падабаецца. Ён чытаў мне шалёна-геніяльныя свае новыя вершы. Чакаю Васіля. Ён паехаў у Гародню з сынам Сяргеем[4].

---

[1] Букчын Сямён Уладзіміравіч (н. 1941), беларускі пісьменнік, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1972). У 1992–1995 гг. рэдактар газ. «Европейское время».

[2] Асінскі Ігар Мікалаевіч (н. 1949), беларускі журналіст. У 1993–1995 гг. гал. рэдактар газ. «Советская Белоруссия».

[3] Гуканне паэзіі Усходу: Пазыкі. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2007.

[4] Быкаў Сяргей Васільевіч (н. 1952), беларускі вайсковец у адстаўцы (з 1991), у 1993–1995 гг. дыспетчар асацыяцыі «Электрамантажнік». Сын В. Быкава.

*Ля Чаравечча*

Смяюцца, як гарлачы
На абымшэлых платах,
Гарлачыкі жаўтагубыя
На зялёных плытах.
Плыткі пагойдвае
Канкрэтны струмень лірычны.
Да вярбы навязаны стаеннік — човен,
Ён пасвіцца ў хрубасткіх чаратах,
Па-хатняму звычны
І ўжо амаль што этнаграфічны.

*1 траўня, панядзелак*

З-за шуму й гвалту ад ката й Дамінікі праз колькі старонак пераскочыў. Сёння першамай [...] Хоць няма чырвоных сцягоў, хоць не гоняць на дэманстрацыю й «мацюгальнікі» са слупоў не заклікаюць да перамогі і [не] славяць мудрую камуністычную. Усё гэта, як у жахлівым сне, здаецца, было. А гэта ж атруціла мае мазгі, мае нэрвы, гэта ж пагасіла гэтулькі сонца ў маіх пачуццях. [...]. Акрамя гэтых няўдалых, бо вялых, радкоў [...] пісаў і вершы: «Як той агонь...», «Мы ўсе»[1].

* Дамініка: «Дзедзя, я, каб ты болей любіў маю Барбі, пры табе буду называць яе лялькай».

*2 мая, аўторак*

Перадрукоўваў кітайцаў. Дапераклaдаў Су Шы. З раніцы Валя зрабіла нейкі стол, памянулі як маглі родных нашых, якія з намі, якія сочаць за намі, а нам здаецца, што мы самі ўсё робім, усё прыдумляем. Прашчуры нашыя кіруюць нашымі думкамі і ўчынкамі. Яны, відаць, робяць вымогі, каб мы не паўтаралі іхнія памылкі. А потым мы будзем перажываць за родных нашых, пакінутых на гэтай грэшнай зямлі. Мяноўна грэшнай. Бо на святой зямлі, ці ў раі, няма ні спакус, ні ашу'каў. «І гэты край, дзе нарадзіўся, рос...»[2]

*3 мая, серада*

Васіль прыехаў з Гародні. Увесь горад выклееный кандыдатамі ў дэпутаты, у асноўным камуністы. Вуліцы разбітыя. Па бензін чэргі. Аўтобусы ходзяць рэдка. Два разы Васіль праехаў тралейбусам — як у Кітаі, вісяць, дзверы не счыняюцца й не зачыняюцца. Мы казалі з ім, што ў Эўропы правінцыя — самае мейсца, дзе душа адпачывае. Бо там гэта ўсё сваё

---

[1] Гл.: Як той агонь...; Мы ўсе (1.05.95) // Ксты. С. 193; 228.

[2] Словы песні для М. Наско (27.04–2.05.95). *Наско* Мар'ян Вікенцьевіч (н. 1932), беларускі кампазітар.

з Сярэднявечча. Плоцяць падаткі, якія йдуць на парадкі. А савецкая, імперская правінцыя — пекла. Бо ўсё лепшае, як жартаваў Васіль, у Маскве, і камуністы, і дэмакраты — усё лепшае.

*Не хапае...*

Паказалі ўжо апраметнае дно,
Ды ўсё адно лянота сляпая
Неадступна ступае за намі.
Нам, беларусам, відаць, адно
Ад Бога выспятка не хапае,
Каб сталі сябе пачуваць панамі.

Званілі з Літвы наконт нашай з Васілём паездкі ў Вільню. Нешта была сакратарачка пераблытала. Васіль было адмовіўся і ўзрадаваўся, што не трэба ехаць, але ўсё паяснела. Нам не трэба ніякой візы афармляць, бо дыпламатычнай машынай паедзем.

*4 мая, чацвер*

З рэдактарам зняў пытанні па Мальеру. Зіна Пазняк[1] добра ведае беларускую, натуральную мову, пра французскую й казаць не даводзіцца. Маюцца ў нас нацыянальныя кадры, як ні душаць іх дагэтуль. На вуліцах рыхтуюцца адзначаць так званую Перамогу, перамогу мясам, нашпігаваным фанатызмам камуна-[...]. Уяўляю, як чырвона-крывава будзе ад савецкіх анучаў. Гэтыя ветэраны, што спрабуюць яшчэ нешта разумець, сапраўды вераць у тое, што яны пасля вайны ўспаміналі пад дыктоўку органаў. «Замаруджанага дзеяння...» [у дзённіку].

*5 мая, пятніца*

З раніцы да Васіля. Ад’езд на *Вільнюс.* З намі прадстаўнік знешэканомбанка Дзмітрый Курачкін (сам з Ніжняга Ноўгарада, дзед з беларускага Палесся), сустрэў пасол Беларусі Яўген Вайтовіч[2] і Антанас Дрылінга[3], ён дырэктар выдавецтва, што выпусціла кнігу Васіля Быкава. У беларускую амбасаду. Утульны дамок. Вайтовіч даволі добра гаворыць па-беларуску. Калі трэба, беларусы ў асноўным нармальныя, успамінаюць сваю мову. Перад сустрэчай на Вільнюскую вежу. Каля вежы магілы абаронцаў. На першым паверсе напамінна фатаграфіі і ахвяраў, і акупантаў. Прылады акупантаў. Жалезныя дубінкі, трубчатыя, тоўстыя гумовыя — прылады савецкага сярэднявечча з кэдэбісцкага ведамства. Вежа, вядома, пабуда-

---

[1] Пазняк Зінаіда Канстанцінаўна, рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Вайтовіч Яўген Канстанцінавіч (н. 1937), з 1994 г. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол РБ у Літоўскай Рэспубліцы. Кандыдат эканамічных навук.

[3] Дрылінга Антанас (н. 1935), літоўскі паэт, празаік.

ваная ВПК для касмічных мэтаў. На версе рэстаран, марудна круціцца, як галава з зацёклай шыяй.

На канферэнцыі журналістаў у асноўным пытанні да Васіля. Адказваў добра. Адышоў ад ваеннай тэмы, бо вынікі перамогі скарысталі камуністычныя сілы ў асноўным. А перад вежай была кароткая сустрэча ў 68-й школе, школа беларуская. Дужа мілыя дзеткі, асабліва самыя малодшанькія. Чытаў ім у асноўным кароценькія [вершы]. Дужа добра ўспрымалі. Старэйшыя дзяўчаткі панавітыя, пародзістыя. […]. Увесь гэты клас, ці зала, спявала беларускую песню. Дужа добрае вымаўленне.

Пасля Васіль прапанаваў схадзіць на Росы [могільнік]. Паклалі кветкі ля магілаў Ядвігіна Ш.[1], Сыракомлі[2], Аляхновіча[3], наведалі Пілсудскага[4] і таксама паклалі кветкі, усё-ткі таксама беларус. У часы савецкай імперыі колькі, бывала, ні просіш гаспадароў завесці на Росы — ім усё часу не ставала. Гэта дзейнічала забарона. З Росаў да Вострай брамы. Пагоня ўсё скача. Прайшліся пешкі. Ля самага тратуара продаж усяго. Нехта прапанаваў купіць за польскія грошы, хацеў быў жартам прапанаваць заенчыкаў. Але вырашыў не цвяліць людзей святога бізнесу. Наведалі Базыліянскія муры. Сціплыя два акенцы над уваходнай аркаю, дзе жыў Максім Гарэцкі. Уніяцкі храм вернуты ўніятам. Але паколькі беларускіх уніяцкіх праваслаўнікі ўсіх часоў і асабліва камуністы вынішчылі, дык яна апынулася, царква гэта, у ўкраінцаў. З Украіны прыехаў святар. Абы не маскалі. Ідзе рамонт. На сцяне шыльда Іезафату Кунцэвічу[5]. Васіль жартуе, што варта было напісаць: «Загінуў у Віцебску». І доля беларуская была б».

Прайшлі гандлёвыя ўзлаўі. Думаў, што ўжо не давядзецца пабыць у Вільні, прайсціся знаёмымі сцяжынкамі. Аж Бог дазволіў. Вільня — Мекка беларускае душы, калыска духу крывіцкага. Добра, што мала яна пабыла ў руках камуністаў, асабліва маскалёўскіх камуністаў. Хоць захавалася.

Вечар у Саюзе пісьменнікаў. Надзіва шмат народу прыйшло. Шмат знаёмых, але пасівелых, як першаснегам запыленых сяброў. Карчаўскас[6], як сівавусы паганскі бог. Амаль увесь узімелы Дрылінга. Мой залаты

---

[1] Ядвігін Ш. (сапр. Лявіцкі Антон Іванавіч; 1869–1922), беларускі пісьменнік і крытык.

[2] Сыракомля Уладыслаў Францішак (сапр. Кандратовіч Людвік; 1823–1862), беларускі і польскі паэт, празаік, публіцыст.

[3] Аляхновіч Францішак Каролевіч (1883–1944), беларускі драматург, празаік, паэт, публіцыст. Быў рэпрэсаваны.

[4] Пілсудскі Юзэф Клеменс Гінятавіч Касьчэш (1867–1935), польскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Першы кіраўнік адроджанай Польскай дзяржавы, заснавальнік польскай арміі.

[5] Кунцэвіч Іезафат (свец. Іван; 1580, Украіна — 1623), уніяцкі царкоўны дзеяч. Забіты ў час Віцебскага паўстання (за «гвалтоўны ўціск чалавечага сумлення» — Л. Сапега). Каталіцкі святы (1867).

[6] Карчаўскас Мікалас Антано, літоўскі паэт.

сябра Альгімантас Балтакіс, здаецца, не пастарэў. Па-ранейшаму амаль штотыдзень кідае паліць. Мяняе сваю пяціпакаёвую на двухпакаёвую, але 68 метраў. Гэта кватэра цяперашняга ўрадоўца, а пры камуністычным рэжыме таксама буйнага чыноўніка, які атрымаў кватэру, пабудаваную напрыканцы рэжымам для палітэліты. Урад Літвы праяўляе ўсё-ткі клопаты пра пісьменнікаў і вучоных, пра інтэлігенцыю. […] Цікава, што Ніл дапяў, каб яго выдалі на дзвюх мовах. […]

*6 мая, субота*

Сняданне ў гатэлі «Драўгістэ». Амаль як у Эўропе. Толькі калі галіўся, чую — нешта капае з ракавіны ўмывальніка, зроблена ўсё ў Савецкім Саюзе. Гэта як з лыжачкай на Кубе. Савецкая алюмініевая, яўна ваенным заводам зробленая, не лезла і гнулася ў кубачак дасавецкіх, дафідэлеўскіх[1] часін.

На Тракай. Сядзіба Тышкевічаў[2]. Тракайскі замак[3]. Васіль жартуе: «Давай купім, — але потым дадае, — шмат давядзецца плаціць за лішнюю плошчу». Караімскі[4] рэстаранчык. Кухня караімская. На развітанне Васіль падымае тост за зялёныя дрэвы Тракая. Выходзіць, ён тут быў, у Тракаі, у дзень свайго саракагоддзя. Прыехаў аўтобусам з Гародні. Памятае ўзроўе, абрыў, на якім сядзеў. Між іншым, па дарозе Васіль сказаў, што ў Нідзе напісаў 5 аповесцяў.

Раніцай, калі зайшоў я ў нумар да яго, сказаў, што ў статуце КПСС быў пункт, з якім знаёмілі, калі чалавек станавіўся членам гэтай банды, дзе абавязаны быў па патрабаванню гэтага пункта спрыяць і дапамагаць і фактычна супрацоўнічаць з КДБ. Хоча пра гэта напісаць. Казаў між іншым, што адчувае сябе бездапаможным пры словах, а цяпер перад вамі выступіць і адкажа на пытанні. Ён сапраўды творца. З намі ў Тракай ездзіў [Сцяпан] Дуж-Душэўскі, сын аднаго з міністраў[5] ва ўрадзе БНР. Сядзеў і за палякамі бацька, і за Саветамі аж двойчы. Як нацыяналіст. Маці дала нейкую тысячу ўрачу турмы, дык хоць скасавалі гады і па стану здароўя выпусцілі паміраць на волю. Калі забіралі бацьку апошні раз, маці сказала, што не будзе па магчымасці на людзях гаварыць па-беларуску, бо

---

[1] Кастра Алехандра Рус Фідэль (1924–2016), старшыня Дзяржаўнага Савета і Савета міністраў Рэспублікі Куба (1976–2008).

[2] У 1626–1640 гг. Януш Тышкевіч (каля 1572–1642) быў не ўладальнікам Тракайскага замка, а ваяводай тракайскім.

[3] Тракайскі замак — помнік абарончага дойлідства 2-й пал. XIV — пач. XV стст. У г. Тракай (Літва; з 1341), адна з рэзідэнцый вялікіх князёў ВКЛ.

[4] Караімы — народ, невялікія групы жывуць ва Украіне, Літве, Польшчы.

[5] Дуж-Душэўскі Клаўдзій Сцяпанавіч (1891–1959), беларускі і літоўскі грамадска-палітычны дзеяч. Аўтар эскіза бел-чырвона-белага сцяга (1917). Быў неаднойчы рэпрэсаваны і савецкімі, і фашысцкімі ўладамі.

бацька забраны як беларускі нацыяналіст, дык і нас яшчэ заберуць. Але ўсё-ткі, калі нікога дома не было, гаварылі па-беларуску. Дуж-Душэўскі лепей за ўсё ведае літоўскую мову. Па-беларуску не можа запомніць месяцы. Калі прыйшлі да яго й папрасілі ўключыцца ў беларускую дзейнасць, спачатку падумаў, ці не зноў КДБ. Але ён трэба для беларускай справы ў Літве як найвыдатны знаўца літоўскай мовы і ўсяго літоўскага. Бацька часта казаў, што самы галоўны вораг беларусаў — палякі, але й маскалі не меншыя ворагі. Літоўцаў ён выводзіў ад слова *люты*. Бо характарам ліцьвякі (як казала мама мая заўсягды) суровыя, нават лютыя. Мне таксама распавядаў Дуж-Душэўскі, што ёсць тэорыя: беларусы — аславяненыя скандынавы. І воблікам, і ростам. Узяць побач тых жа палякаў — драбната. Пра расійцаў и казаць няма чаго. [...].

На вечарыне мне прыемна было падарыць кветкі дачцэ Зоські Верас[1]. Тая ж панавітасць, тая ж годнасць, тая ж беларускасць. Між іншым, Васіль успамінаў, як яго ў свой час у Берліне вадзіў у кіно нямецкі партфункцыянер. Пайшлі. Порна — нельга, сексуальна — нельга. Давай, кажа, на гэты сеанс. Васіль бачыць, што аўтар сцэнарыя чэх-эмігрант. Пачаўся фільм. Антысавецкі. Пра ўвод войска савецкага[2]. Функцыянер пачаў круціцца: «Пойдзем. У мяне пільная справа». Васіль на сваім стаіць: «Застануся». І дагледзеў фільм сам.

Ідзём у Тракаі. Васіль глядзіць на азярко. Кажа: «Зусім не розніцца ад азярка, што ў Германіі, толькі германскае болей дагледжанае і ўнутры, і навокала. Мне, кажа, дужа ўтульна, спакойна духу майму ў Эўропе, у той жа Германіі, тут у Літве. Усё-ткі, відаць, адсюль душа паходзіць, па генах передалося. Азія, Усход мне не імпануюць, я сябе там кепска пачуваю».

*7 мая, нядзеля*

На юбілей да Лены Стральцовай. Былі й ветэраны. Адным на 50-годдзе Перамогі далі коўдры, іншым прасціradлы. Мне прыгадваецца, як у 84-м годзе ў Штатах чытаў інфармацыю пра, здаецца, Анголу, якая адзначала трох ці колькі гадоў юбілей рэвалюцыі[3] і на адзначэнне пайшоў гадавы бюджэт. Ехалі нават на сланах і чамусьці ў пыжыкавых шапках. [...] А мне баліць душа, бо паўсюль у Літве гучыць літоўская мова, ад малога

[1] Войцік Галіна Адамаўна (1927–2007), педагог і мовазнавец, дзеяч беларускай культуры ў Літве; выкладчык нямецкай мовы. Кандыдат філалагічных навук (1963). *Верас* Зоська (сапр. Войцік Людвіка Антонаўна (1892–1991), беларуская пісьменніца, грамадска-культурніцкая дзяячка. Жыла ў Вільнюсе.

[2] Маецца на ўвазе ўвод войскаў СССР, НРБ, ВНР, ГДР і ПНР у Чэхаславакію ў жніўні 1968 г. з мэтаю прадухілення перамены дзяржаўнага ладу.

[3] Народны рух за вызваленне Анголы ад каланізацыйнай улады Партугаліі завяршыўся абвяшчэннем Народнай Рэспублікі Ангола ў 1975 г.

да сівога. У нас ніколі, відаць, не будзе толку. Бо паміж двух ваўкоў цяжка ягняці сваю шкуру захаваць. Ці абстрыгуць, ці аблупяць.

* Дамініка: «Могуць быць на галаве кароткія, даўгія, *лысыя* валасы… Верабей-карабей, чорных птушак чарадзей».

*8 мая, панядзелак*

Сойм БНФ. Зянон добра сказаў, што люмпены мысляць і ўспрымаюць міфалагічна, міфалагічная свядомасць, усё ўспрымае люмпен падсвядомасцю, падкоркай, а мы розумам. Таму й КДБ — інтэлект КПСС і працуе над падсвядомасцю люмпенаў, люмпенізуе грамадства. Фашызм расце з натоўпу, з люмпена. Ідзём з Васілём з сойма, праводжу яго да метро, як заўсёды з сур'ёзным тварам, і кажа: «Вось Кулік з Полацка добра ў сваю перадвыбарчую праграму ўнёс пункт за згвалтаванне — кастрыраваць, лягчыць. А каб які кандыдат унёс прапанову, што ён знішчыць усе дасье, усю картатэку стукачоў. Прайшоў бы трыумфальна». Учора раніцай званю, пытаюся, чым займаецца, а ён кажа, што адбіваецца ад званкоў. І шмат такіх: «Я хачу да вас забегчы». Васіля дабіваюць і злосцю, і любосцю. «Вылучна беларускі»[1].

*9 мая, аўторак*

Прыйшло ў галаву: і расійскія, і савецкія, яны ж зноў, расійскія, военачальнікі, правільна называліся палкаводцамі, бо палкай вадзілі ў бой. І герой КДБ Арлоўскі[2] таксама палкаводзец — палкай заганяў на працу шчаслівых савецкіх прыгонных — калгаснікаў.

Зайшоўся да Навума. Там усе чакаюць, што пазвоніць Бора Забораў з Парыжа. Раптам міжгорад. Усе кінуліся. Навум крычыць: «Бора», — і доўга гаворыць. Сурскі[3] просіць напомніць, што трэба выстава Барыса ў Менску. Нейкая дама з прыгожымі яўрэйскімі вачыма просіць напомніць пра яе, маўляў, Бора яе не забыўся. Сурскі падыходзіць да трубкі, хоча пагаварыць. Выявілася, што Бора, але не Забораў і не з Парыжа, а з Бабруйска. А ў Боры выстава ў Маскве. Ён, як сказаў Сурскі, забараніў ягоныя творы грузіць і перавозіць былым савецкім грузчыкам — толькі з капкраін грузчыкі. У любым яўрэі савецкага разліву сядзіць комплекс «цёця Сара старшы эканаміст, а Маркс проста эканаміст». Гэта не выведзеш ніякім французскім каньяком, ніякімі «шанэлямі». «Хоць ціха»[4].

---

[1] Гл.: Вылучна беларускі (8.05.95) // Ксты. С. 80. Верш прысвечаны Р. Сітніцы.

[2] Арлоўскі Кірыл Пракопавіч (1895–1968), савецкі гаспадарчы дзеяч. Герой СССР (1943), Герой Сацыялістычнай Працы (1958). У 1942–1943 гг. камандзір спецатрада НКДБ СССР «Сокалы», з 1944 г. старшыня калгаса «Рассвет»; дэпутат ВС БССР і СССР.

[3] Сурскі Алег Аркадзьевіч (1928–2012), беларускі дызайнер, мастак, мастацтвазнавец.

[4] Гл.: Хоць ціха (9.05.95) // Ксты. С. 195.

*10 мая, серада*

Лятучка. Вясёлага мала. Выдавецтва, як «Тытанік», спакойна йдзе на дно. Нашую рэдакцыю перасялілі[1]. Трэба пакой міністэрству. Паступова выжываюць. [...]. Па тэле фільм «Дзеці хлусні». Памыі на БНФ. Падтасоўка фактаў. Сваіх не паказалі. На мітынгу ля опернага першы выступаў Ніл. Яго не паказалі. Паказалі Пазьняка, Статкевіча[2], Навумчыка і Трусава. Аж я пачаў яго паважаць. [...]. Па тэлэрадыё вёў брудную перадачу [...] Пашкоў. Вядома, Савіцкі Міх., Барысевіч[3], Жураўскі і ўся шаць. Юды! А ў падоначным фільме прымітыў адрасаваны люмпену. Заглынуць. Мастацкую выставу каментуе сынок Савіцкага [...]. Тэкст надрапаў і чытаў расійскі [...] Гасцюхін. На чорна-белым кіно і белыя павязкі ў паліцаяў з чорнай палоскаю здаюцца, асабліва калі іх падагнаць яшчэ й тэкстам, як бел-чырвона-белыя. Пра Курапаты таксама, што зноў замежных яўрэяў немцы расстрэльвалі. Нейкі кэдэбісцкі прыспешнік паказвае залаты ланцужок з кулонам, яўна ўзяты ў ювелірным ці з паліцаў КДБ. [...] Шаранговіч [...] стойку вытрымаў. Помнік так і не пастаўлены. Ніл заваліў гімн. Думаў, што сам будзе аўтарам. Цяпер пра нармальны гімн [...] й казаць не даводзіцца.

*11 мая, чацвер*

Па «Свабодзе» слухаў Жданко[4]. [Лукашэнка] даў інтэрв'ю Міхніку. Пра Васіля, што ён нацыянал-фашыст. Але [Лукашэнка] гатовы з ім супрацоўнічаць. [...].

Засядаў у Фондзе сем Сораса. Тэатральныя праекты. На рабоце Ганад Бадрыевіч знайшоў «жучка» ў маім тэлефоне[5]. Берыеўцы нашчадныя ў спакоі мяне не пакінуць.

---

[1] Толькі рэдакцыю Р. Барадуліна невытлумачальна неаднаразова перасялялі з пакоя ў пакой, а то і на іншы паверх.

[2] Статкевіч Мікалай Віктаравіч (н. 1956), беларускі вайсковец у адстаўцы (з 1991), выкладчык, грамадскі дзеяч. Кандыдат тэхнічных навук (1986). Лаўрэат еўрапейскай прэміі «За асабістую мужнасць у абароне правоў чалавека» (1999).

[3] Барысевіч Мікалай Аляксандравіч (1923–2015), беларускі фізік, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1965). Прафесар ( (1967). Член-карэспандэнт АН СССР (1972). Акадэмік АН БССР (1981). Акадэмік Расійскай АН (1991). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1980). Заслужаны дзеяч навукі РБ (1994).

[4] Жданко Валянцін Пятровіч (н. 1964), беларускі журналіст. У 1987–1995 гг. супрацоўнік газ. «Звязда».

[5] У рэдакцыі Р. Барадуліна чарговы раз змоўк тэлефон і супрацоўніцы выклікалі майстра, які і выявіў (пад паркецінай) касету. Жанчыны перадалі яе Г. Чарказяну. Праз паўгадзіны з Камітэта па друку да Чарказяна прыйшоў «завхоз», каб яе забраць. Але касету нібыта ўжо выкінулі (*заўв. Н. Давыдзенка*).

*12 мая, пятніца*

«Круглы стол» ПЭН-цэнтра з нагоды абароны Герменчука[1] ад [Лукашэнкавага] гневу. Паэма пра Луку Мудзішчава. Цікавае становішча ў суддзяў, што, значыць, яны прызналі [Лукашэнку] Мудзішчавым. І высока ж яны цэняць [...] усенароднага ізбраннага. Гэта нагадвае анекдот пра Хаймовіча. «Ва ўрадзе дурні», — сказаў Хаймовіч. За яго і ў КДБ. «У якім урадзе дурні, Хаймовіч?» Адказвае: «У амерыканскім». — «Хаймовіч, ідзіце». Зачыніў дзверы, потым зноў адчыніў, запытаўся ўжо ён: «А вы падумалі — у якім урадзе дурні?»[...]. «Академия сильна...» [у дзённіку].

Спытаў Разанава, чаму не далі ўспаміны пра Караткевіча. Бы[ццам] не назбіралі матэрыялу на постаць. А першую постаць далі Вярцінскага [...].

*Парада*

Хоць на нервы слаб інтэлігент,
Трэба, каб не стацца імпатэнтам,
Марна лоб не разбіваць ушчэнт
І не мітусіцца пад кліентам.

Васілю напісаў на «Эвангеллі ад Мамы»:

Ад прасавечанай начы,
Ад падкалодных сыкаў
Тры слова буду берагчы —
Бог, Бацькаўшчына, Быкаў!

Званіў Элькін[2]. З Ізраіля прывёз групу на [...] ветэранны шабаш. Распавядаў, як у Ізраіль прыехалі іудзеі з Йемена. У кожнага па 3–4 жонкі. А дапамогу даюць толькі на адну. Паехалі назад.

Цікава Конан заўважыў, што ўезд Ісуса на аслянятку — гэта парадыраванне, блазнаванне пышных уездаў зямных правадыроў.

*13 мая, субота*

Сяджу й перадрукоўваю вершы. Занятак марудны, марны, нудны. Прыйшоў нумар часопіса турэцкага ПЭНа. На вокладцы лубок. Дальбог жа, мазанкі белыя ў нашых суседзяў украінцаў ад туркаў, як і шаравары. І характар. «Сарока навіны нясе на хвасце...»[3].

---

[1] Гермянчук Ігар Іванавіч (1961–2002), беларускі журналіст, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Дэпутат ВС РБ 12-га склікання (1990–1995). З 1991 г. гал. рэдактар газ. «Свабода» (у якой была надрукавана паэма).

[2] Магчыма, Элькінд Сямён Саламонавіч, былы супрацоўнік СП БССР.

[3] Гл.: «Сарока навіны нясе на хвасце...» (13.05.95) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. Менск: Выдавец Ігар Віркоўскі, 2013. С. 26.

*Па-свойму*

Па-свойму кожны ўчынкі чыніў.
У Ноўгарадзе крыжакам ў дагоду
Вароты Івашка Шваль адчыніў,
Імя сваё даўшы бязроднаму зброду.
Раней аніяк іх не называлі,
І сталіся ўраз імяннаю шваллю.

*14 мая, нядзеля*

Хадзіў галасаваць. Усіх выкрасліў, за выключэннем Заблоцкага. Хоць адзін чалавек прыстойны. Участак змрочны ў так званым навуковым інстытуце. Гэта адзін з блізкіх кропак ВПК. [...]. Люмпен радуецца, што з ім [Лукашэнка] раіцца.

«На слых», «Мёд — жмот»[1].

*15 мая, панядзелак*

Поўны трыумф (Лукашэнкі). [...]. Званіў Васілю. Ён: «Беларуская нацыя — мазахістка, адчувае асалоду ад пакутаў». Народ стаў абстракцыяй. Дзе гэты народ? У калгасе — гэта не народ, няма, у горадзе — няма, у мястэчку — няма народа. Камуністычная хунта ўсё вынішчыла. Але колькі я глядзеў, асаблівай радасці ў людзей няма [...].

*16 мая, аўторак*

Кангрэс беларусістаў свету. У Доме настаўніка. Чырвоны фон. Ні Пагоні, ні сцяга. З мейсца з задніх лаў я па-студэнцку выгукнуў: «Дзе Пагоня, што тут за камуністычны шабаш?» Праз колькі часу з'явілася выява Эўфрасінні Полацкай. Усё спецыяльна прадумана [...]. Шмат якія спонсары ў апошні момант адмовіліся падтрымаць. Мальдзіс дыпламатычна не з'явіўся. [...]. Ніл як заўсёды ў першых шэрагах у прэзідыуме. [...]. Гімн заваліў, а болей ад яго [...] й не чакалі. Надзіва амаль смела выступіў Радзім Гарэцкі. Можа, усё-ткі дзядзьку згадаў. Дый ён не гуманітарый. Замест прафесара, як яго на гэты раз шанавалі, трос барадой, старшыннічаў Рагойша. Дужа асцярожна казаў, але таксама не дагодзіць [...] й акадэмікам наўрад ці будзе. Прыйшоў святар Ян Матусевіч[2]. Падаў я запіску Рагойшу, каб аб'явілі й запрасілі ў прэзідыум. Рагойша параіўся з Радзімам, а потым даў слова праз колькі чалавек. Айцец Ян неяк прыткнуўся

---

[1] Гл.: На слых (14.05.95) // Ксты. С. 285. Таксама гл.: Мёд — жмот (14.05.95) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 27 адваротная.

[2] Матусевіч Ян (1948–1998), беларускі рэлігійны дзеяч; праваслаўны святар, у 1979 г. перайшоў у каталіцтва. У 1990–1993 гг. пробашч касцёла 1-й Мінскай грэка-каталіцкай парафіі св. Язэпа.

ў прэзідыуме пасля добрага выступу. Калі б [...] Філарэт быў, дык у цэнтр пасадзілі б і з правай рукі сядзеў бы Ніл. А так айцец Ян уніяцкі святар. Камуністам не падарожны. Дзінглі[1] добра сказаў: «Як цяпер у Англіі прапагандаваць Беларусь, калі яна сама адмаўляецца ад свае мовы». Ужо было нешта наладзілася. Беларускай мовай зацікавіліся бізнесмэны. Але цяпер будзе адыход. [...]. У сярэдзіне травеня ўся прафесура ў Амерыцы якраз занятая да 22-га. Гэта зрабілі, каб меней прыехала.

Пайшоў на працу. [...]. Над будынінай ЦК [...] нейкі час быў бел-чырвона-белы, потым голая жардзіна [...]. А над Домам урада яшчэ бел-чырвона-белы. [...]. З якой лагодай і радасцю было мне бачыць бел-чырвона-белы. Ён родны, бо спаконвечны, бо крывіцкі, бо панавіты, бо эўрапейскі. Пра Пагоню ўжо й казаць не даводзіцца. Яна скакала з сівых вякоў, з Вялікага Княства Літоўскага, каб Беларусь сучасную акрэсліць Дзяржавай, правапераемніцай, спадкаемкай княства, а не рэспублікі з бальшавіцкай крывавай рукі. Але, думаю, што моладзь усё-ткі запомніць і не забудзе нашыя святыя сымбалі. І як знак на пратэст будзе насіць і значкі, і сцягі. Бо калі БНР пратрывала мала, калі пры немцах для культурных імпрэз дазвалялася сымболіка, таксама мала, дык пры пасляімперскай нагодзе сымболіка запала ў сэрцы беларусаў, шмат каго з [...]-люмпенізаваных зрабіла свядомымі беларусамі, наколькі ім дазвалялі прасавечаныя мазгі, рэштка таго, што па ідэі мазгамі называецца. Можа, [Лукашэнка] нам дадзены небам, каб згуртаваць беларускую масу ў народ [...]. Вечарам званіў Васілю. У яго Кармілкін. Кармілкін сказаў, што а чацвёртай гадзіне Ціцянкоў[2] [...] ірваў бел-чырвона-белы й раздаваў аўтографы, выходзіць, і распісацца ўмее. Усё без закона. Без указа. [...]. «Белыя слёзы»[3]. [...].

*17 мая, серада*

Забег раніцай на Кангрэс беларусістаў, перадаў праз Каляду кніжкі Веры Рыч і Вітаўту Кіпелю. Відаць, не скора давядзецца бачыцца з імі, бо [Лукашэнка] можа й жалезную заслону павесіць. [...] На працы, як на магільніку, калі чакаюць чарговую труну. Каб трохі адцягнуць увагу ад суму й роспачы, перакладаў класічных в'етнамцаў.

---

[1] Дынглі Джым (н. 1942), англійскі русіст і беларусіст, выкладчык Лонданскага ўніверсітэта. Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

[2] Ціцянкоў Іван Іванавіч (н. 1953), беларускі дзяржаўны дзеяч. Дэпутат ВС РБ 12-га склікання (1990–1995). У 1994–1999 гг. кіраўнік Упраўлення справамі прэзідэнта.

[3] Гл.: Белыя слёзы (16.05.95) // Босая зорка. С. 98.

*18 мая, чацвер*

У Дом настаўніка. Перадаў Найдэну Вылчаву[1] Шагала[2]. Заадно навёў яго на Хрыста Бекрыева[3], буйнейшага й апантанага знаўцу творчасці Марка Шагала. У Балгарыі таксама не трэба ні вершы, ні проза. Калі дзе й удаецца надрукавацца, плоцяць смех. Пенсія ў Найдэна — долар на дзень. Вядома, гэтага мала. Сацыялізм скончыўся.

На кінастудыі глядзеў фільм «На чорных лядах». Гэта для беларускае эліты, якая, можа, некалі будзе. Галоўнае, каб не паклалі на паліцу. Законнікаў хварэе крыху машэраўскім цецеручызмам. Пачаў даказваць, што й ворагі будуць глядзець. Кіраўніцтву трэба ўводзіць у вушы, што гэта псіхалагічны фільм, без расшыфроўкі ідэі. А то прыязджае расійскі [...] Бора [Ельцын] купляць бясплатна Беларусь.

*Не можа*

Не можа звацца элітаю
Ні нават проста народам
Збаўтаная маса, якая блытае
Каналізацыю з водаправодам!

[...]

*19 мая, пятніца*

[Малюнак.] Гэта мне Дамінічка распачынала запісную кніжку сваімі малюнкамі. Сонейка мае вочы, яно добрае, калі й не усміхаецца. Бог адзін, ён доўгі. Лётаюць над дзьмухаўцамі матылькі.

Сёння хадзіў да Васіля на абед. Васіль прымаў Найдэна Вылчава. У Балгарыі прыгажавітыя паэткі прыносяць спонсарам рукапісы, кава, танцы, таршэр — выдаецца кніга маланкай на лепшай паперы. Прэзентацыя. Хвалебная крытыка. Затурканая Балгарыя йдзе храпа ў храпу з паняй Эўропай. Васіль распавядаў, як яго ў свой час на мытні ў Унгенах [Малдавія] трымалі да затрымкі цягніка, а ў гэты час ягоныя рэчы [...] вынеслі з вагона. Потым вярнулі. Пасажыры думалі, што яго высадзілі. Болей за месяц у Унгенах Васіль стаяў у вайну. Выйшлі праводзіць Найдэна. Мая Кляшторная[4] сустрэлася. Фота з Літвы. Васіль даў Найдэну фота

---

[1] Вылчэў Найдэн (н. 1927), балгарскі паэт, перакладчык, эсэіст, журналіст. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (2000).

[2] Шагал М. Паэзія. Мінск, 1989. Пер. Р. Барадуліна і Л. Берынскага. (Малафарматнае выданне.) *Берынскі* Леў Самуілавіч (н.1939), рускі і яўрэйскі паэт, перакладчык.

[3] Бекрыеў Хрыста Недзеў (1942–2000), балгарскі паэт.

[4] Кляшторная Мая Тодараўна (н. 1937), беларускі архітэктар; дзеяч нацыянальнага адраджэння. Навуковы кіраўнік грамадскага праекту ўзвядзення ў Курапатах памежных

з Пазьняком. «Хай у цябе будзе фота будучага прэзідэнта». Я праводзіў Найдэна да пасольства.

*20 мая, субота*

Аляксею Каўку[1] ў Нацыянальную бібліятэку занёс кніжкі. Яго не застаў, перадаў праз бібліятэкарку. Хаця б перадала. Аляксей заняты да затуканасці. Напісаў верш на развітанне з бел-чырвона-белым і Пагоняй. Да няхуткай сустрэчы. [Лукашэнка] яшчэ малады. Можа яшчэ патрымацца [...].

«Не быць!: Не чуцьме гісторыя...» [у дзённіку]. У 37-м і вершаў не пісалі. І мы маўчым і ненавідзім. Незайздросная доля нацыянальнай інтэлігенцыі [...].

*Мы людзі такія*

*Аляксею Каўку*

Ад торбы да кія
Кароткая сцежка.
Мы людзі такія —
Нас грэе й суцешка.

Сваё не баронім,
Не прагнем чужога.
І ў граі варонім
Узгадваем Бога.

Блукаем аблудна,
Ганьбуем Радзіму.
Нас вэндзяць марудна,
Мы ўдзячныя дыму.

Выгнанец-тужынец
Прачнецца ў застудзе.
Нас хваліць чужынец:
Рахманыя людзі!

Апроч дамавіны
Хапае спакусы.

камянёў. Дачка Т. Кляшторнага. *Кляшторны* Тодар Тодаравіч (1903–1937), беларускі паэт. Рэпрэсаваны.

[1] Каўка Аляксей Канстанцінавіч (н. 1937), беларускі гісторык, архівіст, літаратуразнавец, перакладчык, грамадскі дзеяч (Масква). Доктар філалагічных навук (1991). Ураджэнец Беларусі.

Мы выжыць павінны,
Бо мы — беларусы!

*21 мая, нядзеля*

Перадрукоўваў, шукаў, знаходзіў і губляў вершы для зборніка — «дурноты» й налепкі. Частка спазнілася. Што ўстарэла, а што, відаць, не пусцяць. Бо, вядома ж, [Лукашэнка] цэнзуру ўвядзе як не проста, дык ускосна.

«Паказаў»[1]. «Стукачоўка: Стукнемся з табой, кумок…», «Парламенцкая: Улада — шчодрая шынкарка…» [у блакноце].

*22 мая, панядзелак*

Назіральная рада Фонду Сораса. Сярэдзіч[2] хоча новую газету выдаваць. І загаловак ёсць — «Народная воля». Наіўны трапятун. [Лукашэнка] і гэтую да рук прыбярэ ці закрые. […]. Усе наўкол ходзяць, як у га.но ўступіўшы. Маўчаць. Дзівіліся з тых, хто пад Сталінам жыў, абураліся. Усё лёгка пасля. Люмпен за [Лукашэнку]. Люмпен у нас асноўная маса. У бальшавікоў нездарма галоўны вораг нацыяналізм, нацыянальная ідэя. Яны так і не дазволілі, бо ўлада пасля Кастрычніцкага перавароту была ў іхніх руках, скласціся беларускай нацыі натуральна. Цяпер і маем […] й сваіх […] без роду-племені. Бальшавікі паскоранымі тэмпамі й пад іншымі папулісцкімі лозунгамі праводзілі палітыку вялікадзяржаўнага шавінізму. […].

[Назвы водкі:] Інтымная, Усенародная, Імпатэнцкая, Ббрр, не ўдакладняе.

*23 мая, аўторак*

Цэлы дзень сядзеў дома, дабіваў рукапіс «З чорным катом на плячы». Шмат якія вершы спазніліся, бо цяпер вяртанне разводдзя ў сухарэчышча імперыі. Вядома, усё зменіцца, але мы не вечныя. Можа, Дамінічка пажыве ў нармальнай дзяржаве, у беларускай дзяржаве. Пралетарыяту няма чаго губляць, акрамя ланцугоў. Дадавілі звычайна сваіх. Калі б яны былі з каляровых металаў, дык […]-люмпены здалі б іх на пляшку.

*24 мая, серада*

Лятучка. Загад міністра скараціць выданні па многіх выдавецтвах. Скарочаны ўсе кнігі, дзе хоць трошкі пахне нацыянальнай ідэяй. Рабочы, які ставіў тэлефон, і той сумна зазначыў: «Які народ, такі й урад». Дзядзь-

---

[1] Гл.: Паказаў (21.05.95) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 25 адваротная.

[2] Сярэдзіч Іосіф Паўлавіч (н. 1949), беларускі журналіст. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання, адначасова гал. рэдактар парламенцкай «Народнай газеты».

ка са Случчыны. Разважае правільна: «[Лукашэнку] падтрымала Масква, цяпер трэба аддаваць даўгі Беларуссю».

*25 мая, чацвер*

Экспертная група Фонду Сораса засядала. Вырашылі падтрымаць беларускія часопісы. Усе сябры шчырыя беларусы. Гэта добра. Бо хто толькі не лезе з праектамі, асабліва наплываюць прарасійска-камуністычныя людзі на падхопе. Чаго толькі не прапануецца.

Званіў Васілю. Стаміўся ён ад інтэрв’ю й сустрэчаў. Мне параіў: «І на пенсіі трэба працаваць. Бо на працы нешта хоць плоцяць, а на пенсіі працуеш за так на ўсіх». Прыйшлі чацвёртыя «Маладосць» і «Полымя». Як ні крыўдна, гэта часопісы ўчарашняга дня. «Полымя» хоць ратуе Васіль развагамі франтавіка ды Сяднёў[1]. У ім, дарэчы, былы […] зноў за пяткі кусае. Хай бы хоць калі якога Ніла ўкусіў. Не. […] «Salvāvi animam meam»[2].

* Дамініка пра Мірона: «Кот спіць, як п’яны. Бачыш, як выдаўжыўся. У яго вочы такія юныя… Мірон сядзіць граматна».

*26 мая, пятніца*

У прэсе ёсць, што па творчасці Быкава пройдуць навуковыя чытанні ў Канадзе й Амэрыцы. Будуць гэтыя даклады выдадзеныя на ангельскай мове. Званіў Васілю. Ён гэта ведае. Зайшла размова пра нападкі на БНФ, што, маўляў, не гнуткая палітыка. Васіль і кажа: «Гэта каб Зянон прыняў пастулат, што палітыка — брудная справа й пачаў несці несунесіцу. Можна, для прыкладу, паабяцаць, што стукачам падвоіцца пенсія. Расія праз Лубянку, праз праленчаныя камуністычныя структуры трымае нас, як тых зайцоў у мяху, дзе толькі маленькія дзірачкі-вочкі, каб не затахліся й бачылі, што ў некага там, на волі, светлы дзень».

*Не раюем*

Ты думаеш, мама,
Што я тут раю.

*З народнай песні*

Мы ўсе не раюем.
Мы смачна пеклімся
Ў жыцці штодзённа-надзёным.
Мы толькі й жывем што ў снах.

---

[1] Сяднёў Масей (Майсей Ларывонавіч; 1913–2001), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны (1936), у 1940 г. прывезены ў Мінск на перагляд справы. Апынуўся на волі. У 1943 г. выехаў у Германію, у 1950 г. у ЗША.

[2] Гл.: Salvāvi animam meam (25.05.95) // Ксты. С. 222.

Час пакеплівае няздзекліва
Чупрыністым маладзёнам.
І кожны дзень, як манах.

Анёлы й нячысцікі
Прыглядаюць за намі.
Падступнасць кросны снуе.

Мы ў прышлы дзень
Узіраемся снамі.
У снах мы самі свае.

*27 мая, субота*

Цяжка пераношу пераход ад спёкі да холаду й наадварот. Чытаў Мантале[1], каб крыху супакоіцца. Успомніўся вушацкі выраз:

*З Нітавы*

Вушацкія некалі хадзілі ў Нітаву,
Гэта значыла — на заробкі.
Пазней давялося мне
Наведаць латышскае
(Мама звычайна казала: латыськае),
Па-балцку прыхаенае места — Мітаву.
Мітава — ці таму, што як і латышы,
Ніколі надта не мі'талася,
А можа, яно апекавалася мітамі.
А да малога мяне дайшоў
Расповед пра тыя часіны,
Калі вушацкі заробшчык
З Нітавы вяртаўся ўлегцы.
Заробшчыка гэнага
З аплюхлаю торбачкай
Здалёку бачылі.
Верабей: — Чый такі? Чый такі?
Свіння: — Вох які! Рох які!
Сабака, нюхам пачуўшы,
Што прахварэў небарака:
— Прыпухаў! Прыпухаў!
Бугай дадае: — На булках! На булках!
Певень: — А хрэн пры-нё-ё-с-с! —
На ўсё наваколле галосіць,
Галапятае рэзюмэ выносіць.

---

[1] Мантале Эўджэніа (1896–1981), італьянскі паэт, крытык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1975).

Цяпер, вяртаючыся дадому,
Ступаю памалу, слухаю
Каб верабей.
Каб бугай.
Каб певень.
Радыё глухавухае на слупе
Снедае, палуднуе ды вячэрае
Апошнімі паведамленнямі.
Мястэчка маўчыць і сапе.
Бліскавіца на свой зіхлівы аршын
Похапкам мерае неба шэрае.
Ні малення.
Ні здзіўлення.
Ні дымлення.
Ні маўлення.

[Тэкст верша ўдакладнены па чыставіку.]

*28 мая, нядзеля*

Хадзіў на выбары. Засталося дваіх — Заблоцкі й Ганчар. З намі хадзіла Дамінічка. Ёй дужа хацелася на выбары. Слова, відаць, незразумелае ці зразумелае па-свойму. Мы з Валяй, вядома, за Заблоцкага. Дамініка гэтыя палітычныя фанцікі ўкінула ў урну. Гучыць, наогул, як урна з прахам. Па дарозе Валя затрымалася з нейкай знаёмай старой. Тая: «Заблоцкі ж яўрэй». Камуна-кэдэбістам то яўрэі шкодзяць, то патрэбныя як Троцкі, як Урыцкі[1], як сын юрыста (Жырыноўскі). Валю праводзіў у Дуброўна да Веры[2]. У метро на рэкламах у знаку БНФ з *Ф* зроблена свастыка. [...]

*29 мая, панядзелак*

Занёс «Налепкі» (на пляшкі) ў «Вожык» Блакіту. Ён таксама, як і ўсе амаль заангажаваныя пэўнай арганізацыяй, незадаволены палітыкай БНФ і Зянонам увогуле й канкрэтна. Новы віток цкавання рыцара Беларушчыны. У «Народную газету» занёс пра Зуёнка. І сябра маладых гадоў, а дужа амердзіўся мне сваёй рахманасцю й згодніцтвам. Вечарам пасяджанне НР Фонду сем Сораса. Ужо ў экспертах па бібліятэчнай справе Боранька й Лёва Тамільчык[3], актыўны антыбеларусіст. [...]. Куратар з Гомеля, сынок адстаўніка-асадніка. Прарасійскай арыентацыі. На грошы

---

[1] Урыцкі Майсей Саламонавіч (1873–1918), дзеяч расійскага рэвалюцыйнага руху з 90-х гг. XIX ст. Юрыст. Старшыня Петраградскага ЧК.

[2] Смолікава Вера Фёдараўна, дваюродная сястра В. Барадулінай.

[3] Тамільчык Леў Мітрафанавіч (н. 1931), беларускі фізік-тэарэтык. Доктар фізіка-матэматычных навук (1980). Прафесар (1985). Член-карэспандэнт АН БССР (1989).

Сораса [выдаюць ...] «Школьную газету» ўсю па-расійску, у дадатак да ўсяго з выпадамі супроць Беларусі, супроць нашай мовы [...].

*30 мая, аўторак*

У Купалаўскім музеі забраў фота. Добра, што хоць там працуюць апантальніцы, мілосніцы крывічаншчыны. Толькі, відаць, бронзавы Янка Купала й застанецца непахісным беларусам на гэтай [...] зямлі. [...]. На працы галоўбух, нашая чароўная Галя[1], сказала, што ў Мінфіне ў жаху: у казне пуста. [...]. Ёсць плёнка, дзе [... Ціцянкоў] шматуе наш святы бел-чырвона-белы й дае аўтографы, кідае: «Пускай задушится БНФ». [...] «Душна»[2].

*31 мая, серада*

Сазвоньваўся з Вушачай. З Кірпічам[3]. Наконт тэмы для дакументальнага кіно. Ёсць двое майстроў умельцаў, дык наезджыя. Навошта набрыдзь. Яшчэ, відаць, і па-беларуску не захочуць гаварыць. Спыніліся на жанчыне Соф'і Рыгораўне Гайдук — дываны, ткацтва, вышыўка, вязанне. Умоўны загаловак «І тчэ, забыўшыся, рука». Званіў Васілю. Шустры хлопчык Залозка браў інтэрв'ю яшчэ. Васіля насцярожылі пытанні пра Зянона [...]. Яго чамусьці зацікавіла, чаму Васіль сябруе са мной. Васіль, даўшы ацэнку мне як паэту, яшчэ падкрэсліў: «Галоўнае, Барадулін не стукач. Чаго нельга сказаць пра шмат каго». Васіль казаў: «Цікава, ці дасць гэта Залозка. Яшчэ на магнітафон запісаў яму пра КДБ. Хай хлопчыку будзе». «Самі»[4].

Наконт Васілёвага фільма на кінастудыі, відаць, план пасткі. Разбіць і рэжысёра, і сцэнарыста і Цвяткова на мейсца паставіць, бо ён жа фільм пра Кебіча рабіў [...]. Гляджу кавалак перадачы з [...] Эльдарам Разанавым[5]. Тут жа й [...] Гафт[6], і Белачка[7] [...]. Плачуць, што заклятыя эстонцы не хочуць зрабіць музей Додзіка Самойлава[8]. Бачце, да яго Пярну быў невядомы. Толькі Додзік даў яму ймя. [...]

---

[1] Кажарына Галіна Канстанцінаўна, гал. бухгалтэр выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Гл.: Душна (30.05.95) // Ксты. С. 332.

[3] Кірпіч Мікалай Мікалаевіч (н. 1950), дырэктар Ушацкага дзяржаўнага музея народнай славы імя У. Лабанка (1975–2010).

[4] Гл.: Самі (31.05.95) // Слаўлю чысты абрус. С. 181.

[5] Разанаў Эльдар Аляксандравіч (1927–2015), рускі кінарэжысёр, кінадраматург, пісьменнік. Народны артыст РСФСР (1974). Народны артыст СССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1979).

[6] Гафт Валянцін Іосіфавіч (н. 1935), рускі акцёр тэатра і кіно. Народны артыст РСФСР (1984).

[7] Ахмадуліна Бэла (Ізабела) Ахатаўна (1937–2010), руская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1989), прэміі «Трыумф» (1994), Пушкінскай прэміі (1994), прэміі Прэзідэнта РФ (1998), Дзяржаўнай прэміі РФ (2004).

[8] Самойлаў Давід Самуілавіч (сапр. Кауфман; 1920–1990, Эстонія), рускі паэт, перакладчык.

*1 чэрвеня, чацвер*

Новы месяц. Спёка. Духата палітычная. […]. Андраюк трымае падпісную карэктуру «Аратая, які пасвіць аблокі». Заходзіў запытацца, туманна мне казаў наконт вяртання цэнзуры, толькі ў іншай форме. Відаць, пасля публікацый у «Маладосці» й «Беларусі» нехта стукануў. І цяпер Серафім у дурацкім становішчы. Сам жа падпісваў рукапіс. А што цяпер? Не думаю, што проста дзеля цікаўнасці пераглядае падпісную карэктуру. Хапае й без таго — выдавецтва на парозе клямкі.

* * *

Нябесная задума ці зямная —
Люстэрка даць пранырлівым вачам,
Каб кожны захацеў пабачыць сам
Таго, якім сябе ён уяўляе.

Як ні ўзірайся,
Зблізку ці здалёку,
Не разгадаеш, хто перад табой, —
Двайнік ці следаблыт раўнівы твой,
Ці гэта толькі ашуканства зроку.

Сябе як ні старайся перайначыць,
Паўтораны ў аблiччах марнаты
Гук змроку,
Не даведаешся ты,
Якім цябе Тварэц нябесны бачыць…

*2 чэрвеня, пятніца*

Дамінічка, збіраючыся ў садок, спявае:

Дзяўчына ты, дзяўчына ты,
Дзяўчына дарагая,
Аблій сябе, аблій сябе,
Аблій красой да краю.

А неяк мы з ёй сабраліся есці сала з цыбуляй. Я пачаў: «Будзем есці сала, каб душа плясала». Пасля: «Будзем есці многа», — дадае Дамінічка. Я: «Сала дарагога». Дамінічка папраўляе: «Будзем есці многа сала на дарогу». Рыфмуе не горай ад […] Пашкова.

На працы атмасфера, як быццам чакаюць, калі ўнясуць труну. Нацыянальнае выдавецтва завалена […]. На працы Галіна Дзягілева. Яна ўсёткі паедзе з намі. А то Будзінас […] заўважыў: «Еўтушэнка можа раззлавацца». Актрысы заўсягды нечаканыя ў сваіх парывах. Галя прынесла

мне банан. Вядома, адмовіўся, але сам жэст расчуліў непасрэднай нечаканасцю.

*3 чэрвеня, субота*

Сёння 60 Зуёнку — самаму рахманаму беларусу. Павінен быў выступаць па тэле ў простым эфіры, але спазніўся. І без мяне хопіць выступоўцаў […]. У «Народнай (газеце)» маё слова пра рахманца. Там жа […] інфармацыя, што Еўтушэнка, бачце, згадзіўся ў Віцебск прыехаць. Снизошёл. Аж не хочацца пасля такой інфармацыі ехаць. Спёка расплавіла мазгі. Не ведаю, я ёсць на гэтым свеце ці мяне няма. «Спакайней»[1].

Даўно не было так цяжка на душы. Адчуванне беспрабуднай цемры, калі не крывавай нават. […] Званіў Васілю. Прапанаваў яму на пачатку ліпеня ў Віцебск на Шагалаўскія дні. Не зможа. Едзе ў Нямеччыну, а потым, відаць, у Італію.

*4 чэрвеня, нядзеля*

Даходжу з галавой. Невыносны боль. […] Няма дзе галавы прыхінуць, каб у спакоі хвіліну пабыць. «Fatum»[2].

*Вандраванне*

Павінны віхляць ручаі-вілюны,
Каб іх далячыні не прыдрамалі.
Аседлы самы народ — валуны,
І тыя аднекуль прывандравалі.
Вяртанне вартуючы, тужыць туга.
Да крыўды ў адведкі ідзе дараванне.
Зімее завея. Вуглее смуга.
Цярпенню свідруе нутро вандраванне.

*5 чэрвеня, панядзелак*

Андраюка ўсё-ткі ўгаварыў падпісаць у друк «Аратая, які пасвіць аблокі». Дамінічка мне з раніцы: «У каго вялікае сэрца, той пражыве цэлы свет».

*Як возьме...*

Размову вяду з Дамінікаю,
Яна мне й кажа сакрэт:
— У каго сэрца вялікае,
Той пражыве ўвесь свет...

---

[1] Гл.: Спакайней (3.06.95) // Ксты. С. 211.
[2] Гл.: Fatum (4.06.95) // Тамсама. С. 289.

Адкуль гэты словы таемныя,
Стрыкучыя, як крапіва?
Унучка прыклад дае мне,
Як мусіць варыць галава.

Мая ўжо сваё даварыла —
І думак няхітры булён
Хітрынкай ці кпінай
Засквārвае,
Каб як залагодзіць плён.

Ірзацьме жалю жаробіца,
І хвалю прызнацьме дно,
І сэрца вялікім робіца,
Як возьме ўвесь боль
Адно.

*9 кастрычніка*

*6 чэрвеня, аўторак*

*Віцебск.* У вялікім аўтобусе. Цэлая банда. Віцебск. Каля маленькага Пушкінскага знака (я смяшыў Пятра Ламана[1], што не хапае яшчэ маленькай фігуркі Додзіка Сімановіча, які танцуе «сем сорак») Свята паэзіі. Чыталі пераклады. Дзягілева кавалак «Русалкі». Яўтух [Еўтушэнка] (да яго гонару на памяць прачытаў верш майго любімага Радзіка Лапушына, які ўключаны ў «Вынікі веку»[2]). Потым вечар у Коласавым тэатры. Прачытаў я пару «дурнотаў» і «Працяг вякоў». Гэта пра бел-чырвона-белы й Пагоню. Яшчэ ніколі мне так не пляскалі. Вось табе й рэферэндум. Яўтух, калі чытаў чужое, усё было па-савецку прыстойна. Наогул, савецкая паэзія ў расійскім варыянце шарнірна-гаечная гучыць на слых халаднаватапераканальна. Нацыянальныя паэзіі ратаваліся ад мерцвячыны савецкасці каларытам, мовай. Калі Яўген пачаў чытаць сваё пра развітанне з чырвоным сцягам, пра дзве сняжынкі на крамлёўскай зорцы, дыхнула Савецкім Саюзам, расійскім імперскім душком, які прысутнічае нават у прагрэсіўных рускіх інтэлігентаў. Наогул, Еўтушэнка выдатны савецкі актор. Яшчэ болей гэта ён пацвердзіў у рэстаране, калі ў эстраднічкі выхапіў мікрафон і пачаў спяваць. Па традыцыі шмат абяцаў для Шагалаўскага музея. Я дык ведаю, што гэта высокі расійскі трёп. Праўда, наш Някляеў перамог яго ў салірванні. Усю ноч, здаецца, хлопцы бушавалі. Кажу хлопцы, а гэта ўжо фактычныя дзяды. Выгуленыя, на добрых ха-

[1] Ламан Пятро (Пётр Аляксандравіч; н. 1949), беларускі паэт, акцёр. З 1971 г. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа (г. Віцебск).

[2] Строфы века: Антология (Сост. Е. Евтушенко). Серия «Итоги века». Т. 2. Минск — Москва: ООО «Паліфакт», 1995.

рчах, уцягнутыя ў застольныя гулі. На здароўе. Я ўжо не магу. Дык інтарэсу няма, як не п'еш. Піў бы, дык цягнуўся б за імі, маладымі для мяне.

*7 чэрвеня, серада*

У *Бачэйкава.* Рэшткі парку Ціханавецкіх. Віцебскі гешэфтовец збіраецца аднавіць, а пасля выкупіць. Як мае грошы, няхай. Але ж зноў смокча Фонд Сораса. Дойны бык гэты фонд. Застолле ў парку. Купаўся ў Вуле. Дужа моцная плынь, непадобная на віцебскія рэкі. Потым *Полацк*. Музей кнігадрукавання. Сафійка. І як вянец паездкі — Спаса-Эўфрасіннеўская царква. Жаночы манастыр. […]. З позным дамоў.

*8 чэрвеня, чацвер*

На працу. Справы швах. Ідзем на дно. Неафіцыйна йдзе цэнзура, але йдзе ўпэўнена. «Дрыжыць у ганка на сцягне…»[1] Званіў Васілю. Расказваў, што й як было ў Віцебску.

*9 чэрвеня, пятніца*

На радыё. Запіс гутаркі з Галінай Шаблінскай[2] па «Эвангеллю ад Мамы». На працу. Званіў Васілю. З фільмам справа дрэнь. Яўна хочуць ад яго неяк пазбавіцца, каб няшумна, але чэпка. Ніл рэпліку ў «Звяздзе» супроць Васіля. Адначасова вылівае злосць на ПЭН-цэнтр, што яго не ўзялі. Ён жа, калі быў у фаворы ў Верхнім Савеце, абклаў падаткамі наш ПЭН-цэнтр. Дае знакі […], што ён будзе кусаць за пяткі ненавіснага Быкава. Ёсць і доля фігуравання. Як у дзядулі Крылова амаль: «А Моська, смелая яна, бо брэша нават на слана». Адназначна ўказвае […] на ПЭН-цэнтр як на рассаднік нацыяналізму й вольнадумнасці. Страшна заставацца нічым, хочацца […] павыпендрывацца.

*10 чэрвеня, субота*

Сойм БНФ. Пазьняк добра сказаў, што на першым мейсцы чуткі, пасля тэле. Глыбока й мудра выступіў Васіль. Экспромтам. Шкада будзе, калі не здымуць з плёнкі й не надрукуюць. Васіль купіў бел-чырвона-белы. Мне не хапіла, бо спазніўся. Папрасіў Веру Чуйко[3] пакінуць два — мне й Дамінічцы. Званю Васілю й кажу. Ён: «Будзе, чым накрыць нас у труне». Пярэчу, што забароняць. «Тады, — кажа, — завяшчаю нашчадкам занес-

---

[1] Гл.: Сцятае цярпенне (8.06.95) // Ксты. С. 301.

[2] Шаблінская Галіна Васільеўна (н. 1959), беларуская журналістка. У 1992–2002 гг. заг. аддзела літаратурна-мастацкага вяшчання Галоўнай рэдакцыі праграм для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё.

[3] Чуйко Вера Андрэеўна ( 1950–2015), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч. З 1973 г. супрацоўніца Інстытута фізіка-арганічнай хіміі НАНБ. Кандыдат хімічных навук (1984).

ці: бел-чырвона-белы сцяг 1 экз. Усё, што набыў за ўсё жыццё». Добра раніцай Васіль сказаў пра камфортную апазіцыю.

А сёння ў мяне галоўнае й сумнае свята. Галоўнае — дзень нараджэння мамы. Сумнае, што даўно ўжо няма яе, маёй адзінай шчырай спагаднай душы. З кожным годам адчуваю, што йду на сустрэчу з мамай там, у невядомым. Два пачуцці ў адно лучацца: і страх, і нейкая цікаўная надзея. Душа верыць у гэтую сустрэчу, а душа адзіная, калі можна сказаць, істота, якая не памыляецца.

*Дзясятае чэрвеня*

Сёння дзень нараджэння ў цябе,
Сёлета якраз дваццаць пяць гадоў,
Як закацілася ты за небасхіл нябыту.
Дваццаць пяць — чацвярток
Ці вятох, як адпалы лісток
З ніцай вярбы тваёй журбы.
А яшчэ засталося на маладзічок,
Каб выкруглілася поўня
Веку твайго зямнога.
Ты звычайна глядзела,
Калі Гілёня вярталася з пашы,
Ці выпаўніла захаканыя бакі
Карміцелька наша.
А я ці дажыву, каб ўбачыць,
Што выпаўніла свае бакі
Поўня дзесяціны
Тысячагоддзя твайго,
Мама…[1]

Яшчэ нешта пісалася раней:

*(Урбаністычнае імгненне)*

Дзяўчына падпітая,
Як падбітая птушка крылом,
Рукою няпэўнай
Завабіць хоча машыну.
А позірк, напэўна, блытае
Нешта некім патушанае.
Юр ломіцца напралом.
А недаткнёнасць
Абражанай каралеўнай
Не можа сабе даравацьправіну.

[1] Дакладней, 24 гады з дня канчыны Акуліны Андрэеўны ў 1971 годзе.

Цэлы дзень у думках гутарыў з мамай. Адчуваў, што яна са мной, што чуе й разумее мяне, толькі ўголас адказаць не можа. Без маці чалавек, як човен без вясла.

*11 чэрвеня, нядзеля*

Сёння Сёмуха. Павіншаваў Васіля Сёмуху. Павіншаваў Васіля. Ён сказаў, што Тоня — братавая з Бычкоў званіла й віншавала. Ён быў рады гэтаму віншаванню з Бычкоў. Пад вечар, сказаў, паедзе на лецішча ў свае бярозы, у зялёнае вецце. А я, плавячыся ад спёкі, пісаў «дурноты»: «Наконт павышанай аховы: Калі стараюцца ў прыбіральні…», «За харчы: Ён звышнармальны…» [В. Шаранговічу], «Набліжэнне да прагрэсу: За лідэрамі бэкалі ды мэкалі…» [у дзённіку].

*12 чэрвеня, панядзелак*

Даходжу ад спёкі. Боская кара на Беларусь. Мала Чарнобыля, […], дык яшчэ спякота. У метро пісаў «дурноту»: «Свяціла: У сваёй нахабнасці нявінны…» [у дзённіку]. Будзінас папрасіў на запросінах напісаць:

Так, хоць мех золата пазыч,
Нідзе не пагуляеш — дудкі,
Як на Купалле, там, дзе Пціч,
Дзе старажытныя Дудуткі.
Спяшайцеся, гультай і рупнік, —
Лежня там з блінамі й крупнік!

Андраюк мне сказаў, што паступова ўсё назад ідзе. У камітэце чытаюць, як некалі ў Галоўліце, прыдзіраюцца да кожнага прозвішча й фота. Ужо фактычна зарэзалі літаратуру эміграцыі й духоўную спадчыну — жыціі, хаджэнні […].

*13 чэрвеня, аўторак*

Даходжу з галавой. Васіль адлятае ў Нямеччыну. Некалькі разоў званіў яму. Потым кажу, што ў Нямеччыне будзе адпачываць ад майго голасу. Адказвае: «Буду сумаваць». Васіліч прывёз Дамінічку. Ноччу таксі — Ілону. […]

*14 чэрвеня, серада*

Сёння нарэшце Дранько зрабіў вялікую ласку — прачытаў як не за паўмесяца мой зборнік [«З чорным катом на плячы»]. (Некалі казаў: за ноч), на працы паміж званкамі сікушак. Праз зубы сказаў, ці выцадзіў, што яму падабаўся адзін маленькі вершык і колькі «дурнотаў». Дазволіў мне пісаць «дурноты». Гэта ці палескі нарцысізм, ці палескі парсюцызм.

Нейкі комплекс не дае яму быць нармальным чалавекам. У нас пра такіх кажуць: выламак. А паэт жа, хоць і вымучаны, добры. Каб яшчэ й чалавекам натуральным быў. То раптам у прысутнасці малодшай рэдактаркі Тані [Цішук] запытае, колькі ў мяне было дзяўчат. […].

*15 чэрвеня, чацвер*

У выдавецтва прыходзіў […] наводзіць даведкі наконт Акулы. Бачце, КДБ дало даведку, што ён супрацоўнічаў з немцамі. А як быць з тымі, хто з КДБ? Дый супрацоўніцтва Акулы магло сфабрыкаваць КДБ. Пасля Ганад мне сказаў, што знялі датацыю з кнігі Акулы заднім чыслом, заадно знялі датацыю з кнігі «Гутаркі з Васілём Быкавым»[1]. […]. Выпадак з Акулам яшчэ раз пераконвае, што ён не звязаны з КДБ. Памятаю, як скрыгатаў зубамі Яўменаў пры ўпамінанні Акулы. Іншыя эмігранты ледзь не нацыянальнымі геніямі названы […].

*16 чэрвеня, пятніца*

На працы пагаварылі з Сёмухам. Тонкі. Таму й капрызны не на сваю карысць. Самотны. Чысты. Беларус да дрыжыкаў. Гэта не навакшчэнец кшталту наіўных хлопчыкаў. Адчуванне ягонае сваёй блізкай галечы і глухой старасці жахлівае, але дакладнае. Гэта й да мяне прыкладаецца. Няўжо яны гэтак любяць адна адную, што самота й галеча? Адразу надзея самаўхіляецца.

*17 чэрвеня, субота*

Традыцыйна паміраў ад галаўнога болю й нешта пісаў. «Не больш»[2], «Паркет і этыкет: Не думае ад этыкеце…» [у дзённіку]. І яшчэ верш пад уражаннем гаворкі з Сёмухам: «Дзве самоты»[3].

* * *

Не заглушыш, як ні глушы.
Бо жыве ў галаве і ў душы,
Ён жыве за цябе і табой,
Твой боль.

*18 чэрвеня, нядзеля*

Званіў Дранько. Сёння дзень нараджэння ў ягонага сябра Акудовіча[4]. Гэта сапраўды адукаваны й глыбока ўдумлівы мысліўца. […]

[1] Залозка Ю. Дыялогі з Васілём Быкавым: Інтэр’ю, эсэ. Мінск, 1995.
[2] Гл.: Не больш (17.06.95) // Ксты. С. 302.
[3] Гл.: Дзве самоты (17.06.95) // Босая зорка. С. 78.
[4] Акудовіч Валянцін Васільевіч (н. 1950), беларускі філосаф, паэт, крытык. У 1991–1999 гг. 1-шы нам. галоўнага рэдактара газ. «Культура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2001).

*Валянціну Акудовічу*

Па-крывіцку акудны — чароўны.
Глыбінёю чаруе туга.
У прамудрасці — годнай князёўны
Акудовіч — пакорны слуга.

Слынь, нібы верхаводка, сплывае.
Клёк ніколі не плёў кашалёў.
Хай трымае Вас думка жывая,
Валянцін, велімож Васілёў!

А гэта «дурнота» пра дурня: «Не стане!: Хоць аб’яву вешай на вушах…» [у дзённіку]. Вечарам да Палякова. Прыляцеў з Ізраіля. Прывёз мне асвечаныя крыжыкі, якія ляжалі на Дамавіне Госпадняй. А для Дамінічкі чароўны крыжык з Віфліемскай зоркаю. Колькі гадзін глядзеў адзняты Іерусалім, ваколлі. Нешта ёсць у гэтага места невытлумачнае. Яно заўсягды вабіць, прыцягвае, як родныя мясціны. Гэта святая святасць.

*19 чэрвеня, панядзелак*

На працу. Як на магільніку, дзе павінны вось-вось пачынаць капаць яму. Цяжкое адчуванне з мейсцам, дзе столькі гадоў працаваў. Савецкі чалавек не падрыхтаваны ні да пенсіі, ні да смерці. А сённяшні дзень самы вялікі ў нашай гісторыі — дзень нараджэння Васіля. У думках віншаваў, бо ён у Нямеччыне.

У метро прыйшло ў галаву: «Мастаўкладчыкі: Мы не спалі і ў запале…» [у дзённіку].

*20 чэрвеня, аўторак*

У саюзе вечар Броўкі. Дзякуй Богу — народу было. Выступоўцы былі нармальныя. Быў за бацьку Юрка[1].

*21 чэрвеня, серада*

Планёрка. Кнігі не йдуць. Усё спланавана на закрыццё беларускага кнігадрукавання. Тыражоў няма. Цэны высокія. Датацыя малая. Вечарам засядаў у Фондзе Сораса. Размяркоўвалі гранты мастакам на альбомы й выставы. Паўсюль адно — любое прыдумаць, абы якую далярынку ўхапіць, як жарынку з пяколка. Галеча, відаць, самы таленавіты вынаходца.

---

[1] Броўка Юрый Пятровіч (1936–2019), беларускі вучоны-юрыст, выкладчык; грамадскі дзеяч. Доктар юрыдычных навук (1991). Прафесар (1993). У 1982–2005 гг. дырэктар Літаратурнага музея П. Броўкі. Сын П. Броўкі.

*22 чэрвеня, чацвер*

Бегаў па гаспадарчых справах. Учора позна вечарам пазваніў Васілю. Ён прыехаў з Нямеччыны. У Франкфурце-на-Майне болей як гадзіну трымалі самалёт на паласе. Менск не даваў прызямлення. Гэта [Лукашэнка] тут у нас сустракаў кітайскага старца [...].

*23 чэрвеня, пятніца*

Званю Васілю. Яго, выходзіць, [...] павіншавалі з днём нараджэння. На лецішчы здратавалі ўсё зялёнае, пасаджанае. Знеслі слуп агароджы, парвалі сетку. І гэта на дзялянках, дзе міністры сілавых, дзе Грыб. Ані драбязінкі не ўзялі. Гэта, каб пра сябе напомніць. [...]. Некалі ў Гародні камсамольчыкі-[...] выбівалі шыбы й ламалі антэны. Той жа почарк. Не могуць ніяк пагадзіцца [...], што Быкаў — апостал нацыі, што думае не так, як ім хочацца, што кажа ўсё, што думае. Курузлікам заўсягды замінаюць вялікалюды.

*24 чэрвеня, субота*

Прыехала з Ілонай Дамінічка. У хаце званочак звініць у самае сэрца. Накіраваў Ілону з (Косцем) у «Дудуткі» на будзінаўскія гулянні. Бо не магу нават хадзіць — галава трэскаецца, як звон, скінуты са званіцы.

*Чаўны*

*Алесю Асіпенку*

Народы —
Прасмаленыя самапавагай чаўны,
Якія гісторыя волакам валачэ
Да возера вечнасці
З вечнасці даўніны.
Стагоддзі стыгнуць.
Дні грэюцца ў талацэ.
З ворагаў у сябры вятры-вешчуны
Шляхамі вяртаюцца рознымі,
І поўняцца неперакуленыя чаўны
З краямі
Мовамі роднымі.

*Водзван*

Юнак,
Амаль ужо мужчына,
Мне нагадаў пра тыя дні,
Калі блакітна ў вышыні
Імя тваё гучала,

Рына.
Ці гэта разгайданы звон
Баяўся,
Толькі б не зваліцца
З набожна схіленай званіцы.
Разбіўшыся ў аскепкі дзён.
Бо, не сціхаючы, ўва мне
Палынна,
Потайна,
Нахлынна
Гучыць і сёння водзван —
Рына,
Нібыта ў возеры на дне[1].

*25 чэрвеня, нядзеля*

Раптоўна адключыўся тэлефон. Знадакучылі дурныя жарты кэдэбістаў. Пайшоў на вуліцу віншаваць Лапушына старэйшага з днём нараджэння. Вечарам з Васілём на выпускным вечары Беларускага ліцэя пад дырэктарствам сына нябожчыка Георгія Коласа. Гэта нейкае цуда. Ці то ў маленства вярнуўся, ці то ў казку. Прыгожыя панавіцістыя дзяўчаты й хлопцы на сакавітай, не хрумсткай, як капуста на лехах, прыхопленая замаразкам, мове кажуць, спяваюць. Ні слова «великого и могучего». Мы з Васілём уручалі атэстаты. Васіль звярнуўся са словам, падкрэсліў, што яны першыя застануцца ў гісторыі. Я колькі словаў і прачытаў пра наш балючы бел-чырвона-белы. Гэта сапраўды тады мова жывая, калі на ёй гавораць прыгожыя дзяўчаты. На маладых вуснах мове дужа асалодна.

Праводзіў Васіля ў метро. […]. Распавядаў Васіль і пра маладых кэдэбісцікаў і кэдэбісцічак. Вучацца ў Нямеччыне. Нават адна сікушка Васілю заўвагу зрабіла, што палітычна няправільна сказаў. Па-расійску добра: кгбестия. «Адышлі»[2]. Па дарозе з ліцэя сустрэў Ілону […]. Яна яшчэ жыве спадзяванкамі. Гэта добра, хоць галадна, затое высакародна.

*26 чэрвеня, панядзелак*

Званіў Васілю. Заўтра кінастудыя ладзіць абмеркаванне фільма «На чорных лядах». Званю Бураўкіну. Ведае, але, відаць, не зможа быць, бо маці зрабілі аперацыю. Дыпламатычныя набыткі прыдаюцца. Потым засядаў на Фондзе сем Сорас. Усё старое — усім трэба жыць. Выдумляюць усё, што можна. На працу заходзіла аспірантка. З Лідчыны. Іх дзве сястры, двайнячкі. З 69-га года. Гэтулькі ў яе энергіі, гэтулькі беларускасці, што пачынаеш верыць, што народ наш […] вытрывае.

---

[1] Верш прысвечаны Бабіцкай Рынальдзе Пятроўне, знаёмай з 70-х гг.

[2] Гл.: Адышлі (25.06.95) // Руны Перуновы. С. 183.

Пасля паседжання ФС прайшліся з Алесем Анціпенкам. Беларус высокага кшталту. Падабаецца, што запала яму ў клёк Васілёў аргумент у інтэрв'ю «Свабодзе», што астукачаныя кадры муцяць усю ваду. Як зоркі на небе, шчырыя беларусы. Ды яшчэ мала іх на Млечны Шлях Беларушчыны. Можа, некалі й наспее зорак на Беларускі шлях на небе вечнасці. «Ты жывеш…»[1].

Учора Васіль, калі вярталіся з ліцэя, мякка заўважыў пра наіўнасць Баршчэўскага. Паказвае рэдкія выданні, што ў бібліятэцы. […] каманда ў адзін дзень усё канфіскуе, прызнае нацыяналістычным і знішчыць. Ні асоба, ні ўласнасць не абароненыя.

*27 чэрвеня, аўторак*

Абмеркаванне фільма «На чорных лядах»[2] на кінастудыі. Безумоўна, хібаў рэжысёрскіх шмат, але гэта першы наш фільм пра Слуцкае паўстанне. Некалькі пракамунячаных рэжысёраў было супроць. Бачце, масавае самазабойства. Добра параўнаў Палякоў пасля ў кабінеце: «З масавай, якая стала актам гераізму яўрэйскага народа». Пра стагоддзі подзвіг ідзе да наступнікаў. Потым зноў засядаў у Фондзе сем Сорас. Баюся, галава й нервы не вытрымаюць гэтакую нагрузку. Кладуся ледзь жывы, устаю мёртвы. Жах.

*28 чэрвеня, серада*

На працы. На калегіі на Серафіма ціснулі. Цікава, як перабудоўваюцца міністэрскія падхлебнікі […]. Наперад. Карэнда[3], слабенькі паэт з смачным, крамяным прозвішчам, намеснічак падвешанага Бутэвіча, ужо спяшаецца падпісваць паперы, яшчэ па-беларуску надрукаваныя, Корендо. […]. А калі ўсё зменіцца, зноў будуць беларусамі шчырымі. «Застанешся»[4].

Цікава Васіль пра мітуслівую дзейнасць Карласа: «Недабраў свайго на паседжаннях і выступах. Дабірае».

*29 чэрвеня, чацвер*

У метро сустрэў няўлоўнага аўтара. Чытаў мне працяг па памяці. Малайчына! Званіў Васілю. Пытаўся, як з растаптаным і апаганеным ягоным лецішчам. Кажа, Ірына Міхайлаўна страціла хэнць. Абразіла яе. Што, кажа, лецішча, тут каб душу не знішчылі. За Васілёвай душой гэтулькі цікуе й палюе камуна-[…] нечысці. Не маючы сілы ні скрышыць, ні ку-

[1] Гл.: Перад апошнім (26.06.95) // Босая зорка. С. 31.

[2] Фільм, зняты рэжысёрам В. Панамаровым, на шырокі экран не выйшаў. *Панамароў* Валерый Дзмітрыевіч (н. 1943), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст.

[3] Карэнда Іван Арсенцьевіч (н. 1950), беларускі грамадскі дзеяч, пісьменнік. У 1992–1996 гг. нам. міністра інфармацыі.

[4] Гл.: Застанешся... (28.06.95) // Ксты. С. 313.

піць душу вялікага крывіча, хоць дробныя плюгаўствы робяць. Міне час, уся нечысць, як моль, счэзне, а Васіль жыцьме. Калі крыху Багдановічаў радок з'іначыць, атрымліваецца пра Шамякіна: «Кінь вечны плач свой па чырвонцу…»[1]

*30 чэрвеня, пятніца*

Праца. Фонд сем Сорас. Не падтрымала бальшына [газ.] «Свабоду». Знайшлі абэлку, абы прычапіцца. […] Яўген Новікаў хацеў пакарміцца з фонду. […]. Ствараюцца нейкія бязглуздыя аб'яднанні, партыі — абы ваду муціць, а ў мутнай вадзе лягчэй лавіць. Хітрую праграму Шагалаўскіх дзён прыдумаў Додзік. Гэта ўжо суцэльная шагалізацыя, як некалі бальшавіцкая электрыфікацыя. […]

«Забыўшыся на стомленыя зоры…» [чэрвень; у блакноце].

*1 ліпеня, субота*

Наважыўся ехаць з Васілём у Вушачу. Не змог. Зусім падводзіць галава. Сапраўды, галава ў мяне слабое мейсца. Дзень змарнаваў. Каб жа толькі адзін!

*2 ліпеня, нядзеля*

Пачаў перакладаць п'есу паводле гогалеўскага «Вія» для ТЮГа «Паненачка». Хворы я. Галава туманковая. Толькі генсекам КПСС быць. Спазніўся. Хоць з хворай галавой, а вершы пісаў. Ратаваўся ад болю. Ад адчаю.

«Зірнуць»[2].

*Рэгістрацыя*

Рэгістрацыя шлюбу з небам…
Па ўзлётным полі
Разгублена раз'язджае трап,
Як самаўпэўнены пастамент,
Што збеглы свой помнік шукае…

За спінай сядзення ўчахлёнага
Падносы на падмацунак нябесны,
Нібы злубянелыя запасныя крылы,
На якіх хіба што хутчэй
Даляцець да спякотнага пекла…

[1] Першы радок верша М. Багдановіча: «Кінь вечны плач свой аб старонцы!..»
[2] Гл.: Зірнуць (2.07.95) // Ксты. С. 336.

*Таксама*

Самалёт — сам лётае.
Самалёд — сам растае.
Самамёд — вязень сот
Сам салодзіць пчале мелодыю.
Самавітая самота таксама
Так сама настае,
Аж сум сам сумуе.
Сябе самую
Можа нехаць палохаць
Самохаць.
Па жар, па святло
Лезе ў печ памяло
Само хоць.
Пажар сніцца лясам
Сам.
Цень малюе сябе галасам
Сам.
Не тоіць свой шал, балюе
Баль сам.
Гоіць тугу былую
Бальзам.
Багацейшы плён
На лугавіне дзён
Каса мае
Іржавая самая.

*3 ліпеня, панядзелак*

З самае раніцы пазваніў Васіль. Прыехаў з Бычкоў. Там, на Горадні, застаў іх дождж. Ірына, казаў, збірала краскі й зёлкі. І дарога знікла, і сцежка да Горадні зарасла. Засеялі. Па аўсе не стаў ісці, пайшоў у абход. Заязджаў да сястры. І Валя, і Шурка за БНФ. Выходзіць, на сяло йдзе ледзь не кругласутачнае вісчанне пракамуністычнай радыёстанцыі. Камуна-[…] не спяць. Пра Валю: «Худзенькая, як мязінчык, стала». «Ён будзе мроіцца тады…»[1]

*4 ліпеня, аўторак*

*Віцебск.* Шагалаўскія чытанні. Паехалі Карлас, Радзік, Артханаў[2] і я. Па дарозе праз тры дажджы. Колькі цікавых дакладаў. Літаратурны вечар, прысвечаны Шагалу. Чыталі вершы. Цікавы яўрэйскі ансамбль з По-

[1] Гл.: Анёл, які на лютні грае… (3.07.95) // Босая зорка. С. 23.
[2] Артханаў Глеб (сапр. Аляксееў Юрый Ігаравіч; н. 1954), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Б. Карнілава, імя І. Анненскага, імя В. Блажэннага.

лацка. Яўрэяў у ім мала. У музеі выстава яўрэйскіх мастакоў з Масквы, аб'яднанне «Куст» — Kust. Прапанаваў зверху *n* пазначыць, каб чыталася Kunst. Тады б нейкі сэнс быў. Я кіраўніцы задаў пытанне: «А дзе яўрэяў бераце?» Вечарам, уражаны фота Шагала, пісаў верш: «Да партрэта Марка Шагала»[1]. Міхаіл Забораў[2], Барысаў брат з Ізраіля, спяваў пад гітару песні свайго вырабу. Настальгія па зялёнай траве. Нават няблага. Казаў па-беларуску. Гэта дзіўная рэч. Калі з Беларусі выязджаюць пашпартныя беларусы [...], яны пачынаюць успамінаць беларускую мову. Сумаваць па Беларусі. А тут нават яўрэя праняло. Моцная яна ўсё-ткі — настальгія па-беларуску. Віцебск непрыкметна зрасейваецца пад выглядам розных так званых міжнародных канферэнцый ды базараў[3] аля Рюсь.

* * *

Скупому й прагнаму па часе
аддзячыцца шчодра.
А бедны дбаць мусіць пра хлеб
штодзённа.
Шалёныя грошы,
як з неба зорнага коўдра
Зіхоча, а спаць сцюдзёна.

*5 ліпеня, серада*

Сёння маёй трывозе, маёй наступнасці 6 гадоў. Дамінічка, добры дзень! [Малюнкі.] Гэта мне мая Дамінічка намалявала. Сумная навіна. Памёр Сачанка. Па-чалавечы шкада. Усё-ткі гэтулькі часам разам і працавалі, і вучыліся. [...] зерне беларускасці застанецца. [...]. Светлая памяць.

*6 ліпеня, чацвер*

У Купалавым скверы вечар. Быў Шушкевіч, Бураўкін, Радзім Гарэцкі, Законнікаў, Аўрамчык. І было 5 бел-чырвона-белых сцягоў. Дзякуй, прынеслі добрыя людзі. Першых я запрасіў да нас, бліжэй да помніка Купалу. Людзей было не гэтак і багата, але шчырасць была. Назад ехаў з Бураўкіным. Крыўдуе на Пазьняка, што суха падае яму руку. Крытыкуе за быццам бы фюрэрызм. Усё гэта дужа пасуецца да агульнай прапаганды. Юля [жонка] хацела застацца ў Амерыцы, эміграцыя старэе й таму прасіла Генадзя ўзначаліць рух. Але яго клікала Радзіма й паэзія. У Амерыцы не пісалася.

---

[1] Гл.: Да партрэта Марка Шагала (4.07.95, Віцебск) // Босая зорка. С. 76.

[2] Забораў Міхаіл Абрамавіч (н. 1937), мастак і мастацтвазнавец. З 1979 г. жыве ў Ізраіле.

[3] Маецца на ўвазе «Славянский базар в Витебске» — традыцыйны міжнародны фестываль мастацтваў (з 1992).

*7 ліпеня, пятніца*

Хадзіў на працу. Цішыня. Барыса (Сачанку) выклікалі ў панядзелак [...]. Здаецца, да Кучынскага[1]. [...] «Худы»[2].

*8 ліпеня, субота*

Учора ў управе Фронту купіў аж тры бел-чырвона-белых. І на Дамінічку. З 11-ці раніцы да паловы 12-е доўжыўся IV з'езд БНФ. Падасланцы [...] спрабавалі зняць Зянона й раскалоць фронт. Не ўдалося. Шчырэў Вячорка. Як ні дзіўна, сваю кандыдатуру выстаўляў Хадыка. На некалькі хвілін выступіў я й, відаць, крыху паспрыяў Зянону. Па рэакцыі залі калі меркаваць. Выбіралі ў сойм. Супраць Васіля два казлы [...] знайшлося. Супроць Зянона 7, супроць мяне 6. Звычайна супроць Васіля й Зянона магічна было 7. Як цяпер будуць каментаваць камуністы? Вера (Чуйко) неяк змарнела. Таксама пёрла супроць Зянона. [...]. Галя[3] цвіце. Мне ўспамінаецца й дасюль, як яны ў снежную ноч па дарозе на Гомель, згалубіўшыся, спявалі з Зянонам на два галасы: «Не ўсе тыя людзі жэняцца, што мілуюцца й кахаюцца». Трымтлівы й далікатны Зянон, як алень, загнаны.

*9 ліпеня, нядзеля*

Адкачаўся ўвесь дзень з галавой — паседжанне, седня выходзіць болем. Не магу шумных зборышчаў трываць. Знасілася галава.

*На тэму гандлю*

Распуста ўспамінае цноту.
Жанчыны з Евіных вякоў
У крамах,
Дзе даюць пяшчоту,
Абвешваюць пакупнікоў.
На шчырасць,
Як на прыз у Канах,
Разлічваць нельга,
Хоць і льга.
І ашуканых закаханых
Не пакароціцца чарга.

Што ні раблю, як ні стараюся затлуміць галаву, а пачуванне ростані са мной паўсюль. Дыханне часам адчуваю ў патыліцу.

---

[1] Кучынскі Віктар Францавіч (н. 1958), беларускі гісторык, юрыст. Дэпутат ВС РБ 12-га склікання (1990–1995).
[2] Гл.: Худы (7.07.95) // Лепей: Рукапісы 1952 —2013. С. 28.
[3] Вашчанка Галіна Фёдараўна, беларускі філолаг; будучая жонка З. Пазьняка.

*10 ліпеня, панядзелак*

Клопаты па ПЭН-цэнтру. Карлас хоча яшчэ пад страху ПЭНа Лігу правоў чалавека, якую дыскрэдытаваў ці ў якой засвяціўся (Я.) Новікаў. Чамусьці й даўно Карлас пра Новікава мне трындзеў. Цяпер сілком валачэ Процьку[1]. Хочацца добра думаць пра людзей, але й драмаць нельга.

«Вернасць»[2]. Гэта мне ўночы пісалася, амаль у сне. Хоць ніколі мне цалкам вершы так і не сасніліся, каб прачнуўшыся, мог запісаць як гатовыя. Дарэчы, пра мову маладых. Андрэй Федарэнка, самааб'яўлены геній, а на справе празаік здобны, раптам піша: гатавалі дровы. Што гэта — гарбата, вада? «Як і...»[3]

*11 ліпеня, аўторак*

Да Карласа. Наконт гасцей кангрэса ПЭН-цэнтра. Шукалі з Васілём Баршчэўскага, каб, магчыма, быў сустаршынёй Лігі правоў чалавека разам з Карласам. Бо не Процьку ж ставіць. Можа, яшчэ Васіль дамовіцца з Бугаёвым, калі ў таго будзе здароўе. Прыходзіў Белы й даказваў, што я выступіў на з'ездзе БНФ добра, але не як палітык. Нёс на Пазьняка. Па адносінах да Быкава й Пазьняка можна пазнаваць, што за чалавек. Сёмуха казаў, што нехта са злосцю канстатаваў, што Васіль і я павярнулі з'езд на карысць Зянона. Проста ганаруся гэтакай ацэнкай.

Учора пачытаў вялікі кавалак Любімава[4] пра аперацыю «Галгофа», задуманую хіжаком КДБ Андропавым. І яшчэ Тарас будзе з усмешкай казаць, што ў нас з Васілём пераўвялічанае значэнне КДБ.

*12 ліпеня, серада*

Адкрыццё помніка Максіму Гарэцкаму. Гэта на пляцы Волі. У нішы Дома масонаў. Свецкі помнік. Але рабіў яго Рыжанкоў[5] без заказу, на сваю рызыку што завецца, і не дачакаўся адкрыцця, памёр. Выступаў Радзім (Гарэцкі). Васіль слова для тэле казаў. Я таксама выступіў і прачытаў верш.

---

[1] Процька Таццяна Сяргееўна (н. 1951), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч, праваабаронца. Кандыдат філасофскіх навук. У 1992–1994 гг. супрацоўніца Беларускага радыё. Старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта (1995–2008).

[2] Гл.: Вернасць (10.07.95) // Ксты. С. 295.

[3] Гл.: Як і... (10.07.95) // Тамсама. С. 315.

[4] Любімаў Міхаіл Пятровіч (н. 1934), рускі пісьменнік; кадравы разведчык у адстаўцы. Кандыдат гістарычных навук. Артыкул М. Любімава «Аперацыя «Галгофа» ў газ. «Совершенно секретно» (1995), замоўлены гал. рэдактарам Арцёмам Баравіком як нешта кшталту «тэорыі змовы», як прызнаецца аўтар, была містыфікацыяй, якую нечакана ўспрынялі на поўным сур'ёзе, ажно да дэпутацкіх запытаў у органы спецслужб. Гл.: «Литературная газета», № 21, 29.05–4.06 2019.

[5] Рыжанкоў Мікалай Аляксеевіч (1932–1994), беларускі скульптар-манументаліст. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1987).

*Ля помніка*

Нікога лёсу рука не міне.
Сатруцца зямныя крокі.
У бронзе, ў граніце, ў камені
Вяртацімуцца пракокі.

Стагоддзяў вочы суровыя
Кунежыцьмуць позірк бяссонны
З нябыту.
На лютым ворыве
Святыя рунецьмуць імёны.

Сузор'і поўнаю жменяю
Для прышласці сеіць Радзіма.
Самотна без генія генію.
Максім прыйшоў да Максіма.

З вяртаннем, спадар Гарэцкі!
Дай Божа душой абагрэцца…

*11–12 ліпеня*

Сваю крыху ўсохлую паставу прынёс Ніл і ўсё глядзеў, дзе будзе мейсца яму. Яму, відаць, адпавядае жаданне дзеда Талаша[1], які прасіў Панамарэнку[2] зрабіць яго, як Карла Маркса, на кані. Як нікчэмна выглядаў разумны ўвогуле Мушынскі[3], калі апраўдваўся перад Васілём за фактычна данос ад імя Інстытута літаратуры наконт паэмы «Лука Мудзішчаў». Да Васіля ляпіўся нейкі ахламон пагаварыць. Пасля Васіль казаў, што й Зянон скардзіўся, як да яго скрозь падыходзяць беспрадметна пагутарыць, увогуле яго не ведаючы нават, ахламоны. […] Праводзіў Васіля трохі. Яго сустрэў потым (званіў Васілю, як ён дайшоў) участковы, казаў, што ведаў Сачанку. Яшчэ б. Гэта ж Барыс вызначаў, дзе ёсць гатовыя кватэры, калі ўзнікла пытанне аб прытулку Васіля ў Мінску. Служба. У ўчастковага пэнсія 800 тысячаў, а ў Васіля недзе каля 500. Сапраўды, па-савецку: «По заслугам каждый награждён». […].

Па палудню ў Музей Купалы. Ядвізе Юльянаўне [Рамаоўскай] 75.

[1] Талаш Васіль Ісакавіч (1844–1946), беларускі народны герой. Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Грамадзянскую вайну і Вялікую Айчынную вайну.

[2] Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч (1902–1984), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1938–1947 гг. 1-шы сакратар ЦК КП(б)Б, адначасова з 1941 г. начальнік Штаба партызанскага руху, з 1944 г. старшыня СНК, СМ БССР.

[3] Мушынскі Міхась (Міхаіл Іосіфавіч; 1931–2018), беларускі крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1978). Член-карэспандэнт НАНБ (1991). У 1979–2002 гг. заг. аддзела выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

*На юбілей*

Бо вогнішчу не вырасці,
Калі няма пламення.
У дзядзькі Янкі шчырасці
Хапала і пляменніц.

Ядвабачка, Ядвізенька
Сама сябе шукала.
Было ўжо шчасце блізенька,
Знаёміў з ім Купала.

Прыгадвае ільлянішча,
Званочкі ільляныя.
Купалінька, Юльянішка.
Лагодай сэрца ные…

*13 ліпеня, чацвер*

На працы прыходзіў Лецка скардзіцца, што Сёмуха яго хоча пакінуць без хаты. Калі ён Сёмуху пасылаў па-расійску, па-савецку, тады не думаў. Украў пераклад Бібліі й выдаў. […].

Вечарам Ганад зрабіў зборышча для стварэння суполкі курдаў. Прасіў быць мяне. Дайшоў да Васіля. У зале ўбачыў я ўсіх актывістаў […] руху: сынка каваля з жоначкай Курлыкінай, […] Кудравец, Кананові́ч[1], Рыбак[2]. […]. Створаны Парламент курдаў у выгнанні. […]. Яшчэ й […] Мятліцкі[3], вядома ж, пляменнічак Сачанкі.

Па дарозе Васіль распавёў, як пасля вайны на Далёкім Усходзе афіцэры на нейкіх вучэннях у перапынку завялі размову пра стукачоў, пра ангажаваных. Адны казалі — і сярод іх ёсць такія, іншыя пярэчылі. Тады нехта прапанава: у шапку кідаць запалкі. Зламаная, значыць заангажаваны органамі. Кінулі. І зламаных запалак потым было 17, з 22-х. А можа, і не ўсе зламалі. Я сыну каваля сказаў, што ён выдатна правёў аперацыю па завалу помніка ў Курапатах. Пачаў пярэчыць. […]. Бог яму заплоціць. […].

[1] Кананові́ч Іван Іванавіч (н. 1938), беларускі пісьменнік. У 1982–2002 гг. ст. рэдактар рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура».
[2] Рыбак Алесь (Аляксандр Пятровіч; н. 1934–2017), беларускі пісьменнік. У 1978–1995 гг. ст. рэдактар рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура».
[3] Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч; н. 1954), беларускі паэт. У 1983–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

*14 ліпеня, пятніца*

Фонд сем Сорас. Шмат словаў. Шмат махляроў вакол фонду. […]. Сярэдзіч пачаў выступаць доўга й нудна. Помесь міс Камароўкі й сакратара партарганізацыі калгаса. Газета «Народная воля» названа болей чым смешна. Уцёк з паловы седні. Вечарам званіў Васіль. Па тэле вякалі Гасцюхін і […] Пташук. Гасцюхін адхрышчваўся, што ён кэдэбіст, як яго недзе назваў Васіль, а Пташук пёр супроць Пазьняка. Нельга, бачце, рэзка казаць супроць камуністаў, бо ў кожнай сям'і й камуніст, і камсамолец. Пташук — землячок Антановіча. […].

*15 ліпеня, субота*

Да Радзіка. Глядзелі ягоную будучую кніжку. Адшукаліся спонсары. Толькі ў беларусаў ніколі праз усю гісторыю апошніх часін ніколі не адшукваліся спонсары. […]. У Заборава выстава ў Маскве, у Пецярбурзе. Падтрымалі ў Парыжы. Здольны. Згодны я. Але дзе ж беларускія мастакі? Музыку заказвае той, у каго грошы. Вушацкія казалі: былі б пабразга′чы, будуць і паслуга′чы. Нашыя пабразга′чы ў расійскіх ды польскіх кішанях. У нашых — ціха. Калі цяпер і ёсць у кішэнях новых, дык яны зноў жа расійскія, бо КП […] грошы на нацыянальную беларускую ідэю не дасць. Адно, чым цешу душу, — перакладам Сёмухавай Бібліі.

«Чужыя й свае»[1].

Дасюль мне ўспамінаецца вушацкая вясна, мроенне, трылузенне, трызненне.

*16 ліпеня, нядзеля*

Званіў Васілю. Нешта згадалі адкрыццё помніка Гарэцкаму. Васіль: Навуменка — звышакадэмік, з такім каркам, з такой паставай. Ніл таксама чэрава распас. Усё пасьпяхова заваліў — і гімн, і закон пра мову, затое сваё асабістае, дабрабытнае ўсё, уладкаваў куды як добра: і кватэра, і дача, і машына, і безлічныя выданні сваіх кніжак.

Вечарам хадзіў да Палякова. Яшчэ раз паглядзеў фільм пра Барыса Кіта. Лепшыя нашыя людзі не дома. І атрымліваецца сапраўды, што ў беларускае нацыі не ўсе дома. Цікава Самсон чытаў ліст жонкі з Ізраіля. Унучка крыўдзіцца, што яе заганяюць мараканцы, называюць смярдзючкай рускай, хоць яна па бацьку жыдовачка. Мараканскія яўрэі лічаць сябе болей яўрэямі, чым савецкія, рускія, значыць. […]

[1] Гл.: Псальмы Давідавы: Чужыя ідалы халодныя… (15.07.95) // Ксты. С. 82.

*17 ліпеня, панядзелак*

На працы юбілей Шарангавічанкі. Ілона з Дамінічкай паехалі на лецішча. Што й трымае мяне ў свеце гэтым, дык мая зорачка ўнучачка. […] У душы змрочна. Навакола — ноч. […]. «Гэта калі ці ніколі…»[1]

*18 ліпеня, аўторак*

З Сёмухам думалі над уцёкамі яўрэяў з Эгіпту. Дзіўнаватае гэта рабства. Дзіўнаватыя і ўцёкі. На дарогу аблапошылі эгіпцянаў, пад нітку ababралі ўсё дарагое. Цяпер фактычна новы выхад яўрэяў ужо са славянскага рабства. Асабліва калі Бог пакараў Беларусь Чарнобылем. Цікавая сюжэтная канва Іосіфа. Фактычна кіраваў Эгіптам, а называецца — быць у рабстве. Рабіць цэглу не гэтакая ўжо катаржная праца. Наогул, любая нацыя — гэта зерца цвярдога арэшка. А яўрэі асабліва. Богаабранцы, якія ў першую чаргу дбаюць пра сябе. Можа, гэта й ацаляе іх. Беларусам бы крыху іхняй кемнасці. Бо беларус думае сэрцам, а яўрэй практычнай прыкідкай, што з гэтага будзе, яўрэй думае заўтрашнім днём, а беларус у лепшым выпадку днём сённяшнім, а так — заўчарашнім, мінулым. Пісаў «дурноту»: «Застаецца: Барацьбу, як некалі за мір…» [у дзённіку].

Сёння маёй Ілонцы дзень нараджэння. Гэта ж ёй 33. Недзе на лецішчы з Дамінічкай. Хай Бог беражэ мае атожылкі. Дзве дарагія істоты ў свеце ўсім. […]. Астыла мне хата. «Мяно»[2].

*19 ліпеня, серада*

Планёрка. Кнігі не йдуць. Шалёныя цэны. Вятры з будынка [ЦК] насупраць туалета[3] каля Купалаўскага тэатра. Заказаў няма, асабліва ад Белкаапсаюза. Сяло блакіравана й расійскамоўнымі газетамі, і чырвонымі памешчыкамі. Русіфікацыя йдзе шырозным фронтам. Гомелепат Кусянкоў усумніўся ў неабходнасці «Выбраных». Бо ў самога няма. Прыходзіў Рыгор Сітніца. Ён акадэмік Акадэміі мастацтва. Фэлік Янушкевіч[4] стварыў. Малайцы, што абышлі […] Савіцкага. У метро пісаў верш: «Хаця даўно ўзімелі леты…»[5]

*20 ліпеня, чацвер*

Да майго цёзкі, выдатнага нацыянальнага мастака Сітніцы. Утульная маленькая майстэрня вокнамі на «Цэнтральную кнігарню» й айсберг

---

[1] Гл.: Каб да каго… (17.07.95) // Ксты. С. 336. Пад назвай «Няйначай» // Ксты. Выд. 2. С. 368.

[2] Гл.: Мяно (18.07.95) // Ксты. С. 166.

[3] Знакаміты туалет у Аляксандраўскім скверы быў пабудаваны польскім архітэктарам Сенкевічам у 1912 г. У 2012-ты, юбілейны, год ператвораны ў сувенірную лаўку і білетную касу Купалаўскага тэатра.

[4] Янушкевіч Фелікс Язэпавіч (н. 1954), беларускі мастак. Брат В. і Я. Янушкевічаў.

[5] Гл.: Менш ахвоты (19.07.95) // Ксты. С. 291.

КДБ. Пачынаў як традыцыйны рэаліст. Вядома, свядома нацыянальны. Дарэчы, выдатна ведае паэзію, тонкі дэгустатар паэтычнага радка. Паказаў партрэт жонкі, за якой хадзіў гадоў 7. Некалькі рэчаў ёсць на любы нацыянальны плакат. Анёл, у якога палаюць крылы з бел-чырвона-белай павязкаў. Серыя нашых магутаў. Бо звычайна мастакі [...] толькі абражаюць нацыю сваёй прымітыўнасцю. Рыгор казаў, што ён захацеў, адштухнуўшыся ад Драздовіча тэматычна й выяўна, пайсці ў бок Малевіча[1] да знакавасці, да сімвала. Ён пагадзіўся са мною, што ў Язэпа Драздовіча касмічны прымітывізм. Рыгор знайшоў сваю канцэпцыю, і пад яе кладуцца практычна ўсе ўражанні, усе тэмы. Палосы, цені, крыжы, квадраты. Усё рэалістычна-сімвалічнае жыве ў іх.

*Шпацыр уздоўж паркана*

*Рыгору Сітніцу*

Гайда на шпацыр ўдоўж паркана.
Парканам выгараджаны, як гарод,
Сусвет,
Дзе ўсё да зор ускапана,
Туман паразвешваны на азярод.

Партрэты каменя, замкаў, касцёлаў.
Каравыя пальцы платоў старых.
Худыя пасля веснавога ацёлу
Каровы сутоння хаваюць уздрыг.

Ужо ў прасторы няма,
А ў часе
Жыве старасвеччына,
Бо яна
Касмічнае прыняла прычасце.
І дзень аднее.
І ноч адна.

Прыступка ў неба чалуе долу.
Сяўня за радню прызнае даланю.
Цыруе полымя крылы анёлу.
Царуе ў цемры схоўца агню…

Па дарозе да Рыгора ў галаву лезлі радкі:

---

[1] Малевіч Казімір Севярынавіч (1878–1935), рускі мастак.

*Пра самагубства*

Гэта самагубства сапраўды,
Як сябе знаходзяць самі губы.
І люба′я лю′бая тады,
І любы нялюбы — толькі лю′бы!

Нешта круцілася ў галаве пра самагубства, а слова само выкруцілася, адвяло мяне нават ад падумкі. Вечарам званіў Васілю. Ён жартам: «Я ўжо, як Гілевіч, пачынаю сябе цытаваць, але, здаецца, недзе й пісаў, і казаў, што ўлада будзе валяцца пад нагамі й ніхто яе не захоча ўзяць. Бо навошта яна, калі ўсё разбурана, запушчана, спынена». Між іншым, успомніў Васіль, як збіраў іх Радзім Гарэцкі. Доўга гаварылася, ці трэба якая заява. Зянон два абзацы зрабіў. Доўга талкавалі, як і дзе перасунуць кропку ці коску. І калі ўсё было амаль гатова, сын каваля прапанаваў узяць дамоў і падумаць. Куды спяшацца? Гэта трэба было [...] узгадніць.

*21 ліпеня, пятніца*

Нарэшце, як мустанга таго, адлавілі Зянона, каб здаў фота на білет ПЭН-цэнтра. Здаў. Зянона камуна-[...] малююць як звера. А ён такі далікатны, такі засценлівы глыбока ў душы. «Гэта дзядзька Зянон», — гучыць па-беларуску сакавіта. Як з глыбіні вякоў.

*22 ліпеня, субота*

Да Ладуценкі на лекаванне. Ілона паехала на лецішча. Даў з сабой буханку хлеба. А душа баліць, што нічога болей. Увесь час халадок пад сэрцам, што чакае галеча, голад. Халодна, як у космасе, і ў хаце, і ў Беларусі, і ў сваім настроі.

* Дамініка: «У ялінак дзеткі ялачаняткі… Галуб сядзіць на магазіне: прадае магазін. Вуркоча: «Купляйце магазін!». [Пытаюся:] «Колькі ў мяне ўнучачак?» — «Адна, — адказвае Дамінічка, — а як памрэш, будзе ў цябе другая ўнучка — дамавіна… Леніна таму у зямлю не закопваюць, што камуністы баяцца за свайго начальніка».

*23 ліпеня, нядзеля*

Да Ладуценкі. Можа, ён мне трохі галаву направіць.

*Як храм…*

Паэт будуе сам сябе як храм
Ці як пахіленую халабуду.
У храме весялей адбыцца цуду,
У халабудзе сум сівее сам.

На твары неба бліскавічны шрам
Заные, адчуваючы астуду.
Набожна ўкленчыўшы эцюду цуду,
Паэт будуе сам сябе як храм.

А храм служыцьме долам і гарам.
Звон давярацьме гуду й перагуду.
У халабудзе, кут адвёўшы цуду,
Паэт будуе сам сябе як храм…

Званю Васілю. Ён кажа, што настрой у яго саплявы, бо надвор'е не знае, што яму рабіць. Радзік мне казаў анекдот. Пачынаецца патоп. Яўрэй у хаце. Плыве першая лодка. «Хаім, ратуйся!» — «Бог мяне ўратуе». Вада падыходзіць да хаты. Плыве другая лодка. «Хаім, ратуйся!» — «Бог мяне ўратуе». Вада падыходзіць да ганка. Плыве трэцяя лодка. «Хаім, ратуйся». — «Бог мяне ўратуе». Вада захлынае Хаіма. На тым свеце Хаім пытаецца ў Бога: «Чаму Ты мяне не ўратаваў? Я ж табе гэтак верыў». Бог слухае Хаіма й спакойна адказвае запытаннем: «А хто ж табе тры лодкі пасылаў?»

«Стамілася мая дарога…»[1] Сум з намі з першага ўздыху. Усё нашае жыццё — гэта супрацьстаянне суму. Хто робіць выгляд, што не заўважае прысутнасці суму, хто штучна весяліцца, але ўрэшце сум нас кладзе ў дамавіну. І песня самая вясёлая змагаецца з сумам, і самая тужлівая цвердзіць наяўнасць суму, пяе яму хвалу, вянкуе яго.

*24 ліпеня, панядзелак*

На працы з Серафімам гутарыў, ці мне льга яшчэ папрацаваць. Яшчэ буду трохі. Ужо й без працы не ўяўляю сябе. На пенсію не пражывеш. На зарплату таксама. Злавіў сябе на думцы, што нерашучасць беларуская й неўраўнаважанасць ідзе й ад таго, што чалавек, асабліва ў гордзе, не чуе побытава чыстую ці нават мяшаную беларускую мову, сваю мову. Гэта разбуральна дзейнічае па псіхіку. Уражанне, што беларус у Беларусі не дома. Што шчыры беларус жыве ў вымроенай Беларусі ці ў гістарычным мінулым, як Караткевіч. А сёння беларускага ў беларуса няма. […].

*25 ліпеня, аўторак*

З'явіўся Янка Запруднік. Заўтра павяду да яго на знаёмства мільянерку. Васілю заказалі артыкул да Дня незалежнасці для «Аргументаў і фактаў». Напісаў. Выявілася, што для варыянта, які выходзіць у Менску. З паласы рэдактар зняў. Прыехаў Дранько з Віцебска. Усіх забіла […] Аколава. […].

[1] Гл.: Спарына (23.07.95) // Ксты. С. 283.

*26 ліпеня, серада*

Да Янкі Запрудніка ў гатэль. Сімпатычная, панавітая жонка Надзя. Выдатнае вымаўленне беларускае. А гэтулькі гадоў у Амэрыцы. Потым да мільянеркі Вольгі. Ёй хочацца ў Штаты. Згодная на фіктыўны шлюб. Янка тлумачыў усе варункі цяжкасцяў. Кватэра на Паўднёвым Захадзе ўся ў імпарце ад столі да сцен. Мільянерка сімпатычная, пухленькая. Відаць, не злая. Потым прэзентацыя фільма Васілёвага «На чорных лядах». Калі падыходзіць з навейшымі меркамі — сумна-традыцыйна, калі класічна-настальгічнымі — цікава. Галоўнае, што ён нацыянальны, наш.

*Спалохана*

*Янку Запрудніку*

А ластаўка пані Вілчыцкая
Пад вільчаком незабітым
Пра клопат птушыны свіргоча.
Цялятка мордачкай тыцкае
У вымя з нязграбным спрытам.
І ў коткі маркотныя вочы.

Нялёгка ўздыхнуць з палёгкаю
У акутым пакутай закутку,
Узважыць смугу вачыма
І запытацца спалохана
У свайго дарослага смутку,
Ці пастарэла Радзіма…

Янку падпісаў «Эвангелле ад Мамы» гэтым вершам. Хоць і кручаны Янка, а наш.

*27 ліпеня, чацвер*

Сёння дзень папяровай незалежнасці. Падрыхтаваўся выступаць, але боль мацнейшы за ўсе мае жаданні й намеры. Злёг з галавой. Хадзіў да ўрача, дапамагае мала. Галава ўзята ў гарачы абруч, які не садраць. Кожны такі прыступ, як напамінак пра развітанне. Сапраўды, у каго запытаць, калі…

*28 ліпеня, пятніца*

Ляжу. Хадзіць цяжка. У галаву толькі і лезе: што вар'яцтва — гэта страйк мозга. Званіў Васілю. Ён таксама нездароў. На мітынг таксама не

хадзіў. Там горла драў нацыянал-камуніст Ніл. Пра Генадзя Васіль сказаў: «Ці не прыгарнецца да Чыкіна[1]».

*29 ліпеня, субота*

Паездка да мільянеркі. Кватэра, як рэкламная выстава ўсяго імпартовага. Што ж, кожнай працы, паспрыяй, удача! У кожнага свой клопат. Падпісаў «Эвангелле ад Мамы»: «Жадаю шчыра, васпані…» [у дзённіку].

[…] Уночы сніўся верш: «Збянтэжанасць»[2]. Зноў вярнуўся да верша, улічыў заўвагі Дранько. Цяпер атрымалася даўжэй:

*Местачковая рамантыка*

Настаўніца ў класе пытала
Пра пустату Таррычэллі[3].
А ў прыцемку вечаровым
Зямля патыхала падтала
І туркаўкі фанерна турчэлі.
Мычэлася сумна каровам
У душных ужо хлявах.

Хапала слабога даткнення,
Каб перахапіла дыханне,
Каб вусны пасівярэлі.
Пацела ад моху бярвенне.
Сабакі на поўню брахалі.
Размытыя акварэлі
Нябёсаў дрыжэлі ў вачах.
Лугі на сухоты хварэлі.
Карэнне грэлася на лычах.

Цягнула забіцца куды ў каморку.
Каб ахінула цемра, як мантыя.
І быццам мярэц, што ажыў у моргу,
Глядзела сонца праз хмару матавую.

Прыйшла «Свабода» з выступам Васіля. Цудоўна, як заўсягды. У «ЛіМе» Асташонак пераклаў думкі-накіды Камю[4]. Пераклаў яўна з расійскай. Да абсурду даходзяць маладыя. У Камю перакладае *жаданне* як *галенне*. Не ўсё можна ў наш час пераносіць са слоўніка Ластоўска-

---

[1] Чыкін Віктар Валянцінавіч (1949–2012), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, журналіст. У 1990–1992 гг. 2-гі сакратар Мінскага гаркама КПБ.

[2] Гл.: Збянтэжанасць (29.07.95) // Ксты. С. 300.

[3] Таррычэллі Эванджэліста (1608–1647), італьянскі фізік і матэматык.

[4] Камю Альбер (1913–1960), французскі пісьменнік і філосаф-экзістэнцыяналіст. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1957).

га. Яшчэ смешна, што ў дужках Асташонак дае заўвагі. Спрэчкі з Камю, што, бачце, Камю не правільна выказваецца. Гэта нагадвае, як нашчадак графа Арлова ў ААН перакладаў некага з савецкіх і, не вытрываўшы, зазначыў ад сябе: «А тут ён лухту вярзе!»[1] На колькі дзён пазбавілі права перакладаць. Што перакладаў з расійскай, відаць хоць бы са слова *здача,* калі еўрапейскае — *рэшта*. Другі малады геній Федарэнка піша, што *гатавалі дровы,* а гарбату тады трэба рэзаць, ці што?

*30 ліпеня, нядзеля*

Светлая нядзелька. Троху пішу, троху чытаю «Кнігу пра ідалаў» Хішам ібн Мухаммад аль-Калбі[2]. Адно прозвішча гучыць, як радок з верша. Цікава, што чалавецтва як пачало з ідалапаклонства, так і жыве ідаламі, толькі яны інакш завуцца: то правадырамі, то кумірамі, то эстраднымі зоркамі. Ці гэта чалавек так закаханы ў сваю асобу, што творыць ідалаў па сваім падабенстве, ці гэта з неба ўрок: глядзі на сябе, чалавеча, у вобразе ідала, й мікіць, што й да чаго. Пісаў верш:

* * *

*Лесі Сёмусе*

Туга па Радзіме — хвароба старых —
Уся з маладога чакання.
Таму й выкрасаецца
Рэчка з-пад крыг
І лямантам давіцца каня.

Калі дажывем да тугі,
Да яе
Ідзем, як ахвяра да ката.
Даўгія й кароткія пааддае
Даўгі твае ўсе — да дуката.

Кароткія
Доўжаць у прошласць шляхі,
Даўгія кароцяць надзею.
І ўбачыць сляпы,
І пачуе глухі,
Як зімна Радзіма сівее…

---

[1] Гл.: Дзённікі і запісы. Вып. 4. 1983–1988. С. 100.
[2] Хішам ібн Мухаммад аль-Калбі (738–819 ці 821), ісламскі гісторык і генеалог.

*31 ліпеня, панядзелак*

Першы дзень тыдня й апошні спякотнага ліпеня. На працы Андраюк сказаў прапературбацыі. Зноў па-савецку, як калгасы, узбуйняюцца рэдакцыі. А што з гэтага? Сустрэча з мільянеркаю. Хачу ёй дапамагчы, а як? Падключаць, як заўсягды, трэба яўрэяў. Па дарозе пісаўся верш. «Баяўся»[1]. [Прысвячэнне ў блакноце (Р. Б.).]

*1 жніўня, аўторак*

З раніцы драбней, пад вечар гусцей сеецца дождж. Восень не чакае. Шмат хадзіў па Менску. У хаце быць немагчыма. У банку, куды зайшоў праверыць, ці што перавялі, дзяўчынка, пачытаўшы картку, сказала, што вучыла ў школе Р. Б. і гукнула хлопца з суседняга ваконца, каб паглядзеў. А прыйшоў дамоў, а Дамінічка да мяне з крыўдай на маму Ілону, якая ўсумнілася, што Дамініку ведаюць ва ўсім свеце, а нейкую Настачку ніхто не ведае. Слава ў розных варыянтах урэшце і ў аснове сваёй болей да гумару хіліцца. Калі хто напоўніцу прызнае, што ён славуты, адразу трэба паказаць псіхіятру. […].

Па тэлефоне з Васілём… «Усё вырашае воля Божая… Адну кветку й даглядаюць, і паліваюць, і ніякага зруху, а іншая каля дзярма й расце, і харашэе… Вельмі вартыя шчасця й не маюць… Ва ўсіх, відаць, Боскі камп’ютар закладзены і ўсё вырашае… Бог укладае ў душы, але болей немаўлят, і Ісус, будучы яшчэ малым, нешта ўчуў у свеце…» Усё гэта ўзнікла ў словах Васіля, калі казаў, што дужа баюся за ўнучачку, пакідаю яе ў свеце, як у космасе. Пасля, што яна ўсё прыкмячае. Гэта ж трэба заўважыць, што ў горадзе сонца вялае, а на лецішчы светлае. Пасля Васіль вельмі высока казаў пра пераклад Сёмухаў Бібліі… «Ён прыблізіў хрысціянства да нацыі болей, чым усе іерархі праваслаўныя й каталіцкія… Пераклад трэба, і я выступлю з ідэяй — [вылучыць] на Дзяржаўную прэмію… Гэта справа вялікага гістарычнага значэння… Некалі будзе адзначацца. Як вехавая дата…»

Хадзіў да Мікалая Дзмітрыевіча [Ладуценкі]. У Валодзі [Караткевіча] ўсё-ткі быў такі гастрыт, што ўвесь ад кансерваў і гарэлкі гарэў, як под у печы. Валодзя фактычна сышоў крывёю.«Repetitio est mater studiorum»[2].

*2 жніўня, серада*

На вечарыну да Бураўкіна, ён нада мной, як заўсёды, бо я тут на пятым, а ён на 10-м паверсе. У яго гасцяваў Васіль, Запруднік з жонкай На-

[1] Гл.: Баяўся (31.07.95) // Босая зорка. С. 63.
[2] Гл.: Repetitio est mater studiorum (2.08.95) // Руны Перуновы. С. 186.

дзеяй, Шчамялёў[1] з жонкаю. Цікава ставяцца да эміграцыі Бураўкіны, па-савецку, партыйна-правільна. Генадзь распавядаў, як [...] Восіпава[2] з Мазанік[3] [... Лукашэнку] дзякавалі як збаўцу, прасілі знішчыць БНФ. Замяталін[4] [...] у апошні момант пазваніў і сказаў, што [Лукашэнка] супроць, каб Васіль быў на сустрэчы з ім. [...]. Пісаў надпіс на кнізе Арлову:

*Застольнае слова у гонар Уладзі Арлова*

Шчаслівы ўжо з таго,
Што хмары з Полацка
З вушацкімі ідуць дажджом адным,
Што досвітку засценлівая паласка
Не розніць нашыя туман і дым.

Бо з Полацкай Зямлі і кроў крывіцкая,
І слава — спадкаеміца вякоў.
Няхай чужак загадным кстом не тыцкае,
Яму нам не шкада пяці цвікоў.

Бо полацкім і кепіцца, і петрыцца,
І чарку хмель чубаты падае.
На полацкіх вятрах труха праветрыцца,
А набрыдзі хай пяты моль паб'е.

Дух полацкі, перапавіты мітамі,
Сам Белабог пускае на папас.
Смялей пяецца люду паспалітаму:
Сто год, сто год
Хай доля бачыць нас!
Яшчэ раз, яшчэ раз
Хай доля любіць нас!

[...] «Аб мовах: Няважна, што Банапарт ...» [у блакноце і дзённіку даты 2.07–2.08]. Выйшла газета «Имя собственное»[5], там Васілю падабалася інтэрв'ю са мной.

---

[1] Шчамялёў Леанід Дзмітрыевіч (н. 1923), беларускі мастак. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977). Народны мастак БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[2] Осіпава Марыя Барысаўна (1909–1999), арганізатар падпольнай групы ў Мінску, сувязная партызанскага атрада, партызанка ў час Вялікай Айчыннай вайны.

[3] Мазанік Алена Рыгораўна (1914–1996), удзельніца мінскага падполля ў час Вялікай Айчыннай вайны. Герой СССР (1943). Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

[4] Замяталін Уладзімір Пятровіч (1948–2019), дзяржаўны дзеяч, у 1994 г. прэс-сакратар старшыні СМ, у 1995–1997 гг. кіраўнік Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі.

[5] «Имя: газета для тех, кто умеет читать» — грамадская газ., заснаваная ЗАО «Белорусская деловая газета» (1995–1999).

*3 жніўня, чацвер*

На працы і пературбацыі, і нервацыі. Як некалі ў нас казалі: уся праца пайшла к сра.цы. Ніякія скарачэнні не ўратуюць нас, калі не будзе датацыі. Пераемнікі злачыннай савецкай улады мусілі б сплочваць беларускай культуры за савецкі генацыд. Вечарам прасіў Васіля даць інтэрв'ю «Имени собственному», адмовіўся. Іншыя, кажа, дзесяцігоддзямі маўчаць, і якія ўлады ні прыйшлі — яны свае. [...] . Учора Ладуценка, які мне робіць масаж, не зусім добра казаў пра Тамару й Карласа. Задаў мне загадку: на каго падобны Карлас — і сам жа адказаў — на пінгвіна. Дранько упадабаў інтэрв'ю.

*Сена сноў*

*Вербны сон*

*Вераніцы Чаркасавай*[1]

Вербны сон расчуленага Бога,
Вечнасць Леты
І мінучасць лета.
Вераніка — верай перамога,
Пажыццёвая туга паэта.

Вера —
Сіні верас вечарэе
Недзе каля Вечалля, Чарэі.

Ніка —
Нікне смутак у знямозе,
Сена сноў плыве на зорным возе…

*4 жніўня, пятніца*

У Менск прыехаў [...] Лужкоў[2]. Горад [...] ачэплены міліцыянтамі. Нікуды не праехаць — увесь рух паралізаваны. Спазніўся таму ў ПЭН, куды прыйшоў Васіль. Бачыў праект медаля Адамовіча. Алесь, вядома, на сябе не падобны. Але Карласу захацелася як дурню стрэліць медаля дарагога. Няйначай з прыцэлам на свой лацкан.

Потым з Лапушыным старэйшым быў у Вольгі-мільянеркі. І ў багатых клопату багата, і ў багатых патрэба ў памагатых. Ейны Барыс распавядаў, як адзін быў дырэктарам Дома прыстарэлых у Менску (гэта за [маг.] «Тысячай дробязяў»). Жыхары дома гэтага недаўгавечныя. А ве-

[1] Чаркасава Вераніка Анатольеўна (1959–2004), беларуская журналістка. У 90-я гг. супрацоўніца «Белорусской деловой газеты» і «Белорусской газеты». Забіта невядомым.
[2] Лужкоў Юрый Міхайлавіч (1936–2019), расійскі дзяржаўны дзеяч. У 1992–2010 гг. мэр Масквы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1986), Дзяржаўнай прэміі РФ (1995).

чны толькі клопат з пахаваннем і трунамі. Дырэктар вазьмі дый закупі труны на ўсіх. А дзе іх трымаць. А вельмі проста — кожнаму пад ложак паставіць. Ну, вядома, кандыдаты на мейсца ў труне ўзнялі шум. Пісалі роднай камуністычнай партыі. А Ладуценка мне зусім весялейшы выпадак распавядаў. Адзін чокнуты, наркаман, калі яго пачалі браць у рэмус, схапіў вогнетушыльнік і галоўурач, і другі, як багі, у белых халатах па воблаку йшлі.

Пазваніла Ілона. Ехаць трэба ў Піцер. Выстава. Грошай няма. І ў мяне няма. Пачынаю, як Шамякін, плакаць.

*5 жніўня, субота*

Званіў Васіль. Дарэчы, мне ўчора позна вечарам званок — і нахабным голасам маладога стукача мат-перамат і запытанне, ці я даўно не вартаваў магільнік. Васіль кажа — яму дужа часта звоняць і хамяць. На хлеб надзейны зарабляюць, хто як можа. Васіль, калі сёння разгаварыліся, казаў, што прыйшоў да высновы, што гісторыю трэба вывучаць па могілках. Некалі ў Селішчы на каталіцкіх могілках разглядаў з сябрукамі крыжы, каменныя надтрунні. Баяліся белай мармуровай выявы маладой дзяўчыны, якая рана памерла. Потым успамінаў яўрэйскія могілкі ў Гародні, якія Саветы знеслі. Дужа яму запомніліся могілкі ў Львове. Пляваў наконт артыкула Юрыя Цвяткова ў «Народнай (газеце)».

*6 жніўня, нядзеля*

Трохі чытаў, трохі хварэў. Пад вечар узяўся перадрукоўваць «дурноты». І новыя пісаліся.

*Палёгка*

На словах верачы ўласнаму міфу,  
За светлую будучыню змагары,  
Камуністы аблегчылі працу Сізіфу —  
Міфічны камень кацяць з гары.

«Успомніць: Саюз не-архангела Міхаіла…» [у дзённіку].

Ужо гадзіннік паказвае чвэртку на першую, а мне яшчэ хочацца пісаць:

*Не з'ядуць!*

Абгарадзіўся край,  
                хоць стаўся голым,  
З міліцыянтаў  
                шчыльным частаколам.

Жартуе люд,
на гэту гледзячы рэдуць:
— Не выдасць Бог —
адміністранцы не з'ядуць!

«Утваранцам: Слався «Отечество» наше!..» [у блакноце].

*7 жніўня, панядзелак*

З раніцы на кінастудыю. Палякоў казаў, што яму даспанаваў Юра Іваноў, што гэта ён знайшоў багацея, які й заказаў Кішчанку габелен веку для Кёльнскага сабора. Потым багацей знік, і былы [...], украінец, здаецца, краснадарскага разліву, у апошні момант ўмантаваў [Лукашэнку] й сябе над святымі ўсімі ў самым версе. Сапраўды, піць трэба было меней.

Потым засядалі па прэміях імя Алеся Адамовіча. Усё-ткі занудныя фільмы робяць і нашае тэлебачанне, і кінастудыя. Тэкст і манера Тараса парадыйныя. Карлас жартама нагадаў адкрыццё самога ВалТараса, што пасля 65-ці — мозг адмірае. Яно й відаць.

*8 жніўня, аўторак*

Праца. Учора памёр Танк. Запавяшчаў хаваць сябе ў роднай Пількаўшчыне. Сапраўдны паэтычны жэст, калі льга сказаць пра нябошчыка. А словы *нябога* й *нябожчык* вельмі блізкія. Суфікс фактычна ўсё робіць. Адслужыў Танк і паэзіі [...] і кампартыі. [...]

*9 жніўня, серада*

Еду ў трамваі. Маладзіца сталога веку, хусцінка глуха завязана пад бараду, і спіты мужчына, ейны сын, як потым выявілася. Паказвае, дзе ён працуе, дзе ў банку атрымлівае зарплату, гаворыць гучна, бо, відаць, пасля добрага перапою. Маладзіца суцішае яго, ёй сорамна за п'янага сына. Успамінае, як пасля вайны разносіла пошту. Мова чыстая беларуская. Цэнтральная, прыменская. Сын распавядае, як па тэле бачыў, што немцы кідалі жыўцом дзяцей у вагонь. А ў Афганістане, дзе ён быў, ледзь адкуль стрэляць ракетай, засякаюць і з зямлёй руйнуюць кішляк. Гляджу, кажа, у перыскоп, а жанчына з дзіцяткам уцякаюць. Шкада, але трэба страляць, бо загад. Вось табе й немцы.

Крыху спазніўся на пахаванне Танка. Іду, [...] цемра міліцыянтаў, [Лукашэнка] прыехаў. [...]. Мямліў Шамякін па паперцы, такое ўражанне, што ён, як карова жвачку, жве гэтую паперыну з напісанай мурой. Падкрэсліў, што Танк не здрадзіў вялікай ідэі камуністычных крымінальнікаў. Зноў пра грошы. Зуёнак так насабачыўся на пахавальных словах, што лепей за вершы свае лупіць. Навум стаіць і кажа, што Зуёнак уважліва мяне чытае. «Толькі, — кажа Навум, — прачытаю вершы Рыгора, а неўзабаве чытаю

Зуёнкавы такія ж, як Рыгоравы, толькі горшыя […]. Ён сапраўды твой паслядоўнік». Неслі Танка ў такой белай, пад мармур, труне, аж Дракахруст[1] задзівваўся. Кажу яму: «Не спадзявайся, цябе ў такую не пакладуць». Яму й Сачанку зрабілі спаборніцтва па дабротных трунах. Потым я ўспомніў, што такія бачыў некалі ў Швецыі. Неакамуністы-[…] закупілі для сябе за мяжой. А можа, па лініі гуманітарнай дапамогі ці чарнобыльскай прыдбалі. Вертыкальшчык з Мядзела выступаў адразу на дзвюх мовах […].

На вуліцы быў адзін бел-чырвона-белы. Я аж пацалаваў яго. Прынёс расійскі дваранін паходжаннем Прэабражэнскі. Піша вершы, любіць беларускую мову. З Басалыгам[2] казалі пра *кабелен* веку. Хахол варонежскага, выходзіць, разліву Кішчанка [Лукашэнку] ўзнёс над Богам, каб пабудавалі памяшканне й заплацілі. З немцам абарвалася. Басалыга распавядаў, як некалі Анікейчык, пасля таго, як Кішчанка прадаў свой кабелен у нейкі тэхнікум за 40 тысяч рублёў, прымусіў яго паставіць чарку. Кішчанка, каб адкруціцца, кажа, што пры сабе няма грошы. Вядома, Анікейчык дзеля палеру едзе з ім дахаты. Чакае Анікейчык за рулём. Прыносіць Кішчанка 200 рублёў. Па дарозе, прызнаецца сквапец, яму хацелася, каб упасці й паламаць нагу, абы не даваць гэтыя 200 рублёў. Гэта ж Кішчанка з […] Савіцкім прадалі ЦК кабелен, назваўшы яго «Марксизм-ленинизм в действии». […]

*10 жніўня, чацвер*

З раніцы на кінастудыю. Матэрыял, адзняты Лук’янчыкавым[3]. Цікавая манера, праўда, пазычаная ў піцерцаў. Ранейшая назва «Дзікае паляванне на каралёў». Прапанаваў «Меса па Караткевічу» [«Messa па Караткевічу»]. Пагадзіліся ўсе. Потым у ПЭН. З Васілём праглядзеў дзве серыі Вал. Тараса. Васіль добра сказаў: «Імправізацыя добра, калі ёсць пра што сказаць і прадумана, што сказаць. Гэта ж фільм не пра Тараса». А канцэпцыя, казаў я, савецкага чалавека, Васіль дадаў: яўрэя. Усё Тарас пра сябе, як Брэжнеў.

Па дарозе дамоў сустрэў мяне малады чалавек, парадаваў: «Вам лягчэй, вы дажываеце. А вось 35-гадовыя — страчанае пакаленне. Праз хуткі час 20-гадовыя праглынуць гэтае пакаленне». У краме доўга няма касіркі. Дзядзька нападпітку: «Што яна — вяроўку з’ела?» «Кабелен веку: Юшыць сучак не наіў…» [у дзённіку].

---

[1] Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык.

[2] Адзін з братоў; беларускія графікі Басалыга Уладзімір Самойлавіч (н. 1940) і Басалыга Міхаіл Самуілавіч (н. 1942).

[3] Лук’янчыкаў Сяргей Пятровіч (н. 1945), беларускі рэжысёр. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980).

*11 жніўня, пятніца*

Сустрэў Альфрэда Майхровіча[1]. Аднакурснік, на расійскім аддзяленні быў. Сапраўдны філосаф, спакойны, разважлівы, вонкава й унутрана інтэлігентны. Яго ўсяго распірае ад злосці, царская імперыя, кажа, ужо здаецца немаўляткам у параўнанні з савецкай. А цяпер яшчэ страшнейшае нешта рыхтуецца ў Беларусі. Дый на расійскую інтэлігенцыю, як ні круці, як ні зірнеш — імперскі дух, імперскія замашкі. Мы, расійскія, маўляў, самыя што ні найсамыя. Уся расійская культура прасякнута імперскім духам. Расія — адваротны, цёмны бок поўні Эўропы. Гэта ўжо робіцца страшна. Страх падкрэсліваецца безліччу міліцыянтаў, людзей у пагонах. Страх пачынае ціснуць на свядомасць. І ўсё планамерна. А потым сустрэў Генадзя. У таго ўсяленскае гора — пад некралогам па Танку палкоўнік Замяталін выкрэсліў ягонае й Болтача прозвішчы. Гэта, кажа, на труне танцы. А жаданне бачыць сябе пад некралогам савецкае. Ён, выходзіць, і Васілю плакаўся па сваім горы. Як у дзіцячай вушацкай песеньцы:

Сядзіць кошачка на кухні,
Аж яе вочкі падпухлі.
— Чаго, кошачка, ты плачаш,
Ці пі′ткі, есткі хочаш?
— Піткі, есткі я не хачу,
Па сваім горачку плачу:
Сам кухар пячонку злізаў,
На мяне, кошачку, сказаў.
Маніўся мне лапкі пабіць,
Чым жа буду мышак лавіць.

Ажно усю песеньку ўспомніў я ў сувязі з сусветным горам сябра.

«Не згасіць: Ні мясцовыя цыганчукі…» [у дзённіку].

*12 жніўня, субота*

Сойм БНФ. Пра становішча ў краіне і ў свеце. Зянон колькі хвілін, казаў і я. Прыйшлі маладыя людзі ў БНФ. Усе яны прыгожыя, гожыя, годныя. Як свежа гучыць у іх мова нашая. Аж душа радуецца. Выявілася, што й Генадзь хоча ў БНФ. З якога гэта часу? Ці не так, як кіраўнік разбоя на Траецкім прадмесці[2] ў [Сацыял-дэмакратычную] «Грамаду»? Быў Васіль

[1] Майхровіч Альфрэд Сцяпанавіч (1937–2004), беларускі філосаф. З 1969 г. у Інстытуце філасофіі і права АН БССР. Доктар філасофскіх навук (1984). Член-карэспандэнт НАНБ (1996). Прафесар (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[2] 20 красавіка 1986 г. у Траецкім прадмесці гараджане адзначалі свята «Гуканне вясны». Падгавораныя былыя воіны-»афганцы» — нібыта тут сабраліся ледзь не маладыя неафашысты — збілі навучэнцаў Мастацкай школы імя І. Ахрэмчыка, якія вадзілі карагоды.

на сойме. Слабое ў яго здароўе. А, як у нас казалі, рукі не падкладзеш. Учора нанач пісаў верш «Выбіраю»[1]. «Рабінавая ноч»[2].

*13 жніўня, нядзеля*

Пісаў выступленне на кангрэс ПЭНа. Ездзіў да Вольгі. У багатых свае клопаты. А клопат, хоць формай розніца, а цісне аднолькава на чалавека. Бо клопат ад Усявышняга, каб чалавек не спаў, каб рупіўся. А ў нас казалі: каму рупіць, таму й вочы лупіць. Званіў Васілю. Пагаварылі, што яўрэі не хочуць разумець беларусаў, наогул усяго нацыянальнага. Савецкія яўрэі. Іх палохае нацыяналізм. А які ў нас нацыяналізм. Кволае заіканне, каб дазволілі мову нашую спадчынную абараніць. Вялікадзяржаўны бот іх мацней біў, лепей даваў і яшчэ колькі будзе даваць выспяткаў. Хіба адны татары засталіся верныя Беларусі. А савецкія яўрэі забываюцца, што Радзіма іхняя тут, а не на Зямлі абжытай. Радзіма й прарадзіма — гэта як гук і водгук, як зорка й святло ад зоркі, што можа яшчэ ісці мільёны гадоў пасля смерці зоркі.

*14 жніўня, панядзелак*

На працу прыходзіў Пухаты. Ён цяпер жыве ў Віцебску. Неяк будзе выдаваць кнігу, бо ён шмат перакладаў нашай паэзіі на асецінскую. Хутка й мы ў Беларусі будзем на становішчы бежанцаў. Потым хадзіў запісвацца на тэле ў праграму «Карамболь». Збіраюцца дзеткі, усе чырыкаюць па-расійску. Адчуванне сваёй часовасці, выпадковасці, непатрэбнасці. [...].

*15 жніўня, аўторак*

[Лукашэнка] указ выдаў, каб вучыліся па падручніках часоў імперыі, забараніў усе пасля 92-га года. [...]. Званіў Палякоў. Цвяткоў выдзеліў 2 тыс. даляраў Азвяронку[3] на фільм пра Чачню. Відаць, працяг «Нянавісці». [...]. Галоўурачу, здаецца, першай клінікі, пазванілі вечарам, каб раніцай не прыходзіў на працу. [...]

*16 жніўня, серада*

Генадзь у «Звяздзе» прапануе сваю кандыдатуру [...], і кандыдатуру, і шкуру. Васіль правільна сказаў, што яму прасцей і карацей да службовай лесвіцы дапасці — гэта выступіць па-бальшавіцку шчыра супроць Зянона. Адразу заўважаць.

---

Падазрэнне, што правакацыю зладзілі не без «падначкі» гаркама, падала на П. Краўчанку, сакратара Мінскага гаркама КПБ (1985–1990).

[1] Гл.: Выбіраю (12.08.95) // Халодная памяць вады. С. 368.

[2] Гл.: Рабінавая ноч (12.08.95) // Босая зорка. С. 66.

[3] Азаронак Юрый Уладзіміравіч (н. 1965), беларускі журналіст, кінарэжысёр, сцэнарыст.

На працы сынам Шупенькавым[1] падпісаў нейкую рэкамендацельную паперу. Разам з Ул. Арловым. Перадрукоўваю вершы — рэшту ў «З чорным катом на плячы».

*17 жніўня, чацвер*

Страйкуюць метроўнікі. Спёка. Страшэнны боль у галаве. Падпісаў заяву супроць антыбеларускіх дзеянняў [...]. Там і Генадзь, і Ніл. Падпісваў таму, што трэба й што Васіль. Сказаў Васілю, што непажадана было з Нілам, Васіль адказаў: «Гэта тая сітуацыя, калі з самім д'яблам можна падпісваць заяву». Пісаў «дурноты»: «Хочацца: Ветэранаў-смершаўцаў...», «Прыняць: Цыган па драбінах...» [у дзённіку].

*Кожны сам*

Кожны сам сабе баран,
Кожны сам сабе вароты
Выбірае на таран
І авечку — на залёты.
Зрэшты пан баран за ўчынкі
Застаецца без аўчынкі.

Чытаў па тэлефоне Васілю «дурноты». Яму падабаліся. У яго добрая ідэя падзяліць адамовічскую прэмію між Цыганковым[2] і Жданком. А гэта трэці верш з трыпціху, які будзе называцца «Тройчы», прысвечанага Драньку: «Як вір...»[3]

*18 жніўня, пятніца*

На працы запісала па тэлефоне Аксак[4] для «Свабоды». Нахапку пісаў агітку: «Назад: Адміністранцам і абранніку...» [у дзённіку]. Па дарозе на працу й потым пасля заўвагі Дранько напісаў «дурноту»: «Пра былосць: Былыя прысмакі ўзгадаць саладзей...» [у дзённіку].

Вечарам на тэле чытаў вершы пад сюжэт пра вёску Звонь. Мясцовыя кажуць Звоня. Даў загаловак: «А ў Звоні званы і ўдовы адны». Ушацкая, дакладней, званская, Раіса (цяпер Любімава) падабалася сваёй заядласцю ў беларускасці. Дачка настаўніцы. А ў кадрах кабеты хараша па-наша-

---

[1] Шупенька Генадзь Серафімавіч (1936–2010), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1982–1996 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі серыйных выданняў выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Цыганкоў Віталь Аляксеевіч (н. 1969), беларускі журналіст. Заснавальнік, нам. дырэктара першага недзяржаўнага агенцтва навінаў БелаПАН (з 1991). У 1992–1995 гг. карэспандэнт газ. «Звязда».

[3] Гл.: Як вір... (17.08.95) // Ксты. С. 362. Верш прысвечаны А. Сысу.

[4] Аксак Валянціна Іванаўна (Арлова; н. 1953), беларуская паэтэса, журналістка. У 1992–1995 гг. супрацоўніца час. «Беларусь». З 1995 г. супрацоўніца Радыё «Свабода». Жонка У. Арлова.

му гукаюць. […]. Памятаю, як самаўпэўнены шафёр, які вазіў першых раёна, з […] гонарам тлумачыў нумар машыны ВТП — «важу толькі паняў».

*19 жніўня, субота*

Чытаў прэсу, лацінскі слоўнік.

*Gradus ad Parnassum*

Virs erudītus Лявон —
места Полацка сон мудравокі,
Мноствамі моваў спакушаны,
дбайлівы рупнік Баршчэўскі й
Чутнік, што чуе
Гісторыі подых і крокі,
Ходца ў паэзіі гай,
каб вясновым радком балючэў кій.
Мовай крывіцкай мовяць
следам за непахісным Эсхілам[1]
З ласкі ягонай Сапфо[2]
ды гарачы Гарацый[3] з Рансарам[4].
Плечы не горбяцца,
падпёртыя небасхілам.
Плён і Лявон зрымфаваліся
summa summārum.

*20 жніўня, нядзеля*

Падбіваў на машынцы астатнія вершы ў кнігу. Напісаў верш, прысвечаны Зянону. Раіўся з двума Васілямі. Абыдва сказалі, што панібрацтва з Богам не будзе: «Аддзяка»[5]. А потым пісаў верш у гонар Галіны Шаблінскай:

*Акрамроя*

Гай галее, рэха гнёзды ўе.
Ад сябе ўцячы рака не можа.
Любіць стома лецішчы свае.
Імем годным даўніцца вяльможа.
На якую ні ўзыдзі гару,
Адусюль айчынны дол пакліча.
Шэры дзень і ясную пару

[1] Эсхіл (каля 525–456 да н. э.), старажытнагрэчаскі паэт-драматург.
[2] Сапфо (Сафо; 7–6 ст. да н. э.), старажытнагрэчаская паэтэса.
[3] Гарацый Флакк Квінт (65–8 да н. э.), рымскі паэт.
[4] Рансар П'ер дэ (1524–1585), французскі паэт.
[5] Гл.: Аддзяка (20.08.95) // Ксты. С. 180.

Ахвяруе ціхаце каплічка.
Бліск у шаблі на шляхетны скон.
Лотаць — латы веснавой пяшчоты.
Інеем імшыць ізруб свой сон.
Ноч святлей хавае зоры ў соты.
Салаўя на спеўным скразняку
Корміць не скарынка, а іскрынка.
Ахіне Ярылаву дачку —
Ярыну картавіца хмурынка.

*21 жніўня, панядзелак*

На працы з Лявонам Дранько канчаткова ўтрэслі мой зборнік. Званіў Васілю. Ён даваў інтэрв'ю Бі-Бі-Сі. Метро робіць. Кажуць, знайшлі чыгуначнікаў штрэйкбрэхераў. Гэта не штрэйкбрэхеры, гэта стукачы. Гэта мацнейшая за масонскую любую арганізацыя, якой кіруе Лубянка. Хай паспрабуе хто не выканаць задання. Рассакрэцяць для прэсы, абтрасуць лапы ад іх. Дысцыпліна жалезная. Так званае СНД на іх трымаецца. Картатэка ўся ў Маскве. На цугундары трымаюць.

*Таму*

А показка нездарма
Гаворыць пра райскі кут:
Там добра, дзе нас няма.
Таму і жывем мы тут!

*22 жніўня, аўторак*

Забралі Антончыка. Кіраўніка вольных прафсаюзаў бралі з ачапленнем, у масках. [...]. На душы трывожна. Душа пад ільдом, як у нас дома казалі. [...] За што нам, беларусам, гэтакі праклён? Усё ў нас: і войны, і Чарнобыль, [...].

«Слабы піток: Хай цэдзіць іншы ўзвар...» [у дзённіку].

*23 жніўня, серада*

У «Зяме юности» бруд вылівае на ўсіх нас, абаронцаў фільма Быкава «На чорных лядах», Росцікаў[1] — стукач, якога выгналі з Эстоніі. На планёрцы гомельскі філосаф Кусянкоў дагаварыўся, што шмат выдаем Ластоўскага, а трэба ягонага гомельскага [...] Гаўрылкіна[2] спадчыну шырока выдаць. [...].

---

[1] Росцікаў Яўген Антонавіч (н. 1945), беларускі журналіст.
[2] Гаўрылкін Леанід Іванавіч (1935–1989), беларускі празаік, драматург.

*Сустрэча вачэй*

Сняць лемяшы стрыножаныя гоні.
І ў сны лятуць стрыножаныя коні.
Зайздросцяць вечным зорам ліхтары.
Пакліч — і буду я ў тваім палоне.
Жаданне не ўтрымаеш у загоне.
Мы ў нашых рухах не гаспадары.
А можа, ці ніколі, ці сягоння
І нашы ўжо сустрэліся далоні.
Яны маўчаць.
І ты не гавары.

Па тэле перадалі, што [Лукашэнка] адклікаў указ наконт падручнікаў. Гэта не нашая перамога. Проста старых падручнікаў няма ні ў нас, ні ў Расіі [...].

*24 жніўня, чацвер*

Здымалі ў Літмузеі Васіля. Роля яму не такая ўжо й не звыклая. Маўчаць у кадры. Гэта для «Messa па Караткевічу». Лук'янчыкаў хвост як паўлін распусціў. Яму здалося, што ўразіў Васіля. Няхай. Гэта яму самому на настрой. Занёс фота для «Карамболя». Сам яму сабе, здаецца, капаю. Дурная перадача будзе. Дурныя пытанні, і гэткія ж мае адказы.

* Дамініка: «Божанька дужа доўгі й магутны, таму яго на ўсіх хапае».

*25 жніўня, пятніца*

На працы. Падбіваў такія-сякія справы. У падвешаным стане мой Збор твораў. У мяне ўсё цяжка йдзе. У іншых коціцца. Вечарам гуляў з Дамінічкай. Вучылі беларускія месяцы. На снежань яна сказала *сняжнік*. Цікавае філалагічнае чуццё ў яе маецца. Каб гэта ў беларускамоўным, беларускадухім асяродку расла. А то даводзіцца вучыць беларускай мове і ўсяму нашаму, як у эміграцыі.

* Кажу Дамініцы: «Я табе купіў шмат трусікаў». — «Навошта? Што ў мяне — сто поп?»

*26 жніўня, субота*

Пад вечар нарэшце неба дажджом загаварыла. Давяла спёка да ручкі. Званіў Васілю. Ён хадзіў у ПЭН-цэнтр, рэдагавалі рэзалюцыі, ён яшчэ прынёс колькі старонак праўленага свайго выступу.

*Чакалі*

Харон глядзеў туманна з-пад рукі:
Каго ў Ляўкі,
Каго на Салаўкі…

Душаловы чакалі,
Калі заляціць птах,
Якога засватала неба.
І палын саладзіць,
І руку залаціць
Служкі д'яблавы ўмеюць
Што трэба.

Як Тарасу[1],
Нашэптваў Дняпро: «Не пішы…»
Кпіла з келіхаў поўня,
Як варта…
Краты промняў на шыбінах.
Ноч на душы.
Дрэвы й цені — падвойная варта.

І сціскаліся марна радкоў кулакі.
І баялася восені лета.
Палявалі ваўкі…
Балявалі Ляўкі —
Залачоная клетка Паэта…

* Дамініка: «У нас у доме няма такога мужчыны, які можа выбіваць дываны».

*27 жніўня, нядзеля*

А дзявятай як селі ў вайсковы аўтобус з маладзенькім лейтэнантам і яшчэ болей маладзейшым шафёрам, дык а трэцяй былі ў Ляўках. Да Марса (не да Жычкавага[2]) можна было даехаць. У Ляўках дождж праліўны. Някляеў, Дранько й я трошкі пад дажджом пачыталі. Потым было добрае застолле. Выдатна спяваў Ламан. Яму я экпромціў: «Я баялася Пятра…» [у дзённіку]. Супрацоўніцы філіяла [музея Я. Купалы] маладзейшыя на лепшай мове, старэйшыя на дземянцееўцы […]. Гэткага не магло быць у Латвіі ці ў Літве. […] Васіль неяк казаў, што раней у камуністаў былі партсходы й пленумы, цяпер перайшлі ў парылкі. Казаў Валодзя [Някляеў],

[1] Шаўчэнка Тарас Грыгор'евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак. Быў сасланы ў салдаты царскімі ўладамі (1847–1857).

[2] Беларускі паэт Хведар Змітравіч Жычка (1927–2007) нарадзіўся ў п. Марс Жлобінскага раёна Гомельскай вобл.

што [Лукашэнка] яшчэ ў спёку 92-га, стоячы каля ЦК, паказваў жменю з пяском. «Бачыш, — сказаў Валодзю, — што тварыцца». Той недаўмеўся. Тады [Лукашэнка] сказаў: «Абустроіць дом ніяк не могуць, а хочуць рэспубліку. Вось калі я тут буду, царскі палац зраблю». […]. Валодзю прапаноўвалі міністра культуры. Адмовіўся. […]. Усю дарогу, а прыехалі а трэцяй начы, пісаў верш: «Прашэнне»[1].

*28 жніўня, панядзелак*

Званіў Васіль. Сказаў, каб я не выступаў болей у перадачах кшталту «Карамболь». Бо і Генадзь таксама кепскай думкі. Васіля я разумею, а вось калі Генадзь не раіць, тут я ўжо ў сумніве. Васіль цікава сказаў: «Шызафрэнія — плюралізм у адной галаве».

*29 жніўня, аўторак*

Хадзіў да Палякова, ён запісаў «Карамболь» са мной. Не так і страшна. Пытанні дурнаватыя, аўдыторыя дурнаватая па маладосці. Але ж нічога не выразалі палітычнага. Дзеля гэтага й варта было выступаць. У метро пісаў:

*Зробіцца*

Яблык,
Як з казкі клубок-калабок,
Поўніцца сонечным сокам.
Вытнецца бокам аб дол
Абібок,
Зробіцца абабібокам.

*30 жніўня, серада*

Сёння 41 год [Лукашэнку]. […] «Не ў таго: Журналістам абы чытачоў урачы…», […] «Не тыя: Начальнік павінен быць…» [у дзённіку]. Да паўночы на Фондзе Сораса. Ледзь уламаў, каб дапамаглі грашовай зваротнай пазыкай [газ.] «Свабодзе». Старшыня Назіральнай рады Андрэйчык яўна заангажаваная саветка. Такая ўжо ў яе прафесія. У імперыі [неразб. 1] рабілі так, як званілі з райкома ці з ЦК. Пазваночная сістэма. Як каты′, у якіх лапы не пахнуць.

* Дамініка: «Падарункі — неаддарункі».

*31 жніўня, чацвер*

Задажджыла. Завалакло ўсё хмарамі, а маю галаву дык зусім адключыла. Ледзьве ўстаў, каб паехаць на кангрэс [ПЭН-цэнтра] у лес. Бо ў Васі-

---

[1] Гл.: Прашэнне (27.08.95) // Ксты. С. 225.

ля вялікае гора — Ірыну забралі ў бальніцу. Пагражае аперацыя. Васілю з усіх пакутаў яшчэ й гэта.

*1 верасня, пятніца*

[ДТ «Ісклач».] Пачалі працу. Васіль адкрыў [кангрэс] і неўзабаве паехаў. Ірына Міхайлаўна на аперацыі. Міша Забораў хацеў распавядаць, як у Ізраілі кепска, а пасля выступіць як бард, атруціўся. Адвезлі ў бальніцу. Няма чаго прывыкаць да марцыпанаў у Ізраілі. Па абедзе ў будзінаўскія «Дудуткі». Прыгон, у якім шмат хто з калгаснікаў хацеў бы быць. Падвячорак, які перайшоў у пазную вячэру з шашлыкамі. На сталах было ўсяго гэтулькі, што баяўся аб'есціся. Давялося скакаць пад музыку будзінаўскіх «прыгонных» музыкаў. Назад ўсю дарогу Генадзь распавядаў шмат цікавага з жыцця эміграцыі. Як я й думаў, адзін з галоўных пунктаў ягонае адстаўкі — цесны кантакт з эміграцыяй. [...]. І [...] Краўчанка за эміграцыю згарэў. [...]

Цікава, як Вітаўт Кіпель трапіў у эміграцыю. На Камароўцы пад час вайны ўкраў бутыль ці каністру газы. Злавілі. Не маглі ўратаваць ні бацька[1], відны дзеяч нацыяальнага руху, ні Іваноўскі[2], да якога пабег бацька Вітаўта. Немцы саслалі падлетка на працу да баўэра. Потым, калі бацька адступіў разам з немцамі, знайшоў сына. І цяпер Вітаўт высокае пробы беларус, з выдатнай эўрапейскай адукацыяй, эрудыт. Ну хіба можна ляпаць па-савецку, што ён супрацоўнічаў з немцамі.

*2 верасня, субота*

Уручаў білеты ПЭН-цэнтра. Бо Васіль у Менску. Працяг нашага кангрэсу. Шмат разумных выступаў і нашых, і гасцей нашых. Сёння ў Менску [Лукашэнка] звярнуўся да рэдактараў газет, каб не крытыкавалі [...], а ўслаўлялі працоўныя будні. Гэта ўжо мы чулі. «Зорка й каганец цямрэчы плечы прапякуць...»[3]

* Сакрат Яновіч[4]: «Культура можа быць толькі ў багатых. Бо бедныя людзі — пераважныя фашызму».

---

[1] Кіпель Яўхім Яўсеевіч (1895–1969), беларускі настаўнік, навуковец, грамадскі дзеяч беларускага замежжа. Быў рэпрэсаваны. У 1944 г. выехаў у Германію, у 1950 —м у ЗША.

[2] Іваноўскі Вацлаў Леанардавіч (1880–1943), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч. У 1941–1943 гг. бургамістр Мінска, часовы кіраўнік Беларускай народнай самапомачы, старшыня Беларускай рады даверу. Забіты партызанамі.

[3] Гл.: Ад каго? (2.09.95) // Ксты. С. 205.

[4] Яновіч Сакрат (1936–2013), беларускі і польскі празаік, драматург, публіцыст; палітычны дзеяч Польшчы.

*3 верасня, нядзеля*

[«Іслач».] Прыехаў Васіль. Ірыне Міхайлаўне быццам не горш. Да вечара мак таўклі. Выдатна выступілі Грыцкевічы[1]. Алуся [Сямёнава] пырхала, як вечарніца. Потым уручалі прэміі. Выдатны выступ спевака Віктара Скорабагатава[2]. Відаць, Тарас пакрыўдзіўся. Сам вінаваты.

*4 верасня, панядзелак*

Ад'езд. Як некалі ў маладыя гады, шмат п'яных. Генадзь ходзіць, як астранаўт па Месяцы. Рыч з недапітай пляшкай. Вось табе й чапурыстыя ангельцы! Пайшоў развітацца з лесам.

*Засынанне*

Перадзімовы сон
Насмеліўся навальвацца.
На скон, як на ражон,
Ідзе смуга-нядбаліца.

Дрыжыць: — Засну, засну … —
Асіна, ўжо бязлістая.
І кожную сасну
Бяссоніца пахіствае…

Ад'езд на *Глушу.* Па дарозе літовец упаў, як малады. У Глушы фельчар, выклік. Выдатны камень Алесю паставілі. Грашароб Янушкевіч[3] толькі садраў як чорт за бацьку за праект літараў «Алесь Адамовіч». Лясныя клады. На раўніне. Васіль казаў, што ў нас на пугурках — гэта яшчэ ад паганства. Памянулі Алеся. Потым да ягонае хаты. У двары ў садзе стол. Яшчэ раз памянулі. А ў мяне «дурнота» ўзнікла: «Экспарт: Экспартуе рускі мат Расія…» [у дзённіку]. У садзе Тарас не вытрымаў, запытаўся, чаму Шарамету[4] медаль. Мас-медыя. Іхнія грошы. Ламан напомніў мне пераклад мой латышскае дайны:

Дзецюку надоечы
Я давала стоячы —

---

[1] Браты А. П. Грыцкевіч і Грыцкевіч Валянцін Пятровіч (1933–2013), вучоны-гісторык, урач; дзеяч беларускай дыяспары ў Расіі (СПг.).

[2] Скорабагатаў Віктар Іванавіч (н. 1951), беларускі спявак, педагог, музычны дзеяч. Заслужаны артыст БССР (1982). З 1992 г. мастацкі кіраўнік «Беларускай капэлы», выкладчык БАМ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1990).

[3] Янушкевіч Валяр'ян Язэпавіч (н. 1962), беларускі скульптар. Брат Ф. і Я. Янушкевічаў.

[4] Шарамет Павел Рыгоравіч (1971–2016, Кіеў; забіты), беларускі журналіст. У 1994–1995 гг. аўтар і вядучы праграмы «Праспект» на Беларускім тэлебачанні. Лаўрэат прэміі ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча.

Ці з-за дробязі такой
На зямлі ляжаць сырой?

*Валянціну Тарасу*
*(на «Евангеллі ад Мамы»)*

Шаноўнаму Валянціну Тарасу я
«Эвангелле ад Мамы»
Падпісываю
Рыфмаю Тарасаваю,
Бо Тарас
Валюшысты самы.

*[1995]*

*5 верасня, аўторак*

Бег з малымі перашкодамі па рэдакцыях. Быў і ў выдавецтве. Званіў Васілю. Ён сам ездзіў па Ірыну. Забраў з бальніцы. У яго начаваў Норберт[1]. Казалі мы, якія цяжкія валізы цягаюць замежнікі. Падняць нельга. Васіль ўсё замежжа аб'ездзіў з маленькім кейсам, як вялікім партабакам[2].

*6 верасня, серада*

Натурныя здымкі ў кар'еры пад *Смілавічамі.* На адным узгорку крыж. Палякі здымалі фільм. Крыж пакінуты, ляжыць бокам. Дужа добра лёг на канцоўку фільма «Messa па Караткевічу». Нёс Уладзімер, сам упаў, крыж упаў. Хто следам ідзе, тым падымаць і несці далей. Кар'ер зарастае дрэўцамі. Піратэхнік рабіў выдатна туман. Дым, бадай што, самы вольны, як і аблокі. Толькі ад ветру залежны. Там-сям восеньскія кветкі сумнай красы. Напамін пра спёку, пра красаванне, пра вечнасць паўтору. Успомніў, як Ягораў[3] некалі (цяпер у КДБ міністр), калі быў камсамольцам, казаў, што пасля перапою пацеюць вочы. «Змагар: Ён з зялёным зміем смела…» [у дзённіку].

*7 верасня, чацвер*

Абед у мільянеркі. Чырвоная ікра. Каўбасы. Вяндліна. Пад канец прапанавала хлеба. А я без хлеба нічога есці не магу. І ў Эўропе не мог, і дома таксама. Званіў Васілю. У Ірыны Міхайлаўны трымаецца тэмпература. Бедны Васіль. Яму яшчэ хворае жонкі не хапала. У Карласа клопат з Мішам Заборавым. Робяць пераліванне крыві яму, як іншакраінцу

---

[1] Рандаў Норберт ( 1929–2013), нямецкі перакладчык, славіст, прапагандыст беларускай літаратуры ў Германіі.

[2] Партабак — каробка для захоўвання табака.

[3] Ягораў Уладзімір Дзям'янавіч (1939–2016), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1994–1995 гг. старшыня КДБ РБ.

трэба плаціць вялікія грошы. Вось хай Карлас і шукае. Выклікаў. Сёння мільянерка распавядала, як Карлас хваліўся, што некаму даў крыдыт, але пад умову, што той выдасць ягоны пераклад Маркеса[1]. А грэсэ бізнэсмен Карлуша пінгвін. Усё-ткі ён хапіў паветра кападносінаў разам з соскай. А мы выхаваныя на вонкава прыстойнай, а ў нутры цынічнай камуна-[...] маралі. І цяпер, як каты′, якіх прагналі з цёплых хатаў.

*8 верасня, пятніца*

Святы дзень гісторыі Беларусі. Бітва пад Воршаю. У саюзе вечарына БНФ з гэтай нагоды. Не змог з-за галаўнога болю. Даб'е мяне гэты боль. Яшчэ з раніцы было адносна. Ездзіў з Лук'янчыкавым на торфапрадпрыемства. Рабілі кадры на вузкакалейцы. Пасля чыгункі вузкакалейка выглядае неяк па-хатняму. Як бы прагналі на зялёнай кашулі два радкі светла-халодных нітак. Неяк супакойвае патахтванне, пагойдванне. Пачатак прагрэсу быў не зусім нахабны, яшчэ баязліва-сарамяжлівы.

*9 верасня, субота*

Перачытаў успаміны жонкі Язэпа Пушчы[2]. Як яна кахала яго. Якія гэта беларускія інтэлігенты былі. Якая шчырасць. А як апісаны даваенныя, дапасадачныя гады. «Знайшлі добрую двухпакаёвую кватэру з кухняй, з асобным ганкам». А пасля ўсё ў нас пайшло ўлукаткі. У вайну шмат хто пабраў афіцыянтак з маскоўскіх рэстаранаў. Маладзейшыя нават з сабакамі й то па-расійску. Вось гэта добра.

*10 верасня, нядзеля*

Прахварэў дома. [...] Адзін я. Хутаранін паходжаннем — хутаранінам і жыву. Адзін. «У сне: І розных масцей...» [у блакноце].

*11 верасня, панядзелак*

Учора вечарам Дамінічка прыходзіла з Васілічам. Пайшла да іх начаваць. Я з ёй зусім не ўмею. Зарослая валасёнкамі — трэба стрыгчы. [...]. Бацькі недзе ў Піцеры. Мне баліць душа па гэтым святым стварэнні. Хадзіў на працу. Усё ціха. Як перад вынасам трупа. Васілю перадалі лекі для Ірыны ад БНФ. Ён дужа рады. Цікава. У лесе застолле з нагоды завяршэння кангрэсу ПЭН-цэнтра. Васіль мне падкладае ў талерку: «Еш. Ты ж любіш мяса». Колькі ласкі ў ягоным ушацкім, а таму й родным голасе мне. Заўсёды чуецца.

---

[1] Маркес Габрыель (Габрыель Хасэ дэ ля Канкордзія; 1928–2014), калумбійскі празаік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1982).

[2] Пушча Язэп (сапр. Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; 1902–1964), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны.

*12 верасня, аўторак*

На працу забягаўся Вальдко Калінін з сынам. Прыехаў з Лёндана, пераязджае ў Менск. Сын вучыцца на першым курсе. Вельмі мякка гаворыць па-беларуску. З віцебскім *-ець.* Вальдко рагатаў, калі я сказаў, што Додзік прыватызаваў Шагала. У добрых цыганоў сыны добра па-беларуску гавораць. [...].

*13 верасня, серада*

Чакаў вадаправодчыкаў. Потым вылічвала кантралёрка, колькі святла нагарэла. Паўмільёна трэба плаціць за электрычнасць. Усё з мяне. Ніхто — мне. Аж гаркота ў роце — бяднею.

*14 верасня, чацвер*

Першы вераснёўскі дзень. Хадзіў на працу. Галя [Роліч] аднесла першы том мой Андраюку. Дзякуй богу, не вярнуў, а паклаў пачытаць. На мне вечна клінам свет сыходзіцца. Званіў Васілю. Устрывожаны падзеямі. Нашыя [...] паўтарылі варыянт з карэйскім самалётам. Збілі паветраны шар, двох амерыканчыкаў на смерць. Хоць была ж дамова, гэта ж спаборніцтвы недзе ў Скандынавіі. [...].

*15 верасня, пятніца*

На працы. Ганад расчульвае Сёмуху, Сёмуха Ганада — наконт адмены іх як загадчыкаў. Ускосна б'е гэта па мне. Вечарам хадзіў да Навума. Рыфмуюцца два словы трывала: Навум і сум. З кепскай сям'ёй кепска, і аднаму яшчэ горш. Навуму падпісаў «Эвангелле ад Мамы»[1].

*16 верасня, субота*

Сядзеў дома. У думках збіраўся ў Вушачу. Цяжкі стаў на нагу. Думкамі ў дарозе, а сабой дома болей і болей. Туга й роспач апанавалі. «У свет я прыйшоў басанож...»[2]

*17 верасня, нядзеля*

З хворай галавой хадзіў да Кішчанкі. Аглух. Асабліва не чуе там, дзе не хоча. Пытаюся, як дайшоў да такога жыцця, што на кабелене веку [Лукашэнка] над Хрыстом. Не чуе. Савіцкі быў адным з ініцыятараў [...] герба. Цяпер прапанаваў на габелене ў ЦК Леніна замяніць на герб [...]. Кішчанка гэта рабіць адмовіўся, саслаўшыся, што гэтую працу прымаў сам Машэраў. [...].

---

[1] Гл.: «Сем дзясяткаў...» (15.09.95) // Толькі б яўрэі былі!.. С. 215.

[2] Гл.: У вогнішчы дзён (16.09.95) // Ксты. С. 258.

*18 верасня, панядзелак*

Праца. У ліцэй. Чакаем Дамінічку. Засумавалі па ёй. Нават кот Мірон.

*19 верасня, аўторак*

На прыём да Смулэк[1] не пайшоў. Васіль таксама. Яе бачыць мы хацелі б, ды не розныя морды. Пачаў бегаць афармляць пенсію. Ёсць нейкія льготы.

*20 верасня, серада*

Сёння юбілей Купалаўскага музея. Не змог быць — галава разломваецца. Засядалі на лятучцы. Справы ў выдавецтва швах. А ў праграмах школьных «Патрыятычная песня» Панчанкі. Да 60-годдзя [...] Кастрычніка, не так крывавага тады, як потым. Нездарма завецца ўсё савецкае чырвоным. Заходзіў Васіль. Дадаваў эсэ да кнігі навэлаў «Сцяна». Я на хвілінку адлучыўся, а потым дзяўчаты кажуць: «Гэтак вонкава проста — Быкаў сядзіць у нашай рэдакцыі, а на справе — гэта ж Быкаў!» Праводзіў Васіля да паловы дарогі ягонага дома. У Васіля змрочныя прагнозы на нашае заўтра. Нашае заўтра чыста астранамічнае, а ў сэнсе будучыні — яго няма [...]. А пад вечар бегаў па празаічных клопатах — шукаў праязны на апошнюю дэкаду. Недзе Усявышнім вызначана мне не колькі праязных, а пражытных.

*21 верасня, чацвер*

Рада ў выдавецтве. Трэба скарачацца. Відаць, год пабуду, а там богбацька. На кінастудыю занёс тэкст да фільма Лук'янчыкава пра Караткевіча. Назваў тэкст і, думаю, гэтак і фільм назавем: «Акафіст Уладзіміру»[2]. Праглядзелі чарнавы варыянт фільма «Забораўна». Жудасны фільм будзе — усё, што дала партызаншчына, — магілкі ў гародах, гародчыках, пад вокнамі хатаў, на выгане. А якія тыпажы. Пра мову й казаць не даводзіцца. «Добрае так не запамятаецца, як благое... Вяночак з *дзеругі'*... Малыя ў спаві'лках... Жудаснае дзела... І нашых празь іх пабілі... Вайна засцігну'ла, столькі працы прыклаў... Бег хату бараніць... Капалі яму — да паясніцы выкапалі... Калі загукаю... Я яшчэ цягаюся, а ты ляжыш... Якой *бялю'гі* пацягнуць, ад віна галава баліць...»

А вечарам засядаў па travel гранту. «Зарэзаў» нейкую [...] Зою Луцэвіч[3], якая некалі аб'яўляла сябе ўнучкай Купалы й несла бруд на беларускую мову перад рэферэндумам па [...] тэлепраграме «Мір». «Зарэзаў» і

---

[1] Смулкова Яніна Эльжбета (н. 1931), польскі мовавед. Прафесар (1988). У 1992–1995 гг. Надзвычайны і Паўнамочны Пасол Рэспублікі Польшча ў РБ.

[2] Гл.: Акафіст Уладзімеру //20).09.95) // Ксты. С. 215.

[3] Луцэвіч Зоя Алегаўна (н. 1970), беларуская мастачка.

Івана Чароту[1], аднаго з паплечнікаў […] магілёўскага Чыгрынава па сербскім камітэце. Вечарам пахваліўся Васілю — ён ухваліў.

*22 верасня, пятніца*

Цэлы дзень бегаў па даведкі й паперы на афармленне пенсіі. Вечарам дазваніўся да Алеся Траяноўскага[2]. Яму сёння 70. І ў глухую ноч імперыі ён быў беларусам, будзіў, сляпым адчыняў вочы. Бог дае яму яшчэ добрых гадоў. Шчырых беларусаў у Беларусі мала. Кожным трэба ганарыцца, кожнага шанаваць.

*23 верасня, субота*

Званю Васілю. Кажа: «Магу цябе павіншаваць у двукоссі», — у «Мы и время» цэлая старонка мне прысвечана як пярэваратню. Бачце, хоць у партыю не ўступаў, але нешта пісаў, і яму, мне, значыць, партыя давала ганаровыя граматы. Я, вядома, казаў Васілю, што пад ўвагу такое не прымаю. Ён мне таксама параіў. А вечарам, калі сазвоньваліся, пахваліў мяне за мужнасць, што не чытаю такое, а сам прызнаўся — не можа не звяртаць увагу на падобную пісаніну. Я казаў Васілю, што ён мазахіст, раз чытае падобныя газеты. Я дык не хачу выпрабоўваць свой характар.

*24 верасня, нядзеля*

Хадзіў па крамах. Купляў запасы такія-сякія. Усяго не купіш. Не напасешся, неназапашваешся. Нейкае адчуванне канца, развітання. І ведаеш, што ўсё натуральна, але страх у цябе за спіною сядзіць, дыхае над табой. «Не верыш»[3].

*25 верасня, панядзелак*

На працу. Званілі ў Нацыянальную бібліятэку, там нічога не заказалі майго першага тома збору. Гілевіч уключыў сябе ў школьныя праграмы, ягоны Збор твораў[4] (?) сацыяльна важны. І ад камуністаў узяў, што мог, і ад неакамуністаў сам сябе ўкарчаваў і папастаўляў у выдавецкіх планах. […]. Дамовіўся з Ганадам наконт машыны. […]

*Лятуць*

У вёскі і ў мястэчкі нашы сны
Штоноч лятуць,

---

[1] Чарота Іван Аляксеевіч (н. 1952), беларускі літаратуразнавец, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1998). Прафесар (1999). З 1977 г. выкладчык БДУ.

[2] Траяноўскі Алесь (Аляксандр Пятровіч; 1925–2005), беларускі перакладчык.

[3] Гл.: Не верыш (24.09.95) // Ксты. С. 195.

[4] Гілевіч Н. Збор твораў: У 4 т. Мінск, 1996–2003.

Што тыя птушкі ў вырай.
У край лясны,
У прыцемак вясны,
Дзе пер'іна прымроенай апірай.

Хоць і ад выраю адзін назоў
Застаўся
Усплываць са дна прадоння.
Ад першажаўрукоў да маразоў
Бяссонне ходзіць з кайстраю рудою.

Вязе ўспамін на млын
Палын малоць,
А на хаду заснуць спрабуюць колы.
Жыццё ёсць сон,
Які сасніў Гасподзь,
А нам яго распавялі анёлы.

*26 верасня, аўторак*

З Дамінічкай да Навума на юбілей. 70. Усе знікаючыя фігуры сабраліся ў кучу. Белагаловыя, лысыя, а чарку ўзялі — яшчэ па інерцыі пачалі харахорыцца. Збоку ўсё гэта не гэтак смешна, як сумна. Двое з людзей будучага — Радзік і жаніх Надзеі, філосаф, які за ўвесь час ні гуку не абраніў. Дамінічка любіць людзей, любіць увагу. Мне яна здаецца самай прыгожай, самай разумнай ва ўсім свеце. Гэтак, бадай, усім дзядам здаецца.

*27 верасня, серада*

Наважыліся ехаць. Не атрымалася. Едзем заўтра. Дамінічка дужа рада, што паедзе ў Вушачу. А мне гэта як мёдам па душы. Відаць, ні дружажонкі, ні натхнёнкі маладзяць дзядоў, а ўнучкі. Нейкі малады клопат выклікаюць у душы.

Званіў Васіль. Быў на сустрэчы з немцамі, якія будуць вучыць нас дэмакратыі. Заключылі нават нейкую дамову. Васіль удакладняў ім, што ў нас у кіраўнікоў няма жадання дэмакратыі, вучы не вучы.

* Дамініка: «З языка згубіла слова, якое хацела сказаць».

*Чыя*

— Скажы, а ты чыя? —
Пытае ў ручая
Змяя грымучая.
І адказаў ручай:
— Ты мне не дакучай,
Грымучая,
А не грыміш,

Маўчыш,
Як у запечку мыш.
А я імчу,
А я звіню,
А я люляю цішыню,
Сцюдзёна разумею я
Адно —
Ты не мая, змяя.

*28 верасня, чацвер*

*Вушача.* З Уладзімерам Кудзіным за рулём імпартным рафікам на Вушачу. Мірон ўсю дарогу сядзеў за пазухай у Валі. Недзе ўжо на тэрыторыі вушацкага раёна вырашыў замачыць прыезд у новае мейсца на Валіну сукенку. Потым як ірвануўся ў сад — толькі й бачылі яго. Сустрэў Пятро, усох, усмяг, неяк спетушэў мой дарагі роднік. Марыя Рыгораўна сптушанела, неяк яшчэ болей сагнулася, да зямлі пахілілася. Каза яшчэ ёсць. А так ні цыбуліны, ні часныка. Далі ёй часныку ўзбекскага. Чаю. Алею прывёз цэлы пластмасавы бітончык. Дыхнуў крыху паветра ў садзе. Назад на Менск. Трэба быць на Ф[ондзе] С[ораса].

Па дарозе Уладзімер купляў журавіны. Таргаваўся, каб свежыя былі, каб не моршчаныя. Бабкі прасілі 8 даляраў, а 7 — аж з гакам было. Адзнака часу — у лесе пры дарозе журавіны купляюць за даляры. Некалі Макаёнку — галоўнаму цэкоўскаму смехуну ў ЦК пальчыкам махалі за тое, што ў гатэлі «Мінск» за даляры купляў каньяк. За даляры было нельга. Толькі кэдэбістам і цэкістам.

Прыехалі засветла. Пайшоў на працу. Пазваніў — Мірона няма. Расказаў Васілю. А Васіль мне пра бацькавага ката. Як толькі цяплела — знікаў, вяртаўся з замаразкамі. Сыты, выгуляты, сапраўды, як вушацкія казалі, — брыʹсік. Аднойчы прывалок з лесу зайца. Хацеў зацягнуць на гарышча, дзе ў мялінні ён спаў. А на гарышча ён лазіў кароткім шляхам — па вугле. Дык з зайцом не здолеў залезці — заяц зваліўся долу. Нічога сабе быў каток, акрабат і магута.

Перад Вушачай заехалі ў Ваўчо. Перадалі ад Васіля ягонай сястры Валі лекі. Да хаты не пад'ехаць. Дарога раскалатушана машынамі й калёсамі. А яшчэ восеньскія дажджы болей раскісялілі дарогу. Валя ў гародзе. Адразу пра Васіля, пра ягонае здароўе пытаецца. Каб перадаў Васілю, што бульбу выкапала. Шурка ў Вушачы ў бальніцы. Піў-піў, пакуль сэрца ні хапіла. «Хуткую» выклікалі. Усё ў родных мясцінах навявае сум развітання. Няма тога маладога радаснага адчування сустрэчы. Куды ні глянеш, куды ні падасіся — паўсюль глядзіць развітанне.

*29 верасня, пятніца*

На працы адзначылі дзень нараджэння Ірынцы Моркаўцы, пляменніцы майго дарагога сябра Змітрака, унучцы паэта. Пазваніў Васілю — трэба было 37 радкоў у эсэ скараціць. Мы пасядзелі насупроць у шарангавічанскай рэдакцыі, я праз кожную хвіліну бегаў, каб не празяваць Васіля. І празяваў. Хутка прыйшоў і хутка скараціў. Праводзіў Васіля да метро. Сумна, але Васіль дужа пастарэў апошнім часам. Тое ж самае можна й пра мяне казаць. Дарога ўжо адна — у вырай.

*30 верасня, субота*

Пасяджэнне ФС. Доўга й нудна. Заявак, каб нешта вырваць. А ў хаце дзіўная рэч. Здавалася, што ўсе толькі перашкаджаюць. А цяпер мне не хапае Дамінічкі, не хапае Мірона, не хапае Валі. Як быццам і сварак, і ўзаемакрыўдаў не было. «І гаворачы з быдлаю…»[1]

*1 кастрычніка, нядзеля*

Схадзіў у госці да Палякова. Цэлы дзень парадкаваў у хаце так, што поўны беспарадак стаў. Цікава, што ў Ізраілі ўчарашняе як сённяшняе здаецца. Давід, Майсей як нядаўнія жыхары. Пытанне, які быў дзень, калі Усявышні тварыў свет. Якімі межамі ча′савымі ён межаваўся. На вуліцы халадэча. Цікавая двойца Паляковых. Ён спакойны, задумлівы. Яна, як маладая восень, якая пачала слухаць сябе. Пасля маёй шалёна-шумнай сям'і ніякавата аж робіцца. Кожнаму свая доля, свая дзялянка клопату й трывогаў. Па дарозе збіраў каштаны. У мяне на іх, як у грыбніка, нейкі па′лер (як вушацкія ўжывалі слова) бярэ.

*2 кастрычніка, панядзелак*

Дзень разносу вершаў па рэдакцыях перад ад'ездам. Пачынаю патроху ўваходзіць у самоту, лацьвей, што ведаеш — у Вушачы Дамінічка й Валя. Яны мне дарагія. Хоць і кепскі я сямейнік, але адзін сумую. А на добры настрой трэба так мала. Еду ў метро, на выхадзе інтэлігентная дама кажа: «Я ўжо тым шчаслівая, што ехала разам з паэтам». Усе паэты дзеці, як бы яны ні дарасліліся. А на працу прыйшла маці Ірынкі, дачка паэта Моркаўкі. Дзякавала за падтрымку свае дачушкі. Хто падтрымае маю Дамінічку, хто паспрыяе ёй ў гэтым штораз болей азвярэлым свеце? Божа літасцівы, не пакінь яе, бо на бацькоў надзея дужа слабая. Учора, калі да Палякова ехаў, гляджу — знаёмыя быстрыя вочы ў дзяўчыны. Галя Булыка[2]. Ехала з сынком некуды ў госці. Сказала, што ёй падабалася

---

[1] Гл.: Помні! (30.09.95) // Ксты. С. 279.

[2] Булыка Галіна Аляксандраўна (н. 1960), беларуская паэтэса, перакладчыца. У 1994–1998 гг. заг. аддзела час. «Беларуская думка».

ў «Эвангеллі ад Мамы» «Трыкірый»[1] і верш пра Дамінічку. Дзякуй ёй на добрым слове. Хоць не зусім вочы поруць маладыя.

*3 кастрычніка, аўторак*

З раніцы рабіў парадак у хаце. Тут па-добраму год трэба піцаваць, каб нешта да ладу прывесці. Вечарам Генадзь прыносіў карэктуру. Галава баліць. Ратуюся вершамі.

*Забываецца й помніцца*

Шануе крылы, хто не лётае,
Багоміць нехадок хаду.
Дні распачатаю калодаю
Змушаюць да гульні бяду.
Бяда гульню любую выйграе,
І гора аб'ягорыць
Ды
Свае бакі на сонцы выграе,
Чужыя зблытаўшы сляды.
У дол глыбока забіваецца
Кол,
Быццам тут ззялёна рос.
Цяпло адразу забываецца,
І доўга помніцца мароз.

*4 кастрычніка, серада*

Учора вечарам пазваніў Славамір Адамовіч[2], каб я падпісаў яму нейкую рэкамендацыйную характарыстыку на стыпендыю ў Міністрэства культуры. Сёння прыйшоў. Спачатку хацелася спытацца, ці сам ён прыдумаў «Правы рэванш» […]. Але паглядзеў — драбненькі, закажанелы, недзе нечым пакутуе […]. І разам з тым — беларус, гаворыць па-беларуску, думае, відаць, таксама. Дваістае ў мяне пачуццё. Мяне лёгка купіць беларускасцю. Тут я не ўстою. Як мала ў нас беларусаў, што загадзя непрыемнага табе чалавека, але з беларускай мовай, мусіш цярпець. Загадкавая й невынішчальная нацыя. Загадка самога Госпада. Здавалася б, павінны былі ўжо даўно знікнуць, як зернятка змалоцца камянямі багацейшых і людзьмі, і самасвядомасцю суседзяў, ды — не, кляʹваюць. Гэта й не трава, і не атожылкі ссечанага дрэва. Гэта хутчэй той вецер, які гудзе ў гарлачах гісторыі. Хочацца верыць, што беларусы не знікнуць, не разыдуцца, як соль у чужой вадзе. Мы нацыя вялікая духам сваім, розумам сваім, урэшце, цярплівасцю сваёй. Будзема!

---

[1] Гл.: Трыкірый: Адгалоссе (1.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 6.
[2] Адамовіч Славамір Генрыхавіч (н. 1962), беларускі паэт, эсэіст, публіцыст.

*5 кастрычніка, чацвер*

Зборы перад дарогай. На Камароўку — гасцінцаў купіць. Усё ёсць і ўсё дарага. Раней былі такія нейкія грошы, дык нічога не было. Цяпер усяго стала, дык грошы не стала. Дыялектыка жыцця вечная. Увесь час ідзе напамін аднекуль, што мала засталося дзён маіх. І тым болей іх шкада. Звоніць часцяком Радзік — піша аблачыста-сумныя вершы.

*6 кастрычніка, пятніца*

*Вушача!* Ад'езд з Менска нейкі похапны. У апошні момант заўважыў, што няма ключоў. Некуды торкнуў. Крыху прычыніў хату. Вушача сустрэла восеньскай глухатой і ўжо амаль забытым спакоем. Мірон пайшоў ў такі загул, што дома не начуе і мяне не сустрэў. Затое мой званочак Дамінічка сустрэла радасцю.

*7 кастрычніка, субота*

Вушача! Усю ноч брахалі сабакі. То мерз, то духацеў. Затое спаў бліжэй да неба — на гарышчы фактычна. Раніцай Валя прынесла Мірона. Колькі хвілінаў памыўся, вымыў лапы — і проздзверы. Зусім адвык. Няма таго Мірона, якому спяваў калыханку, што спаў на руцэ, скакаў на плячо. Кошка забрала, сваё ўзяла прырода. «Журботна-восеньскае», «На Замкавай гары»[1].

*8 кастрычніка, нядзеля*

Прыходзіла Галіна Варатынская[2]. У яе ў «Бібліятэцы «Маладосці» выйшла кніжыца «З будзённасці ўзляцець...». Сімпатычныя вершы. Распавядала, як Вушачу ўзяў у рукі грузін, спачатку пры імперыі загнаў у Грузію экскаватар, а цяпер будаўніцтва гандлёвых радоў, катэджаў, на вяселле самалёты з Грузіі. Сваю газету. Коля Васілеўскі[3] зрабіў здымак, дзе грузін князьком у цэнтры, а па баках пракурор і галава раёна Баруноў[4]. Для Барунова як начальніка падарыў «Волгу», быццам для службовага карыстання. Усе глядзяць яму ў рот. Гладышаў[5] Грышка, раней рэдактар «Патрыёта», перайшоў у ягоную газету (выпускнік партшколы).

---

[1] Гл.: «З неба жар заграбаць...»; «Былі з зялёнае пары...» (7.10.95, Ушачы) // Ксты. С. 323; 243.

[2] Варатынская Галіна Аляксандраўна (н. 1953), беларуская журналістка, паэтэса. У 1974–2913 гг. супрацоўніца, заг. аддзела (1981–1991) ушацкай раённай газ. «Патрыёт».

[3] Васілеўскі Мікалай Данілавіч (1936–2011), у 1967–1998 гг. фотакарэспандэнт ушацкай раённай газ. «Патрыёт».

[4] Баруноў Іван Іванавіч (н. 1952), у 1991–1996 гг. старшыня Ушацкага раённага Савета дэпутатаў.

[5] Гладышаў Рыгор Карпавіч (1949–2011), у 1988–1995 гг. гал. рэдактар ушацкай раённай газ. «Патрыёт».

Вечарам прайшоў да Вечалля. Цёмная вуліца. Пачынаю забывацца, дзе чые хаты, асабліва на пасёлку ільназаводскім. А на нашай некалі чатыроххатай вуліцы, відаць, я адзін і застаўся. Сумная гэта справа — заставацца апошнім. Як сухі дзядоўнік у снегавой гурбіне, глухнеш і дрыжыш.

* Марыя Рыгораўна: Алі разам лоп (хлоп) і памёрла; табе кругом нада грошы; унучка, каб Бог яе гадаваў, хай расце на памяць, на пацеху; ты голенькі, табе халодненька.

*9 кастрычніка, панядзелак*

Капалі з Валяй бульбу. Як садзілася без нас і даглядалася, так і зарадзіла. З ладнага шнура пару вядзерцаў сабралі. Гэтулькі солі ў касцях, што баляць рукі пасля слабой працы. Усё-ткі зямлю люблю болей адцягнена, чым канкрэтна рыдлёўкай ці віламі. Адарваўся ад зямлі, ад працы на ёй. Ні селянін, ні гараджанін. Нешта пераходнае не ў лепшы бок. А нехта за спінай напамінае, што кожны дзень набліжае да канца. Бянтэжлівасць і разгубленасць.

Прыходзіў Роўба[1] з жонкай. Жонка з Іркуцка — слёзы па разарваных сувязях. Роўба — за камуністаў. Зміксіраваныя мазгі на ўсіх узроўнях. Чамусьці яго раздражняе, што па радыё служба каталіцкая перадаецца. Бачце, паланізацыя. Як быццам лепей русіфікацыя з боку праваслаўнікаў на чале з [...] Філарэтам. Каталіцкія казані хоць па-беларуску. Зноў-такі прабальшавічаныя мазгі. 70 год эксперыменту.

*10 кастрычніка, аўторак*

І сёння капалі з Валяй бульбу. З баразны й вядзерца не набіраем. Сапраўды, як дбаеш, так і маеш. Зямля любіць працу, яна плоціць узаемнасцю, як жанчына. Як за ёй з халадком, дык і яна з халадком. Пятрок мой мае адзіны клопат — выпіць. Яшчэ ледзь не плача па Багдановічысе, у якой і піў, і закусваў. І само зразумела — сумна яму й бязмэтна без дзяцей у глухой Вушачы, дзе аднагодкі даўно ў вырай адляцелі. Аднаму без адначаснікаў кепска.

*Знакі прыпынку*

Знакі прыпынку ў
Складана-залежным
Сказе жыцця.
Хаты й закуткі,
Позіркі й рукі,
Вяселлі й ксціны,

---

[1] Роўба Іван Сцяпанавіч (1936–2006), інжынер-будаўнік; Рыгор Іванавіч лічыў яго сваяком па мамінай радні.

Прычасце й куцця,
Голас праклёну й
Застольнай прынукі,
Вушача й Пекін,
Нясвіж і Парыж —
Яны прыпыняюць
На нейкую мгнінку
Тваю дарогу туды,
Дзе крыж
Стане
Апошнім знакам прыпынку.

«Пусці ў душу Хрыста»[1]. Даў тэлеграму Лявону:

Дзясятым днём у дзясятым месяцы
У шчырых сэрцах радасць не месціцца,
І нават вушацкая асака
Шуміць радкамі Дранько-Майсюка.

*11 кастрычніка, серада*

Хварэў. Чокаўся літроўкай з людзьмі, якія павінны дапамагчы з дрыўмі. Званіў Васілю. Ён цэлы дзень засядаў. Карлас усё-ткі дамогся стварэння Хельсінскага камітэта. Працька старшыня. Карлас — су[старшыня]. Ён сапраўды сунецца ўпарта, куды сам задумае ці, можа, ім кіруюць. Васіль сказаў, што ўспамінаў мае ацэнкі шмат якіх нашых дзеячоў і згаджаўся з імі. Спытаўся, ці ёсць дровы. Чулая душа й пра дробязі памятае. Сёння ж быў прагляд настаўнікам фільма «На чорных лядах». Як мне не хапае Васіля тут. Але аднае тае думкі, што ён недзе ёсць, і ўпэўненасці болей, і жадання нешта рабіць.

*12 кастрычніка, чацвер*

Пайшоў наВаўчэнскае возера. Да возера не прайсці полем. Панаставілялі дамінаў, як дамавінаў, чырвоныя памешчыкі й раённыя кручкі. Без густу, абы даражэй, абы вялізней. Дарогай як не да лёнзавода дачапаў. Праз кожную хвіліну машыны, матацыклы. Грукат, гул. Нясуцца, як на той свет спяшаюцца. Да возера не падысці. Ні рэшцінкі ад Белага дома — панскага маёнтка. Зямля над возерам падзелена на хапальныя надзелы, чамусьці зрылі дужа тэхнікай і пакінулі ўзваллі. Возера зарастае. Непрыхаенае. Запушчанае. Баўтаецца нейчая лодка, як забытая лыжка ў астылай вялізнай місе. Назад ішоў да Верасовачкі. Там, дзе была студня, крынічка, чырвоныя памешчыкі зрабілі сметніцу. Чарап'ё, лам'ё, патарочча. Уся гара, дзе хата была, дзе ігрушыну спалілі некалі пастухі, разарана. Ні

[1] Гл.: «Пусці ў душу Хрыста...» (10.10.95, Ушачы) // Ксты. С. 346.

следу ад маёй старыцы. Жах! Холад. Няўтульнасць. Як у космасе. А гэта ж родныя мясціны. Жыць ім толькі ў памяці, жыць ім, пакуль я яшчэ жыву. «Хваляваты абразок»[1].

*13 кастрычніка, пятніца*

Званіў у выдавецтва. Дыктаваў анатацыю для гандлю на Бяліка. «Развітанне з Верасовачкай»[2].

[Малюнак.] Хадзілі з Дамінічкай і Валяй на магільнік, дык гэта Дамінічка малявала бабу Куліну.

*14 кастрычніка, субота*

З раніцы кірмаш. Местачкоўцы хапаюць мяса, бульбу, зерне, муку. Прывезлі калгасы й полацкія прадпрыемствы. На памосце сцэны забаўніца прасівярэлым голасам аб'яўляе нумары. Народныя песні, сучасная беларуская эстрада. Ды асабліва страшна слухаць зэкаў — галасы прарэзлівыя, тэксты савецка-блатныя. Так і хочацца нешта кінуць у шапку. За савецкім часам адміністрацыйны падзел рабіўся па прынцыпу зоны. Зона — вялікі горад, зона — маленькі, былое мястэчка названае пасёлкам гарадскога тыпу, зона — калгас, зона — завод і г. д. Так званая рэспубліка любая — таксама зона. […] Стварэнне райцэнтраў, як і гігантаў заводскіх на гліняных нагах мела на мэце знішчыць, данішчыць сялянства як галоўнага ворага камуністычных рэцэдывістаў леніна-сталінскага тыпу. Тую частку сялянства, якое ўхітралася набыць пашпарт, каб уцячы з калгаснага прыгону. Адначасова розныя зоны былі гадавальнікамі крымінальнага элементу — апоры бальшавіцкага рэжыму й ідэалогіі.

Хадзіў у лазню. Ні гарадская, ні вясковая. Наглядная агітацыя й тут, прычым усе размовы, што лазня руская. Хоць прынцып гэта угра-крывіцкі, паўночнабеларускі. Нарасло быдла нахабнага й адпаведна здаровага цяглавай сілай — нешта сцягнуць, выцягнуць да дна пляшку. А яшчэ спазненне моды.

* Дамініка: «Мірон сядзіць ля тэлефона, чакае, калі яму любоўніца пазвоніць… Я цябе сцяг куплю».

*15 кастрычніка, нядзеля*

Да Марыі Рыгораўны. Дамінічка піхала ў свае кішэнькі дзічкі й грушкі. Не так ёй падабаецца йгрушка, як само збіранне. Глядзела казу. Учора на кірмашы прадавала маладзіца козачак, лабатую й рагатую. Лабатую заганяе й крыўдзіць рагатая. Козачка 260 тысяч. А сёння Дамінічка прылезла да мяне на гарышча й намалявала мне Мірона ў капелюшы. На

[1] Гл.: «Паказвае восень свой нораў…» (12.10.95, Ушачы) // Ксты. С. 329.
[2] Гл.: «Ад хутара майго каб след які…» (13.10.95, Ушачы) // Тамсама. С. 239.

хвасце ў Мірона банцік. Капялюш з вачыма. Хадзіў зноў на Ваўчэнскае возера. Запусценне, знішчэнне, зніканне. Усё, як у жыцці, у гэтым жыцці. «Вечаровасць»[1].

*Дзе дрэва радаводнае...*

Радзімай называецца зямля,
Дзе дрэва радаводнае
Расце трывала.
Хай шмат на дрэве
Сухалля′ й гнілля,
Бо нехта мусіць быць
Бярвеннем ці дрывамі.

Радзімай называецца мяжа
Паміж чужачым і сваім
І ў напаміне.
Радзімай называецца імжа,
Што, як іржа,
Душу надточыць на чужыне.

Радзімай называецца дзірван,
Які цябе цямней
Сваім крылом акрые.
Ён, край бацькоў,
Як той разбіты збан,
Да скону дзён
Збірацьмеш чарапкі сырыя2.

[Марыя Рыгораўна:] Нам ужо смерць прыходзіць; як станіць грукаць па труне й пясок, і каменне, я ж буду чуць, як памру; Міклашэўская ўмёрла на прызбе; вучыцца на сабак брахаць.

*16 кастрычніка, панядзелак*

Працаваў, лічы, музейшчыкам — развешваў на сцяне карціны, прывезеныя з Менска як падарункі. У сябе ў падстрэшшы вялікі фотапартрэт Васіля. Адразу стала святлей і ўтульней, нават цяплей. Вечарам прыходзіла Варатынская. Пра свой літаратурны клопат казала. Удзень Пятро праводзіў лямпачку над вадакранам. Да канца справу не давёў, а пляшку да дна асушыў. Малайчына, яшчэ можа ўзяць у такія гады і з такім стажам барацьбы з зялёным зміем. К вечару пачалася халодная імжачка.

[1] Гл.: «Як і душы...» (15.10.95, Верасовачка) // Ксты. С. 326.
[2] Апошняя страфа, гл.: «Радзімай называецца дзірван...» (15.10.95, Ушачы) // Тамсама. С. 339.

Зіма пачынае дыхаць — далёка чуваць. «На ганку зімы»[1]. І яшчэ адну «дурноціну» напісаў з паходаў на Верасовачку й Ваўчэнскае возера:

*Прагрэс*

Куды святлей у цёмным лесе,
Чым у абгрызеным прагрэсе.
Прагрэс прагрыз сабе нутро,
З глухой нары зрабіў метро.
А што пасля сябе пакіне
Прагрэс наш, падкі на пашану, —
Платмасы косці хрупаткія
Ды павуціну цэлафану?

*17 кастрычніка, аўторак*

З раніцы Пятро рабіў святло на кухні. Потым Марыя Рыгораўна за палуднем спявала мне песні. Усё меней і меней пяе. Гады.

Гаварыў мой лён зялён:
— Не дадуць мне вырасці,
Сінім цветам выцвіцець.
Гаварыла Купалінка:
— Ай біда мая біда,
Ай біда мая біда,
Што няцёплае лета.
Чаго часта сваты едуць,
Не дадуць мне вырасці,
Русы косы выплесці.
Сама пайду дарогаю,
Голас пушчу дуброваю.
Ніхай голас галасуіць,
Ніхай мая мамка чуіць,
Ніхай мяне мамка чуіць,
Вячэрачку мне гатуіць,
Вячэрачку смачне′нькую,
Пасцелечку мякчэнькую.
Вячэрачку медавую,
Пасцелечку пухавую.

*

А чаму ты лысы,
Без валос астаўся,
А таму што рана
З дзеўкамі цыцкаўся.

[1] Гл.: «З маленства ў наш сад...» (16.10.95, Ушачы) // Ксты. С. 233.

*

Чыя гэта верба,
Чыя гэта вішня,
Чыя гэта дзеўка
На вуліцу выйшла?
Мая гэта верба,
Мая гэта вішня,
Мая гэта дзеўка
На вуліцу выйшла.

Валя падае Марыі Рыгораўне варыва. Яна: «Капусты наліла як на Маланніна вяселля — многа...» Потым прывезлі дровы. Да цёмнага грузіў у дрывотню. Заўтра ў Менск не еду — трэба ўсё скласці, спарадкаваць, а то дарагія суседзі спарадкаваюць. «У хаце ў прабабкі Куліны»[1].

Склаў дровы. Неахвотна бяруся за працу, а калі ўжо вазьмуся, дык да цёмных кругоў у вачах. З адвыкання ломіць рукі, паясніца, крыж баліць. Вецер нарве нешта, ці снег, ці дождж. Гэта ж восень. Неяк неўзнаку′ зноў прырос да ўсяго з маленства свайго. І ўжо руша′цца не хочацца. Тут жа ўсё сваё. Некалькі начэй спаў не на гарышчы, а ў хаце. Здалося, што зноў вярнулася маленства. Мама аднекуль выйдзе. Дамінічка будзіць, заводзячы папугая. Добра.

*18 кастрычніка, серада*

Канчаткова з дрывамі навёў парадак. І трэсачкі падабраў. Былі моманты, здавалася, што не разагнуся. Камуністы ведалі, што рабілі, калі высылалі на працу ў тайгу. Вечарам даў тэлеграму Наташы [Давыдзенка]:

Са сталіцы арыйскага краю
Паўнагоддзем віншую Наташу,
А Марыне настрою жадаю,
Каб Пегаса выводзіў на пашу.

Ціхім крокам па цёмным мястэчку прайшоў. Глуха. Сцюдзёна. Вусцішна. Зайшоўся ў скверык, некалі цэнтр усіх зборышчаў, купка старых дрэў. Скразняковасць, лютасць.

*19 кастрычніка, чацвер*

На Мінск. Па дарозе барахолаўка, да прыкладу, у Плешчаніцах, як на ўскраіне Рыма, крыху меншая. Усё завалена трантамі, якія, здаецца, бачыў я недзе ў 70-х гадах у Эўропе ці ў Амерыцы на барахолаўках, на блышыных рынках. Балтыка, Балтыя захаваліся. А мы сціраемся, як камяні

[1] Гл.: «Спіць Дамініка...» (17.10.95, Ушачы) // Ксты. С. 327.

бруку, нічога наскага не застаецца. Усім чамусьці перашкаджае нашая сціплая беларускасць. Праўда, Бог нас яшчэ любіць, бо дасюль нас не сцёрлі, не затапталі. […]. Учора перад сном пісаў: «Пацёмшчык»[1]. Па дарозе акалыхваў верш, які прадзюбнуўся ў халодным скверыку: «На радзіме»[2].

Вечарам на ймяніны на колькі хвілінаў. На працы шумеў, кажуць, парторг двух ратаў Кармазын, які стаў Карамазавым[3]. Татары, як і ўсе людзі, і добрыя, і карамазістыя.

* Дамініка: «Басаногая Бога». Кожны дзень сніць пра дзедзю.

*20 кастрычніка, пятніца*

Бегаў у Міністэрства адукацыі да Дзіско[4]. Занёс кнігі. Нешта ў школьную праграму ўключылі. Выходзіць, па «Школьнай серыі» мой зборнік перадалі Лукшу. Гэты, дакладней, гэны […] зробіць усё, каб сарваць выпуск. Потым бегаў па аптэках, такія-гэткія лекі ў Вушачу здабываў. Потым у напханым аўтобусе на аўтавакзал. Валя паехала ў Вушачу. […]. Мне хапіла галаву. «Штрых: Юрма на вакзале…» [у дзённіку].

*21 кастрычніка, субота*

Сядзеў дома. Круціць усяго. Галава баліць. Трохі пахадзіў па вечаровым горадзе. Вечарам званіў Васілю. Ён сказаў, што ў іх дома трохі *зацяплела,* а потым пацёк радыятар. Пазваніў сантэхнікам. Дзень прачакаў. Адключылі зусім. Мне пажадаў *цёплай ночы.*

*23 кастрычніка, панядзелак*

Перабіраў кнігі, часопісы. Шмат усяго набралася, пачало мяне неўпрыкметку выцясняць з хаты. Пытанне ўстала, хто каго. Рэчы маўклівыя, але ўпарта-агрэсіўныя. Крыху заваронішся — і цябе гоняць у каршэнь. Хадзіў да Палякова падпісаць дамову. Частаваў мяне стравамі, якія сам прыгатаваў. Зайздрошчу мужчынам, якія ўмеюць гатаваць. У іх болей свабоды, яны болей незалежныя. А мяне нешта змікіціць самае найпростае змушае хіба голад. Таму й раблю ўсё не так.

*Радней за ўсіх*

Дзяржава нам была чужой
Ад нараджэння да скончыны.

[1] Гл.: Пацёмшчык (19.10.95, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 397.

[2] Гл.: «Ні дрэў…» (19.10.95) // Ксты. С. 333.

[3] Карамазаў Віктар Філімонавіч (н. 1934), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя К. Каліноўскага (1990).

[4] Дзіско Уладзімір Антонавіч (1936–2016), метадыст навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі Міністэрства адукацыі.

У межах спадчыннай Айчыны
Жылі, як быццам за мяжой.

Мы выпалі,
Ці выпаў час,
Як воз з калянай каляіны.
Хаціна з цёмнай дамавіны
Радней за ўсіх сагрэе нас…

Лёг спаць. У галаву нешта лезла. Нешта трылузілася. Устаў — запісаў:

*Зайздрасць*

Глядзіць чалавек
На жураўля,
Журавель ляціць —
Чалавек зайздросціць.
На чалавека чарвяк
Глядзіць з-пад камля,
Чалавек ідзе —
Чарвяк зайздросціць.
На чарвяка глядзіць
Аднекуль тля,
Чарвяк паўзе —
Тля зайздросціць.
На зорку пчала
Глядзіць з вулля,
Зорка зіхціць —
Пчала зайздросціць.
Зайздрасцю, відаць,
І жыве зямля.

*24 кастрычніка, аўторак*

Паміраў ад галаўнога болю, відаць, правільней сказаць ад галаўнога майго болю. Але давялося йсці падпісваць кніжку Радзіка. Ён сёння забірае жонку з сынам з радзільні. Прынеслі анкету з часопіса для новых багатых «Раут». Друкарня прыватная. Вонкава не горш за «Англію» глядзіцца.

«Ствол: Калі мазгі ідуць у ствол…» [у дзённіку]. Прачытаў Васілю. Ён сказаў: «Цяпер не пра каханне ды пра красу прыроды, а «дурноты» пісаць самы час». Нешта падобнае чытаў Васілю й Вал. Тарас. Васіль перабраў кнігі й напаў на ўспаміны пра партызаншчыну Бруханава — кэдэбіста, прыстаўленага да Лабанка з-за лініі фронту. Люфтваффэ Забораў афармляў. Васіль кажа: «Каб не паехаў, дык і быў бы савецкім мастаком,

як бальшына». Васіль пра прарыў[1]: «Ніхто з гісторыкаў не паказаў, што гэта разгром. Той жа Бруханаў піша пра гераізм, а ў канцы дае колькасць палеглых камандзіраў, і калі гэта памножыць на ўсіх ваяроў, будзе жахліва».

*25 кастрычніка, серада*

Выдавецтва. Лятучка. Беларуская кніга не йдзе. Тыражоў на паэзію няма, асабліва на першыя кнігі. Мы ў яме. У глыбокай яміне ўся нашая культура. Засядаў у ФС. Дзялілі прэміі часопісам. Далі «Спадчыне», «Роднай мове», «Полымю». «Апошняя дзея: У жыцця апошняя дзея...» [у дзённіку].

*26 кастрычніка, чацвер*

З раніцы званок з Варшавы. З Беларускай рэдакцыі польскага радыё. Такія-сякія пытанні. Адказаў. Прачытаў яшчэ дзве «дурноты» пра кэгэбістаў. Аж голас з Варшавы запытаўся, а ці не баюся я. Калі казаў, што баяўся прадаць душу д'яблу, таму й не быў членам партыі й не займаў чынавецкіх пасадаў. Голас заўважыў, што ўсё-ткі скарыстыўся з улады, бо гэтулькі паездзіў. Коратка патлумачыў, што ўсё гэта за кошт СП былой імпэрыі. А наогул, гэта цэлая тэма. Пра паездку ў Штаты трэба некалі, калі Бог дасць, напісаць.

*27 кастрычніка, пятніца*

На працы. Усё-ткі колькі расійца ні кармі, ён на імперыю моліцца. А розніцы, якая гэта імпэрыя, ён ведаць не хоча. Вечарам званіў Васілю. Яму спадабалася падборка ў «ЛіМе», асабліва прысвячанне Палякову. Сказаў: «Гэта, як танец, не верш, а танец». Пасля сказаў: «Ці гэта суб'ектыўная настроенасць душы, але твая паэзія набірае вышыню». Разгаварыліся пра ўспаміны. І яго даймалі сёстры Лось[2]. Але што ён мог пра Лось сказаць, мала ведаў. «У мяне, — кажа, — памяць не надта. Гэта ў літаратурным творы трэба ўяўленне, фантазія. Дый суб'ектывізм у мемуарах непазбежны. Некаторыя па колькі старонак пішуць пра падзеі дваццацігадовай даўнасці. Яўна пішуць тое, што ім хацелася помніць, каб так было. Прыгадваю, — кажа, — як Адамовіч пра нешта пісаў. Я сведкай быў, і ўсё было не так, як я помню».

Івану Роўбу сёння дзень нараджэння. Даў тэлеграму й званіў. Пісаў вітанне:

---

[1] Прарыў нямецкай блакады партызанамі ў красавіку — маі 1944 г. Ушацкі р-н Віцебскай вобл.

[2] Лось Еўдакія Якаўлеўна (1929–1977), беларуская паэтэса, празаік.

Юбілейнымі венікамі
              любіць хвастацца
На палку прэзідыума
              творчая прафесура.
З лёгкай парай
              Беларускую акадэмію мастацтва
Віншуе яшчэ жывая
              «Мастацкая літаратура».

*28 кастрычніка, субота*

Прыехала Ілона. Гордая, уся ў поспеху, як ў га.не. Удзельнічала ў выставе. Сфатаграфавалі ў газэце з Заборавым, у каталогу ёсць. Мала на пачатку творчага шляху трэба.

Божа, паспрыяй ёй, беднай і безабароннай. Я дапамагчы не маю як [...].

Мяне ўтравілі ў юбілей купалаўцаў.

*Ода з нагоды*

Тэатр — жыццё, якое бачыць хочам,
Якое можа быць бадай што ў сне.
Мы па зямлі ступаем патарочча м,
А мрояў рой раіцца ў сінізне.

Мы ўсе — закладнікі сваіх жа мрояў,
Блакітных ці ружовых.
Мы штодня
Іграем то кахальнікаў-герояў,
То дабрадзеяў.

Наша вышыня
Не падымаецца вышэй за тую,
Якую Усявышні аўтар даў.
Рагоча кпіна. Гора лямантуе.
Гіпнатызуе самалюбства ўдаў.

Тэатр — прыгон,
І рэжысёр — прыгоннік
Актрыс прыгонных мае табуны.
То гоніць у фальклорысты сасоннік,
То ў класіку, дзе стогнуць перуны.

Тэатраведны крытык-растапыра
Ацэніць сам сябе, і ўжо тады

Купалу, Гётэ, Шабана[1], Шэкспіра[2]
Ўзгадае, як забытыя гады.

Перагукаюцца цана і сцэна.
Расце ў цане гульня, а не ігра.
Але двайніц не мае Мельпамена.
І сыдуцца ў цане з гарой гара.

Актор — бядак, бядняк,
А нораў багатырскі.
Мы ўсе — галіны.
А тэатр — камель.
Тэатр — шампанскае,
Не стынуць пырскі
Гарачых воплескаў.
Хай хмеліць хмель!

На волю — у лампасы генералы
Ірвуцца,
Як да косткі крумкачы.
Бяруць тэатр аблогай тэатралы.
Vivat тэатр!
Хай будуць гледачы!

*29 кастрычніка, нядзеля*

Званіў у Вушачу. Здаецца, усё добра. Неўзабаве паедзем з Ілонкаю. Прыехаў Нікіфаровіч. Было прыемна пачуць ягоны голас па тэлефоне. Быццам ростані й не было. Прапанаваў яму з'ездзіць у Вушачу. З раніцы разломвалася галава, як упалы на дол звон. Пад вечар прачытаў рукапіс Зянона. Паэзія. Гэта цікава. Асоба самога Зянона напаўняе іншым святлом звышнія словы, шмат якія вершы ў манеры хоку. Добра, што не вызначае жанр Зянон.Назіральнасць і натуральная беларускасць. Чуецца Беларусь у кожным гуку. Гэта галоўнае.

А сам пісаў верш «Не скажа»[3].

Радзік даў імя сыну Іларыён. Што цяжка будзе вымаўляцца ў суседстве з імем па-бацьку, тае бяды. Бо імя й імя па-бацьку чыста расійска-савецкая атрыбутыка. А за мяжой гэта не трэба. І зусім добра будзе гучаць Лары Лапушын. Бедная нацыя. Трэба прыкідваць, як будзе гучаць не ў арыгінале, што называецца. Толькі пачатковай літарай ушанаваны дзед, яго яўрэйскае імя.

---

[1] Шабан Яўген Пятровіч (1936–1982), беларускі паэт, драматург, сцэнарыст, перакладчык.
[2] Шэкспір Вільям (1564–1616), англійскі драматург, паэт.
[3] Гл.: Не скажа (29.10.95) // Руны Перуновы. С. 109.

Знайшоў фотаздымак Новага Ёрка сямідзясятых гадоў. І пасля колькіразовага перагляду напісаў «Пазахмарнікі» [у дзённіку]. Доўга мусоліў слова, якое б замяніла *небаскроб*, з Сёмухам. Па-нашаму трэба было б *небаскрэб*.

*30 кастрычніка, панядзелак*

Прыехаў Рэм Нікіфаравіч з Чыкага. На амерыканскіх харчах пасвяжэлы. Мне дужа прыемна бачыць яго. Практычна ўсё маё жыццё ў Менску так ці гэтак судатыкалася з ім. Ён шмат дабра зрабіў мне. Яму ўдзячны я. І ён пацвердзіў, што настальгія — не выдуманае паняцце. Нешта з часам пад старэць робіцца, здаецца, учора развіталіся з Рэмам, а мінула тры гады. Я прынёс у рэдакцыю сала й моцнага. П'е ён мала, яшчэ меней стаў піць, як раней. Амерыканізуецца.

Цікава, што яўрэі там, нашыя яўрэі, успамінаюць беларускую мову. З якой раслі, на якой вучыліся ў давайну. Вечарам паседжанне ФС. Прасавецкія, пракамуна[...] газеты ліюць бруд на Сораса. Сапраўды, як няма чым ваўку ср.ць, дык ён лыкамі.

*31 кастрычніка, аўторак*

На працу. Пад вечар зрабілася блага. На пасяджэнне ў яўрэйскае пасольства не паехаў. Вечарам прыбягала Ілоначка. Смажыў ёй яешню амаль па-ўшацку, у калена. Не верыцца, што яна аж надта дарослая. А мне ўсё маленькай здаецца.

*1 лістапада, серада*

Не толькі ліст апаў, а пачаў падаць мокры снег. У нацыянальным Купалаўскім свята 75-годдзя. З Ілонай крыху спазніліся, бо спачатку зламаўся трамвай, а пасля ў метро эскалатар застрайкаваў. І добра, што спазніліся, бо йгралі стары, прасавецкі гімн БССР, я, вядома б, не ўставаў. Тэатр у ланцугах міліцыянтаў. Выступаў [Лукашэнка], [...] выдатная беларуская арфаэпія. Лавіў сябе на тым, што забываўся, хто ён на самой справе, гэтак правільна чытаў па-беларуску. Акторы сядзелі на сцэне. Гарбук пачапіў усе бляшкі, як замшэлы адстаўнік. Толькі партбілет яшчэ на ланцужку заставалася [павесіць]. Прыйшоў дамоў, званю Васілю, аж ён усё бачыў па тэле. Была спачатку непасрэдная трансляцыя. «Ну, — кажа, — трыумфатар. Ці ведаеш, за што табе пляскалі ў ладкі?» Адказваю: «За кліч «Жыве Беларусь!»». Васіль казаў, паказвалі, як [Лукашэнка] скрывіўся. [...] Усю залу эпатавала Язерская[1].

[1] Язерская Элеанора Аркадзьеўна (1946–2014), беларускі музыказнавец, радыё- і тэлевядучая, педагог, актрыса.

Усім ракетам хрэн цана,
Навошта крэйсера й лінкоры, —
Была б пяшчотная спіна
Элеаноры.

*2 лістапада, чацвер*

Ля будынка КДБ мітынг. Дзяды. Выступаў здорава Васіль. Я таксама колькі словаў сказаў і верш пачытаў. Пасля на Дзяды ў Купалаў музей. Проста акторам стаў, амаль як Лявон. А гэта не ў мае гады трэба.

*3 лістапада, пятніца*

Ад'езд на *Віцебск.* Званю Ілоне, не едзе. Косця недзе знік. [...]. Ілона сказала, што ўзяў пашпарт і грошы, яны пасварыліся. [...] Усю дарогу ўсё дурное у галаву лезла. Шкада іх абадвух. Дамінічка ж на каго, калі не дай Бог што, застанецца. А яна так маму чакала. Яна ж ёй сланёнка прывезла. [...].

Віцебскі ФС. Пасля Рэабілітацыйны цэнтр для афганцаў. [...]. Вечарам у Палацы культуры, ці як ён цяпер называецца, вечарына, прысвечаная ФС. Усе па-расійску выступаюць. [...]. Рэм у Вушачу ехаць адмовіўся. Ну, вядома, не дужа настойваў, бо назад гарантаваць транспарт не мог. Вечарам у «Эрыдане» запісаў Рэму выступленне землякоў.

*4 лістапада, субота*

Ад'езд на Вушачу. Па дарозе рэчка Чарнагасцянка. Вёска Чарнагосце. Цікава, якія гэта чорныя госці? Няўжо расійцы? Па дарозе заехаліся да маці Сяргея Рублеўскага[1]. Сняданне з яешняй, малаком, бульбай. Як дома пабыў. Цікава, хата стаіць на ўзгорку. А асноўная сядзіба цераз дарогу. Спадчынная зямля. Маці Сяргеева сказала, каб нідзе не сяліўся, акрым свае зямлі, бо прыдуць амерыканцы і з чужое зямлі згоняць. А дзядзька пабыў у Сібіры, абжыўся, зажыўся, але вярнуўся. Чаму? «Там буслоў няма». Шмерлінг[2] робіць нейкі кадр, Сяргеева маці пярэчыць: «У мяне нос даўгі, дый я непрылюджаная». Такой беларускасцю, такой крыўшчынай ад усяго тхне, што аж заплакаць хочацца, бо ўсё гэта знікае, бо ўсё гэта нішчыцца. Мы прыехалі, а маці дома няма — на турнэпсу. Снег напаў, а калгасны турнэпс у зямлі. Сапраўды дурнэпс. Па дарозе казалі, што на тэлебачанні ўсе кадры з Быкавым сцёрлі.

У *Вушачы* схадзілі на магільнік. Сёння ж якраз Змітраўскія дзяды. Памянулі маму. Сяргей казаў, як ён некалі хацеў наведаць магілу маёй мамы. Спытаўся у нейкага дзядзькі. Той сказаў, што ведае Грышку. І распавёў

---

[1] Рублеўскі Сяргей Васільевіч (н. 1954), беларускі празаік, паэт. У 1990–2008 гг. гал. рэдактар віцебскай абласной газеты «Народнае слова».
[2] Шмерлінг Міхаіл Маркавіч (н. 1946), беларускі фотамастак.

яму, як мама хацела мне купіць гадзіннік, а грошы ўвобмаль. Дык, каб не ўводзіць маму ў выдаткі, пярэчыў, даводзячы: «Не трэба мне гадзіннік. У горадзе на кожным вуглу гадзіннікі і ў кожнага на руцэ. Трэба — паглядзеў, трэба — спытаў». Шмерлінг зрабіў кадр, гэта самы лепшы спец.

*5 лістапада, нядзеля*

Вушача. Схадзілі з Валяй, як некалі ў нас казалі, у Вушачу. Усё дарага. З машыны прадаюць свініну. Раённы кручок з жонкай, як са свіннёй кормнай. Падкрэслівае, што на шашлыкі, бо немцы прыехалі. Парт[…] непатапляльныя. «Эцюд з лазенькай»[1]. Усё наўкол і звыкла, і не звыкла. Усё сваё, усё спаконнае, а мамы няма — і чужое ўсё. Ноч з марозам толькі тая ж. Без зменаў.

*Вушацкі прызімак*

У неба кашуля сіняя
За лета ў шэрую выгарала.
Дзень няўпэўнена зяʼвае,
Як шчупак без лускі.
Прымаразак рухаецца
На марудным пароме.
Гусі гагочуць,
Як са «Слова пра паход Ігаравы»[2],
Дадзёўбваючы золкія каласкі
У прыцярушанай першым сняжком
Ломкай саломе…

Па дарозе ў Віцебск і з Віцебска ў Вушачу — назвы вёсак, як радкі паэмы вяртання. *Вяжыʼшча* — дзе на іржышчы снапы вязалі. *Дабрэйка* — гэта як расійскае дабрачок (добрячок). А славутае *Бачэйкава.* Бывала, казалі: папалуднаваў — і на бачэйкава.

*6 лістапада, панядзелак*

Вушача. Прыходзіў мастак Міхась Казіцкі[3] з дачкой. Ён мае тут майстэрню. Напісаў шмат абразоў для вушацкай царквы. Ахламон, якога ўсе не любяць, бо свой былы механізатар, святар і за фарбы не заплаціў. У нас будуецца баптысцкая царква. Кажу, чаму не ўдзельнічае? Ён, кажа, праваслаўны й дыскусію са святаром баптысцкім вёў. Праз праваслаўе яшчэ горай, чым праз кампартыйнасць, сунецца русіфікацыя.

---

[1] Гл.: «Заход счырванеў…» (5.11.95, Ушачы) // Ксты. С. 328.
[2] «Слова пра паход Ігаравы» — помнік старажытнарускай культуры XII ст.
[3] Казіцкі Міхаіл Антонавіч (н. 1949), беларускі мастак-афарміцель.

*7 лістапада, аўторак*

Як з далёкага ўспаміну, густы, чысты, нетаропкі, мяккі, бязважкі, даверлівы снег. Усё засыпаў. Асалода адна — расчышчаць і ганак, і сцежкі да веснічак, да хлява, да срача, як пісаў і казаў Караткевіч. Снег лёгкі, а праца ўрэшце цяжкой робіцца. Затое стома лёгкая, маразяная. Хадзілі з Валяй і з Дамінікай па білеты на Менск. Камуністаў няма, але каля штампаванага, шаблоннава [... Леніна] некалькі гаршкоў з кветкамі. [...]. Абдзіманчыкі, якім яшчэ не выплацілі пенсіі, усё роўна любяць Вовіка.

«Ці недзе»[1]. Залез на гарышча й тут перачытваю Лаца Навамескага[2] й трошкі пішу.

*У маміным двары*

Снег, далі Бог жа, не з неба,
А з успаміну йдзе,
Даверлівы гэтакі,
Што можна схапіць у жменю.
Лебядзіняцца гурбіны ў лебядзе.
І досвітку беламу
Да дня не хапае наймення.
І гілёк-вугалёк раздзьмухаў
Немаведама дзе,
Калі не снягі падпалі′ць,
Дык сагрэць хоць сябе самога.
Чуй, цалiком прыціхлага сэрца йдзе
(Так Дамінічка дзедзю казала)
Басаногая Бога...

Не магу ніяк увайсці ў работу. І дома, і ў гасцях. Мамы няма — свет бязлюдны, чужы, халодны.

* Дамініка: «Як вераб'і церпяць зімой лётаць?»

*8 лістапада, серада*

Перачытваю Лаца Навамескага, Вітэзслава Нэзвала[3]. Да першага прадмова Эрэнбурга[4], да Нэзвала — Хікмета[5]. І той, і другі падкрэсліваюць, што яны выдатныя камуністы, таму й паэты адменныя. Вар'яцтва дый годзе! Як быццам без камуністычнай заразы няма паэзіі. Метастазы

---

[1] Гл.: «Вятрэе неба...» (7.11.95, Ушачы) // Ксты. С. 340.

[2] Навамескі Лаца (Ладыслаў; 1904–1976), славацкі паэт, грамадскі і палітычны дзеяч.

[3] Незвал Вітэзслаў (1900–1958), чэшскі паэт і грамадскі дзеяч.

[4] Эрэнбург Ілья Грыгор'евіч (1891–1967), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1948), Міжнароднай Ленінскай прэміі (1952).

[5] Хікмет Назым Ран (1902–1963), турэцкі паэт, празаік, сцэнарыст, драматург і грамадскі дзеяч.

камуністычных ідэй прабілі гэтулькі абшару, пашкодзілі галовы таленавітых людзей. І як наіўна, фанерна, барабанна гучаць дасканала выкапаныя дэкларацыі. Пра нашу паэзію й казаць не даводзіцца.

Хадзіў з Дамінікай купіць санкі. Апошнія забралі. Сацыялізм у дзеянні й пры нэакамуністах. Толькі ракеты ды танкі й маглі рабіць. У магазінах пуста. Толькі на вуліцах імпартныя транты, якія панацягалі […] камерсанты з эўрапейскіх і азіяцкіх сметнікаў. Мэтанакіравана знішчаліся мястэчкі, невялікія месты, каб галоўнымі зонамі былі так званыя социалистические города. Там лепей нагляд дзейсніць, стукачоў болей прафесійных. Камуністы свайго дасяглі — вакол пустэча з ахламонамі. «У белабокім садзе»[1].

Званіў у Менск. Майго сігнала яшчэ няма. Ганад надрукаваў у […] «Советской Белоруссии» гадства.

* Дамініка: «Мы заходзілі з дзедам у леку (аптэку)».

*9 лістапада, чацвер*

Званіў Карлас. Ганад усё-ткі па-сталінску ўчыніў. Наогул, людзі Каўказа для нас terra inkognito. Званіў Цвяткоў. Махлюе, хітруе й апраўдваецца. І тут хочуць мяне ўкруціць у звады. Вечарам пасядзелі. Прыходзіў Роўба з Карпоўскім. Карпоўскага Дамінічка назвала дравяны′м дзядзькам. Колькі гадоў тут пажыўшы — і канчаткова здрычаеш. Захавана іерархія савецкай зоны.

Званіў Ганаду наконт машыны. Зрабіў выгляд, што нічога не ведаю пра артыкул, які напісаў, відаць, Палзотыч[2]. Камуністы нацкавалі.

*10 лістапада, пятніца*

Раніцай заехаўся Роўба з дырэктарам будучага санаторыя «Вечалле». Паказалі мне аб’екты, як кажуць. А мне была радасць сустрэчы з Вечаллем, зімовым, жадана-ўспамінным. Былі і ў *Баркоўшчыне* й ехалі старой лепельскай лясной дарогай. Дамінічка была з намі. Хай убірае ў душу роднасць і прыгажосць, хай расце зацятай беларускай, нацыяналісткай. […]. «Захмялелы верш: Хоць яна самагонкай завецца…» [у дзённіку].

Званіла Варатынская. Ейны сусед урач Галавач, шчыры беларус, апантанец нашай літаратуры. Дзяцей аддаў у беларускамоўны клас. Бацька Уладзімір Галавач з быкаўскіх Бычкоў. Успамінае Васіля. Званю Васілю, ён абрадаваўся вестцы. Гэта ягоны сябра маладой пары. Гады на 4 ста-

---

[1] Гл.: «Плыве сукрыста дым-пілігрым…» (8.11.95, Ушачы) // Ксты. С. 322.

[2] Якубовіч Павел Ізотавіч (н. 1946), беларускі журналіст. У 1994 г. супрацоўнік, у 1995–2018 гг. гал. рэдактар газ. «Советская Белоруссия». Заслужаны дзеяч культуры РБ (2001). Лаўрэат прэміі Канферэнцыі журналістаў «За мужнасць і прафесійнасць» (1991), прэміі Прэзідэнта РБ «За духоўнае адраджэнне» (2006).

рэйшы. Гэта ён паказаў Васілю возера Горадня — любімае возера Васіля. «Знак згоды»[1] [1-шы кароткі варыянт, у дзённіку].

* Дамініка: «Дай мне ахарашыцца з дарогі».

*11 лістапада, субота*

Хадзілі да дачкі Роўбавай у лазню. У іх свой катэдж. Утульна. Усё з густам зроблена. У прынцыпе ўсе павінны так жыць, асабліва ў сельскай мясцовасці. За сталом зноў гаворка пра беларускую мову. Жонка Роўбава аднекуль з Сібіры. Комплекс вялікадзяржаўнасці. Гэта была асноўная сіла пад час […] рэферэндуму. […].

«Імпульс»[2]. Паступова ўрастаю ў мароз, у побыт, у якім вырас. Прыкідваю і ўяўляю, як было нашым пакутнікам, якіх бальшавіцкія галаварэзы кідалі ў сыры лес зімой. Вушацкіх у раёне Котласа.

* Дамініка: «Ой, сарока-белабока, зіму-лета нам вярні». Валя лічыць грошы, на купюру ў 20 тысяч Дамініка кажа: «Гэта багатыя грошы».

*Цікуе*

Праз тысячагоддзі зацята цікуе за намі,
Усё спадзяецца загнаць назад —
У пячору галодны холад,
Каб абнашчыцца і сагрэцца намі…

*12 лістапада, нядзеля*

Чакаў Марыю Рыгораўну, не прыйшла, абяцала заўтра напяяць мне песняў. Ейныя песні жывяць маю памяць, здаецца, маму слухаю. Бо песні тыя ж. Мама, вядома, пяяла ласкавей і мякчэй. Без нашых песняў, без нашай гаворкі мне асфальтавана, сухотна. «Краіна белых стрэх»[3], «Не суроч»[4], «Вераб'іны карабель»[5].

*13 лістапада, панядзелак*

Пайшоў у санэпідэмстанцыю. Прашу лекаў для пацукоў. Пытаецца дзяўчына прозвішча. У сваю чаргу пытаюся: чыё прозвішча — пацукова ці маё? Гумар у райцэнтрышчыкаў не даходзіць. Усё на сур'ёзе. Прыходзіў Пятро. Распавядаў, як заварку гарбаты насіў зэкам. Званю Васілю. Ганад, як вушацкія казалі, завёў мяне ў ср.ныя маліны. Званіў Казлову. Зрабіў афармленне «З чорным катом на плячы». Усе, выходзіць, даводзяць, што я прывёў у выдавецтва Ганада, а на справе — Курлыкіна-Шаранговіч і

[1] Гл.: «За якімі замор'ямі…» (10.11.95, Ушачы) // Ксты. С. 328.
[2] Гл.: «Ледзяную поўню ў вядры…» (11.11.95, Ушачы) // Тамсама. С. 328.
[3] Гл.: Краіна белых стрэх (12.11.95, Ушачы) // Ксты. Выд. 2. С. 268.
[4] Гл.: «Убачыш…» (12.11.95, Ушачы) // Ксты. С. 330.
[5] Гл.: Караблебудаўнік (12.11.95, Ушачы) // Ішоў коця па канапе. С. 107.

Андраюк. Ім жа будаваліся дачы. «Падумай»[1], «Халадней»[2]. Званіў з Віцебска Давід. Наконт святкавання юбілею Караткевіча. Прыеду — і зноў ехаць.

«Сустрэліся хлопчык — упарты лобчык…» [у блакноце].

* Дамініка: «Буду чараўнічыць — гэта значыць маляваць».

*14 лістапада, аўторак*

Зборы ў дарогу. Прыходзіла Марыя Рыгораўна. Пяяла мне песні. Чыстае золата. Шчырае золата. Разгаварыліся, што будзе ў наступным годзе. Марыя Рыгораўна й кажа: «Невядома, што будзе, можа, хлеб яшчэ падаражэе». І яшчэ мяне засмуціла: «Калі памру зімой, ці прыедзеш ты? Ну, калі не сам, дык няхай хоць Валя прыедзе…» Пачаў суцяшаць, а яна пярэчыць, што ці рана, ці позна, некалі ж давядзецца». Адна яна й Пятрок. Іду вечарам — сядзіць у хаце. Вакно не запята. Ні дзяцей, ні ўнукаў. Раслінна дажываюць свой век. Сумна.

*15 лістапада, серада*

[Малюнак.] Дамінічка глядзела на партрэт бабы Куліны на сцяне й намалявала. Пытаецца: «А ці параўноўваецца?» Зноў Марыя Рыгораўна пяяла песні. У песнях і захавалася натуральная наша мова. Толькі ў фальклоры й змагла супрастаяць русіфікацыі. І супрацьстаянне адлюстравалася ў фальклоры. Цікава, як, запазычыўшы слова, абеларушвала, абвушачвала яго. Калі й што ёсць у мяне, дык гэта адчуванне смаку слова, асабліва наскага. А гэта зноў-такі ад мамы. Яна мне перадала гэты нюх. Вытлумачыць гэта нельга. Навучыць гэтаму таксама нельга.

*16 лістапада, чацвер*

Цэлы дзень чакаў машыну. Пасля абеду пазваніў Ганад, што заўтра з раніцы. Званіў Васіль. Хвалюецца, што мяне няма, а я ж абяцаў быць не пазней сёння. Сказаў, што чакаецца снег, абліваха. Хвалюецца, як даеду. Самая шчырая душа, якая мяне любіць. Дамінічка спявае: «Пакахаў я дзяўчыну У гарохавых штанах, А яна мяне не пакахала». Мне яна патлумачыла, што гэта яна пра свае ў гарошак караткаштонікі. […].

*17 лістапада, пятніца*

Раненька прыехаў Валодзя Кудзін. Усё пагрузілі, як цыганскі табар. На працу. Цэлы скандал з дурным выступам Ганада ў […] «Советскай Белоруссии» […]. Як ні дапытваўся, хто яму напісаў, адно далдоніць, што сам. Яшчэ мне падкрэсліў, што ён камуніст. […]. Доўгая й непрыемная мне

[1] Падумай (13.11.95, Ушачы) // Ішоў коця па канапе. С. 107.

[2] Гл.: «Падсуседзіўшы ў памяці…» (13.11.95, Ушачы) // Ксты. С. 333.

гутарка з Серафімам. Усе хочуць звярнуць гэтага камкурда на мяне, хоць самі запрашалі працаваць. Яшчэ ў Вушачы ноччу напісаў «Толькі»[1]. Гэта апошні верш з нізкі, якую хачу назваць «Ноч мае форму яйка», а падзагаловак хочацца паставіць «Штрыхі з-пад ушацкай страхі».

*18 лістапада, субота*

Званіў Васілю. Між іншым, сказаў: «Пісаў пра людзей, а цяпер, відаць, пачну пісаць пра сабак». Бо ў яго ёсць знаёмыя па гаражы, дужа разумная, дужа выхаваная сучачка з сынком. Сынку нехта лапу перабіў. Калі Васіль ідзе на прахаджэнне, яны яго ненавязліва суправаджаюць. А гэта ўсё пачалося з размовы. Дамінічка, гледзячы на аўтограф Мірона на маёй правіцы, сказала: «У Быкава ката няма, таму ён непадрапаны й непапі'саны». Сказаў гэта Васілю, а ён паведаміў, што ў яго ажнуль два сабакі.

Вечарам пазваніў Зянон. Між іншым запытаўся, ці прачытаў я зборнік ягоны. І гэтулькі ў голасе й трапятлівасці, і сарамлівасці. А [...] робяць з яго людаеда. Потым прыехаў, і я падпісаў адозву да выбаршчыкаў, якія яго будуць выбіраць.

*19 лістапада, нядзеля*

Званю Васілю. Кажу, што падпісаў адозву, ён кажа, што таксама. Пасля пра непапраўную наіўнасць Зянона. Узрадавана распавядаў, як слухалі яго ў Смаргоні. Паўнюткая зала. Васіль цвяроза пытае: «А хто старшыня выбарчай камісіі?» Зянон адказвае, што не ведае. Васіль мне кажа, што пачынаць варта было б са старшыні камісіі, хоць усё роўна ён зробіць так, як скажуць.

*20 лістапада, панядзелак*

Хадзіў атрымліваць пасведчанне на пенсію за асобыя заслугі. Палова платы кватэры й электра. Бясплатны праезд у горадзе і ў прыгарадзе. З паршывай авечкі хоць воўны кузлак. Званю Васілю, віншую яго са снегам, які зноў сёлета вярнуўся. Васіль сумнавата: «Не толькі камуністы, але й снег вяртаецца». Кажу, што забыўся ўжо другую тэлефонную картку ў аўтаматах. Усміхаецца: «Пра іншае думаў. Каб пра дзевак, дык можна было даравацы». У Польшчы выйгралі камуністы. Васіль: «Апошні развітальны заход камуністаў. Яны нічога змяніць і зрабіць не змогуць, бо шансы вузкія па часе. І гады ў сусветным маштабе знікнуць».

У нямецкім цэнтры тэарэтычная канферэнцыя па постсавецкаму мастацтву. Адкрыццё. Пасля вячэра. [...]Пітэр сказаў, што прачытаў «Знак бяды». Шкадаваў, што шмат памылак. Гэта псуе ўражанне. [...].

---

[1] Гл.: «Толькі на гэтай зямлі...» (17.11.95, Ушачы) // Ксты. С. 322.

*21 лістапада, аўторак*

Вячэра з Білам у «Стэйкхаўзе» (у дварах нашага выдавецтва). 8 чалавек — 600 даляраў. Цэны, як з ланцуга сарваліся, шалёныя. Цікава Пітэр казаў, што калі прыязджае да сябе дамоў у вёску (амерыканская вёска мне не ўяўляецца), там спыніўся час. А ў нас Пітэру падабаецца, што ёсць жыццё. Куды яшчэ болей трэба жыцця? [...].

*22 лістапада, серада*

Доўга гаварыў з правершчыкамі з камітэта. Бо Ганад узмуціў вір. Выхад з кніжнага крызісу толькі пры ўмове дзяржаўнай палітыкі й падтрымкі нашай культуры. Але ад [...] адміністранцаў яе не дачакаешся. Наадварот, усё йдзе на знішчэнне.

*23 лістапада, чацвер*

Засядалі ў ФС. Па Менску шорах сярод так званай творчай інтэлігенцыі. [Лукашэнка] заўтра будзе сустракацца. Сын каваля з ягонай мадам Курлыкінай да нэрвовага шоку ледзьве не дайшлі. Пазванілі [ім]. А як жа. Заданне [...] па трыманню помніка ў Курапатах выконвае спраўна. [...] не абойдзены ўвагаю й Пташнікаў. [...]

*24 лістапада, пятніца*

Хвалюецца Бураўкін. Кажа, што са спісу выкінулі. Пазваніў Лявону. Ягоная Вольга[1] як журналістка была на сустрэчы. [...]. Інтэлігентна толькі Смольскі[2]. Ні ў якіх спісах ні Гены, ні мяне, ні Васіля не было. Але [Лукашэнка] [...] запытаўся, чаму не бачыць Быкава, бо гэта буйны пісьменнік, але як грамадзянін дапусціў шмат памылак. Пазваніў Васілю, жартуе, што цяпер ён можа спакойна паміраць, раз [Лукашэнка] заўважыў яго. А наконт памылак: хто не працуе, той не памыляецца. Ніл ў спісах быў, але не пайшоў. [...]. Васіль успомніў, як беднага Васілька[3] ў Гародні зацягалі па КГБ за тое, што ўдзельнічаў у Беластоку на з'ездзе нацыяналістаў.

*25 лістапада, субота*

Званіў Васілю. У «Звяздзе» ўжо справаздача пра сустрэчу з [Лукашэнкам]. Урывак з новай п'есы Дударава з прадмовай [...] Яроменкі. Васіль:

---

[1] Шчадрына Вольга Анатольеўна (н. 1958), беларуская журналістка. Супрацоўніца газ. «Культура». Жонка Л. Дранько-Майсюка.

[2] Смольскі Дзмітрый Браніслававіч (1937–2017), беларускі кампазітар, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1975). Народны артыст БССР (1987). Прафесар (1986). У 1962–2014 гг. прафесар БАМ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1980). Сын Б. Смольскага.

[3] Васілёк Міхась (сапр. Касцевіч Міхаіл Восіпавіч; 1905–1960), беларускі паэт.

«Ваўкі збіваюцца ў зграю». Адпаведна ўзросту іерархія. Яроменка ўжо стаў вырашальнікам лёсу.

*26 лістапада, нядзеля*

Сёння Уладзіміру [Караткевічу] 65. Мог бы жыць. Пасядзелі б, узяў бы ён чарку, мне б кавы згатаваў. Цяпер пачынаюць хваліць і тыя, хто ў спіну нож гналі. Самы лепшы геній — мёртвы, ён не замінае пасрэднасці, не бачыць і не чуе як быццам. Бо калі ўчытацца, дык усё бачыць і чуе, і загадзя папярэджваў. Званіў Васілю. Праз кожныя дзве гадзіны прахопліваецца, каб ухапіць лекаў. Гадзін каля пяці сон ужо йдзе прэч. Тады «Свабоду» слухае. Бывае, адно й тое слухае вечарам, раніцай ды яшчэ і ўдзень.

*27 лістапада, панядзелак*

З раніцы да Карласа. З Кастусём Тарасавым[1] адбіралі шаржы, вершы для «Здубавецьця». Пойдуць і Дамінічкіны шаржы на дзедзю, а таксама Ілоніны малюнкі малечыя. Прыехаў Бурсаў з Рытай. Жывуць яны бедна. Канцы з канцамі зводзяць. […].

Пазваніў шчаслівы Лойка, павіншаваў — Вялікая рада ўніверсітэта надала мне годнасць ганаровага доктара філалогіі. Дзякуй ім. Цяпер гэта як бы ў піку […]-прыдурыкам.

*Грэецца*

Зубамі холад заляскае,
Не сагрэўшыся і ад хады,
Суцішаецца хата сялянская,
Падцінае хрыбет худы.
Цені змрок прадуць верацёнамі.
Комін грэецца думкамі цёмнымі…

*Таенне*

Дыханне тоіць,
Заціхае
Пажар мілосці.
А сэрца мроіць,
Што кахае
Ва ўсёй буйносці.

Зніканне тоіць,
Затухае

---

[1] Тарасаў Кастусь (Канстанцін Іванавіч; 1940–2010), беларускі пісьменнік. У 1990–1995 гг. адказны сакратар час. «Спадчына». Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны СССР (1988), прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя Ф. Багушэвіча (2010).

Цяжар мілосці.
А рэўнасць чуе,
Бо глухая,
Усё ў былосці.

Ваганне тоіць,
Зарастае
Абшар мілосці.
І просіцца трава густая:
— Касу прыносце!

«Пра канец: Хто ашалее ў фюрэры прабіцца…», «Каб не завяліся: Хоць моршчыся…» [у дзённіку].

*28 лістапада, аўторак*

З раніцы да Карласа. Ксеракапіявалі шаржы, хохмы. Дужа ўсё таленавіта ў Дамінікі. Потым у сабес. Перадаў ад Карласа «дурноты» ў «Имя». Хай будзе й там беларускае слова.

*Трохкрылы*

Трохкрылы птах —
Трыпціх,
Адно крыло ў цябе,
Каб верад не аціх
Па ранішняй касьбе,
Дзе па расе каса
Ступае, як ліса.

А два крыла — тушыць
Пажар:
Пачнуць лугі
Па журавах тужыць,
Згубіўшы берагі.
А неба ўсё ў слядах
Тваіх,
Наўлоўны птах.

З бяспамяцця ўскрэсні
І смутак кранай,
Як з мамінай песні
Пра сіні Дунай…

*29 лістапада, серада*

Прыходзілі Бурсавы. Яны вегетарыянцы, а тут якраз пачынаецца вялікі пост. У асноўным заечая норма: капусны ліст, толькі без ста пяці-

дзесяці грамаў. Старэем. Імшэем. Цішэем. Перачытаў дзеясловы й працягнуў:

*Аптымізм*

Не ўгнацца за рэем
Ды чуем каршэннем,
Што не пазбыцца даніны.
Хварэем, старэем,
Імшэем, цішэем.
Хаўтуры ўжо, як імяніны...

*Івану Бурсаву*
*(на «Евангеллі ад Мамы»)*

Іване! й
Калі нас не стане,
А застанецца ўсё ж пасля
Да пана Бога парыванне
Ды наша родная зямля.
Сустрэўшыся перад расстаннем,
Зямлёй маўклівай самі станем.

* Валя рыхтуе стол, Бурсавы прыйдуць. Дамініка: «А кілбаса?» — «Яны кілбасы не любяць». — «Дык што яны за людзі, якой пароды, што кілбасы не ядуць?.. Ушача — радзіма ўсіх людзей!»

*30 лістапада, чацвер*

Круцёжны дзень. Але затое як усцешна было пачуць: «Як праехаць да Камароўкі?» — ад маладой, рыжа-прыгожай дзяўчыны, і ўвесь дыялог кароткі на чысцюткай нашай мове йшоў. Званіў Васілю. Разгаварыліся пра рамонт хаты. Васіль: «Хата хварэе, калі ў ёй не жывуць». Да паўночы Фонд сем Сорас. Зноў жа ўспомніў, што казаў Васіль: «У нас усе зрухі ад кепскага к горшаму». Яшчэ трошкі да самага кароткага дня. Без сонца псіхалагічна цяжка. Будзе вясна, будзе сонца, а гэтыя з’явы непадуладныя партыі. Часіна года прыходзіць без чыйго дзякуй.

*1 снежня, пятніца*

У домакіраўніцтва, у ахову. Купіў Ілонцы й ёй праязныя. Усё дорага. Грошы няма. Пачынаю ўжо, як Шамякін, плакаць. З той розніцай, што ён на публіку, а я сам сабе плачу. Дый не плачу. *Лепей жывот падхартаны, нячым язык навязаны*, навязаны цэнзурай. Хоць ужо йдзе да ранейшага ўсё [...].

*2 снежня, субота*

Раніцай званіў Васіль. Пытаюся: «Якія добрыя навіны?» Васіль: «Калі якая навіна пагрукае ў дзверы, дык абавязкова дрэнная. Добрыя навіны эміgравалі некуды». Чытаў трактат пра санэт. У Будзінаса выдаецца вянок вянкоў нейкага чудзіка, дык трэба ўступ на пару старонак. «Як вежа: І з малым, і з вялікім…» [у дзённіку].

Званіў Лявон Дранько, даў яшчэ адно пытанне на гутарку ў «Крыніцу». «Каб дзе антонаўка…»[1]. Навалілася шмат спраў. Трэба колькі ўступаў, гутарку, а пераклады чакаюць і чакаюць. Ці хопіць ім цярпення?

*3 снежня, нядзеля*

Учора пісаў санэтнай формы верш. Сёння дагладжваў: «Перавядзі»[2]. Хадзіў на Камароўку. Без грошай, проста так. У кішэні было паўтары тысячы. Але за іх і семак ненавісных мне не купіш. Ілона пашла з Дамінічкай гуляць, папрасіла на каву. Не даў. Бо няма. Дажыўся.

Пазваніў быў з раніцы Васілю, сказаў словы падтрымкі ягоных выступаў у прэсе. Адчуваю, што ўзрадаваўся. Бо ніхто з так званых сяброў ужо нічога не гаворыць пра ягоныя выступы, часцей пытаюць, як спаў, як здароўе, а так баяцца. У паветры разліты трыццаць сёмы год. Я сказаў яму пра «Сцюжу», што ў ёй паказаны пачатак усяго жаху, які прыдумалі камуністы. Васіль толькі дадаў, што пра трыццатыя гады, якія вынішчылі нацыю, чалавечнае ў чалавеку, нашыя Шамякіны ды Мележы паказвалі як канспект па гісторыі КПСС.

*4 снежня, панядзелак*

Няма дзе галаву прыхіліць. […] Дамінічка баіцца сварак. Беднае дзіця.

*Значыцца*

Амаль што ўдзельнік штурму
Дзед
Унучыку пра новы свет
І ленінскую ласку
Распавядае казку.
І скачуць чорцікі хутчэй
На язычок калючы:
— А Ленін, значыцца, Кашчэй,
Бо кажаш — неўміручы!

---

[1] Гл.: У Гефсіманскім садзе (2.12.95) // Босая зорка. С. 15.
[2] Гл.: «Дай, мова беларуская, руку…» (2–3.12.95) // Халодная памяць вады. С. 408.

*5 снежня, аўторак*

Крутаніна на працы. Заходзіў Вальдко Калінін. Едзе ў Лондан. Памочнік выкладчыка па працы з цыганскімі дзецьмі й бацькамі, бо дужа рушыла цыганоў з Польшчы, Югаславіі, Румыніі. Плоцяць яму 1,5 тыс. даляраў. Перамог у конкурсе паляка й англічаніна. Вальдко такі беларус, што дай Бог, каб беларусы такія былі. Перадаў праз яго айцу Надсану[1] «Эвангелле ад Мамы» і сігнал «Аратая, які пасвіць аблокі».

Вечарам прыходзілі Ілона з Косцем вырашаць адносіны. Даручыў гэта Валі. Мне яшчэ жыць хочацца, а родненькія мае даб'юць мяне.

*6 снежня, серада*

Прафсход. Бруд. Усе адзін аднаго гатовыя кусаць. [...] На студыі Цвяткоў хоча зарэзаць фільм Лук'янчыкаў пра Караткевіча. Ідзе рэакцыя, чарнейшая за камуністычную часін імперыі. У дзяржзаказ не хочуць уключаць «Сцюжу» Быкава. Мне ў ціхапамешаных, заўсёды вар'яціць мяне, мярзотны кампартыйны надрыў да свінячага віску. [...]

*7 снежня, чацвер*

У метро нейкі малады чалавек з выдатным беларускім вымаўленнем здзівіўся, што народныя паэты ездзяць у грамадскім транспарце. Лагічна — ездзіць разам з народам. Хоць і паняцце народ, і званне народны — ні болей ні меней як сон пасля перапою, альбо цяжкапахмельны сон.

На кінастудыі фільм «Акафіст Уладзіміру» рэжысуры Сяргея Лук'янчыкава. Глядзелі. Пасля абмяркоўвалі. Тарас як камароўскі заяц тузаўся. Бураўкін абавязкова з заўвагамі, бо ў ім, як пасля па дарозе сказаў Васіль, сядзіць старшыня Дзяржтэлерадыё й член ЦК, яўна не можа, калі каго хваляць, а не яго. Потым у кабінет да Цвяткова. Той адразу — што ў фільме зашмат трагізму, а Караткевіч быў, бачце, аптыміст. Тут Васіля ўзарвала. «У савецкай ідэалогіі не было паняцця трагедыі. Трагедыя магла быць толькі старажытнагрэцкая. А ў камуністаў яна толькі аптымістычная. Уся натура Караткевіча замешана на трагізме. Гэта *адвакаты нацыі* дасюль адмаўляюць». Адразу ж Васіль кінуў фразу, калі выступаў Тарас, што ў яго сядзіць цэнзар-рэдактар. Гэта нэрвова ўспрыняў і Цвяткоў. Пачалі апраўдвацца. Васіль далей пра тое, што калі творца перажывае трагедыю, а вонкава выгляд не падае, ён упадае ў алкагалізм ці ў наркотыкі. І пад канец як бы выпадкова разгарнуў «Московские новости» й зачытаў:

[1] Надсан Аляксандр (сапр. Бочка; 1926–2015), уніяцкі святар, рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч беларускага замежжа. Магістр тэалогіі. Дырэктар Беларускай бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны ў Лондане. Ураджэнец Беларусі.

«Аттракцион «Ленинским путём»
(Прейскурант)

Примерять кепку Ильича — & 4.
Полежать в Мавзолее — & 23 за 10 хвилин.
Принять ходака — 12.
Выгнать его к чёртовой матери — 18.
Перенести бревно — 6 за метр.
Включить лампочку Ильича — 2.
Вывинтть и унести её — 400.
Выстрелить з орудия «Авроры»
— холостым снарядом — 32,
— боевым снарядом — 3500.
Дать бутерброд тов. Цюрупе[1] — 7.
Съесть бутерброд тов. Цюрупы — 11.
Дать землю крестьянам — 11.
Отобрать ананас и жареного рябчика у буржуя.
Рябчика отпустить на волю — 21.
Реорганизавать Рабкрин[2] — 17.
Провести отчётно-перевыборное партсобрание — 25 000 руб.».

І як рукой зняло пафас у Цвяткова. Потым ехалі ў метро. Падышоў Ул. Крук[3]. Васіль жартуе: «Пенсіянер пенсіянера бачыць здалёк. Людзі пытаюцца: «Як здароўе?» А пенсіянеры: «Як палітыка?» А яна ў нас кепская. Людзі залежаць ад метэўмоў, а пенсіянэры ад палітыкі, іх аж хістае ад палітыкі». (Бо яна галодная.) А ўвогуле ад фільма «Акафіст Уладзіміру» цягне касмічным холадам. Бо звычайны холад і ў пустой бульбяной яме.

*8 снежня, пятніца*

Сядзеў дома. Будзінас папрасіў напісаць нешта навагодняе на паштоўку. Напісаў:

І год Свінні, і год Сабакі
Пералылі мы, небаракі.
Каб толькі ў годзе Пацука
Не бачыць новае ЦК.

---

[1] Цурупа Аляксандр Дзмітрыевіч (1870–1928), савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1918–1921 гг. наркам харчавання; па чутках, на працы траціў прытомнасць ад голаду.
[2] Рабкрин — Рабоче-крестьянская инспекция = Рабоча-сялянская інспекцыя.
[3] Круг Уладзімір Андрэевіч (1929–2008), беларускі фотамайстар.

Не спадабалася. Бо хоча, як у анэкдоце, паміж струменчыкамі быць. А ў хворую галаву цюкнула «дурнота»:

*Не высячэш*

Добраму боту
Патрэбен хром,
Творчаму поту
Спрыяе ром.
Пазна'еш лірыка
Па палёту:
Напісанае х.ром
Не высячэш тапаром!

* Дамініка: «Хачу пажадаць Быкаву многа добрых начэй».

*9 снежня, субота*

Сёння дзень нараджэння вялікага Максіма (Багдановіча). На дварэ мароз. Крыху хадзіў. Пісаў верш «Няма калі Богу хварэць...»[1]. А па дарозе з касы, дзе браў білет Дамінічцы (па інерцыі, бо браў Ілоне) пісаў ў аўто[бусе] «Што ёсць...»[2]. Нікуды не хочацца йсці. Нідзе няма прытулку. Бо няма мамы, а значыць, і дома. Цікавыя адносіны ў сучаснага чалавека з прыродай. Раней быў давер, усё бралася напавер. І чым болей чалавек патрабуе ад прыроды, тым болей яна ад яго. Грошы канчаткова зрабілі чужымі чалавека й прыроду. Смешна прыгадваецца, як некалі йшоў з Вечалля. А тут аўтобус, які з Вушачы на лёнзавод ходзіць. Пры мне ні капейкі. Не пад'едзеш. А гэта мне неяк дзіка здалося, хоць усё натуральна.

*10 снежня, нядзеля*

Хадзіў на выбары. Галасаваў за Ганчара. Камуністы не любяць перабежчыкаў. Таму адразу да сябе не возьмуць. Пісаў адказы на пытанні Дранька ў «Крыніцу». Заадно напісаў для 100-га нумара «Роднага слова»:

*Роднае слова*

Нападнікаў,
Роднае слова, зашмат
Трываеш,
І мала ў цябе абаронцаў.
З-за кратаў
У вязня начэе пагляд,

---

[1] Гл.: Няма калі (9.12.95) // Босая зорка. С. 26.
[2] Гл.: Што ёсць... (9.12.95) // Тамсама. С. 34.

І прыхадзень сунецца
Люты, як стронцый.

Сябе праз вякі шанавала само,
Дагодліва не рассыпалася макам.
Цябе, першароднае, не аддамо
Ані чужакам, ні сваім ваўкалакам.
Адно ты ў нас, роднае слова,
З кап'я
Ускормленае
І з нябеснага суму.
І мудрая, не ад двухжалля, змяя
Адну запыніць хоча вечную думу.

Цябе ашчаджацьме час-аратай,
Пра твой ураджай дбацьме,
Роднае слова.
Адданыя душы світальна вітай
Над кожным парогам,
Як тая падкова…

*Калі душа палае*

*Міхаілу Фінбергу*

Пяюць, калі смыліць душа,
Пяюць, калі душа палае,
Калі настрой, як падыша,
Бярэ ў далоні доля злая.
О песня родная,
Ў цябе
Цярпення хопіць на стагоддзі.
Хай іншы пра цябе дзяўбе,
Што тая,
Ды не ў тым народзе.

Каб беларускай быць,
Яшчэ
Слоў і мелодыі замала.
Хай беларуская цячэ
Сляза,
Што не ўтрымаў Купала.

Хай Багдановічаў радок
Падгоніць вечную Пагоню.
З забытым песняром грудок
Уткнецца у прыпол сутоння.

Адчай і сподзеў спарыша
Жыве ў разлегласці і ў цесні.
Будзь беларускаю, душа, —
Калыска беларускай песні!

*11 снежня, панядзелак*

Званю Васілю. Васіль: «Няма радасці ні ў прыродзе, ні ў жыцці. Адна спадзяванка, што радасць атрымаем ад Бога. Самае важнае — не разлічваць у жыцці на нешта добрае. Як на вайне, разлічвай на пагібель. Не радуйся, што за бугром схаваўся, цябе выкурэць».

Вечар Паліводы[1] ў філармоніі. Чытаў верш Фінбергу й «дурноту» [«І год Ваўка, І год Сабакі...»]. Назад з Генадзем. Я распранаўся з усімі, ён у дырэктара. Засталася звычка. Потым казаў, быццам [Лукашэнку] давялі, што «Мудзішчава» пісалі мы з ім. Ну й хай даводзяць пасля, што Лучанок на прыёме плакаў [Лукашэнку]: «Барадулін не любіць рускіх», — і чытаў яму маю эпіграму. Ну й няхай. [...]. Цяжка Генадзю. [...].

*12 снежня, аўторак*

Праца. Званіў Тарасаву. Сказаў, што прадмоўнае слова да [...] Марозава[2] добрае, але нікуды не пойдзе. Палякоў папрасіў перакласці верш Івана Буніна для нейкай кінастужкі «Новы храм»[3].

*13 снежня, серада*

На працы. Аддаў Лявону чатыры адказы на ягоныя пытанні. Яму, здаецца, падабалася. А ўсё-ткі жыву на выразу Святлова[4]: «Моладзь — ты маё начальства». Гэта трымае ў форме, не дае заплыць тлушчам самазаспакаення й самаздаволенасці. На працы стала, як у разварушаным мурашніку, калі прыціскае жыццё. Людзі становяцца ў аснове самі сабою, такімі, якімі й былі задуманы Усявышнім, індывідуальна кожны. Усе добрыя, калі ўсё добра. Кастусь Тарасаў прынёс мне карэктуру «Здубавецьця». Новы набор. Да пеўняў амаль вычытваў. Хачу напрыканцы вушацкую: «Ай, жонка мужа ды зьняважала...»[5] Так будзе весялей. Кніжка павінна атрымацца нармальная.

---

[1] Палівода Ігар Ігаравіч (1950–1996), беларускі кампазітар, піяніст. У 1989–1996 гг. у Дзяржаўным канцэртным аркестры РБ пад кіраўніцтвам М. Фінберга, адначасова у джазавым аркестры «Пяты кут» под кіраўніцтвам І. Сафонава.

[2] Марозаў Зміцер Змітравіч (н. 1953), беларускі паэт. З 1986 г. у Дзяржаграпраме Беларусі. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1988).

[3] Гл.: Новы храм (З І. Буніна) (12.12.95) // Ксты. С. 157.

[4] Святлоў Міхаіл Аркадзьевіч (1903–1964), рускі пісьменнік. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1967, пасмяротна).

[5] Гл.: «Ай, жонка мужа ды зьняважала...» // Здубавецьця. С. 158.

*14 снежня, чацвер*

Запіс на тэле — колькі словаў пра Алеся Звонака. Заадно й пра Макарэвіча. Спазняўся на ФС. Іду да трамвая, а Макарэвіч вінавата даганяе, пытаючыся, ці няма чаго выпіць, бо ў яго са Шлегам[1] калатун. Малайцы — дагэтуль яшчэ п'юць. Потым ФС. З Алесем Анціпенкам наконт выдавецкай дзейнасці, наконт паездкі ў Будапешт па пытаннях выдавецкай справы ФС.

Дома званілі з саюза: японская амбасада запрашае на вячэру ў сувязі з яснейшым святам — днём народзінаў імператара[2] Японіі. Трэба схадзіць. А то мінулы раз не сабраўся. Наогул, дзічэю, ваўчэю, глушэю.

«Глыток»[3]. Гэта знайшоў у запісах вершык. Можа, куды прыдасца.

*15 снежня, пятніца*

Сустрэча з Кастусём Тарасавым. Афармленне «Здубавецьцяя» мне спадабалася. Пайшлі шаржы Куксо, Фанякова[4], Аўсяннікава, Караткевіча й галоўнае — Дамінічыны. Потым на працу. Там радасць. Таццяна Бардзіян[5] абяцала ў панядзелак адтарабаніць на паліграфкамбінат мой першы том. Можа, назад не вернуць. Хоць гэта грэе ў холадзе побыту. «Калі яшчэ»[6]. На працы яшчэ абрадаваў Лайкоў — прынёс сынавы вершы. Адзінаццацікласнік. З бальніцаў не вылазіць, затое вершы выдатныя, часам шалёныя па прарыву ў нейкі касмічны адчай, па жаданню пагрукацца ў дзверы да Бога.

*16 снежня, субота*

Сёння быў сойм БНФ. Трэба было б быць абавязкова. Не змог. Здаецца, грып ідзе са мной надужкі'. Званіў Васілю. Ён цэлы дзень прабегаў, памёрз, пахваляваўся — замежны пашпарт атрымліваў савецка-[...] ўзору. [...]. І яшчэ невядома, ці паедзе куды. Цяпер жа мытні могуць вярнуць любога, нават фармальнай зачэпкі не шукаючы. Мне Васіль параіў паляжаць. Хай нэрвы адпачнуць — толькі каб прэсы не чытаў і не слухаў радыё.

---

[1] Шлег Алесь (Аляксандр Карпавіч; 1936–1998), беларускі пісьменнік. З 1988 г. ст. рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Белтэлерадыё.

[2] Акіхіта Цугу (н. 1933), імператар Японіі (1989–2019).

[3] Аўтар запамятаў, што гэта 3-я страфа з яго паэмы; гл.: Слухаючы мора (27.02.91) // Міласэрнасць плахі. Мінск, 1992. С. 29.

[4] Фанякоў Ілья Алегавіч (1935–2011), рускі паэт, журналіст.

[5] Бардзіян Таццяна Васільеўна (н. 1956), супрацоўніца вытворчага аддзела выд-ва «Мастацкая літаратура».

[6] Гл.: «Я жыў...» (15.12.95) // Ксты. С. 193.

*17 снежня, нядзеля*

Пад вечар сабраўся з сілай і падаўся да Палякова. Аддаў пераклад Івана Буніна. Пасядзелі, паслухалі «Свабоду». Ваганаву[1] колькі слоў для «Труда» казаў пра Каляду, пра Новы год. [...]. Да Палякова люблю хадзіць — ціха й мірна ў хаце. [...].

*Лацьвей*

Намовіўшыся з самотай дазмоўку,
Благаючы роднае слова: «Не выдай»,
Будуе ў тайзе бесхацінная дамоўку
Дубоўка — беларускі Авідый[2].

Лацьвей з тугою пабрацца ізгою.
У руху шархебель з сякерай-шчырухай.
Шуміць зімавейна
Суладна з тайгою
Паэтава барада завірухай.

А ўжо ля берага човен чакае.
Яшчэ не Харонаў.
Ду Фу з напамінаў
Адсюль недалёка жальбуе ў адчаі,
Што вецер страху чаратовую зрынуў...

* Дамініка: «Рукі апусціце, цішыня ў роце і ў мазгах. Слухайце маю песню».

*18 снежня, панядзелак*

Ледзь з абеда на працу пацягнуўся. Андраюк сказаў, што Быкава не ўключылі ў дзяржзаказ. Сабакі заўсягды перадкуюць перад пастухом. [...]. «Не трэба з успамінам сустракацца...»[3]

*19 снежня, аўторак*

Праца. Да Палякова. Цікава распавядаў пра апальнага Элема Клімава[4]. Сынок сакратара абкома Расіі. Апартаменты, якія можна толькі ўявіць.

---

[1] Ваганаў Сяргей Давыдавіч (н. 1941), беларускі журналіст, паэт, публіцыст. У 1976–2008 гг. карэспандэнт газ. «Труд» (Масква) па Беларусі, гал. рэдактар газ. «Труд» в Беларуси».

[2] Авідзій (Публій Авідзій Назон; 43 да н. э. — каля 18 н. э.), старажытнарымскі паэт. Знаходзіўся ў выгнанні.

[3] Гл.: «Не трэба з успамінам сустракацца...» (18.12.95) // Халодная памяць вады. С. 370.

[4] Клімаў Элем Германавіч (1933–2003), рускі кінарэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1976).

З Шэпіцька[1] не вылязалі з замежжа пад часіны імперыі. [...] культуртрэгеры элітнага плану. А наіўны Адамовіч бачыў у ім барацьбіта. У метро пісаў радкі, якія ноччу цюкаліся мне ў мазгі: «Душа сабралася дамоў...»[2]

*20 снежня, серада*

Лятучка. Планы. Смех з цэкоўскай ідэі серыі «Памяць». Саўка Паўлаў[3] задумаў, а зараз сабе й пасля пэнсіі занятак знайшоў цыкоўскі [...] Петрашкевіч.

Узяўся афармляць замежны пашпарт. Васіль скептычна не верыць. Яго проста заганялі, замест таго, каб дамоў прынесці. «Станіўшыся ад перамоў...» (Варыянт верша «Душа сабралася дамоў». У дзённіку.)

*21 снежня, чацвер*

Званю раніцай Васілю. Кажа, як [Лукашэнка] выступаў перад кэдэбістамі напярэдадні дня народзінаў крывавага Юзіка [Сталіна]. Смяецца: «Некаторых сёння трэба віншаваць — народзіны іхняга духоўніка». Цікавая рэч, *Юзік нарадзіўся ў самую даўгую ноч. Д'ябальская сімволіка.* Пытаюся ў Васіля, ці не трэба яму шапка, адказвае, што падабаецца мая берэтка. А шапкі ёсць, і трусіная, і нават пыжыкавая, але ён яе не носіць, бо «ў пыжыкавай шапцы мяне некаторыя катэгорыі прымуць за свайго» [як прадстаўніка наменклатуры].

*22 снежня, пятніца*

Дамініку з Валяй праводзіў на электрычку. Да Веры ў Дуброўна. Хай мая птушачка трохі свету пабачыць [...]. «Няма рахубы: Людажэру пра меню...» [у дзённіку]. [...] .

*23 снежня, субота*

Ранічкай пазваніў у Дуброўна. Падышла да тэлефона Дамінічка. Такой цеплынёй агарнула сэрца маё. Анёльскі галасок. Мая апошняя зямная радасць. Апошні шчодры падарунак Госпада сэрцу майму. Божанька, не пакінь яе, дай ёй долю!

Званіў Васілю. Сумны. Хворы. За Беларусь у яго душа баліць. А балець ёй шмат.

---

[1] Шапіцька Ларыса Яфімаўна (1938–1979), рускі кінарэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1979).

[2] Гл.: Душа сабралася дамоў (19–20.12.95) // Ксты. С. 257.

[3] Паўлаў Савелій Яфімавіч (1934–2017), беларускі гісторык, партыйны дзеяч і публіцыст. Кандыдат гістарычных навук (1971). Прафесар (1990). У 1992–2005 гг. заг. кафедры Беларускага недзяржаўнага інстытута кіравання, фінансаў і эканомікі.

*24 снежня, нядзеля*

Сёння званіў у Дуброўна. Дамінічка не падышла. Прыхварэла. Хаця б не дужа. Новы ж год неўзабаве. Самае светлае й самае цёплае свята ў малечы. Другі дзень нічога рабіць не магу. Канчаюся з галавой. Зусім мёртвы. Учора з вечара абліваха. Раніцай адлега. Слізгата. Званіў пад вечар Васілю. Казаў, што напісаў аповесць невялічкую (стар. 70), маладзёжная тэма. Потым званіў Драньку. Ён ухапіўся, каб я ўгаварыў Васіля аддаць у «Крыніцу». Ім не стае добрай прозы. Арлоў сексолагам стаў. Паўцыганская кроў юрыць. У адпачынак ездзіў у Германію — вазіў Мацяш[1]. Як быццам Мацяш не можа звезці сястра. [...]. «Бартар: Аб полымя рэвалюцыі...», «Страшней: Ці з жудасці кажаней...» [у дзённіку]. Дарэчы, Дранько добра й дакладна сказаў пра Васіля — вялікі ў сваёй самоце. Гэта, вядома, лёс усіх вялікіх ва ўсе часіны, пры любых рэжымах. Самотны бліжэй да Бога.

«Лірычны верш...»[2] Перачытваў Петрарку[3]. Цікава, асабліва ягоная так бы мовіць аўтабіяпроза. Кожны ў гэтым жанры хоча выглядаць як мага лепей.

*25 снежня, панядзелак*

Каляды! Павіншаваў Юрась Хадыка. Я павіншаваў Ліса. Вядома, Васіля й Ірыну Міхайлаўну. Васіль успамінае, што Кублічы былі праваслаўныя, але з уніятаў. Селішча ўжо каталіцкае. Мармур і стодзівы на магільніку. Пасля вайны мармур пайшоў на падмуркі. Тлумачу Васілю, што я савецкі ўніят, бо ксціў мяне заезджы ксёндз, паколькі папы былі ліквідаваны саветамі як клас. Званіў у Дуброўна. У Дамінічкі тэмпература. Але напісала песеньку: «Гаспадыня мяцеліца, Ты лётаеш між небам і зямлёю І спяваеш: ву-ву-ву...» Прачытаў Васілю, ён смяецца, што ў Дамінічкі ўніяцкая мова. Сёння вечарам слухаў радыё. Конкурс. Казка пра елачку, здаецца, Андэрсена[4]. Хто іншую канцоўку прыдумае, два мейсцы ў рэстаране «Альбароса». [...]. Пісаў трохі.

*Ціха*

Гібее ў небе аблокаў друз,
Халоднай думкай саграэты.
І пачынаецца землятрус —
Страсенне мозгу планеты.

---

[1] Мацяш Ніна Андрэеўна (1943–2008), беларуская паэтэса, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1984).

[2] Гл.: Юнак і... (24.12.95) // Руны Перуновы. С. 312.

[3] Петрарка Франчэска (1304–1374), італьянскі паэт.

[4] Андэрсен Ханс Крысціян (1805–1875), дацкі пісьменнік.

Хто ўвогуле мае ад сэнсу ключы?
Куды з ласяняткам бяжыць ласіха?
Як мозг не мае куды ўцячы,
Ён вар'яцее ціха…

І «дурноту» адну пісаў, бо сцюдзёна на вуліцы й на душы, — каб сагрэцца!

*Еўнух*

І на лехах правілаў пэўных
Лебяда выключэнняў пракінецца,
І перакладчык паэзіі — еўнух
У гарэме, дзе плачуць нявінніцы…

*26 снежня, аўторак*

На працы. Дранько мне прынёс пытанне, чаму я так шмат пішу. У пытанні на старонку цытата з аповесці Рыльке. Псіхічна ненармальны герой […] даказвае, што каб напісаць слова, трэба пражыць ледзь не некалькі жыццяў. Але ж гэта герой. Сам жа Рыльке пісаў якраз шмат. У Лявона проста няма элементарнай выхаванасці. Ад ягонага пытання патыхае творчай імпатэнтнасцю. Бог з ім. Усім хопіць паперы й чарніла ці шарыкаў.

Вечарам хадзіў да Лапушына. Прыехалі ягоныя амерыканцы. Эмігранты ў прынцыпе жыхары гета з розным камфортам. Заяць правільна сказаў, што не трэба мець стасункаў з мінулым, цягнуцца да таго, што пакінулі. Так няшчаснае відовішча пакідаюць розныя гастралёры з Масквы, якія пяюць пра вуліцы маскоўскія, што яны брудныя. Якая справа амерыканцу да іх. Правільна, што толькі прыватная ўласнасць дае чалавеку раўнавагу. Амерыканцаў меней за ўсё цікавіць урад. […]

*27 снежня, серада*

На працы сустракалі Новы год. Потым да начы засядаў у ФС. Праграма: Вечныя гарады. Хоць удалося адстаяць беларусаў, а не розную навалач, чый адрас Савецкі Саюз. Званіў Васілю, між іншым, казаў наконт пытанняў Лявона. Васіль: «Які талент, такі й вынік».

*28 снежня, чацвер*

Сустрэў Дамініку з Дуброўна. Без пярэжняга верхняга зубіка. Такая родная й мілая. Ілона таксама сустракала. Худая, хворая. І па ёй сэрца баліць. Аж два пасяджэнні ў ФС. Вечарам званю Васілю. Ён кажа наконт маіх учарашніх размоваў з пытаннямі самалюбімца Дранько. «Мы ўсе ўжо самотныя. Мы чужыя маладым. Мы ў самоце, а яны збіваюцца ў зграі. Так было, так будзе. Раней пры імперыі трымалася іерархія ўзроставая.

Старыя мелі не толькі званні, але й займалі ключавыя пасады. Гэта было штучнае прымірэнне. Маладым даводзілася рабіць выгляд». […]

*29 снежня, пятніца*

З дзяўчатамі сустракалі Новы год. Няма былой буйносці. Прыціхласць перад развітаннем. Могуць у новым годзе з'есці адміністранцы. Званю Васілю. Падымае трубку Ірына Міхайлаўна. Радуецца, што ў Васіля з'явілася другое дыханне, вярнулася маладосць, — гэтак яна ацэньвае ягоную новую аповесць. Падыходзіць Васіль, кажу, што ў Ірыны Міхайлаўны добры густ. Пярэчыць, што яна перабольшвае. Хоць дадае: яна першая ацаніла першае Васілёва апавяданне. Дарэчы, Васіль кажа, што званіў Някляеў і прасіў аддаць аповесць у «Крыніцу» і з камсамольскай рашучасцю падкрэсліваў, што «Крыніца» заплоціць болей за «Полымя». […]. І гэтакімі абяцаннямі ўгрунтаваў Васіля, што ён аддасць у «Полымя». Цікава, што роля Ірыны Міхайлаўны ў Васілёвым жыцці надзвычай дабратворная. […].

*30 снежня, субота*

Слухаў Васіля па «Свабодзе». Добра сказаў, што будаваць дэмакратыю добра й можна там, дзе яна ёсць хоць у зачаткавым стане, а не ў нас, дзе кожны трэці камуніст, а кожны другі — сексот. І зноў кожны стукач зробіць выгляд, што гэта не пра яго. Як жа ўеліся Васілю кэдэбісты, стукачы. Як жа атруцілі яны яму жыццё. І ўявіць цяжка. Адзін фактычна супроць гэтай воўчай зграі выступае. Хоча, каб свет пачуў, як душаць Беларусь. Свет не чуе.

*31 снежня, нядзеля*

Апошні дзень старога года. Ён, як той аднагуртовец, які адстаў ад гурта й цяпер гурт даганяе. Мітусня. Штурхатня. Бегатня. І ўсё на тое, каб сесці за стол, падняць тост, нешта з'есці. Аднак не гэта, а нешта старавечнае, што рухае час і нас у часе. Хадзіў да Радзіка. У яго цудоўны сынок, падобны на маму. Швагер Радзіка малады філосаф. Выхаваны, адукаваны. Праўда, прарасійскай арыентацыі. Нашых філосафаў не густа. Калі сябе філосафамі аб'яўляюць Ігарабабковы […].

Новы год сустракалі з Дамінікай і Валяй, з катом Міронам.

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

**Дзённікі і запісы**

*Выпуск 7. 1994–1995*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктары *Н. Давыдзенка, Н. Семашкевіч*

Падпісана ў друк 11.02.2020. Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Гарнітура Cambria. Ул.-выд. арк. 16,47.
Ум. друк. арк. 27,55 + 0,42 укл. Наклад 60 асобнікаў. Зак. 34.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.

Саюз беларускіх пісьменнікаў — найстарэйшая творчая арганізацыя Беларусі. Ён быў заснаваны ў 1934 годзе. Гэта прафесійная грамадская арганізацыя, якая актыўна ўдзельнічае ў сацыяльным і культурным жыцці краіны дзеля прасоўвання і развіцця беларускай літаратуры.

Мэтамі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з’яўляюцца: абарона аўтарскіх правоў і прадстаўленне інтарэсаў сваіх сяброў, адстойванне свабоды слова і захаванне беларускай літаратурнай спадчыны.

СБП заснаваў і выдае кніжныя серыі: «Кнігарня пісьменніка», «Пункт адліку», «Каляровы ровар».

Сайт арганізацыі: www.lit-bel.org

Міжнароднае грамадскае аб’яднанне «Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”» дзейнічае з 1990 года і супрацоўнічае з беларускімі арганізацыямі ў больш чым 20 краінах свету.

Сярод асноўных задач арганізацыі: кансалідацыя беларусаў, якія пражываюць у краіне і за мяжой, на глебе павагі да беларускай культуры і гісторыі, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

У 2004 годзе Згуртаванне заснавала спецыяльную кніжную серыю, прысвечаную беларускай дыяспары, — «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой ужо выдадзена 29 кніг і 3 кнігі ў падсерыі «Людзі Беларусі».

Сайт арганізацыі: www.zbsb.org

З 2008 года МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» каардынуе грамадскую культурніцкую кампанію «Будзьма беларусамі!».

Сайт: www.budzma.by